АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАУСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1978

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# ВЯСЕЛЛЕ

## АБРАД



МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1978

С(Бел)Ф
В99

Рэдакцыйная калегія:
**В. К. Бандарчык, М. Я. Грынблат,**
**К. П. Кабашнікаў, А. С. Фядосік, В. І. Ялатаў**

Укладанне, уступны артыкул
і каментарыі
**К. А. Цвіркі**

Музычны дадатак
**З. Я. Мажэйка**

У падрыхтоўцы тэкстаў да друку
прымаў удзел
**В. І. Скідан**

Рэдактары тома:
**В. К. Бандарчык, А. С. Фядосік**

$В\frac{70700-122}{М 316-78}42-78$

# БЕЛАРУСКАЕ ТРАДЫЦЫЙНАЕ ВЯСЕЛЛЕ

Пра характэрную асаблівасць беларускага вяселля гаворыць ужо сама назва. Вяселле — ад слова «весела». І сапраўды, на вяселлі не змаўкаюць песні, музыка, жарты, віншаванні і пажаданні, не спыняюцца танцы, тэатралізаваныя сцэнкі і г. д. Яно і зразумела: жаніцьба — важная, асаблівая падзея ў жыцці чалавека. Гэта пачатак яго новага, самастойнага жыцця. Уступленне маладых людзей у шлюб — незабыўнае свята як для іх, так і для ўсёй сям'і, сваякоў, суседзяў.

Вяселле нагадвае своеасаблівы спектакль, дзе можна ўбачыць сапраўдную прыгажосць народных звычаяў і дзе разам з тым надзвычай ярка раскрываюцца душа народа, яго псіхалогія. Вясельная абраднасць дае яскравае ўяўленне пра розныя бакі народнага побыту беларусаў, іх характэрныя вераванні, маральныя, этычныя і эстэтычныя погляды.

У этнаграфічнай літаратуры вяселлю пашанцавала як ніякаму іншаму абраду. Вясельным звычаям і абрадам розных раёнаў Беларусі прысвечана даволі значная колькасць матэрыялаў. Праўда, матэрыялы гэтыя сістэматычна пачалі з'яўляцца толькі з XIX ст. Але гэта не азначае, што пра вясельную абраднасць ранейшай пары да нас нічога не дайшло.

Ужо ў «Аповесці мінулых часоў» летапісец не толькі расказвае пра асобныя моманты вясельнай абраднасці (напрыклад, звязаныя з жаніцьбай ноўгарадскага князя Уладзіміра з полацкай князгіняй Рагнедай), але і параўноўвае некаторыя шлюбныя звычаі розных усходнеславянскіх плямён, у прыватнасці палян, драўлян, радзімічаў, вяцічаў, севяран [1].

Пра вясельныя абрады беларускай народнасці — з часу яе фарміравання і да канца XVIII ст. — могуць даць уяўленне звесткі, якія параскіданы па розных пісьмовых крыніцах: беларускіх летапісах, судовых актах, мемуарах розных асоб, нататках падарожнікаў, творах мастацкай і іншай літаратуры.

Шмат якія моманты беларускага вяселля пададзены ў справах дыпламатычных зносін Расіі з Вялікім княствам Літоўскім за 1492 г., дзе разам з іншымі паперамі захавалася перапіска наконт шлюбу вялікага князя літоўскага Аляксандра Казіміравіча з дачкой Івана III Аленай [2].

---

[1] Повесть временных лет, т. 1. М.—Л., 1950, с. 14—15.

[2] Гл.: Казаченко А. И. К истории великорусского свадебного обряда.— «Советская этнография», 1957, № 1.

Вялікую цікавасць уяўляе сабой расказ пра шлюбныя звычаі ў кнізе Яна Ласіцкага «De Russorum...»[3]. Выказанае ўкраінскай даследчыцай Н. І. Здаравега меркаванне, што гэта апісанне «верагодна з Валыні»[4], не мае пад сабой ніякіх падстаў. Як відаць з біяграфіі Яна Ласіцкага[5], на Валыні ён ніколі не жыў. Факты сведчаць пра іншае. У той час, калі пісалася згаданая кніга, Я. Ласіцкі быў настаўнікам сыноў мінскага кашталяна Яна Глябовіча, радавы маёнтак якога знаходзіўся ў Заслаўі. У гэтым маёнтку, наязджаючы, праўда, у Вільню, і жыў Ян Ласіцкі з пачатку 80-х гадоў XVI ст. і да смерці. Трэба думаць, што якраз тут, у Заслаўі, назіраў ён за побытам мясцовага насельніцтва. Тут, відаць, і былі зроблены запісы пра вясельную абраднасць. Запісы Яна Ласіцкага вельмі няпоўныя і даволі тэндэнцыйныя, але ўсё ж яны маюць вялікую каштоўнасць як матэрыял для гістарычнай этнаграфіі.

Значную колькасць матэрыялаў пра вясельныя звычаі і абрады прынесла XIX стагоддзе, калі на Беларусі актывізавалася грамадскае жыццё і пачалося шырокае вывучэнне побыту і культуры народа.

Першае даволі грунтоўнае апісанне вясельнага абраду было змешчана ў часопісе «Dziennik Wileński» за 1819 г. (т. 7) пад назвай «Вясельныя абрады вясковага люду ў Мінскай губерні, Барысаўскім павеце, Гаенскай парафіі, назіраныя ў 1800, 1801, 1802 гадах, з некаторымі песнямі і звычайнымі нотамі». Асаблівую каштоўнасць маюць песні, якія, хоць і ў зносках, пададзены ў арыгінале, на беларускай мове — жывыя сведкі рубяжа двух стагоддзяў. На жаль, апісанне не было завершана.

Наступныя апісанні вясельнай абраднасці пачалі з'яўляцца прыкладна пасля дзесяцігадовага перапынку. Кароткае, але з асобнымі цікавымі дэталямі апісанне вясельнага абраду на Віцебшчыне ўключыў у свой артыкул «Народныя святы, забавы, павер'і і забабонныя абрады жыхароў Беларусі» Казімір Фалютынскі[6]. Некалькі звестак пра вяселле, у прыватнасці пра дзявочы вечар і благаславенне маладых, падаў у артыкуле «Святы, забавы, прымхі і забабонныя абрады простага народа ў Навагрудскім павеце Літоўска-Гродзенскай губерні» А. Мухлінскі[7].

Большай увагі заслугоўваюць апісанні вясельных абрадаў, змешчаныя ў кнізе Лукаша Галамбёўскага «Lud polski, jego zwyczaje i zabobony» (Варшава, 1830), у аснову якой пакладзены матэрыялы, сабраныя членамі Таварыства прыхільнікаў навук у Варшаве[8]. Для нас тут цікавыя перш за

---

[3] Łasicki J. De Russorum Moskovitarum et Tartarorum religiona, sacrificiis, nuptiarum, funerum ritu... Spirae, 1582, с. 241—245.

[4] Здоровега Н. І. Нарысы народної весільної обрядовості на Україні. Київ, 1974, с. 14.

[5] Barycz Henryk. Jan Łasicki... Wrocław—Warszawa, 1973, с. 114.

[6] «Вестник Европы», 1828, № 1—6.

[7] «Вестник Европы», 1830, № 14—16.

[8] Dzieje folkłorystyki polskiej. 1800—1863. Epoka przedkolbergowska. Wrocław—Warszawa—Kraków, 1970, с. 55.

ўсё запісы вяселля з трэцяга раздзела першага тома. Хоць аўтар адносіць іх да «літоўскіх», аднак, як можна меркаваць з песень, якія пададзены на беларускай мове, гэтыя запісы былі зроблены недзе ў паўночна-заходніх раёнах Беларусі. У чацвёртым раздзеле змешчана даволі падрабязнае апісанне вяселля «русінаў» з Падляшша, праўда, канкрэтнае месца запісу не адзначана. У другім томе кнігі аўтар робіць агляд усіх вядомых яму вяселляў, у тым ліку мінскага; паказвае, як праходзілі вяселлі польскіх каралёў, паноў і шляхты, мяшчан.

У 1840 г. у Парыжы выходзіць кніга А. Рыпінскага на польскай мове «Беларусь...»[9] У яе ўвайшлі лекцыі па беларускай этнаграфіі і фальклору, якія чытаў А. Рыпінскі ў Польскім літаратурным таварыстве ў Парыжы. Асноўным матэрыялам, якім ён карыстаўся, былі яго ўласныя ўспаміны з падарожжаў на Віцебшчыне, «паміж вусцямі Віцьбы і Палаты», дзе ён бываў яшчэ да паўстання 1831 г., пасля якога і выехаў у эміграцыю. Выданне цікавае для нас тым, што аўтар змяшчае тут беларускія вясельныя песні, пры гэтым расказвае, пры якіх абставінах іх спявалі, падаючы, такім чынам, апісанні асобных момантаў вяселля.

У пачатку 40-х гадоў з'яўляюцца спецыяльныя апісанні беларускага вяселля ў «Могилевских губернских ведомостях» (1841, № 18) і ў «Прибавлениях» да іх (1841, № 47). Апісанне вясельнага абраду, зробленае Мікалаем Галынскім, толькі ўжо без подпісу, трапіла з «Прибавлений» на старонкі пецярбургскай «Литературной газеты» (1842, № 7). Праўда, гэта апісанне абрадаў вельмі кароткае, павярхоўнае. Расказ пра адзін з момантаў вяселля — праезд дружыны жаніха праз агонь, раскладзены з саломы ў варотах, змясціў Ян Баршчэўскі ў зборніку «Шляхціц Завальня...»[10] Цікавае апісанне вяселля, верагодна, шляхецкага, з вершаванай размовай свата з тысяцкім надрукавана ў часопісе «Lud i Czas» (1845, № 1) пад загалоўкам «Вяселле ў наддзвінскіх аколіцах».

Надзвычай грунтоўнае і скрупулёзнае апісанне вясельнага абраду з Барысаўскага павета («з-над Бярэзіны»), зробленае ў 1846 г. Э. М., апублікаваў Яўстафій Тышкевіч[11]. Выканана работа на добрым навуковым узроўні, у ёй прыведзена шмат песень. Праўда, не ўсе моманты вяселля асветлены з належнай падрабязнасцю.

Асабліва ажывілася збіранне этнаграфічных матэрыялаў пасля стварэння ў 1845 г. Рускага геаграфічнага таварыства. Этнаграфічны аддзел таварыства ў 1847 г. разаслаў у розныя куткі краіны праграму. Сярод матэрыялаў, дасланых у РГТ у адказ на праграму, было шмат апісанняў і

---

[9] R y p i ń s k i A. Białoruś! Kilka słów o poezji prostego ludu... Paryż, 1840.

[10] B a r s z c z e w s k i J a n. Szlachcic Zawalnia, czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach, t. I. Pbg., 1844, с. 8—9.

[11] T y s z k i e w i c z J. Opisanie powiatu Borysowskiego. Wilno, 1847, с. 288—346.

вясельнай абраднасці беларусаў. Некаторыя з матэрыялаў былі апублікаваны ў «Этнаграфічным зборніку»: «Острынскі прыход Віленскай губерні» І. Юркевіча (вып. 1, 1853), дзе змешчаны і кароткі запіс вяселля; «Быт беларускіх сялян» М. Анімеле і інш. (вып. 2, 1854) з вельмі дэталёвым апісаннем вясельнага абраду ў Себежскім павеце Віцебскай губерні; «Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню» А. Кіркора (вып. 3, 1858), куды ўвайшло і даволі цікавае, хоць і кароткае, апісанне вясельнай абраднасці беларускага насельніцтва Віленшчыны. Але большая частка дасланых у РГТ матэрыялаў засталася неабнародаванай і захоўваецца ў архіве таварыства ў Ленінградзе. Сярод іх заслугоўваюць увагі запісы вясельных абрадаў з розных куткоў Беларусі, зробленыя А. Шымано́ўскім, В. Северыным, М. Саковіч, П. Пароменскім, К. Брэнам, С. Пашкевічам і інш.[12]

З іншых матэрыялаў гэтага часу, якія з'явіліся пад уплывам дзейнасці РГТ і незалежна ад яго, неабходна назваць працы А. Цярэшчанкі «Быт русского народа» (СПб, 1848), у якой змешчаны і апісанні беларускага вяселля (праўда, запазычаныя ў згаданай вышэй кнізе Л. Галамбёўскага); Р. Друцкага-Падбярэскага «Беларускае вяселле»[13] з вельмі цікавымі дэталямі; І. Ярашэвіча «Матэрыялы да статыстыкі і этнаграфіі Гродзенскай губерні. Бельскі павет»[14]; Р. Зянькевіча «Народныя песенькі пінскага люду», дзе як тлумачэнні да песень пададзены розныя моманты вясельнага абраду з Піншчыны[15]; П. Шпілеўскага «Беларусь у характарыстычных апісаннях і фантастычных казках», дзе змешчаны два апісанні вяселля, адно з якіх[16] кампілятыўнае (аўтар уключыў у яго згаданыя вышэй запісы абрадаў з Гаенскай парафіі Барысаўскага павета і інш. матэрыялы), а другое, з Віцебшчыны[17],— самастойнае, з цікавымі звесткамі; апісанне вяселля з Быхаўскага павета фалькларысткі Е. П. (Елізаветы Паўлоўскай)[18]; этнаграфічны нарыс А. Васкоўскага «Беларусь»[19], у якім падрабязна апісваецца вяселле ва ўсходніх раёнах Беларусі, праўда, без зазначэння канкрэтнага месца.

У канцы 50-х — пачатку 60-х гадоў генеральны штаб царскай арміі дзеля вывучэння заходніх губерняў Расіі напярэдадні рэформы 1861 г. распачаў збіранне неабходных матэрыялаў, у тым ліку і этнаграфічных. Гэтыя матэрыялы неўзабаве былі выдадзены асобнымі тамамі пад агульнай назвай «Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба». У тамах, прысвечаных Віленскай, Смаленскай, Гро-

---

[12] Зеленин Д. К. Описание рукописей ученого архива Русского географического общества, вып. 1—2. Пг., 1914—1915.
[13] «Иллюстрация», 1848, № 1.
[14] «Athenaeum», 1848, t. 6.
[15] Zieńkiewicz R. Piosnki gminne ludu pińskiego. Kowno, 1851.
[16] «Пантеон», 1853, т. 9, кн. 5, с. 1—20.
[17] «Пантеон», 1854, т. 15, кн. 5, с. 31—44.
[18] Е. П. Народные белорусские песни. СПб, 1853, с. 34—41.
[19] «Московские ведомости», 1854, № 148, 149.

дзенскай, Мінскай і Чарнігаўскай губерням, побач з іншымі матэрыяламі змешчаны апісанні вясельных абрадаў беларусаў. Праўда, у асноўным яны кароткія і без пашпартызацыі, але ўсё ж небескарысныя для навукі.

Другая палавіна XIX ст., калі ў сувязі са скасаваннем прыгоннага права і паўстаннем 1863—1864 гг. значна вырасла цікавасць інтэлігенцыі да народнага жыцця і культуры беларусаў, была наогул вельмі багатая на этнаграфічныя матэрыялы, у тым ліку і на запісы вяселляў. Сярод найбольш грунтоўных, выкананых на належным навуковым узроўні апісанняў вясельных абрадаў, неабходна назваць у першую чаргу працы М. А. Дзмітрыева, А. Шумовіча, Ул. Быкоўскага, М. Рубяроўскага, А. Троіцкага, М. Юхневіча, А. Я. Васільевай, Э. Івашкевіч, І. В. Рубаноўскага, С. І. Карскага, З. Ф. Радчанкі, М. В. Запольскага (Доўнар-Запольскага), І. К., І. Раманоўскага, Г. Чахоўскай [20].

Нямала цікавых звестак пра вясельную абраднасць з розных мясцін Беларусі можна знайсці ў менш падрабязных запісах Н. Палівена («Витебские губернские ведомости», 1864, № 3), С. Бекарэвіча («Могилевские губернские ведомости», 1865, № 13), Карэспандэнта («Виленский вестник», 1867, № 103), І. Эрэміча («Вестник Западной России», 1867, кн. 10), К. («Виленский вестник», 1868, № 134, 136), К. Тышкевіча («Wilija i jej brzegi», Дрэздэн, 1871), А. Шчукіна («Смоленский вестник», 1890, № 50, 79, 88, 142), П. Людагоўскага («Смоленский вестник», 1890, № 71, 75) і г. д.

Падрабязнае апісанне ўсіх рытуалаў вяселля змешчана ў кнізе Ю. Ф. Крачкоўскага «Быт западно-русского селянина» (М., 1874). Але ў ім ёсць вельмі істотны недахоп — кампілятыўнасць. Тое ж датычыцца вялікага апісання вясельнага абраду І. І. Насовіча ў «Записках географического общества по Отделению этнографии», т. V (1873).

---

[20] Дмитриев М. А. Свадебный обряд в деревнях Новогрудского уезда.— «Минские губернские ведомости», 1861, № 15, 16; тое ж, толькі перапрацаванае, у кн.: Дмитриев М. А. Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев крестьян Северо-Западного края. Вильна, 1869, с. 179—210; Ш-вич. Свадебные обычаи и обряды простонародья в Борисовском уезде.— «Минские губернские ведомости», 1865, № 22—29, 35—37, 39, 41—44; Быковский Вл. Свадебные обряды и песни в Пинском у. Минской губ.— «Памятная книжка Виленского генерал-губернаторства на 1868 г.», с. 63—76; Юхневич М. Свадебные обряды в Морочском приходе Мозырского уезда.— «Минские губернские ведомости», 1877, № 23, 24, 26; Васильева А. Я. Свадебные обряды в районе Грабовской волости Мозырского уезда.— «Минские губернские ведомости», 1877, № 32—34; Радченко З. Гомельские народные песни (белорусские и малорусские). СПб, 1888, с. 33—40; И. К. Белорусская свадьба в Слободской волости.— «Ковенские губернские ведомости», 1890, № 31, 33, 35; Романовский И. Свадебные народные обычаи в Слонимском уезде и пережитки в них исторического влияния на бытовую жизнь.— «Гродненские губернские ведомости», 1895, № 93. Матэрыялы астатніх аўтараў змешчаны ў дадзеным томе.

Значным укладам у скарбніцу народнай культуры Беларусі з'явіліся публікацыі П. В. Шэйна «Матэрыялы для вывучэння быту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю», т. 1—3 (СПб, 1887—1902). Другая кніга першага тома цалкам прысвечана апісанням вясельных і пахавальных абрадаў беларусаў, у яе ўвайшлі ў асноўным матэрыялы карэспандэнтаў з месц: А. Я. Багдановіча, М. Я. Нікіфароўскага і інш. П. В. Шэйн апублікаваў і некалькі з тых матэрыялаў, якія друкаваліся раней. Усяго ў зборніку змешчана 24 апісанні вясельнага абраду, якія даюць пэўнае ўяўленне пра асаблівасці беларускага вяселля. Некалькі апісанняў вясельнай абраднасці з беларускага Палесся апублікаваў П. В. Шэйн і ў трэцім томе «Матэрыялаў...»

Вялікую ўвагу ўдзяліў вясельнай абраднасці і Ул. М. Дабравольскі[21]. У апісаннях вяселля на Смаленшчыне асабліва многа падаецца песень. Матэрыялы Ул. М. Дабравольскага маюць вялікую каштоўнасць для вывучэння беларуска-рускага пагранічча.

Энтузіяст беларускай этнаграфіі М. Федароўскі таксама не абыходзіў вясельнай абраднасці. Ужо ў першым томе яго вялікага выдання «Люд беларускі...» былі змешчаны цікавыя запісы беларускага вяселля[22]. Асноўныя ж матэрыялы М. Федароўскага па вясельных звычаях і абрадах беларусаў, сярод якіх ёсць надзвычай грунтоўныя і падрабязныя, захоўваюцца ў рукапісах. Некалькі з гэтых матэрыялаў апублікаваны ў манаграфіі Я. Саламевіча «Міхал Федароўскі» (Мінск, 1972), большасць жа з іх чакае яшчэ свайго абнародавання. Адно, найбольш грунтоўнае апісанне вяселля з Ваўкавыскага павета, выяўленае ў архіве і перакладзенае з польскай мовы Я. Саламевічам, падаецца ў дадзеным томе.

Вясельная абраднасць беларускага Палесся знайшла асвятленне ў працах П. Чубінскага. Аўтар апублікаваў даволі змястоўныя запісы вяселляў з Пінскага, Мазырскага, Кобрынскага і Бельскага паветаў[23]. Матэрыялы П. Чубінскага добра дапаўняе праца вядомага польскага этнографа О. Кольберга пра палескае вяселле[24].

Новым крокам у гісторыі беларускай этнаграфіі з'явілася дзейнасць выдатнага беларускага этнографа Е. Р. Раманава. Добры знаўца народнага жыцця беларусаў, Раманаў паставіў перад сабой мэту даследаваць і вывучыць усе асноўныя бакі быту свайго народа, паказаць высокія вартасці яго культуры. Сярод шматлікіх этнаграфічных матэрыялаў, сабраных ім з розных мясцін Беларусі, значнае месца займаюць апісанні вясельных абрадаў

---

[21] Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник, ч. 2. СПб, 1893.

[22] Federowski M. Lud białoruski na Rusi litewskiej, t. 1. Kraków, 1897, с. 279—284.

[23] Чубинский П. П. Труды этнографическо-статистической экспедиции в Западно-русский край, т. 4. СПб, 1877, с. 644—679.

[24] Kolberg O. Zwyczaje i obrzędy weselne z Polesia. Kraków, 1889.

з Пружанскага, Слонімскага, Беластоцкага, Гродзенскага і Кобрынскага паветаў [25], а таксама з Віцебскага, Лепельскага, Дрысенскага, Гарадоцкага, Веліжскага, Невельскага, Гомельскага, Рагачоўскага, Быхаўскага, Мсціслаўскага паветаў [26]. Прытым усе яны выкананы на высокім навуковым узроўні, з захаваннем усіх асаблівасцей мовы ў вясельных песнях і розных прыгаворках.

Значную навуковую каштоўнасць маюць і такія матэрыялы пачатку XX стагоддзя, як «Вясельны абрад у ваколіцах Маладзечна і Радашковіч Вілейскага пав.» С. Кавалеўскай [27], «Літвіны-беларусы» М. Косіч з грунтоўным апісаннем вяселля беларускага насельніцтва ў асноўным вёскі Расуха Мглінскага павета Чарнігаўскай губерні [28], «Lud polski i Rusi wsród słowian i aryów, ks. 1, obrzedy weselne» польскага этнографа М. Жмігродскага (Кракаў, 1907), дзе побач з вясельнымі звычаямі і абрадамі ўсіх славян прадстаўлены і беларускія, «Сенненский уезд Могилевской губернии» К. Анікіевіча (Магілёў, 1907), «Сялянскае вяселле ў Віцебскай Беларусі» В. Іванова [29] і інш.

Асабліва шырокі размах збіранне этнаграфічных матэрыялаў набыло ў 20-я гады нашага стагоддзя. Дзякуючы вялікай арганізацыйнай рабоце Інстытута беларускай культуры ў рэспубліцы пачаўся масавы краязнаўчы рух. К 1930 г. тут налічвалася ўжо 333 краязнаўчыя арганізацыі, якія аб'ядноўвалі 8819 чалавек. Было створана Цэнтральнае бюро краязнаўства (ЦБК), пачаў выходзіць спецыяльны часопіс «Наш край».

Праўда, этнаграфічнае вывучэнне Беларусі ў гэты час «насіла больш колькасны характар» [30]. Амаль уся ўвага звярталася на збор матэрыялаў. І ў гэтым плане было зроблена сапраўды вельмі многа. Кожны год у ЦБК дасылаліся тысячы фальклорных і этнаграфічных запісаў з розных куткоў Беларусі. Некаторыя з іх друкаваліся на старонках часопіса «Наш край», у спецыяльных зборніках, большасць жа захоўвалася ў фондах ЦБК.

Сярод гэтых матэрыялаў было многа і апісанняў вясельнай абраднасці. З тых, якія публікаваліся, варта адзначыць змешчаныя ў «Нашым краі» грунтоўныя працы А. Немцава пра вясельныя звычаі і абрады ў Асіповіцкім раёне (1927, № 4), Т. Мікалаева пра вяселле ў Касцюковіцкім раёне (1928, № 6—7) і інш. Надзвычай многа ўвагі ўдзяліў вясельнай абраднас-

---

[25] Романов Е. Р. Материалы по этнографии Гродненской губернии, вып. 1. Вильна, 1911, с. 172—237.

[26] Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. 8. Вильна, 1912, с. 356—499.

[27] «Wisła», 1900, t. 14, zesz. 4, c. 412—426.

[28] «Живая старина», вып. 2. СПб, 1901, с. 232—252.

[29] Записки Северо-Западного отдела Русского географического общества, кн. 3. Вильна, 1912, с. 265—294.

[30] Бандарчык В. К. Гісторыя беларускай савецкай этнаграфіі. Мінск, 1972, с. 35.

цi А. Шлюбскi ў «Матэрыялах да вывучэння фальклору i мовы Вiцебшчыны», ч. 3 (Мiнск, 1928), напрыклад, ён даў падрабязныя запiсы асобных момантаў вяселля з розных куткоў Вiцебшчыны i часткова Смаленшчыны. Некалькi даволi стройных i дэталёвых апiсанняў вясельных абрадаў беларускага Палесся апублiкаваў польскi этнограф К. Машынскi [31]. Апiсаннi элементаў вясельнай абраднасцi ёсць i ў кнiзе А. Сержпутоўскага «Прымхi i забабоны беларусаў-палешукоў» (Мiнск, 1930). У 1940 г. у Мiнску выйшаў фальклорна-этнаграфiчны зборнiк С. П. Сахарава «Народная творчасць Латгальскiх i Iлукстэнскiх беларусаў», дзе змешчана i грунтоўнае апiсанне iх вяселля.

У пасляваенны час пытаннi беларускай этнаграфii вывучалiся галоўным чынам у Акадэмii навук БССР — спачатку Iнстытутам гiсторыi, а з 1957 г.— Iнстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфii i фальклору. У час штогадовых экспедыцый беларускiя этнографы рабiлi запiсы i вясельнай абраднасцi. Шмат апiсанняў беларускага вяселля зрабiлi студэнты i выкладчыкi БДУ iмя У. I. Ленiна, Гомельскага дзяржаўнага унiверсiтэта, а таксама педагагiчных iнстытутаў рэспублiкi. Праўда, многiя з гэтых матэрыялаў не вызначаюцца належнай паўнатой i падрабязнасцю.

Шкада, што ў апошнi час апiсаннi вясельных абрадаў вельмi рэдка трапляюць на старонкi нашага друку. З тых, якiя былi апублiкаваны, неабходна адзначыць матэрыялы А. Мялешкi пра вяселле ў Мiнску i ў вёсцы Ракiтнiца Брэсцкай вобласцi [32], апiсанне беларускага вясельнага абраду ў ваколiцах мястэчка Нарва (ПНР) М. Лобача [33], артыкул С. Барыса «Вяселле i яго паэзiя» [34], а таксама вялiкае апiсанне вяселля на Брэстчыне [35]. Праўда, апошняе, як гэта нi дзiўна, не мае нi дакладнай пашпартызацыi, нi нават аўтарства.

Неабходна таксама адзначыць выхад у свет фундаментальнай фальклорна-этнаграфiчнай працы О. Кольберга «Беларусь — Палессе», куды ўвайшоў цэлы шэраг раней апублiкаваных апiсанняў беларускiх вясельных абрадаў розных збiральнiкаў XIX ст., а таксама частка рукапiсных матэрыялаў самога аўтара [36]. Грунтоўнае апiсанне вясельнага абраду з Пружаншчыны, зробленае яшчэ ў 1928 г., апублiкаваў нядаўна Р. Р. Шырма [37].

Назапашаныя запiсы вясельных звычаяў i абрадаў розных часоў —

---

[31] Maszyński K. Polesie Wschodnie... Warszawa, 1928, c. 181—195.

[32] «Маладосць», 1974, № 5, с. 140—148; у апрацаваным выглядзе перадрукаваны ў яго ж кнiзе «Савецкая сямейная абраднасць Беларусi». Мiнск, 1976, с. 106—110.

[33] Этнаграфiчны зборнiк. Мiнск, 1975, с. 110—122.

[34] «Беларусь», 1975, № 11.

[35] Беларускi фальклор у сучасных запiсах. Брэсцкая вобласць. Склад. В. А. Захарава. Мiнск, 1973, с. 104—135.

[36] Kolberg Oskar. Dzieła wszystkie, t. 52. Białoruś—Polesie. Wrocław—Poznań, 1968, c. 139—308.

[37] Беларускiя народныя песнi, т. 4. Зап. Р. Р. Шырма. Мiнск, 1976.

гэта наш каштоўнейшы культурны набытак, выдатная крыніца для вывучэння жыцця народа.

На жаль, грунтоўнага даследавання вясельнай абраднасці беларусаў ва ўсіх яе аспектах да гэтага часу яшчэ няма, хаця пэўныя подступы да такога даследавання рабіліся.

Відаць, першую спробу навуковага асэнсавання вясельных звычаяў і абрадаў трэба шукаць у працах рускага этнографа і фалькларыста А. М. Афанасьева, які імкнуўся паказаць паходжанне і сутнасць вясельнай абраднасці славян, у тым ліку рускіх, украінцаў і беларусаў. Аднак яго тлумачэнні розных момантаў вяселля пададзены ў духу ідэй «міфалагічнай школы»[38]. Нават у самых простых звычаях А. М. Афанасьеў бачыў боскі пачатак. Такіх жа поглядаў на абрады прытрымліваўся і А. А. Патабня[39].

Погляды прадстаўнікоў «міфалагічнай школы» ў далейшым сустрэлі крытыку такіх рускіх даследчыкаў, як А. Яфіменка («Знания», 1874, № 1), Я. Якушкін («Обычное право». Ярославль, 1875) і інш., якія бачылі ў вясельных звычаях і абрадах не рэлігійную, а бытавую аснову. І ўсё ж даніну «міфалагічнай школе» ў той ці іншай ступені аддалі многія этнографы як XIX, так і XX ст.

З беларускіх вучоных даследаванню вясельнай абраднасці найбольш увагі ўдзяліў М. В. Доўнар-Запольскі. У сваёй грунтоўнай працы «Беларускае вяселле ў культурна-рэлігійных перажытках» даследчык даў сапраўды навуковы аналіз усіх асноўных элементаў вясельнай абраднасці беларусаў, растлумачыў паходжанне і сутнасць кожнага з гэтых элементаў, паставіў «факты» беларускага вяселля «ў сувязь з паралельнымі фактамі з рытуалаў розных індаеўрапейскіх народнасцей»[40]. Асвятленню асобных момантаў беларускага вяселля быў прысвечан цэлы шэраг іншых артыкулаў М. Доўнар-Запольскага, змешчаных у кнізе «Даследаванні і артыкулы»: «Рытуальнае значэнне каравайнага абрада ў беларусаў», «Сонейка і месяц у беларускай вясельнай паэзіі», «Вясельныя песні пінчукоў», «Першабытныя формы шлюбу».

Вясельным абрадам і песням значнае месца адвёў у сваёй працы «Беларусы» Я. Карскі. На аснове вядомых ужо матэрыялаў вучоны прасачыў увесь ход вяселля, даў тлумачэнне многім вясельным звычаям беларусаў. Асаблівая ўвага ім была звернута на аналіз песень, якія суправаджаюць абраднасць[41]. Праўда, у многіх момантах Я. Карскі ішоў па слядах М. Доўнар-Запольскага.

---

[38] Афанасьев А. Н. Поэтические воззрения славян на природу, т. 1. М., 1865.

[39] Потебня А. О некоторых символах в славянской народной поэзии. Харьков, 1860.

[40] Довнар-Запольский М. В. Исследования и статьи. Киев, 1909, с. 62.

[41] Карский Е. Ф. Белорусы, т. 3. Очерки словесности белорусского племени. I. Народная поэзия. М., 1916, с. 235—295.

У 1926 г. вялікі артыкул «Вясельны быт беларускага селяніна» апублікаваў у часопісе «Маладняк» (№ 6) С. Баркоўскі. На аснове матэрыялаў іншых этнографаў аўтар прасочвае ўвесь ход беларускага вяселля.

Спецыяльную манаграфію вясельнай абраднасці беларускага народа прысвяціў М. М. Нікольскі [42]. Аўтар даследуе паходжанне і гісторыю беларускай вясельнай абраднасці ў сувязі з развіццём матэрыяльнай і духоўнай культуры народа. Шмат увагі ўдзяліў ён выяўленню як агульных рыс у вясельнай абраднасці ўсіх усходніх славян, так і лакальных асаблівасцей беларускага вяселля. Магчыма, Нікольскі ў нейкай ступені перабольшваў рэлігійны пачатак у асобных вясельных звычаях і рытуалах, але ў цэлым іх вытокі паказваюцца даволі пераканаўча, і крытыкам М. М. Нікольскага [43] ўсё ж не ўдалося тут сур'ёзна аспрэчыць гэтага знаўцу старажытнай рэлігіі.

У пасляваенныя гады, акрамя М. М. Нікольскага, вясельную абраднасць беларусаў вывучалі У. М. Іваноў, А. М. Міцкевіч, М. Ф. Піліпенка, А. А. Мялешка [44]. Вясельнай абраднасці беларусаў прысвяцілі свае артыкулы і іншыя аўтары [45]. Агляд усіх асноўных матэрыялаў па вясельнай абраднасці беларусаў зроблены ў працах В. К. Бандарчыка [46].

Багатыя матэрыялы па беларускаму вяселлю — апісанні і працы даследчага парадку, якія мы сёння маем,— дазваляюць у пэўнай ступені растлумачыць паходжанне, гісторыю і сутнасць вясельных звычаяў і абрадаў, зразумець эстэтыку народнай культуры.

---

[42] Никольский Н. М. Происхождение и история белорусской свадебной обрядности. Минск, 1956.

[43] Мицкевич А. М. Семейная обрядность белорусского народа. Автореф. канд. дис. Минск, 1966, с. 7.

[44] Іваноў У. М. Сучасны шлюб і вяселле ў рабочых.— «Весці АН БССР. Сер. грамад. навук», 1952, № 2; Пилипенко М. Ф. Следы родовой организации в свадебных обычаях славянских народов.— «Советское славяноведение». Минск, 1969; яго ж. Паходжанне і сацыяльная сутнасць сімвалічных выкупаў у беларускай вясельнай абраднасці.— «Веснік БДУ». Сер. 3, 1969, № 3; яго ж. Семья и брак у белорусских крестьян во II пол. XIX — нач. XX в. Автореф. канд. дис. М., 1970; Мялешка А. А. Савецкая сямейная абраднасць Беларусі. Мінск, 1976.

[45] Иванов В. В., Топоров В. Н. К семиотической интерпретации каравая и каравайных обрядов у белорусов.— «Учен. зап. Тартуского ун-та», вып. 198. Труды по знаковым системам, 3, 1967; Барыс С. В. Асаблівасці бытавання традыцыйнай песні і яе месца ў сучасным вяселлі.— «Весці АН БССР. Сер. грамад. навук», 1976, № 6.

[46] Бандарчык В. К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мінск, 1964; яго ж. Гісторыя беларускай этнаграфіі. Пачатак XX ст. Мінск, 1970; яго ж. Гісторыя беларускай савецкай этнаграфіі. Мінск, 1972.

* * *

Паходжанне вясельнай абраднасці звязана з узнікненнем парнага шлюбу ў эпоху росквіту матрыярхату. Але пакольні гэты шлюб быў яшчэ вельмі нетрывалы і мог лёгка разладзіцца, то і яго абрадаваму афармленню спачатку не надавалася асаблівага значэння. Цырымоніі, якія суправаджалі шлюб маладых людзей, былі вельмі простыя, без асаблівай урачыстасці. Прытым сваёй формай яны рэзка адрозніваліся ад сённяшніх вясельных абрадаў, бо ў эпоху матрыярхату дамінуючае становішча ў грамадстве займала жанчына — пасля шлюбу яна, як правіла, заставалася ў сваім родзе, а мужчына пераходзіў да яе.

Сённяшняя форма вясельнай абраднасці, відаць, пачала складвацца ў эпоху патрыярхату, калі пануючай формай шлюбу стала манагамія (аднашлюбнасць). Цяпер маладыя, як правіла, заставаліся жыць у доме мужа, які станавіўся на чале новай сям'і. Асноўным момантам у цыкле вясельных абрадаў зрабіўся пераезд нявесты з бацькоўскага дому ў дом жаніха. Гэты сюжэтны стрыжань вясельнай драмы, які застаўся нязменным да нашага часу, з'яўляецца агульным для вяселля, здаецца, усіх народаў.

Вясельная абраднасць узнікла як сацыяльная патрэбнасць грамадства. Вядома, у вясельнай абраднасці не маглі не адбіцца светапогляд першабытнага чалавека, яго рэлігійныя ўяўленні. Многія рытуалы вяселля ўзніклі як магічныя дзеянні, якія павінны былі забяспечыць шчаслівае жыццё маладых. Аднак нельга перабольшваць значэнне язычаскай рэлігіі ў стварэнні вясельнай абраднасці. У аснове кожнага вясельнага рытуалу можна заўважыць пэўныя душэўныя памкненні членаў сям'і (ці рода) як мага лепш выказаць маладым свае пажаданні. Гэты душэўны стан і знаходзіў адпаведную форму для свайго выяўлення.

Як бы там ні было, цяпер вясельныя рытуалы ўспрымаюцца толькі як сімвалічныя дзеянні. Сёння вяселле — гэта своеасаблівае пажаданне маладым шчаслівага сямейнага жыцця, дабрабыту.

Як вядома, усе народныя святы і абрады, якія склаліся на працягу стагоддзяў, хрысціянства вельмі ўдала і хітра перарабляла на свой лад. Калі ў адносінах да каляндарнай абраднасці гэта яму ўдавалася параўнальна лёгка, то з вясельнымі звычаямі і абрадамі было не так. Царкве давялося з цяжкасцю прыстасоўваць іх да сваіх догматаў таму, што яна доўгі час выступала супраць самога шлюбу. Толькі пасля таго, як хрысціянская царква ўсё ж прызнала шлюб, ёй удалося дапоўніць народны вясельны абрад сваім элементам — царкоўным вянчаннем. Гэта «новаўвядзенне» на працягу доўгага часу не прымалася народам. Як паказаў у сваёй працы «Свецкі характар шлюбнага звычаёвага права рускага насельніцтва Вялікага княства Літоўскага (XV—XVII стст.)» польскі даследчык Ю. Бардах, яшчэ ў XVII і нават часткова ў XVIII ст. рускае (г. зн. беларускае і ўкраінскае) насельніцтва Вялікага княства Літоўскага карыстала-

ся пры заключэнні шлюбу звычаёвым правам, унікаючы царкоўнага вянчання[47]. Але і тады, калі царкоўнае вянчанне ўкаранілася ў побыт, яно насіла толькі фармальны характар. Як сведчаць многія запісы вясельнай абраднасці, царкоўнае вянчанне не прызнавалася ў народзе за акт, які замацоўваў бы шлюб. Пасля «вянца» маладыя яшчэ не лічыліся мужам і жонкай. Першая шлюбная ноч дапускалася толькі пад канец вяселля, упятаючыся ў яго «кампазіцыю» як адзін з элементаў. Звычаёвае права, такім чынам, аказвалася мацнейшым за ўсе штучныя наваўвядзенні.

Праўда, на асобных момантах вяселля ўплыў хрысціянства ўсё ж пакінула: благаславенне маладых абразамі, звароты да бога ў песнях і інш. Але гэты ўплыў быў чыста вонкавы. У цэлым вяселле засталося глыбока народным сямейным святам, якое многімі сваімі элементамі якраз супярэчыць царкоўнаму догмату.

Беларускае вяселле складвалася на аснове агульнаславянскіх звычаяў і абрадаў. Разам з тым у беларускім вяселлі нямала сваіх асаблівасцей, якія ўзніклі на розных этапах яго гісторыі.

Каб вызначыць асноўныя асаблівасці беларускага вяселля, зразумець сэнс асобных яго элементаў, неабходна прасачыць увесь ход абраднасці, разгледзець галоўныя яго моманты.

С в а т а н н е. Гэта першае звяно ў зіхатлівым ланцугу вясельнай абраднасці. Сваёю формай яно вельмі нагадвае гандлёвую спрэчку, торг. Як сцвярджаюць даследчыкі гісторыі вясельнай абраднасці, гэта — не што іншае, як перажытак адной са старажытных форм шлюбу — куплі-продажу нявесты. Відаць, такім «торгам», які некалі праходзіў не жартам, а сур'ёзна, і вырашалася ў старажытнасці пытанне аб шлюбе маладых людзей. Пасля гэтага нявеста пераходзіла ў дом жаніха. Ва ўсіх славян сватанне-торг, функцыі якога даўней былі значна шырэйшыя, называлася «свадьба» — ад агульнаславянскага слова «сват», што значыць «свой». «Свадьбу», якая рабіла маладых і іх сем'і «сваімі», не маглі нейкім чынам не адзначаць: усе пачуцці, якія выклікала гэта рэзкая перамена ў сямейным жыцці, патрабавалі нейкага выйсця. Паступова сяткаванне шлюбу ўвайшло ў звычай, стала абавязковым.

Шлюбная цырымонія падзялілася, такім чынам, на дзве асноўныя часткі: сватанне (сюды пазней далучыліся і іншыя перадвясельныя абрады), дзе дасягалася дамоўленасць аб шлюбе, і сяткаванне гэтага шлюбу, якое адначасова і ўзаконьвала яго, забраўшы гэту функцыю ад сватання ранейшых часоў. Са змяненнем функцый гэтых двюх частак шлюбнай цырымоніі змяніліся і іх назвы. У рускіх, напрыклад, тэрмінам «сватьба» (у якім пазней пад уплывам звонкага гука «б» глухі зычны «т» змяніўся ў звонкі «д») пачало абазначацца само сяткаванне шлюбу. У беларусаў жа

[47] «Czasopismo Prawno-Historyczne», t. 15, zesz. 1. Warszawa, 1963, с. 85—147.

яно набыло назву «вяселле». Суіснаванне тэрмінаў «сваццьба» ў значэнні «сватанне» і «вяселле» як святкаванне шлюбу засведчыў, напрыклад, А. Шыманоўскі («Вяселле ў Мінскай губ.»).

Мэта сватання ў вясельнай абраднасці беларусаў, прынамсі апошніх двух стагоддзяў, адна: дамовіцца аб шлюбе. Калі ў сям'і прымалася рашэнне аб жаніцьбе хлопца, перш-наперш падбіралі сватоў. На Беларусі ў сваты, як правіла, хадзілі мужчыны, прытым абавязкова жанатыя — да жанатых заўсёды ставіліся з большай павагай. Удзел у сватанні жанчын таксама не выключаўся. Часцей за ўсё ў сваты хадзілі сват з бацькам жаніха або сват з самім жаніхом. Часта сваты бралі сабе ў дапамогу каго-небудзь яшчэ. У некаторых мясцовасцях у сваты выпраўлялася па пяць і болей чалавек. Вельмі рэдка ў сваты ішоў толькі адзін чалавек — у такім выпадку сватанне не заўсёды магло лічыцца сур'ёзным. У асноўным колькасць і склад сватоў залежалі не ад мясцовай традыцыі, а ад канкрэтных абставін. Напрыклад, без жаніха ў сваты можна было выпраўляцца толькі тады, калі нявеста і яе бацькі добра ўжо яго ведалі; інакш прысутнасць жаніха на сватанні была абавязковая.

Галоўнай асобай у сватанні, а потым і ва ўсім вяселлі, быў старшы сват («маршалак», «дружка», «дружко», «сват»). На гэту «пасаду» выбіралі не абы-каго. Першае, што патрабавалася ад свата,— гэта, каб ён быў вясёлы, гаваркі, дасціпны, каб пры выпадку не лез у кішэнь па слова: ад яго ў многім залежала «весялосць» вяселля.

Нявесту для хлопца выбіралі часцей за ўсё яго бацькі, кіруючыся пры гэтым гаспадарчымі разлікамі і не заўсёды прымаючы пад увагу сынавы схільнасці. Перш за ўсё глядзелі, ці багатыя ў нявесты бацькі, бо ад гэтага залежала, які будзе пасаг. Вялікая ўвага звярталася на працавітасць дзяўчыны. Вось як пяецца ў адной з вясельных песень:

Хоць я ночкі не спала,
Я сваю сваньку ашукала —
Сабе нявеxну даждала;
Да к сцюдзёнай зіме — плаццe праць,
А к краснай вясне — кросны ткаць,
А к ціхаму лету — жыта жаць,
А к цёмнай ночы — на таку малаціць.
(«Абрады вясковага люду з-над Бярэзіны»)

Каб даведацца пра заможнасць бацькоў нявесты, бацькі жаніха часам пасылалі яшчэ да сватання каго-небудзь на «даведкі» («суглядны»).

Дзяўчына таксама не мела асаблівага права выбару жаніха. Калі з'яўляліся сваты, яна звычайна сыходзіла з хаты, даючы магчымасць вырашаць пытанне аб яе шлюбе бацькам. Бацькі ж, хоць і хацелі аддаць дачку замуж, тым не менш не выказвалі гэтага сватам. Для канчатковага рашэння яны выклікалі дачку і, калі тая прыходзіла, пыталіся ў яе, ці згодна яна выйсці замуж. Бацькі, значыць, хоць і фармальна, усё ж пакідалі апош-

няе слова за дачкой. Гэты звычай ідзе, відавочна, ад дакласавай пары, калі дзяўчына сама вырашала — прытым фактычна, а не фармальна,— каго ёй браць за мужа. Нездарма ж полацкая княгіня Рагнеда яшчэ ў X ст. так смела адмаўлялася выйсці замуж за ноўгарадскага князя Уладзіміра, выбраўшы сабе кіеўскага князя Яраполка: «Не хочю розути робичича, но Ярополка хочю»[48]. Пра тое, што дзяўчына сама некалі выбірала жаніха, сведчаць зробленыя ў 1650 г. Г. Л. Бопланам запісы ўкраінскага вяселля, дзе падрабязна расказваецца пра звычай сватання дзяўчыны да закаханага хлопца[49]. У беларусаў гэты звычай быў вядомы яшчэ ў XIX ст. («Вяселле ў Магілёве»).

Бацькі дзяўчыны таксама выпраўляліся часам у «агледзіны» — паглядзець гаспадарку бацькоў жаніха, пасля чаго вырашалі, працягваць далей «перагаворы» аб шлюбе ці не.

Запоіны («запівіны», «заповіны», «малыя заручыны», «малая гарэлка», «малыя замовіны», «барышы»). Калі бацькі і дачка згаджаліся на шлюб, пачыналіся запоіны, на якіх і замацоўвалася гэта згода. У час выпіўкі дамаўляліся аб дні змовін, ці заручын. Пасля запоін дзяўчына лічылася засватанай. Часам пра яе казалі, што яна «запіта» або «заедзена ячняй» (ячня ў многіх мясцовасцях была абавязковай на запоінах). Для замацавання дамоўленасці бацькі нявесты і яна сама паціскалі сватам рукі, што называлася «рукабіцце» (Віцебшчына).

Але пасля гэтага шлюб яшчэ не быў абавязковым, ён мог разладзіцца. У такім выпадку вінаватым даводзілася вяртаць выдаткі супрацьлегламу боку. Часцей за ўсё запоіны адбываліся адразу пасля сватання і з'яўляліся як бы яго працягам. Таму часам сватанне і запоіны абазначаліся адным словам — «запоіны», «сваты» і інш.

Запоіны вельмі нагадваюць сабой «барыш» — звычай «замочваць» якое-небудзь гандлёвае пагадненне. Часам яны так і называліся — «барышы», «запіць барышы», што азначала «высватаць дзеўку» («Вяселле ў Асіповіцкім раёне»). Усё гэта зноў-такі прымушае гаварыць пра запоіны як пра перажытак звычаю куплі-продажу нявесты. Разам з тым запоіны былі зародкам уласна вяселля, яго першапачатковай формы.

Змовіны («заручыны», «вялікая гарэлка», «вялікія запоіны»). Задача змовін — заручыцца згодай радні жаніха і радні нявесты на шлюб, больш пэўна замацаваць гэту згоду, канчаткова дамовіцца аб усіх падрабязнасцях вяселля. На змовінах, якія адбываліся ў хаце нявесты, запрашалася больш шырокае кола сваякоў нявесты і жаніха — усе яны як бы з'яўляліся сведкамі атрыманай згоды, дамоўленасці. Жаніх і нявеста часам абменьваліся пярсцёнкамі, што сімвалізавала згоду на шлюб. Пасля змовін адмаўленне ад шлюбу — ці з боку жаніха, ці з боку нявесты — было амаль

---

48 Повесть временных лет, т. 1. М.—Л., 1950, с. 54.
49 Весілля. У двох книгах, кн. 1. Київ, 1970, с. 63.

немагчыма. Калі ж гэта ўсё-такі здаралася, тыя, па чыёй віне касаваўся шлюб, зноў-такі павінны былі аплаціць усе выдаткі. Але паколькі выдаткі на змовінах былі намнога большыя, чым на запоінах, то ўжо адно гэта стрымлівала бацькоў нявесты ці жаніха адмаўляцца ад шлюбу.

Для папярэдняй дамоўленасці аб шлюбе ў асобных выпадках збіраліся па некалькі разоў. Паколькі мэта ўсіх гэтых збораў была амаль што аднолькавая, то яны і не мелі ўстойлівай назвы. Часам адны і тыя ж абрады называліся па-рознаму і, наадварот, адзін і той жа тэрмін мог адносіцца да зусім розных абрадаў.

З б о р н а я с у б о т а («дзявочы вечар», «паненскі вечар», «вянкі», «зборны вечар»). Перад самым вяселлем у суботу вечарам у маладой збіраліся яе сяброўкі, адсюль і назва. Зборная, або суборная, субота — своеасаблівае развітанне нявесты са сваім дзявоцтвам, з сяброўкамі, з якімі пасля замужжа яна ўжо не мела права хадзіць на гулянкі.

Дзяўчаты садзіліся за сталом і вілі вянкі, якія адыгрывалі важную ролю на вяселлі, сімвалізуючы сабой дзявочую чысціню, маладосць. Упрыгожанні з кветак і стужак рыхтаваліся не толькі для нявесты, але і для маладога, для шафераў і шаферак. У асобных мясцовасцях, напрыклад на Гомельшчыне, дзяўчаты «вілі елку» — упрыгожвалі каляровымі кветкамі, саламянымі крыжыкамі, свечачкамі і г. д. галінку елкі ці вішні. Пра важнасць абраду «вянкоў» гаворыць тое, што дзяўчаты, перш чым прыступаць да работы, прасілі ў бацькоў нявесты — як звычайна, тры разы — благаславіць іх «вянкі віць».

Уючы вянкі, дзяўчаты спявалі песні. Асноўны матыў іх — развітанне маладой са сваім дзявоцтвам, са шчаслівым і бесклапотным жыццём у бацькоўскай хаце. У гэтых песнях шмат нараканняў на паднявольнае жыццё жанчыны ў доме мужа, на яе бяспраўнае становішча:

Ці не жаль табе, дзевачка,
На дзявоцкае пагулянне,
На дзявоцкае пагулянне,
На дзявоцкае жартаванне?
Дзевачкі пойдуць на вулку гуляць,
А ты, маладзенька, у клетку спаць.
Дзевачкі пойдуць па ягодкі,
А ты, маладзенька, да работкі.
Дзевачкі будуць вянкі віць,
А ты, маладзенька, шапкі мыць.
Дзевачкі будуць гулі, гулі,
А ты, маладзенька, люлі, люлі.

(«Вяселле ў в. Маркава
Маладзечанскага р-на»)

Як паказваюць многія апісанні вясельных абрадаў, на «вянкі» часта прыязджаў і жаніх з бацькам, сватам, музыкам і сябрамі. Усе разам частаваліся, жартавалі, спявалі песні, танцавалі.

Некаторыя этнографы зафіксавалі звычай, паводле якога нявеста ў зборную суботу хадзіла ў лазню (Віцебшчына). Як мяркуюць даследчыкі, вытокі гэтага звычаю ў язычастве, калі вадзе, якая адухаўлялася, прыпісвалася шмат цудоўных якасцей.

Каравай. Звычайна з замешвання цеста на каравай і яго пячэння, калі збіраліся каравайніцы, часцей за ўсё і пачыналася ўласна вяселле. Пра гэта ж спяваецца і ў песні:

Каравай-пачынальнічку,
Не стаі у запечку,
Развядзі парадачак
Ды пачні вяселейка.

(«Вяселле ў в. Маркава
Маладзечанскага р-на»)

Кожны момант падрыхтоўкі і выпечкі каравая (замешванне цеста, саджанне каравая ў печ, выманне яго і інш.) суправаджаўся адпаведным рытуалам і песнямі. Каравайных песень па сённяшні дзень захавалася ў беларусаў вельмі многа. Усе яны надзвычай паэтычныя, светлыя па настроі. Паэтызаваўся ўжо сам працэс падрыхтоўкі каравая. Так, жанчыны мясілі каравай «ручкамі бяленькімі, пярснямі залаценькімі, песнямі весяленькімі». Калі каравай быў пасаджаны ў печ, яму спявалі:

Расці, расці, каравай,
Вышай печы муравой,
Вышай стаўпа залатога,
Вышай друга дарагога.

(«Народныя беларускія вяселлі
ў Ашмянскім п. Віленскай губ.»)

Каравай у песнях адухаўляўся, пра яго спявалася як пра жывую істоту:

Каравай у дзяжы іграець,
Да века паднімаець,
Каравайніц ажыдаець:
— Гдзе ж мае каравайніцы?
Чы на мяду запіліся,
Што на мяне забыліся?

(«Абрады вясковага люду з-над Бярэзіны»)

Аб важным значэнні каравая і звязаных з ім абрадаў сведчыць тое, што жанчыны, прыступаючы да кожнага этапа яго падрыхтоўкі, прасілі ў бацькоў благаславення. Калі каравай удаваўся, лічылі — гэта на шчасце. Асабліва радаваліся ўсе, калі каравай вырастаў настолькі, што для таго, каб выцягнуць яго з печы, трэба было вымаць некалькі цаглін. Заканчвалася выпечка каравая музыкай, скокамі.

Урачыстасць, асаблівая святочнасць абраду выпечкі каравая, яго паэтызацыя не выпадковыя. Каравай — гэта перш за ўсё хлеб. А хлеб у

народзе — сімвал шчасця, дабрабыту, сімвал жыцця. Прысутнасць каравая на вяселлі азначала не што іншае, як пажаданне гэтага шчасця і дабрабыту маладой сям'і. Нездарма на вяселлі шмат рытуалаў, звязаных з караваем і наогул з зернем, з хлебам. Прычым усе гэтыя рытуалы праходзяць урачыста і весела.

Даследчыкі вясельнай абраднасці звярталі ўвагу на круглую форму каравая, на яго ўпрыгожанні, бачачы ў гэтым «сімвал абагоўленых свяціл, а магчыма, і прадмет, які прыносіўся ім у ахвяру»[50]. Думаецца, гэтыя сцвярджэнні спрэчныя: хлеб, у тым ліку і каравай, быў круглы проста таму, што так яго было прасцей пячы, асабліва на лісцях дрэў і іншых раслін, як гэта рабілася здаўна. Упрыгожванне ж каравая зноў-такі можна растлумачыць толькі тым важным значэннем, якое прыдавалася ў народзе хлебу.

П а с а д — гэта форма блаславення жаніха і нявесты на шлюб, пажаданне ім шчаслівага жыцця. Нездарма нявесту ці жаніха садзілі пры гэтым на хлебную дзяжу, якая якраз і сімвалізавала шчасце, багацце. А ў Лепельскім павеце, напрыклад, садзілі на пастаўлены сярод хаты зэдаль, на якім рассцілалі жытні сноп[51]. Сімвалам багацця лічыўся і вывернуты кажух, якім засцілалі дзяжу. Гэты звычай ідзе ад часоў, калі для задобрывання аграрных багоў прыносілі ім у ахвяру жывёл, напрыклад авечак. Калматая шкура жывёл лічылася сімвалам багацця і ў іншых славянскіх, і не толькі славянскіх, народаў.

Важнасць пасада падкрэслівалася яшчэ тым, што на дзяжу мелі права садзіцца толькі тыя маладыя, якія захавалі цнатлівасць. У адваротным выпадку пасад мог бы наклікаць на будучую сям'ю няшчасце і гора. Цікавы расказ пра гэты звычай прыводзіць у сваёй працы «Беларускае вяселле ў культурна-рэлігійных перажытках» М. В. Доўнар-Запольскі, які запісаў яго ад Ф. В. Ярмаковіча: «Абышоўшы тройчы стол з «братам», жаніх моўчкі спыніўся перад абразамі. Яму рукой паказалі на дзяжу, але ён працягваў яшчэ некалькі хвілін стаяць. Устанавілася суровае, магільнае маўчанне. Потым ён прарабіў рух рукой, як быццам хацеў маліцца, але рука яго зноў апала. Кроў прыліла да яго твару, а потым ён пабялеў, як палатно. Затым ён машынальна апусціў руку ў кішэнь, выняў адтуль насавую хустачку, разаслаў перад сабой на падлозе і, апусціўшыся на калені, прыпаў губамі да зямлі. Потым жаніх падняўся, перахрысціўся і зноў прыпаў да зямлі. Мёртвае маўчанне працягвалася. Раптам пачуўся стук разбітага посуду, я перавёў позірк з жаніха на яго бацьку, які стаяў над разбітай конаўкай; твар яго быў белы, ён увесь трэсся, як у ліхаманцы, але не рухаўся з месца, а стаяў над разбітай конаўкай, скіраваўшы гнеўны позірк

---

[50] К а р с к і Е. Ф. Белорусы. т. 3. Очерки словесности белорусского племени. I. Народная поэзия. М., 1916, с. 258.

[51] Ш п и л е в с к и й П. Свадебные обряды у застенковцев (околичан) Витебской губернии.— «Пантеон», 1854, т. 15, кн. 5, с. 40.

на сына, які ўжо трэці раз апусціўся на зямлю. Жонка яго, маці жаніха, глядзела на сына вачамі, поўнымі жалю. Не ўстаючы з зямлі і нікуды не гледзячы, жаніх павярнуўся ў бок бацькі і прыпаў да яго ног, абліваючыся слязьмі і ўздрыгваючы ад глухіх рыданняў. Бацька ўскочыў, як ад пчалінага джала, і нагамі пачаў біць сына, але той не ўстаў, а працягваў цалаваць бацькавы ногі... Бачачы ўсё гэта, многія пачалі прасіць бацьку дараваць сыну і благаславіць яго. «Не,— сказаў ён,— хоць я благаслаўлю, але бог яго не благаславіць, калі ён гэтак зрабіў мне; гэтакае тваё будзе жыццё...» З вялікай цяжкасцю ўпрасілі бацьку благаславіць сына...»[52]

У абрадзе пасада перапляліся самыя розныя ўяўленні, звычаі. Тут перш за ўсё выразна праяўляюцца маральныя прынцыпы народа, яго высокія патрабаванні да чысціні ў паводзінах паміж дзяўчынай і хлопцам. Павагай да бацькоў і наогул старэйшых тлумачацца і тыя частыя паклоны, якія робяць маладыя ў час благаславення. Абрад падстрыгання ці падпальвання валасоў у час пасада не што іншае, як прызнанне палавой сталасці маладых. Пра гэта сведчаць і адпаведныя песні, у якіх заклікаюць хлопца падстрыгацца «з хлапечага стану ды ў мужскую славу». Падстрыганне пры ўступленні маладых людзей у палавую сталасць вядома ў многіх народаў. Вялікая ўвага ўдзялялася і абраду расплятання касы нявесты. Гэты абрад азначаў, што дзяўчына са стратай касы пераходзіла ў новы для яе стан, рабілася замужняй жанчынай. Таму ў песнях і аплакваецца каса — «дзявочая краса».

Прыезд дружыны жаніха па нявесту. Адным са старажытных звычаяў лічыцца «ўмыканне» нявесты жаніхом. Так гэта ці не, але рытуал сустрэчы дружыны жаніха раднёй нявесты па сваёй форме вельмі нагадвае ваенны набег з мэтай захапіць нявесту сілай. Напрыклад, па сённяшні дзень дарогу дружыне жаніха перагароджваюць жэрдкай або калодай, у асобных мясцовасцях перад дружынай зачыняюць вароты і не пускаюць яе ў двор; пры гэтым члены дружыны жаніха імкнуцца сілай завалодаць варотамі або пералезці праз іх.

Форма баявога наезду дружыны жаніха з мэтай захопу нявесты захавалася як цікавы іграві момант, які надае найбольшую ўрачыстасць сустрэчы. Як вядома, канчаецца ён заўсёды «шчасліва»: маладога ў рэшце рэшт вітаюць хлебам-соллю, запрашаюць у хату.

Праўда, перад тым, як пусціць дружыну жаніха ў двор, яна павінна заплаціць выкуп. Робіць гэта сват як старэйшына дружыны, які доўга «таргуецца» з сяброўкамі нявесты, імкнучыся як мага менш даць грошай. Гэты жартоўны гандаль з'яўляецца перажыткам другога звычаю — куплі-продажу нявесты.

Вясельнае застолле. Вясельнае застолле было «вянцом» усеагульнай святочнасці, радасці з выпадку нараджэння новай сям'і. Гэтыя

---

[52] Довнар-Запольский М. В. Исследования и статьи, с. 104.

пачуцці знаходзілі сваё выяўленне ў вясёлых тостах, жартах і шматлікіх песнях. Адной з асноўных тэм застольных вясельных песень было ўслаўленне маладых, іх бацькоў, усіх «сватоў».

Вясельны стол абстаўляўся як мага багацей. Лічылася, што ён павінен сімвалізаваць заможнасць будучай сям'і. Закуску і гарэлку рыхтавалі ў асноўным бацькі маладых. Але паводле закону ўзаемавыручкі, узаемадапамогі ўсе запрошаныя госці таксама прыносілі з сабой на вяселле спецыяльна прыгатаваныя прысмакі і гарэлку.

Жаніх і нявеста на ўрачыстым застоллі часта не елі і не пілі. У асобных мясцовасцях маладых кармілі пасля вясельнага банкету, адвёўшы іх у камору. Піць гарэлку і есці на сваім вяселлі лічылася нетактоўным. Але галоўная прычына была другая: існавала павер'е, паводле якога ўстрыманне ад яды і пітва на ўласным вяселлі забяспечвала маладым у будучым сямейным жыцці заможнасць. Дзеля гэтага часам і маці маладой ці маладога нічога не ела на вяселлі, пасціла («Народныя беларускія вяселлі ў Ашмянскім павеце»). З той жа прычыны малады пры сустрэчы з бацькамі маладой выліваў за сябе паднесеную яму першую і другую чаркі гарэлкі: каб у яго сям'і ўсяго было даволі (аж цераз край лілося).

На вяселлі заўсёды падкрэслівалася, што малады і маладая — гэта адно цэлае. Таму перад імі клалі абавязкова толькі адну лыжку і адзін відэлец. Каханне маладых было асновай добрага настрою ўсіх гасцей. Гэта падкрэслівалася звычаем крычаць «горка», пасля чаго жаніх і нявеста павінны былі даказаць усім прысутным адданасць адзін аднаму.

Дзяльба каравая. Адным з кульмінацыйных момантаў вяселля з'яўлялася дзяльба каравая. Аб важнасці гэтага рытуалу гаворыць тая ўрачыстасць, з якой ён праводзіўся. Каравай выносілі з каморы пад музыку. Звычайна рабіў гэта сват, які трымаў яго высока над галавой. Часам пад караваем бег хлопчык. На Стаўбцоўшчыне каравай даручалі несці дзецям.

Дзяльба каравая пераважна адбывалася так. Сват разразаў яго на кавалкі і весела абвяшчаў аб гэтай важнай падзеі, запрашаючы вясельнікаў, «каб яны ласкавы былі — на каравай прыбылі». У хаце маладой каравай дзяліўся паміж яе раднёй, а ў маладога — паміж яго. Першымі падыходзілі бацькі, якія клалі перад маладымі грошы ці іншыя падарункі або проста гаварылі, што яны вырашылі падараваць маладой сям'і (карову, свінню і г. д.). Пры гэтым яны выказвалі сваё пажаданне маладым шчасця, долі і доўгага веку, выпівалі пададзеную ім чарку гарэлкі, закусвалі кавалачкам каравая. Прыкладна тое ж рабілі астатнія сваякі і сябры маладых, што падыходзілі па чарзе — спачатку больш блізкія, а затым ужо дальнія і ўсе, хто жадаў.

Пажаданні, якія выказваліся маладым пры дарэнні, могуць растлумачыць шмат якія сімвалічныя дзеянні вясельнай абраднасці, бо тое, што ўкладвалася раней у сімвалы, тут гаварылася адкрыта.

Вядома, маладым перш за ўсё зычылі шчасця. З вясельных пажаданняў вельмі яскрава відаць, што пад гэтым абстрактным паняццем разумелася каханне, багацце, дзеці.

Пажаданне маладым моцнага кахання выказвалася, напрыклад, такімі вершаванымі прыгаворкамі:

Дарую дзве анучы,
Каб усё жыццё былі ў кучы!

(в. Давыдаўка Светлагорскага р-на, зап. Г. М. Курыловіч)

Дарую пару галубоў,
Каб была моцная любоў

(в. Зялёная Дуброва Старадарожскага р-на)

Пры пажаданні багацця часта зычылі і шмат дзяцей. Гэтым самым як бы падкрэслівалася, што найбольшае багацце — гэта дзеці:

Дарую бульбы падполле
І дзяцей застолле!

(в. Палессе Чачэрскага р-на)

Каб у вашым дамочку,
У вашым хлявочку,
У вашым садочку
Усё радзіла
І пладзіла!

(в. Улукі Слаўгарадскага р-на, зап. І. К. Цішчанка)

Вясельнае пажаданне — своеасаблівы маленькі мастацкі твор. Яркая вобразнасць, дасціпнасць, цікавае параўнанне, гучная нечаканая рыфма — яго найбольш характэрныя рысы. Напрыклад:

Колькі ў хаце сталоў,
Колькі ў сталах дошчачак,
Каб столькі сыноў і дочачак!

(в. Зарэчча Клічаўскага р-на, зап. Л. М. Салавей)

Жадаю столькі сынкоў,
Колькі ў лесе пянькоў!

(в. Першамайск Рэчыцкага р-на)

Адна з характэрных асаблівасцей вясельнай прыгаворкі — здаровы народны гумар. На першы погляд ён можа здацца грубаватым, але ж гэта толькі на першы погляд. На самай справе народ нідзе не пераходзіць мяжу прыстойнасці. За вонкавай грубасцю можна лёгка ўбачыць самыя найлепшыя імкненні аўтараў:

Каб нявеста была багата
І спераду гарбата!

(в. Улукі Слаўгарадскага р-на,
зап. І. К. Цішчанка)

Дарую ніткі,
Каб малады не заглядваў на чужыя лыткі!

(з. Віскявічы Бярозаўскага р-на)

Каб ваш ложак скрыпаў
І да году сынок выпаў.

(в. Малая Кракотка Слонімскага р-на,
зап. І. У. Саламевіч)

Бацькі маладых, жадаючы дзецям усяго найлепшага, у той жа час давалі ім наказы: не губляць сувязі з бацькоўскім домам, не ганьбіць імя роду:

Дарую шчасце і долю
І стары куст,
Каб не быў двор пуст,
Каб друг друга цалавалі
І старога не пакідалі!

(в. Зарэчча Клічаўскага р-на,
зап. Л. М. Салавей)

Даруем вам з павагі,
Каб не было нам знявагі.

(в. Руднікі Пружанскага р-на)

У гэтых прыгаворках нямала паэзіі, глыбокай народнай мудрасці. А якая ў іх тактоўнасць, далікатнасць, сапраўдная, а не паказная.

У рытуале дзяльбы каравая яскрава праяўляюцца высокія маральныя якасці народа, харaство яго духоўнага свету. Вельмі добра сказаў пра гэта пісьменнік Васіль Вітка: «Я ўпэўнены, што гэты ўрачысты, пацешны і вясёлы абрад народ не выкіне з арсеналу сваёй творчасці. Гэта надзвычай павучальны абрад паводле сэнсу закладзеных у ім традыцый, якія з пакалення ў пакаленне вучылі высокай пашане сямейнай этыкі: тут усе градацыі сваяцтва, сяброўскай і суседскай вернасці. У якім арэоле павагі паўстаюць бацькі, бабка, дзед, родныя ўсіх ступеняў і каленаў і кожнаму павінна быць знойдзена і сказана шчырае слова прывітання, і яны ў сваю чаргу адказваюць маладой сям'і такой самаю шчодрасцю сваіх пачуццяў. Гэтая цырымонія — цэлая школа ўзаемнай павагі і пашаны...» [53]

У некаторых мясцовасцях (Віцебшчына) дарэнне маладых і дзяльба каравая — два асобныя рытуалы, якія адбываліся ў розны час. Але сутнасць іх тая ж самая.

*Ад'езд да дому маладога.* Развітанне маладой з бацькоўскім домам — надзвычай эмацыянальны момант вяселля.

---

[53] *Вітка Васіль.* Дзеці і мы. Мінск, 1977, с. 114.

У час ад'езду маладой больш чым у якім моманце вяселля было ўсялякіх выкупаў. Малады павінен быў выкупіць і самую нявесту і яе пасцель, адкупіцца ад сябровак маладой, якія не жадалі з ёй развітвацца. Часам адкупляваццa вымушаны былі і іншыя члены дружыны маладога, якіх для гэтага зачынялі ў хаце.

Варты асобай увагі звычай перагароджваць дарогу маладым. Рабілася гэта і тады, калі дружына маладога ехала па маладую, і тады, калі малады вёз сваю нявесту дадому. У першым выпадку перагароджванне дарогі можна, відаць, растлумачыць пeражыткам часоў «умыкання» нявесты, род якой імкнуўся перашкодзіць гэтаму. У другім жа выпадку хутчэй за ўсё спынялі вясельны поезд для таго, каб павіншаваць маладых — звычай больш позняга паходжання.

Сустрэча маладых. Каля двара жаніха маладых сустракалі з вялікай урачыстасцю. Тут было шмат музыкі, песень, віншаванняў, сімвалічных дзеянняў, у якіх выказвалася радасць ад сустрэчы.

Часта маладыя павінны былі праехаць у двор праз агонь, раскладзены з саломы ў варотах. Лічылася, што калі яны гэта зробяць, то да іх не прыстануць ніякія чары [54]. Карэнні гэтага звычаю ў далёкай старажытнасці, калі агню, як і вадзе, прыпісвалася вялікая ачышчальная сіла. Акрамя таго, агонь надаваў яшчэ большую ўрачыстаць такому запамінальнаму моманту, як прыезд маладых у дом, дзе ім суджана было жыць.

У час сустрэчы маладых з раднёй жаніха добрай прыкметай лічылася частаванне салодкім. Маладая сыпала цукеркі, а маці жаніха ў дзвярах частавала маладых і ўсіх гасцей мёдам. Гэта зноў-такі было сімвалічнае пажаданне шчаслівага, «салодкага» жыцця як маладым, так і ўсёй радні і ўсім, хто прысутнічаў пры сустрэчы маладых.

Ход вяселля ў хаце маладога. Вясельная ўрачыстаць у хаце маладога праходзіла прыкладна гэтак жа, як і ў хаце маладой. Але былі тут і некаторыя своеасаблівыя моманты. Гэта датычыцца ў асноўным рытуалаў, звязаных з першай шлюбнай ноччу. Даўней ім надавалася вялікае значэнне. Маладых праводзілі ў камору, дзе свацці карміліі іх, слалі пасцель і замыкалі. Раніцай маладых будзілі, пасля чаго адбываўся рытуал агляду пасцелі. Гэта быў адзін з кульмінацыйных момантаў вясельнай драмы: калі аказвалася, што нявеста страціла да гэтага цнатлівасць, то ўсё вяселле магло або зусім разладзіцца, або прыняць формы, вельмі непажаданыя як для радні маладой, так і для радні маладога. Асабліва ганьбаваліся ў такім выпадку бацькі маладой. Калі ж нявеста аказвалася цнатлівай, то вяселле праходзіла яшчэ больш весела і канчалася шчасліва. Гэта яшчэ адзін доказ, якая ўвага аддавалася ў народзе маральнай чысціні. Нездарма ў адной з вясельных песень пяецца, што «цнота даражэй за злота».

---

[54] Сержпутоўскі А. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. Мінск, 1930, с. 178.

Вельмі цікавым быў звычай тэатралізаванага пераўвасаблення вясельнікаў у «цыганоў». У розных мясцовасцях ён знаходзіў сваё, адметнае выражэнне, бо ўжо сама ідэя пераўвасаблення давала шырокі прастор для творчай фантазіі. Гэты вясёлы звычай, які дазваляў «жабраваць», «красці» ў сваякоў, як бы гаварыў, што набыткі кожнай сям'і былі набыткамі і ўсяго роду. Звычай гэты яшчэ больш збліжаў усіх сваякоў і быў адным з праяўленняў распаўсюджанай здаўна ўзаемавыручкі, узаемадапамогі.

У канцы вяселля адбываўся рытуал праверкі здольнасці нявесты як гаспадыні, як работніцы наогул. У сямейным жыцці гэта, як вядома, мела вельмі важнае значэнне, ад гэтага залежала і тое, якія складуцца адносіны паміж маладой і свякрухай.

У песнях родныя маладой (прыданыя) перад ад'ездам часта просяць радню маладога, каб не крыўдзіла «іх дзевачку». Радня маладога ў адказ не спяшаецца суцешыць сваццяў нявесты, даючы ім зразумець, што ўсё будзе залежаць ад таго, як яна выхавана.

Часам у апошні дзень вяселля хто-небудзь з блізкай радні маладых запрашаў вясельнікаў да сябе на пачастунак. Гэты звычай меў назву «перазоў» (на Гомельшчыне — «банкеты»). Перазовам называлася таксама ўзаемнае наведванне бацькоў маладых праз пэўны час пасля вяселля. Гэтым «перазовам бацькоў» (у некаторых мясцовасцях ён абазначаўся тэрмінамі «гасціна», «госці») і заканчваўся ўвесь цыкл вясельнай абраднасці.

Вясельная абраднасць на ўсёй тэрыторыі Беларусі ў сваёй аснове вельмі аднародная. Па шматлікіх апісаннях вяселля можна заўважыць, што асноўныя вясельныя абрады з пэўнымі адхіленнямі супадаюць ва ўсіх мясцовасцях. Адхіленні датычацца галоўным чынам мясцовых асаблівасцей, якімі дапаўняецца абрад, тэрмінаў, песень.

Абрадаў, характэрных толькі для якога-небудзь аднаго рэгіёна, у беларускім вяселлі няшмат. Так, на поўначы Беларусі вядомы «стаўбавы» абрад. Звязаны ён з пачаткам вяселля. Адбываўся «стаўбавы» абрад у доме жаніха і ў доме нявесты. У доме жаніха ён праходзіў, напрыклад, так. Перад ад'ездам маладога па маладую запрашаліся госці — радня, суседзі, садзіліся за стол, жаніх — на покуці. З гасцей выбіраўся «запявала», ці «стаўбавы», залазіў на слуп каля печы, браў у рукі два караваі і, пляскаючы імі, звяртаўся да ўсіх з вершаванай прамовай (арацыяй), пасля чаго запяваў «зачынальную» песню, просячы Кузьму-Дзям'яна, бога-каваля, «скаваць свадзебку». На большай жа частцы тэрыторыі Беларусі, як ужо гаварылася, абрад вяселля пачынаўся з выпечкі каравая.

Розніца ў пачатковым этапе вяселля дазволіла М. М. Нікольскаму падзяліць усю вясельную абраднасць беларусаў на два «варыянты» — «стаўбавы» і «каравайны»[55]. Думаецца, такі падзел наўрад ці правамер-

---

[55] Никольский Н. М. Происхождение и история белорусской свадебной обрядности, с. 143—256.

ны. Па-першае, усе іншыя асноўныя абрады кожнага з двух «варыянтаў», як паказваюць шматлікія апісанні вяселляў, у асноўным аднолькавыя. Акрамя таго, на той жа Віцебшчыне, канкрэтней — у Віцебскім павеце, побач з апісаннямі «стаўбавога» можна знайсці звесткі і пра «каравайны» абрад[56]. Падзяляць вясельную абраднасць беларусаў на два варыянты, відаць, нявартa яшчэ і таму, што «стаўбавы» абрад сустракаецца толькі ў невялікім кутку Віцебшчыны; асноўны ж арэал яго бытавання — суседнія з Віцебшчынай раёны Расіі. Гэты абрад — адна з рэгіянальных рыс беларускага вяселля, якая з'явілася вынікам уплыву рускай абраднасці.

Уплывам рускага вяселля можна растлумачыць і іншыя асаблівасці. Напрыклад, рытуальнае мыццё нявесты напярэдадні шлюбу; галашэнні нявесты — асаблівасць, якую, дарэчы, можна сустрэць і далей на поўдзень («Вясельны абрад у м. Халопенічы Барысаўскага павета»). Дарэчы, гэтыя звычаі засведчаны ў апісаннях як са «стаўбавым», так і з «каравайным» абрадамі.

Мясцовыя асаблівасці вясельнага абраду можна вылучыць і ў іншых рэгіёнах Беларусі. Але ўсе асноўныя абрады і звычаі і тут супадаюць. Нават у такім, здавалася б, вельмі адметным у этнаграфічным плане краі, як захад Палесся, мы не сустрэнем вельмі рэзкіх адрозненняў у вясельных абрадах і звычаях. Часам яны толькі хаваюцца пад іншымі тэрмінамі, мясцовымі напластаваннямі.

Нягледзячы на аднолькавую ў асноўным канву, у беларускім вяселлі можна заўважыць вельмі многа самых розных варыяцый яго правядзення. Як заўважае В. І. Чычараў, «часам нават у суседніх сёлах і вёсках вяселлі спраўляліся па-рознаму», што «выклікае вялікія цяжкасці ў вылучэнні іх абласных тыпаў»[57]. Думаецца, пры картаграфаванні вясельнай абраднасці неабходна выяўляць, якія моманты ў ёй ідуць ад традыцыі, перадаюцца з пакалення ў пакаленне як «абавязковыя», а якія ўзніклі ў выніку імправізацыі арганізатараў ці ўдзельнікаў вяселля. Толькі пры такім размежаванні ў разглядзе кожнага канкрэтнага апісання вяселля можна прыйсці да правільных высноў, параўноўваючы вясельную абраднасць розных мясцовасцей. Варыяцыі ў правядзенні вяселля — гэта цікавейшы матэрыял для вывучэння народнай творчасці.

---

[56] Шейн П. В. Материалы..., т. 1, ч. 2, с. 3. Падрабязны расказ пра каравайны абрад у апісанні вяселля з таго ж Віцебскага павета, якое мы знаходзім у «Белорусском сборнике» Е. Р. Раманава, вып. 8 (Вільна, 1912, с. 356—361), мабыць, не варта браць пад увагу, бо ўсё гэта апісанне вельмі рэзка адрозніваецца ад іншых запісаў вяселля Віцебшчыны і вельмі падобна сваім характарам на вясельныя абрады больш паўднёвых мясцовасцей Беларусі: або карэспандэнтка Е. Р. Раманава Пароменская ўвяла яго ў зман, пазначыўшы свае запісы Віцебскім паветам, або тут нейкая іншая памылка.

[57] Чичеров В. И. Русское народное творчество. М., 1959, с. 392.

* * *

Вяселле нагадвае сабой выдатна пастаўленую драму па добра прадуманаму сцэнарыю. У гэтай «драме» можна ўбачыць усе кампаненты мастацкага твора — завязку, кульмінацыйны пункт, развязку.

Калі казаць пра жанр гэтага «твора», то тут можна прыгадаць вядомае выказванне Е. Р. Раманава, які назваў беларускае вяселле «своеасаблівай операй». Але па жанравай разнастайнасці сцэн, якія разыгрываюцца на вяселлі, яно ўсё ж не ўмяшчаецца ў рамкі толькі «оперы».

Сюжэтны стрыжань вяселля — пераезд нявесты з дому бацькоў у дом жаніха. Гэта вельмі эмацыянальны, хвалюючы момант у жыцці сям'і. Эмацыянальнасць накладвае яркі адбітак на ўсе «дзействы» вяселля, на песні, якія іх суправаджаюць.

Усе ўдзельнікі вяселля з'яўляюцца адначасова і героямі, персанажамі гэтага своеасаблівага народнага мастацкага твора. Кожны павінен іграць сваю ролю, даўно вызначаную і «распісаную» звычаем. Цэнтральныя асобы вяселля — вядома, жаніх і нявеста. Тым не менш яны выконваюць найбольш пасіўную ролю, з'яўляючыся аб'ектам ушанавання, узвелічэння. Найбольш дзейсная і відная роля свата. Свае ролі выконваюць і іншыя вясельныя чыны — стараста дружыны маладой, дружкі (шаферкі), дружкі (шаферы), сваццці, надкоснікі, прыданкі і інш.

Вялікае месца займае ў вясельнай драме песня. Яна стварае асаблівы, святочны настрой, надае яркую эмацыянальную афарбоўку кожнаму моманту вяселля.

Самі па сабе вясельныя песні вызначаюцца дасканаласцю мастацкай формы, паэтычным харaством. Пры стварэнні песень народ вельмі ўмела карыстаецца ўсім арсеналам выяўленчых сродкаў. Эпітэт, вобразны паралелізм, параўнанне, сімволіка, увасабленне, метафара, алегорыя, метанімія, гіпербала і літота, іронія — усё гэта ў вялікай колькасці можна знайсці ў народных песнях, усё гэта робіць народныя песні шэдэўрамі сапраўднага мастацтва.

Вельмі добра ажыўляюць вясельную драму своеасаблівыя песенныя дыялогі — спрэчкі ў форме песень радні жаніха з раднёй нявесты ў некаторых момантах вяселля.

Вось у хату маладога прыехалі прыданкі, якіх запрасілі за стол на вячэру. Дзяўчаты ад маладога спяваюць да іх жартам:

Маладыя прыданачкі,
Чорныя цыганачкі.
Памыямі ўмываліся,
Памялом часаліся
Да й ганучаю ўціраліся,
Да за стол сабраліся.

Прыданкі ім адказваюць:

Ой, ці праўду вы гаворыце —
Мы сямі мыламі ўмываліся,
Ядвабнымі ручнікамі ўціраліся,
Залатымі грабянямі часаліся.

(«Народныя беларускія вяселлі
ў Ашмянскім п. Віленскай губ.»)

Такія песенныя дыялогі, якіх бывае даволі многа, сапраўды вельмі нагадваюць оперу.

Адной з мастацкіх асаблівасцей вясельных песень з'яўляецца афарыстычнасць. Трапнае назіранне, народны погляд на жыццё, на людскія ўзаемаадносіны, наказ маладым — вось аснова песенных афарызмаў, якія ўспрымаюцца як прыказкі («Замуж пайшоўшы — бедная галоўка, а замуж не пайшоўшы — людская абмоўка», «З мора вады не выліеш, з песні слова не выкінеш; у моры вады ды поўненька, у песні словы — усе роўненька», «Вот не бі яе дубцом, а навучы яе слаўцом; дубцом біць — балець будзе, слаўцом — разумець будзе» і г. д.).

Шмат можна гаварыць таксама пра паэтыку розных вясельных прыгаворак, віншаванняў, вершаваных прамоў. У іх, як відаць, напрыклад, з прыведзеных вышэй пажаданняў пры дзяльбе каравая, таксама нямала цікавых назіранняў, вобразнасці, гумару, іншых адзнак сапраўднай паэзіі.

Нездарма вобразы вяселля, яго поўныя сапраўднай прыгажосці звычаі і абрады ахвотна скарыстоўвалі ў сваёй творчасці многія пісьменнікі і паэты. Напрыклад, у вядомай п'есе К. Крапівы «Пяюць жаваранкі» вяселле стала сюжэтным стрыжнем. Кульмінацыйным пунктам рамана І. Мележа «Людзі на балоце» таксама з'яўляецца вяселле, якое дапамагло аўтару надзвычай ярка перадаць драматычныя моманты ў жыцці герояў. Хараство беларускіх вясельных звычаяў паказалі ў сваіх паэтычных творах А. Куляшоў («Вяселле»), М. Танк («Вясельная», «Вяселле») і інш.

* * *

Вясельная абраднасць на працягу свайго існавання мянялася ў залежнасці ад грамадска-палітычных фармацый. Праўда, агульны стрыжань вяселля ў асноўным застаўся такім жа, якім ён быў і ў далёкай старажытнасці. Мяняліся або набывалі іншы сэнс толькі асобныя вясельныя рытуалы. Іншымі словамі, кожная эпоха напаўняла схему вясельнага абраду сваім зместам.

Перш за ўсё ў традыцыйным беларускім вяселлі, як мы бачылі, захавалася нямала перажыткаў радавога ладу, пры якім яно і складалася. Тут сляды і матрыярхату (напрыклад, звычай, паводле якога дзяўчына сама хадзіла ў сваты да хлопца), і больш пазнейшага патрыярхату (рэшткі звычаяў выкрадання, куплі-продажу нявесты і інш.).

Свой адбітак наклала на вясельную абраднасць эпоха феадалізму. Як вядома, селянін быў у той час амаль што ўласнасцю памешчыка, які распараджаўся яго жыццём, як хацеў. Без яго дазволу маладыя людзі не маглі ўступіць у шлюб. Вельмі часта памешчык сам вызначаў, каму з кім і калі жаніцца (ці выходзіць замуж), не клапоцячыся аб тым, жадаюць гэтага яго падданыя ці не. Таму для многіх маладых людзей шлюб быў сапраўдным няшчасцем. Такое становішча не магло не знайсці выяўлення ў рытуалах вяселля. Думаецца, якраз прымусовы шлюб у часы прыгону і парадзіў такі шырока распаўсюджаны элемент вясельнай абраднасці, як рытуальны плач маладой перад ад'ездам у дом маладога. У часы прыгону існаваў і другі дзікі звычай, навязаны народнай вясельнай абраднасці прыгоннікамі,— так званае права першай ночы, паводле якога памешчык апошнюю ноч перад шлюбам праводзіў з маладой. Гэты звычай быў засведчаны этнографамі. Так, А. Шлюбскі яшчэ ў нашым стагоддзі запісаў расказ пра князёў Глінскіх (жылі яны ў двары Жагулі Веліжскага павета Смаленскай губерні), якія карысталіся правам першай ночы. На другім паверсе палаца, расказвае этнограф, быў асобны пакой, куды і прыводзілі дзяўчыну. Пасля таго, як пан праводзіў з ёй ноч, сюды прыходзіў жаніх, якому ён паведамляў, захавала «княгіня» дзявоцкасць ці не. Калі не захавала, яе пасеклі дубцамі па голым целе. У адваротным выпадку пан надзяляў яе пасагам: даваў карову, парасё, 2 кавалкі палатна (па 12 аршын кожны) і насення збажыны на 2 дзесяціны[58]. У некаторых мясцовасцях, як паведамляе далей А. Шлюбскі, маладая пасля шлюбу ў царкве першую ноч павінна была праводзіць з папом.

У перыяд капіталізму пры ўступленні маладых у шлюб на першы план выступаюць гаспадарчыя разлікі. Гэта надзвычай яскрава адбілася на пасагу, які пачаў набываць усё больш важнае значэнне, а адсюль і на звязаных з ім рытуалах. Назіраецца таксама большая свабода ва ўзаемаадносінах паміж мужам і жонкай, пачынаюць пераглядацца некаторыя рэлігійныя ўяўленні, што зноў-такі не магло не паўплываць на асобныя элементы беларускага вяселля.

Вельмі прыкметныя змены ў вясельнай абраднасці адбыліся за гады Савецкай улады, калі была распачата рашучая барацьба супраць буржуазнай ідэалогіі, супраць рознага роду перажыткаў мінулага ў свядомасці людзей, у прыватнасці супраць рэлігійных забабонаў, нераўнапраўя ў адносінах паміж мужчынам і жанчынай і інш. Усё гэта не магло не адбіцца і на характары вясельнай абраднасці. З яе паступова зніклі рэлігійныя элементы, многія забабоны, а таксама яўна ўстарэлыя рытуалы, якія не адпавядалі новаму часу, камуністычным ідэалам працоўных. Сямейныя адносіны пачалі будавацца на прынцыпах поўнага раўнапраўя паміж мужчынам

---

[58] Шлюбскі А. Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны, ч. 2. Мінск, 1928, с. 81.

і жанчынай, што знайшло адлюстраванне ў самых першых дэкрэтах Савецкага ўрада.

Сёння сямейны саюз двух людзей асноўваецца не на эканамічных разліках, якія мелі шырокае распаўсюджанне ў грамадстве, пабудаваным на эксплуатацыі чалавека чалавекам, а галоўным чынам на каханні, узаемнай павазе. Гэта вельмі пераканаўча паказваюць матэрыялы даследавання сучаснай савецкай сям'і. У выніку анкетнага апытання гарадскога насельніцтва Беларусі было, напрыклад, падлічана, што матывамі для жаніцьбы паслужылі: каханне — у 60% апытаных, сімпатыя — у 15, жаданне мець сям'ю — у 10, імкненне пазбавіцца ад адзіноты — у 5, кароткачасовае захапленне — у 5%. Каля 5% дзяўчат выйшлі замуж у сувязі з цяжарнасцю [59]. Пра эканамічныя разлікі гаворка нават і не ішла. Такія вельмі істотныя змены ў матывацыі шлюбу самым непасрэдным чынам адбіліся на вясельнай абраднасці. Напрыклад, сёння страціў сваю былую ролю пасаг, з якім былі звязаны пэўныя рытуалы. Яшчэ адным відавочным вынікам «перамогі» шлюбу па каханню можна лічыць тое, што на вяселлі назаўсёды знік рытуальны плач нявесты перад ад'ездам у сям'ю жаніха.

З павышэннем агульнага ўзроўню культуры народа адышлі ў нябыт рытуалы, якія зневажалі годнасць чалавека: праверка цнатлівасці маладой або звычай разування жаніха нявестай у першую шлюбную ноч, што падкрэслівала падначаленае становішча жанчыны ў адносінах да мужчыны.

Многія рытуалы хоць і засталіся, але змянілі сваё першапачатковае значэнне, набылі зусім новы сэнс. Напрыклад, і сёння ў вяселлі захаваліся рознага роду «выкупы», але цяпер гэта выключна гульнявыя моманты, якія надаюць вяселлю большую ўрачыстасць і жыццярадаснасць. Гэта ж можна сказаць і пра многія іншыя рытуалы: штурм варот, адбіранне ад жаніха нявесты яе сяброўкамі, абсыпанне вясельнага поезда жытам і г. д. Але ўсе яны даўно пераасэнсаваны і застаюцца сёння як вясёлыя тэатралізаваныя моманты вяселля.

Думаецца, гэта трэба ўлічваць пры стварэнні сучаснай вясельнай абраднасці. Усе здаровыя, сапраўды прыгожыя элементы неабходна беражліва захоўваць, развіваць, узбагачаць новым зместам. У. І. Ленін, рэзка крытыкуючы «ниспровергателей» старой культуры, вучыў: «Прыгожае трэба захаваць, узяць яго як узор, зыходзіць з яго, нават калі яно «старое». Чаму нам трэба адварочвацца ад сапраўды прыгожага, адмаўляцца ад яго, як ад зыходнага пункта для далейшага развіцця толькі на той падставе, што яно «старое» [60].

Трэба сказаць, што народ сам вельмі чула рэагуе на змены ў культурным жыцці грамадства, заўсёды крытычна падыходзіць да негатыўных бакоў старой культуры. З традыцыйных звычаяў і абрадаў ён бярэ толькі

---

[59] Изменения в быту и культуре городского населения Белоруссии. Минск, 1976, с. 8.

[60] Ленин о литературе и искусстве. М., 1956, с. 520.

тыя, якія адпавядаюць яго маральным і эстэтычным прынцыпам. І таму перш чым выступаць супраць таго ці іншага элемента традыцыйнай абраднасці, трэба ўсебакова разгледзець яго, дакапацца да яго сэнсу, вылушчыць з яго рацыянальнае зерне. Узяць хоць той жа звычай перагароджваць дарогу вясельнаму поезду. П. П. Кампарс і М. М. Заковіч, аўтары цікавай у цэлым кнігі «Савецкая грамадзянская абраднасць», прапануюць адмовіцца ад гэтага звычаю на той падставе, што пры сустрэчы «патрабуюць ад жаніха так званы выкуп»[61]. Сапраўды, выкуп, ды яшчэ гарэлкай,— гэта, як ужо гаварылася, перажытак старажытнага звычаю куплі-продажу нявесты. Але ж звычай даўно страціў сваю першапачатковую сутнасць і набыў новае значэнне. Сёння перагароджванне вясельнаму поезду дарогі — адна з форм віншавання грамадскасцю маладых з памятным днём у іх жыцці, пажадання шчаслівага жыццёвага шляху. Нездарма ж пры гэтым заўсёды выстаўляецца на стале традыцыйны хлеб-соль. Натуральна, за такія віншаванні маладыя імкнецца падзякаваць тым, хто сустракае.

Прыкметна змянілася сёння і само афармленне вяселля, што тлумачыцца агульнымі зменамі ў жыцці і побыце людзей. Напрыклад, у вясельным поездзе коні амаль усюды заменены машынамі. Разам з тым народ імкнецца і машыны афармляць адпаведна традыцыям. Рознакаляровыя стужкі, шары вельмі натуральна ўпісваюцца ў сённяшні вясельны поезд. З'явілася і новае: напрыклад, вялікая лялька на капоце машыны з маладымі. Праўда, некаторыя культасветработнікі чамусьці ўбачылі ў гэтым праяўленні мяшчанства. Але ж лялька не што іншае, як сімвалічнае пажаданне маладым сямейнага шчасця, найбольш яскравым выяўленнем якога з'яўляюцца дзеці. Гэты сімвал ніяк не разыходзіцца з традыцыяй, наадварот, ён вельмі ўдала працягвае яе ў новых умовах.

Паступова адпадаюць звычаі, звязаныя з караваем. Усё часцей, і не толькі ў горадзе, але і ў вёсцы, каравай замяняецца тортам, купленым у магазіне або спецыяльна заказаным у рэстаране ці кавярні. З гэтай прычыны вельмі паэтычныя, поўныя глыбокага сэнсу рытуалы падрыхтоўкі каравая разам з непаўторнымі па свайму хараству каравайнымі песнямі беззваротна адыходзяць у нябыт. Аб гэтым можна толькі пашкадаваць, бо сам працэс гатавання каравая быў цудоўнай школай для моладзі, дзе выхоўваліся любоў да працы, сапраўдны калектывізм, узаемадапамога.

Значныя змены адбыліся ў песенным рэпертуары беларускага вяселля. Яно ўсё больш і больш дапаўняецца новымі песнямі, створанымі савецкімі ампазітарамі. Прычым гэта не абавязкова песні вясельнага зместу, а часцей за ўсё проста лірычныя, дакладней, пра каханне, песні, якія, дарэчы, спяваюцца не толькі за вясельнымі сталамі, але і ў іншым застоллі. Тое, што ў нас з'явілася шмат новых цікавых песень, якія падхапіў народ, вель-

---

[61] Кампарс П. П., Закович Н. М. Советская гражданская обрядность. М., 1967, с. 84.

мі добра. Шкада толькі, што надзвычай мала яшчэ створана нашымі кампазітарамі песень, якія б суправаджалі паўныя рытуалы вяселля. І гэта тым больш сумна, што традыцыйныя рытуальныя песні, якіх у народзе захавалася вялікае мноства, паступова выходзяць з ужытку, забываюцца. Атрымліваецца вельмі істотны прагал, які значна збядняе, спрашчае вясельную абраднасць, робіць яе сумнай, нецікавай, «невясёлай». Думаецца, выйсце тут адно: з улікам сённяшніх эстэтычных патрабаванняў неабходна ўважліва прыглядацца да багацейшых песенных скарбаў народа, вывучаць лепшыя з песень у школе на ўроках спеваў, рабіць іх апрацоўку, ствараць на аснове іх новыя песні, якія адпавядалі б сённяшнім густам, узбагачалі б нас духоўна. Павучальным прыкладам тут можа паслужыць шчаслівы лёс песні «Бывайце здаровы», створанай на народнай аснове паэтам А. Русаком і кампазітарам І. Любанам. Сёння, можна смела сказаць, ні адно беларускае вяселле не абыходзіцца без гэтай вясёлай, задушэўнай песні, якая вельмі арганічна ўпісваецца ў абрад, стала адным з яго элементаў.

Новым, вельмі важным элементам сучаснай вясельнай абраднасці, які знаходзіць усё большае і большае пашырэнне, з'яўляецца ўрачыстая рэгістрацыя шлюбу. Праўда, гэты рытуал яшчэ не да канца пазбавіўся казёншчыны, канцылярщчыны. З поспехам праходзіць ён там, дзе ў яго ўносяцца найбольш цікавыя традыцыйныя элементы.

Сабраныя ў томе матэрыялы даюць яскравае уяўленне пра асноўныя асаблівасці беларускага традыцыйнага вяселля. На асобныя элементы вясельнай абраднасці можна глядзець з усмешкай, бо яны пройдзены этап у жыцці народа, толькі сведчанне яго колішніх уяўленняў. Але ў цэлым вясельная абраднасць і па сённяшні дзень прымушае захапляцца паэтычнасцю, мудрасцю закладзенай у ёй народнай філасофіі. У традыцыйным вяселлі вельмі многа здаровага, рацыянальнага, сугучнага нашаму часу. Усё гэта лепшае трэба ўмець разгледзець, вылучыць, каб развіваць далей, напаўняючы яго новым зместам.

---

У дадзены том уключаны найбольш значныя апісанні вясельнага абраду, зробленыя ў розныя часы. Многія матэрыялы ўзяты з друкаваных крыніц, галоўным чынам з рускіх і польскіх, і даюцца ў перакладах. Значную частку тома складаюць матэрыялы, якія друкуюцца ўпершыню. Адны з іх выяўлены ў архівах, другія былі запісаны спецыяльна для тома.

Матэрыялы падаюцца ў храналагічным парадку. Пры складанні тома ставілася за мэту паказаць усе асноўныя рэгіёны Беларусі ў найбольш характэрных апісаннях вясельнай абраднасці.

Перакладныя матэрыялы — усе яны ўзяты з першакрыніц — максімальна набліжаны да арыгінала, захоўваюць яго стыль, тэрміналогію. Беларускія словы і выразы, якія сустракаліся ў польскіх і рускіх тэкстах, падаюцца курсівам. Тэксты песень падаюцца ў сучасным правапісе.

***К. А. ЦВІРКА***

# [ШЛЮБНЫЯ ЗВЫЧАІ НА БЕЛАРУСІ У XVI СТАГОДДЗІ]

**Запісаў Ян Ласіцкі**

Шлюб бяруць так. Юнак, якому спадабалася якая-небудзь дзяўчына, пасылае трох-чатырох сваякоў да яе бацькоў, якіх яны пераконваюць аддаць дачку. Бацькі ж, каб яшчэ больш падахвоціць жаніха, гавораць, што нічога з гэтага не атрымаецца, выдумляюць сватам якую-небудзь сур'ёзную прычыну.

Жаніх, пацярпеўшы такую няўдачу, робіць цяпер інакш. Ён вырашае завалодаць дзяўчынаю сілай і падбірае для гэтага зручны момант.

І вось, калі дзяўчына выходзіць выпадкова з бацькоўскага дому, памагатыя жаніха, якія хаваліся ў засадзе, ловяць яе, чаго яна ніяк не чакае і таму не асцерагаецца, і перадаюць, як паляўнічыя здабычу, жаніху.

Пасля таго, як ён пазбавіць яе дзявоцкасці, ужо другія пасланцы жаніха дастаўляюць яе да бацькоў. Пасланцы часткова прызнаюць віну, але адначасова апраўдваюць учынак жаніха моцным каханнем.

Калі бацькі даюць, нарэшце, згоду, прызначаецца дзень вяселля. Але жаніху з нявестай нельга жыць разам, пакуль не адбылася публічная ўрачыстасць.

І вось каля адзінаццаці гадзін вечара пад гукі музыкі, пры святле паходняў жаніха і нявесту вядуць да храма. Да іх прыбыцця прывозяць сюды некалькі бочачак, поўных сікеры, мядовага віна і піва. Танцуючы, забаўляючыся, са смехам і крыкам госці абодвух полаў праводзяць добрую частку цёмнай ночы. А тым часам некаторыя ідуць па фламіна. Часцей за ўсё ходзяць да яго па некалькі разоў, але кожны раз дарэмна. Гэта таму, што бедалага-попік п'яны і не можа прачнуцца. А народ між тым водзіць карагоды. Нарэшце, не выцерпеўшы, сваякі жаніха ўрываюцца ў дом п'янага духоўніка, хапаюць яго і нясуць у храм, каб ён выканаў там неабходныя абрады. Ён жа, прыступаючы да сваіх прывычных абавязкаў, не можа стаяць на нагах і часта падае

пасярод храма. Гэта выклікае такі бессаромны рогат, такое варварства, якое, я думаю, не параўнаеш нават з блазенствам язычнікаў пры выкананні імі таінства Венеры. Да гулякі падбягаюць і падтрымліваюць яго, каб не паваліўся. Толькі пасля гэтага ён загадвае прынесці яму абрадавы хлеб.

Затым ён разгортвае кнігу і стэнтарскім голасам пяе якісьці Давыдаў гімн. Пасля гэтага хапае за чупрыну жаніха і звяртаецца да яго:

— Скажы мне, жаніх, брат, друг, ці можаш ты быць мужам гэтай маладой? Будзеш ці не біць яе калі-небудзь палкай? Пакінеш яе ці не, калі яна будзе хворая, караслівая, пакалечаная?

Жаніх клянецца тут усімі святымі выконваць як трэба абавязкі добрага мужа. Далей духоўнік звяртаецца да нявесты і гэтак сама пытаецца ў яе, ці зможа яна жыць з мужам (дзяўчаты ж выходзяць тут замуж ва ўзросце дзесяці-адзінаццаці год), ці будзе яна клапаціцца пра сям'ю, ці захоча яна быць, пры выпадку, верным спадарожнікам сляпому, кульгаваму, пакалечанаму мужу.

Яна дае станоўчы адказ.

Тады фламін надзяе на галовы жаніха і нявесты вянкі з галінак дрэў. Па акружнасці гэтых карон па-русінску напісаны словы: расціце і размнажайцеся.

Калі ён гэта робіць, усе запальваюць васковыя свечкі. Духоўніку падаецца чаша пеністага мёду, ён выпівае яго адным глытком за здароўе маладажонаў, яны таксама п'юць з такой жа хуткасцю і зноў падаюць чашу фламіну. Скінуўшы з галоў жаніха і нявесты вянкі і растаптаўшы іх нагамі, зноў наладжваюць карагоды. Тут ужо завадатарам выступае фламін, а ўсе доўгай чарадою ходзяць за ім.

Жанчыны рассыпаюць па храме зерне лубіну і лёну, прыгаворваючы:

— Хай жа багі нашы зробяць так, каб маладажоны ніколі не мелі нястачы.

Нарэшце, увесь гам канчаецца. Духоўніка адводзяць дадому. Госці праводзяць мужа і жонку.

У час гэтай весялосці многа п'юць.

Вытанчанай музыкі яны не ведаюць. На вяселлях і іншых святочных урачыстасцях яны часцей за ўсё скачуць пад рукапляскання.

# ВЯСЕЛЬНЫЯ АБРАДЫ ВЯСКОВАГА ЛЮДУ У МІНСКАЙ ГУБЕРНІ, БАРЫСАЎСКІМ ПАВЕЦЕ, ГАЕНСКАЙ ПАРАФІІ, НАЗІРАНЫЯ Ў 1800, 1801 І 1802 ГАДАХ, З НЕКАТОРЫМІ ПЕСНЯМІ І НОТАМІ

## ЗАРУЧЫНЫ

Пра шлюбныя сувязі тут сяляне звычайна пачынаюць клапаціцца з першых дзён кастрычніка. У іншую пару да гэтага іх змушаюць хіба толькі пільная гаспадарчая патрэба ці якія-небудзь непрадбачаныя акалічнасці. Калі ў мужа і жонкі, якія пажаніліся «не ў пару», узнікнуць потым сямейныя нелады ці іншыя нечаканасці, гэта прыпісваюць адступленню ад агульнага звычаю. Лічыцца, што самы спрыяльны для шлюбу час — паміж пакровамі [1] і першай нядзеляй каляднага посту.

Якраз у гэту пару дзяўчаты, якія думаюць аб сваёй долі, бываюць асабліва рухавыя і неспакойныя: апрача таго, што яны больш старанна, чым у іншы час, уходжваюцца каля дому, мусяць асаблівую ўвагу звяртаць на чысціню і ахайнасць; асабліва яны стараюцца ў чацвер і суботу, дні, у якія звычайна прыязджае *сват*. Таму ў хаце, дзе чакаюць такога госця, дзяўчына на выданні старанна шаруе стол, лавы, паліцы, усё кухоннае начынне, падмятае па некалькі разоў хату, на сябе ж адзяе танчэйшую, чым звычайна, і чыстую бялізну, белую спаднічку, такі ж фартушок, на галаву завязвае хустачку, з-пад якой звісае каса, заплеценая звычайна ружовай стужачкай. Усё гэта ўбранне, над якім так

---

[1] Есць у вуснах тутэйшых сялян песенька (або хутчэй невялічкая малітва), якую звычайна спяваюць дзяўчаты; у ёй выказваецца просьба да Пакрова, каб даў мужа:

Святы Пакроў, Пакроў!
Пакрыў зямлю і ваду,
Пакрый мяне маладу і г. д.

Зразумела, сяляне таму імкнуцца спраўляць вяселле ў гэты, а не ў іншы дазволены касцёлам час, што цяпер, калі ўсё сабрана ў полі, яны могуць больш багата і шчодра абставіць бяседны стол, спадзеючыся, што гэткае багацце будзе і ў доме маладых. У нас жа амаль усюды вераць, што як робіцца тады, калі мы спраўляем якую-небудзь урачыстасць, так будзе і далей у жыцці. Адсюль, відаць, ідзе і тое жаданне ашаламіць усіх на такіх урачыстасцях празмернай раскошай, якую мы назіраем асабліва ў багатых класаў і якую не можа сабе дазволіць земляроб, і перш за ўсё вясной, калі ён застаецца амаль што без хлеба.

шчыруе дзяўчына, павінна быць разам з тым будзённым, неадметным.

Вечарам, калі чакаюць *свата*[2], уся сям'я і парабкі адзеты больш ахайна, чым на працы. Трымаюцца ўсе разам, сядзяць, размаўляюць, нічога не робячы, апрача *панны*, якая ўвесь час снуе ад кутка да кутка, то прыбіраючы параскіданую тут і там вопратку, то перастаўляючы на паліцы посуд, то падмятаючы вугаль, што спадае з запаленай лучыны, і г. д. У гэты восьчас і з'яўляецца, нарэшце, сват. Уваходзіць, становіцца пасярод хаты, кланяецца ва ўсе бакі, але ніхто на яго не звяртае ўвагі, асабліва дачка гаспадара, якая ў гэты час мітусіцца болей, чым звычайна. Сам гаспадар нерухома сядзіць у кутку насупраць дзвярэй (ганаровае месца) з задумлівым выглядам. Убачыўшы, што да яго падыходзіць сват, стрымана вітае яго, не кратаючыся з месца: *«Сядзь у нас, суседзе, дома госць будзеш».— «Дзякуй, сядзелі дома, але што з таго будзе?*

Наш бык
Да да вашай цялушкі прывык,
Каб даў бог даждаці
Вашую цялушку да нашага быка загнаці».

Тут гаспадар хутка ўскоквае з месца, бярэ свата пад руку і, паказваючы на кут, з асаблівай ветлівасцю запрашае садзіцца. Сват з ахвотай сядае на куце, а дзяўчына ў тую ж хвіліну хутка ўцякае з хаты — або да блізкай і добрай сваячкі, або, калі такой няма, да самай вернай сяброўкі і, расказаўшы ёй усё, вяртаецца з ёю дамоў, аднак ідзе назад не ў хату, а ў *істопку*[3]. Там яны шэпчуцца пацíху, а ў гэты час гаспадар вядзе са сватам размову пра мэту яго прыходу. Сват пералічвае вартасці і маёмасць хлопца, за якога прапаноўвае дачцы гаспадара выйсці замуж, усяляк імкнецца давесці, якая б шчаслівая была дзяўчына, калі б выбрала

---

[2] *Сват* — важная ва ўсім вяселлі (як будзе відаць далей) асоба. Яго запрашае звычайна сям'я маладога; выбіраюць за свата гаспадара гадоў 40: маладзейшы не меў бы належнага аўтарытэту і паважнасці, а стары чалавек не здолеў бы выканаць абавязкі, якія патрабуе такая пасада, што вымагае надзвычай многа руху. Гэты гаспадар павінен быць заможны, цвярозы, а да таго ж дасціпны і гаваркі. Такія людзі сярод сялян рэдка трапляюцца; здараецца часам, што аднаго такога чалавека запрашаюць сватам амаль на ўсе вяселлі, так што, бывае, уся вёска ўжо не хрышчоным імем і прозвішчам яго называе, а толькі сватам, дзяцей жа яго — *сваціокамі*; яны потым самі, забыўшы на сваё прозвішча, запісваюць новае ў інвентары, казкі і г. д.

[3] *Істопка* — так называецца кладоўка, дзе хаваюць гародніну, малако, такую слаўную сёння лапату, а таксама муку для штодзённага ўжытку, дзе мелюць на жорнах крупы і г. д.

сабе такога харошага мужа, расхвальвае гэтак жа сама яго радню і парабкаў. Але ўвесь гэты панегірык як быццам не робіць ніякага ўражання на гаспадара, і чалавек, які не ведае звычаяў, адразу падумаў бы, што ў жаніха няма ніякіх шансаў на ўдачу і сват дарэмна толькі траціць словы, але на самай справе якраз наадварот.

Ледзь пачуецца стук дзвярэй у істопцы, якая за сенцамі, як сват перапыняе пахвальнае балаканне і, пагдядаючы на дзверы, кажа: «Што гэта, не ўсе дома?.. Дзе ж нашы? Дзе ж гэта?..» Бацька:—«Ведама, моладзь, у яе заўсёды нейкія свае патрэбы». Тут сярод жанчын заўважаецца нейкі рух. Яны нічога не гавораць, але, паразумеўшыся мігамі, якія ім адным зразумелыя, выходзяць, нарэшце, адна за адной у сенцы, каб угаварыць дзяўчыну і прывесці яе ў хату. Вяртаюцца, зноў выходзяць, і так некалькі разоў, пакуль дачка гаспадара не ўваходзіць, нарэшце, у хату. Агульнае маўчанне. Усе паднялі на яе вочы. Не асмельваецца, бедная, падняць свае, але, стаўшы ў куточку пры печы [4], доўга калупае пальцамі сцяну. У хаце пачынаецца гоман, спачатку гавораць паціху, толькі паміж сабой, але паступова гоман нарастае. Перапыняючы шум, сват звяртаецца да паненкі гучным голасам: «А што ж, N, я сюды не так сабе прыехаў?» Дзяўчына маўчыць і ўсё калупае сцяну. Бацька ці матка ў тон свату адзываецца: «Няма чаго сказаць, хлопец што трэба, не знойдзеш у ім заганы: не п'яніца, не буян, не злодзей, хата заможная, сям'я пачцівая, ніхто з яе не смяецца. Што думаеш, маё дзіця? Адкажы, ты ж ужо не маленькая?» Маўчанне. Усе чакаюць прысуду. Нарэшце, адзываецца ціха, апусціўшы галаву і хаваючы твар: «Як сабе хочаце». Тут ізноў бацька ці маці: «Не, мая родная, скажы выразна, любіш ты яго ці не: ты ў нас не лішняя, мы цябе з дому выганяць не хочам, не на тое ж мы цябе выгадавалі, каб ты нас потым праклінала. Дык скажы: як думаеш?» Дзяўчына адварочваецца ад сцяны: «Што ж рабіць, калі трэба спраўляць тое свята, то хай так і будзе»,— і ступае к сярэдзіне хаты. То адзін, то другі пачынае ўсміхацца, усім становіцца весела, і кожны хоча што-небудзь сказаць. Размова робіцца ўсё больш нязмушаная і вясёлая. А ў гэты час сват дастае з кішэні пляшку гарэлкі і, ставячы яе на стол, гаворыць дачцы гаспадара: «Пашукай толькі чаркі». Тая з сарамлівасцю пачынае перабіраць посуд на паліцы, а маці тым часам раздзьмухвае на прыпечку агонь, каб спячы яечню. Амаль у адзін момант гатова яечня і знойдзецца чарка. Усё ставяць на стол. Затым сват, напоўніўшы чарку, п'е

[4] Куточак той называецца на простай мове *качарэжнік*: там стаіць венік, некалькі большых і меншых вілак, якімі выцягваюць з печы гаршкі, чапяла, кацюба, ці *качарга*, ад якой кут і атрымаў сваё імя.

да нарачонай ужо дзяўчыны, тая — да бацькі, бацька — да жонкі, жонка — да сяброўкі дачкі, а потым п'юць па чарзе ўсе дамашнія работнікі, якія, аднак, да закускі не дакранаюцца: ёю частуюцца толькі сват, бацькі нарачонай, яна сама і яе сяброўка. Пасля яечні, калі пляшка спарожнена, гаспадыня дому бярэ локаць ці два даматканага палатна, абкручвае ім пляшку і аддае яе свату, які, развітаўшыся з усімі, ад'язджае да сябе. На гэтым канчаюцца *заручыны*, ці першыя *запоіны*, якія называюць малымі. Яны яшчэ не вымушаюць абавязкова стрымаць дадзенае слова. Зусім іншая справа *вялікія запоіны*, пасля якіх усё бывае скончана і адмовіцца ўжо ні ў якім разе нельга — як пасля вельмі ўрачыстай прысягі.

Калі ж пасля *малых запоін* нарачоная ці яе бацькі раздумалі і не захацелі да канца давесці жаніцьбу, яны павінны толькі заплаціць свату дваццаць грошаў за гарэлку [5]. Гэты крок ні да чаго не абавязвае, хіба што бывае часам прычынай вечнай варожасці паміж сям'ёй дзяўчыны і хлопца, і такая варожасць пры нагодзе можа прывесці да якой-небудзь бяды. Але калі не маюць намеру адмяняць прынятае рашэнне, увесь час — ад малых заручын аж да заканчэння вяселля — суцэльная ўрачыстасць; адна і другая сям'я на працягу гэтага часу глядзяць на сябе з *пачцівасцю*, а нарачоную так шануюць, што яна проста вырастае ў сваіх вачах. Назаўтра пасля малых заручын яе бацькі запрашаюць да сябе дзвюх чужых (калі няма сваячак) дзяўчат, сяброўак дачкі, якія ад гэтага часу аж да шлюбу не адыходзяць ад яе. Гэтыя дзяўчаты называюцца *бальшанкі*. Жывучы ў доме нарачонай, яны амаль увесь час спяваюць песні, адпаведныя гэтаму моманту. Змяшчаем тут некаторыя [. . .]

Наша Таццянка, наша,
Паймала сабе пташа
Ды ў зялёным жыце,
У чырвоным аксаміце.

Ой, цёмна, цёмна на дварэ,
Ой, цямней таго за дваром:
Баяры варота абляглі,
Пасыпалі золата па скамі.
Да ходзяць, паходзяць па двару,
Да папросяць Таццянкі.

---

[5] Гэты доўг лічыцца свяшчэнным і аніяк не можа быць затрыманым. Сват, як бы далёка ён ні жыў, абавязкова павінен прыехаць па яго: выплачваецца ён з уласнасці, прызначанай для дзяўчыны, якая рыхтуецца выйсці замуж

Тацянка татулькі прасіла:
— Даражы, татулька, даражы!
Да сто чырвонцаў запрасі,
Тагды мяне маладу аддасі.

Праз тыдзень пасля малых заручын спраўляюцца *вялікія запоіны*, або *вялікая гарэлка*. Піць яе прыязджае сват ужо з маладым, з якім дзяўчына, пасля таго як дала яму слова, мяняецца заручальнымі пярсцёнкамі. Гэты вечар нагадвае сабой банкет (сціплы, аднак), на які запрашаюцца родныя нявесты. Яны ўважліва прыглядаюцца да хлопца, шэпчуцца паміж сабой, выказваючы аб ім свае меркаванні; гэта называецца — *судзіць яго*. Пасля вячэры маці нарачонай, абгарнуўшы палатном (як і на малых заручынах) пляшку, аддае яе ў рукі маладога, які і прывёз вялікую гарэлку. Затым усе разыходзяцца адпачываць, а малады са сватам сядаюць на коней і ад'язджаюць.

У наступную пасля вялікіх заручын нядзелю бацька нарачонай выязджае на базар у бліжэйшае мястэчка, каб купіць там што-небудзь на вясельны ўбор маладой. Калі ён вернецца, бальшанкі (неадступныя, як мы ўжо сказалі, асістэнткі нарачонай) спяваюць песні пра каханне дзяўчыны, яе неспакой і жаданне бачыць любага. Гэтыя песні шматлікія і розныя. Адны гавораць пра стан сэрца каханкі, другія — пра вартасці любага, трэція — пра ўсё гэта разам. Якраз такую і падаём тут:

Міжы новых клетачак
Сцежачкі памяцёны.
Хто ж іх там памятаў?
Тацянка памятала,
Яна к сабе гасцей ждала,
Да ждала, не даждала, (2)
Да ў татулька пытала:
— Да татулька родненькі,
Ты ўчора на таргу быў.
Чы не відзеў Васілька?
— Да дзіцятка родная,
Хоць відзеў — не знаю!
— Як жа яго не пазнаці? (2)
Сам сём паязджае,
Пад ім конік броя, (2)
Капытом зямлю кроя,
Вушкамі вайну чуе,
Вочкамі звёзды ліча.
— Праўда, ўчора на таргу я бываў,
Я табе вяночак старгаваў:
Да з руты, да з мяты,
Да з белай лялеі,

Да з чырвонай паперы,
Што ні дождж[ы]к яго не замоча.
Да ні сонца яго не ссуша,
Да ні ветрык яго не звее.
Ветрык павее — лялее,
Сонца прыгрэе — ён спее,
Дождж[ы]к пакропе — пазлоце.

Нарачоная ўвесь гэты час занята вельмі далікатнай работай, якая вымагае майстэрства: тчэ абрусы, вышывае на рукавах кашулі *ўзоры*, шые бялізну і г. д. Калі ж якая-небудзь дзяўчына не здатная ўсё гэта рабіць, яе завуць — *няўмека, няздзельніца*, і яна звычайна няхутка знаходзіць сабе мужа. Здатную ж дзяўчыну (*работніцу, здзельніцу*), наадварот, так хутка знаходзяць жаніхі, што нават распачатай работы закончыць не можа: яны проста не даюць ёй гэтага, пра што і ў некаторых песнях пяецца:

Звінела камора, звінела,
Гдзе ж наша Таццянка сядзела,
Тонкія абрусы заткала,
Мыслямі ўзоры паклала.
Прыехаў Васілька сам дзесят,
Пусціў конікі ў вішнёвы сад,
Да не даў абрусаў даткаці,
Да прасіў з сабою сядаці.

## ЗМОВІНЫ

У разгар гэтых заняткаў і спеваў, на пяты дзень пасля вялікіх заручын, пачынаецца ў доме нарачонай вялікая бяседа, якая называецца *змовіны* (абрады). На іх павінны быць абавязкова запрошаны ўсе жыхары вёскі.

Запрашаць адпраўляецца разам са старшай бальшанкай сама нарачоная. Ходзячы ад хаты да хаты, кліча ўсіх гаспадароў і кожнаму кланяецца амаль да ног, не абмінаючы нават трохгадовых дзяцей і парабкаў. На змовіны павінна з'явіцца таксама ўся дальняя і блізкая радня, як бы далёка яна ні жыла: адмовіцца ніяк нельга. Аднак рэдка бывае, што сваякі жывуць далёка адзін ад аднаго, звычайна ў невялікім радыусе пачынаюць і канчаюць яны сваю кар'еру, часцей за ўсё пад адным панам. Таму лёгка могуць сабрацца на гэту ўрачыстасць, якой дамашнія стараюцца надаць найбольшую святочнасць. Для гэтага ж падлеткі запальваюць каля хаты смольныя бярвенні — атрымліваецца прыгожая ўвечар ілюмінацыя, па якой і далёкія даведваюцца пра ўрачыстасць. Пачынаецца яна досыць рана: гадзін каля васьмі тут ужо нямала гасцей, асабліва дваюрадных братоў і сясцёр, якія, з'явіўшыся з усімі, што ў іх ёсць, дзецьмі, займаюць, праўда, не най-

лепшыя, але затое зручнейшыя месцы, г. зн. на *палу*[6], дзе, пасадзіўшы каля сцяны малых дзяцей, і самі рассаджваюцца ў рад, бавячыся размовамі, у якіх ніхто з чужых не ўдзельнічае. Тут строга прытрымліваюцца правіла, па якому чужая жанчына не павінна садзіцца на палу. Калі б, не ведаючы гэтага ці забыўшыся, яна ўсё-такі села б тут, то не была б рада: апрача таго, што яе жанчыны выкураць адсюль са словамі: «Пасунься, дзяцей негдзе дзець», апрача, паўтараю, гэтага, яна яшчэ стане аб'ектам насмешак, абгавораў суседак, якія доўга не забудуць гэту яе памылку і заўсёды прыпомняць яе, калі здарыцца падобны выпадак з іншай жанчынай: «Ну ж і расселася— як N на палу!» Толькі тады перастаюць яе «цытаваць», калі жанчына з'едзе куды-небудзь [. . .]

Але з другога боку, калі разабрацца, нам не трэба вельмі дзівіцца, чаму так строга прытрымліваюцца сваячкі гаспадара правіл этыкету: яны ж павінны дбаць пра парадак у доме ў час бяседы, бо самі гаспадары, асабліва ў пачатку, не паказваюцца да пэўнага часу гасцям, застаючыся з дачкой і бальшанкамі ў істопцы. У абавязкі радні ўваходзіць не толькі прымаць і садзіць гасцей і дружыну маладога на адпаведныя месцы, але нават прывесці ў прызначаны час у хату нарачоную з самімі бацькамі. Звычайна ў дзесяць гадзін прыязджае малады з дзесяткам і болей асоб, між якімі сват і бліжэйшыя сваякі лічацца першымі фігурамі. Гэта дружына ўваходзіць у хату з вялікай важнасцю і ў глыбокім маўчанні, якое гэтак жа сама падтрымліваюць госці, якія сабраліся ў хаце. Прыезджыя ні з кім не вітаюцца, адзін толькі сват важна, лёгкім нахілам галавы вітае ўсіх, не здымаючы, аднак, шапкі. Малады і ўся яго дружына таксама не здымаюць шапак, якія так насунуты, што ледзь не засланяюць вачэй. Ідуць усе ў канец хаты і займаюць пакінутыя для іх месцы за сталом. Малады садзіцца на куце, сват пры ім, далей два ці тры маладыя хлопцы, якіх завуць *дружкамі* — гэта звычайна радня жаніха,

---

[6] *Пол* — вельмі шырокі і досыць высока над зямлёй падняты тапчан, які займае месца паміж бокам печы і супрацьлеглай сцяной; робіцца звычайна з дыляў, абчасаных толькі з аднаго боку, і так складзены, што яго нельга перанесці на іншае месца, цалкам не разабраўшы. Над полам вісіць гарызантальна *шост* (так называецца доўгая — ад печы да супрацьлеглай сцяны — жэрдка, на якой вешаюць сушыць сярмагі, бялізну, калі яе нельга высушыць на плоце, і г. д.). Пол прызначаны для хатняга адпачынку (у асеннюю і зімовую пару) саміх гаспадароў і малых дзяцей: старэйшыя ж і парабкі спяць на лавах, на стале ці на печы і г. д. У цяплейшую пару года пакідаюць тое месца адпачынку і спяць звычайна ў клеці (пра якую ніжэй раскажам) або ў гумнах.

нарэшце — *музыка*[7], таксама з радні маладога. Іншая моладзь, што прыехала з гэтым вясельным поездам, не заўсёды абавязана садзіцца, асабліва калі не хапае месца. Яна становіцца ў рад збоку або на сярэдзіне хаты, стараючыся не тоўпіцца. Нягледзячы на вялікае зборышча людзей, тут доўгі час пануе найглыбейшае маўчанне: на ўсіх тварах пахмурная важнасць, вельмі падобная на гнеў, і ні ў кога з дружыны не ўбачыш на твары ні ўсмешкі, ні весялосці, усе, здаецца, пасварыліся адзін з адным. Адзін толькі сват (пра якога мы сказалі, што ён павінен быць чалавекам дасціпным і знаходлівым) загаварвае то да адных, то да другіх, найчасцей да жанчын, асабліва да незамужніх, усяляк жартуе з імі (каб быць смялейшым, ён выпіў ужо да прыезду), але нічога не дапамагае, усе маўчаць, апусціўшы ўніз вочы. Засмучаны, незадаволены сваёй няўдачай, сват гаворыць: «Што ж гэта? Дзе ж шаноўныя гаспадары? Можа, не чакалі гасцей?» І ў гэты ж момант, ускочыўшы з месца, выходзіць у сенцы, дзе, вядома, знаходзіць гаспадара хаты і гаворыць да яго: «Хвала ж богу, каго шукалі, таго спаткалі, просім, канечне, просім да хаты».— «Да не патрэбен я там, абыйдзецца без мяне».—«Але ж просім, просім, *пане сваце*»[8] і г. д. Пакуль вось так адзін аднекваецца, а другі дарэмна настойвае, выходзіць з хаты малады з усёй сваёй дружынай, і ўсе, як толькі могуць, налягаюць на гаспадара, каб увайшоў усё ж у хату. Чым настойлівей яго просяць, тым з большай рашучасцю ён адмаўляецца. У той час, калі мужчыны спрачаюцца гэтак, жанчыны, выбавіўшы з істопкі нарачоную, падводзяць яе разам з бальшанкамі да гасцей. Нарачоная, увайшоўшы, павінна кожнаму пакланіцца да каленяў. У гэтым ёй дапамагаюць бальшанкі, падтрымліваючы з абодвух бакоў пад пахі, калі яна нахіляецца. Пасля цырымоніі паклонаў нарачоная падыходзіць да адной з жанчын, што сядзяць на палу, і просіць па ўстаноўленай звычаем форме, каб яна згадзілася быць яе асістэнткай. Жанчына спачатку аднекваецца, але ўрэшце згаджаецца, устае з месца і

---

[7] *Музыкай* называцца не можа ніхто іншы, як толькі сваяк маладога, але вельмі часта здарасцца, што ва ўсёй сям'і няма нікога, хто мог бы іграць на *скрыпцы, дудцы, жалейцы* або іншых інструментах, таму са скрыпкай, часцей за ўсё пазычанай, прыязджае музыка толькі па назве: калі пачынаюцца танцы, ён няўмела пацягне колькі разоў смыкам па струнах і аддае скрыпку таму, хто ўмее здабываць з яе гукі. Такім чынам, сам толькі носіць ганаровае званне музыкі, тады як іншы іграе ўвесь час, весяліць людзей — дарма, небарака, працуе. Колькі такіх музыкантаў на свеце!

[8] *Сват*, якога так усе называюць, гэтак жа ўзаемна заве і бацьку нявесты, з кім цяпер ён лічыцца ўжо ў пэўнай ступені сваяком, так што калі б выпала жаніць маладых людзей з аднаго і з другога дому, дык не асмеліліся б гэта рабіць без дазволу парафіяльнага свяшчэнніка, а дазвол такі атрымаць звычайна цяжка і каштуе ён дорага.

далучаецца да бальшанак. Усе тры, як месячыкі вакол свае планеты, кружацца каля нарачонай аж да канца ўрачыстасці. Запрошаная жанчына павінна быць замужам не больш аднаго-двух год, называюць яе *маладзіца* [9].

Тым часам памякчэлы ад просьбаў гаспадар згаджаецца ўвайсці ў хату. Ён першы адчыняе дзверы, за ім ідзе малады са сваёй дружынай, займаючы сваё месца. Толькі яны рассаджваюцца за сталом (першае месца на лаве, там, дзе *кут*, займае малады, а апошняе — бацька нарачонай), як жанчыны хутка падымаюцца з полу, падыходзяць да зэдля, што стаіць пры стале насупраць лавы з мужчынамі, і садзяцца на ім. Нарачоная сядзіць насупраць маладога, старшая бальшанка — насупраць свата, малодшая — насупраць старшага дружка, маладзіца — насупраць музыкі або малодшага дружка і г. д. Калі рассаджваюцца такім парадкам, маці, якая дагэтуль яшчэ не паказвалася, прыходзіць з істопкі і садзіцца на самы край зэдля (другі край яго заняла дачка), г. зн. насупраць мужа. Тут прыносяць з істопкі гарэлку, чарку і закуску (сыр або варанае ці смажанае мяса), ставяць перад гаспадыняй, якая, напаўняючы чарку, п'е да свата і, яшчэ раз яе напоўніўшы, накрывае белай хусткай (выцягнутай з-за пазухі ці з-пад пахі) і падае яму. Сват выпівае, зноў налівае і падносіць нарачонай, нарачоная падае старшаму дружку, гэтак жа, як і маці, накрыўшы каляровай хусткай, часцей за ўсё чырвонай. Дружка, прыняўшы чарку і схаваўшы ў кішэню хустку, п'е зноў да нарачонай, якая, прыняўшы поўную чарку і ледзь дакрануўшыся да яе губамі, яшчэ раз накрывае хусткай і падае малодшаму дружку, малодшы дружка п'е да маладзіцы, тая ж — да маладога, малады — да старшай бальшанкі, старшая бальшанка, п'ючы да музыкі, абвівае чарку *поясам* [10] работы маладой. Музыка, спаражніўшы прыняты келіх, налівае яго і зноў падае маладой, якая п'е да свата, сват — да яе бацькі, бацька — да маладога, і на ім абрадавая цырымонія заканчваецца. Пасля гэтага госці пачынаюць піць звычайным парадкам.

Калі ўсё гэта робіцца, маладзіца рассцілае на стале белую хустку, на якую нявеста і жаніх кладуць знятыя з пальцаў пярсцёнкі. Адразу пасля гэтага дзве бальшанкі з аднаго і два дружкі з другога боку бяруць хустку за ражкі, падымаюць вы-

---

[9] *Маладзіца* — гэта замужняя жанчына, але ў дадзеным выпадку азначае — асістэнтка (дружка) маладой.

[10] Гэты *пояс* больш за ўсё нагадвае шырокую, на два- на паўтара пальца тасьму, на *ўснову* якой бяруць белыя льняныя ніткі, а на *ўток* — каляровую пражу з воўны. Сярод самых розных колераў пераважае чырвоны. Такіх паясоў маладая на працягу вяселля раздае больш ста, таму дзяўчаты ўжо з дзевяці-дванаццаці гадоў пачынаюць ткаць паясы.

шэй галавы пакладзеныя на ёй пярсцёнкі, а сват гучным голасам крычыць па-лацінску: «Vivat!», за ім паўтараюць гэта спярша ўсе, хто сядзіць за сталом, а потым і тыя, што стаяць пасярод хаты, пасля чаго хустку зноў апускаюць на стол. Усеагульнае маўчанне... Зноў тыя ж самыя падымаюць хустку... Зноў крычаць «Vivat!» І так тры разы. Маладзіца бярэ з хусткі пярсцёнак, зняты з пальца маладой, і надзяе на палец маладога. Такім жа чынам сват заручальны пярсцёнак маладога надзяе на палец маладой [11].

Пасля гэтага сват бярэ са стала хустку, кладзе яе ў кішэню, з якой у той жа час дастае чаравікі, даруючы іх маладой. Яна ў знак удзячнасці ледзь-ледзь схіляе галаву, бярэ чаравікі і тут жа з пагардай кідае іх па-за сябе на зямлю. Хлопцы, якія бавяцца пасярод хаты з чаркай, падымаюць іх і падаюць маладой. Яна зноў іх кідае. Тады сват гаворыць ёй: «Я не раіў бы табе кідаць іх, у нашым баку зямля не роўная — былі б там вельмі патрэбныя». Падняўшы чаравікі, зноў падаюць іх маладой. Але яна зноў не прымае... Пасля таго як гэта цырымонія паўторыцца тры разы, нявеста бярэ чаравікі і перадае старшай бальшанцы на захоўванне. Сама ж, нібы вельмі засаромеўшыся ад такога ўчынку, апускае вочы ці адводзіць іх убок, а ў гэты час бальшанкі з маладзіцай спяваюць наступную песню:

Не сядзі, Тацянка, бокам,
Гэта табе не знарокам;
Сядзі сабе прасцюсенька,
Будзе табе мілюсенька.

Пасля трохразовага паўтарэння гэтай песні сканфужаная дзяўчына, нарэшце, падымае вочы, а жаніх устае, здымае перад ёй шапку, падае маладой руку і выходзіць з-за стала. Гэта ж самае робіць па чарзе кожны мужчына ў дачыненні да дамы, якая сядзіць насупраць яго. Тут пачынае іграць музыка, калі ўмее; калі ж не ўмее, аддае скрыпку (як мы ўжо казалі) таму, хто мае талент іграць на ёй. Пары, якія ўстаюць з-за стала, праходзяць у танцы прыкладна тры кругі, затым пачынаюцца агульныя танцы — на іх стаіць несціханы шум і гоман.

Скрыпка і дуда не сціхаюць ні на момант. На гэтай гулянцы можна наслухацца шчырых, часам вельмі дасціпных жартаў, вершаваных двух- і чатырохрадкоўяў, якія амаль кожны раз прымушаюць чырванець дзяўчат; тут можна адразу ўбачыць, хто каго

[11] Мы паведамлялі ўжо, што на вялікіх запоінах маладыя памяняліся заручальнымі пярсцёнкамі, цяпер яны іх вяртаюць назад, кожнаму сваё, і памяняюцца імі канчаткова толькі перад алтаром.

кахае, нагледзецца, як «свавольнае каханне гуляе перад паважным шлюбам». Напрыклад, дружкі, якія ўдзельнічаюць у бяседзе, ціхенька заводзяць сваіх каханак у істопку, дзе частуюць іх прывезенай з сабой гарэлкай, а часам і мёдам, даюць на закуску абаранкі ці пернікі, а на памяць і ў знак кахання — пярсцёнкі, пацеркі, стужкі, ладанкі і г. д. Забаўляючыся гэтак, усе п'юць многа гарэлкі і піва — таго і другога звычайна гатуюць шмат. Заможны гаспадар дзве ці тры варкі піва і гарэлкі зрасходуе за вяселле. Малады, патанцаваўшы адзін раз са сваёй нявестай, болей з ёю амаль не бачыцца, затое ўвесь час дагаджае яе родным і блізкім, асабліва пажылым жанчынам, якіх адну за адной запрашае на танец.

Толькі ў тры гадзіны падаецца вячэра, на якую ідуць тыя, якіх мы ў самым пачатку бачылі за сталом, астатнія ж частуюцца ў істопцы, у сенцах ці ў розных кутках хаты, часам нават прыпасамі, якія самі ж прынеслі з сабой, бо гаспадарам не вельмі лёгка накарміць некалькі дзесяткаў чалавек. Гаспадары больш клапоцяцца пра сваю радню: яна тут самая ганаровая, пра што заўсёды помніць, а часам, падпіўшы, пасміхаецца з іншых, асабліва бяднейшых гаспадароў (*галетнікаў*).

Пасля вячэры ўсе разыходзяцца па сваіх хатах, гаспадары ж ідуць адпачываць: да канца вяселля для гэтага яны няшмат знаходзяць часу. Яны заўсёды ў руху, увесь час заняты падрыхтоўкай да адпраўлення будучай жонкі, якая толькі і ведае, што ў акружэнні бальшанак і маладзіцы слухае прыгатаваныя да гэтага моманту песні, а калі яна па натуры жывая і вясёлая (што не часта здараецца), то і сама памагае спяваць.

Песні, якія спяваюцца ў час паміж змовінамі і вяселлем (паколькі ўжо няма ніякага сумнення, што ў дзяўчыны можа штонебудзь цяпер змяніцца), звычайна гавораць пра яе смутак, прычына якога ў тым, што не той будзе яе мужам, каго кахала, ці ў тым, што яна мусіць ужо развітацца з дзявочымі забавамі і ўцехамі. Вось дзве з вялікай колькасці такіх песень:

Да цераз мой двор,
Да цераз мой двор,
Да цяцера ляцела;
Да не даў мне бог,
Не судзіў мне бог,
За каго я хацела:
З кім стаяла,
Размаўляла
Да падарачкі брала;
З каго кпіла,
Смяялася,
Сама таму дасталася.

Выйду я да на ганачак,
Гляну я да на красачкі:
Аж мае краскі зянуць,
Аж мае ручкі вянуць.
Зяйце, красачкі, зяйце!
Мне ж вас не насіці.
Я адзін вянок звіла
Да й той павесіла
Ў каморы на пруточку,
На ядвабным шнурочку,
На чырвонай нітачцы,
Меншай сястрычачцы.

Апрача такога роду песень, дзе чуецца нейкі лагодны смутак, спяваюцца і больш весялейшыя песні, у якіх упамінаюцца запоіны і змовіны, танцы, весялосць, забавы і патаемныя заляцанні дружкоў з бальшанкамі і інш. Але часцей за ўсё паўтараюцца песні, якія больш адпавядаюць дадзенаму моманту, напрыклад песні пра бацьку, які так любіць выпіць, што быццам бы і дачку на гарэлку прамяняў.

Да прапою, да прапою
Да Тацянкін татулька,
Да прапіў сваё дзіця
Да на новым ганачку,
Да за мёду шкляначку,
За гарэлкі чарачку.
Добра ж было прапіваці,
Кім будзеш пасылаці
У крыніцу па вадзіцу,
Ў шэры бор па брусніцу.

У такіх песнях праходзіць тыдзень. У наступную суботу нявеста з бальшанкамі і маладзіцай ідзе на споведзь. Вечар жа, які з'яўляецца для маладой апошнім перад зменай яе становішча, прысвячаецца абрадам падрыхтоўкі да заўтрашняга вяселля. На гэты вечар прыходзяць адны толькі дзяўчаты, таму і называецца ён *дзявочым вечарам.*

# АБРАДЫ ВЯСКОВАГА ЛЮДУ З-НАД БЯРЭЗІНЫ

## Запіс Э. М.

### ЗАПОІНЫ

Найважнейшымі асобамі ў вясельнай урачыстасці з'яўляюцца сваты: яны рэкамендуюць бацькам нявесты маладога, дамаўляюцца, калі і як гуляць вяселле, вызначаюць з імі (выходзячы з іх

заможнасці) велічыню пасагу, мяркуючь аб уладкаванні будучай сям'і. Звычайна маладая ідзе ў дом бацькоў нарачонага. Часам маладога прымаюць у дом яго жонкі. Гэта бывае тады, калі тут вялікая гаспадарка, бацькі ўжо старыя, а поле і жывёла патрабуюць клапатлівага догляду і працавітага работніка. Малады, якога прымаюць у дом жончыных бацькоў, на іх гаспадарку, завецца *прымак*.

Старшы сват — звычайна чалавек у гадах, красамоўны, вясёлы, усімі паважаны,— дамовіўшыся папярэдне з абодвума бакамі, у прызначаны час прыходзіць з гарэлкаю ў дом нявесты і вітае прысутных [. . .] Гаспадары, адказаўшы «На векі вякоў», саджаюць яго за стол. Тым часам нявеста адпраўляецца збіраць сяброўак, а хто-небудзь іншы з хаты ідзе запрашаць на запоіны яе хросных бацькоў, а таксама сваякоў. Калі ўсе збяруцца, дзяўчаты ўводзяць нявесту з наступнаю песняй (імя свата, напрыклад, Васіль):

Ото ж табе, Васілька,
Увядзёнка Агатка.
Калі яе любіш — дай пірог,
Калі не любіш, то вон за парог.
Не хваліся, што ў нас быў,
Што нашай Агаткі не злюбіў.

Сват вітаецца з маладой за руку, дае ёй пірог, сыр, смажанае мяса, лье ў міску гарэлку, кладзе туды трохі грошай. Пасля гэтага дзяўчаты моўчкі ідуць у *істопку* [1], дзе частуюцца і спяваюць для маладой песні, дружына ж садзіцца з гаспадарамі вячэраць.

Ой, гаросе, гаросе!
Сеялі цябе харашо:
Пры лузе, пры дарозе,
Пры бітым гасцінцу.
Ай ты, красна Агатка,
Заручалі цябе харашо:
Пры радні і племені,
Пры родным татачку.

Прыехалі заручнікі,
Чаму яны без дудачкі?
Агатка не ўдовачка,
Захочаць пагуляць,
Таткаў двор раўнаваць

---

[1] *Істопка* — чыстая хата па другі бок дома; называлася часам святліцай, бо была святлейшай за курную і задымленую.

Ножкамі, астрожкамі,
Чорнымі чабатамі
З маладымі сватамі.

Каб я ведала блізкія заручынкі,
Паслала б я свайго татачку ў лог па каліну.
Татачка ідзець,
Калінкі не нясець,
Ветры не веюць,
Слонца не грэець,
Калінка не спеець.
Што мая за доля!

Мавіла бочачка,
У піўніцы стоячы:
— Калі мяне не вып'еце,
Сама выкачуся,
Па дварэ разліюся
Крыніцай сцюдзёнай вадзіцы.
Мавіла Агатка ў таткі седзячы:
— Калі мяне не выдасі,
Так я сама пайду,
Па дварэ памаленьку іду,
За варота угрунь пабягу.

Зыбнула мора, зыбнула,
Там наша Агатка ўтанула!
Прышоў к ёй татка:
— Падай ручку, Агатка.
— Не падам я ручкі:
Хоць я ў моры ўтану,
Няхай нікаму не застануся,
Застануся аднаму
Яначку мілому.

Сягодня заручынкі
Бог нам даў,
Працiў панядзелку
Бог нам даў.
Шлі дары на тры сталы:
Таму-сяму па падарку.
Нашаму Яначку
Тры падарачкі
Бог яму даў:
Адзін падарак — залаты персцень,
Другі падарак — шаўковая хустка,
Трэці падарак — красная Агатка.
Залаты персцень на мянянне,
Шаўковая хустка на ўціранне,
А красная Агатка на каханне.

У гародзе на частаколе [2]
Зязюлька кукавала,
У лазні на крэсле
Касу Агатка часала,
А чэшучы касу русу,
З касой размаўляла:
— Мая касіца, мая русая!
Нігдзе я татку не міла!
Я табе, мой татачка,
З вясны гаварыла:
— Не дзяры бору,
Не сей лёну,
Некаму будзе палоць;
Гдзе я пайду, гдзе я жыць буду,
Там я і рабіць буду.
Я табе, свекратка, з вясны гаварыла:
— Надзяры бору, насей лёну,
Я прыду і палоць буду.

Дзешава была майму татачку
Да гарэлачку піць:
Як пойдзець на ток,
Возьмець цапок,
Не з кім малаціць.
Цапочкам махнець,
Цяжка уздыхнець,
Сільненька заплачыць,
Што дачушкі не бачыць.
Дарага была да майму свякратку
Гарэлачку піць:
Як пойдзець на ток,
Возьмець цапок,
Есць з кім малаціць.

Камора звінела,
Гдзе Агатка сядзела:
Сядзела ў каморы,
Тонкія абрусы ткала,
Мыслямі ўзоры
Дзіўныя паклала.
Прыехаў сужаненькі сам дзесят,
Папушчаў конікі ў вішнёвы сад.
Не ржыце, конікі, не ржыце,
Янaчка напасець на жыце,
Ядраным аўсом абсыпець,
Чырвоным сукном абшыець.

На гэтым заканчваецца першая, уступная частка вяселля, пасля якой наступае другая — так званыя змовіны. Перад імі

[2] *Частакол* — плот з калоў, убітых у зямлю.

сват з квартай гарэлкі яшчэ раз прыходзіць да бацькоў нявесты, каб дамовіцца, колькі патрэбна браць гарэлкі і пірагоў на змовіны.

## ЗМОВІНЫ

Пячэнне каравая, дружына, якая павінна складаць вясельны поезд маладога і маладой, запрашэнне сяброў і сваякоў, іх прыём і частаванне — словам, усё, што датычыцца вяселля, з'яўляецца на змовінах прадметам абмеркавання паміж сватам і бацькамі маладой. Сват прыязджае ў час, калі ў доме маладой рыхтуецца каравай, прывозіць гарэлку, кладзе на стол жытні пірог для хросных бацькоў і бабкі, якая прысутнічала пры нараджэнні маладой. Калі бабкі няма ў жывых, яе замяняе дачка ці хто-небудзь іншы з яе хаты. Дзяўчаты тым часам уводзяць маладую ў хату з тымі ж абрадамі і песнямі, што і на запоінах. Сват дае ёй пірог з макам і мёдам усярэдзіне, сыр, смажанае мяса, налівае ў міску гарэлку, і маладая з дзяўчатамі выходзіць з хаты. Якраз у гэты час і дамаўляюцца пра ўсё, аб чым гаварылася вышэй.

Вясельны поезд маладога складаецца звычайна з трох *свах* (старшая сваха — хросная матка, дзве малодшыя — сёстры або бліжэйшыя сваячкі), двух дружкоў, стольківх жа намеснікаў і хроснага бацькі, які вязе свах і якога таму завуць *вазіла*; садзяць яго на вяселлі ў канцы стала, ён не карыстаецца такой пашанай, як хросная матка, якая звычайна займае самае ганаровае месца — на куце. Закончыўшы перагаворы з гаспадаром, сват садзіцца вячэраць, гаспадыня ж прымае і частуе каравайніц. Яна гаворыць, якія і для каго прыгатавала падарункі — колькі жанатых мужчын у хаце, куды ідзе дзяўчына, столькі трэба пасланць туды намітак, абкручаных паясамі; свату ж прызначаецца барылка, абвязанае палатном, або намітка, таксама абкручаная поясам. Калі каравай замешаны, сват ідзе па гарэлку: частаванне каравайніц — гэта выключна яго абавязак.

Рашчыняецца каравай у суботу раніцай. Хросная маці або старэйшая ў хаце жанчына перад тым, як сыпаць у дзяжу муку, просіць благаславення: «*Ёсць тут бог, бацька, матка, родныя і суседы, блізкія і дальнія, мужы статэчныя, бабкі запечныя, дзеткі заплечныя, благаславіце краснай панне каравай учыніць*». Такім спосабам просіць благаславення тры разы. Калі каравай рашчыняць, яго ставяць у цяпло. Вечарам запрашаюць пяць ці сем каравайніц і трох мужчын — мясіць і пячы каравай. Мужчыны, узяўшы дзяжу, павінны тры разы перакруціць яе і паставіць на крыж супраць печы. Сват тым часам дае гарэлку, гаспадары —

сыр і аладкі на закуску. Старшая каравайніца просіць блаславення — так, як і пры рашчыньванні — і спявае наступную песню:

Благаславіце, людзі,
Блізкія суседзі,
Гэтаму дзіцяці
Каравай замясіць
Ручкамі бяленькімі,
Персцнямі залаценькімі,
Песнямі весяленькімі.
Ты саступ, божа, з неба,
Як нам цяпер трэба!
Памагаў рашчыніць,
Памагай замясіць
Ручкамі бяленькімі,
Персценьмі залаценькімі,
Песнямі весяленькімі.
Не стой, божа, за дзвярмі,
Да ідзі, божа, у хату,
Да сядзь, божа, на куце,
Да дай долю маладзе.
— Я у хату не пайду,
Я за дзвярмі пастаю,
Маладзе долю перашлю.
Збірайся, родзе,
Да к беленькаму караваю!
Старыя бабы для парадку,
Маладыя маладзіцы песні пець,
Удалыя малойцы каравай печ.

Прыступаюць да работы тры або пяць каравайніц: па чарзе адна за адной месяць цеста, а скончыўшы, ставяць на дзяжу талерку, на якую кладуць свае дары для маладой. У гэты час сват зноў частуе іх гарэлкай, гаспадары закускай, мужчыны ставяць дзяжу на месца, перакручваючы яе, як раней.

Хвала ж табе, божа!
Што мы дзела зрабілі,
Каравай замясілі
Ручкамі бяленькімі,
Персцнямі залаценькімі,
Песнямі весяленькімі.
Чатыры нажы ў дзяжы,
Пятая — мая сіла
Каравай замясіла.
Да ўпала я ў дзела,
Цела маё упацела,
Гарэлачкі захацела,
Гарэлачкі-акавітачкі,
Для мяне, працавітачкі,
Гарэлачкі-ташчаначкі,
Для мяне, мяшчаначкі.

Ідуць у танец, а потым спяваюць:

У нашага гаспадара
Кудравая галава.
Кудзёркамі патрасець,
Нам гарэлкі прынясець.
А кудзёркамі пакалоціць,
Нам гарэлкі прысалодзіць.

У адказ на гэта прыносяць гарэлку, закуску і зноў пачынаюць танец.

Каравай ў дзяжы іграець,
Да века паднімаець,
Каравайніц 'жыдаець.
— Гдзе ж мае каравайніцы?
Чы на мяду запіліся,
Што на мяне забыліся?
Гаспадынечка вудка,
Варачайся хутка,
Ужэ на дварэ вечар,
Каравай наш не печан.

Пакуль цеста не падыдзе, працягваюцца жарты і танцы. Потым мужчыны нясуць дзяжу і, тройчы яе перакруціўшы, ставяць на крыж. Старшая каравайніца, збіраючыся саджаць у печ каравай, просіць блаславення. Усе разам спяваюць:

Саступ, божа, з неба,
Як нам цяпер трэба,
Памагаў замясіць,
Памажы і ўсадзіць
Ручкамі бяленькімі і г. д.

Калі каравай саджаюць у печ, спяваюць такія песні:

Ніхто не ўгадае,
Што ў нашым караваю:
Дзевяці пудоў мука,
Асьмі кароў масла,
А яец паўтараста.
З суботы на нядзелю
Сабралася Агаты радзіна,
Зняслі ж яны сем сіт мукі на каравай.
Хвала ж богу, вялік будзе каравай!
Зняслі ж яны сем фасак масла на каравай.
Хвала ж богу, пушон будзе каравай!
Зняслі ж яны сем сіт яец на каравай.
Хвала ж богу, румян будзе каравай!

Да багат, Агатка, татка твой,
Добра пшаніца, што ў навіне,

Да вялікія сцірты ў гумне,
Поўныя аруды ў клеці,
Падышоў каравай у дзяжы,
Зашумеў каравай у дзяжы.
Да чаму яму не шумець!
Харошая ўчыняла,
Румяная мясіла,
Госпада бога прасіла,
Каб наш каравай удаўся.
Стаяла каліна колькі лет.
Сячыце, рубайце на загнет,
Каб наш загнецец ясны быў,
Каб наш каравай красен быў,
Каб наша Агатка весела была,
Каб нашая рутачка зелена была.

На дварэ явар сякуць,
А ў хатачку трэсачкі лятуць.
Каля явару трэсачкі,
Каля караваю маладзічкі.
Першая квятка —
Нашая Агатка.
На дварэ явар сякуць,
А ў хатачку трэсачкі лятуць.

Калі ўжо цеста падышло, збіраюцца саджаць каравай у печ. Адзін каравай робяць у выглядзе паўмесяца — ён прызначаецца для абмену; другі — у форме вялікай булкі, якая называецца *перапека*. Выпякаецца яшчэ адна невялікая булачка — трэці каравай. Прызначэнне яго такое. Калі маладая першы раз на рацэ палошча бялізну, ёй дапамагаюць суседкі. За гэта яна і частуе іх пірагом і гарэлкай. Гэтыя тры булкі ўпрыгожваюцца рознымі фігуркамі. Саджаюць яшчэ чацвёртую булку, без упрыгожанняў, плоскую — каб хутчэй спяклася. Яе потым дзеляць паміж сабой каравайніцы і ўсе прысутныя. Акрамя таго, для кожнай каравайніцы і каравайніка, а таксама для кожнага дзіцяці, якое ёсць у хаце, пякуць па маленькаму піражку — называецца ён *кроска*.

Караваі саджаюць у печ па чарзе два мужчыны. Пры гэтым яны за кожным разам стукаюць у столь лапатаю, якую пад канец стараюцца зламаць. Трэці каравайнік раскладае на загнеце з дубцоў чыстага сухога веніка агонь і ўвесь час яго падтрымлівае — каб каравай быў румяны. Дзяўчаты пры гэтым спяваюць:

Шчарбаты, лупаты загнет закладаець,
Яму бог не памагаець.

Калі ўсе пірагі пасаджаны, каравайніцы скачуць і спяваюць, пляскаючы ў ладкі:

Хвала ж богу, што мы дзела зрабілі,
Каравай усадзілі
Ручкамі бяленькімі,
Персцнямі залаценькімі,
Песнямі весяленькімі.
Каравайніцы п'яны,
Усё цеста пакралі,
Па кішэнях паклалі.
Ах, цямне прышло,
У кішэні цеста падышло.
Чыя жана гожа,
Языком дзяжу глoжа,
Чыя жана хіжа,
Языком дзяжу ліжа.
Дайце мне чарку, я тую вып'ю,
Дайце другую, я вып'ю і тую,
А за трэцюю падзенькую.

Пра каравай клапоцяцца толькі каравайнікі і каравайніцы. Маладая ж і дзяўчаты, якія яе акружаюць, сядзяць асобна, збоку. Гарэзлівасць, вясёлыя жарты, бясконцыя спевы, перамешаныя з танцамі, пляскання ў ладкі, смех робяць забаву вельмі жывой. А чым большая тут весялосць, тым большая слава для гаспадара і каравайніц. Калі-нікалі і дзяўчаты пускаюцца ў танец, але каравайніцы ім перашкаджаюць. Калі пірог ужо спёкся, узбуджаныя працаўніцы, пляскаючы ў ладкі, танцуючы і спяваючы, бягуць да печы.

Стану я для печы
Караваю глядзець,
Каб ён не адпёкся,
Каб ён не аджогся,
Каб нам сорам не быў
Да ў чужыя людзі.

Вымаюць кроскі і раздаюць усім, хто тут ёсць, і, вядома, дзецям. Дзеляць і ядуць таксама плоскую булку. Пачынаецца частаванне гарэлкай і закускай. Потым — танцы і спевы. Затым ставяць на стол века ад дзяжы, накрываюць яго абрусам і кладуць спечаны каравай і талерку для складвання падарункаў.

Палажылі каравай на стале —
Сталавыя ножкі гіблюцца,
Усе людзі дзівяцца,
Што ўдаўся наш каравай,
Да пану богу на хвалу,
Добрым людзям на славу,
А прыяцелям на дзіва.
Вы, прыяцелі, глядзіце
І па талеру кладзіце.

Тут усе, стаўшы адзін за адным, выходзяць з хаты: наперадзе—гаспадар, за ім—каравайнікі з караваем; тройчы перакруціўшыся, за імі выбягаюць каравайніцы, пляскаючы ў ладкі і спяваючы:

Пытаўся каравай у перапечы:
— Да куды сцежка да клеці?
— А ты, караваю, верапаю,
Часта у клеці бываеш,
Сцежкі, дарожкі пытаеш!
Вазьмі пасажок, напірайся
Да у клетку дабывайся.

Гаспадар, увайшоўшы ў клець, частуе гарэлкаю спачатку каравайнікаў, потым каравайніц, затым усіх, хто ёсць. Каравайніцы, ідучы назад у хату, скачуць, пляскаюць у далоні і спяваюць:

Мы ж былі на караваю,
Там нас частавалі
Піўцом маладзенькім,
Мядком саладзенькім.

Садзяцца за стол. Пітва і яды падаюць шмат. Каравайніцы спяваюць:

Цымбалы заігралі,
Каля акон забразджалі.
Агатчына чэлядзь
Захацела вячэраць.
Ляцелі гусачкі з выраю
Да пыталіся караваю:
— Чы ўжо вы каравай спляскалі?
Чаму нас, гусачак, не ждалі?
Мы б вам каравай спляскалі,
Крылкамі, ножкамі спляскалі.

На гэтым заканчваецца абрад пячэння каравая ў доме маладой. У той жа самы час і такім жа спосабам пякуць каравай і ў хаце маладога, пасля чаго малады выбіраецца да сваёй нарачонай. Перад ад'ездам яго саджаюць на каробцы з жытам, хросная матка падстрыгае яму валасы, а сястра падсмальвае іх васковай свечкай. Пры гэтым свахі спяваюць:

Яначка-брахна па гумне ходзіць
Да тры сады садзіць,
Усе тры хмялёвыя.
Війся, хмелю, війся да кола тычкі,
Да ў сад шышачкамі,
Падстрыгайся, Яначка,
З рабяцкага стану да ў мужаскую славу.

Да у месяца два ражкі крутыя,
Да Яначкі два браты радныя.
Адзін брахна каня сядлаець,
А другі брахна яго научаець:
— Да будзь, брахна, разумненькі,
Да паедзеш, брахна, у чужыя людзі,
Выйдзець к табе танок дзевак;
Не бяры таей, што ў золаце,
Да бяры тую, што ў розуме;
Мы золата ў краме дастанем,
Мы розуму свайго не ўставім.

Сіняе возера на лугах стаіць,
Наш Яначка на думках сядзіць.
Думаець думу вя́лікую,
Наняў радзіну багатую,
З'ездзіў коніка гарцуючы,
Стаптаў боцікі танцуючы,
Сцёр шапачку кланяючыся,
Змачыў хустачку уціраючыся.

— Кляновы лісточак, куды ж ты коцішся?
Чы ў луг, чы ў даліну,
Чы зноў на кляніну?
— Да не сам я качуся,
Коціць мяне буен вецер.
Не ў луг, не ў даліну,
Да і зноў на кляніну.
— Яначка маладзенькі,
Куды ж ты радзішся,
Чы ў госці, чы ў дарожку?
— Да не сам я раджуся,
Радзіць мяне мой татачка,
Не ў госці, не ў дарожку,
К цесцятку на падвор'е,
К Агатцы на застолле.

Уся дружына садзіцца за стол. У маладога, прыстойна адзетага, на галаве аўчынная шапка з чырвоным бантам, на шыі хустка, таксама перавязаная чырвонай стужкай. Жанчыны за сталом спяваюць:

Чые то конікі
Для стаенкі стаяць,
Сівыя, буланыя,
У дарожку прыбраныя?
Чые ж то свашачкі
За столікам сядзяць,
Белыя, румяныя,
У дарожку прыбраныя?
Яначкавы конікі
Для стаенкі стаяць,

Сівыя, буланыя,
У дарожку прыбраныя.
Яначкі свашачкі
За столікам сядзяць,
Белыя, румяныя,
У дарожку прыбраныя.
Сабраўся раёчак
Да ў цёмны куточак,
Хочаць паляцець на шчырыя бары,
На жоўтыя цвяты,
На салодкія мяды.
Сабраўся Яначка з сваёй радзінай,
Хочаць ён паехаць,
Цесцятку зваяваць,
Агатку к сабе ўзяць.

Яначка ў абозе,
Не ўкаваны конік, што ў возе;
Ёсць у мяне кавалі ў дарозе.
Падкуюць коніка, што ў возе;
Ёсць у маей Агаткі пярсцёнкі,
Будуць коніку падкоўкі;
Ёсць у маей Агаткі каралі,
Будуць коніку ухналі;
Ёсць у маей Агаткі паяскі,
Будуць коніку падаскі.

Спявачкам даюць гарэлку, закуску, пасля чаго ўсе разам, узяўшы са стала па кавалку хлеба з соллю і схаваўшы за пазуху, выбіраюцца да свата. Прыстойна адзетыя хлопцы ў шапках з кукардамі набакір садзяцца на коней. З імі і скрыпач. Дзяўчаты і жанчыны рассаджваюцца па вазах. Перад самым ад'ездам маці маладога ў вывернутым кажусе тройчы абходзіць увесь поезд, абсыпае яго аўсом, а дружка б'е яе бізуном. У дарозе ўвесь час спяваюць:

Да борам, борам, барамі
Ехалі сваты радамі,
А молад Яначка напярод,
А яго брахнечка пасярод.
Стойце, пастойце, сватове!
Чы не зязюлька кукуець?
Чы не салавейка шчабечаць?
Яначка адказваець:
— Што не зязюлька кукуець,
Не салавейка шчабечаць;
Гэта маёй Агатцы песні пяюць,
Мне, маладому, ведама даюць.

Да з борку, з борку на колку
Вісіць калыска на шолку,

А ў тэй калысцы Яначка.
— Да мілыя мае сватове!
Скалыхніце мяне высока!
Каб я забачыў далёка!
Гдзе мая Агатка гуляець,
Садавым яблачкам шыбаець:
Да яна ў арэшкі цалуець,
З маладымі рабятамі жартуець.

Для сватняга двара
Да высокая гара.
Не ўзыйці, не ўз'ехаць,
Сакалом не ўзляцець.
Што даці, то даці,
Тую гару раскапаці,
І ўзыйці, і ўз'ехаць,
Сакалом узляцець,
А Яначку уз'ехаць.

Да зажурыўся Яначка ў паўдарожкі едучы,
На белыя бярозкі гледзючы.
— Да мая бярозка белая,
Да мая галоўка бедная,
Я у гэтым дзеле не бываў,
Па цёмных ночках не язджаў.
— Да не журыся, Яначка,
Мы цябе аднаго не пашлём,
Мы цябе пашлём з дружынай,
А ўся дружына з сваей радзінай.

Сват вярхом на кані сустракае поезд маладога, і ўсе ў добрым настроі, з песнямі і музыкай пад'язджаючы да хаты маладой, спяваюць:

Белыя бярозкі,
Да не развівайцеся,
Крутыя дарожкі,
Да не размінайцеся —
Яначка к цесцю едзець.
Ён дзіця разумнае:
Ён мора селязнём плывець,
Ён поле сакалом ляціць,
У вароцях расой падзець,
На двару князем станець,
За сталом госцем сядзець.
Частуйце ж, частуйце
Небывалага госця,
Свайго любага зяця.

Калі ўжо спыняцца на падворку, спяваюць:

Ай, божа ж мой, божа, мы борам ехалі,
Ветры не веялі, бары не шумелі,
Прыехалі к свату, так дзеўкі запялі,
Як сучкі забрахалі:
— Чы на гэта сват запрасіў,
Каб сельскімі сучкамі напусціў;
Вазьмі, сваток, памяло,
Да гані сучак за сяло;
Альбо вазьмі й добры лут (лыка)
Да гані сучак у цёмны кут.
— Да дзевачкі мае,
Не лайце мяне,
Да прыдзеце ж і вы к нам,
Будзе ж гэта і вам.

Хлопцы бадзёра саскокваюць з коней, дзяўчаты — з вазоў. Дружына маладой выходзіць з хаты прывітаць гасцей. Агульная радасць і весялосць. У хаце ў гэты час рыхтуюцца да новага абраду, які называецца *садзіць маладую на пасад.* Маладая, застаўшыся ў хаце з адной дзяўчынаю, сядзіць на лаве. Яе брат з жытнім пірагом у руках, з конаўкай вады, што завецца *ражка,* і бярозавай галінкаю — трыма сімваламі сялянскага жыцця — уваходзіць у хату і, сказаўшы «нех бэндзе пахвалёны Езус Хрыстус», спыняецца на парозе, не зачыняючы за сабой дзвярэй. Пасля гэтага маладая бярэ за руку сваю таварышку, накрываецца хусткаю і спявае са слязамі:

А мой брахненька, пашто ўвашоў
Са ржаным пірагом, з дубовай ражкай,
З пшонным півам, з бярозавай розгай?
Ржаны пірог дзеўкам падзялю,
З дубовай ражкай у ягады пайду,
Пшоннае піва пад угол падлію,
З бярозавай розгай на паству паганю.

Брат бярэ маладую за руку і вядзе на пасад. Дзяўчаты спяваюць:

Брат сястру на пасад вядзець,
Шаўком зямельку мяцець,
Сытой паліваець,
З сястрой размаўляець:
— Сястрыца родная,
Да не будзь гордая,
Да не жалей галоўку, да кланяйся:
Мамцы ў ножкі, няхай мамка знаець,
Да аб долю ўгадаець.
— Знаю, дзіцятка, знаю,
Да аб долю не ўгадаю;
Дасць бог долю, дасць добрую,
Хвала табе, божа!
А калі якую праклятую,
Ах, моцны мой божа!..

Брат, стоячы перад парогам хаты, просіць блаславення: *«Есць тут бог, бацька і матка, хрышчоныя і радзоныя, суседзі блізкія і дальнія, мужы статэчныя і бабкі запечныя і дзеткі заплечныя — благаславіце маладую панну на пасад пасадзіць».* Усе адказваюць: *«Бог благаславі».* Так просьба блаславіць паўтараецца тройчы. Затым брат вяртаецца ў хату, ставіць на паліцу ражку з вадой, а маладая з сяброўкай, якая яе абдымае (абедзве накрытыя хусткай), становяцца перад парогам і галосяць: *«Добры вечар да ў гэту хату! Мужам статэчным, бабкам запечным, дзеткам маленькім; суседы мае, да ідзіце ка мне, на маё вяселле».* Пры гэтых словах маладая падае ў ногі бацьку і мацеры і просіць у іх блаславення: *«Матачка мая! Благаславі мяне на пасад сесці, на божае месца, пад высшым акном, пад божым крылом, гдзе бог расказаў, гдзе люд разгадаў».* Пасля гэтага з той жа просьбай яна абходзіць па чарзе ўсіх родных, абдымаючы іх і плачучы. Дзяўчаты ў гэты час спяваюць:

Ходзіць, паходзіць зязюлька
Па шчырым барочку,
Садзіць, пасадзіць дзетачак сваіх
На белым паучыне,
Пакуль прыляціць салавей з лугу;
Ен вас разгоніць, і мяне з сабой возьмець.
Ходзіць, паходзіць маладая дзевачка
На новым ганку,
Садзіць, пасадзіць сваіх дзевачак
На белых лаўках,
Пакуль прыедзець Яначка з дружынкай;
Ен вас разгоніць, ён вас разгоніць,
А мяне з сабой возьмець.

На лаве за сталом насупраць печы кладуць кажух; брат, узяўшы маладую за стан і тройчы перакруціўшыся з ёю, садзіць яе на кажух. Цяпер чакаюць сватоў. Дзяўчаты спяваюць:

Што то за зара
У таткі на дварэ?
Дзевачка з цяплом ходзіць,
Дзевачак пабуджаець:
— Устаньце, дзевачкі,
Бярыце шчотачкі,
Чашыце галовачкі;
Ужэ мая ўчасана,
Касніком упляцёна,
Ужо ж мае прыехалі,
Ужо ж маю развіюць коску,
Мамчыную разліюць слёзку.

Сваты застаюцца на вуліцы, дружкі з жытнім пірагом падыходзяць да парога хаты і гавораць: «*Добры вечар, пане-сваце. і той свяцонай хаце, таму міру хрышчонаму. Прыслаў сват да свата, сваця да сваці, малады князь да маладой князі; ёсць тут панна заручона, каб нам была выдадзёна; чы чулі?*» З хаты адказваюць: «*Не чулі!*» Гэта ж самае дружка паўтарае тры разы, пакуль не скажуць: «*Чулі*». Тады дружка ў вывернутым кажусе, падпяразаны цераз плячо бізуном, уваходзіць у хату, кладзе адзін пірог высока на слупе ля печы, які называецца *стаўпец*, другі на стале насупраць печы для дзяўчат, кладзе таксама тры грошы. Калі дружка, наблізіўшыся да печы, кладзе пірог, дзяўчаты спяваюць:

Улез дружка ў хату, на печ заз іраець:
Чы вялік гаршчок кашы, чы паядаюць нашы?
Адзін кажаць мала, другі кажаць годзе,
Трэці кажа: маўчы, бо загадаюць таўчы.

Дружкі хочуць забраць маладую, але дзяўчаты не аддаюць, скідваючы са стала дружкаў траяк. Пры гэтым яны спяваюць:

Бяры сабе гэта,
Купі сабе мыла,
Каб цябе жонка любіла,
Каб дзеці пазналі
І бацькам назвалі.

Пачынаецца «торг», спрэчка. Дружка просіць дзяўчат, каб яны ўзялі тыя тры грошы і аддалі яму маладую. Нарэшце, кладзе яшчэ трохі грошай і хоча ўзяць нарачоную, але дзяўчаты не аддаюць яе. Адна, залезшы пад лаву, трымае яе за ногі, другая — за рукі, каб як мага цяжэй было ўзяць і тройчы перакруціць маладую. Пры гэтым дзяўчаты пяюць:

Верабей, дружко, верабей,
Па суметніку паскакаў,
Нагой шэлег выкапаў,
Сваю дзеўку выкупляў.

Тут дружка адпіхвае дзяўчат у бок, паварочвае тры разы маладую. Яна пры гэтым, плачучы, спявае:

Дружко! Дружко!
Не варочай мяне,
Я не калода табе.
Каб я калода,
У бару б ляжала,
Каб я бяроза,
На мяжы б стаяла.

Наступае яшчэ адзін вясёлы момант. Дзяўчаты са смехам і жартамі абвязваюць дружку ручнікамі. Потым п'юць гарэлку, закусваюць і спяваюць:

Звязалі дружка, звязалі,
Гдзе ж яго паймалі?
Запіўся дружко, запіўся!
І на дружыну забыўся.
А гдзе ж твая дружына?
Чы у полі пад шатром,
Пад беленькім палатном?

Дружкі жана дасужа была,
Сем год кросна ткала,
Сем нядзель фартух шыла,
Да абеду знасіла,
На парозе згубіла.

Дзеўкі дружка білі,
Чупрыну залупілі.
Хто ідзець — смяецца,
Што чупрына трасецца.

Да ў нашага дружка
Голым гола галоўка.
Добра дзеўкам боб малаціць,
Па закутачках не ляціць.

Прыехалі пацярэбнічкі,
Да цярэбяць, цярэбяць зубачкі,
Цэлае жарабя з'елі,
Па сталу качаючы,
У попел мачаючы.

Перад дружкам сарока,
Ляжыць яна без вока.
Яна лежучы сакочаць,
А ён яе есці хочаць.

Не зважаючы на гэтыя прыпеўкі і вострыя жарты, дружкі спакойна п'юць і закусваюць, толькі часам кідаюць надакучлівым спявачкам: *«Брашыце, брашыце!»* Або вымаюць з кішэні і даюць ім кавалкі сыру і аладак — каб толькі яны замаўчалі. Але гэта не памагае. Абуяныя бясконцай весялосцю, нявіннай бяздумнай гарэзлівасцю, дзяўчаты бесперапынку скачуць вакол дружкаў, б'юць у ладкі, часам скубянуць якога хлопца за вала-

сы, прыпяваючы: «У нашаго дружкі голым-гола галава» і г. д. Астатнія госці застаюцца на вуліцы, чакаючы дружкаў, якія, пад'еўшы і перахрысціўшыся, ускокваюць на лаву, б'юць тры разы бізуном па сцяне, нібы запісваючы кватэру на тых, хто на вуліцы, і выходзяць. Дзяўчаты, гледзячы ў акно, спяваюць (сваты стаяць):

Сваты борам едуць і іграюць,
Нашая дзевачка не даець веры — не плачаць.
Ужо сваты полем едуць і іграюць,
Нашая дзевачка не даець веры — не плачаць.
Ужо сваты сялом едуць і іграюць,
Наша дзевачка не даець веры — не плачаць.
Ужо сваты на двор едуць і іграюць,
А наша дзевачка не даець веры — не плачаць.
Ужо сваты за стол ідуць і іграюць,
Наша дзевачка не даець веры — не плачаць.
Ужо сваты за стол ідуць, за ручку бяруць;
Тагды дала веры наша Агатка, і плачаць.

Прыляцела сарока — чы-чы, чы-чы-чы,
Села ў дзевачкі на плячы,
Скажу табе добрую весцю — чы-чы-чы,
Што ў цябе на дварэ сваты — чы-чы-чы.

Прыехалі тры казачэнькі на двор к нам,
Пазнай, пазнай, дзевачка, каторы нам?
Чы то, што ў сінім, на каню сівым,
Чы то твой?
Сам маладзенькі, конь вараненькі,
Чы то твой?
Чы то, што ў атласе, у жоўтым пасе,
Чы то твой?
— Што ў сінім, на каню сівым,
То дзевер мой,
А што ў атласе, у жоўтым пасе,
То свекар мой,
Сам маладзенькі, конік вараненькі,
Гэта мой.

Прыехалі сваты на двор,
Пусцілі стралу ў акно.
— Страла мая, страла,
Па што ты прышла?
Чы па мёд, чы па гарэлку,
Чы па красную дзеўку?
— Не па мёд, не па гарэлку,
Але па красную дзеўку.

Наступае момант прыёму маладога. Усе на чале з нарачоным тоўпяцца на двару перад хатай. Сваты выносяць з хаты стол, ставяць перад парогам, маці ж маладой у вывернутым кажусе з хлебам-соллю і гарэлкай выходзіць сустракаць маладога. Падыходзяць госці з аднаго і другога бакоў, матка з чаркай у руцэ так вітае будучага зяця: *«Зяценька! П'ю да цябе поўным кубкам, добрым здаровем, што мыслю сабе, то і табе».* І падае чарку. Малады вылівае яе цераз галаву. Матка зноў гаворыць тое ж самае і зноў падае чарку. Малады зноў вылівае яе. За трэцім разам ён, нарэшце, прымае кубак і, дакрануўшыся да яго губамі, укідае дзесяць ці дваццаць грошаў, пасля чаго аддае матцы, якая выпівае гарэлку да дна і забірае грошы.

Хросныя бацькі ў гэты час тройчы ўздымаюць уверх абгорнутыя абрусамі караваі маладога і маладой, прыгаворваючы: *«Мой вышшы! Мой вышшы!»* Гэта называецца *мянянне караваю*. Потым караваі кладуць на стол адзін на адзін — прытым дзявочы знізу, а хлопцаў наверсе — і нясуць у клець. Вяселле пасля гэтага раздзяляецца: жанчыны ўваходзяць у хату, мужчыны застаюцца на двару, свахі пры гэтым спяваюць:

У грознага цесця
Стаіць зяць за варотамі,
Сняжком перапаўшы,
Дажджом перамокшы;
Крыйся, зяцю, кунамі,
Бабрамі, чорнымі сабалямі.

Ужо ж мы пазяблі
У доўгай дарозе,
На тугім марозе.
Нашыя зубкі сакочуць,
У хатачку хочуць.
Нашыя конікі гагочуць,
У стаенку хочуць.

Цешча зяця ждала,
Кунамі двор слала,
Кунамі, бабрамі,
Чорнымі сабалямі.
Каб жа мая змога,
Выслала б я і многа.
Пышна цешча, пышна,
Да к зяцю не выйшла.
Чы ў яе кажуха нет?
Чы ў яе кубка нет,
Чым зяця вітаць?

Нарэшце, прымаюць стол і просяць сватоў у хату. Ідучы, яны спяваюць:

Зціха, баяры, ідзіце,
Харом не вярніце.
Харомы ўсё новыя,
Столікі цясовыя,
Абрусы двайчастыя,
Мы госці не частыя.

Наляцелі гусі
Да з Беленькай Русі,
Селі, палі на крыніцу,
Сталі яны ваду піць.
Наехалі госці
Да з чужой валосці,
Селі яны за сталом,
Сталі яны мёд, віно піць
Да кубкамі аб стол біць.

Дзяўчаты спяваюць, дамагаючыся ад свах гасцінцаў. Песня датычыцца ўсёй дружыны і маладога:

У нашай цесценкі
Пірагі з кішэні коцюцца;
А нам жа іх хочацца.
Ей даваць маркотна,
А нам браць ахотна;
Яна дае плачучы,
А мы бяром скачучы.

Хочуць гасцінцаў усе. Удзячнасць сваю за гасцінец выказваюць песнямі, танцамі, пляскaннем у далоні і агульнай весялосцю.

Дзякую табе, цесценка,
Негдзе твае пірагі
У медзяной печы былі,
Да хараша яны раслі,
Залатым вяслом выйманы,
Бальшаначкам даваны.

Перад тым як пачнецца частаванне гасцей, свахі спяваюць:

Дзьмецца сваццуя, дзьмецца,
К нам не хінецца,
Каля прыпечку трэцца;
Чы мы ей не любы,
Чы мы ей не мілы?
Мы госці зазваныя,
Любыя, каханыя.

Нарэшце падаюць гасцям гарэлку, міску капусты і надзяляюць іх падарункамі — палатном, паясамі. Мужчыны і свахі пяюць:

Казалі нам людзі,
Што наша Агатка
Не ткаха,
Не праха.
Аж наша Агатка
І тонка прала,
І звонка ткала,
І бела бяліла,
І ўсіх сватоў дзяліла.

Наш сват-салавейка,
Частуй нас харашэнька.
Мы госці зазваныя,
Любыя, каханыя.
Калі мы не зналіся,
Сватамі не зваліся;
А цяпер пазнаёмся,
Сватамі назавёмся.

Казалі нам людзі:
Хоць едзьце, не едзьце,
Ваш сват не багат.
Аж у нашага свата,
Да з явару хата,
Залатое падстрэшша,
Сенечкі з паперачкі,
Лавачкі з кітаечкі,
Печ яго кафляная,
Чэсць яго каханая.

Песня дзяўчат:

Яліначка зіму і лета зелена,
Наша Агатка не штодзень весела.
У суботу касу часала,
Слёзкі разлівала,
У нядзелю рана да шлюбу ехала.
У нядзелечку параненечку
Агатка сенцы мяцець,
Венічкам махнець,
Жаласна плачаць.
У яе мамачка пытаець:
— Чаго, мая дачушка любая,
Так жаласна плачаць?
Чы ты жалуеш старасці маёй?
Чы падворыйка майго?
— Мая мамачка, мая родная!
Усяго я жалею: жалею старасці тваёй,
І падворка тваяго, жалею касы русай,
Усяей дзявочай пакрасы.

Песні для сірот:

Хто ў полі паціхусеньку гукаець?
Там Агатка сваёй мамкі шукаець.
Хоць шукаець не шукаець — не знайдзець.
Ой, далёка яе мамачка, далёка,
У сырой зямлі, у жоўтым пяску глыбока.
Да зрабілі добрыя людзі вечны дом,
Без дзвярэй, без аконачка, без слонца,
Не прамоўлю, дзіцятка, ні слоўца.

Чые то слёзкі з гор каціліся?
Агатчыныя слёзкі з гор каціліся,
Пяскі разрывалі,
Мамачкі даставалі.
Далёка мамачка, за трыма замочкамі:
Першы замочак — сасновы церамочак;
Другі замочак — жоўты пясочак;
Трэці замочак — дошкі сасновыя.
Сасновыя дошкі ды сціснулі ножкі,
Да сціснулі ножкі — нельга мне крануць;
Сырая зямля грудцы налегла — нельга крануць;
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — нельга пагглянуць,
Сырое каменне пазабоччу ляжыць — нельга павярнуць.

Знаць, Агатка, па вяселлі,
Што не татачка даець,
Што не татачка родны благаславіць.
Двор вялікі, збор невялікі:
Бо не ўся радня.
— Пашлі, Агатка, хоць салаўя
Па мілага роднага татачку.
— Салавейка пашлю па татачку,
Сама пайду на Украіну
Па сваю любую радзіну.
Салавейка ляціць да не далятае.
Татачка мой родны дагадаўся:
— Ляці не ляці, мой салавейка,
Ужо мне не уставаць.
Рад бы я ўстаць,
Да свайму дзіцяці парадачак даць,
Да сырая зямля грудцы налягла,
Нельга мне ўстаць.

Дзяўчаты пачынаюць прыбіраць маладую. Яны сыплюць у лубянку жыта, кладуць наверх паленцы і садзяць маладую на вывернуты кажух. Затым дзяўчаты заплятаюць яе косы, прытым моцна, так, каб закоснікам цяжка было іх расплесці, і надзяюць на галаву вянок са стужак.

У Васількі на дварэ стаіць бяроза для плота,
Кала таей бярозы бярэзнічак,
А на таеї бярозцы лісточак,
А на лісточку расіца.
Аж то не бяроза — да Агатка,
Не бярэзнічак — да дзевачкі,
Аж не лісточак — а дружачкі,
Аж не расіца — слёзачкі.

Маладая ўстае, кланяецца тым, што стаяць каля яе. Пабраўшыся за рукі, усе ідуць за стол.

Агатка за стол ідзець,
Шубачку ў руках нясець.
— Дзевачкі, дружачкі,
Не трыце шубачкі:
Бо не тут яна спраўляна.
Шылі яе краўцы немцы,
Бралі сукно у Кралеўцы,
У Кралеўцы — у горадзе,
Прыслана мне, моладзе.

Дзяўчаты садзяцца каля маладой, закоснікі — на зэдлі. Падаюць гарэлку і закуску. Кожная з дзяўчат і маладая бяруць па квалачку хлеба і, памакнуўшы ў соль, хаваюць за шнуроўку.

Ішла Агатка з поля,
Нясла краскі у прыполе,
Звіла вянок пры столе,
Пакаціла па стале,
Задала жаласці ўсёй сям'і,
Не так сям'і, як татцы і мамцы.
Агатчына мамка ў канцы стала стаіць,
На дзевачак глядзіць.
— Усе дзевачкі як дзевачкі.
Адно маё дзіцятка слёзкамі заліваецца,
Слёзкамі заліваецца, валаскамі уціраецца.
Па чым жа пазнаці калінку ў лузе?
Нізенька сядзіць, беленька цвіце.
Па чым жа пазнаць Агатку у мамкі?
Між дзевак сядзіць, жаласна плачаць.
Да дубу, зязюлька, да дубу,
Час табе, Агатка, да шлюбу.
— Што табе, зязюлька, да таго,
Есць у мяне татка для таго.
Благаславіць пайсці — я пайду,
Пасцеліць ручнічок — я стану.
Паставім цэркву на крутым беражку,
На дробнай жарствіцы, каб добра хадзіць,
Пана бога прасіць:
— Дай жа, божа, долю,
Шчаслівую гадзіну
Нашаму чалядзіну.

Закоснікі ўскокваюць на лаву, адзін з іх просіць паблаславіць: «*Ёсць тут бог, бацька, матка, хрышчоныя і радзоныя, суседцы блізкія і дальныя,— благаславіце краснай панне касу расплятаць*». Закоснік паўтарае сваю просьбу тры разы; расплятаюць касу, якую потым нельга ўжо заплятаць ніколі (дзяўчына пасля запоін не заплятае касу, толькі звязвае валасы стужкай). Дзяўчаты спяваюць:

Благаславіце, людзі,
Блізкія суседзі,
Гэтаму дзіцяці
Да шлюбу стаці.

Дзяўчаты ідуць за стол, маладая нізка схіляецца перад кутам, дзе ёсць абраз, і, плачучы, спявае:

Таткаў куточак,
Божы дамочак,
Благаславі да шлюбу ступіць!
Калі ты благаславіш,
Сам бог благаславіць.

Сірата дадае:

Мяне маладу,
Мяне сірату.

Дзяўчаты спяваюць:

Скочыла Агатка з лаўкі далоўкі,
Скланілася мамцы нізка ў ножкі,
Коркамі зямельку парыла,
Слёзкамі ножкі памыла.

Маладая падае да ног бацькі і маткі, абхоплівае іх і, усхліпваючы, просіць:

Да мой татачка! Благаславі мяне да шлюбу ступіць,
Калі благаславіш — сам бог благаславіць.

Дзяўчаты спяваюць:

Карыся, Агатка, старому,
Кланяйся і малому;
З паклону галоўка не баліць,
Стары і малы благаславіць.

Маладая абходзіць усю сваю і жаніхову радню, абдымае ўсіх па чарзе і з плачам просіць блаславіць. Хлопцы тым часам садзяцца на коней, старэйшыя мужчыны, а таксама жанчыны — на

вазы. Закоснікі едуць паперадзе, маладая — з дзяўчатамі (бальшанкамі) за імі.

Закладайце сянца,
Паедзем да вянца,
Да нет ксяндза дома,
Паехаў да Львова:
Ключыкі купляць,
Цэркаўку адчыняць,
Двое дзетак вянчаць.
Дзеткі не аднолеткі,
Не аднаго айца:
Першае радзонае,
Другое судзонае.
Яначка радзоны,
Агатка судзоная
Яначку аддадзёна.

Маладая, сеўшы, кланяецца на ўсе бакі. Калі маладым выпадзе ехаць каля млыну, мельнік застаўляе застаўкі. Маладая дае мельніку пояс, каб той ізноў пусціў ваду,— інакш ехаць далей нельга. Такі існуе забабон.

Ехала Агатка да вянца,
Сыпала золата з рукаўца.
Хто гэта золата пабярэць,
Той мяне на вянец павядзець.
Пабярэць золата меншы брат,
Павядзець на вянец большы сват.

Ехала Агатка да вянца,
Зламала бярозку з вярха.
Будзь, мая бярозка, без вярха,
Чы будзеш такава, як была?
Не будзець веццейка шумець,
Не будзець лісцейка шумець.
Будзь, мая мамачка, без мяне,
Але не будзеш такава, як пры мне:
Не будзець ножка раэута,
Не будзець пасцелька паслана,
Не будзеш мамкай названа.

За варотамі трава-мурава золатам пасыпана,
Агатка ішла, золата нясла, золата рассыпала.
За слёзкамі за дробнымі золата не сабрала,
За жаласцяй за вялікай мамачкі не пазнала.

Да вянца, Агатка, да вянца
Да не забывай грабянца,

Да падай, Яначка, грабянец.
— Я ж табе, Агатка, не маладзец,
Што буду падаваць грабянец.

Зажурылася Агатка,
Што рана зімачка настала,
Сняжком рутачка прыпала:
Не з чаго маладзе вянка звіць
Ды на галоўку ўзлажыць.
Зачуў жа гэта Ячачка:
— Да не журыся, Агатачка,
Я ўчора на таргу прабываў
І табе вянок старгаваў,
Хоць не руцяны, але пярловы,
Абы быў да шлюбу гатовы.

Бог табе даў, Ячачка,
Што твая Агатка багата:
Не паедзеш ў Вільну па ўборы,
Прыбярэцца яна ў камсры
Да надзенець шубу
Да шлюбу:
Белы каўнер, як з паперы,
Чорныя саболі у крыле,
Жоўтыя лісачкі у рукавы.

Дым, дым па даліне,
Шум, шум па дуброве,
Агатка ■ вянцу едзець,
Свечкай накурона,
Хустачкай нахілёна.
Агатачка на бога наракала,
Сырую зямлю праклінала:
— Сырая зямля, сырыца,
Узяла маю мамачку старую,
Пакінула мяне маладую
З кудравай галавою.

Прыехаўшы да царквы браць шлюб, маладая павінна кожнаму, хто там стаіць, пакланіцца. У царкве яна становіцца з дзяўчатамі ля сцяны. Малады і дружка ідуць па маладую; дзяўчаты не аддаюць яе, пакуль яны ім не паклоняцца. Некаторыя не хочуць кланяцца і адбіраюць маладую сілай. Малады вядзе маладую за руку з левага боку і ставіць на разасланы ручнік; сваячка маладой, паслаўшы ручнік, павінна даць дзяку пояс.

У час вянчання ўсе звяртаюць увагу на тое, як гараць свечкі. Па яркасці гарэння мяркуюць аб шчаслівай будучыні. Калі, ба-

рані божа, свечка патухне, то гэта, на іх думку, азначае няшчасце.

Выйшаўшы з касцёла або з царквы, дружкі спяваюць:

Мы былі ў касцеле,
Стаялі пры сцяне,
Маліліся богу і духу святому.
Наш ксёндз маладзенькі,
Да вусок залаценькі,
Бародка шаўкова,
Галоўка кудрава,
На ём чырвоныя квецці,
Звязаў нашыя дзеці.
Дзеткі не адналеткі,
Не аднаго айца, маткі:
Первае радзонае,
Другое судзонае,
Яначка радзоны,
Агатка судзона.

З касцёла заходзяць у клябаню. Малады павінен мець кварту гарэлкі і пірог. Ксёндз, запісаўшы маладых у касцельную кнігу, частуецца гарэлкай. Затым усе едуць да маладой.

З гары, з гары, з далі
Беглі конікі чатыры,
Вязлі карэтаю сіняю,
Звязалі Агатку сільна.
Да не дарма яе звязалі,
Звязалі за грошы.
— І харош, і прыгож, і вялік,
Чаму не прывёз чаравік?
— Як жа я маю вазіць,
Калі яна не ўмее насіць.
— Хоць чырвоныя прывязі,
Буду насіць па гразі.
Зажыгай, мамка, свечку,
Да выходзь на сустрэчку,
Да выходзь, мамачка, проціў нас,
Да вітай кубачкам усіх нас,
Да пытайся ў дачкі, чы твая?
— Не твая, мамачка, не твая,
Да таго пана, караля,
З кім я на шлюбе стаяла,
За белую ручку дзяржала,
Залаты персцень мяняла.

Маладога з дружынаю саджаюць за стол, на *куце*, а маладую з яе таварышкамі — насупраць печы. Падаюць гарэлку і закуску.

Па бару, па верасу раёвыя пшчолкі,
А ў Васілька на куце шлюбовыя госці,
Да п'юць яны зялёнае віно, мёдам запіваюць.
Хвала ж табе, божа,
Што на нашым стала,
Што мы раненька ўсталі,
Ксяндза ашукалі,
Да не дорага аддалі:
За сваю паненку
Цэлую капейку,
А за таго маладога
Паўзалатога.

Усе ідуць танцаваць. Забавам няма канца. Пад вечар дружына збіраецца за сталом. Падаюць гарэлку і закуску. Маладых частуюць асобна ў істопцы, куды ім прыносяць на патэльні яечню, якую яны павінны есці адной лыжкай — каб і ў далейшым жыцці ўсё ў іх дзялілася напалам. Дружыну маладога кормяць два разы. Пасля таго як маладыя пад'ядуць у істопцы, яны ідуць у хату. Малады далучаецца да сваёй дружыны за сталом, а маладая садзіцца на калені мацеры, якая сядзіць насупраць печы. Плачучы, маладая спявае:

Мая мамачка,
Прыступ ■ столачку,
К майму славечку!
Не сына жэніш,
Не нявестку бярэш,
Мяне, маладзеньку, аддаеш.
Мая мамачка, што ж табе лягчэй:
Чы малую было хаваць?
Чы цяпер з сулоння аддаваць?

Малады зачэрпвае кубкам або чарпаком гарэлку ў ражцы, што стаіць на стале, і гаворыць да маладой: *«Агатка, п'ю на цябе пойным кубкам, шчырым сэрцам, добрым здароўем, што мыслю сабе, то і табе!»* Малады паўтарае гэта тры разы, за трэцім разам выпівае. Маладая на кожны яго зварот адказвае плачучы: *«Чужы, чужаньцін, не пій на мяне, пій сам на сябе, на сваю сястру, што для цябе сядзіць, што з табой гаворыць».* Дзяўчаты спяваюць:

Шаўковая нітачка к сцяне льнецъ,
Агатка з мамкай чолам б'ець,
Дабранач мамцы аддаець:
— Дабранач, мамка, дабранач,
Не той дабранач, што нанач,
Але той дабранач, што на ўвесь век,
Не на адну мяне, але на ўвесь свет,
Не на адну ночку, а на ўвесь век.

Жаль нам, Агатка, на цябе,
Што ты нас гоніш ад сябе.
Чы мы табе косачкі не плялі?
Чы мы табе вяночка не вілі?
Плялі табе косачку ў чатыры рады.
Не будзем плясці ні разу,
Не будзеш у таткі ні года.

Бацька (або брат) бярэ маладую і адводзіць на кут да маладога. Яна, плачучы, спявае:

А мой татачка, за ручку бярэш
Чы за постаць вядзеш?
Калі за постаць — займай шырока,
Паганю далёка.

Сеўшы паміж сястрою і мужам, маладая, не перастаючы плакаць, спявае:

Цяпер я села між шыпшынічку,
Між крапіўкі.
Жыжка крапіўка пажыгаць будзець,
Сухі шыпшынік сушыць будзець.
А мой татачка, аддавай і пытай:
Каб не прапою,
Каб не разбою.
Калі прапою — у карчме прап'ець,
Калі разбою — на дарожцы заб'ець.

Бацька гаворыць маладому:

*«Зяцелка! Даю табе дачку не храмую, не сляпую. Даўшы лёну, прасі сарочкі; даўшы жыта, прасі хлеба; даўшы ячменю, прасі круп; а калі таго не паслухаець, вазьмі нітку, навяжы на саломку да дай, дай; а калі таго не паслухаець, вазьмі гуж да дай, дай гужам, каб звала мужам».*

Матка маладога падстрыгае маладую, кладзе на галаву тры пасмачкі лёну, прыпальвае накрыж свечкаю валасы, а сястра маладога падстрыгае іх нажнічкамі. Свахі ў гэты час спяваюць:

На сінім азёры сядзела лебедзька,
Крылкамі апусцяся, пер'ейкам асыпяся.
Прыляцеў к ёй лебедзь:
— Белая мая лебедзька,
Узнімі сваё крылле,
Збяры сваё пер'е,
Паляцім з табою, гдзе галубы зляталіся,
Нас з табой спадзяваліся,
Цёплае гняздзечка ўюць,
Беленькай лебедзькі ждуць.
Да за новай скам'ей сядзела Агатка,
Коскамі апусціўшыся,
Слёзкамі абліўшыся.

Прыехаў Яначка:
— Мілая мая Агатка,
Збяры свае коскі
Да ўтрый жа дробныя слёзкі.
Паедзем з табою да свайго дому.
У нас госці з'язджаліся,
Нас з табой спадзяваліся;
Белае ложа слалі,
Зёлкі ў галоўкі клалі,
Нас маладзенькіх ждалі.

Дзяўчаты:

Матка дачку прапіла,
Машну грошы набіла,
Воласам зашыла,
Голасам завыла.
Прапіла матка дачку,
На салодкім мядку;
Да ўпіўшыся, скачаць,
А выспаўшыся, плачаць.

Тут свахі здымаюць з галавы маладой лён, падбіраюць яе валасы ўгору, завязваюць, закручваюць і прыціскаюць ільняной пасмачкай. Гэты лён, абшыты сукном, яна павінна насіць заўсёды, яго завуць тканкаю. Затым пачынаюць надзяваць ёй чапец або шапачку, якую маладая тры разы скідае з галавы,— раз на печ, другі раз пад лаву:

Нашто мне чапец,
Я кіну на печ.
Нашто мне тканка,
Кіну пад лаўку.

Трэці раз маладая хоча выкінуць яго за акно, але ёй не дазваляюць і «сілаю» абвязваюць яе галаву новай белай наміткаю. Пры гэтым свахі спяваюць:

Хвала ж табе, божа,
Надзелі Агатцы чапец,
Да не кідай жа яго на печ.
Улажылі Агатцы тканку,
Да не кідай жа пад лаўку.
Чарнец Яначка, чарнец,
Да ўлажыў Агатцы чапец,
Да на чэпчык — намётку,
Прыбраў, як лябёдку.

Дзяўчаты пляскаюць у ладкі, ускокваюць на лаву і стараюцца ўдарыць маладога, пацягаць яго за валасы. Пры гэтым спяваюць:

Бяры, блазняк, бяры
Да ўмей шанаваці,

Як родную маці,
Як вішаньку ў садзе,
Як пшчолачку ў мядзе.
У нас была работніца,
У вас будзець свавольніца;
У нас была — ткала і прала,
У вас будзе папіхайла.
Наша Агатка — сыр наліты,
Ваш Яначка надуты.

У вашага Яначкі аўсяныя зубы, ячны нос,
Бруха з начоўкі, ледзь прывёз.
Наша Агатка з верая,
Ваш Яначка з вераб'я.
Едзьце, сваты, да дому,
Мы вам Агаткі не дадзём:
Бо наша Агатка сястрыца,
З намі ў ягадкі хадзіла,
Да ў адну лубачку збірала,
З адной лустачкі ядала.
Ужо позненька,
Ужо не раненька,
Сонечка на заходзе,
Да ўжо Агатка маладзенька
У мамкі на выездзе.
Яе мамачка, яе родненька
Сільненка ўнімаець:
— Не едзь, дачушка, мая любая,
Ужо рожа зацвітаець,
Барвіночак зелянееець,
Зямлю ўкрываець.
— Мая мамачка, мая родная,
Мне ўжо рожы не даждаць,
З барвіночкі зялёнай
Вяночка не звіваць.
Гдзе буду жыці,
Хоць буду выці,
Да ўжо мне не насіці.

З нядзелі на панядзелак
Васільку бяда стала.
Прыпала скрыня малявана,
Дачушка кахана.
Я тваю скрыню маляваную
За дзень прызабуду,
Сваёй дачушкі каханай
Павек не забуду.

Да гуляй, гуляй, шчука-рыбачка, у сінім моры,
Як жа ты пойдзеш на лугі, рэкі — не будзеш гуляць:
Уловяць цябе маладыя рыбаловы

Да знімуць з цябе залатую лускавіцу,
Пакроюць рыбачку на стальніцы
У святліцы,
Згатуюць рыбачку маладыя кухары,
Да з'ядуць цябе панове сенатарове.
Да гуляй, гуляй, Агатка, у роднага таткі,
Пойдзеш к чужому,
Да не радному,
Не будзеш гуляць.
У свайго татачкі крутыя горы,
Да гуляла паволі,
А ў чужога ўсё поле роўна,
Да гуляць не вольна.
У свайго таткі штодзень —
Галоўка ў вяночку,
А што нядзелю — у таночку;
А ў чужога татачкі
Будні дзень у рабоце,
А святы — у балоце.

Чаму, Агатка, не вячэрала у свайго татачкі?
Пойдзеш к чужому,
Да не радному,
Не будзеш вячэраць.
Цябе маладу
Пашлюць па ваду,
Самі сядуць вячэраць:
Прынясі вады,
На сябе бяды,—
Каждаму піць даць:
Як старому,
Так маладому,
Яначку маладому.
Не сварыся, мамачка, са мною,
Сядзем жа мы павячэраем з табою.

Хоць ты мяне, татка,
Малую замуж аддавай,
Толькі мне ў сваю хатку
Чужога не прымай.
Прыняўшы зяця, толькі будзем сварыцца:
Не буду ведаць, за каго ўступіцца.
Уступіўшыся за татачку, буду біта,
Уступіўшыся за мілога, вонка быць.

Баліць мая галоўка ад вянца,
Не аддавай, мой татачка, за ўдаўца.
Аддай мяне, мой татачка, у сям'ю —
У сям'і ёсць падарачак усяму.
У істопку таўчы, малоць — залоўкі,
А ў крыніцу па вадзіцу — я маладая.

Да мой татачка пакінаўся мною,
Як не любаю, як садавым яблачкам недаспеленькім.
Не бядуй жа ты, сястрыца мая,
Я ж буду недалёка ад цебя.
Будзем у чыстым полі жыта жаць.
І раннай, і вячорнай зарою
Зойдуцца нашыя галаскі з табою.

Бяруць века дзяжы, кладуць на яго суконную спадніцу; бацька прыносіць цэлую булачку хлеба, крыху солі і гаворыць: *«Дару цябе, дзіцятка, хлебам-солей»*— і кладзе на хлеб грошы.

На гэта не спадзявайце,
Да рана ўставайце,
Адно другога пабуджайце.

Дзяўчаты спяваюць:

Добрая, Агатка, твая доля,
Што цябе татка дарыць.
Шчаслівa будзець гадзіна,
Цябе дарыць уся радзіна.

Дружка з лучынкаю ў руцэ становіцца на ўслон, стукае палкай у столь і кліча ўсіх дарыць маладую, якая, паплакваючы, спявае да бацькі:

Да мой татачка,
Шчыра табе рабіла,
Верна служыла,
Выслужыла хлеба кусочак,
Солі драбочак.

Маладая сядзіць, закрытая новай наміткаю, і не бачыць, хто ёй што дорыць. Дружка абвяшчае: *«Агатка, дарыць цябе брат»*. Дораць грашыма, цялушкаю, авечкаю, свінкаю, палатном, хто чым хоча. Дружка падрабляе голас жывёлы, якую дораць, і выплёсквае крыху гарэлкі ўгару — каб жывёла добра вялася, вось так высока падскоквала. Пры гэтым ён папярэджвае, што трэба абавязкова аддаць маладым абяцаную жывёлу; хто не аддасць, ён жадае, каб тую жывёлу ваўкі з'елі. Маладая, плачучы, дзякуе:

Да мой брахненька,
Дзякую табе за дары вялікія твае.
Калі жыва буду да спамагуся,
Табе адгаджуся;
А калі не табе,
То дзеткам тваім.

З такімі прыкладна словамі звяртаецца яна да ўсіх блізкіх сваякоў, а далёкім кланяецца. Бальшанкі дораць паясамі або палатном.

Пасля дарэння маладая схіляецца перад кутам і галосіць:

Таткаў куточак,
Божы дамочак,
Заставайся здароў,
Жыві багата.

Перад ад'ездам маладая кідаецца ў ногі матцы і развітваецца:

Мая мамачка,
Заставайся здарова,
Жыві багата,
Не забывайся на мяне маладую.
Калі буду жабраваці,
Варотца адчыняйце,
Нанач пушчайце,
Хоць па кусочку хлеба давайце.

Гэтак жа сама маладая развітваецца і з бацькам. Развітваючыся ■ астатнімі членамі сям'і, яна па чарзе абходзіць іх і абдымае за шыю.

Свахі спяваюць:

Хоць я ночкі не спала,
Я сваю свацьку ашукала.
Сабе нявехну даждала:
Да к сцюдзёнай зіме — плацце праць,
А к краснай вясне — кросны ткаць,
А к ціхаму лету — жыта жаць,
А к цёмнай ночы — на таку малаціць.

Прыбірайцеся, брахны,
Пара нам дамоў ехаць.
Доўгая дарожачка:
Чатыры мілі борам ехаць,
Пятую морам плысці.
Хоць бы мы морам плылі,
Абы мы дома былі.
Паедзем дамоўкі
Цераз валатоўкі,
Наша дарожка доўга,
Цераз дарожку рэчка,
Цераз рэчку кладка,
Будзе сварыцца матка,
Што нас доўга нет.
Паедзем к Вайцеху
На даўнюю ўцеху:
Гдзе мы пілі, елі,
Добрыя мыслі мелі.

Ноч па ночы, цёмненькая ночка,
Зажурылася саколіка цырачка:
— Да зачым жа майго сакала доўга нет?
Негдзе ён цераз сады паляцеў,
Негдзе яго ўсе птушачкі злюбілі,
Негдзе яго на быліначцы садзілі,
Негдзе яго ягадкамі кармілі,
Негдзе яго з лісціначкі паілі,
Негдзе яго шэрай зязюлькай дарылі.
Ноч па ночы цёмненькая ночка!
Зажурылася Яначкі мамачка:
— Зачым жа гэта майго сыночка доўга нет?
Да негдзе ён цераз места ехаў,
Негдзе яго мяшчаначкі злюбілі,
Негдзе яго за столікам садзілі,
Негдзе яго піражкамі кармілі,
Негдзе яго зялёным віном паілі,
Негдзе яго краснай дзеўкай дарылі.

От табе, мамка, шышкі у пяткі,
Што няма каму мясці хаткі.
Ой, цяжка табе будзе без дачкі,
Парастуць па-за лаўкай казлячкі.
Людзям трэба ў бор хадзіць,
А табе будуць па-за лаўкай радзіць.

Усе садзяцца за стол, а свахі спяваюць:

Да я гаварыла: сакалы лятуць!
Аж мае брахны на коні сядаюць;
Я гаварыла, што месяц усходзіць,
Аж мой татачка па дварэ ходзіць,
Мяне маладую праводзіць.

Наступае час ад'езду маладой пары да бацькоўскага дому. Сустрэча яе і частаванне ўсіх удзельнікаў вяселля з'яўляецца астатнім актам урачыстасці і вясельных абрадаў. Усе папярэднія абрады і песні або адлюстроўвалі вясковае жыццё, працу, гаспадаранне, а таксама непазбежныя ў сямейным жыцці прыкрасці і няшчасці, або выражалі пажаданні долі на будучае і поспехаў. Дзе-нідзе, аднак, прабіваюцца ў песнях адвечныя звычаі, характэрныя толькі для часоў язычаства. Як і ва ўсіх іншых народаў, у нашым простанароддзі дзявочая цнатлівасць, акружаная якімсьці рэлігійным арэолам, з'яўляецца сімвалам дабрачыннасці і шчасця для таго дому, у які ідзе маладая, а таксама доказам пачцівасці яе бацькоў, што здолелі належным чынам выхаваць сваю дачку. Даўней нашы земляробы жадалі мець гэтыя доказы. Маладая, якая паддалася слабасці, траціць павагу, просіць, прыніжаная, прабачэння. Уся ўрачыстасць сапсавана, і не ўсе цяпер

абрады выконваюцца. Цнатлівая нявеста, наадварот, яшчэ больш ганарыцца сабой, яна прыносіць у дом радасць, весялосць і надзею, становіцца прадметам усеагульнай пашаны.

На воз, на якім маладая пара павінна ад'язджаць дадому, кладуць падушку і белую кашулю, загорнутыя ў прасціну і завязаныя поясам. (Пояс гэты застаецца дзяўчыне, якая па прыездзе здымае пасцель з воза і адносіць яе ў лазню або ў асець.) Маладая садзіцца з мужам і, паплакваючы, спявае:

Таткава ніўка, да не ўлякайся:
Радзіла пры мне, радзі і без мяне.
Добрая доля, да ідзі за мной,
З печы пламянём,
З хаты камінам.

За возам едуць два закоснікі, а таксама свахі. Пад'ехаўшы да дому маладога, свахі спяваюць:

Звонка дзерава каліна,
Да борам ішла — шумела,
А полем ішла — звінела,
А к двару ішла — гаварыла:
— Адчыні, мамачка, новы двор,
Вязём нявехну, як явор;
Адчыні, мамачка, аконца,
Вязём нявехну, як слонца;
Адчыні, мамачка, вяршочак,
Вязём нявехну з каршошак;
Адчыні, мамачка, хіжа,
Вязём нявехну грызе.

Калі маладыя едуць праз сяло, хлопцы запальваюць пасярод вуліцы куль саломы. Каб яны патушылі агонь і прапусцілі вяселле, ім даюць пояс. Пад'ехаўшы да самага дому, вяселле спыняецца перад дзвярамі і чакае, пакуль не выйдзе з векам ад дзяжы матка. Маладая нізка кланяецца ёй і, схіліўшыся, стаіць пакорна, пакуль матка, крануўшы векам галаву нявесткі, не скончыць наступнай прамовы: *«Свякроў нявехну навучаець да ў лоб векам лучаець: не хадзі, нявехна, па сялу, не судзі аб маю сям'ю, ні ранняго абеду, ні познай вячэры».* Пасля гэтага маладая кладзе на века пірог, загорнуты ў палатно. Малады, падаўшы руку, праводзіць яе ў хату. Увайшоўшы, маладая кідае на печ пояс. Свахі пачынаюць спяваць:

Мілыя мае сватове,
Чы добра было ў дарозе?
Чы белыя былі тарэлкі?
Чы давалі вам гарэлкі?

— Да добра было ў дарозе,
Да белыя былі тарэлкі,
Да давалі нам гарэлкі.

Прыезджых садзяць за стол і частуюць; усім, хто ёсць у доме, даюць гарэлкі. Маладым жа, калі маладая аказалася цнатлівай, падаюць па лусце хлеба з мёдам. Жанчына, якая падала гэты хлеб і прымусіла маладых есці яго, адбягаючы, спявае: «*Пятух курку маніць, на курасаднік садзіць, даець мёду есці*». Сястра маладога ў гэты час выносіць пасцель у лазню або ў асець, сцеле яе, на парозе пры выхадзе рассцілае кажух і чакае маладых. Першая пераходзіць кажух маладая, за ёю малады. Пасля гэтага сястра маладога дапамагае маладой распрануцца, складвае скінутае адзенне, падае ёй чыстую кашулю і выходзіць. Праз нейкі час малады пакідае маладую адну, сам выходзіць і пасылае да яе сястру. Маладая апранаецца, зноў надзявае вясельную кашулю, а тую, што была на ёй, аддае сястры маладога, якая бяжыць з той кашуляй у хату, скачучы, пляскаючы ў далоні і спяваючы:

Добрыя нашыя марозы,
Не змарозілі нам рожы.
Пакраса наша Агатка!
Да пакрасіла два двары:
Адзін дварок, гдзе расла,
А другі, гдзе прыйшла.
Гуляйце, прыданкі, у Агаткі каханай,
Да вялела нам маці
Харашэнька гуляці,
Слаўку учыніць
Да лаўку паламіць.
Да ў гародзе ячмень.
Ён золатам зацвіў,
Лепша таго злота
Агатчына цнота;
Калі наша Агатка швачка была,
Вышыла кашулю з падала... і г. д.

Прыбывае маладая, усім кланяецца. Затым бацькі праводзяць маладых у клець, частуюць іх салодкай гарэлкай і закускамі і падаюць яечню, якую маладыя ядуць адной лыжкай. Малады неўзабаве ідзе па прыданых і выязджае з імі да маткі сваёй жонкі з гэтай жа кашуляй, у якую павінна быць увязана жменя жыта і дзесяць або пятнаццаць грошай. Зяця, што прыбыў з братам, прымаюць як найлепш: садзяць за стол, частуюць усім найлепшым. Маладому кладуць за пазуху сыр, загорнуты ў куплёную хустку, а брату — рукавы. Запрашаюць родных, прыданых і іншую моладзь. Радасць ахоплівае ўсіх.

Учора з вячора
Перапёлка зляцела.
Мы сягодня светам
Перапёлчыным следам;
Гдзе мы яе ўследуем,
Там мы заначуем:
Там жа нам добра будзець,
Конікам аброк будзець.
Конікам будзець аброк, сянцо,
А нам самім мядок, вінцо.

Да умная, разумная дзевачка,
Паставіла старожачку на браду,
Сама села пад вішанькай у саду:
— Буду сядзець, буду глядзець пад зару:
Адкуль жа ясен месячык узойдзець,
Адтуль жа мае сястрыцы уз'едуць.
Да узойдзе ясен месяц з-пад зары,
Уз'едуць мае сёстры з-за гары.
Яны ж мне на намётачку прывязуць,
Яны ж маю галовачку прыбяруць,
Яны ж мяне з цямніцы выведуць.

Усе з музыкай адпраўляюцца ў дом маладога і па дарозе спяваюць:

Да ў чыстым полю прыданыя блудзілі,
Негдзе яны дарожку згубілі,
Да спаткалі маленькага хлапчынку:
— Такі-сякі маленькі хлапчына,
Укажы нам дарожку у сяло,
Куды нашая сястра вязёна,
Тая ўся дарожка мураўкай утрасёна;
Будзець нашая галовачка вясёла.

На двор маладога ўязджаюць з музыкаю і песнямі.

Прыданыя на двор едуць,
Куркі пад клець бягуць:
Не бойцеся, куркі!
Нямнога ж вас нада:
Сем на вячэру,
А осьмую на пячэнь,
Дзевятая на сняданне,
Дзесятая на ад'язджанне.

Вышла дзевачка на ганак
Да паслухала прыданак:
Чы не вязюлькі кукуюць?
Чы не салавейкі шчабечуць?
Аж не зязюлькі кукуюць,
Але мае радныя паюць,
Мне маладой весці даюць.

Маладая выходзіць з хаты сустракаць гасцей, усім кланяецца. У гэты час кубел з хатнім скарбам і бялізнаю ўносяць у клець. Таму, хто яго прывёз, малады дае столькі грошай, колькі на кублє абручоў. Уваходзяць у хату, садзяцца за стол і спяваюць:

Зціха, баяры, хадзіце,
Хорам не вярніце і г. д.

П'юць гарэлку, закусваюць.

Далі нам есць і піць,
Дайце пагуляць.
Дайце нам волю,
Пусціце ў камору,
Хаця б мы паглядзелі,
Гдзе нашу сястру дзелі,
Паглядзець на калінку,
Падняць пярынку,
Чы харашо развілася,
Па кашулі разлілася.

Прыданкі выводзяць маладую ў сенцы, каб завязаць ёй там на галаву хустку або намітку — у хаце гэтага рабіць нельга, бо ў ёй столь, на якой ляжыць пясок. Цяжарная жанчына ў гэтым абрадзе не павінна ўдзельнічаць — лічыцца, што праз гэта маладая цэлы год будзе драмаць. Маладым падаюць ваду — яны павінны разам памыцца ёю. Таму, хто прынёс ваду, маладая дорыць пояс, маладому ж дае белую чыстую кашулю. Затым яна садзіцца на лубцы, таварышкі завязваюць ёй хустку, накрываюць новай наміткай і спяваюць [3]:

Пасярод хаты стаіць печ,
Не умела Агатка печ перапеч.
Нечага на яе дзівавацць,
Бо нядаўна стала жанавацць:
Учора была дзявою,
А сягоння жаною.
Як мы захацелі,
Так мы нарадзілі:
З жыта палавіцу,
З дзеўкі маладзіцу.

Пашоў Яначка ў каліновы луг,
Наламаў каліны, колькі змуг.
От табе, Агатка, каліна мая,
Няхай гуляець радзіна твая.

---

[3] Кажух і сярмяга ў нашых сялян адвечнае ўбранне. Да шлюбу маладая, калі не вельмі горача, апранае сярмягу і кажух.

Гуляйце, прыданкі, гуляйце,
Жаднай трывогі не майце.

Маладая пара з прыданкамі ідзе з сянец у хату і садзіцца. Перад імі за сталом ставяць венік, за што маладая дае паясок. Абое робяць выгляд, што бяруць нешта рукамі і ядуць, пры гэтым кожны стараецца вымазаць другому твар. Прыданкі ж спяваюць:

Гдзе ж то свёкар дзеўся?
Знімі пакрывала,
Не сушы сем'яніна,
Свайго чалядзіна.

Бацька маладога, свёкар, узлазіць на лаву, бярэ з галавы маладой намітку, вешае каля абразоў на крук і выганяе маладых з-за стала розгаю з веніка. Маладая імкнецца выскачыць першаю. Калі яна цнатлівая, то пераскоквае праз стол і кланяецца бацькам, у адваротным жа выпадку абходзіць вакол стала, падае бацькам у ногі, як быццам просячы прабачэння. Усім прысутным дзецям маладая дае па пояску. Потым прыданкі садзяцца есці, а маладую знаёмяць з гаспадаркаю. Усім, хто ёй сустрэнецца, яна павінна даваць паяскі або па тры грошы. Прыданкі спяваюць:

Прыехалі прыданкі з Гданя,
Папрасілі ў Агаткі снядання.
— Пажджыце, мае сястрыцы, пажджыце,
Пакуль я сваю свякроўку пазнаю,
Тагды і вам снядання згадаю.
Адчыніце дзверы!
Да няхай вецер веіць:
Пад новыя лаўкі,
Гдзе селі прыданкі.
Здрыгнуліся лаўкі;
А чы так здрыгнуцца,
Як прыданкі пап'юцца!
Гдзе селі — запелі,
Гдзе сталі — заігралі;
Хто з кім прыткнецца,
То і піва нап'ецца,
Дзіва наглядзіцца.

Пачынаецца рух і *сваволя*. Госці, скачучы па лавах, стараюцца іх перавярнуць і паламаць: гаспадары, каб не дапусціць гэтага, чым-небудзь падпіраюць лавы. Калі гасцям удаецца іх задума, то яны хваляцца, што ім вельмі добра было — дазволілі нават паламаць лавы! Забавам няма канца: закоснікі ловяць курэй, рэжуць, гатуюць — усё дазваляецца, калі маладая вартая таго. У адваротным выпадку гасцям няма ні такога прыёму, ні

свабоды ў забавах, усе сядзяць засмучаныя. Ні скакаць па лавах, ні чапаць курэй у такім выпадку ніяк нельга. Наадварот, закосніку часам надзяваюць на галаву хамут і выганяюць. Інакш кажучы, гулянка бывае сапсавана. Пасля сваволі закоснікі садзяцца за стол. Перад імі ўвесь час стаіць гарэлка і закуска. Скрыпач жа маладога, які сядзіць ля закоснікаў, іграе, часам падпяваючы:

Мілыя закоснікі!
Чаму ж вы не вясёлы?
Чы вашыя конікі не ў злоце?
Чы ваша сястра не ў цноце?
Гэта ж вашыя конікі ў злоце,
Гэта ж вашая сястра у цноце.

На дварэ сняжок прыпаў,
Ой, рана, рана!
У Агаткі Янaчка прасіў:
— Агатачка, падай боцікі!
Агатка не паслухала,
Боцікаў не падала,
Вазьму ж я пужку-свістушку,
Да выганю бацькавыя гневы,
Да перавярну на свой абычай

Закоснікі-панічы,
Чаго ездзіце па начы?
— Да мы едзем трапой,
Да за русай касой,
Да за роднай сястрой.

Закосчак-верабей,
Чаго рана прыляцеў?
Чы есці захацеў?
Дайце яму грэчкі снапок;
Няхай клюець, як петушок,
Няхай скачыць, як белка,
Няхай пяець, як дзеўка.

Музыка і танцы працягваюцца доўга. Перад ад'ездам прыданкам даюць есці. Яны, пасадзіўшы з сабой за стол маладую, спяваюць:

Агатка, сястрыца мая!
Стань жа ты ў канцы стала.
Хаця мы нагледзімся,
Пакуль мы раз'едземся.
Агатка, сястрыца мая,
Ужо ж мы дамоў едзем,
Мы цябе научаем:

— Уставай ранюсенька,
Мый лаўкі бялюсенька,
Мяці хату чысцюсенька,
Каб табе не ўпікалі,
Што мы ў цябе гулялі.

— Паедзеце, сястрыцы, дамоўкі,
Пакланіцеся мамцы ў ножкі,
Што яна мяне маленькую хавала,
Трыццаць ночак цямнюсенькіх не спала,
Пакуль мяне маленькую выхавала;
Сорак свечак яснюсенькіх спаліла,
Пакуль мяне маленькую урасціла,
Урасціўшы, у чужыя людзі пусціла.

Прыданкі ад'язджаюць. Маладая, астаўшыся за сталом, плача. Хто-небудзь з сям'і маладога садзіцца каля яе і суцяшае, як можа.

### ПЕРАЗОЎ

На гэту апошнюю вясельную бяседу малады запрашае важнейшых і найбольш сталых асоб: хросных бацькоў, дзядзькоў, цётак і г. д. Яны прыносяць з сабой лубянкі, напоўненыя пірагамі, мочанымі макам з мёдам; аладкі ў смятане, смажаніну. Матка ўсё гэта дзеліць паміж сваімі. П'юць гарэлку і спяваюць:

У нас сягодня перазоў,
Сам бог перайшоў,
З святой тройцай, з прачыстай,
З усімі святымі, з шчасцем і доляй.

Госці гуляюць даволі доўга. Гаспадары прымаюць іх лепей, чым прыданак. Танцуюць мала. Старэйшыя больш за ўсё гавораць пра будучае жыццё маладой пары. Песні паўтараюцца тыя самыя, што спявалі прыданкі.

## БЕЛАРУСКАЕ ВЯСЕЛЛЕ

### Запісаў Р. Друцкі-Падбярэскі

*Прысвечана А. А. Ів-му*

Сярод іншых абрадаў простага народа на Беларусі асабліва вясельныя цырымоніі вылучаюцца як сваёй арыгінальнасцю (яны адрозніваюцца ад абрадаў у Маларасіі і іншых заходніх

правінцыях), так і багаццем вясёлых песень, якраз для гэтых выпадкаў складзеных. Нам здаецца, што самі тыя песні — плён народнай фантазіі і красамоўства, а часам і паэтычнага натхнення — перададуць гэтыя абрады лепей, чым любы расказ; такія расказы, у якіх вельмі дакладна апісаны простанародныя сцэны, міжволі становяцца або надакучлівымі, або пошлымі.

Бесклапотная, вясёлая 19-гадовая дзяўчына ў зацішнай беларускай вёсачцы, устаўшы разам з сонцам, спрытна ўвіхаецца па гаспадарцы: то рыхтуе ручную пражу, то дапамагае мацеры гатаваць снеданне для работнікаў, якія вернуцца з поля. Вырасшы пад родным дахам, яна не ведае іншага свету, не думае пра іншыя забавы, акрамя сціплых святочных сходак на прызбах з сяброўкамі, дзе спяваюцца песні, і пад старымі ліпамі вясёлая моладзь скача свой любімы танец *кругавую*.

Вось да вёскі яшчэ здалёку даносяцца гукі народнай дуды. Чуваць тупат і фырканне коней. Поезд набліжаецца, і ўжо ў двор з маленькай хатай высыпае вясёлы натоўп баяр [1]. Хлопцы ў святочных *світках*, белых або цёмна-сініх, у высокіх суконных *брылях*, або капелюшах без палёў, з рознакаляровымі стужкамі, якія ўюцца вакол галоў, сярод дзевяроў і кумоў, што папарна выстраіліся за сватамі, на чале з жаніхом, якога на Беларусі пачціва называюць *князем*. шумна ўваходзяць у дом нявесты, або княгіні. Тут жа пачынаюцца вітанні чаркамі і віншаванні гаспадароў [2].

Устрывожаная нечаканым прыездам сватоў, дзяўчына моцна чырванее, сціпла апускае вочы і, не адважваючыся зірнуць на суджанага, адварочваецца да сцяны. Збянтэжаная, яна калупае сухі мох паміж бярвеннямі ў сцяне.

Сваты патрабуюць адказу. Бацька і маці, паважаючы пачуцці і волю дачкі, рашучага адказу не даюць. Яна, засаромленая, усё яшчэ не паварочваючыся да сватоў тварам, доўга не адказвае на шматлікія пытанні. Толькі тады, калі яе з усіх бакоў акружаюць і настойліва просяць адказаць «так» ці «не», яна са слязьмі кідаецца ў абдымкі бацькі і ледзь чутна гаворыць:

Калі маўчу, знаць, што хачу...

Калі зроблена гэта прызнанне, прызначаецца дзень *заручын*, або заручэння. Госці ад'язджаюць. Дзяўчаты збіраюцца ў дом заручонай і да прыезду жаніха спяваюць нявесце:

---

[1] Баярамі панцырнымі ў казённых вёсках называюцца вольныя сяляне.
[2] Сярод песень адна пачынаецца так: «Наш бык да вашай кароўкі прывык».

Зялёная рутанька, жоўты цвет,
Да ўжо ж майго Пракопкі даўно нет.
Паслала б паслы — не смею,
Пісала б лісты — не ўмею.
Сама б пашла — баюся,
Шырокі гасцінец — мінуся!

Настае прызначаны дзень, і вось жаніх са сватамі з'яўляецца каля парога нявесты. Яна сядзіць, акружаная маўклівымі баяркамі [3], а ў гэты час сваццi вітаюць гасцей і дамашніх хорам. Спачатку звяртаюцца яны да маці нявесты:

— Ды не дай, не дай, мая мамухна, ад сябе,
Пераўімую гэту зіменьку я ў цябе!

Маці, быццам у адказ ім, спявае:

— Да нязьзя ж, нязьзя ж, мая дачушка, не аддаці:
Прыехалі тыя госцікі — што б цябе ўзяці!

Сваццi, старыя жанчыны, чокнуўшыся раз, другі чаркамі, пачынаюць крычаць, шумець і, звяртаючыся да сяброўак нявесты, якія сядзяць у паважным маўчанні, насмешліва спяваюць:

Псіцы баяркі, псіцы,
Сядзяць, як лісіцы:
Ні гарэлачкі не п'юць,
Ні песень не пяюць!

Пасля гэтага нявеста садзіцца ўжо сярод сваіх сяброўак, якія спяваюць, звяртаючыся да яе:

Чаму ты не плакала,
Як цябе маладу заручалі:
Залатыя пярсцёнкі перамянялі,
Горкаю гарэлкаю запівалі,
Салодкім пернічкам закусывалі?!

Абрад заручын так захаваўся ў народных песнях: вечарам, калі вясёлая дружына выпівае, брат нявесты таргуецца з жаніхом за касу сваёй сястры. Ён узлазіць на лаву ззаду яе і, закасаўшы рукавы па локаць, з прытворна суровым выглядам, быццам бессардэчны валадар, хапае леваю рукою касу дзяўчыны, якая плача, а праваю — нож і пагражае зараз жа адрэзаць цудоўныя валасы, калі жаніх не заплоціць яму выкуп. Доўга і ўпарта яны таргуюцца, але, нарэшце, справа ўладкавана, брат злазіць з лавы, а нявесце надзяваюць на галаву мужчынскі каўпак.

[3] Дружкамі.

Сваццi дзеля жарту зацягваюць песню, у якой асуджаюць брата нявесты:

Да й не брат, не брат, да татар,
Прадаў сястрыцу за таляр,
Да русаю косаньку за шастак,
А белае лічанька пайшло і так.[4]

Ёсць яшчэ адзін хвалюючы высокапаэтычны звычай, які сведчыць аб сардэчнай дабраце і пяшчотнасці простага народа. Гэта асаблівае ўшанаванне на вяселлі нявесты-сіраты. Я быў да глыбіні душы крануты, калі пры з'яўленні на парозе хаты сіраты-княгіні ўсе госці — старыя і моладзь — як адзін уставалі, чаго зусім не робяць на іншых вяселлях. Народ беларускі бедны, забіты і разам з тым вельмі добры па прыродзе. Ён умее спачуваць чужому няшчасцю. Народныя песні заўсёды праўдзівыя; а ў народзе песень, пазначаных сапраўды паэтычным добрым пачуццём, шмат. Вось адна для прыкладу:

Ах, знаць, знаць па вяселейку,
Што не бацюшка аддаець:
Двор вялік, а збор невялікі;
Нет у мяне радзінушкі.
Ой, сашлю, пашлю серу зязюльку
Па радзінушку.
Зязюлька ляціць —
Радзіна едзіць.
Ах, паслала б я салавеньку,
Да саловушка адказываець;
Ах, паслала б я зязюльку
Па свайго татульку;
Да за родненькім бацькам
Серая зязюлька не прылятаець,
А татулька адмаўляець:
— Рад бы я ўстаці
К сваему дзіцяці,
І парадушку даці;
Грабавыя дошкі
Сціснулі ножкі,
Да не могу я ўстаці.
Сырая зямля
Дзверцы залягла
І акошачка засланіла,
Майго бацюшку
На вяселікі не пусціла!

---

[4] Сюды адносіцца яшчэ адна песня, прыведзеная ніжэй «Наехалі госці...»

Так, яшчэ бедная сірацінка, рассцілаючы дробненькі лён на полі, думае аб смерці; у час працы, схіляючыся да зямлі, яна адчувае, што лепш бы ёй самой легчы ў сырую зямлю.

Зямля мая сырусенька,
Прыймі й мяне маладзеньку,
Як вішаньку саладзеньку!

Ва ўсім гэтым ёсць шчырае пачуццё, паэзія. Заўважым, што песні для сірот складаюць самы патэтычны і паэтычны бок духу беларускага народа.

Ой, рана, раненька
Дзевачкі, падружачкі,
Выйдзіце, паслухайце,
Ці шуміць дуброўенька,
Ці цвяціць багровый цвет,
Ці ездзіць завяжный свет?[5]
Ой, рана, раненька! (і далей).

Вось песня, пра якую мы ўпамянулі; яе пяюць дружкі нявесты, выглядаючы ў акно, калі князь і іншыя ўязджаюць у двор:

Наехалі госці
Із чужой валосці —
Поўный двор, поўный двор!
Угадай, мая Настухна,
Каторый твой, каторый твой?

Нявеста адказвае:

Што на каню сівым
Да ў жупане сінім —
Свёкар мой!
Што конь вараненькі
Да сам маладзенькі —
Дзевер мой!
А што ў атласе
На коніку плясе,
Вот то он, вот то он,
Вот то мой!

У дзень, калі прызначана вяселле, жаніх з нявестай выпраўляюцца з раніцы ў царкву. Па дарозе яны заходзяць у двор свайго пана і там робяць *паклоны*, г. зн. ходзяць з пакоя ў пакой і кожнаму, хто сустрэнецца, кланяюцца да зямлі, просячы *блага-славення.*

Жаніх едзе ў царкву верхам на кані. З ім едуць таксама два дзеверы ў белых або цёмна-сініх *світках*, у чырвоных або светла-

[5] Будучы муж, які *завяжа* і замкне для яе свет: цяжка прыдумаць што-небудзь лепшае

зялёных шапках, абшытых аўчынай. Да шапак прымацаваны тры доўгія чырвоныя або рознакаляровыя стужкі, якія ўюцца вакол галавы, раскідваючыся па плячах.

Услед за імі ў беларускай *калясе* едзе маладая; яе валасы заплецены ў тры тонкія касічкі, упрыгожаныя стужкамі, што ўюцца вакол яе. Побач з маладой сядзяць дзве *баяркі* і сваццi. Іншыя асобы, якія іграюць другарадную ролю ў гэтай сельскай меладраме, едуць ззаду на вазах. Калі вясельны поезд нявесты вяртаецца з царквы, госці, што сядзяць у другой калясе, спяваюць песні, падладжваючыся пад беларускую *дуду*, якая не сціхаючы, што ёсць моцы гудзе сабе ўсю дарогу звычайную, манатонную песню:

Паціраў я дуду,
Іх, вох!
На паповым лугу,
Іх, вох!
А не дудка была,
Іх, вох!
Весялуха была,
Іх, вох!
Весяліла мяне,
Іх, вох!
На чужой старане,
Іх, вох!

Калі прыедуць у хату, маладую саджаюць за стол пад песні сваццяў:

Кукавала зязюля цераз сад:
Пара ж табе, Малахна, на пасад!

На гэта яна ім адказвае:

А што ж табе, зязюля, да таго?
Ёсць у мяне мамухна для таго.
Яна мяне на пасад пасадзіць,
Яна мне раданьку парадзіць!

Позна вечарам, калі жаніх са сваёй дружынай збіраецца забіраць нявесту, сваццi замыкаюць дзверы і не пускаюць гасцей, растлумачваючы гэта тым, што жаніх быццам бы не харошы сабой, не варты прыгожай нявесты.

Кумы і сваты, якія стаяць на дварэ пад вокнамі, наадварот, горача, да нябёс узносяць у песнях жаніха. Такім чынам пачынаецца жартоўная спрэчка.

Голас з двара:

— Паглядзі, малада, у аконца:
Вот твой малады: як сонца!

Голас з хаты:

— Паглядзі, Таццянка, скрозь вяршок [6] —
Вон твой Тараска, як мяшок! і г. д.

Каб пазнаёміць вас з вясельным банкетам беларусаў, змяшчаем песню, адрасаваную *куратам*, або куранятам, якіх гаспадыня рыхтуецца знішчыць:

Госці на двор едуць,
Куркі пад печ лезуць,
Да не бойцеся, куркі,
Нямнога вас нада:
Сем, сем на вячэру,
Восьмую на пячэню,
Дзевятую на сняданне,
Дзесятая на ад'язджанне.
Гуску на закуску,
Індычку на затычку.

Калі госці ўсё паелі і папілі, сваццці выганяюць іх мётламі, напяваючы:

Дадому, сваты, дадому!
Паелі конікі салому,
І ўсю ячную мякіну,
І каля плота крапіву!..

Такое энергічнае дзеянне вельмі характэрнае для беларусаў [...] Жаніх з нявестай і гасцямі адпраўляюцца да сябе пад неадлучны акампанемент той жа дуды, якая пачынае вяселле і суправаджае сватоў да новай хаты маладой пад агульны спеў:

Пацяраў я дуду,
Іх, вох і г. д.

Нацыянальны кампазітар Ант. Абрамовіч напісаў на гэты сюжэт музыкальную паэму [7].

У першай частцы («Уступ») чуем далёкі, але ўрачысты гул дуды, які ўсё набліжаецца, потым тупат коней, вясёлы прыезд гасцей і інш.

У другой частцы («Сватанне») сваты гавораць спачатку прамову да бацькоў нявесты, расхвальваючы жаніха, потым паказана хваляванне дзявочага сэрца.

У трэцяй частцы («Скаргі нявесты») чуецца яе трывога за сваю будучую долю, плач; пачуцці, выкліканыя наведваннем магільнага кургана, над якім яна *галосіць*.

---

[6] Малое акенца ў столі для выхаду дыму.
[7] Мы маем у руках літаграфаваныя ў С[анкт]-П[ецяр]бурзе ноты для фартэп'яна (Wesele Białoruskie. Poema muzykalne, 1846).

Чацвёртая частка («Дзявочы вечар»): нявеста з дзяўчатамі; ціхая драма дзявочага сэрца, выказаная ў хвалюючых песнях.

У пятай частцы («Прыезд у царкву») чуюцца званы, шум урачыстага картэжа, паказаны момант уваходу ў храм.

У шостай частцы («У царкве») гучыць песня на вядомы напеў гімна: «О, спасіцелю, наш пане!».

У сёмай частцы («Благаславенне») аўтар вяртае слухача ў дом, куды прыехалі з храма,— віншаванні, напевы і інш. Нарэшце, у восьмай частцы («Скокі») чуецца нязграбная кругавая, народны танец, якім заўсёды канчаецца беларускае вяселле.

Гэта музычная паэма мае свае мастацкія вартасці, яна вызначаецца арыгінальнасцю ў адлюстраванні народных дум.

Мы спынімся яшчэ на хвіліну на кругавой — адным з самых любімых танцаў беларусаў [8].

Малады хлопец, знайшоўшы прыгожую дзяўчыну, бадзёра становіцца ў сярэдзіне круга, папраўляючы пояс. Чуюцца гукі дуды, і танцор спрытна абхоплівае стан маладой дзяўчыны, паварочвае і перакідвае яе ў такт гэтай дуды і скрыпкі, прытупваючы абцасамі і прыпяваючы вершаваныя двухрадкоўі.

Танцораў цэлы рад. Першы ў радзе выдумляе фігуры, якія дакладна паўтараюць усе астатнія. Кружацца ў адзін бок да таго часу, пакуль амаль не ап'янеюць; потым кружацца ў другі бок; увесь час мяняюць рукі і позы, як у даўнейшым паланезе.

Нягледзячы на тое што танец на выгляд жывы і рухавы, усё ж ён сумны, таму што аднастайны. З усіх танцаў заходніх правінцый ён найбольш блізкі да рускага народнага танца. Прыпевы ў час танца двухрадковыя і чатырохрадковыя, усе ў характары сатырычным і нагадваюць галіцыйскія каламыйкі. Вось прыклады:

Да мужоў:

Біла жонка мужа, рукі закасаўшы,
А ён жа ёй пакланіўся і шапачку зняўшы!

Да нецярплівай жанчыны:

Рада, рада была баба,
Што дзед утапіўся.
Ліха ж яму нагадзіла —
За куст ухапіўся!

Падобных прыпевак безліч, яны спяваюцца звычайна ў час святочных зімовых *ігрышчаў* (у Расіі такія прыпеўкі пяюць на вячорках (посиделках), на Украіне на *вечарніцах*).

---

[8] Напамінаем чытачу артыкул пра нацыянальныя танцы ў V томе [за 1848 г.] «Иллюстраций», с. 137.

Сапраўднае беларускае вяселле не можа абысціся без віншаванняў, самых напышлівых, без так званых *арацый*. Гэта ўвайшло ў звычай беларускага народа ад польскай шляхты, якая ў сваю чаргу пераняла яго ад езуіцкіх школ. Арацыі ўяўляюць сабой самае пацешнае заканчэнне вяселля. Яны сустракаюцца часцей сярод сялян на тэрыторыі былых езуіцкіх уладанняў.

Ёсць два тыпы арацый: адны выконваюцца перад вяселлем, калі старшы сват або пасаджоны бацька прыносіць ад жаніха кападарункі, другія — у час вяселля, сярод агульнай весялосці, калі найбольш красамоўны з прысутных (ці які лічыць сябе такім) узлазіць на ўслон ці стул (што ў іх называецца *стоўб*), як прафесар на кафедру, і, трымаючы ў руках два свежаспечаныя калачы, гаворыць доўгую павучальную прамову для маладых, вельмі смешачы ўсіх дасціпнымі выбрыкамі, пацешнымі жартамі.

Асабліва вылучаюцца напышлівасцю і бясконцасцю сваіх арацый віцебскія і полацкія мяшчане, якія імкнуцца ні ў чым не адстаць ад польскай шляхты.

## [ВЯСЕЛЛЕ НА БЫХАЎШЧЫНЕ]

### Запісала Е. Паўлоўская

Шлюбы адбываюцца незалежна ад згоды жаніха і нявесты: пары падбіраюцца бацькамі. Хлопец адносіцца да шлюбу, здаецца, зусім абыякава, таму што, жэнячыся, ён бярэ ў дом хутчэй работніцу для ўсёй сям'і, чым для сябе жонку. Такі погляд на жаніцьбу існуе ў простым народзе; шлюб па каханню без гаспадарчага разліку — з'ява рэдкая.

У *сваты* адпраўляюцца звычайна вечарам. Сватамі бываюць як сваякі, так і чужыя; часам на перагаворы да бацькоў абранай дзяўчыны выпраўляецца з яшчэ адной асобай нават бацька жаніха. Прыбраўшыся, з біклагаю гарэлкі, з пірагом і грашыма яны падыходзяць пад акно дома дзяўчыны, гавораць «Добры вечар!» і, пачуўшы «Здарова!», уваходзяць у хату. Калі ў гэты час дзяўчына дома, то яна знарок выходзіць куды-небудзь. Сваты, пачынаючы перагаворы, кажуць, што прыйшлі яны *не гуляць, а сватаць дзеўку*. Ім адказваюць згодна з сямейнымі абставінамі: адмаўляюць або згаджаюцца. У апошнім выпадку, хаця б для прыліку, пасылаюць даведацца, што скажа нявеста. Па добрай волі ці пад прымусам яна прапануе *піць гарэлку*, адсюль і назва заручын — *запоіны*. Калі вяселле па нейкіх прычынах не адбу-

дзецца, то бацькі нявесты вяртаюць сватам іх выдаткі на гарэлку і інш.

Калі нявеста дала згоду, да яе збіраюцца дзяўчаты, прыбіраюць яе ў лепшае плацце, расплятаюць касу — якая ўжо і застаецца расплеценаю да самага дня вянчання — і з песнямі прыводзяць яе ў дом да бацькоў. Тут ля дзвярэй стаіць маці, уся ў слязах. Нявеста, падаючы ёй у ногі, просіць блаславення. Устаўшы, хрысціцца і кладзе зямныя паклоны перад іконамі. Потым з нізкімі паклонамі падыходзіць да сватоў, якія адорваюць яе пірагом і грашыма і прапануюць *спытаць* гарэлкі. Пірог дзеляць паміж сабой сяброўкі, у суправаджэнні якіх нявеста выходзіць з хаты. Яшчэ некалькі часу працягваюцца песні і танцы пад скрыпку, і, нарэшце, усе разыходзяцца па дамах. Гэтым і заканчваюцца заручыны.

Ад заручын да вяселля нявеста і жаніх не бачацца, а калі выпадкова і сустрэнуцца, то разыходзяцца, быццам незнаёмыя, нават і не зірнуўшы адзін на аднаго.

За некалькі дзён да вяселля нявеста запрашае родных і знаёмых. Раніцаю, у дзень вянчання, яна адпраўляецца на могільнік. Там, на магілах пахаваных продкаў і сваякоў, яна моліцца, плача і кліча іх да сябе на *вяселле*. Калі яна сірата, то, звяртаючыся да бацькоў-нябожчыкаў, просіць блаславення і заступніцтва ў будучым, новым для яе жыцці.

Ні да заручын, ні да вянца дзяўчыну не адзяюць у доме бацькоў: для гэтага выбіраецца бліжэйшы суседні дом. Пры гэтым абавязковыя дзве ўмовы: а) дом не павінен знаходзіцца на супрацьлеглым баку вуліцы і б) каб твар нявесты, якая ідзе ў гэты дом, быў звернуты на ўсход.

Нявесту садзяць на *дзяжу*, накрытую вывернутым кажухом, зачэсваюць ёй уверх валасы і, звязаўшы іх на макаўцы галавы, сплятаюць у дзве касы. На галаву надзяюць своеасаблівы клабук, без дна, з тоўстай паперы, пакрыты *каснікамі*, з доўгімі канцамі, якія звісаюць ззаду. *Андарак* (своеасаблівы сарафан) найчасцей з сіняга сукна з чырвоным гарсажам, белы фартух, боты або чаравікі, кажух або світа, у залежнасці ад пары года, складаюць падвянечнае ўбранне нявесты.

Жаніх у суправаджэнні *паджанішніка*, вярхом на кані прыязджае да нявесты ў дом, уваходзіць у хату, і, пакланіўшыся нізка кожнаму з прысутных, падае па калачу будучаму цесцю, цешчы і іншым. Пасадзіўшы жаніха на ганаровым месцы, сваты адпраўляюцца па нявесту.

Нявеста пад гукі песень, гучна плачучы, уваходзіць у сенцы і спыняецца ля парога. Сваты, якія ідуць паперадзе, просяць

бацьку і маці блаславіць *княгіню маладую* ўвайсці ў хату. Пачуўшы ў адказ тройчы *«Бог благаславіць»*, сваты ўваходзяць першыя, а за імі нявеста, якая, абдымаючы калені бацькоў, *галосіць* моцна, як на пахаванні. Не галасіць, трымаць сябе спакойна лічыцца сярод простых людзей заганным.

Калі нявеста ўваходзіць, жаніх устае і, напіўшыся вады з каўша, паднесенага яму сватам, кідае туды грошы і цераз стол перадае яго нявесце. Яна таксама *спытывае* ваду, грошы забірае, а ваду вылівае пад стол, жаніху на ногі.

Па прапанове свата маці бласлаўляе маладых князя і княгіню *сесць на пасад*, г. зн. на ганаровае месца, дзе рассцілаюць кажух і садзяць нявесту каля жаніха з левага боку. Гэта называецца *сугляды*.

Праз некаторы час, на працягу якога маладыя сядзяць адзін каля аднаго, не гаворачы ні слова, з апушчанымі галовамі, а нявеста нават павярнуўшыся да жаніха спіною, калі ўжо ўсё гатова да ад'езду ў царкву, сват зноў запрашае маці блаславіць нявесту маладую *расплесці касу і павезці к вянцу*. Расплятаць касу выклікаюць халастога брата нявесты або каго-небудзь іншага з яе сваякоў, зрэшты, толькі фармальна; на самай справе касу расплятаюць *дружкі*. Расплеценыя валасы вісяць доўгімі пасмамі і закрываюць твар. У час гэтага абраду нявеста горка плача: ужо апошні раз была заплецена яе каса, апошні раз не пакрыты валасы; заўтра доўгая намітка абаўе яе галаву і назаўсёды схавае лепшае яе дзявочае ўпрыгожанне! Нявеста ўстае з-за стала, за ёю жаніх і, нізка кланяючыся ўсім і кожнаму, абое выходзяць з хаты. Падганяюць *калёсы*, на першыя садзіцца жаніх, на другія нявеста.

Пасля вянчання маладыя адпраўляюцца спачатку ў панскі двор — пакланіцца панам, потым у дом бацькоў нявесты. Тут іх сустракае яе маці і ў суправаджэнні двух дружак і паджанішніка вядзе ў камору абедаць, астатнія госці абедаюць у хаце за агульным сталом.

Маці сама частуе маладых. Кожную страву яна падае накрытаю іншай пасудзінай, на якой ляжыць калач. Пасля абеду свата чым-небудзь дораць, і жаніх ідзе з ім дадому, дзе ў гэты час замужнія жанчыны збіраюцца на важную справу — пячы *каравай* — істотная прыналежнасць вясельнага абраду.

Ад абеду да прыезду жаніха па нявесту замужнія жанчыны весяляцца ў жаніха, а дзяўчаты ў нявесты, якая перад прыездам жаніха ставіць іх папарна ў сенцах, і сама ўперадзе ўваходзіць з імі ў хату, кланяецца кожнаму і садзіцца *на кут* (ганаровае месца).

Дружко падыходзіць да стала і, узяўшы талерку, пакрытую палатном, запрашае прысутных дарыць нявесту, пачынаючы з маці: *«Эй! Як ёсь тут матка родная! Чым падарыш княгіню маладую: ці канём, ці валом, ці хлебам-соллю, ці добрым словам?»* У гэты ж самы час у хаце жаніха таксама просяць *на падкоўкі* князю маладому. Пасля гэтага ён адпраўляецца вярхом у двор да нявесты — паперадзе сват, упрыгожаны белай перавяззю цераз плячо, які вязе каравай на веку ад дзяжы. Жаніха сустракае цешча, адзетая ў вывернуты кажух, і падае яму коўш з вадою; ён жа, напіўшыся, кідае коўш праз галаву за сябе, злазіць [illegible] каня, кланяецца цешчы і падае ёй пірог. З хаты да яго выходзіць дружко з хлебам-соллю, падыходзіць да свата, які трымае каравай, і кожны з іх, падымаючы сваё, гаворыць: *«Наша вышай, наша вышай!»* Услед за гэтым выводзяць нявесту, таксама адзетую ў вывернуты кажух. Жанчыны, якія суправаджаюць маладога, спяваюць цяпер:

Наш сужанька сыр наліты,
А ваша дзевачка мех надуты!

Злучаюць рукі маладых, тройчы паварочваюць абоіх, уводзяць у хату, віншуюць і садзяць за стол. Пасля частавання, перад ад'ездам нявесты, з яе здымаюць чырвоныя каснікі і замест іх падаюць чорную баранковую шапку, якую яна тройчы кідае на падлогу, затым, нарэшце, адзяе. Пачынаецца развітанне нявесты: слёзы, паклоны, абдымкі, благлавенні. Цырымонія гэта цягнецца даволі доўга, таму што нявеста кланяецца кожнаму, развітваецца нават з маленькімі дзецьмі.

Пасля заканчэння гэтага сумнага абраду маладых выводзяць, садзяць разам на адны калёсы і накрываюць кажухом, заўсёды вывернутым. Маладая, выязджаючы з варот бацькоўскага дому, кідае назад праз галаву пірог, жадаючы, відаць, выказаць гэтым, што яна назаўсёды захавае ўспамін і добрыя пачуцці да дому, які цяпер пакідае. Уязджаючы ў вароты дома свайго мужа, яна таксама кідае пірог, але ўжо наперад, а не назад праз галаву, як раней. У варотах запальваюць куль саломы: маладыя павінны праехаць праз агонь. Іх сустракае маці жаніха, захутаная ў кажух, яна падае руку сваёй нявесткі, якая з калёс ступае на дзяжу, з дзяжы на палатно, па якому ўваходзіць у хату. Тут здымаюць з яе шапку і завязваюць на галаву намітку. Услед за нявестай прывозяць і яе пасаг, складзены ў кубле.

На другі дзень малады адпраўляецца да бацькоў сваёй жонкі з просьбаю прыйсці *дзяліць каравай*, які і раздаецца ўсім прысутным. Пры гэтым таксама адорваюць маладых.

Пасля падзелу каравая маладых падводзяць да калодзежа і абліваюць іх ногі вадою. Вёдры бярэ спачатку малады і сам перадае іх жонцы. Яна прыносіць ваду ў хату, палівае на рукі свёкру і свякрусе, падае ім ручнік, вылівае астатнюю ваду на ўслон і выцірае яго — гэтым пачынаюцца яе заняткі ў новай сям'і. Першы хлеб з новага ўраджаю даюць пячы маладой нявестцы. Прыгатаваўшы цеста, яна кладзе на века ад дзяжы пірог і грошы. Ідучы першы раз па ваду, яна пакідае на калодзежы таксама пірог і грошы.

## ВЯСЕЛЬНЫЯ АБРАДЫ СЯЛЯН МІНСКАГА ПАВЕТА

### Запісаў М. Рубяроўскі

Вясельныя абрады ў адной губерні часта неаднолькавыя: амаль у кожным павеце ёсць свае асаблівасці. Раскажу тут коратка пра тое, як яны выконваюцца сялянамі Мінскага павета.

Перш за ўсё ў дом да нявесты прыязджаюць сваты з гарэлкай і дамаўляюцца з бацькамі нявесты аб шлюбе. У гэты час апошняя звычайна хаваецца. Калі бацькі згаджаюцца на прапанову сватоў, тады запрашаюць дачку і толькі дзеля прыстойнасці пытаюцца аб яе згодзе. Нявеста заўсёды падпарадкоўваецца волі бацькоў. Вось звычайны адказ амаль усіх нявест: «Калі бацька і маці хочуць — дык пайду». Атрымаўшы згоду, сваты частуюць усіх гарэлкай, пачынаючы з нявесты. На мясцовым дыялекце звычай гэты называецца *запіць дзеўку*. Калі ж пасля запоін вяселле чаму-небудзь не адбываецца, бацькі нявесты павінны заплаціць за гарэлку. Песні ў час заручын спяваюцца рэдка.

Напярэдадні вяселля, якое амаль заўсёды прызначаецца на нядзелю, да жаніха і нявесты збіраюцца госці. І ў аднаго і ў другога ў *зборную суботу* рашчыняюць з мукі каравай. Для гэтага выбіраецца дзевяць дзяўчат, з якіх адна атрымлівае назву *старшай каравайніцы, майстрыхі*. Каравай пячэцца ў дзень вяселля, калі маладыя адпраўляюцца ў царкву. Прыступаючы да справы, старшая каравайніца запявае:

Стаўце дзяжу цясовую,
Нясіце ваду крынічную,
Сыпце муку пшанічную...

Пасярод падлогі ставіцца кошык, напоўнены жытам; ён накрываецца кажухом, а на кажух ставяць дзяжу... Муку прасяваюць на чарзе ўсе каравайніцы, усе таксама павінны сыпаць яе ў дзяжу і ліць ваду — рашчыняць. Калі работа падыходзіць да канца, дзяўчаты і хлопцы становяцца ў рады каля дзяжы, і як толькі старшая каравайніца скажа: *«Да хвала табе, божа, што работку зрабілі — каравай рашчынілі»* — і возьме дзяжу, каб паставіць яе на іншае месца, усе кідаюцца да кошыка з жытам. Пачынаецца ўпартая барацьба: хлопцы стараюцца адабраць яго ў дзяўчат, каб закінуць на печ, а тыя не аддаюць, імкнучыся выкінуць яго за парог. Лічыцца, што ў тым выпадку, калі хлопцам удасца іх намер, дзяўчаты ў гэтым годзе не выйдуць замуж, калі ж не — то выйдуць. Спрэчкі вельмі часта заканчваюцца тым, што кошык разрываюць на часткі.

Калі цеста гатова — пячэцца каравай. Чым ён большы, тым лепшы. Таму каравай робяць такі, каб ён мог ледзь пралезці праз чалеснік печы. Удалым лічыцца каравай, які, калі ён спячэцца, выняць з печы можна, толькі выламаўшы некалькі цаглін з чалесніка. Пра такі каравай кажуць: *«Вакол з сырам, з маслам, а ў сярэдзіне з добрым шчасцем»*. Удалы каравай прадракае маладым добрую гаспадарку. На другі ці трэці дзень пасля вяселля каравай рэжуць на кавалкі і маладыя надзяляюць ім усіх знаёмых, атрымліваючы за гэта грошы.

Зборны вечар праводзіцца наогул даволі весела. Нярэдка тут можна сустрэць і скрыпача-самавука. Песні і танцы пад музыку доўжацца часам усю ноч.

Некаторыя песні вельмі добра раскрываюць пачуцці маці і дачкі перад выхадам апошняй замуж. У адной песні, напрыклад, гаворыцца: дачка звіла сабе з руты вянок і пакаціла яго па стале, прыгаворваючы:

Каціся, вяночак, каціся,
Матульцы ў ручкі ўваліся!
Прымі, матулька, вяночак...
— Я цяпер, дзіцятка, не прыму,
Ад жаласці ручак не ўздыму,
А за слязамі не ўвіжу.

Другая песня расказвае, як устаўшы рана ў дзень вяселля, нявеста будзіць сваю маці і просіць сабраць усю дружыну: мужыкоў-ігракоў, дзевачак-спевачак і жанчын-шчабятух, каб яны расчулілі яе сэрца, каб яна, маладая дзяўчынка, заплакала.

У нядзелю, яшчэ з раніцы, зноў збіраюцца госці і сапраўды стараюцца расчуліць нявесту, асабліва калі яна сірата і беднага роду. Ёй спяваюць такія песні, ад якіх і чужыя, слухаючы, ледзь

могуць стрымацца ад слёз. Але самыя цяжкія пачуцці авалодваюць ёю тады, калі яе садзяць на *пасад* і расплятаюць касу. Тут зноў ставяць пасярод хаты дзяжу, з той толькі розніцай, што ў яе кладуць цяпер жытні хлеб з соллю, а зверху накрываюць кажухом.

Гэты рытуал выконваецца толькі тады, калі паводзіны нявесты былі бездакорныя, у адваротным выпадку (у гэтым яна сама заўсёды прызнаецца) яе садзяць на куце на хустцы. Брат або іншы блізкі сваяк выводзіць маладую з іншага пакоя, пры гэтым дружкі спяваюць:

Пастаньце, баяры, усе ў рад,
Садзяць маладую на пасад.

Нявеста падыходзіць да кожнага госця, не мінаючы ні старога, ні малога, і ўсім кланяецца. Ад яе імя ўсе спяваюць:

Нізенька галоўку клонючы,
Міжы баяр пана-ойца ішчучы,
Я ўсе баяры перайшла,
Свайго пана-ойца не знайшла.
Кінуся, падуся аб скам'ю,
Сваю галаваньку разаб'ю,
Свае слёзачкі разал'ю,
Сваю радзінку разжалю.
Бедная мая галоўка ў вяночку,
Нет майго пана-ойца ў радочку!
Бедная мая галоўка ў вcase,
Нет майго пана-ойца на свеце.

Сама нявеста ніколі не спявае.

Калі нявеста села на пасад, брат расплятае ёй касу. Пасля гэтага дружка і сяброўка падпальваюць з чатырох бакоў яе валасы: дружка трымае свечку, а сяброўка праз пярсцёнак працягвае невялікія пасмачкі валасоў і падносіць іх да агню.

Потым, спяваючы песні, нявесту садзяць на воз і праводзяць да царквы.

Пасля шлюбу вясельныя паязджанні часцей за ўсё адпраўляюцца ў дом жаніха. Тут ужо мы бачым зусім іншую карціну: другая палавіна вясельнай абраднасці больш вясёлая. Нявеста ўжо не плача, яна становіцца больш рухавай і жвавай. Калі з царквы даводзіцца ехаць паўз поле сваёй новай радні, нявеста сыпле са шклянкі жыта. Прыехаўшы ў дом жаніха, яна кідае на двор пяць абаранкаў, звязаных чырвонай стужкай. Маці сустракае маладую пару з хлебам-соллю. Маладыя ідуць у хату па палатну, пасланаму ад ганка да стала. Увайшоўшы ў дом, нявеста зноў сыпле ва ўсе бакі жыта, абвязвае сватоў ручнікамі і садзіц-

ца за стол. За ёю рассаджваюцца ўсе госці. Жаніх садзіцца не побач з маладой, а насупраць яе.

Пасля вячэры сват, які пачынаў запоіны, выкупляе нявесту грашыма і квартай гарэлкі: грошы даюцца дружкам, а гарэлка свацці. Толькі пасля гэтага выкупу жаніх можа сесці побач са сваёй нявестай, але зноў не проста: ён павінен пераскочыць да яе са свайго месца праз стол і пры гэтым не закрануць нагамі посуд.

Вясельны банкет заканчваецца даволі цікава. На маладую надзяюць намітку або чапец (галаўны ўбор замужніх жанчын), і адразу ж пасля гэтага ўсе пачынаюць скакаць вакол стала па лавах і ўслонах, узяўшыся рукамі за доўгі ручнік,— жаніх і нявеста наперадзе ўсіх. Такі своеасаблівы танец выконваецца тры разы.

На другі дзень раніцай бацька жаніха прымае гасцей у гумне. На таку ставіцца стол з гарэлкай і закускай. Выпіўка, песні і музыка працягваюцца і тут даволі доўга.

## ЗАПОІНКІ І ВЯСЕЛЛЕ [У С. ГНЯЗДЗІЛАВЕ ВІЛЕЙСКАГА ПАВЕТА]

### Запісаў А. Троіцкі

— *Здраўства, бацюшка!* — вітаюць, уваходзячы ў хату, двое сялян свайго парафіяльнага свяшчэнніка.

— Добры дзень, браткі! Што скажаце, галубчыкі? — пытае апошні, бласлаўляючы сваіх прыхаджан.

— *Да вот, ацец духоўны, прыняслі на запаведзі* (абвяшчэнне); *трэба жаніць гэтага дзецюка і запілі дзяўчыну,*— адказвае старшы.

— Як гэта запілі — можа, сасваталі?

— *А мусіць. Віш, мы едзем да дзеўкі з водкай, дзеля таго і гаворым: запілі, запоінкі зрабілі.*

— Так. А колькі вы возіце гарэлкі і колькі ў вас бывае запоінак?

— *Усяляка, як чыя зможнасць: і гарнец, і два, і тры; ну і запоінак бывае* розна: калі *дзеўка прымецца ад першага разу, то бывае трое,* а калі ад першага разу не прымецца і няма ні адказу, ні прыказу, то і болей.

— Што гэта «прымецца»?

— *Віш, як сваты прыедуць з водкай, дык дзеўка бяжыць на сяло; ведама — ей стыдна; а як сваты аб'явяцца, маці чы старэй-*

*шая ў хаце павінна заслаць настольнік, паставіць закуску і чарку,* і тады *сысківаюць дзеўку.* Сват ставіць на стол водку і п'е да дзеўкі. Калі яна прымае з рук свата чарку, *то, значыся, прынялась. І дзеўка п'е да дзяўчат.* А пасля сват п'е *да бацькоў і ўсіх хатніх. На ад'ездзе нявеста павінна абдарыць свата двума кускамі палатна на рукавы і поясам; сваты ж нясуць на запаведзі.*

Пасля першых запоін адбываюцца другія, на якіх нявесту ўжо не частуюць гарэлкаю, і сват п'е да бацькоў нявесты і яе дамашніх. Самыя ж галоўныя — трэція запоіны, якія называюцца *дзявоцкі вечар.* Сваты на гэтыя запоіны прывозяць з дома жаніха ў дом нявесты пірог, сыр і гарэлку і вяртаюцца дадому, а нявеста запрашае скрыпача, збірае сваіх сябровак і наладжвае для іх на ўсю ноч *гулянне.* У доме жаніха таксама збіраюцца на гулянку хлопцы і дзяўчаты, вясельныя госці. Калі надыдзе час адпраўляцца па нявесту і да вянца, жаніха садзяць на *дзяжу,* калі прызнае сябе вартым гэтага (інакш садзіцца на калодзе), на галаву яму кладуць накрыж дзве пасмы льну, пасярод ільну пярсцёнак і крыху мёду; старэйшая сястра або сваха запальвае васковую свечку, тройчы дакранаецца мізінцам да мёду і вуснаў жаніха і застрыгае. Застрыганне робіцца так: сваха падыходзіць да жаніха з правага боку, працягвае кончыкі льну з валасамі праз пярсцёнак і свечкай падпальвае іх, пытаючы папярэдне благаславення:

— Дзе тут ёсць *бацька і маці гэтага дзіцяці? Гэта дзіця плачаць, у бога долі просіць, ад людзей благаславення* хоча. *Вы мужы статэчныя, хлопчыкі запечныя, жоначкі — белы галовачкі, дзевачкі — красны паненачкі, старыя бабкі, малы рэбяткі,— ушысткі пакорныя, нічога не выборныя,— благаславіце брата застрыгчы!*

Потым яна такім самым спосабам падыходзіць з левага боку, ззаду і, нарэшце, спераду. Гэтым і заканчваецца застрыганне. Пасля гэтага маладога саджаюць за стол, на якім пастаўлена талерка, гарнец, на гарнцы пірог, і сваха зноў запрашае благаславіць маладога тымі ж словамі, толькі замест *брата застрыгчы* гаворыць:

— *Благаславіце маладога да маладой ступіць.*

Тут адорваюць маладога грашамі і капейкамі і выпраўляюцца да нявесты, куды з жаніхом звычайна едуць два сваты, сваццinformația і музыкант. Перад самым выездам жанчыны збіраюцца на двары *апяваць* маладога. Апяваюць так:

На дварэ стучыць, гручыць —
Там Васілька каня вучыць,
Каб высока галоўку нёс,

Каб ціха Аленку вёз.
Да паедзем, мае брацяткі, ў дарожку,
Да насыпем па кішэнічку гарошку;
Там нам будуць сватнія дзеўкі пяяць,
А мы будзем па зернетку даваць.

У гэты час у доме нявесты рыхтуюцца сустракаць жаніха. Сяброўкі адзяваюць і ўбіраюць маладую, а старшы *надкоснік*, папрасіўшы блаславення, саджае яе на пасадзе (на дзяжы, калі яна прызнае сябе годнаю), пасля чаго просіць блаславіць косы; расплятае іх, а старшая *прыданка* выконвае абрад падстрыгання — гэтак жа, як і ў маладога.

Але вось чуваць званочкі. Гэта значыць — жаніх ужо на двары нявесты. На сустрэчу да яго выходзяць па парадку вітацца: нявесцін бацька, матка, нявеста, сяброўкі. Пры гэтай сустрэчы гурт дзяўчат спявае:

Сабірайцеся ўсе дзевачкі ў суботу,
Загадае Аленка[1] работу;
Да памесцім усю вулачку да канца,
Будзе ехаць малады Васілька да вянца,
Памесцім усю вулачку ў канец,
Будзе ехаць малады Васілька пад вянец.
Прыехаў дзяціна
Да ■ нашай дзяўчыне;
На печы качаўся,
З катамі падраўся,
З стаўпом абымаўся.
Калі наша Аленка
Радзілася, умылася,
На печы не качалася,
З стаўпом не абымалася.

Прыехалі заручнічкі,
Чаму яны без дудачкі?
Каго будуць заручаці —
Нет Аленкі дома:
Пагнала гуські ў поле,
Пасучы пагубляла,
Ішчучы заблудзіла,
Прыблудзілася к сяму
К Васілёваму двару,
Прыблудзілася к асеці,
К Васілёвай клеці.

На сіненькім моры
Два бабры купаліся,

[1] Імёны жаніха і нявесты ўзяты адвольна.— Заўвага перакладчыкаў.

На новым ганачку
Два стральцы змаўляліся:
— Заб'ём бабра,
Заб'ём нявесце на шубачку,
Жаніху на шапачку.
Зволі, дзевачкі, ідзіце,
Шубачкі не сатрыце:
Спраўляна ў гародзе,
Прыслана мне, малодзе;
Спраўляна ў Кралеўцы,
Прыслана мне, паненцы.

Выскачылі тры казачанькі к нам на двор,
Пазнай, пазнай, малада, катор твой:
Чы што ў сінім, на коні сівым, ці то твой,
Чы што ў атласе, у жоўтым паясе, ці то твой,
Чы што ў кажушку ў беленькам, ці то твой?
— Да што ў сінім, на коні сівым, то сват мой;
Да што ў атласе, у жоўтым паясе — дзевер мой,
Да што ў кажушку ў беленькам — мілы мой.

Пасля гэтых апяванняў бацька нявесты, узяўшы з хаты хлеб і соль, зноў выходзіць на двор і звяртаецца да гасцей:

— *Проша, сваточкі, у хату!*

У хаце жаніха і нявесту саджаюць за стол. Каля нявесты садзяцца па парадку: прыданка, сваты, надкоснікі і *баяркі*. Тут усе ўстаюць і з хлебам і соллю абходзяць тройчы вакол стала. За трэцім абходам сват гаворыць:

— *Благаславіце маладым да шлюбу ступіць!*

І ўвесь вясельны поезд збіраецца да вянца. Наперадзе едзе малады са сваім сватам і музыкам, за ім другі сват і сваццо маладога, потым прыданка маладога з нявестаю і старшаю сяброўкаю, нарэшце, малодшыя сяброўкі і надкоснікі. Выпраўляючы маладых да шлюбу, дзяўчаты спяваюць:

На дварэ сняжок падзець,
Маладая да вянца ідзець,
Свайму татульку да ног падзець.
— Мой татуленька, мой родненькі,
Да зацяплі ясну свечачку,
Да перайдзі мне сцежачку
І з тройцай, і з міколаю,
І з шчасцем, і з доляю.
— Аленка мая, дзіцятка маё,
Няхай табе бог пярэйдзець
І з тройцай, і з міколаю,
І з шчасцем, і з доляю.

Вясельны поезд набліжаецца да дома парафіяльнага свяшчэнніка, і прыданкі спяваюць:

Стаўляйце коней да ганку,
А самі пойдзем у клябанку;
Падайце папу ў ногі,
Каб нам не было трывогі.

Пасля запісу ў кнізе адбываецца і шлюб. Тут прыданка сцеле пад ногі кавалак палатна і пояс, што называецца *падножнікам* — на яго маладыя становяцца да шлюбу. Тут маладыя стараюцца наступіць адзін аднаму на ногі; той, хто раней паспее гэта зрабіць, таго і верх будзе ў жыцці. Прыкмячаюць таксама, як у каго гарыць у руцэ свечка: калі гарыць ярка — жыццё будзе вясёлае, калі цьмяна — невясёлае. Калі ходзяць вакол аналоя, нявеста стараецца пацягнуць за сабою падножнік: для таго, каб усе яе сяброўкі па яе прыкладу хутчэй выходзілі замуж. Пасля шлюбу малады бярэ маладую за руку, садзіць яе на воз, і вясельны поезд накіроўваецца да карчмы, дзе першым віншуе маладых яўрэй. Тут прыданкі спяваюць:

Непраўдзівая калінка
Няпраўду лугу казала:
Цвісці не буду.
Шумела:
Ягад не будзець.
А як зацвіла беленька,—
На ей ягад красненька.
Непраўдзівая Аленка
Казала: замуж не пайду.
Казала: Васілька не люблю,
А як да шлюбу ступіла,
Тагды Васілька злюбіла:
На каберцы стоючы,
У руках свечку дзержучы,
Вернае слоўца кажучы,
На крыж рукі важучы.
І хвала табе, божа,
Што мы раненька ўсталі,
Папа ашукалі,
Не дорага за шлюб далі:
За паненку — капейку,
За малайца — чырванца,
За каня варанога — паўтара залатога.

У карчме п'юць, закусваюць і пад вечар накіроўваюцца ў дом нявесты.

П'яны вясельны поезд з-ляскканнем пуг, з бразгатаннем званочкаў нясецца на ўсю моц. Вось ужо асіплыя прыданкі спяваюць на двары:

Выхадзі, матулька, з ключамі —
Ужэ твая дочка звянчана;
Выхадзі, матулька, з талеркай —
Твая дочка не паненкай.

Насустрач маладым выходзяць бацька з маткаю і выслухоўваюць ад бальшанак наступны прыпеў:

Прыехала малада Аленка ад вянца,
Стала ў яе матулька пытацца:
— Чы добра было, маё дзіцятка, вянчацца?
— Не пытайся, мая матулька, у мяне,
Пытайся, мая матулька, у бальшанак:
Яны ж для мяне блізюсенька стаялі,
Яны ж чулі, што мне папы казалі,
Яны ж відзелі, з кім мне ручкі звязалі.

Маладых уводзяць у хату, увесь вясельны поезд рассаджваецца за сталом. Падаецца закуска і абед. Пасля абеду гулянне працягваецца цэлую ноч пад музыку скрыпача, а гарэлка і закуска на стале не ўбываюць.

Калі настае час ад'езду ў дом маладога, даюць развітальнае снеданне, на якім маладую адорваюць, пры гэтым яна галосіць:

Татулечка мой,
Чы ў клетку пайшоў,
Чы грошы лічыць,
Мяне не клічыць:
Не зарабіла, не заслужыла
Солі драбочка, хлеба кусочка,
Да не баялася ні дажджа макраты,
Ні сонца пекаты.

У канцы сняданку сваццяя надзявае маладой чапец. Чапец гэты рыхтуе сама маладая да другіх запоін, абкручвае яго тонкім палатном або ручніком, робячы шапку, і з другім кавалкам палатна, які называецца *наметам*, уручае пасля другіх запоін свату. Сват прывязвае на кончык намета пярсцёнак, бярэ гэты талісман з сабою ў дом маладога, а ў дзень вяселля свашка зноў прывозіць яго разам з піражкамі ў дом маладой. Калі сваццяя надзене на маладую чапец, то маладая здымае яго са сваёй галавы, кідае на маладога, прыгаворваючы:

— *Я гэты чапец ускіну на печ, не буду насіць, няхай ён згарыць!..*

Малады зноў кідае чапец на маладую, і гэта гульня працягваецца тройчы. На трэці раз чапец ужо застаецца на галаве маладой, свашка накідвае на чапец намітку з пярсцёнкам, а сват кладзе ў чарку пяць капеек, налівае ў яе гарэлку і падносіць

маладой, якая п'е гарэлку і забірае з чаркі грошы. Потым матка маладой ставіць на стол века ад кубла [2], і маладая спявае:

Матулька мая, века стаўляеш,
Века стаўляеш — мяне збываеш.
Матулька мая, да збудзеш мяне,
Успомніш мяне.
Ў панядзельнік рана па воду пойдзеш —
Мяне ўспомніш,
Ва ўторнік рана па дравіцы пойдзеш —
Мяне ўспомніш;
Гдзе патылкнешся — слязамі аблієшся.

І маладую дорыць яе блізкая радня: мужчыны — грашыма, жанчыны — палатном. Прымаючы падарункі ад мужчын, напрыклад ад дзядзькі, маладая з паклонам спявае:

Дзядзюшка мой, да дзякуй табе
За дары твае, за дарагія, за залатыя.

Прымаючы палатно ад жанчын, напрыклад ад цёткі, маладая спявае:

Цётачка мая,
Да дзякуй табе,
За дары твае:
Што тонка прала,
Што звонка ткала,
Бела бяліла,
Слізка каціла,
Мяне дарыла.

Падарункі з века прыданка ўбірае ў кубел, замыкае яго і ключ ад кубла аддае маладой. Пасля дарэння маладая развітваецца з роднымі і, кланяючыся бацьку, прыпявае:

Татулечка мой,
Ў дарожку еду,
Даю добры дзень
Не на адзін гадочак —
На вечны часочак;
Куда будзеш ісці,
Так захадзіся,
Адкуль будзеш ехаць,
Так заязжайся,
На мяне, маладу,
Не забывайся.
Татулечка мой,
Чы будзеш любіць,
Як блага будзе?

---

[2] *Кубел* — від кадзі з накрыўкай, скарыстоўваецца замест куфра.

Я ж буду хадзіць
І з прыпалочкам
І з рукавочкам.
Першы раз прыду,
Так госця буду,
Другі раз прыду —
Мяне падарыш,
Трэці раз прыду,
Так не залюбіш,
Мяне прагоніш,
Варотцы зачыніш,
Сабакам зацкуеш.

Калі ўжо ўсядуцца на вазы, маладая спявае:

Татулькава ніўка,
Да не ўлякайся:
Радзіла пры мне,
Радзі без мяне;
Свёкаркава ніўка,
Да не ўлякайся:
Радзіла без мяне,
Радзі і пры мне.
Да выведзь, божа,
Да гірсу-мятліцу,
Зарадзі, божа,
Жыта-пшаніцу;
І сон-драмата,
Астанься ў таткі,
І доля-шчасце,
Паедзь за мной,
За маладой.

І поезд адвозіць маладую з бацькавага дому ў дом маладога.

Маладую ў дом маладога цяпер суправаджаюць з яе боку толькі два *надкоснікі* [3]; прыданае ж, або кубел, вязуць звычайна пасля позняга абеду *надкублік* [4], тры *прыданкі* [5] і тры *пярэзыўкі* [6] з двума мужчынамі — бацькам нявесты і яшчэ адным блізкім сваяком. У багатых з прыданым адпраўляецца больш гасцей [...]

Вяселле прыехала ў двор да маладога, усе злазяць з вазоў, становяцца ў рады: наперадзе два сваты, за імі *музыка*, потым

---

[3] Браты маладой, або шаферы, якія распляталі ёй косы.

[4] Хлопчык, які вязе кубел.

[5] Сяброўкі нявесты.

[6] У лік пярэзывак уваходзяць родная маці, хросная і блізкая пажылая сваячка. Яны лічацца дарагімі гасцямі, хоць іх месца ў доме жаніха каля печы, а не ў пярэднім куце. Частуюць жа іх лепш за ўсіх гасцей. Пярэзыўкамі іх называюць таму, што яны ў доме жаніха адзін раз прызываюцца ў пярэдні кут за стол, што ўбачым далей.

малады і маладая, за ёю надкоснікі і, нарэшце, свашка. У гэты час прысутныя тут жанчыны гуртам пачынаюць спяваць:

У панядзельнік рана
Выйшла Аленка на ганак,
Глянула ў садочак,
Там красачкі зрэюць,
Яе ручкі млеюць.
Зрэйце, краскі, зрэйце,
Ручкі, вы не млейце,
Мне вас не шчыпаці,
Вянкоў не вязаці,
Венчыкаў не віці,
Дзевушкай не быці.

Гаспадар дома выходзіць з хлебам-соллю і просіць сватоў у хату, а для нявесты рассціл аецца палатно ў клець і свашкі спяваюць:

Калі добра — ідзі ў клець,
А не добра — ідзі прэч.

Цнатлівая дзяўчына ступае на палатно і ідзе па ім, а малады за ёю бярэ палатно. Хвала табе, нявеста, ад людзей, радасць жаніху і дамашнім яго, гонар бацькам тваім і весялосць удзельнікам вяселля, для якіх гарэлка абавязкова павінна быць салодкаю.

Усе разумеюць, за што хваляць дзяўчыну і за што гонар яе бацькам. Просты чалавек верыць у тое, што цнатлівая дзяўчына прыносіць у дом божае блаславенне, а нецнатлівая — зганенне, разлад і іншыя нелады і спусташэнне дому.

Гаспадары дома частуюць вясельных гасцей абедам у хаце, а маладых у клеці і пасля дзвюх бяссонных начэй укладваюць іх у пасцель да прыезду прыданых. І вось ужо на двары прыданыя спяваюць:

Чы жывы, чы здаровы,
Ці цёпла камора,
Ці мякка падушка,
Ці красна дачушка?
І жывы-здаровы,
І цёпла камора,
І мякка падушка,
І красна дачушка.

Пры сустрэчы прыданых дамашнія спяваюць:

Наляцелі гусі
Да з беленькай Русі,
Селі на крыніцы,
Сталі воду піці.

Хоць пійце, не пійце,
Аб лёд крыл не бійце.
Наехалі госці
Да з чужой валосці,
Сталі віно піці,
Аб стол кубкі біці.
Хоць пійце, не пійце,
Кубкаў нам не бійце.

Рассаджваючыся за сталом, прыданыя спяваюць:

Сядзем мы за стол — паабедаем,
Аб сястрыцу праведаем:
Гдзе ты начавала, што ты вячэрала?

Пасля абеду прыданкі ідуць убіраць маладых. Маладыя мыюцца. Пры гэтым маладая кідае ў ваду свой дзявочы пярсцёнак, а малады выціраецца рукавом сарочкі сваёй жонкі і пераадзяваецца ў падрыхтаванае ёю адзенне. Убраўшы маладых, п'юць салодкую гарэлку і вядуць маладых у хату. Прыданкі, мяняючы на стале абрус, спяваюць:

Прынімайце патрэпнае,
Насцелем патрэбнае:
Ваша бёрдам біта,
Наша шоўкам шыта,
Ваша пяньковае,
Наша шаўковае,
Праз ваша вецер вееціь,
Праз наша сонца грэець.

Тут прыданыя зноў садзяцца за стол, а маладая прыслужвае ім. Калі на стале з'явіцца капуста, прыданкі ўстаюць і з песняю:

Не хочам капусту есці,
А хочам на лаўку лезці

— ускокваюць на лаўку, пляскаюць у далоні, танцуюць. Пасля пагэтага прыданыя гуляюць, а за стол садзяцца маладыя, якім падаецца па чарцы гарэлкі, закуска і гарачая ячная каша. Маладыя спяшаюцца абмазаць адзін аднаго кашаю: хто першы паспее гэта зрабіць, той будзе верхаводзіць і ў жыцці. Хто-небудзь з дамашніх адзяе вывернуты кажух, бярэ з веніка розгу, ідзе па лаве страшыць або гнаць з-за стала маладых і, б'ючы маладую розгаю, прыказвае: *«Не хадзі па сялу, не судзі аб сям'ю!»* Маладыя скачуць ад яе праз стол, і калі маладая, аддзяліўшыся ад маладога, стане каля свякрухі, дамашнія спяваюць:

Пераходна зорачка
Перайшла ад месяца

І стала у солнейчка,
Стала, засвяціла.
Пераходна Аленка
Перайшла ад матулькі
І стала для свякроўкі,
Як стала — запытала:
— Свякроў, мая матулька,
Чы буду я табе міла,
Як сваей роднай мамцы?
— Дзіцятко маё,
Хоць бы ты мне шоўкам шыла,
Не будзеш мне міла,
Як сваей роднай мамцы.

Сват, які прывозіў пірагі на дзявоцкі вечар, бярэ ад маладой намітку, за канец якой бяруцца пярэзыўкі, вядзе наміткай пярэзывак ад печы за стол у пярэдні кут, дзе іх цяпер частуюць, пакуль маладыя і прыданыя гуляюць; пасля ж частавання месца для пярэзывак — зноў каля печы.

Прыданыя гасцююць у доме маладога цэлыя суткі і збіраюцца на другі дзень дадому — такой жа парой, якой учора прыехалі да маладога. Перад ад'ездам прыданых усе, як госці, так і дамашнія, садзяцца за сталы: у пярэднім кутку садзяцца маладыя, перад маладымі ставяцца міска з гарэлкаю і чарка, насупраць — бацькі і ганаровыя госці, за іншым сталом прыданыя пяюхі, насупраць іх пяюхі з радні маладога — дамашнія. Пачынаецца наступны канцэрт. Дамашнія пяюхі пачынаюць:

А што ў каморы стучыць-гручыць?
Там свякроў нявестку будзіць:
— Ўстань, нявехна, ўстань, нябога,
Уж у людзей таўкуць і мелюць,
А ў нас, нябога, не чуць нікога.
Добра, нявехна, добра, нябога,
А спіць да сонца яна смеленька,
І спіць нявехна, яна не дбаець,
Бо яна ў хаце работкі не знаець.

Прыданкі адказваюць:

А сваціцы, галубіцы, учыце,
А выдзіце на улку — не судзіце:
Яна, маладзенька, заснуць радзенька —
Пабудзіце.

І звяртаючыся да маладой:

Зайшла Аленка ў чужы людзі,
Суседкі незнакомыя аб табе будуць судзіці.

Маладая адказвае ім:

А я улочкі ўсе разведаю —
Блудзіці не буду;
А з суседкамі расспазнаюся —
Судзіці не будуць.

Дамашнія:

А сваціца, галубіца, не тужы,
Даеш дочку не за наймітку, не служыць;
Дасць бог долю шчасліваую, будзець жыць.
Мы ж яе раненька пабудзім,
Мы яе ў цёмным куточку пасадзім,
Мы яе пачыначка паглядзім,
Мы яе пашлём на дрывотню па драва:
Яна набярэць вялікае бярэмя,
На яе скажуць — толькі адно палена;
Яна пойдзець на дрывотню па трэскі,
На яе скажуць — з кавалерамі ў смешкі.

Прыданыя:

У нас была пястушачка,
У вас будзець пастушачка;
У нас была каханая,
У вас будзець паганая;
У нас была, як сыр, бела,
У вас будзець, як стлуп, чорна.

Дамашнія да нявесты:

Не бядуй ні па чом,
Пакажыць свякроў таўкачом!

Да свякрухі:

Ты ей нічога не кажы,
Толька качаргу пакажы.

І канцэрт скончаны. А далей дораць маладых. Жаніх чэрпае з міскі чаркаю гарэлку, выклікае па чарзе як сваіх, так і нявесціных сваякоў па імю, гэтак: дзядзя Якаў, сват Пятрусь, цётка Насця, свацця Ганна і г. д., падносіць да сваіх вуснаў чарку і са словамі *будзь здароў* падае таму, хто падышоў. Апошні, дзядзька або сват, выпіваючы гарэлку, гаворыць «віншую вас авечкай або свінкай» або кладзе на талерку некалькі медных грошаў і адыходзіць, танцуючы і прыпяваючы:

За здароўе вераб'я,
Куды людзі, туды я:
Людзі па гарэлку —
І я памаленьку.

Пасля дарэння прыданыя развітваюцца і адпраўляюцца дадому. Пры развітанні спяваюць:

Паедзем дамой, паедзем дамой,
Каму ж маладую адкажам?
Адкажам маладому:
Не бій ты яе дубцамі,
Навучай яе слаўцамі;
Ад дубцоў будзець няумна,
Ад слаўцоў будзець разумна.
Будзець раненька ўставаць,
Будзець сем'ю пабуджаць,
Будзець хатку падмятаць,
Кароў у поле праганяць,
Як яе будзеш васхваляць —
Яе будзець ахвотка браць.

Пасля ад'езду прыданых дамашнія госці спяваюць:

Цяпер жа наша ўся гульба,
Як сабралася ўся радня.
Добрая наша гадзіна —
Пасела наша дружына.
Курачка па двару ходзіць,
Курачка курчат водзіць.
Не жаль жа мне курачкі —
Як яе курчатачак,
Што яны маленькія
Па крапіўцы ціўкаюць.
Не жаль жа нам нявесты,
Жаль нам яе мамкі,
Што яна старэнькая,
Ходзіць плакаючы,
Цяжэленька ўздыхаючы.

Сват выходзіць на сярэдзіну хаты і танцуе, прыпяваючы:

Забылася я ў матулькі папытаць,
Чы будзе мая курка сакатаць.

Сваццця яму ў адказ:

Калі будзеш ячменічку пасыпаць,
Тады будзе твая курка сакатаць.

Вярнуўшыся ў дом бацькоў нявесты, прыданыя спяваюць:

Дзякуй табе, мамка,
За твае дзіцятка:
Мы ў людзей пабывалі,
Мы мёду папівалі.
Мы мёду, гарэлкі
За сястрыцу маладзеньку.

Але гэта яшчэ не канец вяселля — і ў доме маладога і ў бацькоў нявесты. Калі шлюб бяруць у нядзелю, то ў аўторак ноччу прыданыя вяртаюцца ад маладога, і гульба і там і тут працягва-

ецца да пятніцы. У чацвер вечарам, калі вып'юць усю гарэлку, вясельныя ходзяць па сёлах цыганамі, збіраюць усё ўсялякае, прадаюць сабранае, купляюць гарэлку, выпіваюць яе. На гэтым вяселле канчаецца. У наступную нядзелю маладых вядуць у царкву, дзе святчэннік чытае ім малітву на дазвол вянцоў.

— А што, братцы, кончылі вяселле?

— *А, дзякуй богу, кончылі.*

— Что ж, вясёлае было вяселле?

— *Чаму не, і салодкую водку пілі. Вот так дзеўка была: маладзец — і бацькоў не абясчэсціла і ў хату прынесла благаславенства. Ну, а Насціна вяселле вышла нядобрае: досыць, блазніца, нарабіла сораму прыданым, да і хату апаскудзіла. Надкоснікам хамуты надзявалі, пад ногі з халастога стралялі.*

— *Няма чаго дзівіць, брацішку, ведама паскудніца.*

— А многа пайшло гарэлкі на ваша вяселле?

— *А ў Язэпа вёдзер сем вышла.*

— Добрыя жарты: сем вёдзер! Гэта ж разарэнне.

— *Ведама, што згуба гаспадару; да што зробіш, калі наш брат чужой водкі не шкадуе: як дабярэцца, дак і запіцца гатовы. Да гэта яшчэ нішто, а ў Селішчскага Лісюка дык шэсцьдзесят рублёў на вяселле вышла.*

— Не можа быць, ён жа чалавек таксама небагаты.

— *І волікі пашлі, і прызаняў, і то мала стала — не дарма Юрка служа ў пана.* Ведама, дзяўчаты не ішлі, свекрыві баяліся.

— Разарае, братцы, вас гэта гарэлка, ушчэнт разарае!

— *Ведама,* той добра робіць, хто яе зусім *не каштуе, як Захарка. Ну, а хто хоць трохі пробуе, таму пры зачопе здараецца часам і казялком пахадзіць, а то і сабакі морду паліжуць.*

— Сумна, братцы, слухаць, не толькі бачыць гэту агіднасць.

## ВЯСЕЛЛЕ З-ПАД СВІСЛАЧЫ ВАЎКАВЫСКАГА ПАВЕТА

### Запісаў Міхал Федароўскі

### ДАВЕДКІ. СВАТЫ[1]

Найперш у дом дзяўчыны прыходзяць сваха і матка хлопца — на *даведкі*. Калі маткі няма, то ідзе хросная маці ці блізкая сваячка. Сваха — зусім чужая хлопцу, але добра яму спрыяе.

[1] М. Федароўскі на полі рукапісу адзначыў: пачаў 22 верасня 1878 г.— Заўвага перакладчыка.

Свахай звычайна бяруць талковую, гаваркую і дасціпную жанчыну. На даведкі выпраўляюцца ў аўторак, удзень. Калі хлопец прыдзе са сватам у дом дзяўчыны без гэтага папярэдняга візіту маткі і свахі, то з ім не хочуць і гавараць, хіба што буркнуць: *«А маці дзе сягодня была, чы валы пасвіла?»*

Сваха і маці прыносяць з сабой за пазухай некалькі пляшак гарэлкі. Ступаючы на парог хаты, кажуць: «Нех бэндзе пахвалёны». Гаспадары: *«На векі...»* і г. д.

— *Сядайце ў нашой хаці, то будзеце ў сваём дому госці* (г. зн. гасціце ў нас так доўга, каб у сябе ажно гасцьмі былі).

Матка: — *Дзякуемо, пастаімо, ногі не баляць.*

Звычай жа такі, што пакуль свахі не прыйдуць да добрых высноў, да таго часу яны не толькі не сядуць, але ад парога за першую бэльку ў столі не пяройдуць.

Гаспадары: — *Што нам скажаце добраго, жэ не хочаце ані сядаці, ані падыйсці далей, саўсім выглядае, як бы вы ў нас што ўкралі альбо хочаце ўкрасці.*

Сваха:— *Здаецца, мы не за светам гадаваныя і не бачылі, каб у нас крадзеныя рэчы адбіралі. Я прышла як да добрых суседаў пажычыці, а можа здарылася бы што людскае купіці, але не красці.*

Гаспадары: — *О, вы ў нас не дакупіцеся нічого, бо ў нас тавар вельмі дарагі.*

Сваха: — *Ну, што зрабіць! Купіць не купіць, патаргаваць можно. Альбо вы думаеце, што я сягодня прышла ў капоце старэнькой і з кішэняю малою, то ўжэ і такая бедная? У мяне грошай кадаўб* (посуд, выдзеўбаны з аднаго кавалка дрэва) *на гарэ стаіць — і то самае срэбро і золато, а бумажкі то цяпер, да вас адыходзячы, павешала на плоці, бо чысто пазагнівалі лежачы.*

Гаспадары: — *То што, для таго твая каса ніц не значыць на наш тавар.*

Сванька:— *Ну, то ўжэ хоць пажычце, што я ў вас буду прасіці, і не адкажыце мне маёй просьбы.* (У сваты звычайна ходзяць восенню, таму просяць пазычыць такія інструменты, якія ў тую пару не выкарыстоўваюцца ў дамашняй гаспадарцы.)

Сванька: — *Пажычце берда* (або *нічальніцы*), *буду кросна ткаці.*

Гаспадары (усміхаючыся): — *Што ж ты вясною рабіла, чаму ты красён не паткала, а гэто цяпер людзі лён труць, а ты будзеш кросна ткаці.*

Сванька: — *А чы ж вы не бачыце маей нядолі, што ў міне дзеткі маленькія, а я сама адзінокая. І калі ж я сама параблю ўсенько* (усё)? *У нядзелю мушу да места ехаць, часам здарыцца*

*што прадаці, а часам купіці, а часам і падпіці. А ў панядзелак галава баліць, цэлы дзень на пячэ пералежу, а ўвечары мой чалавек як прыдзе з гараня* (арання), *то пытаецца: «Што табе такое?» То я кажу: «Мой ты саколіку, так мне жывот цэлы дзень балеў, што я думала, што ўжэ ўмру». — «То можа табе якого зелья напарыць?»— муж пытае. А я яму: «Каб гэто гарэлкі з перцам чарачку, можа лепш пасобіло б, як зелье». То ён кажа: «Дай жа пляшачку, то я пайду прынясу крышку ад арандаркі». А я кажу яму: «То і я з табою перайдуся, то, можа, мне лепш будзе». То як забярэмся абое да карчмы, то нас і аўторак захопіць. А з карчмы прышоўшы, ведамо, што трэба легчы апачыць* (адпачыць) *трошкі. Такім спосабам аб рабоці ледво ў сераду ўвечары думаю, то якая ж работа? От сарочкі памыю і хлеба напяку і зноў нядзеля надыдзе, а тыдзень перабяжыць, сама не ведаю калі.*

Гаспадары: — *О, то не дзіво, мая саколко, што так твая работа зацягнулася: як ідаць, то шмат стаканы* (клопатаў) *маеш!*

Сванька: — *О. шмат, ужэ здаецца над міне ніхто больш клопатаў не мае.*

Гаспадары: — *А гэта жонка чаго хоча?*

Сванька: — *Гэто яна прышла на вашае сяло пытаці, можа дзе дзеўку якую чутно на службу, бо і яна таксамо адзінокая, як я. У яе яшчэ лён не церты і кросна не тканыя.*

Гаспадары: — *То, як ідаць, то вы абедзве еднастайнія.*

Сванька: — *А ўжэ ж не што, мы ўжэ ж разам і ходзім абедзве. Але будзьце вы такія добрыя, аддайце нам сваю дачку каторую за дзеўку.* (Гаворачы гэта, сванька звычайна маргае выбранай дзеўчыне — дзяўчаты тут асабліва пільнуюць яе погляду.)

Бацька (рашуча): — *Яшчэ я, дзякуй богу, хлеба маю ў гумне і свірне. Няхай сядзяць і здаровыя ядзяць, а па службах не цягаюцца. А грошай ім не магу даваць, але няхай не лянуюцца, а сваю работу хутко паробяць да ідуць на заробкі, то мецьмуць грошы.*

Сванька: — *Няўжэ ж ужэ вы, тату, загневаліся?*

Бацька:— *А загневаўся, бо ты мне ўстыд робіш, а прытом то ні цяпер пара на слугі — коляды на гэто.* (Тут сваха звяртае асаблівую ўвагу на таго, хто гаворыць.)

Сванька:— *Э-гэ! Я вас, тату, старэнькаго хутко перапрашу, у міне ест лекарство на гэто, каторае называецца боская моц* (жартаўлівая назва гарэлкі).— Гаворачы гэта, дастае з кішэні пляшку гарэлкі і, звяртаючыся да дзяўчыны: — *Ну, мая котко, пашукай настольніцы і чаркі, трэба твайго татка развесяліці і перапрасіць, бо надта я яго разгневала.*

Дзяўчына (саромеючыся): — *Ой, калі настольніца не вымыта ляжыць, і чаркі не ведаю, дзе падзеліся.*

Сванька: — *А, то відаць, і дзеўка была б з цябе такая сама, як мы гаспадыні, але гэто не ганьба, бо там горай, дзе дзеўка глядзіць лепш за парадкам, як гаспадыня.*

Бацькі (да дзяўчыны, калі маюць намер даць дазвол): — *Но, што зрабіць, пашукай ты настольніцы і чарачкі, няхай яны з цябе не высмяваюцца, што ў цябе адна настольніца і тая не мыта.*

Дзяўчына, прынёсшы абрус, накрывае ім стол, ставіць хлеб, соль і чарку. Тады сванька налівае ў чарку гарэлкі і, звярнуўшыся да бацькі, кажа: «*Здароў будзь, тато, дай жа божа, каб жа нам твая дачка пашыкавала*».

Выпіўшы, налівае і падае бацьку.

Бацька: — *Давай маему дзіцяці, калі яна хоча з вамі век карataці.*

Сванька (павярнуўшыся да дзяўчыны):— *Бяры, мая доньқо, татко на сваё старшэнство не ўважае, і з чаркаю да цябе адсылае.*

Дачка: — *Я з маім таткам ніколі не спрачалася і цяпер не буду, калі яму так спадабалася.*

Дагаворваючы гэтыя словы, на знак згоды падносіць чарку да вуснаў і падае бацьку, пасля чаго бацька выпівае да маткі, гаворачы: «*Ну, здарова будзь, старая маці, ужэ не мецімеш каго пабуджаці — уставай, донька, пара валы гнаці, а я буду абед гатаваці*».

Маці са слязамі на вачах прымае чарку і выпівае да маткі хлопца: «*Здарова будзь, што зрабіць, мусіць ты варта ў бога была, калі я для цябе дачку выгадавала, а мне няхай бог дапаможа гэтымі пасылаці, што мне астаюцца, калі буду варта ў бога, прыжду і выдаваці*».

З а ў в а г а. Ад моманту, калі маткі, выказваючы пажаданні, падымаюць чаркі, яны ўжо ўсё жыццё называюцца *сванькамі*. Суседкі, жадаючы суцешыць расчуленых жанчын, спяваюць:

Сванька сваньцы пакланілася,
Каб маім дзецем не глумілася.
Не будзі, сванько, як кур пае,
Да будзі, сванько, як пастух жане,
Бо кур пае апоўначы,
Пастух жане світаючы.

Пасля гэтага садзяцца на лавах і адкрыта ўжо гавораць пра мэту прыходу. Калі апарожняць бутэльку гарэлкі, прынесеную свахаю, гаспадары ставяць гарэлку яшчэ ад сябе.

**Заўвага.** Калі да дзяўчыны сваты прыходзяць першы раз, дык адвечны звычай патрабуе, каб яна прыняла гарэлку з рук свахі. Тады, калі сватоў прыняць не хочуць, вяртаюць пустую бутэльку, а за гарэлку плоцяць; калі ж прымаюць — дзяўчына ўкідае ў бутэльку некалькі зярнятак жыта, што з'яўляецца пэўным знакам. У такім разе гарэлку трэба выпіць, каб сваты не вылілі яе на камень, бо ўжо тады дзяўчына не выйшла б замуж зусім. Што сваты прыняты, сведчыць і тое, што дзяўчына пры сустрэчы іх прымае хлеб, які прынесла сваха ў белай хустцы, а на яго месца кладзе ім свой, завязаны ў такую ж хустку.

А ў другі аўторак або часцей у чацвер позлім вечарам адбываюцца сваты, на якія ў дом дзяўчыны прыязджае малады са сваім сватам.

Злезшы з воза, сват падыходзіць да акна, стукае, дае пахвалёнага, пасля чаго паміж тымі, хто прыехаў, і гаспадарамі завязваецца наступная размова:

Сват: — *Гаспадар удома?*

— *Удома, а хто там?*

Сват: — *Падарожны.*

— *А чаго хочаш?*

Сват: — *Заблудзілі, проша ягамосця, будзьце такія добрыя, пакажэця нам дарогу або прымеця пераначаваць, бо мы з кірмашу едзем і заблудзілі, а дадому не можам трапіць.*

— *Што вы добраго на кірмашу рабілі?*

Сват: — *Ніц добраго, ніц кепскаго! Хацелі ялавіцу купіці, але не купілі, только дзень змарнавалі і коні загналі і от яшчэ заблудзілі.*

Тады гаспадар загадвае чым найхутчэй запальваць на коміне агонь, а сам, выйшаўшы, запрашае прыбылых у хату.

Увайшоўшы ў хату, хлопец астаецца каля парога, не смеючы перайсці за першую бэльку, а сват, падышоўшы на сярэдзіну, перапрашае:

— *Не гневайцеся, суседзі, што я вас трывожыў серад ночы.* На што гаспадар: — «*Я люблю падарожных прымаці. Я вельмі з того не рад, калі мяне ўбогія альбо падарожныя абмінаюць*».

Сват (падыходзячы бліжэй): — «*Но, годзі ўжэ лгаці, калі прышла рыба да гаці, то трэба праўду казаці. Тут нас старая матка прыслала, бо яна якісь пачатак зрабіла, а мы зробім канчатак*».

Бацька: — *Калі з шчырым сэрцам, то прашу вас далей.*— І да дачкі: — *Но, доньку, засцілай стол, няхай гэтыя людзі сядаюць.*

Тады дачка засцілае стол абрусам, а лаву, на якой павінен

сесці хлопец,— доўгім ільняным ручніком. Тым часам сват выходзіць на падворак і, узяўшы з воза пляшку гарэлкі і булку хлеба, прыносіць у хату. Ён п'е да дзяўчыны, а хлопец да бацькі, які віншуе іх:

— *Но, здарова будзь, мая котко, дай жа божа вам на век доўгі, на быт добры, каб здаровы былі, харашэ з сабою жылі і багаты былі, і нас не забылі, а бога кахалі, і бліжніх не забывалі.*

Дагаварыўшы гэтыя словы, ён бярэ за правую руку дзяўчыну, ■ сват хлопца і на знак згоды злучаюць іх рукі. У Слонімскім павеце звычай падобны, але не рукі, а толькі малыя пальцы падаюць адно другому.

Калі пляшка апарожнена, гаспадары ставяць гарэлку ад сябе. Начаставаўшыся і нагаманіўшыся, позняй ноччу сваты пакідаюць хату.

## ЗАПОІНЫ, АБО ЗАРУЧЫНЫ

Запоіны адбываюцца ў суботу. У той дзень прыбіраюць чыста хату і робяць багатыя прыгатаванні. Капуста з баранінаю альбо са старым *окаркам*, гарох з пярловымі крупамі, шчодра засквараны саланінаю, запечаны *макарон*, яечня, а таксама гарэлка, сыр, пірагі ў той дзень павінны быць нават і ў найбяднейшай хаце.

Калі набліжаецца поўнач, тады матка хлопца ў саламяную скрынку, выссланую льняным абрусам, кладзе вяндліну, пірагі, сыр, масла, печанае мяса і каўбасы. Пасля скрынку з прыпасамі і больш чым дзесяцігарцавым барылкам гарэлкі стаўляе на воз. У рукі ж хлопцу дае гарэлку ў пляшцы з доўгім рыльцам, прыбранай зялёным аўсом, калінаю і рутаю.

Калі сват, сваха і хлопец якраз пад спеў пеўня пад'едуць да хаты бацькоў дзяўчыны, на парог выходзіць гаспадар і вітае прыбыўшых такімі словамі:

— *А як маецеся, мае мілыя госці?*

На што сват:—«*А мы здаровы, дзякаваць богу, як вы маецеся ў сваёй хаці?*»

— *Як даглядаеце, так і маеце,*— адказвае гаспадар, а праз хвіліну: — *Прашу вас да хаты з вашым божым дарам за мой свянцоны стол.*

Тады сваха бярэ скрынку з закускай, а сват — барылка і ўваходзяць у хату, дзе стаўляюць прынесенае на покуці.

Адначасова з прыездам хлопца дзяўчына хуценька стаўляе на стол хлеб, соль і чарку, а сваццця — закуску і гарэлку. Пасля гэтага сват п'е да дзяўчыны, якая, прыняўшы з яго рук кілішак,

ставіць яго на стале і разам з дружкаю бяжыць у вёску, каб запрасіць суседзяў, сваякоў, музыку і сваіх равесніц на *заручыны*.

Увайшоўшы ў першую-лепшую хату, яна гаворыць «Нех бэндзе пахвалёны Езус Хрыстус». На што гаспадары: «На векі векуў!» Маладая, кланяючыся нізка: *«Прасіў татко і матка, каб былі ласкавы, уступілі да нас на запоіны»*. А гаспадары хаты так адказваюць: *«Добра, добра, мас дзеткі, прыдзем; людзі людзям патрэбныя, і мы дзеці гадуем, дасць бог, калі прыжджэм, то і нам людкі будуць патрэбныя і прыхіляцца да нас. Дзякую вам за тое, што вы аб нас не забылі, прыдзем»*.

Пачуўшы добразычлівы адказ, дзяўчына цалуе гаспадароў у руку і гаворыць: *«Дзякую вам, што вы міне не выракаецеся і не адмовілі маей просьбы»*.

Падзякаваўшы, выходзіць першая, а дружка за ёю. Як пры ўваходзе, так і пры выхадзе дзвярэй яна не зачыняе: паводле павер'я, яна зачыніла б дзверы і перад сватамі, г. зн. не выйшла б замуж.

Калі ўжо збярэцца ўся дружына, госці бяруцца за панастаўляныя на сталах «боскія дары», п'юць гарэлку, маладыя ж пад гукі скрыпак танцуюць аколушку, польку, барыньку, шуфлядку, або шарлатана. Калі ахвоту да танцаў згоняць, тады равесніцы дзяўчыны. стаўшы ў куце святліцы, пачынаюць спяваць:

Развіваецца, развіваецца
Да ў гародзе зелечко,
Зачынаецца, зачынаецца
У Марыські вяселечко.
Бог ёй дае, бог ёй дае,
Ойчэнька спамагае.
Развіваецца, развіваецца
Да ў горадзе зелечко,
Зачынаецца, зачынаецца
У Марыські вяселечко.
Бог ёй дае, бог ёй дае,
Матуля спамагае.

Пасля ў гэтай песні пералічваюць, што *брацейко, сястронка брацiха* (братавая), *цёткі, дзядзькі, залвіцы* (мужавы сёстры), *ятроўкі* (жонкі мужавых братоў), *дзеверы* (мужавы браты), *суседзі і кумы спамагаюць*.

Ці ж табе, Марыська,
Малайцоў не стала,
Што тваё сэрцо
До Яся прыстало?
Только яны хадзілі,
Усенькі імі (сватамі) гардзілі,

Только ты, Марыська,
Імі не згардзіла,
За новым столікам
У сябе пасадзіла.
— А што ж вам, дзяўчаты, да таго,
Да выбору маего?

Старэйшыя, якія дасюль, седзячы пры стале, ахвотна папівалі і гаманілі, пасмейваючыся з дзяўчат-пяюх, адказваюць ім:

Пемо мы, ежмо мы,
Бог нам даў, бог нам даў,
Не завідуйце, дзевачкі,
Будзе й вам, будзе й вам!
Чаму ж вы рано не ўставалі,
Валоў на росу не выганялі,
Харошых песняў не спявалі,
Чым бы малайцоў да се прызвалі.

Як толькі старыя змоўкнуць, дзяўчаты выгукваюць: *«Няхай старыя не ўважаюць, што маладыя спяваюць!»*

Дружкі:

Ой, аддае мацi дачку
Да ў чужыя людзі.
А хто ж цябе, маё дзіця,
Шкадаваць там будзе?
— Ой, хто ж мяне наб'е,
Той мне пашкадуе,
А цяпер мне, мая матко,
Ужэ з табою не быці.

А ты, сваце, баламуце,
Много п'еш, много п'еш,
А ты, сваце, баламуце,
Усенько лжэш, усенько лжэш!
Нядаўно сватаў, то много налгаў,
Што ў маладого — сем валоў, сем валоў.
Як яна прышла — аднаго знайшла
Без хваста, без хваста.
А ты, сваце, баламуце (і г. д., як вышэй).
Як тую сватаў, то ты ёй казаў,
Што ў маладого сем кароў, як зуброў,
А яна прышла — адну знайшла
Без рагоў, без рагоў.
А ты, сваце, баламуце (і г. д., як вышэй).
А ты казаў, што ў маладого
Сем свірноў, сем свірноў,
Як яна прышла — аднаго знайшла
Без дзвяроў, без дзвяроў.
А ты, сваце, баламуце (і г. д., як вышэй).
А ты казаў, што ў маладого
Сама печ хлябы пячэ,
А з-пад печы вада цячэ,

Самі жорна крупы мелюць,
Самі гаршкі кашу вараць,
А качкі лыжкі мыюць,
Сабакі воду носяць,
А яна прышла і ніц не знашла,
Бо няма, бо няма.

На гэта сваты:

Жэб то вы так на загоне,
Як вас у танцу не дагоне,
Жэб то вы так серпэм жэлі,
Як у песні ензыкем млелі.

Дружкі:

Жэб так хлопак на пакосі,
Як у танцу на бок чапку носі.

Малады і сваты сядаюць на ручніку. Пустое барылка сватам аддае дружка, перавязваючы яго шырокім шарсцяным чырвоным поясам, а бутэльку, у якую маладая ўсыпае жменьку жыта, таксама дружка звычайна перавязвае поясам, але крыху вузейшым. Гэта вытлумачылі мне так: на вяселлі нічога пустога аддаваць нельга таму, каб будучая пара раскашавала ў багацці і дастатках.

У Пружанскім павеце пры ад'ездзе свата, якога завуць *дружкам* (*дрўжко*), маладая дае яму ў якасці падарунка кужэльны (льняны) ручнік, абшыты з абодвух канцоў махрамі. У вышэйназванай мясцовасці падобны ручнік дружко атрымлівае на *сватах*, і з гэтага часу, перавязаўшы праз правае плячо, носіць яго, як сімвал улады.

У ваколіцах Пружан у гэты дзень рукі маладых злучаюць на хлебе і благаслаўляюць, у Ваўкавыскім павеце гэтага не бачым.

Абавязкам свата ў гэты дзень з'яўляецца частаванне гарэлкаю; шчыруючы, ён заахвочвае:

Выпі, кумачко (куме, суседзе), выпі —
Кілішак невялікі.
І я таку моду маю,
Што да дна выпіваю.
Хто не вып'е да дна,
Той не зычыць дабра і г. д.

Калі дап'юць гарэлку, якую прывезлі сваты, гаспадары стаўляюць ад сябе і дадаюць багатую закуску.

Кожны з удзельнікаў гэтай *бясeды* прыносіць з сабою пляшку гарэлкі, бохан хлеба, сыр або каўбасы і г. д.— усё гэта стаўляюць на стол, а сват павінен частаваць.

Калі п'юць за здароўе заручоных, выкрыкваюць: «*Віват! Дай жа божа, каб нашыя маладыя заўсюды вясёлыя былі, каб скака-*

*лі, гулялі, пладзіліся, як пчолы ў улею альбо авечкі ў хляве, а любіліся, як галубкі ў гняздэс!»* Выпіўшы за здароўе, гарэлку, што астаецца ў кілішках, выплёскваюць уверх. Сват налівае гарэлку ў кілішкі лыжкаю з вялікай місы.

Пад канец гэтай бяседы дамаўляюцца пра дзень шлюбу. Ранкам дружына, голасна дзякуючы, пакідае вясельную хату, і абое маладыя, сват, сванька і бацькі маладой едуць да парафіяльнага касцёла або цэркаўкі даваць на запаведзі, адкуль ужо накіроўваюцца да сваіх хат.

Пры заручынах можна пачуць першыя вясельныя песні. Пад канец запоін равесніцы маладой спяваюць:

Дадому, сваточкі, дадому,
Паелі конікі салому,
Паелі, паелі да сцябла,
Паедзеш дадому без сядла.

## *РАШЧЫНЯННЕ КАРАВАЮ*

Праз паўтара тыдня пасля запоін, а менавіта ў чацвер, як заведзена паўсюдна ў ваколіцах Ваўкавыска і Пружан, рашчыняецца цеста на каравай, і ад гэтай хвіліны пачынаецца цэлы беспerapынны шэраг абрадаў, якія папярэджваюць вясельны банкет. Таму і чацвер гэты называюць *зачатным чацвяргом.*

У гэты дзень раніцай у вясельную хату прыбывае толькі адзін сват. Як толькі ён прыедзе, маладая ідзе да адной з найдаўнейшых прыяцелек сям'і або да сваячкі і просіць яе, каб рашчыніла цеста на каравай.

Ад гэтага моманту жанчына, пра якую ідзе гаворка, носіць імя *старшай каравайніцы*, або сванькі з боку маладой.

Каравайніца (увайшоўшы ў хату): — *Нех бэндзе пахвалёны.*

Сват:— На векі векуў!

Каравайніца: — *Як маецеся ў сваей хаце?*

Сват: — *Як даглядаеш, так і маеш.*

Каравайніца: — *Чаго вы ад мяне хочаце, нашто па мяне прысылалі?*

Сват: — *На тое, сванечка, каб рашчыніла нам караваю, божаго дару.*

Каравайніца (прыкідваючыся, што нічога не ведае):— *А то для каго каравай?* (А пасля, жартуючы.) *Можа будзем да гаспадыні прымака прымаці, а гаспадара жаніці?*

Сват:— *Што ты, сванько, гаворыш, хіба ты ўпілася, власне яны дочак ні маюць, што самі жаніцьмуцца!*

Каравайніца: — *Не павінны дочак сваіх без мае ведзы замуж аддаваці, бо і я таксамо іх пелянгую, то хто бы хацеў іх браці, то павінен у мяне пытацца. А вы такія нядобрыя, што як я бачу, то ўжэ ў вас штось зачынаецца вясельнаго, з чаго я вельмі не рада.* (Дагаварыўшы гэта, нібыта вельмі загневаная, сядае ў кутку хаты.)

Сват (падыходзячы): — *Даруй жа гэты раз. Ужэ другі раз гэтак не паступімо. Я чалавек з чужых старон, я ледво да гэтаго сяла дапытаўся, а як бачыў бацькі яе, то думаў, што гэто ўжэ ўсе апекуны, а якоесь там прыяцёнкі не ведаў.* (Праз мінуту.) *Ну, што зрабіці! Дайце, гаспадыня, чырвонае шапкі, трэба сваньку перапрасіці!*

Гаворачы гэта, ён вымае з-за пазухі чырвоную жаночую шапку, надзяе на галаву і падыходзіць з гарэлкаю да каравайніцы.

Сват: — *Сванечко, параднiчко, адпусціся, за кілішак божае моцы бярыся, дагэтуль была паследняя, а цяпер будзеш пярэдняя,*— і на знак згоды выпіваюць адно да аднаго.

Пасля гэтага сват бярэ каравайніцу пад руку і, падскокваючы да каморкі, выкрыквае: «*Дзякуй богу, каравайніцу перапрасіў, такі рад*». Тады абое выносяць з каморы вялікую дзяжу для рашчынняння, выгукваючы: «*Ух, ух! Гоп! Вяселе — каравай рашчыняці, вяселе зачынаці, каб нашы маладыя жылі, як галубы сівыя*».

Сват з каравайніцаю:

Ты матка старая,
Што на печы ляжала,
Злазь цяпер з печы,
Прастуй свае плечы.
Будзеш рано ўставаці,
Не маеш каго пабуджаці.
Ідзі па муку пшанічную,
Па красату дзявічную.
Дзявоцкая краса —
На галоўцы каса
І руцвяны вяночак
Маладых нашых дзявочак,
Каб яны вянкоў шанавалі,
Сваю красату хавалі.

Праспяваўшы, дзяжу стаўляюць на сярэдзіне хаты. Тым часам бацькі маладой выносяць мяшок пшанічнай мукі і стаўляюць на покуці. Калі ўжо мука прынесена, тады каравайніца тройчы хрысціць дзяжу і сыпле ў яе муку, набіраючы белаю талеркаю.

Сванька: — *Чы ест у гэтаго дзіцяці ойцец і маці? Чы пазволяць каравай рашчыняці?*

Бацькі:— *На нашае паввалене не ўважай, а божы дар рашчыняй і зачынай у божы час, як у людзей, так і ў нас. Прасі на помоц бога з высокага неба, каб дапамог ім у жыццю, чаго будзе трэба. Найсвентшая з астробрамы прычыніцца за імі, а яе сыночак змілуецца над імі.*

Дагаварыўшы гэта, сваццця сыпле муку, бацька лье ваду, а сват пырскае некалькі кропель гарэлкі, кажучы: «*А я сват, як ваш родны брат, падалью гарэлкі, але не думайце, што яна горка і што я сваім дзецям жычу горкага. Я ім усяго таго жычу, чаго яны ад бога сабе жадаюць,— только як я ад гарэлкі сягодня падвесяліўся, то так і хачу, каб і яны весяліліся*».

Калі ў бацькоў ёсць яшчэ дочкі на выданні, сват пасля таго як рашчыняць каравай, прыпадымае ўгару дзяжу ў чатырох супрацьлеглых месцах. Гэта таму, каб і яны на месцы не сядзелі. Нарэшце пасля ўсяго гэтага сват, не зрушваючы дзяжы з месца, хрысціць яе, а маладая накрывае белым абрусам.

У канцы трэба дадаць, што ў хмурны дзень каравай рашчыняюць у тыя хвіліны, калі сонца выгляне з-за хмары, бо калі рабіць наадварот, то маладых, паводле павер'я, чакаюць у жыцці сумныя дні, поўныя няшчасцяў і шматлікіх клопатаў.

Як толькі скончыцца ўвесь абрад рашчынення каравая ў маладой, тады сват хуценька вяртаецца, каб паведаміць пра гэта маладому. У хаце ён ужо застае сваньку маладога, з якою такім жа спосабам, які апісаны вышэй, рашчыняюць каравай, спяваючы:

А чыя то матуля
Да па гуланьцы ходзіць,
Суседачкаў просіць:
— Суседкі вы мае,
Прыхілецеся да мяне,
Да маяго дзіцяці,
Каравай рашчыняці,
Да прасіці ў бога
За яго маладога,
Каб добру жонку дастаў,
З радасці ў далоні пляскаў.
Для сябе — жонку,
Суседзям — прыяцёлку,
Добрую гаспадыню,
Як кветку каліну,
Каб бога не гнявіла,
А людзей не смяшыла,
Каб здарова жылі,
Старых бацькоў не забылі.

Калі малады або маладая — сірата, спяваюць наступную песню:

Ой, нету, нету
На каліне цвету,
Ой, нету, нету
Марыські ўдома.
Пашла яна, пашла
Да пана бога
Прасіці ласкі
Ад найсвентшай маткі,
Сваго ойца і маткі
Прасіці на вяселе:
Каравай рашчыняці,
Добрых людзей прымаці.
— Весяліся, донько,
З богам і з людкамі
І з прыяцелямі.
Мы самі старэнькі,
За тры замкі замкненты:
Першы замочак —
Зялёна мураўка,
А другі замочак —
Жоўты пясочак,
Трэйці замочак —
Цясовая дошка.
Нашыя ручанькі
Накрыж зложоны,
А нашыя очанькі
Запечатаваны.
Ой, пашла сірота,
Ручкі заламаўшы,
Очкі заплакаўшы:
— Чаму ж я такая
У бога няшчасная,
Што бог з таго света
Бацькоў не пускае.
— Ой, ціхо, сірото!
Не плач, не журыся,
Я сам над табою —
Только агляніся.

Вышэйпрыведзеную песню спяваюць таксама, як месяць і качаюць каравай.

## СУБОТА

*Перапросіны — каравайны вечар* (у шляхты — *дзявічы вечар*). У Ваўкавыскім, а таксама ў Пружанскім павеце ў гэты дзень абое маладыя едуць да споведзі. Аднак паку́ль прыступяць да гэтага таінства, абыходзяць усе хаты ў вёсцы, а таксама заходзяць і да бліжэйшага двара, каб аддаць паклоны і перапрасіць усіх гаспадароў. Калі адпраўляюцца на перапросіны, тады сабраныя ў іх хатах жанчыны спяваюць:

Пакланіся, доньку, старому і маладому,
І жыдаві, і дзіцятку малому,
Няхай просяць у бога долі
Для цябе маладое.
Няхай просяць ласкі
Ад найсвентшай маткі!

Маладыя ходзяць паасобку: яна з дружкаю, а ён з дружкам (чашнікам). Увайшоўшы ў першую-лепшую хату, вітаюць прысутных словам божым і дзверы за сабою пакідаюць адчыненымі (маладая кідае адчыненыя дзверы для дружкі). Кланяюцца найперш покуцю, пасля дзяжы, а нарэшце, гаспадару, гаспадыні і ўсім прысутным, якім яна цалуе рукі, кажучы: «*Выбачце, даруйце, можа вам калі-кольвек што кепскае зрабіла, або сказала або вашай старасці не пашанавала, будзьце так добрыя, перабачце мне ўсенько*». На што адказ: «*Бог, будучы богам, усім нам грахі адпускае, а трудно. каб мы, грэшныя людзі, адны другім кепскаго не запомнелі, а за добрае не памяталі*».

Іншаверцаў ніколі паклонаў і перапросін не пазбаўляюць. Калі пад вечар вернуцца са споведзі, паўторна выходзяць у вёску, дзе маладая з дружкаю, а малады з дружкам кожны ў сваю хату на *каравай* запрашаюць.

У Пружанскім павеце звычаю гэтага няма, бо там каравай месяць і пякуць у дзень вяселля, г. зн. у нядзелю. У Ваўкавыскім, Слонімскім і Сакольскім паветах каравай пякуць у суботу, і ўласна дзень гэты варта назваць пачаткам вяселля.

Апрача трох каравайніц, за якіх выбіраюць дзвюх жанчын і дзяўчыну, і таксама *гусарніц*, за якіх выбіраюць толькі дзяўчат, запрашаюць усіх суседзяў і сваякоў, ніводнага не абмінаючы. Каравайніц і гусарніц у вышэйназванай колькасці запрашаюць адных да маладой, другіх да маладога.

Кожная з іх, наколькі дазваляюць магчымасці, прыносіць пэўную колькасць пшанічнай мукі і больш за дзесятак яец. Усе ж запрошаныя без выключэння бяруць з сабой у вясельныя хаты хлеб, сыр, масла і гарэлку. Гэтыя дары прыбыўшыя складаюць на агульным стале.

У хаце маладога, як і ў яе, каравайніц і гусарніц, што прыходзяць, равесніцы маладой вітаюць наступнай песняй:

Ішлі і беглі каравайначкі
Чэраз гару высокую,
Чэраз воду быстрэнькую,
Няслі муку пшанічную,
Няслі яйца маладых курэй.

На што гусарніцы адказваюць:

Ой, вечар, вечар,
А ў нас каравай не печан.
Матко-любко,
Завініся ты хутко.
Матка завінула,
Каравай звінула,
Каравай да печы,
А дзіцятко да клеці.

Праспяваўшы вышэйпрыведзеную песню, гусарніцы бяруцца за ночвы, у якія часамі сыплюць каля шанка пшанічнай мукі. Муку заліваюць вадою, а замясіўшы як найгусцей цеста, выраб-ляюць з яго фігуркі розных формаў: вежы, бочачкі, ружы, людзей, зайцоў, мядзведзяў і дрэвы. Гэтыя фігуркі называюць гускамі. Выраблянь тых гусак гусарніцам памагаюць усе прысутныя ў хаце дзяўчаты.

Тым часам тры каравайніцы разам са сватам (на гэты вечар і маладая ад сябе запрашае каго-небудзь са сваякоў за свата да каравая) выносяць з *клеці* дзяжу з рашчыненым цестам. Паставіўшы яе на зямлі пасярод хаты, бяруцца са сватам накрыж за рукі і пры гуках скрыпак тройчы робяць вакол дзяжы круг. Пляскаючы ў далоні, гукаюць і выкрыкваюць: *«Ух-я! Будзем каравай мясіці, вяселе зачынаці, гарэлку прапіваці, белаго сыра кусаці»*.

Тады сват адчыняе дзяжу, а старшая каравайніца, перахрысціўшы рошчыну ў дзяжы, пытаецца: *«Ці ест* (ёсць) *у гэтаго дзіцяці ойцец і маці, чы пазволяць каравай мясіці?»* На што адказваюць бацькі: *«Зачынай у божы час, як у людзей, так і ў нас!»*

На гэтыя словы каравайніцы, закасаўшы рукавы, адгукаюцца да свата: *«Сваце! Дай па чарцы гарэлкі, будземо каравай мясіці і песні спяваці, нам горло засохло. Мы ішлі дарогаю пяшчыстаю, вецер вялікі быў, пясок вельмі круціў, то нам горло засыпаў»*. А калі сват падае ім у рукі жаданага напітку: *«Выпі ты да нас,*— кажуць,— *бо, можа, ты якіх чараў альбо любчыку насыпаў!»*

Тады сват п'е да старшай каравайніцы, тая да свае сяброўкі, а апошняя з каравайніц п'е за здароўе гусарніц, якія выгукваюць: *«Ой ты, сваце наш, чаму ў цябе мёду німаш!»* Паколькі няма такога звычаю, каб дзяўчаты пад час вяселля пілі гарэлку, сват тут жа прыносіць жаданы напітак.

Пасля гэтага пачастунку каравайніцы ўсыпаюць у рошчыну муку і, месячы, пад гукі музыкі спяваюць:

Гускі з лускі і з мякіны (2)
Кепскія дзеўкі мясілі. (2)

Гусарніцы:

Нашыя гускі з пшаніцы,
Вы кепскія маладзіцы,
Вы маладзіцы-піячкі,
Мы добрыя дзевачкі.
Ваш каравай грэцкі,
Вы думалі будзе па-шляхецкі?
А вы таго не зналі, не зналі,
Што шляхта мігдаловы выпякалі.
Нашы каравайніцы з места,
Ой, яны пакралі цеста,
А як сталі танцаваці,
Стало цесто выпадаці.
Хвалілася каравайніца,
Што андарак новы,
Ажно ў яе, ажно ў яе
Трыбух, трыбух голы.
Хвалілася каравайніца,
Што ў яе бажанты,
Ажно ў яе, ажно ў яе
Да самыя латы;
Яна пашла танцаваці,
Сталі латы выпадаці.

Каравайніцы:

Нашы гусарніцы нялюдскі, нялюдскі,
Намясілі ў гусках усё клюцкі, усё клюцкі.

Гусарніцы:

Не турбуйцеся вы гускамі, гускамі,
Бо такія гускі, як мы самі, як мы самі.
Мы самыя, як у садочку кветачкі,
Да такія нашы гусачкі, гусачкі.
Вы, старыя бабы, папіліся, папіліся,
Глядзеце, каб караваі ўдаліся, удаліся!

Каравайніцы на згоду:

Ды кала тыну, тыну сцежачкі, сцежачкі,
А кала гусак, гусак дзевачкі, дзевачкі.
Да кала тыну, тыну дробныя, дробныя,
А кала гусак, гусак здобныя, здобныя.

Гусарніцы:

Да кала месячыка зорачкі, зорачкі,
Кала каравая малодачкі, малодачкі,
Да кала месячыка ясныя, ясныя,
А кала каравая красныя, красныя.

Калі ж ужо цеста на каравай скончаць мясіць, тады сват, адзеўшы шапку і ўзяўшы ў руку невялічкі бізунчык — знак сваёй годнасці, падыходзіць да каравайніц і гусарніц і звяртаецца да іх

з такімі словамі: *«Дзякуй вам, мае дзевачкі і малодачкі, што вы каравай замясілі, песенькі спявалі, дружыну весялілі. Дай жа, пане божа, каб вы здаровы спявалі, найдалей за месяц гэты баль у сябе адбывалі».*

А гусарніцы на гэта: *«Дзякуем вам, дзядзьку, за вашае добрае слово, дай жа, пане божа, в вашых губоў богу ў вушы».*

Пасля гэтых слоў каравайніцы хрысцяць цеста, а сват, накрыўшы яго белым абрусам, частуе іх гарэлкаю, чэрпаючы яе з місы лыжкаю, якою налівае ў чаркі. Пасля пачынаюцца скокі, якія працягваюцца да той пары, пакуль не напаліцца як трэба печ на каравай.

Тады сват, узяўшы яловае памяло, вымятае дачыста печ, а тым часам старшая каравайніца збірае каля сябе адзінаццаць каравайніц (сярод іх могуць быць і каравайнікі), якім, выдзеліўшы па роўнаму кавалку цеста, дае знак гэтай во песняю, каб браліся качаць:

Маладыя каравайначкі
Каравай валкуюць
Белымі ручанькамі,
Злотымі пярсцёнкамі.
Маладыя дзеванькі
Гусанькаў наляпілі
Белымі ручанькамі,
Злотымі пярсцёнкамі.
Маладая дружанька
Вяночка ўвівае
Белымі ручанькамі,
Злотымі пярсцёнкамі.

У хаце маладога спяваюць:

Маладая сванечка
Вяночка ўвівае
Белымі ручанькамі,
Злотымі пярсцёнкамі.
Маладая Марысенька
Белымі ручанькамі,
Злотымі пярсцёнкамі
Косаньку расплятае,
Сільненько наракае:
— Каса мая доўгая,
Каса мая тоўстая,
Ці не змарнуешся?
Каму ж ты дастанешся —
Ці добраму, ці кепскаму?

Спяваючы вышэйпрыведзеную песню, каравайніцы, абступіўшы стол, качаюць рукамі падзеленае цеста.

Старшая ж дружка ў гэты час уе на пярсцёнку вяночак, уплятаючы ў яго руту або, як у шляхты, мірт і абвіваючы яго чырвонай ніткай. Той вяночак, які аздабляе галаву маладой, прысылае ёй на каравai малады (уе вяночак у гэты ж дзень сваха). Гэты ж дружка робіць на ўсякі выпадак, для таго, каб ім можна было замяніць вяночак маладога, калі ён акажацца непрыгодным.

Тым часам каравайніцы, качаючы цеста, спяваюць матцы:

Выйду я на гулыньку,
Стану я на грудочку,
Гукну я да радочку:
Зыдзіся, мой радочку,
Каравай валкаваці,
Мёд, віно папіваці, (2)
Каравай да печы саджаці.

Караваяў усіх робяць дванаццаць. З іх адзін найбольшы, які завуць *старшым*, робіць старшая каравайніца; іншыя ж, што завуцца каравайчыкамі, разам з чатырма падоўжанымі *калачамі* робяць яе сяброўкі. Калі ўжо каравai пакачаюць, сват бярэ ў рукі лапату і хрысціць ёю печ, адна ж з каравайніц пасыпае лапату аўсом, іншыя ж падносяць да печы каравai, спяваючы:

Расці, караваю, вышай печы
Крамяное, крамяное,
Вышай Марыські маладое, маладое.
Расці, караваю, вышай вішні
Зеляное, зеляное,
Вышай Марыські маладое, маладое.
Расці, караваю, вышай каліны
Чырвонае, чырвонае,
Вышай Марыські маладое, маладое.
Расці, каравай, вышай вярбы
Залатое, залатое,
Вышай Марыські маладое, маладое.
Наш каравай на аўсе, на аўсе,
Каб мы весяліліся ўсе, усе.
Наш каравай ужэ ў печы, ужэ ў печы.
Дзе будзем насіці? Да клеці, да клеці!
Наш каравай радочкам, радочкам,
Малада Марыся з вяночкам, з вяночкам.
Наш каравай да кутка, да кутка,
Марыська вартая вянка, вартая вянка.
Міжы караваю гусанькі, гусанькі,
А ў Марысі ў очках слёзанькі, слёзанькі.

Гусарніцы, саджаючы ў печ гускі:

Не думай, Марыся, не думай,
Пераплыла рэчку — плынь Дунай!

Не знала свякрухны — будзеш знаць,
Не слала пасцелькі — будзеш слаць.

Пасадзіўшы караваі ў печ, адны танцуюць, другія, гамонячы, частуюцца гарэлкай, а дзяўчаты ад часу да часу, падышоўшы да печы, спяваюць:

Змарнела Марыська, змарнела —
Мусіць табе галоўка балела?
— Балела, дзевачкі, цэлы дзень,
Што не бачыла,
Але маю ў бога надзею,
Што прыедзе Ясё ў нядзелю.
Аж прыехаў Ясё ў ночы,
Ен застаў Марыську не сплючы.
— Чаму ж ты, Марыську, не спала?
— Я русу коску часала,
Я русу коску часала,
Цябе, маладога, чакала.

Тым часам у хаце маладога адбываецца такая самая цырымонія: 12 каравайніц качаюць і саджаюць у печ караваі. Толькі ў песнях знаходзім невялікую розніцу, напрыклад у той, якую спяваюць жанчыны, пасадзіўшы каравай у печ:

Расці, караваю, вышай столпа залатога, залатога,
Вышай Яся маладога, маладога.
Расці, караваю, вышай каня варанога, варанога,
Вышай Яся маладога, маладога.
Расці, караваю, вышай топаля высокага, высокага,
Вышай Яся маладога, маладога.
Наш каравай на аўсе, на аўсе,
Каб мы весяліліся ўсе, ой, усе.
Наш каравай на жыце, на жыце,
Дай нам, божа, спажыці, спажыці!
Наш каравай на лапаце, на лапаце,
Скачэце, каравайначкі, па хаце, па хаце.
Наш каравай пульхненькі, пульхненькі,
А каравайначкі маладзенькі, маладзенькі.
Наш каравай ужэ ў печы, ужэ ў печы,
Дзе цяпер пойдзе? Да клеці, да клеці!

А пасля:

Ой, ляці, саколе, да пераз тры поле,
Да й пераз чатэры, стань у пятом лесе,
Стань у пятом лесе, там на гарэсе,
Там тваю саколку птушачкі абселі.
— Няхай абсядаюць, я аб том не дбаю,
Я сваю саколку паміж іх пазнаю,
Бо ў мае саколкі залатыя пёркі,
Залатыя пёркі па плечках, па плечках,
А срэбныя значкі на очках, на очках.
Ой, едзь, Ясеньку, пераз тры сяле,

Пераз тры сяле, пераз чатэры,
Там тваю Марыську дзевачкі абселі.
— Няхай абсядаюць, я аб тым не дбаю,
Я сваю Марыську паміж іх пазнаю,
А ў мае Марыські залатыя коскі;
Залатыя коскі на плечках, на плечках,
Дробненькія слёзкі на очках, на очках.

Ой, не едзь, Ясю, дзе цябе нелюбяно,
Але едзь, Ясю, дзе цябе спадабано,
Там ужэ для цябе варота паадмыкано.
І не выбірай, Ясю, каторая гладка,
Сам глядзі, у людзей пытай, чы мецена хатка?
Не ўважай, Ясеньку, каб была росла,
Сам глядзі, у людзей пытай, чы ўмее ткаць кросна.
Не глядзі, Ясю, чы ў пацёрках шыя,
Сам глядзі, у людзей пытай, чы кашулю ўшые.
Не ўважай, Ясю, чы пекне ў танцу ходзіць,
Сам глядзі, у людзей пытай, чы усенько зробіць;
Не ўважай, Ясеньку, чы ручанька бела,
Сам глядзі, у людзей пытай, каб усенько ўмела;
Не ўважай, чы ў танцу ногі падыйме,
Сам глядзі, у людзей пытай, чы будзе гаспадыня.
Не вер ты таму, як сам се хваліць,
Сам глядзі, у людзей пытай, чы есці наварыць.

Старшая каравайніца, пляскаючы ў далоні:

Ой, хвала ж табе, божа,
Ужэ работку зрабіла!
Як Дунай праплынула,
Як войско зваявала,
Так каравай пасадзіла.
Як на небе зорачкі,
Так мае каравайчыкі,
Паміж імі месяц ясны,
Паміж малымі каравай старшы.
Як у садочку кветачкі,
Так гусарніц гусачкі.

Старшая каравайніца:

Ой ты, сваце, сваце наш,
Чаму ў це гарэлкі нямаш?
Сват кішаньку патрасе,
Свасе гарэлкі прынясе.
А як сванька падап'е,
Свату каньчук адатне.

Сват:

Яшчэ така сванька не была,
Каб мне каньчук адцяла.
Ідзі ты, сванька, з жыдамі,
Будземо мы тут самі.

Старшая каравайніца:

Ці ты, сваце, п'яны,
Ці ты апантаны,
Ці ты з розуму зышоў,
Скуль ты гэтакі прышоў?
Дзе ты валачыўся,
Што ты гэтак упіўся?
Ці ў гарохах, ці ў пшаніцах,
Ці ў харошых маладзіцах?

Сват:

Што табе, свахо, да таго,
Да да спацэру маего,
Пільнуй ты сваго сябе,
Будзе даволі з цябе.
Як будзеш нас усіх пільнаваці,
То не ўседзіш з намі ў хаце,
А хоць будзеш сядзеці,
Не будзеш смело глядзеці.

Праз пару гадзін пасля таго, як каравай пасадзілі ў печ, старшая каравайніца, пераканаўшыся, што ўжо час яго вымаць, звяртаючыся да свата, выгуквае: *«Ты, сваце, сабачы браце, знай ты сваё права, ідзі каравай выбіраць і будзем біці браво. Браво, браво, нашо ўзяло — наш каравай упёкся, як пернічак румяненькі, як яблычко гладзенькі, як месячык ясненькі, так каравай красненькі. Бяры, сваце, залатую меч і срэбраную сякіру, будзем меч'у рубаці печ і каравай даставаці, бо ўжэ наша маладая захацела спаці»*.

Пасля вышэйпрыведзенай арацыі сват, схапіўшы лапату, хуценька падбягае да печы і, адняўшы *засланку*, вымае караваі адзін за другім, каравайніцы ж, стаўшы радком, прымаюць караваі і складваюць на стале, спяваючы:

Ой, дзякую богу,
Што наш каравай удаўся,
Што нашай Марысі Ясё спадабаўся.
Як каравай ясны,
Так Ясенько красны,
Як каравай дапякаўся,
Так Ясенько выбіраўся.
Сват каравай выбірае,
Маці сына научае,
Як там мае паступаці,
Як шапаньку здымаці,
Як галаваньку схіляці,
Як цесця і цешчу вітаці,
А пасагу не пытаці.
Як Марыся будзе добра,

Да гаспадаркі падобна,
Ты будзе пасагам самая,
Як зара на небе ясная.

У хаце ж маладога адбываюцца тыя самыя рытуалы з той толькі розніцай, што вышэйпрыведзеная песня пасля слоў «Сват каравай выбірае» спяваецца такім чынам:

Ой, маці сына ў дарогу выпраўляе:
— Ой, едзь ты, сынку, ў вяліку дарогу,
Па сваю Марыську, па сваю нябогу.
А ты, сваце-маршалачку,
Выбірай каравай з печы,
А я пайду да клеці.
А ты, сваце-маршалачку,
З старшаю каравайначкаю,
З нашаю параднчачкаю,
Вы радзьце кала каравая,
А я з сваім сынам
У клеці падумаю.
Ой, ты паедзеш у чужыя людзі,
Будзь жа ты разумненькі:
Шапаньку здымі,
Галоўку схілі.
Будзь жа ж ты пакорненькі:
Пакланіся старому і малому,
І ойцу Марысінаму.
Няхай кажды знае,
Што старая маці
Добраго сына мае.
Што такі пакорненькі,
Што такі вясёленькі,
Каб хлопцы прыклад бралі,
А ўсе дурнем не называлі.

У час, калі ў хаце вымаюць з печы каравай, у каморы гурт дзяўчат, акружыўшы маладую, праводзіць апошні вечар перад шлюбам у даверлівай гаворцы.

Адначасова ў хаце маладога маці, паклікаўшы сына ў каморку, навучае яго такім чынам: «*А ты, сынку, маё дзіцятко, будзь каждаму пакорны, не разгняві нікого, а думай сабе аб гэтом, што ты роўно як на той свет ідзеш і мусіш каждаго прасіць, каб табе твае грахі даравалі. То так помні, што, жэнячыся, трэба каждаму пакарыцца, каб табе на тваю прышласць з цэлаго сэрца віншавалі і ўсяго добраго жычылі, хоць людзі кажуць, што псі глос не ідзе да нябёс, але не трэба людзей да граху даводзіць, бо помні старых людзей прыказку, што пакорнае цяля дзве маткі ссе, а гордае жаднай. А бога не забывай, даўнейшых звычаёў не выводзь нігды з хаты і з галавы свае, чужой мяжы не парагоры-*

*вай, чужых грахоў не перасуджывай, бо ест найвышшы над намі, і ён нас каждаго асудзіць. Калі цябе бог у гаспадарцы пацешыць, помні заўсюды аб том, каб убогія твае хаты не абміналі. Аб удовах і сіротах не забывай, бо не ведаеш, што цябе чакае,* і г. д., і г. д., і г. д.»

Вымаючы з печы, караваі кладуць на века ад дзяжы і, па адным пераносячы, укладваюць на стале, які засланы белым. Калі старшы каравай на стале (звычайна яго кладуць пасярэдзіне), сяваюць:

Наш каравай на веку, на веку,
Дай жа, божа, да веку, да веку!
Наш каравай на жыце, на жыце,
Дай жа, божа, спажыці, спажыці!
Наш каравай на стале, на стале,
Ідзі ты, матко, па сяле, па сяле
Сваго роду спрашаці, спрашаці,
Каравай убіраці, убіраці,
Дзеці да шлюбу выпраўляці.
Убярэм каравай кветкамі харашэнько,
Выправім дзеткі да шлюбу раненько.
Наш каравай перапечы, перапечы,
Куда сцежка? Да клеці, да клеці.

Каравай убіраюць гускамі, якія прымацоўваюць пры дапамозе вострых выструганых з дрэва шпілек.

На сярэдзіне каравая ўтыкаюць *рагаценьку*, г. зн. трохзубыя вілкі з грушавага дрэва, якія перад гэтым абвіваюць чырвонаю ніткаю і аблепліваюць цестам. Уваткнуўшы рагаценьку ў каравай, убіраюць яе аўсом, калінаю і рутаю і абвіваюць чырвонаю стужкаю.

Рагаценька ўзвышаецца над караваем на локаць, на вяршыні яе старшая дружка кладзе белую паркалёвую хустку, якую маладая ўсё вяселле, паводле старога звычаю, носіць за шарсцяным поясам. (У Ялоўскай парафіі каля горада Нараўка да гэтай хусткі прышпільваюць перавязаны белаю стужкаю руцвяны букецік.)

У маладога каравай пякуць такой самай формы. На яго ідзе да двух гарнцаў пшанічнай мукі. На рагаценьку ж замест хусткі, як гэта мы толькі што бачылі, сванька кладзе невялікі вяночак з пярсцёнка, навокал абвінутага рутаю,— гэты вяночак да шлюбу прышпіляе маладой маці.

Старшая дружка і гусарніцы, убіраючы каравай гускамі, спяваюць:

Наш каравай з гускамі, з гускамі,
Выправім шчырымі слязкамі, слязкамі.
Убярэм каравай гускамі дробненькімі,
Гускамі дробненькімі, ручкамі беленькімі,
Пасвецім пярсцёнкамі залаценькімі.

А ты, Марысько, у каморы
Гатуй ручнічкі за столы,
Ужэ тая хвіля надходзіць,
Ужэ сват па цябе выходзіць.

П а с а д. Як толькі каравай прыбяруць гускамі, мацi або, як у маладой, сванька засцілае ручніком лавы. Стол з покуця пераносяць на сярэдзіну хаты. Накрытыя абрусам каравайчыкі сват на веку ад дзяжы, засланым сенам, адносіць па адным у каморку. Пасля гэтага ён накрывае старшы каравай вялікаю хусткаю, кладзе на века і, павярнуўшыся да покуця, хрысціць яго, а потым павольна ідзе ў клець, дзе побач з малодшым братам сядзіць маладая, акружаная сяброўкамі.

Сват, увайшоўшы ў *клець*, вітае прысутных і, атрымаўшы звычайны адказ ад дзяўчат, якія ўстаюць са сваіх месц, гаворыць да маладой: *«Ну, маё дзецятко, насядзелася з дзяўкамі, ідзі ўжэ да нас, час ужэ табе, час».*

Пачуўшы гэтыя словы, маладая залівaецца слязьмі, а праз некалькі мінут хапаецца за хустку, якая вісіць у брата з правага боку за поясам. Маладую вядуць з клеці так: папераддзе, несучы каравай, ідзе сват, за ім — брат маладой, затым, трымаючыся за хустку брата, сама маладая, за ёю — дружка і сяброўкі. Увесь гэты картэж павольна накіроўваецца праз сені ў галоўную хату, кланяючыся да зямлі вясельным гасцям.

Пераступіўшы парог, найперш кіруюцца да покуця, дзе звычайна вісіць абраз [...]; тут, перахрысціўшыся, падыходзяць да абодвух бацькоў, якія разам са сваякамі паселі на лавах вакол стала; маладая, плачучы, падае ім у ногі і, атрымаўшы благаславенне, абходзіць за сватам тры разы вакол стала, кланяючыся ўсім.

Пасля гэтага маладая садзіцца на лаве за сталом, пры ёй з правага боку малодшы брат, а з левага — старшая дружка. Што ж датычыць каравая, то калі хлопец з чужой вёскі, дык сват выносіць гэты каравай у каморку, у іншым жа выпадку ставіць яго на сярэдзіне стала.

У час толькі што апісанага абраду равесніцы маладой спяваюць:

Пастаньце, баяр'е, усенька ў рад,
Будзе ісці Марыська на пасад.
Усенька баяр'е паснула,
Перайшла Марыська, не чула.
Што ж вам, баяр'е, такое,
Чом не багаслaвеце Марыські маладое?
Не для таго яе не віншавалі,
Каб ёй ліхого жадалі,
Няўвага наша эрабіла,
Маладу Марыську перапусціла.

Ляцелі гусанькі пераз сад,
Клікалі Марыську на пасад.
— А што ж вам, гусанькі, да таго,
Да пасаданьку маяго?
Ляцела сарока — задзерты хвост.
— Ты, малада Марысько, сцеражы кос,
Бо то пташка такая,
Што за косанькі хватае.
— Я тое сарокі не баюса,
Сваіх косак сцерагуса.

А б р а д  п а с а д у  м а л а д о г а. У Пружанскім павеце садзяць на пасад у нядзелю рана перад шлюбам. Маладога садзяць на пасад такім самым чынам. Тут толькі трэба дадаць, што калі малады з другой вёскі, то каравай выносяць у каморку, а маладога садзяць толькі ў нядзелю рана перад самым выездам да вянца.

З а м е н ь в а н н е  к а р а в а я. Калі маладыя з адной вёскі, то ў дзень пасаду адбываецца заменьванне караваяў. Гэты абрад праходзіць так. У хату маладой пасылаюць у разведку сяброў маладога. Як толькі маладую павядуць на «пасад», яны адразу ж паведамляюць пра гэта ў хату маладога, які таксама сядзіць ужо на пасадзе. Калі толькі гэта вестка дойдзе, сват бярэ ў рукі каравай (у Ялоўскай парафіі каравай усю дарогу вязе на галаве) і разам з дружкам, які вешае сабе за пояс пару чаравікаў, і скрыпачом (музыкам) хутчэй выязджае да маладой, каб заспець яе на пасадзе.

Усю дарогу скрыпач іграе старасвецкі марш, тыя, што едуць, падпяваюць яму:

Радуйся, Марысечко,
Вязем табе падарачка,
Вязем табе падарачка —
Рутвянаго вянушачка.

Заехаўшы, не чакаюць, каб хто з гаспадароў выйшаў сустракаць, а проста ідуць у хату. Пераступіўшы парог, сват, нізка пакланіўшыся, дае пахвалёнага і, падышоўшы да маладой, кажа: *«Панно млодо, прыслаў мяне пан ойцец, пані матка, пан млоды з караваем, з божым дарам, з руцвяным вяночкам. Гэто дае знаць, каб заўтра доўго не спаць, кабы рано ўставала, галоўку ўчасала, бо пан млоды прыедзе. Цясовыя варотца адчыніла, злоты пароғі пазмятала, бо тут будзе на абедзе»*. Дагаварыўшы гэтыя словы, сват падыходзіць да стала і побач з караваем маладой стаўляе свой.

У гэты час дружко аддае дружцы, якая сядзіць пры маладой, чаравікі. Адначасова, баючыся няслаы, звяртае пільную ўвагу на тое, каб дружка спрытным рухам не выкрала вяночка, які вісіць, накрыты белай хусткай на рагаценьцы, уваткнутай у кара-

вай. Бывае і так, што дружко падае дружцы папяровыя чаравікі, якія ўмела пашыты з кардону і якія падобны на сапраўдныя, схаваныя ў кішэні. У такім разе дружка, адплачваючы дарам за дар...[2]

А ў нядзелю рано
У вішнёвым садочку
Брат з сястрою ходзіць,
Пацiху гаворыць:
— Аддай мяне, братко,
У новую дзярэўню,
У вялікую сем'ю,
У вялікую сем'ю,
У багатае дзело.
Я буду служыці,
Да цябе, браточку,
У гасціну хадзіці.
Жджэ братко нядзельку,
Жджэ братко другую,
Трэйцяя настае,
Брат каня сядлае.
— Ой, пій, коню, воду,
Паедзем да роду,
Паедзем да роду
Хоць пераз воду.
Ой, брат прыязджае,
Сястронкі пытае,
А сястронка-вішня
Проціў брата вышла:
— Здароў, братко, здароў!
А я нездарова,
Пабіта галова;
Другая нядзеля,
Як я захварэла;
Трэйцяя настала,
Я з пасцелі ўстала.
Ой, спраў мне, браточку,
Тры васковых свечкі,
Пазнаеш хваробу
Сваёй сяструначкі.
Першая гарэла,
Сяструнка хварэла,
Другая палала,
Сяструнка ўмірала,
Трэйця пагасае,
Брат сястру хавае.
— О то ж табе, сёстро,
Новая дзярэўня,
Вялікая сям'я,
Багатае дзело.
Багатага дзела

---

[2] Тут згублены адзін аркуш рукапісу.— Заўвага перакладчыка.

Ты сама схацела.
Засыпаў пяскамі,
Жоўтымі пяскамі,
Заламаўшы ручкі,
Заплакаў слязкамі.

Пасля ўсяго гэтага позняй парою наступае вячэра, якая складаецца з гатаванай капусты, гароху на масле з пярловымі крупамі і грыбка, г. зн. яечні, запечанай у *мялічцы* (глыбокая міска).

Усялякае ж мясное падаецца звычайна перад вячэраю як закуска да гарэлкі. Калі падымаюць чаркі, можна пачуць такія пажаданні за здароўе маладых: *«Віват! Дай жа божа вам на век доўгі, на быт добры, няхай жа бог вас шчасцем і доляю спаткае, чаго вы сабе замысляеце»*. Агульны тост: *«Каб здаровы былі, каб гарэлку пілі, каб бога кахалі і старых звычаёў не забывалі». «Хлопцы, п'емо здарава! Любемася, як бог прыказаў, як кахаліся нашыя прадзеды!»* і г. д. Бываюць і прыпеўкі, як гэтыя:

Ой, хочацца, хочацца,
Што з барылкі точыцца,
З барылкі ў раток,
Каб не балеў жыватох.

А ты, Рыва, давай піва,
Ты, музыка, зайграй жыво!
Няхай наш сват пагуляе,
Бо ён грошыка не мае.

Пасля поўначы вясельныя госці пачынаюць разыходзіцца па сваіх хатах.

Сват маладога забірае заменены каравай і разам з дружкам і музыкам, які пад гучныя воклічы іграе старасвецкі марш, адвозіць каравай да маладога.

## НЯДЗЕЛЯ

С п р о с і н ы. У нядзелю зранку, прыбраўшы маладую ў вясельныя шаты, дзяўчаты разам з дружкаю зараз жа выпраўляюцца запрашаць суседзяў і сваякоў на вяселле. Абход усюды пачынаюць з двара, просячы такімі словамі: *«Будзьце ласкавы, уступіце да нашае ўбогае хаты, мяне, маладую, да шлюбу выпраўляці, у найвышшага бога і найсвентшай паненкі шчасця і долі ўблагаці!»*

Малады з дружкам ходзіць запрашаць асобна.

Запрашаюць усіх, нягледзячы на веру, стан або век асобы.

**В ы е з д  м а л а д о г а  з  д о м у.** Калі малады вернецца са *спросін*, яго адводзяць у каморку. Адтуль сват, узяўшы ў рукі каравай, вядзе маладога ў хату, ідучы за некалькі крокаў уперадзе. Па дарозе з каморкі малады ўсім сустрэчным нізка да зямлі кланяецца шапкаю. Увесь картэж мужчын пасоўваецца павольна. Скрыпач у гэты час іграе старасвецкі марш.

Увайшоўшы ў хату, застаюць за сталом абодвух бацькоў разам са сванькай і блізкімі сваякамі. Малады падае ў ногі — спачатку бацькам, а пасля ўсім прысутным. Калі гэта цырымонія скончыцца, малады ўслед за сватам, які ўвесь час трымае каравай, тры разы абходзіць стол.

Пасля, калі малады цнатлівы, маці стаўляе на сярэдзіну хаты дзяжу, у адваротным выпадку — табурэтку. Калі малады, не адмаўляючыся, сядзе на дзяжы, тады ўсе прысутныя, пляскаючы ў далоні, *«браво!»*, *«браво!»* крычаць, а сванька, павярнуўшыся да сваякоў: *«Добрая маці,*— кажа,— *харашэ сына выхавала, для сябе на славу і для іншых на добры прыклад».*

Тады расчуленая маці, паабдымаўшы сына, прышпільвае яму да правага штрыфля світкі пучок руты, перавязанай белаю стужкаю; сват, паказваючы руку маладога, звяртаецца да яго таварышаў: *«Глядзеце, хлопцы, усе, як міло ўглядацца, калі маладзік вянка нясе».*

У гэты момант дзяўчаты, якія тут прысутнічаюць, спяваюць:

А ты паедзеш у чужыя людзі —
Будзь жа ж ты разумненькі:
Шапаньку здымі, галоўку схілі —
Будзь жа ж ты пакорненькі.

**П е р а п о й.** Перад самым выездам сват, узяўшы ў рукі драўляны кубак, якім дасюль яшчэ ніхто не карыстаўся, сыпле ў яго некалькі зярнятак аўса і налівае піва. Крануўшыся вуснамі кубка, сват падае яго бацькам маладога, ад якіх гэты кубак тройчы пераходзіць з рук у рукі па застоллі. Пад канец сват, прыняўшы кубак, рэшту піва вылівае на сцяну, дзе покуць — каб маладыя мелі такі дастатак, якога б хапіла для сябе і для іншых і яшчэ заставалася. Малады ўвесь час сядзіць на дзяжы і не дакранаецца да кубка, бо да вянца маладыя выбіраюцца нашча. Апісаны тут абрад у Ваўкавыскім павеце завецца *перапоем.*

Пасля перапою маці маладога запальвае грамнічную свечку, падыходзіць да сына, робіць над яго галавою знак святога крыжа і з чатырох бакоў, г. зн. накрыж, крыху прысмальвае яму валасы.

Дзяўчаты пасля гэтага спяваюць:

Да цугу, конікі, да цугу,
Час табе, Ясеньку, да шлюбу,
Пад тыя гараньκі крутыя,
На тыя месцечка святыя.

Жанчыны:

Чы ж табе, Ясеньку,
Дзевачок не стало,
Што тваё сэрданько
Да Марыські прыстало?
Што ж вам, суседачкі, да таго,
Да выбору маего.

Калі ўжо набліжаецца час ад'езду, сват частуе ўсіх гарэлкаю, а бацька маладога нясе за ім на талерцы закуску. Пасля сват бярэ ў рукі каравай; убачыўшы гэта, малады падыходзіць да бацькоў, а потым па чарзе да ўсіх іншых, цалуючы ў рукі,— кожны ў адказ робіць над яго галавой знак крыжа.

Нарэшце, музыканту падаюць знак, і той, зайграўшы марш, выходзіць з хаты. За ім, узяўшы ў рукі каравайчык, ідзе бацька, за бацькам — сват з караваем, потым — малады, а за ім і ўся дружына высыпае на панадворак. Пад канец, калі ўжо малады, сват, дружко і сванька сядуць на вазы, бацька абходзіць з каравайчыкам кожны воз, хрысцячы тых, хто там сядзіць, і, урэшце, падае каравайчык маладому, які перакідае яго праз сябе. Коні зрушваюцца з месца пад спеў:

Ой, варогі, варогі,
Не пераходзьце дарогі,
Бо пераходзіць бог з неба,
За ім родны ойчэнько,
Просячы долі ў бога,
Ад яго маладога.

Увесь картэж едзе па дарогах, дзе ходзяць і ездзяць усе,— па бездарожжы або, як зімою, карацейшымі дарогамі не едуць ніколі. Сванька бярэ з сабою шмат гусак, якімі, едучы праз вёску, шчодра надзяляе дзяцей, а старэйшым, якія сустракаюцца па дарозе, кідае кавалкі пакроенага каравая.

Малады перад сустрэчнымі здымае шапку і нахіляе галаву, дружко робіць тое самае.

Калі коні маладога спыняцца перад хатай маладой, тады сванька, скардзячыся, што засталі дзверы хаты замкнёнымі, у такт музыцы спявае:

Сваточку-маршалачку,
Заварачай коні ўзад,
Бо тут нас не любяць,

Процiў нас не выйдзено
З новымі дзежачкамі,
З поўнымі кубачкамі.

Як толькі песня змоўкне, адчыняюць як найшырэй дзверы, у якіх паказваюцца маці маладой і сваячка ці, як у Сакольскім павеце, абое бацькоў, якія нясуць дзяжу, накрытую абрусам,— на ёй стаіць талерка з хлебам, соллю і двума кубкамі піва.

Паставіўшы дзяжу на зямлі тут жа пры возе, маці маладой бярэ талерку ў рукі. Малады, калі ён цнатлівы, саскоквае з воза проста на дзяжу, тупае па ёй нагою і, здымаючы шапку, саскоквае на зямлю, пасля чаго кідае на дзяжу некалькі сярэбраных манетак, якія маці забірае.

У выпадку, калі малады не захаваў *маладзецкай красы*, то саскоквае прама на зямлю з другога боку воза. Гэты звычай датрываў ва ўсёй сіле да цяперашняга часу. У Сакольскім павеце, дзе картэж маладога, апроч сванькі, едзе браць шлюб конна, малады саскоквае на дзяжу з каня.

Пасля гэтага малады, прывітаўшы *цешчу*, прымае ад яе поўны кубак піва і падае яго свату, бо да вянца мусіць ехаць нашча. Сват, прыняўшы кубак, п'е да маткі. Калі гэта адбываецца, у самой хаце сяброўкі маладой спяваюць:

Да клеці, Марысько, з святліцы,
Прыехаў Ясенько з-за граніцы,
Прыехаў, прыехаў з Кракова,
Пытае Марыські, ці здарова?
Марыська ніц не адказала,
З святліцы ў камору змыкала,
Змыкала, змыкала з дружкамі,
Паліла зямліцу слязкамі.
Ціхо, Марысько, не плач,
Які Ясь прыбраны, ты забач,
Ад свае матулі нараджоны,
За тваім столікам пасаджоны.

Як піва выпіта, матка са сваячкаю становяцца ў парозе хаты і, падняўшы талерку з хлебам і соллю ўверх, трымаюць яе да таго часу, пакуль пад ёю не пройдуць найперш сват з караваем, пасля малады, дружко, сванька і музыкант. Калі яны ўвойдуць у святліцу, там ужо маладой не застаюць, бо, як гаворыць вышэйпрыведзеная песня, уцякла яна разам з дружкаю і сяброўкамі ў клець.

Малады, сват і дружко, уваходзячы ў хату, усю дружыну вітаюць пахваленым, а пасля, надзеўшы на галовы шапкі, садзяцца тут жа на лаве пры стале.

Маладой, якая ўвесь час сядзіць у клеці, паглядзець на маладога можна не іначай, як толькі праз пярсцёнак.

Праз нейкі момант сват маладога ўстае са свайго месца і, пакінуўшы каравай на стале, накіроўваецца ў клець, дзе маладая, маючы з аднаго боку малодшага брата, а з другога — старшую дружку і цэлы гурт равесніц, якія яе суцяшаюць, сядзіць сумная, заліваючыся слязьмі. Сват бярэ ў каморцы каравай і ідзе ў хату, за ім жа ідзе брат маладой і яна сама, трымаючыся за хустку, што вісіць у яго з правага боку за поясам, за ім жа крочаць дружка, сванька і ўвесь гурт статных сяброўак, якія спяваюць:

Пастаньце, баяр'е, усенькі ў рад,
Ужэ вядуць Марыську на пасад,
Будзе яна ісці між вамі,
Лічанько абліто слязкамі.

Ляцела сарока —
Задзяры хвост,
Задзяры хвост,
А ты, Марысько,
Сцеражы кос,
Сцеражы кос!
Бо та пташка
Такая, такая,
Што за коскі
Хватае, хватае.
— Я той сарокі
Не баюся,
Не баюся,
Сваіх косак
Сцерагуся,
Сцерагуся.

Калі спяваюць гэту песню, маладая, ідучы за сватам, тройчы абходзіць стол, за кожным разам падаючы бацькам у ногі, дружыне ж кланяецца нізка да зямлі.

Калі маладая сірата, то ў час гэтага абраду можна пачуць такую песню яе сяброўак:

Бедная сірота на свеце,
Хто ж ёй косанькі расплеце,
Хто ж яе да шлюбу завядзе?
Вышаў старшы братко з каморы:
— Я да це, сястронка, гатовы,
Я тваю косаньку распляту,
Я цябе да шлюбу завяду.

Тры разы абышоўшы стол, маладая сядае на накрытую кажухом дзяжу, якая стаіць пасярод хаты.

Калі ж маладая страціла дзявоцкую красу, тады ёй замест дзяжы стаўляюць табурэтку, якую таксама прыкрываюць вывернутым баранковым кажухом.

У шляхты, аднак, у ваколіцах Ваўкавыска маладую заўсёды саджаюць на крэсле, накрытым футрам. Толькі ў ваколіцы г. Нараўкі ў шляхты датрымаўся звычай, што маладую саджаюць на дзяжы, накрытай футрам.

Калі маладая пасаджана на табурэтку, тады сват маладога прыносіць стары абарваны хамут і шчарбатую міску. Хамут гэты надзявае на шыю матцы маладой і, стаўляючы перад ёй міску, так звяртаецца да яе: *«Маеш табе, матко! Не дахавала дачкі ў пачцівасці, насі на шыі хамут, а ўглядайся на шчарбату місу».*

Калі малады толькі ў гэты момант даведваецца пра тое, што маладая страціла дзявоцкую красу, ён, паводле звычаёвага права, можа адмовіцца ад яе, не вяртаючы ніякай платы за панесеныя бацькамі маладой выдаткі.

Годнай жа вянка дзяўчыне, калі яна сядзіць на дзяжы, спяваюць:

Чы ж не жаль табе,
Маладая Марысько,
Дзявоцкае красы?
Усе дзевачкі ідуць,
Вяночкі нясуць,
Ты сядзіш на пасаду.

Калі гэта спяваюць, бацька маладой, або, калі яго няма, старэйшы брат, падыходзіць да маладой, расплятае касу і, перахрысціўшы галаву, тройчы расчэсвае ёй шчоткаю валасы, маці ж, падышоўшы з запаленай грамнічнай свечкаю, падпальвае іх у чатырох месцах і прыколвае на галаве (крыху вышэй патыліцы) руцвяны вянок.

Пад канец гэтага абраду старшая дружка здымае з ног маладой чаравікі, а замест іх абувае тыя чаравікі, якія прыслаў малады.

Равесніцы маладой пры расплятанні касы:

Ой, рано, рано
Слоненько вышло,
Ой, рано, рано
Абвеяло росу.
Заплач, Марысько,
Расплящі косу,
Ой, рано, рано
Расплялі косу.
— Ой, чы рано,
Ой, чы не рано,

Не дбаю,
Я сваю коску
Заўсюды сабе маю.

Зазвінелі залатыя кубачкі на стале,
Ой, заржалі вараныя конікі на стайні,
Заплакала малада Марыська па касе,
Заплакалі па ёй таварышкі чысто ўсе.
— Ой, не плачце, мае дзевачкі, вы па мне,
Бо дазнае кажда з вас па сабе.
Бо як свет светам настаў,
То кажды дзяцюк сабе жонкі шукаў.
Яшчэ ж такія цуда не бывалі,
Каб дзевачкі самы малайцоў шукалі.

Тут на парозе святліцы паказваецца маці маладой, несучы з клеці чатырохлокцевыя кавалкі добрага палатна, якія прызначаны на падаркі.

Сват маладой, убачыўшы яе, выклікае: «*Пане сваце! Ходзьце на дары ад маладое, панна млода дарыць падаркам — палатном кавалкам*». З гэтымі словамі сват маладой бярэ палатно ад маткі і падае свату маладога, які, прыняўшы яго, вешае на бізуне і, тройчы абвёўшы ім над сталом, дзякуе такім чынам: «*Дзенькуе пану богу, пану ойцу, пані матцэ, панне млодэй і тэму колу, цо седзі кала столу, і вшысткім пасполу*». Пасля гэтага сват выклікае такім самым спосабам дружка, які бярэ ад яго бізун і таксама дзякуе.

Урэшце выклікаюць *вазніцу* і *заводчыка* (брат маладой, які яе абводзіў вакол стала).

Атрыманае палатно перавязваюць кожнаму праз правае пляча на вузел і не здымаюць датуль, пакуль ажно вяселле не скончыцца.

Калі раздаюць падаркі, дзяўчаты спяваюць:

Выбачайце, сваткове,
Што падаркі карнаты,
Адну лешачку льну сеяла,
І тая не ўрадзіла,
Падаркі укарнаціла.

Пасля даравання дружыны маладога настае *перапой*, які адбываецца такім самым спосабам, як мы ўжо бачылі ў хаце маладога.

Калі ўжо набліжаецца час ехаць да вянца, тады па знаку свата дзяўчаты спяваюць такую песню:

Да цугу конікі,
Да цугу запрагаюць.
Час табе, Марысько,
Да шлюбу выбірайся:
Пад тыя горанькі крутыя,
Пад тыя месцечка святыя.
— На што ж вы мяне та збываеце,
З ойчанькавай хаткі выганяеце,
Няхай я пабуду тут з вамі,
Пажагнаю вас слязамі.

Як толькі сяброўкі маладой змоўкнуць, тады сват маладога, узяўшы маладую за руку, падымае яе з дзяжы і падводзіць да бацькоў, дзе абое маладых, укленчыўшы, атрымліваюць такое блаславенне: *У імя ойца і сына і духа с[вято]го, амэн!* (Тут бацька, выцершы слёзы, робіць знак святога крыжа над галовамі маладажонаў.) *Дзеткі мае міленькія, няхай вас сам бог з неба высокаго благаславіць, сыночак божы змілуецца над вамі, а найсвентша матка і ўсе святыя прычыняюцца за вамі».* А праз хвіліну, звяртаючыся да дачкі, якая захліпаецца ад слёз:— *Дай, божа, мая доньку, каб гэто астатнія тваі слёзы былі, жэб мы, апроч пацехі, нігды смутку праз цябе не мелі. Няхай вам бог напаўняе ў каморы, у аборы, у полю родзіць, у хляве плодзіць. А не падымайце рукі адно на другое нігды, няхай валей вашыя баранчыкі б'юцца, а вы радуйцеся, як у небі анелі, каб і мы, старыя, з вас радасць мелі. А цяпер, дзеткі, уставайце з зямлі святое і едзьце шчасліве, аж там станьце прэд алтаром і прысягнеце сабе верную міласць і кахане аж да смерці».*

Пасля бацькоўскага блаславення маладая, горка плачучы, развітваецца са сваімі сяброўкамі, абое маладыя падыходзяць яшчэ да сваякоў і старшых з дружыны, якія, каб развесяліць маладую, выказваюць ёй свае добрыя пажаданні [. . .]

Пасля ўсіх гэтых блаславенняў і развітанняў сват падае знак скрыпачу, і той пачынае іграць марш, а ўся дружына, уперадзе якой ідуць бацька з каравайчыкам у руках і сват са сваім нязменным караваем, высыпае з хаты пад галасістыя спевы дзяўчат:

Сядай жэ, сядай,
Марысю кохане,
Ніц не паможэ
Твое плакане.
Твой плач не поможэ
Стоё коне на заложу,
Юж заложонэ.
— А я не бэндэ з вамі сядала,
Ешчэ я ойцу не дзеньковала:
Дзенькую тобе, ойчэ,

Жэ выховал цурка ў сродзэ,
А тэраз не бэндзеш.
Сядай жэ, сядай,
Марысю кохане,
Ніц не поможэ
Твое плакане,
Твой плач не поможэ,
Стоё коне на заложу,
Юж заложонэ.
— А я не бэндэ з вамі сядала,
Ешчэ я матцэ не дзенькована:
Дзенькую тобе, матко,
Жэ выховала мне гладко,
Тэраз не бэндзеш.
Сядай жэ, сядай і г. д.
— А я не бэндэ з вамі сядала,
Ешчэ я брату не дзенькована:
Дзенькуе ці, пане-браце,
Цосьмы жылі пенкне ў хаце,
А тэраз не бэндзем.
Сядай жэ, сядай і г. д.
— А я не бэндэ з вамі сядала,
Ешчэ я сёстшэ не дзенькована;
Дзенькуе ці, моя сёстро,
Хоць жылі з тобо остро,
Тэраз не бэндзем.
Сядай жэ, сядай і г. д.
— А я не бэндэ з вамі сядала,
Ешчэ ■ прогам не дзенькована:
Дзенькую вам, мое прогі,
Дзе ходзілі мое ногі,
Тэраз не бэндо.
Сядай жэ, сядай і г. д.[3]

Едучы праз вёску, дзецям, якія бягуць за коньмі, сванька кідае цэлымі прыгаршчамі гускі, крычучы: *«Бярыце, дзеткі, гускі, будзеце помніць Марысіно вяселе!»* Спаткаўшы папа, звычайна з воза выкідаюць жменю саломы, шпільку, намітку і іншыя рэчы; да ксяндза, аднак, толькі што ўспомнены забабон не адносіцца.

Пры сустрэчы з фурманкамі, нават нагружанымі, або з панскімі карэтамі з дарогі ніколі не з'язджаюць.

Калі ў дарозе здарыцца што-небудзь з вупражжу або зломіцца вось ці кола, у маладых, паводле павер'я, будзе кароткае або нешчаслівае жыццё.

Пырханне коней лічыцца добрым знакам.

---

[3] Тут згублены аркуш рукапісу. На наступным аркушы рукой М. Федароўскага напісана алоўкам: «Дзе аркуш 17? Пашукаць!» — Заўвага перакладчыка.

Дождж ці сустрэча з панам у час, калі злазяць з вазоў,— на багатае і заможнае жыццё.

Дрэнная ж будучыня, як лічыцца, чакае маладых тады, калі коні ідуць спакойна, паспускаўшы галовы, або калі да вазоў, з якіх злазяць вясельнікі, падыдзе жабрак.

У касцёле, дзе маладыя прысягаюць у каханні да смерці, сванька маладога пасцілае ім пад ногі ручнік, уздоўж якога рассцягвае шарсцяны пояс чырвонага колеру.

Як толькі маладыя адыходзяць ад алтара, маладая звычайна пацягвае за сабой ручнік — гэта для таго, каб дружку за сваім прыкладам як найхутчэй пацягнуць на шлюбны каберац.

Вяртаючыся з-пад вянца, маладая едзе на першым, малады ж на другім возе — разам ніколі.

Перад кожнаю карчмою, якую сустракаюць на дарозе, вазніца на хвіліну спыняе коней; з вазоў не злазяць. Выехаўшы за горад або за парафіяльную вёску, сванька пачынае спяваць:

Ой, хвала табе, божа,
Што маладыя шлюб узялі,
Велькай славы даказалі
І нямнога за шлюб далі:
Толькі тры залатыя
Да ўсе тры чырвоныя.
За рутвяны вяночак
Сто тысенцы заплацілі.
Маладую Марыську
Так як дармо ухапілі.
Маладая Марысько,
Што ж цяпер задумала,
Чы ты вельмі ўцешылася?
— А не вельмі цешуся,
А не вельмі смучуся,
Бо сама я не знаю,
Што перад сабою маю.
Чы буду панаваці,
Чы без хлеба ўміраці?
Калі буду ў роскашы,
Дапусці таго, божа,
Калі буду ў нядолі,
То не дай таго, божа!

З-пад вянца маладыя заязджаюць у карчму, дзе іх з поўнымі *каробкамі* ўжо чакаюць бацькі як маладога, так і маладой, каб, паводле звычаю, спажыць багаты абед.

Карчмарка, рыхтуючыся іх прыняць, накрывае стол белым абрусам і ад сябе ставіць кварту гарэлкі і чаркі. Лавы ж, на якіх павінны сядзець маладыя, засцілае кужэльным ручнікам.

Як толькі вясельны картэж набліжаецца да карчмы, сванька заводзіць:

Радуйся, арандарачка,
Будзеш меці падарачка
Ад нашае маладое,
Ад зоранькі яснае.
Сваімі ручкамі рабіла,
А матулька пакраіла,
Усеньку свадзьбу абдзяліла
І рандарачкі не забыла.
Прасі бога, рандарка,
Чы ты жыдоўка, чы татарка,
Каб нашы маладыя
Былі шчаслівыя.

Пачуўшы гэту песню, карчмарка звычайна выходзіць на парог сяней, несучы на талерцы хлеб, соль і чарку гарэлкі. Калі маладыя падыдуць да парога, тады яна звяртаецца да іх так: *«Я вас спатыкаю з хлебам і сол'ю, а бог няхай спатыкае шчасцем і ўсім добрым, чаго вы сабе замысляеце, і з поўнаю чаркаю, абы вам было ўсюды напоўнено і нігды ў жыцю ніц не забракавало»*.

Калі карчмарка дагаворвае гэтыя словы, маладыя, пакланіўшыся нізка да зямлі, гавораць: *«Дзенькуем табе за тваё добрае ўважычэне»*. Пасля ў суправаджэнні карчмаркі альбо яе мужа ўваходзяць у карчму.

Маладыя падаюць да ног бацькоў, якія іх чакаюць; уся ж вясельная дружына, што сабралася тут, сустракае тых, што ўваходзяць, моцным воклічам «Віват!»

Маладыя сядаюць за доўгім сталом у цэнтр, з правага боку маладой звычайна садзіцца дружка, за ёй сванька. Малады ж каля свайго боку мае дружка, каля якога сядае сванька маладога, пасля бацькі абодвух маладажонаў з каробкамі, поўнымі закускі; за імі размяшчаюцца астатнія ўдзельнікі, якія прывыклі прыносіць з сабою гарэлку, мясное, сыры, пірагі і масла. Па абодвух канцах стала звычайна стаўляюць абодва караваі, накрытыя белымі хусткамі. Сват, які сядзіць насупраць маладых, пачынае ўрачыстасць. Устаўшы са свайго месца, ён бярэ пляшку за шыйку, гаворачы: *«Завітай, фляша наша, кілішак зялёны, хто выпіе двадзесьця, тэн бэндзе збавёны»*.

Кілішак — брацішак,
Кватэрачка — сёстра,
Жэбы наша пані млода
Не была збыт остра.

Перакульваючы кілішак, сват дадае: *«Ведайце яшчэ і пра тое, што хто не п'е да дна, той не мысліць дабра»*.

Сват, выпіўшы сам, налівае напітку маладой і маладому, бо гэта яго абавязак, пасля абыходзіць стол, частуючы па чарзе кожнага са шматлікіх гасцей бяседы.

Выпіваюць найперш за здароўе абодвух маладых, пасля бацькоў, сванек, свата, дружкі, дружка, нарэшце, усёй кампаніі і г. д.

Вясельнікі па чарзе падаюць [прынесеную з сабой] гарэлку карчмару, які злівае яе ў агульную банку, голасна аб'яўляючы, ад каго гэта гарэлка. Перад кожным, хто яе падносіць, маладыя нізка нахіляюць галовы, прычым малады — шапкаю. З банкі гарэлку разліваюць у пляшкі. Апрача гэтага, сват, трымаючы ў левай руцэ бутэльку, у правай кілішак і бізун, абыходзіць стол і, пагражаючы бізунчыкам, частуе гасцей гарэлкай, выкрыкваючы: *«Дачыста! Бо начыне заўша любіць парадак і чыстасць!»*

З самага пачатку абеду на працягу нейкай гадзіны музыка не іграе. Затое сярод тостаў і звычаняў, часта дасціпных і годных увагі, пры падыманні чарак можна пачуць кароткія прыпеўкі, як гэтыя, што ў час урачыстасці я здолеў на скорую руку занатаваць:

Пеймо мы,
Ежмо мы,
Бог нам даў. (2)
Не завідуйце,
Добрыя людзі,
Будзе і вам. (2)

Ещце, людкове,
І пеце,
За маладых
Бога прасеце.
Каб нашы маладыя
Жылі лета даўгія,
Каб бога кахалі,
Адно другого шанавалі.

Выпей, кумульку, выпей,
Кілішак невялікі.
Я таку моду маю,
Што да дна выпіваю.

Ой, выпіла, выхіліла,
Сама сябе пахваліла:
Ах, я добраго роду,
П'ю гарэлку, як воду.

Ой, п'яночка, п'яночка
Васілёва жоначка,

Прапіла я качаргу,
Дастанецца памялу;
Сюды, туды па хаце,
Дастанецца і лапаце.

Пасля гэтых і да іх падобных вітальных прыпевак скрыпач уцінае па струнах жвавага шарлатана, а моладзь, ахвотна прытупваючы, ідзе танцаваць.

Толькі што згаданы шарлатан з'яўляецца нічым іншым, як мелодыяй марша Дамброўскага [. . .]

У шарлатане ўдзельнічаюць тры асобы; [redacted] іх двое стаяць каля сцен насупраць адзін другога, трэці ж танцор, пакуль музыкант іграе павольнейшым тэмпам, падбягае танцуючы то да аднаго, то да другога; калі ж музыкант зайграе жвавей, тады сярэдні танцор, хутка падскокваючы, падхоплівае ў круг аднаго, потым падбягае да другога, выгукваючы: *«Віват! наша!»* У час танца ён левай рукою падымае ўверх шапку.

Апрача шарлатана, тут звычайна танцуюць польку, аколушку, барыньку, казака, шуфлядку і падушачкі.

Каб танцаваць падушачкі, становяцца больш за дзесятак асоб (аднак не да пары), утвараючы вялікае кола, у сярэдзіне якога знаходзіцца адзін з танцораў. Як толькі музыка зайграе, танцоры, трымаючыся за рукі, скачуць усім колам, спяваючы:

Падушачкі, падушачкі,
Да ўсё пухавыя,
Малодачкі, малодачкі,
Да ўсё маладыя.
Каго люблю, каго люблю,
Таго пацалую,
Падушачку пухавую
Таму падарую.

Як толькі праспяваюць песню тройчы, танцор, што быў усярэдзіне, хапае першую-лепшую дзяўчыну [redacted] кола, іншыя робяць тое самае; той жа, хто астаўся без пары, павінен ісці ў сярэдзіну і г. д.

Калі пачынаюць танцаваць польку, то, каб паддаць ахвоты, падпяваюць:

Пыталася маці сына,
Што каштуе та дзяўчына?
— Табе, маці, не пытаці,
Што каштуе, трэба даці.

Пад час так званага драпака, танца імклівага, поўнага непараўнанай фантазіі, чуем песні:

Дайце, хлопцы, драпака,
Не жалуйце лапцёў,
Бо як велье зацвіце,
Бацько другі папляце.[4]

Аколушку танцуюць так: становяцца двое, часам трое, чацвёра або пяцёра і, узяўшыся накрыж за рукі, хутка круцяцца ў крузе. Калі перакруцяцца некалькі разоў, як млынок, адзін з танцораў, тупнуўшы нагою, затрымлівае ўсіх удзельнікаў танца, якія праз хвіліну круцяцца ўжо ў супрацьлеглы бок, спяваючы:

Дзяўчынанька дворна,
Чом ты не пазорна?
— Таму не пазорна,
Што кашуля чорна.
Хоць кашуля чорна,
Бяры мяне смело,
Бяры мяне смело,
Ест удома бела [...]

Казака, найлюбімейшага танца, танцуюць пры любым выпадку. Казакоў ёсць некалькі; у іх прымаюць удзел як хлопцы, так і дзяўчаты.

А як было жыто ў мешку,
То давала ўсім па трошку,
А як стала мізарнеці,
То не маю ні зернеці.

Вяртаючыся да справы, я павінен дадаць, што хоць тутэйшы люд не мае столькі спрыту і фантазіі ў рухах, колькі іх мае мазур або кракавяк, аднак і яму не бракуе гнуткай паваротлівасці, запалу і жыццярадаснасці.

Старэйшага веку людзі ў танцах удзелу зусім не прымаюць.

У перапынках паміж танцамі п'юць гарэлку, мёд, піва, а часта і віно (наліўку), якімі гасцінна частуе сват. Звычайнай закускаю бываюць сыр, пшонны пірог і вяндліна. Вясельная дружына (*свадзьба*) часта амаль перад самым ранкам пакідае карчму. Выходзячы з яе, сванькі спяваюць:

Ой, дадому, баламуце, дадому,
Не выцірай падушачкаў нікому!
Не выціраў, не выціраў, только раз,
Бадай тыя падушанькі пярун трас!

[4] Збоку М. Федароўскі дапісаў: «На ноту:

Ой, гучыць і гудзе,
Дробны дождж ык ідзе,
А хто ж мяне, маладзеньку,
Дадоманьку завядзе». (Заўвага перакладчыка).

Ой, дадому, сваце, дадому,
Паелі конікі салому,
Паелі, паелі да сцябла,
Паедзеш дадому без сядла.

З карчмы маладыя раз'язджаюцца па сваіх хатах.

## ПАНЯДЗЕЛАК

*Спросіны — ачэпіны — пераносіны.* Рана ў панядзелак бацькі маладых ходзяць па ўсёй вёсцы ад хаты да хаты, запрашаючы на снеданне такімі словамі: «Нех бэндзе пахвалёны Езус Хрыстус!» На што гаспадар хаты адказвае: «На векі векуў, амэн!» Тыя, што запрашаюць: *«Будзьце ласкавы, уступеце да нашае хаты на чарку гарэлкі, бо мы зрабілі бабу з дзеўкі; на кубачак піва, каб была доўго жыва; на тыя гусочкі, што ляпілі дзявочкі, і на каравай злоты пекнае работы; музыка нам заграе, кажды ў нас пагуляе, а дзевачкі заспяваюць, бо пекну ногу маюць. Мы старыя бацькі, як за печу сверышчкі, вып'ем, закусім і пагавэндзім, бо ўжэ нам на каравай старых ног не падымай. Яшчэ раз прашу вас: зрабеце тую ласку нам, а можа мы хутко пры боскай памоцы адслужым вам»* [5].

Як толькі прагаворана вышэйпрыведзеная арацыя, гаспадары ў адзін голас адказваюць: *«А што ж бы то мы за суседзі былі, каб да вашае свянцонае хаты не ўступілі»*.

Пачуўшы прыхільны адказ, даюць пахвалёнага і рушаць да наступных суседзяў.

Сабраная ў хаце маладога шматлікая свадзьба (дружына) адразу ж пасля снедання, якое складаецца з гарэлкі, сухіх закусак, баршчу або шчаўя, рыхтуецца ад'язджаць да хаты маладой. Бацькі маладога, якія ў гэты дзень апранаецца ў тыя самыя строі, у якіх ездзіў да вянца, напаўняюць каробку сырамі, мясным, пірагамі, гаршчэчкам масла і пляшкай з крупнікам. Так напакаваную каробку даручаюць старасту, які з гэтага дня выконвае на вяселлі свае абавязкі. За старасту выбіраюць звычайна жанатага мужчыну, які добра ладзіць са сваімі, лічыцца за чалавека разважнага і ўмее гладка гаварыць.

Стараста надзявае на сябе вывернуты кажух, за каўнер якога затыкаюць *кветку*, г. зн. вялікі пук зелені з аўса, рабіны, руты і

---

[5] Тутэйшы люд падобна да сваіх пабрацімаў з-над Віслы карыстаецца пры кожнай нагодзе шматлікімі *арацыямі*. Такіх прыгожых зычэнняў-віншаванняў ці таксама дзядоўскіх (жабрацкіх) падзяк я не чуў нідзе. Многа іх я ўжо сабраў і нашуся з думкаю, каб выдаць іх асобна.

яліны,— гэты пук тырчыць на дрэўку высока ў яго над галавой, пакрытай сівой барановаю шапкай.

За музыкантам, што наігрывае вясельны марш, выходзіць найперш сват, несучы ў абедзвюх руках прыбраны кветкамі каравай; пасля выходзіць малады, за ім ідзе дружко, трымаючы гарнцавае барылка піва, прызначанае для дружкі. Следам за дружкам высыпаюць з хаты: сванька з поўнаю хусткаю гусак, накроенага каравая і з 4 калачамі, стараста з каробкаю і рэшта *свадзебнай* дружыны.

Пасеўшы на вазы, блаславёныя бацькамі, якія астаюцца дома, рушаць з месца ў такім парадку: на першым возе едзе малады, дружко, сванька са сватам і музыкант, на другім жа — вазніца і вясельны стараста з неадступнай каробкаю. Ад'язджаюць ад хаты пад песню:

Не вязі ты нам,
Мой ты сыночку,
Пышнае і багатае,
Да шукай ты нам,
Мой ты сыночку,
Сіротанькі беднае.
Не шукай жа ты,
Маё ты дзецятко,
Каб коні і валы мела,
Да глядзі жа ты,
Маё дзецятко,
Каб нас старых глядзела.
Як не будзеце
Вы, мае дзеткі,
Нас старых шанаваці,
То не будзе вам,
То не будзе вам
Бог дапамагаці.

Па дарозе сват час ад часу, а дакладней, калі вясельны картэж спатыкае каго або праязджае праз вёску, выгуквае: *«Гоп! Гоп!»* Сванька ж шчодра кідае дзецям, якія бягуць за вазамі, гускі і каравайчыкі.

Калі вясельны поезд ужо набліжаецца да хаты маладой, сванька заводзіць:

Радуйся, Марысенько,
Бо ўжэ Ясенько блізко,
Бо ўжэ пара цябе ўзяці,
Годзі ойцу гадаваці.
Каб ты больш гаравала
І дзявоцку красу хавала,
Тоб такі ўсё тужыла,
Што дзяўчынаю была.
Забірайся, забірайся,

З скрынямі, з пярынамі,
Пажагнаешся ўжэ назаўсюды
З ойчэнька парогамі.
— А ты, матко, не журыся,
А кала кубла [6] вазьміся
Шчыльненько звоі укладай.
Бо як ты будзеш плакаці,
То будуць людзі думаці,
Што дачкі не шкадавала,
Але звояў жалавала.
А ты, татулю, старэнькі,
Мой галубачку сівенькі,
Сівыя усы закруці,
А машоначку патрасі,
Бо тут нечага думаці,
Што чырвонцаў трэба даці.
Бо ты бы велькі ўстыд меў,
Каб сто чырвонцаў не даў.

Ой, знаці, знаці,
Ой, знаці, знаці
Марысіну матулю:
Ходзіць яна
Па новуй святліцы,
Ой, ходзіць, ходзіць,
(Марысі гаворыць:)
— Устань, доньку,
Ужэ пара ўстаці!
Засцілай лаванькі
Белымі ручнічкамі,
Будзеш прымаці
Сваго Ясенька
З чорнымі очанькамі.
— Ой, заслала ж я столы і лаванькі
Бялюсенькім абруском,
Ой, выглянула чэраз аконцо —
Едзе Ясь з чорным уском.
Ой, каго жэ ж ты, мая матулько,
Будзеш рано збуджаці?
Едзе Ясенько чорнабрывенькі
Ужэ мяне забіраці.
Ой, паліла б я, ой, варыла б я
Хоць сырымі дравамі,
Только каб хучэй прышоў, прыехаў
Ясь з чорнымі брывамі.
Ой, паліла б я, ой, варыла б я
Хоць сырусенькім труском,

[6] У Ваўкавыскім, а таксама ў Пружанскім паветах замест скрыняў і скрынак для захоўвання рэчаў выкарыстоўваюць круглыя кублы — рознай велічыні, акаваныя жалезнымі абручамі, з двума вухамі і драўляным векам.

Только каб прышоў, каб ён прыехаў,
Ясь з чарнюсенькім уском.
Не гарадь дрова, не гарадь дрова.
Только ўсё лучына, только ўсё лучына,
Зажурылася на матуленьку
Малада Марына, малада Марына,
Ой, малада Марына, малада Марына.
— Ой, чым жа ж ты, мая матулько,
Зрана не прыбрана, зрана не прыбрана.
Каб сваго зяця, сваго любаго,
Хутко спатыкала, хутко спатыкала.
Аб яго здароўі і аб яго матулі
Шчыро папытала, шчыро папытала,
Ой, шчыро папытала.

Давайце пакінем на хвіліну картэж маладога і перанясёмся да хаты маладой, дзе з самай раніцы пануюць рух, незвычайная мітусня. Зойдзем найперш унутр хаты. Тут запрошаныя суседзі і суседкі, абсеўшы сталы і лавы, пры жвавай гаворцы чэрпаюць лыжкамі гарэлку з місы, якая стаіць пасярод стала, і, папіваючы, закусваюць сухімі закускамі — сырам, пірагом, мясным. Гамонка, шуміха і гул узбуджанай дружыны мяшаюцца са стукам і грукам звычайных вясельных прыгатаванняў.

Адзін толькі скрыпач адпачывае ажно да той хвіліны, пакуль фурманкі з маладым не з'явяцца каля двара гаспадароў.

У той жа самы час, калі ў хаце гамоніць бяседа, на падворку, каля самых варот шчыра завіхаецца гурт хлопцаў, капаючы глыбокія ямы для так званай *рагаткі*.

Рагатку робяць наступным чынам. У дзве, як я ўжо сказаў, глыбокія ямы ўкопваюць два высокія і даволі тоўстыя круглякі, умацоўваючы іх каменнем, а зімою ў мароз і вадою абліваюць. Калі ўжо слупы належным чынам умацаваны, тады да іх гарызантальна прыбіваюць вялікімі, вычасанымі з дрэва цвікамі тоўстую жэрдку.

Калі рагатка зроблена, двое хлопцаў, вызначаных сватам маладой (*начальнікам*), становяцца пры слупах, трымаючы ў руках вялікія, выструганыя з дрэва мячы; астатняя ж моладзь, чакаючы хуткага прыезду маладога, сядзіць (гуртам) на зямлі, курыць люлькі — як войска на біваку.

Як толькі набліжаюцца фурманкі маладога, каля рагаткі пачынаецца шум, на які старэйшыя, што дасюль гаманілі ў хаце, высыпаюць на падворак, каб паглядзець і ўдосталь пасмяяцца.

Фурманы, якія вязуць дружыну маладога, убачыўшы перагароджаную дарогу, вымушаны спыніць коней; тыя, што сядзяць на вазах, прыкідваюцца, што нібыта вельмі здзіўлены з такой неспадзяванкі каля самай мэты падарожжа.

Але сват ніколькі не губляецца. Аддаўшы каравай сваньцы, ён саскоквае з воза і, трымаючы ў руках бізун, падыходзіць да рагаткі. Услед за ім, пакінуўшы ўсю дружыну сядзець на вазах, накіроўваецца дружко, несучы ў руках барылка, поўнае піва, і нібыта не заўважаны нікім пралазіць пад рагаткаю, ідучы з гасцінцам да старшай дружкі.

Сват, падышоўшы да рагаткі, кажа: «Нех бэндзе пахвалёны Езус Хрыстус». На што абаронцы рагаткі гуртам: «На векі векуў, амэн!» — адказваюць.

Начальнік: — *Хто тут?*

Сват: — *Свае!*

Начальнік:— *Якія свае?*

Сват: — *Падарожныя, суседзі з недалёкаго сяла, выбраліся ў дарогу да і заблудзілі.*

Начальнік: — *Якія вы свае, калі мы вашай гавэнды не знаем. Вы мусіце быць якіясь чужаземцы.*

Сват: — *То ж мы суседзі, то ж нашыя палеткі гранічацца разам.*

Начальнік (прыкідваючыся, што мовы не разумее, адварочваецца да хлопцаў): — *Хлопцы! Браць іх, гэто нешто падэйжанаго, чы не шпегі якія. А райшпорт маеце?*

Сват: — *Маемо.*

Начальнік: — *Пакажы.*

Сват, вымаючы з-за пазухі складзены ў некалькі столак кавалак паперы, паказвае здалёк.

Начальнік: — *Дай нам перачытаць.*

Сват: — *О, не! Чытай у маіх руках, я не знаю, якія вы людзі, можаце мне падраці альбо спаліці, то бы мяне тым згубілі.*

Бацька маладой (выйшаўшы на парог хаты): — *Хлопцы! Дайце покуй, раскідайце рагатку, то не па-нашаму, каб доўго госці за варотамі дзяржаці. Зрабілі сваю садысфакцыю, пажартавалі, то і годзі. А ты, пане сваце, адчэпнаго па чарцы гарэлкі, калі маеш, то дай.*

На такое dictum acerbum хлопцы, доўга не адпіраючыся, бяруцца за сякеры і ўсю рагатку зносяць за некалькі мінут, за што сват частуе іх гарэлкаю з бутэлькі, аздобленай кветкамі.

Не маючы ўжо ніякай перашкоды, дружына маладога праязджае ў двор і спыняецца насупраць сяней, дзе іх сустракае прывітальным маршам скрыпач маладой.

Маладыя злазіць з воза на дзяжу, матка маладой, стоячы каля парога ў вывернутым кажуху, прымае прыезджых хлебам-соллю і чаркаю гарэлкі.

За маткаю, якая нясе на талерцы хлеб і соль, у хату ўвахо-

дзіць сват з караваем, за ім малады, кланяючыся ўсім, за маладым дружко, нарэшце, сванька і музыкант.

Увайшоўшы ў хату і паставіўшы на стале талерку з хлебам і соллю, маці, паказваючы на засланую ручніком лаву, звяртаецца да маладога: *«Сядай, мой зяцю, за свянцоным сталом»*, на што малады, пакланіўшыся да зямлі, адказвае: *«Дзякую вам»* — і сядае.

У гэты час сват стаўляе каравай на рагу стала, каля покуці, сванька ж, кінуўшы чатыры калачы ва ўсе куты хаты, садзіцца з рэштай дружыны маладога за асобны стол, спяваючы:

Ой, матулю, матулю,
Дзе твая Марыся,
Дзе твая дружына?
— Пашла на абору
Даіці карову,
Сванечко мая.
Сванька на абору —
Марысі не відаці.
— Нашто ж мяне, сваньку,
Гэтак ашукаці?
— Пашла да святліцы
Малако цадзіці,
Сванечко мая.
Сванька да святліцы —
Няма Марысі,
Няма Марысі,
Матулько мая.
Матулю, матулю,
Аддай нам цурулю,
Бо як не будзеш
Да аддаваці,
То будзеш моцно
Да шкадаваці,
Бо сілаю забярэмо
І табе не падзякуемо.
— Ой, не смееш, сванько, забраці
Маго радзонаго дзіцяці.
Німало я гора дазнала,
Пукі яе выгадавала.
— Нічого, матко, нічого,
Цяпер такі свет настаў,
Кожны хлопец славы дастаў;
Аддаюць цуркі з прыдаткам,
Яшчэ і з вялікім дастаткам.

Праспяваўшы гэту песню, сванька змаўкае, затое равесніцы маладой, што асталіся ў хаце, адгукаюцца хорам так:

Ой, матулю, матулю,
Ці ж ты таго не ўзнала,

Што прыезная сванечка
Заганула і задумала?
Ой, хоча ж яна, хоча
Нам Марысеньку ўкрасці,
Без тваго пазваленя,
Як шуляк на куры ўпасці.
Ой, пастаў ты, матулько,
Тры, чатэры рыцэры,
Ой, дай ты ім на плечы
Залаценькія мечы,
А няхай пільненько стаяць,
Нашай Марысенькі бароняць.

На гэта сванька адказвае песняю такога зместу: *«Учыце матулю, каб Марысі бараніла, а кажда з вас у духу думае, які Ясь нядобры, што ён Марысю спадабаў, ■ намі ўсімі пазгарджаў»*.

Дзяўчаты, стоячы каля печы, адгукаюцца на гэта:

Няпраўда, сванечко, няпраўда,
Няпраўда твая,
Хіба то ты так думала,
Як была маладая.

Тут зноў сванька, жадаючы ўжо закончыць спрэчку, так спявае:

Няма ўжэ, дзевачко, што лгаці,
Калі прышла рыба да гаці,
І некуды ёй уцякаці,
Так яна мусіць стаяці,
А мы праўданьку казаці.
Сама я з сябе прыклад брала,
То і вам веры не давала.
Самы, дзевачкі, прызнайце
І сваго розуму спытайце,
Ці ж няпраўду сванька казала,
Ці ж яна, як сучка, брахала?

А звярнуўшыся да свата маладога, спявае:

Да клеці, сваткове, да клеці,
Адступяць рыцэры і мечы.
Што ж бы то за матка была,
Каб сама дзіцятко аддала,
Але трэба ёй упакарыцца,
Нізенько як матульцы пакланіцца.
Яна злітуецца над намі,
Выпусціць крулеўну з слёзкамі.

Тады ўся дружына разам з маладым падыходзіць да маці, якая ўвесь час завіхаецца, і, даўшы паклон да зямлі, так просіць: *«Будзьце ласкавыя, выпусцце ўжэ нам Марысю з каморы»*. Мат-

ка, узяўшы талерку з хлебам і соллю, якою толькі што сустракала зяця, ідзе ў каморку, дзе з жалем звяртаецца да дачкі, акружанай шматлікаю чарадою дзяўчат: «*Хадзі, Марысенько, маё дзецятко, бо ўжэ прышоў час, жэ ўжэ апусціш старых нас*».

Аднак перш, чым маці ўвойдзе ў каморку, дзяўчаты, што стаяць у хаце, выкрыкваюць, каб у каморцы пачулі:

Уцякай, Марысько, уцякай,[7]
Чэраз аконачко умыкай,
Альбо дзе ў куточак схавайся,
Бо ўжэ ідуць баяр'е, не дайся.
Марыська таго не чула,
Бо на той час цяжко ўздыхнула,
Палівала лічко слёзкамі,
Заломываючы ручэнькамі.

Выслухаўшы словы маткі, маладая ўстае са свайго месца, бярэцца правай рукою за хустку, што вісіць з правага боку ў яе малодшага брата, які стаіць тут, і, трымаючыся за яе, разам з сяброўкамі рухаецца павольна за двума скрыпачамі, што іграюць вясельны марш, і за маткаю і сватам, які нясе каравай. Дзяўчаты, ідучы за ёю на чале з старшаю дружкаю, спяваюць у такт музыцы:

Пастаньце, баяр'е, усенька ў рад,
Будзе ісці Марыська на пасад,
Будзе ісці Марыська між вамі,
Абалье лічанько слязкамі.
Усенька баяр'е паснула,
Перашла Марыська — не чула.

Як толькі картэж маладой пераступіць парог святліцы, яго прымае сват маладога, які, трымаючы каравай у абедзьвюх руках, нізка кланяецца маладой і кажа: «*В іменю бога і молодэго поздравям це, Марыську*». Пасля гэтага адносіць каравай на стол, дзе і сват маладой свой каравай кладзе; тым часам маладая абходзіць за малодшым братам тройчы вакол стала, сцелючы паклоны ўсёй дружыне, і сядае за сталом каля брата, які звычайна займае месца паміж ёю і маладым.

Т о р г  а б  к а с у. Калі ўжо маладыя такім, як вышэй сказана, спосабам пазаймаюць свае месцы, тады сват маладога ў шапцы на галаве, трымаючы ў руцэ знак свае ўлады—бізунчык, падыходзіць да стала і, павярнуўшыся да малодшага брата маладой (калі такога няма, сядае падлетак з блізкай радні яе, часам і

[7] На гэтай старонцы рукапісу М. Федароўскі паставіў дату: 14 кастрычніка 1878 г.— Заўвага перакладчыка.

чужы. У мястэчку Бераставіцы, калі ў маладой няма малодшага брата, то сядае яе старэйшы брат), так звяртаецца да яго:

— *Чаго тутайка сеў?* — выкрыквае ён, стукаючы па стале бізунчыкам.

— *Бо мне бог так даў. Я сваю сястронку выгадаваў, як кветку ў садочку, а вы, напаснікі, прыехалі такою вялікаю бандаю* (*кампаніяй*) *і хочаце ад мяне маю сястронку ўкрасці, то я мушу пільнаваці, каб да таго не дайшло.*

— *Ага! То ты за стоража сеў за сталом!*

— *Не, я ў сваго ойца ў хаці і за ўласным сталом і кала сваe роднае сястронкі, то ўцале не называюся сторажам.*

— *Но, то чаго ж ты хочаш, чаго ж ты тутака ўсеўся?*

— *То як жэ ж? Баба качаргу прадала і то тры дні мела за што піць, а я гэтакую сястронку выгадаваў, то также будзь ты, сватко, таго пэўны, жэ задарма не аддам.*

— *То як то? То ты яшчэ заплаты хочаш?*

— *Не іначы!*

— *Колько ж ты хочаш за сваю сястру?*

— *О-о-о! Мая сястронка дарагая, я і сам не патрафлю ацаніці, але як для цябе, свата, то за сто тысёнцы чырвонцаў аддам.*

— *О-о! То, сынку, вельмі дораго.*

— *О! Яна яшчэ больш варта, я яе і так затанё ацаніў.*

Сват, кладучы траяка на стале:

— *Но, будзе только за тваю сястру?*

— *О, не, мой сваце! Нават твае коні вараныя і сядэлка залатыя, і вазы, і свадзьба твая не аплаціць таго, што мая сястронка каштуе.*

Тут дзяўчаты, што прысутнічаюць пры гэтым торгу, спяваюць:

Не стукай, сваценко, не стукай,
Па новуй святліцы не грукай
І так занадто не шурмуй,
Марысі сэрданька не затруй,
Бо бы нам ўсім смутненько было,
Каб яе лічэнько слёзкамі сплыло.
Ой, не плач, Марысько, ой, не плач,
Ў ойчанькавай хатцы ты не плач,
А тагды сільненько заплачаш,
Як свёкаркаву забачыш.

Калі песня гэта заціхне, сват, які ўсё стаіць каля стала, таргуецца далей з братам маладой.

Сват, падсоўваючы трохграшовік:— *Но, бяры дуката, а выбірайся да ката.*

Брат, цяжка ўздыхнуўшы, звяртаецца да маладой:

— *Мая Марысько, у якую ты хату ідзеш, так то яны ўмеюць вартасць цаніці.*

А сват на гэта:

— *То табе і гэто яшчэ мало?*

— *О, не! І дзесятае часці яшчэ не заплаціў!*

Сват, кідаючы срэбраную двухзалатоўку:

— *А гэтаго будзе?!*

— *О не, і гэтаго мало.*

— *Бяры, бяры, калі яна нам пашыкуе і будзе добра, то як калі абачымся, то яшчэ піва напіемся.*

— *О, не! У нашых дзядоў і прадзедаў то такая прыказка, жэ: абяцанка — цацанка, а дурному радасць, альбо: абяцаў пан кажуха зрабіць, але яго і слово цёплае; то і ты мяне не зводзь, жэ калісь яшчэ штось будзе; калі ты ехаў тавар купляць, то трэба было поўную машну грошы браць.*

Тады сват, бачачы, што іншай рады няма, вымае з саквы срэбранага рубля і, кладучы на стале, кажа:

— *Но, а цяпер ужэ будзе?*

— *Будзе, дзенькуе вам. Няхай вам бог дасць здаровым цешыцца маею сястронкаю.*

На тое сват:

— *Дай божа! Дзенькую за добрае слово, а табе дай божа, каб мой рубель унёс тысёнцэ.*

Дагаворваючы гэта, налівае чарку гарэлкі. Падае яе брату маладой і кажа:

— *Напіемася барышу, то ведацьмем, жэ ўжэ наш торг скончаны і пры мне застаецца тавар, а пры табе грошы, а выходзь з-за стала да каморы па куфар харошы, залатымі абручамі накаваны, дробнымі слёзкамі маляваны, тонкімі своямі* (сувоямі) *накладзёны, будзе да Ясенька вязёны.*

Брат, пакідаючы сваё месца, адзываецца на гэта:

— *Ой, не, сваце, за куфар асобно пагаворым! Але о тым — потым.*

Тым часам маладым, што сядзяць побач, маці маладой падносіць найперш місу яечні, з якой яны наперменку ядуць адной лыжкаю, а пасля поўны кубак піва, з якога, каб між імі ўсё жыццё была еднасць і згода, патроху папіваюць разам.

У гэты час старыя вядуць бяседу за іншымі сталамі, а моладзь ні на хвіліну не перастае танцаваць. Часамі сярод віхурнай музыкі чуваць далікатныя прыпеўкі такога роду.

Дружка:

Наш чашнічак — небарак,
Украў у сванечкі андарак,

Сванька тое пазнала,
Свой андарак зыскала.

Наш чашнічак — цярася,
Украў у суседа парася,
Сусед тое хутко ўзнаў,
Парасятко адабраў.

Дружко:

Наша дружка — цераня,
Украла ў суседа кураня,
Пераз плот уцякала,
Сукеначку падрала.

Дружка:

Ты, чашнічку-небарак,
Зашый жа мне андарак,
Зашый, зашый, не жартуй
І дружачку пацалуй.

А ты, сваце, тое знай,
За парадкам даглядай,
Няхай чашнік тое знае,
Што хфілютку дружку мае.

Дзяўчаты:

Зялёны барвіначку
Па гародзе паслаўся,
Млоды чашнік, млоды чашнік
Да дружанькі кланяўся.
Што ж па том барвіначку,
Калі ў яго кветак нету,
А што жа мне па кланяню,
Калі яго тутай нету.
Ой, зраблю я з воску пробу
І пушчу я на воду,
Чы добраго ойца і маткі,
Чы харошаго роду.
Плыла кветка, плыла кветка,
Пры беразе стала,
Прышла маці воду браці,
Кветаньку пазнала.
— Дзіця мае радзонае,
Што ты учыніло?
Мусі жэ ты на вяселлі
Дружку палюбіло?
— Ой, палюбіў, мая матко,
Не магу забыці,
Як жа ж такой дзяўчынанькі
Мне не палюбіці?
Харошая, маладая,
Як поўна каліна,
Добраго ойца і маткі,
Добра е дзяўчына.
Было не давацьсвае дачушкі
У чужыя людзі,

А цапер табе, мая матулько,
Острыя шышкі ў пяты:
Некаму ўстаці, венічка ўзяці,
Вымесці сені і хаты.
А ты пайдзеш да каморы
З горкае свае нядолі,
А верацёнца не бурчаць
І красёнца не стучаць.
А чужая маці тваю доню пабуджае,
Чужы ойчанько з тває дачкі карысць мае.

За скокамі і падобнымі да гэтых прыпеўкамі час ідзе хутка, а як толькі надыдзе вечар, пачынаецца абрад надзявання шапкі (у Пружанскім павеце — наміткі) на галаву маладой.

*Упавіянс маладое.* Да *ачэпін* маладая прыступае апранутаю ў шлюбныя шаты, г. зн. у светлым шарсцяным *андараку* і чорным каптаніку, а ў Відзейках і Бортніках пад Мсцібавам — у суконным гарсэце. Косы расчасаныя, галаву аздабляе гірлянда рознакаляровых стужак, завязаных бантамі. Ад гэтай гірлянды на плечы спускаецца больш за дзесятак стужак, на галаве відаць невялічкі вяночак, звіты з мірту або руты.

Як толькі сванька заўважыць, што надышоў час упавіяня, г. зн. ачэпін, яна падымаецца з-за стала і дае знак пра гэта такой песняй:

Вон, сваткі, з хаткі,
Вон, вон, вон,
Будзем часаць русу косаньку —
Белы лён.
Русу косаньку расплятаць,
Расплятаць,
Чырвону шапаньку накладаць,
Накладаць.
Будзе Марыська слёзкі разліваць,
Разліваць,
Ойцу і матульцы дзенькаваць,
Дзенькаваць,
З ойчанькавуй хаты выступаць.
Ужэ яе свёкерко
Чакае,
Свёкрухна сталы і лавы
Усцілае.
Двойча дзетанькаў
Выглядае:
Аднаго радзонаго,
А другога шлюблёнаго.
Як буйны ветрычак
Забуяў,
Ойчанько з кубачкам
Выбягаў.
Ой, не раз жа ён

Вярнуўся,
Чэраз ветрыка
Абмануўся.
Яшчэ Ясенька
Не відаці,
Трудно яму Марысеньку
Дастаці.

Пачуўшы гэту песню, уся дружына маладога з ім самім выходзіць са святліцы ў сенцы, дзе астаецца да таго часу, пакуль маладую не *ачэпяць*.

Упавіяне адбываецца так: сванька, зняўшы з галавы маладой вяночак і гірлянду, надзявае ёй шапку (нібыта вялікі чапец) з атласу або чырвонай матэрыі, вакол якой зноў прыпінае тую самую гірлянду, а наверх руцвяны вяночак.

У час гэтага абраду скрыпач маладой іграе танцавальныя мелодыі, але сванька не спявае.

Адразу ж пасля ачэпін маладую, сваньку і дружку накрываюць кужэльным палатном; зрабіўшы гэта, бацькі маладой выходзяць у сені, дзе звяртаюцца да зяця так: «*Хадзі, мой зяцько, да хаты, ужэ наша сванька ўсю работу зрабіла, маладу Марыську на маладзіцу прыбрала, пад тонкі і белы падарак схавала. А я не магу знаці, дзе сваго дзіцятка шукаці, можа ты хучэй узнаеш, можа лепшае шчасце маеш*». І ўзяўшы зяця з абодвух бакоў пад рукі, вядуць у хату, дзе завешваюць шчыльна вокны, каб было цёмна.

Маладога падводзяць да накрытых кабет, якія сядзяць, і ён, зняўшы з галавы шапку, імкнецца папасці ёю ў маладую. Добра яшчэ, калі адразу натрапіць, у адваротным жа выпадку мусіць плаціць штраф, які забірае сванька.

Цырымонія гэта адбываецца не больш як тры разы, пасля чаго маладога саджаюць на адной лаве з маладою. Паміж імі сядае сванька, якая ізноў дамагаецца ад маладога выкупу — за тое, што маладую *людзьмі зрабіла*. Торг пачынаецца з таго, што малады, устаўшы са свайго месца, становіцца перад сванькаю і кажа:

— *Сванечко, чаго вы тутай селі?*

— *Бо мне трэба, то я села.*

Сват са строгім выглядам:

— *А гэто што такое, чаго гэта сванька межы маладымі ўсцюбілася? Чы яна там патрэбна?*

— *А, сватко, то ўжэ я табе не патрэбна!*

— *Но, я не кажу, жэ зусім не патрэбна, але не там, дзе ты сядзіш; саўсім як калок усярэд дарогі, так ты паміжы маладымі патрэбна.*

*— То як, сваце, то ты хочаш, каб я табе гэтакую кветку задармо аддала?*

*— Чы ж то я ізнову маю плаціць?*

*— А не іначы, яшчэ са мною не расплаціўся.*

*— Но, калі так, то такі маеш заплату,*— і, дагаварыўшы гэта, кідае на стол гузік або скарлупку,— *анно глядзі, каб ужэ гэтых таргоў больш не было, бо ўжэ вы з мяне і сарочку здымеце,*— дадае ён у канцы.

*— А ты што думаў, сваце, хочаш гэтакі тавар узяці за німа ніц?*

Пасля гэтага кладзе двухзалатоўку ці болей, але сванька яшчэ не хоча пагадзіцца, і толькі калі атрымае рубля, тады, пакідаючы месца паміж маладымі, адзываецца так:

*— Дзенькуе вам, сватку, за вашыя дары, ужэ я задаволена ўсім. Няхай вашы маладыя будуць ушчаслівены ад бога і абдарованы ўсім, чаго ім і сабе жычаць.*

Даравание (адорвание маладой). Радня і чужыя адорваюць маладую адзеннем, палатном, бялізнай, грашыма і жывёлай. Першай пачынае дарыць маці, прыносячы з каморы чырвоны шарсцяны андарак.

Падышоўшы да свата, які стаіць з бізунчыкам каля стала, яна гаворыць: «*Пане сваце! Ужэ мы свае звычаі ўсе адправілі, только асталося яшчэ дараване. Абдарэм жа мы маладую ўсім добрым*». Тут яна вешае андарак на бізун, які трымае ў правай руцэ над галавою сват, і так заканчвае сваю прамову: «*То не андарак, але шчасце і доля на іх прышлае жыце*».

Сват, падняўшы падарунак яшчэ вышэй, абводзіць ім вакол сябе, гаворачы па-польску: «Но, мое вы мілэ браця і сёстры, цёткі і вуе, бабкі і дзядкі, товажышкі, кумкі і сонсядкі, ктурэ в тым дому госціннэм а свенцонам зэбрані естэсьце. Послухайце, цо ту я, сват, в іменю тых паньства млодых глосіць бэндэ. Матка пані млодэй робі почонтэк дарованя, нехай жэ з вас кажды то само ўчыні, але найповежховне тылько з правдзівэго сэрца і душы, бо то дароване можэ быць шчэнсцем для паньства млодых і для іх потомства, ктурым обы іх буг найвыжшы обдажыл». Пасля гэтага аддае андарак, як і іншыя рэчы, сваньцы маладога.

Па прыкладу маці і сванька падносіць кавалак палатна на некалькі локцяў, які сват таксама вешае на бізун, паведамляючы дружыне: «*Сванька дарыць падаркам — палатна кавалкам*».

Маладыя ж перад кожным, хто дорыць, удзячна схіляюць галовы.

Пасля сванькі падыходзяць з падарункамі дружка, сяброўкі і рэшта дружыны, якія нясуць палатно, хусткі, каптанікі, стужкі,

шапкі і іншыя падобныя да гэтага рэчы, а сват усё абвяшчае выразным голасам — або як вышэй, або так: *«Сястра дарыць шапкаю, дай божа, каб яна даравала — на сябе дачакала»*.

Калі закончаць дарыць натураю, бацька маладой, падышоўшы да стала, кідае на талерку сярэбраны рубель, пра што сват абвяшчае прысутным так: *«Ойцец панны млодэй дарыць грашмі белымі, яснымі, чыстымі, вясёлымі. Каб нашыя маладыя весяліліся і жаднаго смутку ў жыцію не дазнавалі»*. Дагаварыўшы гэта, бізуном, які трымае ў правай руцэ, тройчы стукае па бэльцы і выклікае ўсіх з дружыны такімі словамі: *«Вы браты, сёстры, суседкі, кампанкі, старэнькія і маленькія, прашу вас, злажыцеся пані младой на шапку ядвабну, а за вашыя дары буду дарыць караваем, божым дарам»*.

Тут ужо ніхто не адмаўляецца — і малыя, і большыя падарункі шчодра сыплюцца на талерку, якую сват трымае ў левай руцэ. Сват пры гэтым паўтарае толькі што прыведзеную арацыю або іншыя:

Хто там на дарозе —
Злажыцеся нашой нябозе.
Хто на гуліцы —
Прыязджайце на курыцы.
Хто за дзвярамі —
Складайцеся разам з намі.

За кожны падарунак маладыя дзякуюць, нізка схіляючы галовы.

Калі падносіць падарункі скончаць, сват высыпае з талеркі грошы на фартух маладой, гаворачы: *«Марысю, прашу прыняць дары, каторыя злажылі людзі добрай веры»*.

Нарэшце, пасля ўсяго гэтага маладую адорваюць *жывінаю*. *Даравáне жывінаю* распачынае бацька, ахвяруючы пару або аднаго вала, пасля дзядзька дае цялушку, хросны бацька — пару авечак, брат — парсюка і г. д., чым хто можа — рады прыслужыць, бо кожны памятае, што калі не яго, то яго дзяцей чакае шчодрая ўзнагарода.

Кожны падыходзіць да свата і паведамляе, чым хоча прыслужыцца, а сват, стоячы каля стала, голасна паўтарае ўсім удзельнікам вяселля, якія ў гэты час нават забываюць на танцы. Аб'ява гэта гучыць так: *«Пані млода! Твой ойцец* (твой дзядзько, брат, сват і г. д.) *дарує цябе сівымі валамі, так як галубамі* (кароваю, авечкаю, цялушкаю і г. д.). *Дай жа, божа, здаровым вам імі карыставаць і жыць доўгія лета, кабы вы пасівелі, як галубы сівыя, каб дачакалі не только дзетак, але ўнукаў і праўнукаў, вам на карысць, а богу найвышшаму на пацеху»*.

**Абдзельванне караваем.** Перад самай вясельнай вячэраю адбываецца надзяленне караваем усіх удзельнікаў вяселля [. . .]

Адбываецца гэты абрад так.

Як толькі скончаць адорваць маладую, сват маладога разам з маткаю і скрыпачом накіроўваецца ў каморку, адкуль праз хвіліну вяртаецца пад гукі скрыпкі, несучы ў абедзвюх руках каравай на засланым белым абрусам веку ад дзяжы.

Калі сват переступіць парог хаты, скрыпач перастае іграць, а сват, на момант спыніўшыся, голасна выгуквае: «Нех бэндзе пахвалёны Езус Хрыстус!» Усе прысутныя ў адзін голас: «На векі векуў! Амэн!» — і пляскаюць у далоні.

Затым у хаце наступае цішыня — чуваць нават, як муха пралятае: гэта сват, падняўшы ўгару бізунчык, падаў знак маўчаць. Пасля ён адыходзіць на сярэдзіну хаты, стаўляе на стале каравай і тройчы ўголас перахрышчвае [. . .]

Пасля гэтай цырымоніі сват, узяўшы нож, разразае на чатыры часткі крыж, які аздабляе верх каравая, і тымі кавалкамі надзяляе маладую, маладога і абодвух бацькоў маладой, кажучы пры гэтым:

*«Прашу вас прыняці караваю, божаго дару!*

Найсвентшая паненко,
Уступі да нашае хаты
З неба высокаго,
З аблока ясненькаго
Каравай раздзяляці,
Усенькіх нас пацяшаці».

Надзяліўшы маладых і бацькоў маладой, сват звяртаецца да дружыны: *«А цяпер просімо цэлай кампаніі на каравай злоты свае работы. За вашыя дары дарагія прымеце нашы хоць малыя. А калі маладыя будуць на свеце жыць, то рэшту могуць самі адслужыць».*

Пачуўшы гэтыя словы, усе прысутныя набліжаюцца да стала, і сват падае кожнаму без выключэння па кавалку каравая.

Сват клапоціцца, каб каравая хапіла ўсім, нават тым, каго пакуль што няма ў хаце. Калі каму-небудзь не хопіць, то маладую пару, паводле павер'я, чакае ў жыцці нейкая бяда ці нястачы.

**Вячэра і пыданская вячэра.** На вясельнай вячэры падаюць па парадку наступныя стравы: тушаную са свінінаю капусту, *макарон* на малацэ, грэцкую бабку з яйкамі, печаную на дражджах, смажаныя куры. У канцы вячэры п'юць шклянкамі мёд, закусваючы пернікамі сваёй работы.

За стол сядаюць гэтак жа, як было апісана намі вышэй. У канцы стала садзяцца бацькі маладой.

У час вячэры сяброўкі маладой спяваюць:

Захмурнело ясное слоненько, захмурнело,[8]
Марысіна матулька ў канцы стала зажурыла:
— Ой, жаль жа мне, мае людочкі, не малы,
Што ад'язджае мая Марыська на Валынь.
Ой, ад'язджае да сваго свекратка і свякры,
Ой, застаўляе мяне, старэньку, ў нядугі!
— Ой, праўда, матулько, праўда твая,
Было не аддаваці ў чужыя людзі,
Калі нядуга твая.
А цяпер жа ты, мая матулько,
Будзеш рано ўставаці.
Ой, устанеш, устанеш,
Цяжанько ўздыхнеш:
Некаго пабуджаці!
Ой, зоймеш сама сівыя валы пасці,
Зімная раса і ранак халодны,
Некаму шкадаваці.
А цяпер табе, мая матулько,
Велькая труднасць у грудзі.

Ой, дала мне матка карову,
Да на маю бедну галову;
Да каровы трэба рано ўстаці,
Карованьку на росу гнаці.
Ой, выжану ■ карову на расу,
Спатыкаю я мядзведзя ў лясу.
Я мядзведзя забаялася,
Пад бярэзіну схавалася.
Ідзі ты, кароўка, да воўка,
Няхай мяне не баліць галоўка.
Я ў нядзельку карову даіла,
У панядзелак малако цадзіла.
Гаворадь усе людзі з боку:
Будзе гаспадынька — не ўроку.

Пасля вячэры, якую даюць бацькі маладой, сванька маладога вымае з каробкі вішнёвую наліўку, смажаніну, сыр, пірагі і частуе гасцей, што ўваходзяць у склад вясельнай *свадзьбы*. Гэта дадатковая вячэра называецца *прыданскаю*.

П е р а н о с і н ы. Пасля вячэры кожны з удзельнікаў вясельнай бяседы падыходзіць да покуця, робіць знак святога крыжа і гаворыць: «*Дзенькуе богу святому і найсвентшай матцы за яго дары святыя, каторыя мы пры гэтом свянцоном сталe спажыва-*

[8] Пасля гэтай песні ў рукапісе М. Федароўскі пазначыў: «Дварчаны пад Свіслаччу, дня 25 кастрычніка года 1878».— Заўвага перакладчыка.

*лі»*. Павярнуўшыся да бацькоў і маладых, дзякуюць так: *«Дзякуемо вам такжэ за хлеб, за соль, за кашу і за прыязнасць вашу. Мы пад'елі пірагоў і мяса, як нашыя прэдкі за круля Саса, а выбачце нам, што папіліся, бо і нашыя дзяды гэтак рабілі»*.

Неўзабаве пасля гэтага наступае жаласнае развітанне маладой з бацькамі, усёй сям'ёю і з усімі ўдзельнікамі вясельных урачыстасцей. У час развітання, якое, зазначу між іншым, цягнецца з гадзіну або і даўжэй, бо людзей *шмат* і з кожным трэба развітацца, каб атрымаць у дарогу жыцця пачціваe слова, у суседняй каморцы дружка і брат маладой вядуць торг за пасцель і кубел з рэчамі, якія пасля доўгіх спрэчак аддаюць свату і дружку, за што тыя плоцяць сярэбранымі грошыкамі. Дружка, уручаючы пасцель дружку, перавязвае яе накрыж шырокім чырвоным паяском.

Музыканты іграюць жаласлівую мелодыю, а таварышкі маладой у такт музыкі спяваюць:

Дзенькую, ойчэньку, дзенькую,
Я з твае апекі ўстэнпую,
Еду да Ясенька мілаго,
Каторы прызначан ад бога.
Дзенькую, матулю, дзенькую,
І з-пад твае стражы ўстэнпую,
Даволі мяне гадавала
І маго вяночка захраняла.
Бывайце здаровы, блізкія суседзі,
Дзе я пахілюся, мяне не судзеце,
Спамінайце мяне добрымі славамі:
Дзе наша Марыся з чорнымі брывамі?
Бывайце здаровы, айцоўскі парогі,
Тутака хадзілі мае белы ногі,
Што яны хадзілі, ўжэ хадзіці не будуць,
Каго я любіла, любіці не буду.
Бывайце здаровы, мой радзоны браце,
Не раз пабіліся мы з табою ў хаце.
Бывай жа здаровы, рутвяны садочку,
Я не буду віці больш з руты вяночкаў.
Бывайце здаровы, валы палавыя,
Што на вас глядзелі очкі чарненькія.
Бывайце здаровы, ў аборы каровы,
Не будуць вас бачыць мае чорны бровы.
Бывайце здаровы, сівыя авечкі,
А хто ж вас пажане на быстрыя рэчкі,
На быстрыя рэчкі воўну палакаці,
На свадзьбу дружачкі паскі вытыкаці.
Бывай жа здаровы, мой пеўню касаты,
Ужэ цябе не будуць будзіць рано сваты.
Бывайце здаровы, нясушчыя куры,
Вы мне выносілі руту на пазуры,
Цяпер вас з гародка ганяці не будуць,

Бо з руты вяночкаў ўжэ віці не будуць.
Перажагнайце нас, богі дамавыя,
Багаславеце жыце на людзі маладыя.

Спяваюць таксама:

Ой, жаль жа мне, мая сястронко на цябе,
Што астаецца мая рутанька ў цябе і г. д.
Сядай жа, сядай, маё кахане,
Юж не паможа тваё плакане і г. д.
Сванька сваньцы пакланілася,
Каб маім дзецям не глумілася і г. д.

Тарахценне вазоў, якія заязджаюць пад дом у час першага спеву пеўняў, абвяшчае гасцям, што ўжо настаў момант ад'езду. Калі абое маладых апошні раз падаюць у ногі бацькам і просяць блаславіць іх у новую жыццёвую дарогу, можна пачуць спеў дзяўчат, што стаяць гуртам тут жа каля парога:

Ой, што жа то за дзерава,
Зіма і лето зеляно?
Хваіна, хваіна,
Зялёна хваінанька
Нізенько схілілася
З шышкамі, з шышкамі,
Малада Марысенька
У ойчэнька прасілася
З слёзкамі, з слёзкамі,
Цалавала ножанькі,
Абліваючы слязамі:
— Не забывай мяне, ойчаньку,
Дзе я буду з чорнымі очкамі.
Калі не даедзеш сам,
Папытай хоць праз зязюлю:
Як там мая Марысенька
Годзіць чужого ойца і матулю?

Ой, ты паедзеш у чужыя людзі,
Ці ж не жаль табе будзе?
Там дарожанькі незнаёмыя,
То ты будзеш блудзіці,
Там суседанькі незнаёмыя,
То ты будзеш тужыці.
— Я дарожанькі дапытаюся,
То не буду блудзіці,
Я з суседзямі абызнаюся,
То не буду тужыці.

Ой, выйдзеш ты за варота —
Трава зелена,

Сюды глянеш, туды глянеш —
Чужа старана,
Няма твае радзіманькі —
Адкуль ты сама.
Будзеш хадзіць па уланьцы,
Як блудна авечка,
А не мецімеш прамовіці
Да каго славечка.
— Ой, ест у мяне млоды Ясё,
І я яму прысягала,
З ім я буду, маладзенька,
Зціха размаўляла.

Нарэшце адгукаецца сванька маладога:

Час дадому, час,
Ты свацейку наш,
Нас матулька выглядае,
Сталы, лавы засцілае,
Чакаючы нас.
Ойчанько стары,
Галубок сівы,
Вароцечка адмыкае,
Сваіх дзетак чакае,
Час дадому, час.
Ой, дзеткі мае,
Вы радзоныя:
Адное дзіця радзоно,
А другое шлюблёно,
Чаму няма вас?
Матка старая
Усю ноч не спала
І агню не згашала,
Нявестухны выглядала
І сыночка сваго.

Пад гукі гэтай песні сват, узяўшы свой каравай (каравай маладой астаецца на стале), накіроўваецца да дзвярэй, а за ім пад гукі вясельнага марша рухаюцца маладыя, бацькі, сванька маладой з калачамі, дружка, дружко і рэшта дружыны.

На першы воз малады саджае сваю нявесту так, каб яна не датыкалася нагамі кола, калодкі або драбінаў; адначасова з маладою сядаюць малады, дружка, яе сванька і вазніца. На наступныя вазы сядае як папала рэшта дружыны. Урэшце, на апошнім возе стараста вязе некалькі кублаў, скрыню, пасцель, якія з'яўляюцца пасагам маладой.

Перш чым коні рушаць, перад першым возам запальваюць вязку жытняй саломы, а як толькі полымя выбухне, вазніца паганяе коней, якія мусяць абавязкова пераскочыць цераз агонь. Гэта для таго, каб сваркі і калатня асталіся ззаду.

Адначасова маладая кідае цераз сябе тры жмені саломы, выскубенай з воза, а бацькі тройчы робяць знак святога крыжа.

Цэлы ланцуг вясельных вазоў або саней хутка імчыць на жвавых конях [...]

Усю дарогу музыка не прыпыняецца. Сустрэчным людзям сванька кідае па кавалку каравая. Тут таксама з невялікімі перапынкамі спяваюць наступныя песні:

Разлягайся, дуброва,
Папраўляйся, дарога,
Пад нашы маладыя,
Пад коні вараныя.
Весяліцеся, зялёны гаі,
Ужэ Ясь Марысю мае,
Харошу, маладую,
Як кветку ружаную.
А ў нашае Марыны
Пухавыя пярыны,
Лабендзявы падушкі
Для Ясенька, для душкі.
Конікі вараныя,
Чаго ж так патаміліся?
Ці вы так доўго ідзеце,
Ці вы цяжко вязеце?
Яшчэ мы не доўго ідзем,
Але цяжэнько вязем:
Маляваную скрыню,
Пухавую пярыну,
Пухавую пярыну,
Марыську-гаспадыню.

Ой, матулю радненько,
Завівайся хуценько,
Засцілай столы, лавы,
Едзе госць небывалы.
Едзе твая сынавая,
Багата ды й маладая,
Едзе з кухрамі, з скрынямі,
Спатыкай яе з вінам, з кубкамі.

Набліжаючыся да мэты падарожжа, спяваюць:

Станаві, тату, леску,
Прывязлі ўжэ нявестку
Пыхатую, багату,
Заваліць табе хату.
Адчыняй, тату, хату,
Прывязлі бяду ў хату.
Ой, на печ, матко, на печ,
Бо нявестка остра, як меч.
Дзевяры і залвухі,

Хавайцеся, як мухі,
Прыехала братавая
Острая і гардая.
Пакуль брацІхі не зналі,
Разам да столу сядалі,
А цяпер брацІху знайце,
Ціхо і за печ уцякайце!

Вясельны картэж пад'язджае не пад хату, а пад хлеў, бо так загадвае адвечны звычай. Тут маладых сустракаюць бацькі маладога, падносячы ім дзяжу. На гэту дзяжу саскоквае спачатку малады, які затым бярэ маладую і таксама ставіць на дзяжу. Сышоўшы з дзяжы, маладая нізка кланяецца бацьку і маці. Маці здымае са схіленай галавы маладой *падарка* (палатно, якім яна была накрыта ад самых ачэпін).

За бацькам, які прымаў маладых хлебам і соллю, у хату накіроўваюцца сват з караваем, малады, маладая і рэшта дружыны. Скрыпкі не сціхаюць усю дарогу, а сванькі пад музыку заводзяць такую песню:

У свякраткаву хату Марысенька ўступае,
Румянае лічанько слёзкамі аблівае,
Бо на яе свёкерко няміло паглядае,
А свякрухна хуценько новы дэверы замыкае.[9]
Ой, села малада Марыся за свякрухніным сталом,
Абцірала дробненькі слёзкі тонкім, белым рукавом.
Ой, на сакалу залатое пер'е, а на паваньцы косы,
Ой, не зажыла жадна нявестка ў свякратка раскошы.
Ходзіць свёкерко па новых сенях, нявестку абуджае:
— Уставай, нявестку, уставай, малада, бадай ты не ўстала,
Выганяй свае сівыя валы, што да мяне нагнала!
Уставай, нявестко, ўставай, малада, ўжэ трое курэй пело.
Нявестка ўстала, цяжко ўздыхнула, сільненько заплакала:
— Ой, чаго ж я, маладзенькая, чаго ж я дачакала!
А ў ойца была і курэй не чула, а ні зораў не знала.
Як досталася я да свёкерка, то я куры пачула,
Куры пачула, куры пачула і зоры пазнала,
Куры пачула, куры пачула я таўкучы, мелючы,
Зоры пазнала, зоры пазнала, рано па воду ідучы.
Зачуй, ойчэнько, зачуй, родненькі, голас свае дзяціны,
Ой, прыдзі, прыдзі, мяне забяры ад ліхое дружыны!
Ой, вышчыпну я з рожы кветаньку і пушчу я на воду:
Плыві ж, плыві, з рожы кветанька, да маёго роду!

---

[9] Дрэннай прыкметай для маладой лічыцца тое, што за ёй, калі яна ўвойдзе ў хату, адразу зачыняюць дзверы. У такім выпадку кажуць, што *ўсю роскаш перад ею зачыняюць.*

Ой, плыла, плыла з рожы кветанька, пры беражочку стала,
Там прышла маці вадзіцу браці і кветаньку пазнала.
— Ой, чаго жа ты, мая кветанька, на вадзіцы збялела?
Ой, мусіць, маё дзіця радзонэ ужэ тыдзень хварэло.

Пакуль спяваюць гэту песню, маладая, увайшоўшы ў хату, ужо нікому не кланяецца, а накрывае стол белым абрусам, кладзе на ім малы каравайчык, талерку, лыжку, кубак (усё гэта прывозіць з сабою) і на першым-лепшым цвіку вешае кужэльны ручнік. Калі яна гэта зробіць, свякроў паказвае ёй месца (ад покуці), якое яна павінна заняць за сталом, але яна, калі б нават ёй і цэлую гадзіну давялося чакаць, не садзіцца да той пары, пакуль першы не сядзе бацька маладога (робіць гэта яна не з-за таго, каб ушанаваць яго, але каб паказаць, што ёй як гаспадыні належыць апошняй сесці і першай устаць).

У час вячэры, а хутчэй снедання, бо яна адбываецца пад самую раніцу, калі абслугоўвае сама свякроў, дружко непрыкметна выходзіць у стадолу, каб там падрыхтаваць ложак для маладых. Наскідаўшы з тарпы некалькі снапоў жыта, ён раскладае іх на таку і, заслаўшы белым *радном*, укладаецца на ім сам. Калі з музыкай і пляcканнем у далоні маладых прывядуць у стадолу (*укладзіны*), дружко да таго часу не падымаецца з пасцелі, пакуль нявеста не абдорыць яго чырвоным поясам сваёй работы на некалькі локцяў даўжыні.

Маладому, які першы садзіцца на пасцель, маладая сцягвае боты і закідае іх на найвышэйшую тарпу. Нарэшце, уклаўшы маладых, маці замыкае стадолу, а дружына разыходзіцца адпачываць.

## АЎТОРАК: *ПАДЫМАНЕ МАЛАДЫХ, ПАСЫЛАНЕ З КРОСКАЮ ДА БАЦЬКОЎ МАЛАДОЙ, МЯШЭНЕ ПІРАГОЎ, ПРЫЕЗД БАЦЬКОЎ МАЛАДОЙ, НЯСЕНЕ ПАДАРКА ДА ДВАРА*

Часам ужо добра возьмецца на палудзень, калі ўсе ўдзельнікі вяселля збяруцца ў хаце маладога. Тут прынятыя абодвума бацькамі, яны, нядоўга раздумваючы, выбіраюцца ў стадолу на *падымане* маладых.

Робіцца гэта так. Сват, узяўшы ў рукі каравай, дае знаць іншым аб пачатку абраду. Музыканты хапаюцца за скрыпкі, жвава ўцінаюць па струнах і ідуць следам за ім. За музыкаю ідзе маці з поўнай місай яечні і пляшкай крупніку, які цяпер называецца *поліўкай на ўзмацнене маладой*. У гэтым картэжы таксама дружко, які бярэ з хаты місу вады, каб маладым памыцца (у

місу ўкідаюць звычайна некалькі зярнятак аўса), абедзве сванькі, дружка, стараста, сват маладой, а часам і сам бацька.

Што ж ты, Марыська, да на той час думала,
Як цябе свякрухна з полеўкаю падымала,
Хочучы цябе ўзмацніці,
Яешні даць закусіці?
Не только ёй хадзіло аб цябе,
Але больш аб паненство твае.
Яна хоча тое ўзнаці,
Ці цябе строго трымала маці,
Ці ты па касынах не хадзіла,
Ці сваго вяночка не згубіла?

Спяваючы гэту песню, уся дружына ў вышэйпаказаным парадку ўваходзіць у стадолу, дзе каля парога яе сустракаюць маладажоны нізкімі паклонамі. Як дружына ўвойдзе, маладыя найперш пачынаюць мыцца вадою, якую ім падае дружко; у гэты час маці маладога бярэцца аглядаць на прасцірадле іерогліфы пачцівасці маладой, і калі гэта спраўдзіцца, пляскае ў далоні і радасна выгуквае:

Ой, бог нам даў, што наш Ясенько
Пачцівую Марысю ўзяў!

Чуючы гэта, вясельнікі таксама пляскаюць у далоні, па некалькі разоў працягла выкрыкваючы «Віват!»

У Брэсцкім ваяводстве (каля Чарняўчыц над рэчкаю Лясною), калі на радне знакаў не знойдуць, то на маладую надзяваюць хамут і праводзяць праз усю вёску.

Памыўшыся, маладая дорыць дружку ручнік, якім абцірала сваю красу, а малады кідае ў міску некалькі сярэбраных грошыкаў. Пасля гэтага маладыя прыступаюць да поліўкі і яечні. Гэту яду патроху каштуюць адной лыжкай, перадаючы яе з рук у рукі, і ўсе прысутныя. Пасля перакусвання дружко бярэцца прыбіраць пасцель (жыта, якое было падаслана, вымалочвае і забірае сабе), вясельныя ж госці звычайна, хоць на кароткі час, пускаюцца ў танцы.

Як пяройдуць у хату, пачынаюць снедаць. Пакуль сядуць за сталы, маладая адорвае ваўнянымі паясамі ўсіх тых, каго заспее за якой-небудзь работаю; так яна дзякуе за тое, што яе ў гэты дзень выручаюць у тых гаспадарчых справах, якія яна павінна была б рабіць сама.

На снеданне падаюць курыны булён, запечаны макарон, барановаe мяса (вясною цялячае), гарэлку, сыр і пірагі.

Скончыўшы снеданне, выпраўляюць па бацькоў маладой свата, дружку і музыканта, якія бяруць з сабою кавалак хлеба і як

знак цнатлівасці маладой аздобленую кветкамі бутэльку падфарбаванай у чырвонае гарэлкі (гарэлка гэта называецца *краса*). У процілеглым выпадку свёкар пасылае сватам пляшку гарэлкі без кветак і непадфарбаваную.

Калі *пасланцы* ад'едуць, сванька песняю дае знаць, што маладой пара брацца мясіць цеста на пірагі:

Нашай маладзіцы
Нечаго рабіці.
Ой, даці, даці
Пірагі мясіці,
А замясіўшы —
Павалкаваці,
А потым свёкра
І свякрухну
Да ўбіраці.

Тады маладая разам са свякроўю накіроўваецца з ночвамі ў каморку па муку, а вярнуўшыся, адразу прыступае да мяшэння. У гэтай рабоце яе звычайна выручае адна са сванек або каравайніц, за што забірае кавалак палатна (падарак) і чырвоны паясок, якімі маладая, скончыўшы мясіць, накрывае дзяжу.

Пакуль замешанае цеста падыдзе, удзельнікі абраду бавяць час у танцах і спевах, а маладая тым часам прыбірае свёкраў у шаты, якія прывозіць з сабою з бацькоўскага дому. Як маці, так і бацьку ўбірае з ног да галавы. Мацеры дае кашулю, андарак, фартух, панчохі, чаравікі, каптанік, шапку і хустку. А бацьку — кашулю, нагавіцы і перавязвае яго чырвоным поясам. Так убраўшы, вядзе на запечак, дзе яны сядаюць з дапамогаю маладой.

Прысутныя на гэтым абрадзе па чарзе падыходзяць да печы і пытаюцца:

— *Пазвольце запытацца, якія вы людзі і скуль вы, і за чым вы добрым сюды прышлі?*

На што тыя, што сядзяць на печы, адказваюць:

— *З някрытаго сяла!*

— *Дзе вы былі?*

— *Былі на одпусце.*

— *Якім вы спосабам сюды заблудзілі?*

— *От, мы чулі, жэ ў вас тутай гукі, штукі, то і мы зайшлі забачыць.*

— *Што ж вы добраго бачылі на одпусце?*

— *Усё, хвала богу, добро, только мы бачылі, жэ велькі пляц заставілі, на катором ніхто не стаяў, ані кленчыў. Мы пыталіся, для чаго то, то нам адказалі, жэ то мейсцэ для тых, каторыя ча*

*вяселю. Але як мы сказалі, жэ вас тутай уцале не будзе, то нам пазволілі на вашом мейсцы стаці, і мы за вас мадліліся.*

*— А калі вы такія добрыя, за нас бога прасілі, то нічым вам не аддзенчымо, только просімо вас за наш свянцоны стол і патрактуемо вас, чым нам бог дай. Не так піўцом, як добрым слаўцом.*

Тут, памогшы абодвум злезці з печы, вядуць іх у застолле, дзе яны сядзяць да той пары, пакуль не прыедуць бацькі маладой.

Калі цеста як трэба падрасце, маладая бярэцца качаць яго. У гэтым занятку дапамагае ёй тая самая кабета, што замешвала цеста. Тут спяваюць:

Ой, выдзі, выдзі,
Да Ясенькава маці,
Ой, закліч нявесткі —
Пірагі валкаваці
Белымі ручанькамі,
Злотымі пярсцёнкамі
Пірагі валкаваці.
Нашае цесто
Белае пульхненькае.
Шкадуй, свякрухна,
Свае нявестухны,
Бо ў цябе адненькая,
Бо ў цябе адненькая.
Ой, павалкавалі белае цесто
На дванаццаць булачак,
Ой, дай жа, божа, тваёй нявестцы
Дзевяць сыноў і тры дочак!

Калі пірагі саджаюць у печ, таксама адна са сванек замяняе маладую, а тая вешае на лапаце чырвоны ваўняны паясок.

Спатыкаць бацькоў маладыя выбягаюць абое, і пакуль малады памагае ім злезці з воза, маладая закідае на каня ў аглоблях *падарак* (3 локці палатна), а на другога, прысцяжнога, вешае ручнік, вышыты па абодвух канцах чырвонымі ўзорамі — арабескамі і рознымі кветкамі. Як толькі бацькі *нявесткі* ўвойдуць у хату, сванькі спяваюць:

А чые то да прыданачкі зблудзілі,
У гусценьком бару яны дарожку згубілі.
Сюда, сюда вы, прыданачкі, да двара,
У нашум дварэ ваша Марыська малада.
А кудэю ваша Марыська вязёно,
То тудэю дробну рутаньку трушоно.
Ой, вясёла тая дарожка, вясёла,
Кудэю наша Марыська вязёна.
Ой, вязёно скрыню і пярыну пухову,

Ой, вязёно нам гаспадыньку маладу,
Пагубілі коні падковы па бару,
Вязлі, вязлі нам гаспадыньку маладу.
Схілілася зялёна хвойка ў бару,
Разгаспадарылася ў нас Марыська ў двару:
Пякла яна пшонны пірагі без яец,
Цешылася мужава матка і ойцец.

Пакуль співаюць песню, бацькі маладой, якіх усе сардэчна вітаюць, садзяцца за сталом побач са сваімі *сватамі* (так узаемна называюцца бацькі маладых).

У час, калі маладая, прыслужваючы, прыносіць на стол для гасцей скрылі сыру, пірагі, піва і інш., абедзве сванькі, седзячы за тым самым сталом, спяваюць:

Ой, паселі нашыя бацькі за сталом,
Ой, цешымся мы і цешыцца бог з тым колам.
Дзякуй табе, мая сванечко, за тое,
Што так у строгасці хавала дзіцятко свае,
Што ты яе ўсяе работкі учыла,
Будзе яна нам і свайму Ясенькаві міла.
Пашые кашулю тонкую, беленькую хуценько,
Ясё ўбярэцца, аж будзе глядзець міленько.
Пагоніць валы на дуброваньку раненько,
А выходзячы, зачыніць дзверы ціхенько.
Няхай жа спіць свякруха мая, няхай спіць,
Ужэ старасць яе, некалі было апачыць.
Бо як яна маго Ясенька гадавала,
То яна многа доўгіх ночанькаў не спала.
Цяпер я ёй маладзенькая, адслужуся,
Няхай тое знае, што ў яе нявестка Марыся.

Калі здараецца, што маладая не зберагла дзявоцкае красы, то перад маткаю маладой сват стаўляе шчарбатую міску, а сванькі гэтай песні не спяваюць — *«Бацькі на сябе пазлядаюць, як пані матка на шчанята свае»*.

Танцуюць, спяваюць, весяляцца да вечара. Вечарам маладыя, апрануўшы шлюбныя шаты (нявестка надзяе на галаву *шапку*, вакол якой прыпятая гірлянда, звітая з руты і барвінку), разам з усёй дружынаю ідуць з падаркам у двор. Набліжаючыся да двара, спяваюць:

Ой, радуйся, наш каралічку, радуйся,
Наша маладуха для цябе дары нясе;
Нясе падарак доўгі, тоненькі і беленькі,
Пры баку з ею ідзе Ясенько маладзенькі,
Да кола яе ідзе дружына ўсяя,
Ой, выдзі, выдзі, нашая пані, самая,
Прымі свае верныя слугі ў палацы,
Няхай жа яна праз сваю вернасць выплаціць.

З гэтай песняй уся дружына на чале са сватам, які нясе каравай, і скрыпачамі, якія граюць, уваходзіць у сені або ў першы пакой, дзе маладыя, паўшы ў ногі гаспадарам сваім, уручаюць загорнуты ў падарак каравайчык, просячы, каб *«найяснейшыя паны прынялі гэтыя дары, каторыя мы прыняслі з шчырым сэрцам»*. Панскіх дзяцей нявестка абвязвае ваўнянымі паяскамі, якія ткуць у ёлачкі, хрэшчыкі, месячыкі, кветкі, ключыкі, руткі, грабелькі, замочкі, мазуры, зорачкі і больш дробныя ўзоры.

Гаспадары са свайго боку звычайна запрашаюць усю дружыну на вячэру, пасля якой да позняй ночы ўдзельнікі вяселля гуляюць у панскім двары.

На адыходзе, калі дружына, папярэджаная маладымі, падыходзіць дзякаваць панам за гасцінны прыём, гаспадыня двара звычайна ахвяруе нявестцы шапку ўласнае работы, а ад гаспадара заўсёды атрымлівае грошы на шпількі, а часам, асабліва калі маладая служыла ў двары або калі яна дачка старых і верных і да дому паноў прывязаных слуг,— цялушку, парсюка ці іншы гэтага роду дарагі гасцінец.

Пакідаючы двор, спяваюць:

Ужэ куры заспявалі,
А маладым знак давалі:
Час дадому, час,
Свацейку ты наш!
Сабірайся з панам богам
І з сваім белым пірогам —
Гусачкамі прыбіраны
І караваем названы.

Сват, як звычайна, ідзе спераду дружыны і нясе каравай; адвёўшы маладых да вясельнага дому, усе разыходзяцца па сваіх хатах на адпачынак.

## СЕРАДА: *АБВОД МАЛАДОЙ, НЯСЕНЕ ПАДАРКА АРАНДАРЦЫ*

У сераду, адразу ж пасля снедання, сванькі, пакінуўшы ў хаце за бяседаю вясельнікаў, абводзяць *маладуху* па тых мясцінах, у якіх маладая гаспадыня павінна штодзённа бываць, каб упраўляцца са звычайнымі гаспадарскімі работамі, даглядаць жывёлу і г. д.

Найперш вядуць маладую да ракі, дзе высланая адной з сванек кабета мые бялізну, удараючы раз за разам пранікам па на-

мочаных шматах, што распасцёрты на прыбярэжнай кладцы. Падышоўшы, маладая даруе ёй чырвоны, вытканы з воўны паясок.

Ад ракі ідуць да студні, дзе маладая вешае такі самы паясок на *сцябле* для чэрпання вады. З гэтага месца накіроўваюцца ў авечнік. Выходзячы з яго, маладуха кідае на гурт авечак паясок, ткары ў чорнае з белым,— яго звычайна забірае сабе аўчар. Таксама заходзяць часамі ў абору, хлявы, куратнік і ў іншыя падобныя гаспадарчыя будынкі, і ўсюды маладая пакідае чырвоныя паяскі.

Пад вечар маладыя, адзетыя ў шлюбныя шаты, у таварыстве ўсіх удзельнікаў вяселля накіроўваюцца ў карчму, несучы арандарцы, як і ў двор, выпечаны з пшанічнай мукі каравайчык, які звычайна бывае загорнуты ў трохлокцевы *падарак*. Падыходзячы да карчмы, спяваюць:

Радуйся, рандарачка,
Нясемо табе падарачка
Тонкаго і бяленькаго,
Ад слёзак макрэнькаго,
На варштатах вытканы,
На Дунаю беляны,
Золатам аснованы,
А срэбрам патыканы.
Марысьчыныя ручкі
Кала яго рабілі,
Залатыя персцянцы
Ей за святло служылі.
Ой, нямала, нямала
Галоўку стурбавала,
Пукі яна на свадзьбу
Падаркаў утаргавала.
Нямала, нямала
Белых ручак змучыла,
Пукі яна на свадзьбу
Павяскоў [10] угатавала.
А русеньку коску
То ўсю ночку часала
І румянаму лічку
Усё яе меркавала,
І з русаю касою
Шчыранько размаўляла:
— Каса мая русенькая,
Каму ж ты дастанешся?
Краса мая дзявоцкая,
Каму ж ты дастанешся?
Ці старому, барадатаму,
Ці хітраму, зухаватаму,
Ці добраму, ці вярненькаму,

---

[10] Паяскоў.

Ці Ясеві маладзенькаму?
А не старому, барадатаму,
А не хітраму, зухаватаму,
А не добраму і вярненькаму,
Только Ясю маладзенькаму.

Падаючы карчмарцы падарак, гавораць: *«Просімо прыняці нашыя дары, каторыя мы складаем за вашую гжэчнасць, жэ вы былі такія добрыя, нас, як людзей, прынялі».* Арандарка, прыняўшы дары, ад сябе ахвяруе маладой упрыгожаны завітушкамі каравай, які, адыходзячы, забіраюць з сабою.

Удзельнікі вяселля ў гэты дзень прывыклі бавіцца ў карчме не болей як да паўночы. Ідучы на спачынак, заводзяць:

Ой ты, сваце, баламуце,
Доўго ў карчме п'еш,
Шынкарэві, шынкарачцы
Спаці не даеш.
Шынкар дармо свечы паліць,
За то цябе не пахваліць,
Што ты такі сват,
Што ў цябе нялад.

## ЧАЦВЕР: АДОРВАННЕ МАЛАДОГА, ПРЫДАНСКАЯ ВЯЧЭРА, АД'ЕЗД БАЦЬКОЎ І СВАДЗЬБЫ

Чацвер — дзень, прызначаны для адорвання маладога, адрозніваецца ад іншых тым, што ўдзельнікаў вяселля, якія адпачываюць не ў вясельнай хаце, звычайна не запрашаюць,— хто хоча падарыць ад шчырага сэрца і па добрай волі, сам павінен прыйсці. Пра тых гасцей, якіх трэба прасіць, не дбаюць — *невяліка з іх карысць.*

Трэба дадаць, што калі малады — сірата або бедны чалавек, то ў гэты дзень, апрача звычайнага адорвання, робяць *ссыпку,* г. зн. кожны з удзельнікаў вяселля прыносіць або прывозіць з сабою па магчымасці некалькі, а часам і па *шанку* (мера, якая адпавядае карцу, але амаль на 47 польскіх гарцаў меншая за яго) пшаніцы, жыта, ячменю ці іншага збожжа натураю або змолатага на муку, ці зробленага на крупы.

Што датычыцца гарэлкі і закускі, дык на іх у дзень, пра які ідзе гаворка, гаспадар не траціцца зусім, бо кожны абавязаны прынесці з сабою столькі, каб хапіла не меней чым на аднаго ўдзельніка бяседы.

Вечарам маладога пасля звычайных цырымоній садзяць на пасад, пасля чаго адбываецца абдорванне яго грашыма і жывінаю такім самым спосабам, як і ў хаце бацькоў маладой.

Пасля вячэры бацькі маладухі ставяць *прыданскую вячэру* — прыпасы, якія да гэтага часу былі ў каробках і якімі, паводле звычаю, усе без выключэння павінны быць абдзелены.

Начною парою ўсе госці і бацькі маладой раз'язджаюцца па дамах. Калі яны ад'язджаюць, сванькі спяваюць:

Маладая Марысенька
Сваіх бацькоў жэгнала.
Дробнымі слёзанькамі
Ручанькі аблівала.
Абліваючы слёзанькамі,
За то дзенькавала,
Што яе гадавалі,
Усеньку бяду пазналі,
Яшчэ тое ўчынілі,
Што з Ясенькам зашлюбілі.
— Цяпер жа я, мой ойчэнько,
Нічога не баюся,
Бо я за сваім Ясюленькам,
Як за мурам хаганюся.
Пакланіся, мой ойчэнько,
Маім сёстрам і брацям,
Раскажы ім, раскажы ім
Аб Ясенькавуй хаце.
Не кажы ім, мой ойчаньку,
Што буду гаравацi,
Да паведзь ім, мойродненькі,
Што буду панаваці.
Няхай мая сястра і браток
Сваіх слёзак не трацяць,
Скажэце ім, мой ойчэньку,
Жэ ў нядзелю забачаць.
— Аставайся, маё дзіця,
З панам богам найвышшым,
З сваім свёкрам, свякрухнаю
І з Ясенькам наймільшым.
Не старайся, маё дзіця,
Каб ты нас засмуціла,
Не едзь, не едзь ты да нас
З смутненькімі очкамі,
Да прыязджай, маё дзіця,
З добрымі навінамі.

Калі коні рушаць з месца, бацькі маладой пасля звычайных пажаданняў дадаюць: «Нех бэндзе пахвалёны Езус Хрыстус!» На што гаспадары і госці адказваюць: «На векі векуў! *Да абачэня!*» І я тымі словамі гэта кароткае апісанне вяселля канчаю.

# ВЯСЕЛЛЕ У СВЯНЦЯНСКІМ ПАВЕЦЕ

**Запісала Э. Івашкевіч**

У Свянцянскім павеце, на самай мяжы з Ковенскай губерняй [...], вяселле адбываецца так.

У суботу малады хлопец, які надумаў жаніцца, выязджае са сватам шукаць сабе жонку — абодва па-святочнаму апранутыя. Каню коратка падвязваюць хвост. Вязуць з сабою барылка гарэлкі; акрамя таго, бутэльку гэтай самай вадкасці вязе сват пад кажухом; яна павінна быць заткнута саломай — гэта азначае, што гарэлка прызначана на заручыны. Калі ўязджаюць у двор, які выбралі загадзя, злазяць з воза і, не прывязваючы каня, уваходзяць у хату, вітаюцца [...]

— Прыехаў да вас у госці, але не ведаю, ці прымеце як госця,— гаворыць сват.

— Не ведаю і я; гэта залежыць ад маёй дачкі; калі яна вас прыме, дык будзеце ў мяне гасцямі.

Калі бацька не мае намеру прымаць у зяці хлопца, то пасля кароткай размовы з дачкой, хоць і бярэ пададзены сватам кубак гарэлкі, але п'е яе стоячы. Гэтак жа робіць і дзяўчына. Калі ўсе вып'юць па аднаму разу, гаспадар кажа:

— Дзякую вам за пачастунак, але дачка мая яшчэ вельмі маладая, выдаваць яе замуж у гэтым годзе не буду. Едзьце з богам, я заплачу вам за выпітую гарэлку.

Пасля гэтых слоў разлічваецца з прыезджымі, а яны адпраўляюцца далей шукаць шчасця. Калі трапяць у хату, дзе ім рады, бацька ўступае ў размову са сватам, які ўсяляк выхваляе прывезенага хлопца, а той перакідваецца некалькімі словамі з дзяўчынай. Затым бацька звяртаецца да дачкі:

— Я хацеў бы, каб ты пайшла за хлопца, які да цябе прыехаў. Пара ўжо табе замуж. Ела дасюль бацькаў хлеб, пакаштуй цяпер мужавага.

Дачка апускае вочы, адварочваецца да сцяны, але выпівае некалькі кропель з паданай ёй чаркі. З гэтага часу яна ўжо лічыцца нарачонай. Маці накрывае стол абрусам, сват ставіць барылка, якое прыносіць з воза, а каня ў гэты час вядуць на стайню. Маці павінна даць сыр — ён з'яўляецца абавязковым на заручынах. Акрамя таго, на стале з'яўляецца і іншая закуска — масла, смятана і г. д.

Усе садзяцца за стол; нарачоныя — у самым куце, ад сцяны, прычым нарачоная па правую руку ад нарачонага, сват займае месца, прызначанае яму на ўсё вяселле — на ўслоне насупраць

нарачоных. Прыходзяць запрошаныя суседзі, частуюцца і гуляюць усю ноч.

Назаўтра раніцай маладая звязвае на дарогу ў вузельчык блін, трохі масла, каўбасу; бярэ з сабою брата або іншага сваяка і едзе разам з маладым у царкву *запісваць запаведзі.* Сват на гэты раз застаецца ў хаце, дзе ядуць, п'юць і гуляюць, пакуль не вернуцца нарачоныя. Калі тыя прыедуць, падаюць вячэру: тут павінна быць яечня на патэльні. Пасля добрай выпіўкі сват з маладым рыхтуюцца да ад'езду. Сват мае доўгую размову з бацькам, просіць яго, каб не слухаў злых языкоў, бо людзі часта гавораць абы-што. Нарэшце, сваты выходзяць з хаты, нарачоная іх праводзіць. Яна адвязвае жаніховаму каню хвост, за што атрымлівае ад нарачонага ў падарунак грошы. Свату нявеста дае кавалак палатна на кашулю і пояс сваёй работы. Потым яна садзіцца на іх воз і праводзіць жаніха і свата аж за вёску.

У суботу перад шлюбам малады з *дружкам (баярынам)*, ці падмаладзенцам, маладая з *дружкай (баяркай)* абходзяць усю вёску, кланяюцца ўсім і просяць блаславення, а потым ідуць да споведзі. А раніцай матка маладога і матка маладой — кожная ў сваёй хаце — склікаюць па пяць або шэсць замужніх жанчын і з многімі цырымоніямі, блаславе́ннямі і абрадамі бяруць з дзяжы цеста і садзяць у печ вялікую булку — так званы каравай. Звычайна ён ляжыць на стале на працягу ўсяго вяселля некранутым; толькі музыкант перад тым, як іграць, выразае з сярэдзіны каравая кружок, падымае яго носам, кладзе ў выразаную ямку соль, улівае туды некалькі кропель піва і гаворыць: «Як падразаем гэты хлеб, каб так падрэзала хвароба ўсіх, хто нам зычыць зла, хто можа нашкодзіць урокамі і закляццямі».

У поўдзень у суботу прыязджае ў хату нарачонай бацька нарачонага. Вязе ён для маладой пшонны пірог, булку хлеба і некалькі бутэлек віна, піва і мёду — частаваць дзяўчат, якія сабяруцца вечарам. Прывітаўшыся, ён падае бацьку нарачонай бутэльку гарэлкі і кажа: «Прыехаў адведаць сваю нявестку. Але няхай яна не слухае, калі нядобра буду гаварыць пра свайго сына». Адразу ж адпрагаюць яго каня, самога садзяць за стол і частуюць, а маладая надзяляе яго палатном і поясам. Бацькі за кубкам гарэлкі дамаўляюцца аб парадку вяселля. Бацька маладой просіць пры гэтым, каб для яго жонкі была прыслана бутэлька салодкай гарэлкі — для таго, каб зменшыць яе смутак пры развітанні з дачкою. Калі будучы свёкар маладой ад'язджае, яна цалуе яму руку на развітанне, праводзіць на вуліцу, садзіцца на яго воз і праязджае з ім некалькі дзесяткаў крокаў.

У вячэрнім змроку дружкі маладой ходзяць ад хаты да хаты

і, стукаючы ў вокны, гавораць: «Марыська запрашае на сватоўскі пірог». Дзяўчаты прыходзяць з усёй вёскі. За імі ідуць і хлопцы, але іх не лічаць за гасцей і не частуюць, праўда, не праганяюць, бо ўсё ж з імі дзяўчатам весялей танцаваць.

Тое ж самае робіцца і ў нарачонага. Там дружкі запрашаюць хлопцаў, за якімі ідуць і дзяўчаты, толькі ўжо не танцаваць (бо на гэта няма часу, таму што малады павінен уночы ехаць па маладую), але паспяваць песні.

Калі ў нарачонай збяруцца ўсе дружкі, яны садзяцца за стол, частуюцца і ўюць шлюбны вянок і пры гэтым спяваюць хорам. Калі нявеста не сірата, пяюць такую песню:

Зборная суботка настала,
Марыська дзевачак збірала;
Пасадзіўшы, работкі задала:
Чырвоныя ўстужачкі шпіляць,
Марыські галовачку прыбраць.
Марыські галоўка ў квеце,
Есць ей татулька на свеце.

Для сіраты ж спяваюць:

Зборная суботка настала,
Марыська дзевачак збірала;
Сабраўшы, у радочак саджала.
Сама маладая села міжы іх,
Скланіла галоўку ніжэй усіх.
— Уся мая галоўка ў квеце,
А нет майго татулькі на свеце.

Песня гэта з'яўляецца ўступам да вяселля. З гэтага часу песні не спыняюцца ні на хвіліну. Адны дзяўчаты толькі танцуюць, астатнія ўтвараюць хор, які спявае адпаведныя моманту песні.

Для дзяўчыны, у якой ёсць бацькі, спяваюць:

З суботы на нядзельку
Зажыдала Марыська
З калінкі вянок звіць,
З устужачак кветачкі.
Да паслала татульку
У зялён луг па калінку;
Татулька ўз'язджаець —
Калінка пасыхаець;
Татулька бліжэй, бліжэй —
Калінка вышэй, вышэй.
То ж мая нядолечка,
То ж маё няшчасцейка.

Па чарзе пералічваюцца ўсе сваякі маладой, якіх яна дарэмна пасылала па каліну; нарэшце даручае гэта нарачонаму:

З суботы на нядзельку
Зажыдала Марыська
З калінкі вянок звіць,
З устужачак кветачкі.
Да паслала Янaчка
У зялён луг па калінку;
Яначак уз'язджаець —
Калінка расцуваіць.
Яначак бліжэй, бліжэй —
Калінка ніжэй, ніжэй.
То ж твая долечка,
То ж тваё шчасцейка.

Хор абавязаны разжаліць маладую, якая павінна заплакаць, калі хоча пакінуць пра сябе добры ўспамін. Спяваецца такая песня:

Ой ты, рэчанька, ой ты, быстрая,
Чаго ты стаіш, чаго не бяжыш.
— Я і сяк бягу, я і так бягу,
Гэтага пяску я не размыю,
Гэтых камней я не разрыю.
Ой ты, Марыська, ой ты, маладая,
Чаго ты сядзіш, чаму не плачыш,
Матулькі сваей да не разжаліш?
— Я і сяк плачу, я і так плачу,
Матулькі сваей да не разжалю.
Мая матулька не жалосная,
Аддаець мяне недарослаю,
Недарослаю, недаўмелаю,
Да як ягадку недаспелаю.

Калі песня не расчуліць маладую, хор спявае:

Дайце Марысьцы памочы,
Горкай цыбулі пад вочы;
Знаць табе, Марыська, замуж хочыцца,
Калі твае слёзанькі не коцяцца.

Для сіраты спяваюць:

Вялікая дубровачка,
Чаму ў цябе дуб'я многа,
А зялёнага аніводнага,
Нет каму шумець.
Маладая Марыська,
Чаму ў цябе айцоў многа,
А роднага аніводнага,
Нет каму благаславіць.
Чужыя благаслаўляюць,
Выйшаўшы, абмаўляюць.][2]

Або:

Ішла Марыська із поля,
Несла рутачку ў прыполе,
Віла вяночак пры стале;
Звіўшы, пакаціла па стале:
— Каціся, вяночак, каціся,
Брацятку ў ручкі валіся.
Перайміі, брацятка, вяночак.
— Не перайму, сястрыца, не перайму,
З жалосці ручак не здыму.

Для сіраты спяваюць яшчэ і гэту песню:

Па чым пазнаці калінку ў лозе?
Калінка ў лозе зеляненька стаіць,
Зеляненька стаіць, беленька чуець,
Беленька чуець, чырвона спееець.
Па чым пазнаці Марыську ў радзе?
Марыська ў радзе смутненька сядзіць,
Смутненька сядзіць, на людцаў глядзіць,
На людцаў глядзіць, смутненька сядзіць.
Глядзі не глядзі — не ўвідзіш матулькі;
Твая матулька вельмі далёка,
Вельмі далёка, у зямлі глыбока,
Вельмі далёка, у зямлі глыбока.
Устаньце, буры, устаньце, ветры,
Здзярыце зялён дзярночак,
Размяціце жоўты пясочак,
Разабійце сасновыя дошкі
І выпусце маю матульку.
Няхай паглядзіць майго вяселля,
Няхай паглядзіць майго вяселля.
Не магу ўстаці да сваго дзіцяці,
Не магу паглядзець тваго вяселля.
Жоўты пясочак засыпаў очкі,
Зялён дзярночак заціснуў грудзі.
Сам бог паедзіць найстаршым сватам,
Анёлаў пашлець надкосьнічкамі,
Найсвентшая матка — прыданачка,
Найсвентшая матка — прыданачка.

Тым часам з'язджаюцца госці. У маладой збіраюцца яе дружкі, прыбываюць яе дружкі, якіх называюць *надкосьнічкамі*, прыязджае свацця, ці *прыданка*, і сват са сваёй сваццяй, так званыя хросныя бацькі. Акрамя гэтых абавязковых асоб, без якіх паводле сялянскіх паняццяў нельга гуляць вяселле, запрашаюць блізкую і дальнюю радню. Кожны з гасцей прывозіць з сабою хлеб, пірагі, сырое і смажанае мяса — столькі, колькі можа з'есці прыкладна за час забавы. У выніку, нягледзячы на вялікую колькасць людзей, затраты на вяселле не такія ўжо вялікія. Лічба сем лічыцца самаю шчасліваю: госці звычайна прывозяць па

шэсць булак і, падаючы гаспадыні, гавораць: «Шэсць булак, я ж сёмы як каравай».

Збіўшы вянок, дружкі надзяваюць яго на галаву маладой, ■ бацька ў гэты час укочвае дзяжу з сенцаў. Маці кладзе на яе падушку, а хор спявае:

Карыся, Марыська, карыся,
Старому і маладому кланіся,
Старога і малога не мінай,
Ручкамі ножачкі абымай.

Маладая ўсім, пачынаючы з бацькоў, кланяецца. Бацька бярэ яе потым за руку і садзіць на дзяжу, або на сялянскай мове на *пасад*, ставіць ёй на калені талерку з хлебам, соллю і воўнай. Хор у гэты час спявае:

Татулька Марыську на пасад вядзець,
Шорлкамі сцежку мяцець,
Золатам пасыпаець,
Слёзкамі паліваець.

Бацька, матка, хросныя бацькі і ўся кампанія абходзяць маладую на пасадзе тры разы. Пры першым разе хросная матка працягвае праз пярсцёнак па пасмачцы валасоў у маладой спераду, ззаду і на скронях, а хросны бацька падсмальвае іх полымем грамнічнай свечкі і тры разы благаслаўляе[...]

Благаславенне лічыцца абрадам рэлігійным і амаль заўсёды выконваецца па-польску.

У хаце маладога адбываецца прыкладна тое самае: садзяць яго на дзяжу, падстрыгаюць, благаслаўляюць, але цырымоніі не зацягваюць. Хор маладых суседак падганяе маладога да выезду:

Зачынаецца Янушковае вяселле,
Ой, час-пара за столікам садзіцца,
Ой, час-пара ў скрыпачкі граці,
Ой, час-пара ў вазочак садзіцца.
Рушце, рушце, сівыя коні, пад намі,
Яшчэ ехаць чатыры мілі барамі,
А пятая жалезнымі мастамі,
А шостая ў цясцёвым двары.
Пасталі ўсе радком пад тынком,
Каб заспелі маладую Марыську пад вянком.
Хоць заспею, хоць не заспею, не дбаю,
Маладую Марыську па вянку пазнаю.
Едзь, Янучок, не вечарыся,
Роўным полем не станавіся.
Роўнае поле — твая нядоля.
Твая вячэра пылам запала,
Твая Марыська пайшла за пана.

Дружкі адказваюць:

Я вячэру перцам напраўлю,
Сваю Марыську к сабе прыбаўлю;
Мая вячэра цынам накрыта,
Мая Марыська са мной запіта.

Хор спявае да маткі маладога:

Шчаслівая гадзіна настала,
Сягодня свякроўка па нявесту паслала.
Ой, свяці, ясен месяц,
Гдзе маіх дзетак двое:
Адно дзеця радзонае,
А другое судзонае.
Радзонае хваліць буду,
А судзонае судзіць буду.

Пасля цырымоніі блаславення бацька вядзе маладую за стол. Перад ёю ставяць талерку з хлебам, соллю і півам, у якое накідалі аўса і хмелю. А хор працягвае:

З суботкі на нядзельку
Марыська сон відзела,
Нікаму не сказала,
Сама сабе гадала.
Як сама не згадала,
Тагды матульцы сказала:
— Што я за сон відзела!
Поўны двор галубчыкаў,
Бел кужаль пацяганы,
Усё злота рассыпана.
— Галубкі — сваты твае,
Бел кужаль — дары твае,
А злота — слёзкі твае.

Усе акружаюць маладую, і кожны, пачынаючы з яе бацькоў, кладзе перад ёю на талерку які-небудзь падарунак, звычайна грошы, часам і іншыя рэчы. Перад маладою сядзіць яе хросны бацька і таму, хто кладзе падарунак, падае кубак з півам, а маладая ў знак падзякі схіляе галаву. Хор тым часам спявае такі куплет:

Дарыце, татульку, дарыце
І па талеру кладзіце.
І нех дары пануюць,
І чэлядніцу наймуюць.

Пасля гэтага хор звяртаецца з той жа песняй да мацеры і да кожнага з прысутных.

Калі дарэнне закончыцца, маладая садзіцца далей за стол да надкоснікаў і дружак. (Калісьці надкоснікі абавязаны былі расплесці касу маладой, якая брала шлюб з распушчанымі валасамі і не мела права заплятаць іх пасля замужжа. Сёння, хоць гэты звычай знік, дружкі, звычайна браты маладой ці блізкія сваякі, усё роўна называюцца *надкоснікамі*.)

Седзячы за сталом і чакаючы прыезду маладога, спяваюць:

Стаяла Марыська пад ляском,
Клікала Янучка галаском:
— О едзь, Янучок, не баўся,
Ужо мой татулька прыбраўся,
Цясовыя столікі пастаўляў,
Залатыя кубачкі паналіваў.
Міленькі госцікі п'юць і ядуць,
Цябе, Янучок, не дождуць.
Паслала б пасланца — не смею,
Напісала б лісток — не ўмею.
Пайшла б сама — пазнаюць,
За белую ручаньку паймаюць.

Чуваць званкі. Неўзабаве бяжыць маршалак у шапцы, з палкаю ў руцэ і, ні з кім не вітаючыся, б'е тры разы па жэрдцы, што вісіць над печчу. Свацці стараюцца выхапіць у яго з рукі гэту палку — сімвал улады. Калі ім гэта ўдаецца, тады маршалак выкупляе палку за грошы. Маці маладой павязвае яго наміткай праз левае плячо, а ён падае ёй бутэльку салодкай гарэлкі і сам ідзе да стала, дзе яго частуюць гарэлкай. Рытуал прыходу суправаджаецца песнямі. Так, у той час, калі толькі зазвоніць першы званок, хор спявае:

Сваты ў двор едуць,
Куры пад печ лезуць.
Не бойцеся, куркі,
Не многа вас трэба:
Сем пар на вячэру,
Восьмую на сняданне,
Дзевятую на ад'язджанне.

Як толькі сват ускочыць у хату, спяваецца такая жартоўная песня:

Гэй, маршалка,
Дзе твая дружына?
Чы ў лесе, чы ў боры,
Чы на бітай дарозе?
Гэй, маршалка,
На кім да нас прыехаў?
Ты прыехаў на казе;
Твая каза шкадліва,

Усю капусту з'ела.
Гэй, маршалка,
Будзе табе работы!
Будзеш капусту садзіць,
Будзеш ваду вазіць і г. д.

Закусіўшы, маршалак устае, здымае шапку і, сказаўшы «Нех бэндзе пахвалёны Езус Хрыстус», выходзіць з хаты да маладога і яго дружыны, якія чакаюць каля варот. Як толькі сват выйдзе за вароты, маладыя хлопцы падбягаюць да іх і замыкаюць. Вясельнікі з дружыны маладога даюць хлопцам выкуп — булачку хлеба і глячок гарэлкі. Толькі пасля гэтага вароты расчыняюцца, і дружына маладога ўязджае ў двор у такім парадку: маршалак з музыкантам уперадзе, затым малады з баярынам і пасля іх усе астатнія. Хор спявае:

Выйдзі, маладая Марыська, на падвор,
Пазнай, пазнай, каторы твой:
Чы той у сінім на каню сівым,
Чы той у зялёным на каню вроным,
Чы той у атласе, у злацістым пасе?
— Што ў сінім, на каню сівым,
то баярын,
Што ў зялёным, на каню вроным,
то баярын;
Што ў атласе, у злоцістым пасе,
то мой.

Бацька маладой сустракае маладога на ганку з хлебам, соллю і гарэлкай. Акрамя маладога, якому нельга перад шлюбам ні піць, ні есці, усе выпіваюць па кілішку. Малады кланяецца бацьку і, уваходзячы ў хату, матцы, якая стаіць каля печы. Затым ён садзіцца каля дружкі маладой. Ля маладога садзяцца баяры, за імі — астатнія з яго дружыны. Маршалак звычайна сядзіць на зэдлі насупраць маладога. Ніхто з іх не здымае шапкі. Баяры наліваюць дружкам піва і кідаюць у шклянкі дробныя манеты, выкупляючы гэтым самым месца для маладога. Дружкі ўстаюць. Малады садзіцца побач з маладой, а дружкі займаюць месца каля маладой з другога боку. Снедаюць спяшаючыся, таму што набліжаецца час выезду. Хор спявае:

Спяшайся, маладая Марыська,
Спяшайся, малады Янучок,
Там вас ажыдаюць, (2)
Каберцы рассцілаюць, (2)
Там вам праўду скажуць,
Там вам ручкі звяжуць
Стулою квяцістаю, (2)
Міленькаму вячыстаму. (2)

Закусіўшы, усе выходзяць з-за стала. Маладыя кланяюцца прысутным, надзяваюць футры. Затым усе выстройваюцца ў такім парадку: маршалак, маладыя, баяры, дружкі, надкоснікі, прыданка, або свацця, хросныя бацькі і ўсе з вясельнай дружыны — і абходзяць тры разы вакол стала, па ходу сонца. За кожным разам маршалак гаворыць на ўвесь голас: *«Няхай бог благаславіць!»* Нарэшце аб'яўляе: *«Пара да касцёла»*, і першы выходзіць з хаты. Дружкі з дзяўчатамі ў мітусні хаваюць маладую. Баяры павінны яе знайсці, выкупіць, адабраць ад дзяўчат, узяць на рукі і вынесці на воз, на якім яна з дружкай павінна ехаць у касцёл. Дзяўчаты спяваюць:

Ты — кляновы лісточак,
Куды цябе вецер веіць?
Ты — маладая Марыська,
Куды цябе выпраўляюць:
Чы ў госці, чы ў дарогу,
Чы да божага столу?

У першым возе едзе маршалак з музыкантам, у другім—малады з баярынам, у трэцім — другі баярын, у чацвёртым — маладая з дружкай, за імі — прыданка з другой дружкай, астатнія — дзе ёсць месца і хто дзе хоча. Калі ўсе рассядуцца, бацька маладой частуе вясельнікаў гарэлкай, а маршалак абходзіць тры разы вазы з усходу на захад, благаслаўляючы вясельны поезд. Бацька ж хрысціць дарогу. Пасля гэтага вяселле зрушваецца з месца, музыка іграе ўсю дарогу.

Як толькі маладыя паедуць, з дому маладога прыязджае другі сват, так званы *кіслы сват,* які прывозіць з сабой гарэлку, хлеб, пірагі, смажанага барана і ўсё тое, аб чым дамовіліся бацькі, складае свае дары на стол, садзіцца каля іх і пільнуе, каб не раскралі,— вядома, жартам. Але яму не заўсёды гэта ўдаецца, таму што ўсе частуюць яго, і ён можа, напіўшыся гарэлкі, заснуць.

Адразу пасля шлюбу ўсё вяселле адпраўляецца ў карчму пагрэцца. Потым маладыя садзяцца на адзін воз і хутка едуць да бацькоў маладой. Бацька сустракае іх на ганку з хлебам, соллю і гарэлкай, вядзе ў хату і садзіць за стол звычайным парадкам. Побач з маршалкам на зэдлі садзяцца кіслы сват і гаспадары. За сталы, на якіх у асноўным прыпасы кіслага свата, садзяцца толькі вяселле і запрошаныя госці. Частуюць толькі тых, хто прывёз з сабою прыпасы; маладыя хлопцы і дзяўчаты, якія прыходзяць без запрашэння, забаўляюцца, танцуюць, але ніхто іх не частуе. Цяпер пасля шлюбу сяброўкі і таварышкі маладой у сваіх песнях за сталом ужо не смуткуюць аб яе лёсе, не даводзяць яе да слёз, а спяваюць толькі кплівыя песенькі, у якіх яны выказваюць

сваю непрыязнасць да тых, хто яе хутка забярэ, г. зн. да маладога і яго дружыны. Прывядзём тут некаторыя з гэтых песень, і перш за ўсё тую, дзе высмейваецца знешнасць маладога.

Наша Марыська — ягодка,
Ваш Янучок — калодка;
Наша Марыська — мілы дзень,
А ваш Янучок — гнілы пень.
Казалі — Янучок вельмі харош,
Аж у яго доўгі нос,
Рыжыя бровы, як у каровы,
Рыжыя вусы, як у пакусы,
А нажышча,
Як качаргішча.

Баяры імкнуцца абараніць маладога. Яны частуюць спявачак абаранкамі, півам, гарэлкай. Пасля гэтага дзяўчаты пакідаюць маладога ў спакоі і накідваюцца на баяр:

Высок баярын, высок,
Поўныя боты трасок.
Вышшы, баярын, вышшы,
Поўныя боты мышы.

Калі гэты баярын адкупліваецца, дзяўчаты бяруцца за наступнага:

Баярына харош конік — не яго,
Што ў дварэ за камісара, то таго.
У баярына хароша шуба — не яго,
Што ў дварэ за аканома, то таго.
У баярына харошая шапка — не яго,
Што ў дварэ за намесніка, то таго.
У баярына харошыя боты — не яго,
Што ў дварэ за цівуна, го таго,
У баярына харош пояс — не яго,
Што ў дварэ за пастуха, то таго.

Потым, нягледзячы на шматлікія выкупы, пачынаюць высмейваць усю дружыну маладога:

Нашы сваты жарлівы,
За абед жарабя з'елі,
Па стале качаючы,
У попел мачаючы.
На стале ні крошачкі,
Пад сталом ні костачкі:
Крошачкі ў кішэнь склалі,
Костачкі ў прыпол узялі.

Затым ізноў звяртаюцца да каго-небудзь з баяр:

У баярына з кішаня пірог точыцца,
І нам яго хочыцца;
Калі нам не дасі,
То і сам не з'ясі;
Паедзеш праз сяло,
Абяруць цябе дзеці,
І станець у кішэні гола;
Сабакі цябе пераймуць,
З кішанём пірог адарвуць.

Гэтыя песні дзяўчат, а таксама танцы і гульні, у якіх не прымаюць удзелу адны толькі маладыя, заканчваюцца аж у панядзелак вечарам.

Калі перад ад'ездам апошні раз частуюцца за сталом, бацька маладой падыходзіць да зяця і падае яму лазовы дубчык, просячы, каб не біў яго дачку ні кіем, ні паленам, а толькі такою вось тоненькай розгай. Нарэшце, наступае хвіліна ад'езду. Малады выкупляе пасцель маладой у дзяўчынкі, якую садзяць на гэту пасцель. Выкупляецца таксама кубел. І ўжо ў самы апошні час моладзь зноў-такі з мэтай сарваць выкуп хавае маладую. Баяры знаходзяць яе, выкупляюць, садзяць на воз, і ўсе ад'язджаюць, спяваючы такую песню:

Зара з зарой раздзіраецца,
Марыська з матулькай раздзяляецца.
Каб я маладая не радзілася,
Што я з матулькай разлучылася.
Каб я маладая не кахалася,
Што я з матулькаю разлучалася.

Ад'язджае ўся світа маладога і памочнікі маладой (сваха, або прыданка, надкоснікі і хросныя бацькі). А дружкі, як непатрэбныя, застаюцца дома.

Прыехаўшы да двара маладога, вясельны поезд спыняецца перад варотамі. Яны, аказваецца, на замку, а перад імі стаіць сноп саломы. Прыданка злазіць з воза і абвязвае сноп поясам з абаранкам, маладая кідае на сноп булачку хлеба, а хросны бацька частуе гарэлкай хлопцаў, якія стаяць тут жа, і яны пасля такога выкупу адчыняюць вароты насцеж.

На ганку стаіць бацька маладой з хлебам, соллю і гарэлкай. Маладая, злазячы з воза, накрывае каня, на якім прыехала, палатном, кланяецца бацьку і дае яму палатна на кашулю. Маці стаіць у парозе хаты, перад ёю ляжыць вывернуты кажух. Маладыя, трымаючыся за рукі, праходзяць па кажуху, кланяюцца мацеры, маладая дае ёй падарунак; адорвае яна таксама і таго, ка-

го ўбачыць на печы—са сваякоў маладога. Падышоўшы да стала, маладая вешае над ім на калку прыгожы ручнік і, нарэшце, садзіцца на куце, пры ёй — муж, і, як звычайна, увесь вясельны поезд.

У маладога таксама, як і ў маладой, ёсць імправізаваны хор, які складаецца з суседак і яго сваячак. Яны не надта зычліва настроены да маладой, якая для іх чужая і якая, можа, перахапіла шмат для каго пажаданага хлопца, таму стараюцца пакпіць з яе, тым больш што ім хочацца адпомсціць ёй за тыя насмешкі, якія чынілі яе таварышкі над маладым. Ужо калі вясельны поезд пад'язджае да варот, далятае такая песня:

Адчыняйце варота,
Вязуць чорта з балота;
Адчыняйце дзвер,
Вязуць маладую, як звер;
Рудая, як лісіца,
Вялікая, як мядзвядзіца,

А пазней, разгледзеўшы рэчы маладой, кпяць:

Нет ні клеці, ні павеці,
Негдзе кублоў падзеці;
Вязіце ў тыя свірны,
Гдзе стаялі свінні.

Звяртаючыся да маткі, спяваюць:

Запалі, матка, жыжу,
Вязуць табе грыжу;
Запалі, матка, агонь,
Вязуць табе ражон;
Запалі, матка, свечку,
Вязуць табе спрэчку.

Калі маладая садзіцца за стол, прыданка накрывае яе наміткай. Але праз хвіліну прыбягае па лаве дзіця і здзірае заслону, маладая выкупляецца, даруючы дзіцяці пояс і абаранак. Хор, уважліва прыгледзеўшыся да маладой, выступае з новымі кпінамі:

Прывязлі саву, саву,
Нашаму сялу, сялу;
Прывязлі сямілетку
Для нашага трэцялетка.

І далей яшчэ:

Галавішча не ўчасаная,
Бела ліцо не ўмыванае;
Прынясіце баранішчу
Расчасаць ёй галавішчу.

Пасля гэтых, не зусім прыемных для маладой песень, ад якіх яна звычайна адкупліваецца, спявачкі нападаюць са сваімі кплівымі песнямі на прыданку; калі тая нічога ім не адказвае, растлумачваюць яе маўчанне так:

Нема, свацця, нема,
Грачаную муку з'ела.

Часам прыданка на кпіны спявачак адказвае таксама песняю:

Няхай той занямеець,
Хто пяе ды не ўмеець;
Я песенькі ўмею,
У чужых людзей не смею.

Хор зноў працягвае:

Села прыданка, села,
Да як кіта сена.

Прыданка адказвае:

Хаця я сена,
Да за сталом села,
Сыр і масла ела,
Бо кароўкі мела;
А вы адну казу мелі
І тую ваўкі з'елі.

Хор часам даходзіць да грубасці:

Горда прыданка, горда,
Як сабачая морда;
Дайце бабовай жыжкі,
Каб была яе морда слізка.

Прыданка ў такім выпадку нават не адказвае ім, а толькі звяртаецца да гаспадара:

Чы на тое, мой сваточак, запрасіў,
Каб гэтымі сучкамі апусціў?
Да схадзі, мой сваток, у лясок,
Да выражы пруток
І загані гэтых сучак у куток.

Падобнымі кпінамі сустракаюць усю дружыну маладой. Часам кпіны бываюць занадта «моцныя», каб можна было іх тут прывесці.

Адразу пасля вячэры маладая і ўся яе дружына выходзіць з хаты. Маладога ў гэты час садзяць за стол і пачынаюць адор-

ваць. Адбываецца гэта так, як і ў маладой, з тымі самымі песнямі.

Потым госці танцуюць, а маладых адводзяць у спальню, прыгатаваную ў гумне,— сюды яны ідуць нават у люты мароз. Маладых праводзяць бацькі, маршалак, прыданка, хросныя бацькі і музыкант. Астатнія танцуюць, гуляюць.

Свацці сцелюць ложак, а бацька маладога бласлаўляе і некалькі разоў перахрышчвае маладых. Кладуцца спаць. Маладая па звычаю сцягвае з маладога боты. За гэта ён дае некалькі дробных манет [...]

Назаўтра раніцай малады ідзе са спальні да маткі і цалуе ёй руку. Пасля гэтага яна збірае ўсіх сваццяў і разам ▪ тымі, хто праводзіў маладых у спальню, накіроўваецца да нявесткі.

Праз нейкі час пасля розных абрадаў і песень, калі маладая жанчына амаль напалову ўжо апранецца, баярын падае ёй ваду, за што атрымоўвае падарунак. Музыкант іграе адпаведную гэтаму моманту мелодыю, а бацька частуе маладажонаў салодкаю гарэлкай. Маці са сваццямі ўбіраюць маладую замужнюю жанчыну, надзяюць ёй чапец, за што яна дарue свёкру і свякрусе адзенне. Потым усе ідуць у хату: уперадзе прыданка, за ёю маладая, цяпер ужо замужняя жанчына. Прыданка абвязвае кожнага мужчыну з сям'і маладога поясам, а маладая па чарзе кланяецца ім. Прыданка ставіць на стол бутэльку гарэлкі, сыр, масла, пірагі і запрашае на сваё снеданне. Пасля снедання малодшы брат ці іншы сваяк прыносіць вялікі ахапак саломы. Маладая дарue яму пояс з абаранкам. Хлопец растрасае па падлозе сянец салому, а бацька маладога танцуе па той саломе з нявесткай, за што яна дарue яму палатна. Пазней яна танцуе з маршалкам і таксама ў знак падзякі надзяляе яго падарункам. З гэтага часу танцы робяцца агульнымі. Танцуюць і спявачкі, якія, развесяліўшыся, забываюць на нейкі час пра свае кпіны.

Вечарам бацькі маладога з усімі гасцямі знаёмяць маладую з гаспадаркай, паказваюць ёй, як мясіць хлеб у дзяжы, мыць міскі, даставаць ваду са студні, шуфляваць збожжа, грэбці сена, секчы дровы; яна ж кожнаму, хто яе «вучыць», дарue кавалак палатна або пояс. Пасля гэтага ізноў танцуюць і п'юць аж да вячэры. Калі садзяцца вячэраць, хор ізноў прыступае да песень і напамінае ў іх дружыне маладой, што пара ад'язджаць:

Едзьце, сваты, дадому,
Паелі коні салому,
Каля плота крапіву
І аржаную мякіну.

Сваццbackyard маладога, звяртаючыся да прыданкі, або сваццi маладой, спявае:

Вы, сваточкі, ад'язджайце,
Сваё дзіця навучайце,
Каб пры ямцы[1] не стаяла
І з круп сала не цягала,
І на котку не сказала;
Каб па вуліцы не хадзіла,
Смецця ў прыполе не насіла.

Два апошнія радкі азначаюць, што спрэчкі нельга выносіць з хаты.

Хор, разумеючы, што гэтыя песні не вельмі падабаюцца прыданцы, спявае:

Сват сваццi
Сплёў лапцi
З тоўстых лык;
А прыданка
Спусціла нос,
Як індык.

Прыданка не звяртае ўвагі на гэтыя зачэпкі. Яе клопат — абараніць маладую гаспадыню ад папрокаў:

Яна ў нас усю работу ўмела,
Толькі яшчэ ў чужых людзей не смела.
Яна ў нас па улцэ не хадзіла
І смецця з дому ў прыпале не насіла.

Потым, звяртаючыся да гаспадароў, спявае далей:

Вы, сваточкі, галубочкі, прашу вас,
Застаецца маё дзіцятка тут, у вас,
Хоць вы яе ранюсенька будзіце,
Толькі вы яе да матулькі пусціце;
Хоць вы яе таўчы, малоць застаўце,
Толькі, выйшаўшы на улку, не слаўце;
Хоць вы яе падушачкі тапчыце,
Толькі вы да нас у госці пусціце,
Каб яна пад аконцам не стаяла,
Рукаўцом слёзак не ўцірала,
Каб ёй паветка не была за хатку,
Каб ёй суседка не была за матку.

А пазней, прыпамінаючы, колькі мусіць цярпець замужняя жанчына ад мужавай сям'і, спявае сама сабе далей:

Бо не раз я пад аконцам стаяла
І рукаўцом слёзкі абцірала;

[1] *Ямка* — месца, дзе ў печы захоўваецца агонь.

Не раз мне была паветка за хатку,
Не раз мне была суседка за матку.

Хор усё часцей напамінае, што пара ад'язджаць. Госці начынаюць рыхтавацца да ад'езду. На дарогу ім даюць хлеба і пірага, а ў спарожненую бутэльку маладыя наліваюць салодкай гарэлкі, абвіваюць яе рутай, абвязваюць стужкамі і аддаюць прыданцы, просячы, каб яна перадала гэты падарунак бацькам маладой у знак падзякі. Потым госці маладой, развесяліўшыся, на чале з прыданкай ускокваюць на лавы і, тупаючы ды танцуючы, па тры разы прабягаюць па іх, стараючыся паламаць. Яны імкнуцца таксама разбіць ці папсаваць яшчэ што-небудзь. Гаспадары не перашкаджаюць ім, бо лічыцца, што кожная такая паломка будзе толькі на шчасце. Пазней госці кідаюцца да печы, вырываюць з яе некалькі цаглін і пад смех і вясёлыя воклічы хутка выскокваюць з хаты. На ад'езд бацька частуе ўсіх гарэлкаю. Дружына маладой ад'язджае з песнямі. Калі б гасцям на ад'езд падалі пустую бутэльку, заткнутую саломай, гэта было б вельмі дрэнным знакам для маладой, і ў такім разе яе сваякі і сяброўкі выязджалі б ціха і пакорна, а хор даймаў бы іх злымі кпінамі, нямала дасталося б тут і самой маладой.

Да бацькоў маладой вяселле пад'язджае з такім жа настроем, з якім выехала ад маладога. Калі маладая не захавала цнатлівасці, яе дружына прыязджае дадому без шуму. Калі ж вязе абвітую кветкамі бутэльку салодкай гарэлкі, то едзе з гоманам, з воклічамі і песнямі. Па прыездзе першай убягае ў хату прыданка, ставіць на стол гарэлку і частуе ёю бацькоў. Прыезджыя ўскокваюць на лавы і сталы і скачуць прыпяваючы:

Паламалі лаўкі,
Зарабілі слаўкі.

Пазней пачынаецца вячэра ці снеданне (гледзячы, якая пара на дварэ), але ўжо без ніякіх цырымоній. І хоць у абедзвюх хатах гуляюць аж да пятніцы, але ўсё роўна якраз з ад'ездам дружыны маладой ад маладога і з прыездам яе дадому заканчваецца ўласна вяселле, працягваюцца толькі забава і выпіўка. Калі кончацца прыпасы, усе сабраныя апранаюцца венграмі, а часцей за ўсё цыганамі і адпраўляюцца на вёску — «жабраваць».

На вуліцы, на вуліцы
Цыганы змерзлі;
Негдзе ім, негдзе ім
Падзеціся.
Пусціце іх, пусціце іх
Пагрэціся.

Іх усюды прымаюць і адорваюць яйкамі, маслам, каўбасамі, мясам. Вярнуўшыся з гэтымі падарункамі назад, яны працягваюць гуляць, весяліцца. А калі не стане гарэлкі, маршалак у маладога, а сват у бацькоў маладой збіраюць грошы ў складчыну. Пры гэтым гавораць: «*Ад носа па грошу, а чый даўжэйшы—то два*». І ніхто не адмаўляецца. Усе шчодра кідаюць грошы і п'юць далей. Калі прыходзіць час развітвацца, усе вясельнікі дзеляць паміж сабой каравай.

## ВЯСЕЛЛЕ [У МАГІЛЁВЕ]

### Запісаў І. В. Рубаноўскі

У мяшчан, як і ў сялян, маладыя людзі мала маюць свабоды ў выбары нявесты або жаніха; вяселлі большаю часткаю наладжваюцца бацькамі або бліжэйшай раднёю. Мяшчане не спяшаюцца жаніць сыноў, як і дачок аддаваць замуж. Каб ажаніць сына па-старому, дагэтуль захаванаму звычаю, трэба пабудаваць яму асобны двор, г. зн. дом з усімі дваровымі будынкамі, даць агарод і дзялянку сенажаці, а таксама і грошай, каб было *за што зачапіць рукі*, іншымі словамі — каб было чым пачаць гаспадарнічаць. Каб выдаць дачку замуж, трэба даць ёй *пасагу* — агарод, сенажаць, грошы і добрую вопратку, таму што *голую ніхто не возьмець*. Паколькі і ў тым і ў другім выпадку значную частку паёмасці трэба выдзеліць з гаспадаркі, то гаспадары нямала падумаюць да таго, як адважыцца на гэта. Цяпер жа чакаюць яшчэ, пакуль *хлопец* адбудзе воінскую павіннасць. Спачатку або купляюць дом, або часцей за ўсё будуюць яго, выдзеліўшы для гэтага ўчастак сваёй зямлі; або бяруць у арэнду гарадскую зямлю ці купляюць у прыгараднага памешчыка дрэва, вывозяць і пачынаюць будаўніцтва. Калі двор гатовы, бацькі хлопца пачынаюць думаць аб яго жаніцьбе. Таксама і гаспадары, у якіх ёсць дочкі-нявесты, падумваюць, як бы ўладкаваць сваю дачку на гатовае месцайка. Найчасцей стараюцца радніцца людзі аднолькавых магчымасцей, і вельмі рэдка здараецца, што багаты жэніцца на беднай або багатая выходзіць за беднага.

Задумаўшы жаніць сына, гаспадар раіцца аб гэтым са сваёй гаспадыняй у прысутнасці сына-жаніха: «*Пазвала б ты, Лукер'я, сваю сястру ды схадзілі б вы да Панталяймона, пасваталі б яго дачку за нашага Якава*».— «*Да іна ж дужа і непрыгожая*»,— гаворыць Якаў. «*Непрыгожая, ды імушчая*,— адказвае бацька,—

*а што тыя прыгожыя, калі карманы іх нягожыя».—«Ды другая прыгожая ўлезла б цяпер у гатовы дварок, свайго нічога не прынёсшы»,*— дадае матка. Сын разумее, у чый гэта агарод кінуты каменьчык, але маўчыць...

Вельмі часта бывае сватанне і з боку нявесты. Гаспадыня, у якой дачка — нявеста, маючы на прыкмеце добрага жаніха, пасылае сваіх сваячак або блізкіх прыяцелек спачатку *ў праведкі: ці можна прыйсці ў сваты.* Тыя ўдваіх прыходзяць у дом жаніха, прыдумаўшы якую-небудзь прычыну. Пагаварыўшы пра справу, яны робяць выгляд, быццам збіраюцца выходзіць. *«Пагуляйце ж у нас, куды вы спяшыцё?»* — запрашае іх гаспадар або гаспадыня. Госці астаюцца, пачынаюць гаварыць: *«Во, вы сыну двор пастроілі, цяпер яго жаніць трэба, ■ мы вам нявесту пасаветуем: дачку Стэхвана* (называюць прозвішча), *хазяйка харошая і пасагу дадуць харошую».* Калі прапанова не падабаецца, гаспадар адказвае: *«Знаем, яны людзі харошыя, ды ў гэтым гаду мы яшчэ свайго сына жаніць не будзем; яшчэ і двор не ўвесь гатоў, і мы так многа патраціліся, трэба саўрэмяніць».* Затым гаспадар і гаспадыня, каб перамяніць размову, пачынаюць гаварыць пра што-небудзь іншае. Але свахі ізноў скіроўваюць размову на жаніцьбу і атрымліваюць той жа адказ. Яны звяртаюцца яшчэ раз з прапановай да гаспадыні — адказ такі самы. Убачыўшы, што справа не ладзіцца, свахі развітваюцца і выходзяць. Калі ж падобная прапанова гаспадарам падабаецца, то размова бывае зусім іншая: *«А што ж, Лукер'я,*— звяртаецца гаспадар да жонкі,— *калі добрыя людзі нас шукаюць, дык і нам нечага імі грэбаваць; пашукай там гарэлкі, вып'ем па чарцы».* Пачынаецца вясёлая бяседа, і, нарэшце, свахі дамаўляюцца, у які дзень *прыйсці ў сваты.* Да прызначанага дня ў доме жаніха або нявесты, гледзячы па таму, з чыйго боку бывае сватанне, знарок гатуюцца дзве невялікія чорныя булкі хлеба з добрай, так званай сітняй мукі, таму і булкі гэтыя называюцца *сітніцамі*, збіраецца бліжэйшая радня, дзве свахі, якія хадзілі *ў праведкі*, і *ідуць у сваты.* Прыйшоўшы ў дом, вітаюцца, кладуць на стол дзве сітніцы і па запрашэнню садзяцца. Гаспадары адразу ставяць на стол графін з гарэлкаю, другі графін з наліўкаю і яшчэ адзін графін з півам, калі ведаюць, што хто-небудзь з гасцей не п'е гарэлкі. Гатуюць і падаюць чай і якую-небудзь закуску. Размова хутка пераходзіць на тэму, якая ўсіх цікавіць. *«Мы свайму Якаву двор пастроілі. Што ж вы дадзіце сваёй Кацярыне Іванаўне?»* — пытае гаспадар або гаспадыня ў бацькоў нявесты або, калі іх няма, у яе бліжэйшых сваякоў. *«Сваё дзіцё не абідзім: што можам, то дадзім».*— *«А што ж дадзіце?»* — з нецярплівасцю пытае маці

жаніха.— *«Дадзім гарод, дадзім два маргі сенакоса і выправу* (плаццe, гардэроб) *харошую».— «А грошы?»*—пытае бацька жаніха.—*«На грошы выбачайце, й дзе іх узяць тыя грошы»*,— адказвае бацька, або маці, або радня нявесты.— *«Як жа без грошы на хазяйства садзіцца!»* — пярэчыць радня жаніха.— *«Ну, мыададзім за Кацярынай тры сотні, да вы, Пётр Паўлавіч, дайце вашаму Якаву тры сотні, во і будзе шэсцьсот рублей і будзе чым начынаць хазяйнічаць».— «Мне адзін двор, каторы я пастроіў Якаву, стоіць больша як дзве тысячы рублей, адкуль я яму вазьму яшчэ і грошы,— гэта ўжэ вы дайце Кацярыне Іванаўне, сколька трэба. Якава будзець двор, а яе грошы, во і ладна будзець!» — «Што тыя тры сотні! Цяпер, штоб купіць тавару, нада дзве тысячы, а не тры сотні»*,— дадае маці жаніха.

Кожны бок пачынае ацэньваць свой пасаг: радня жаніха — яго двор і, вядома, перабольшваюць яго кошт; радня нявесты ацэньвае яе пасаг — агарод, маргі, выправу,— і па іх падліку выходзіць, што кошт пасагу нявесты роўны кошту маёмасці жаніха, а калі дадаць яшчэ тры сотні грашыма, то і перавышае кошт двара, які даецца жаніху. Пачынаецца спрэчка, і паколькі ўсе пры гэтым п'юць гарэлку і наліўку, то спрэчка надта ажыўляецца. Асабліва моцна спрачаюцца прыхільнікі жаніха, патрабуючы прыбаўкі з боку нявесты: і агароду, і маргоў, і грошай — на той падставе, што *дзеўка не хлопец, і за дзеўкай трэба больша даць*. Перагаворы працягваюцца некалькі гадзін, часам усю ноч і вельмі рэдка заканчваюцца за адзін раз; часцей за ўсё бацькі жаніха гавораць: *«Гэта не такое дзела, штоб кончыць зараз; падумайце да прыбаўце, як мы вам кажам, і мы падумаем»*. Пасля гэтага госці развітваюцца і выходзяць. Здараецца, што на другі дзень сітніцы адсылаюць назад — гэта азначае, што сватанне не прынята. Але і прыняцце *сітніц* не заўсёды можа азначаць, што справа канчаткова ўладжана. Здараецца, што бацькі жаніха, якія прынялі сітніцы, атрымліваюць прапанову ад іншай нявесты або нават ад некалькіх, і тады яны вядуць перагаворы з іх сем'ямі. Той жа сям'і, ад якой ужо прынялі *сітніцы*, яны прапануюць прыбавіць *пасагі*. Калі ж гэта сям'я не згодзіцца, вяртаюць ёй *сітніцы*. Бацькі нявесты, каб не ўпусціць выгаднага жаніха, прыбаўляюць пасагу, колькі могуць, і тады бацькі жаніха згаджаюцца: *«Ну, напішыце прэдбрачную, няхай ужэ дзелу канец»*,— гаворыць бацька жаніха, звяртаючыся да бацькі нявесты. *«Ці вы маім словам не верыце?*— адказвае той.— *Што абяшчаў, то аддам»*. — *«Слова — вецер, а бумага — грунт*, — гаворыць бацька жаніха.— *Я і сам жаніўся, прэдбрачную пісалі, хачу, штоб і*

*сыну прэдбрачную напісалі».—«Калі вы ўжо так хочаце, я напішу»*,— адказвае бацька нявесты.

Прыносяць паперу, чарніла і пяро, і бацька нявесты, калі ён дастаткова пісьменны, або за яго хто-небудзь з прысутных піша на лісце паперы: «1881 год Генваря месяца двадцатого дня, я, нижеподписавшийся, могилевский мещанин Иван Максимов Звон, даю сию предбрачную запись дочери моей Катерине Ивановне в том, что при выходе оной в замужество за мещанина Якова Петровича Шестопала даю оной дочери моей в пасагу собственно мне принадлежащие: огород глеевой, на болоньи, граничащий с таковыми мещан — Каритки, Шпака, Снапка и Чижика; два морга сенокосные, береговые, лежащие за первой иструпой, против Буйнич, граничащие с таковыми мещан — Пагуляя, Кабылки, Безмена и Редьки; два морга боровые, за первым бродом, граничащие с таковыми мещан — Гляделки, Безбародаго, Ахремчика и Свистуна, каковыми оной дочери моей, Катерине Ивановне, владеть вечно, бесповоротно; и деньгами кладу на стол наречённому зятю моему, Якову Петровичу Шестопалу, при отъезде оного к венцу, восемьсот руб. сер., в чем собственноручно, при упрошенных свидетелях, подписуюсь». *Прэдбрачная* падпісана і ўручана бацьку жаніха. *«Во, цяпер ужо трэба настаяшча выпіць гарэлачкі»*,— гаворыць бацька жаніха. *«Да, пазавіце ж вы і нявесту!»* Адна са сваячак жаніха ідзе клікаць нявесту і праз колькі часу вяртаецца. *«Не йдзець!»* — гаворыць яна. Пасылаюць другі раз, і пасланая вяртаецца з тым жа адказам. Тады ўжо адпраўляецца маці нявесты і прыводзіць яе. *«Ну, чаго ж ты саромішся!»* — гаворыць маці нявесты, уводзячы яе ў пакой. *«Садзіцесь у нас, ды пагуляйце»*,— гаворыць маці жаніха, ласкаючы і ўсаджваючы каля сябе нявесту. *«Што ж, Кацярына Іванаўна, пойдзеце вы замуж за нашага Якава?»* — пытае бацька жаніха. *«Як бацюшка і матушка хочуць»*,— адказвае нявеста. *«А вы ж, Якаў Пятровіч, жалаеце ўзяць замуж нашу дачку?»* — пытае жаніха бацька нявесты. *«Як бацюшка і матушка хочуць»*,— адказвае жаніх. *«Якаў, можэць, і саўсем яшчэ не хочэць жаніцца»*,—гаворыць, смеючыся, адзін з яго сваякоў. *«Адчаго ж»*,— адказвае, усміхаючыся, Якаў. Маці жаніха налівае дзве чаркі наліўкі і падносіць нявесце і жаніху: *«Выпейце за здароўе адзін другога, дык і ладна будзець! Будзьце здаровы, Якаў Пятровіч!»* — звяртаецца нявеста да жаніха і п'е. *«Будзьце здаровы, Кацярына Іванаўна!»* — звяртаецца жаніх да нявесты і п'е. *«Цяпер і мы ўсе вып'ем за іх здароўе»*,— гаворыць бацька жаніха, і ўсе п'юць наліўку. Пасля гэтага прызначаецца дзень *заручын* і дзень вяселля.

Да прызначанага дня *заручын* у доме жаніха або ў доме нявесты, як аб гэтым дамовіліся будучыя сваякі, тайна робяцца патрэбныя прыгатаванні — *штобы людзі не часалі языкоў*. Падрыхтоўваюцца два сярэбраныя пярсцёнкі з даўно хаваных сярэбраных манет або залатыя — са старых, даўно схаваных галандскіх чырвонцаў. У прызначаны дзень запрашаюцца толькі бліжэйшыя сваякі. Калі ўсе збяруцца, моляцца перад абразамі, і бацька жаніха надзявае на рукі жаніху і нявесце заручальныя пярсцёнкі; затым адбываецца непрацяглае частаванне, і ўсе хутка разыходзяцца. каб не перашкаджаць сям'і займацца падрыхтоўкай да вяселля, якое звычайна на доўга не адкладваюць. У доме нявесты шыюць ёй бялізну і сукенку — для гэтага запрашаюцца ўжо і яе сяброўкі, калі яны майстрыхі шыць. Жаніх часам адзін, але найчасцей у суправаджэнні сваёй бліжэйшай сваячкі наведвае нявесту і прыносіць ёй гасцінцы: пернікі, арэхі і цукеркі. Сваячка суправаджае жаніха пры гэтых наведваннях як быццам для таго, каб ён не саромеўся, а па сутнасці для таго, каб назіраць, ці робіцца *пасага* па дагавору, ці з добрага матэрыялу і інш.

Напярэдадні вяселля ў доме нявесты наладжваецца вечар. так званы *дзевічы вечар*. Раніцаю ў гэты дзень збіраюцца да нявесты дзяўчаты і маладыя жанчыны і *катаюць каравай*, пры чым звычайна пяюць:

Наш каравай удайся харош!
У нашым каравai палтараста яец,
Ад дзевяці кароў масла,
З сямі крыніц вада,
З сямі палей пшаніца.

Каравайніцы з места,
Укралі трохі цеста,
Цеста ўкралі,
У карманы пахавалі,
Ім на біду прыйшло,
У карманах цеста падышло.

Калі садзяць каравай у печ, зноў пяюць:

Удайся, наш каравай!
Штоб нам із печы вынімаці,
Жалезнымі прутамі печ паламаці.

Калі каравай гатоў, то, вымаючы яго з печы, спяваюць:

Печка трасецца, трасецца,
Каравай з печкі просіцца:

Вынімайце мяне з печы,
Палажыце мяне ў жыці,
Штоб маладым харашо было жыці.

Выняты з печы каравай упрыгожваюць кветкамі і ставяць на стол пад абразамі, дзе ён і застаецца да трэцяга або чацвёртага дня вяселля — г. зн. да часу, калі будуць *дзяліць каравай.*

Між тым нявеста з адною з паднявесніц едзе запрашаць на вяселле жаніха, сваякоў і знаёмых; жаніх у сваю чаргу запрашае нявесту, сваіх сваякоў і знаёмых. У гэтым выпадку маладыя павінны абавязкова запрасіць усіх і самых далёкіх сваякоў з абодвух бакоў: інакш у тых будзе вялікая крыўда. Запрасіўшы гасцей, нявеста вяртаецца дадому, дзе яе чакаюць дзяўчаты, сваякі і знаёмыя, і танцуе з імі. Вечарам прыязджаюць да нявесты жаніх, яго родныя і знаёмыя; усе садзяцца за стол, і жаніх дае нявесце падарункі: пернікі, арэхі, цукеркі або плацце, хустку, панчохі, чаравікі; нявеста ў сваю чаргу даруе жаніху і паджанішніку па хустцы. Пасля гэтага пачынаецца частаванне і танцы; песень на дзявочым вечары не спяваюць.

На другі дзень, перад адпраўленнем да вянца, бацькі жаніха і нявесты, а калі іх няма, то пасаджоныя бацька і матка, благаслаўляюць маладых, кожнага ў яго доме, абразамі і адпраўляюць у царкву. Вянчанне бывае ў той царкве, у парафіі якой жыве жаніх. Пасля вянчання малады едзе ў свой дом, а маладая — у свой; дома іх сустракаюць на ганку бацькі або пасаджоныя бацька і маці і ўводзяць у пакой, дзе садзяць за стол, на першае месца, пакрытае разасланым кажухом — каб маладыя былі багатыя. Пасядзеўшы з хвіліну на кажуху, малады або маладая ўстае і бярэцца частаваць сваіх гасцей. Пачынаюцца танцы і песні. Танцуюць вальс, кадрыль, казачка і іншыя танцы. Іграюць звычайна нанятыя музыканты. Інструменты ў іх такія: дзве-тры скрыпкі, цымбалы, часам віяланчэль і кантрабас. Песні спяваюцца наступныя:

Заграбай, матка, жар, жар,
Будзець табе дачкі жаль, жаль,
Заграбай, матка, попел,
Мы тваю дачку ўхопім.

Я радзілася — там не была,
Куды мяне цёмная ноч завяла;
А не цёмная ноч — конь вараны,
А не конь вараны — Якаў малады.

Ай, белыя сватцы,
Да чым вы набяліліськ?

Ці на моры пену бралі,
Ці ў лебедзя пух пазычалі?
Ай, бальшая сваццця маўчыць,
А ў яе ў рукаве каравай тарчыць;
Большы сват паглядываець
Да слюнку паглатываець.

*Пагуляўшы* ў сябе дома, малады позна вечарам едзе па нявесту; з ім звычайна адпраўляецца чалавек шэсць, восем або дзесяць, у тым ліку сваты, сваццці і так званы *маршалак* — галоўны кіраўнік вясельнага банкету; астатнія госці жаніха астаюцца і працягваюць *гуляць*. Прыехаўшы ў дом нявесты, маршалак гаворыць яе бацьку:

Ах, ты сваценька дамавый!
Бяры кубачак залатый:
Калі любы госці — частуй,
А не любы — адпраўляй.

Бацька нявесты адказвае:

Любыя госці мёд, віно п'юць,
А нелюбыя — гарэлку,
Нелюбыя,— што прыехалі па дзеўку...

Як толькі жаніх адчыніць дзверы, усе дзяўчаты выходзяць; застаюцца адны замужнія жанчыны і мужчыны. Усе садзяцца за стол, пакідаючы першае месца для маладых. Малады бярэ за руку маладую і ідзе з ёю па-за крэсламі, за спінамі гасцей, да свайго месца. Пачынаецца частаванне. Калі падаецца апошняя страва — смажаніна з птушкі, малады ўстае, зноў бярэ за руку маладую і з ёй выходзіць з-за стала такім жа парадкам, як ішоў за стол, але толькі па другі яго бок. Бацькі нявесты аддаюць маршалку яе пасцель, насыпаюць нявесце ў рукаў сукенкі крыху жыта, і нявеста адпраўляецца ў дом жаніха. У гэты час сваццці пяюць:

Пацiху, сваты з дзядзіны,
Не растрасіце пярыны,
Не ўпусціце звярыны,
Ето нам звярына дарагая!
Усю мы ночаньку не спалі,
Покуль ету звярыну паймалі.

Прыехаўшы ў дом жаніха, нявеста пераступае праз ручнік, разасланы на парозе дома, і высыпае на гэты ручнік з рукава жыта. У доме жаніха нявеста, таксама як і сам жаніх, ужо не прымае ўдзелу ў банкеце; іх адводзяць у спальню, і банкет працягваецца без іх яшчэ некалькі часу.

На другі дзень усе госці, якія былі на вяселлі, пасылаюць маладым хлеб-соль: гуся ці пару курэй або некалькі купленых у булачнай белых булак хлеба і г. д. Маладыя даюць ім гасцінцы: крыху разынак, пернікаў, цукерак. Зноў збіраюцца госці. Маладых частуюць *салодкай водкай*, г. зн. прыпраўленай цукрам, разынкамі і інш. Зноў пачынаецца банкет і працягваецца яшчэ дзень або два. Затым на трэці або на чацвёрты дзень вяселля *дзеліцца каравай* і рассылаецца па невялікім кавалку родным і знаёмым, якія былі на вяселлі, і гэтым заканчваецца ўрачыстасць.

## ВЯСЕЛЛЕ Ў МІНСКАЙ ГУБЕРНІ

### Запісаў А. Н. Шыманоўскі

[...]Калі сыну споўніцца 18 год, бацькі ўжо думаюць аб тым, як яго ажаніць на добрай працавітай дзяўчыне і такім чынам атрымаць для сям'і дармавую работніцу. (У Беларусі большасць сялян жэніцца ва ўзросце ад 18 да 20 год.) Вясельныя абрады беларусаў Мінскай губерні шматлікія і разнастайныя. Выконваюцца яны ў такой паслядоўнасці.

### СВАТАННЕ

У наладжванні сямейнага жыцця маладога чалавека важную ролю адыгрывае бацька. Задумаўшы ажаніць сына, ён паведамляе аб сваім рашэнні спачатку жонцы і хроснаму бацьку сына. Разам яны пачынаюць перабіраць усіх дзяўчат у сваёй і суседніх вёсках. Выбраўшы тую ці іншую, бацька паведамляе аб сваім намеры толькі сыну, а некаторыя трымаюць сваю задуму ў сакрэце нават ад самога сына да той пары, пакуль ужо нельга будзе ўтойваць. Іншыя ж, больш перадавыя бацькі, запрашаюць на сямейную нараду і сына. Але на гэтай нарадзе кіруе бацька, за якім застаецца рашаючае слова ў выбары нявесты. Часам бывае, што сын-жаніх ніколі і не сустракаўся з той дзяўчынай, якую бацькі мецяць яму ў жонкі. Але часта і самі бацькі не бачылі будучай сваёй нявесткі, а ведаюць яе па водгуках іншых.

Калі бацькі выбралі тую ці іншую дзяўчыну, яны пачынаюць шукаць так званых сватоў, а не свах — як у Вялікай Расіі. За свата бяруць звычайна чалавека талковага, красамоўнага — у кожнай вёсцы заўсёды знойдзецца такіх два-тры чалавекі. Яны ў большасці сваёй з салдат, запаснікі. Як больш развітыя, яны

адразу зразумелі, што быць сватам і даходліва, і спакусліва: яго ж на працягу ўсяго вяселля частуюць, аказваюць пашану, усе яго просьбы стараюцца задаволіць, у хаце яму адведзены ганаровы кут, у спрэчках яму ўсе ўступаюць.

Выбраўшы сватоў, звычайна двух, бацькі паведамляюць ім аб сваім намеры і просяць схадзіць у дом пэўнага селяніна і высватаць для іх сына нявесту. Выпіўшы і закусіўшы ў доме жаніха, сваты звычайна пад вечар перад нядзеляю або святочным днём адпраўляюцца ў дом нявесты. З гэтага моманту пачынаецца ігра сватоў, якія з абрадаў і песень стварылі цэлы вясельны кодэкс і карыстаюцца ім на вяселлі, уключаючы ў яго розныя прамовы, выслоўі і г. д. Увайшоўшы ў двор, сваты падыходзяць да вакна нявесцінага дома і гавораць:

— *Добры вечар, добрыя людзі! Ці не пусціце нанач падарожных?*

Гаспадар дома адказвае:

— *Калі добры людзі, то просім вайці ў хату начаваць, ■ калі не, то ідзіце сабе!*

Сваты гавораць:

— *Мы добры людзі!*

— *Калі добры, то ідзіце ў хату.*

Тыя ўваходзяць у хату і садзяцца на лавах або на палку. Адзін са сватоў прыглядаецца, ці чыста ў хаце. Калі пад лаўкамі або за лаўкамі будзе заўважана нешта такое, што гаворыць аб неахайнасці дзяўчыны, то сваты, нічога не кажучы, выходзяць. Калі ж усё ў належным парадку, то больш гаваркі са сватоў звяртаецца да гаспадара з наступнымі словамі:

— *Ну што, сватка, трэба памяшаць жыта з пшаніцаю.*

Або:

— *Наша куніца ды забегла ў вашу пшаніцу. Трэба яе выгнаць да пшаніцу аглядзець.*

Такімі словамі сваты тлумачаць бацькам дзяўчыны мэту свайго прыходу. Калі галава сям'і загадзя быў папярэджаны аб сватанні або калі бацькі хлопца і дзяўчыны ўжо да гэтага вырашылі пытанне аб шлюбе іх дзяцей, то бацька нявесты насыпае жытам бутэльку, у якой сваты прынеслі гарэлку і ўжо спаражнілі за час размовы. Калі ж сваты прыязджаюць у дом нечакана, то на прапанову выдаць дачку замуж бацькі нявесты спачатку не згаджаюцца, асабліва пярэчыць маці дзяўчыны, даводзячы, што дачка іх яшчэ вельмі маладая, не ўмее працаваць або што *нязмога*, г. зн. што дачка адзіная іх памочніца, без якой ім цяжка будзе жыць і г. д. На гэта сваты са свайго боку адказваюць, што *дзеўка сама ў сабе*, г. зн. дзяўчына ўжо дарослая, і

ёй, нягледзячы ні на якія сямейныя абставіны, нельга заседжвацца дома, бо гады ідуць і трэба спяшацца аддаць яе замуж, а працаваць, калі не будзе лянівая, навучыцца — абы толькі здароўе. Пасля гэтага сваты зноў просяць бацькоў нявесты даць згоду на шлюб дачкі з іх хлопцам. Пры гэтым звяртаюцца з рознымі пытаннямі і да нявесты, хвалячы жаніха:

— *Ён хлопец добры, здаровы і прыгожы, знае ўсякае дзела рабіць і дзеўку-нявесту будзе любіць — будзем жа сватамі!..*

Бацькі ўсё роўна нібы не згаджаюцца, а сваты зноў хваляць жаніха. Затым бацькі нявесты, крыху падумаўшы, аб'яўляюць аб сваёй згодзе, нявеста — таксама. Пасля гэтага ўсе ў адзін голас гавораць:

— *Няхай бог благаславіць добрае дзела пачаць і кончыць.*

Нявеста за ўвесь час сватання толькі тое і робіць, што пераходзіць з месца на месца альбо калупае пальцам печ, выслухоўваючы ўсе ўгаворы сватоў, а калі бацькі дадуць сваю згоду на замужжа дачкі, яна паварочваецца тварам да сватоў, і тыя звяртаюцца да яе з наступнымі словамі:

— *Вот жа будзеш замужам за* (называюць імя жаніха), *будзе ўсё добра.*

Наогул бацькі нявесты стараюцца паказаць, быццам яны не жадаюць аддаваць дачку замуж — усё аднекваюцца. Гэта неабходна рабіць, на іх думку, для таго, каб потым іх нядобразычліўцы не смяяліся, што хутка згадзіліся аддаць дачку замуж.

Высватаўшы такім чынам нявесту, сваты пытаюцца ў бацькоў нявесты, ці пасылаць па *барыш*. Тыя адказваюць: «Пасылайце». Сват і бацька нявесты б'юць па руках, як звычайна робяць, калі прадаюць што-небудзь. Пасля гэтага сваты ідуць у карчму па барыш (гарэлку), а бацькі склікаюць да сябе суседзяў і сваякоў, рыхтуюць для гасцей закуску — сала, масла, тварог са смятанай, яечню, мёд і інш.

Прынёсшы прыкладна вядро гарэлкі з карчмы, сваты ставяць яго на стол, вымаюць з торбы хлеб і пачынаюць частаваць гарэлкаю бацьку, матку нявесты і ўсіх прысутных. Выпіўшы і закусіўшы, сваты (старшы і яго памочнік) і бацькі дамаўляюцца паміж сабою аб дні, калі павінны быць *запоіны* — другі акт вясельных абрадаў. Так заканчваецца першы акт вяселля — сватанне. Гэта частка вяселля шмат у чым нагадвае ранейшы шлюбны звычай куплі нявесты; як вядома, пасля ўсялякага гандлёвага пагаднення прадавец і пакупнік б'юць па руках і п'юць магарыч.

Калі сватанне па нейкай прычыне не адбылося, то той посуд з гарэлкай, якую выпілі сваты і бацькі нявесты, апошнія зноў напаўняюць гарэлкай, і сваты ідуць з ёю, не кажучы ні слова.

## ЗАПОІНЫ

Пасля сватання адбываецца асобны абрад запоін, на які ў хату нявесты, акрамя суседзяў, сяброў і радні, з'яўляюцца жаніх, бацька і маці жаніха, прычым жаніх прыносіць нявесце падарункі: піражкі, варэнікі з грэцкай мукі, абаранкі і інш. Усе гэтыя падарункі нявеста нясе ў асобную хату і раздае сваім сяброўкам — вясковым дзяўчатам, якія збіраюцца тут к гэтаму часу. Сама ж яна чамусьці гэтых вясковых ласункаў не есць. На гэту ўрачыстасць запрашаецца музыкант, які танцаў не іграе, а выводзіць на скрыпцы розныя трэлі. Жаніх у час гэтага абраду застаецца ў агульнай хаце, дзе старшы сват і яго памочнік частуюць прысутных гарэлкай за кошт жаніха. Прытым яны стараюцца, каб было выпіта яе як мага больш — гэта каб нявеста і яе бацькі не адмовілі жаніху, бо калі вяселле не адбудзецца па іх віне, яны абавязаны будуць вярнуць назад усе выдаткі жаніха. Нявесты ў час гэтага частавання ў агульнай хаце няма — яна з сяброўкамі ў асобнай хаце або ў клеці. Калі ўся кампанія ў хаце падгуляе, пачынаюць запрашаць і нявесту, якая павінна рабіць выгляд, што не хоча ісці. Сяброўкі вядуць яе сілком, нявеста плача. Нарэшце, яе прыводзяць у хату, і яна кланяецца да зямлі па чарзе бацьку, маці, старшаму свату і яго памочніку. Сват выказвае нявесце свае пажаданні і п'е за яе здароўе, другую чарку ён прапануе выпіць нявесце — тая адпівае крыху, і сват кладзе ў яе чарку некалькі сярэбраных манет (50—60 кап.), а нявеста гарэлку з манетамі вылівае з чаркі на край хустачкі, кланяецца свату і ўзамен дае яму, а таксама яго памочніку ручнік з чырвонай вышыўкай па краях (пад пояс) і выходзіць у другую хату або ў клець. Гэтым і заканчваецца абрад запоін. Сваты ж яшчэ астаюцца ў хаце бацькоў нявесты. Яны дамаўляюцца з імі наконт новага вясельнага абраду — *замовін* — і адпраўляюцца дамоў.

## ЗАМОВІНЫ

Калі вясельны дагавор паміж бацькамі жаніха і нявесты заключаны і замацаваны вялікаю выпіўкай, сваты даюць новы напрамак пачатай шлюбнай справе: пачынаюць клапаціцца аб замацаванні гэтага дагавору ў царкве. Абрад гэты, па ліку трэці, называецца *замовінамі* і складаецца з наступных падрабязнасцей. Прыкладна праз тыдзень пасля запоін сваты з'яўляюцца ў хату нявесты з квартаю гарэлкі, з трыма невялікімі хлябамі і адным кавалкам сала: адзін хлеб даюць бацьку нявесты, другі з кавалкам сала — нявесце, а трэці нясуць свяшчэнніку, якому аб-

яўляюць аб намеры такога і такога маладога чалавека жаніцца з такой і такой дзяўчынай. Свяшчэннік глядзіць па метрычных кнігах, ці дасягнулі жаніх і нявеста паўналецця, а таксама дазнаецца, ці няма паміж жадаючымі ўступіць у шлюб сваяцкай блізкасці. Калі няма ніякіх перашкод да шлюбу, ён робіць у царкве абвяшчэнне аб іх шлюбе і вызначае дзень, калі жаніх і нявеста павінны з'явіцца да яго на іспыты — наколькі ведаюць яны малітвы. Калі гэтыя іспыты маладыя вытрымаюць здавальняюча, то прызначаецца дзень шлюбу, які заўсёды адбываецца пасля літургіі ў нядзелю або на свята, толькі не ў будні.

У кожнай мясцовасці ёсць свая ўлюбёная пара для шлюбу: у адных мясцовасцях амаль тры чвэрці ўсіх шлюбаў бывае пасля вялікадня, у іншых — пасля Пятра і Паўла — 29 чэрвеня (у 1876 г. у адным мястэчку на Пятра і Паўла было абвенчана 12 пар); у іншых мясцовасцях больш шлюбаў бывае ўвосень або зімою. Ад свяшчэнніка сваты вяртаюцца ў дом нявесты, дзе ўжо застаюць жаніха і яго бацькоў і аб'яўляюць аб выніку візіту да бацюшкі. Цяпер ужо аб шлюбе ведае ўся вёска, і скасаванне яго робіцца немагчымым.

Адбываецца абмен падарункамі паміж сям'ёй жаніха і сям'ёй нявесты. Бацькі жаніха прывозяць нявесце новыя чобаты, варэнікі з грэцкай мукі, свініну, абаранкі і інш., а бацьку нявесты — вядро гарэлкі як бы «плату» за нявесту. Нявеста ж са свайго боку дае будучаму свёкру і братам жаніха па кавалку палатна *на штаны* або па шарсцяному поясу; будучай свякрусе дарue *намётку* — доўгі кавалак выбеленага палатна з чырвонай вышыўкаю па краях на галаўны ўбор, сёстрам жаніха — таксама кавалак палатна на рукавы з вышыўкай на верхнім баку; сватам, акрамя *ручнікоў*, атрыманых імі раней, яшчэ па кавалку палатна на штаны. Пры раздачы падарункаў выказваюцца ўсялякія пажаданні. Калі кончаць дарыць, гасцям прапануецца пачастунак — яда і гарэлка. Тут якраз і размаўляюць пра шлюб, які мае адбыцца. Прымушаюць піць і нявесту. Сват пры гэтым кідае ў чарку сярэбраныя манеты, што на мове сялян азначае *перапіваць нявесту*. Дзеля такой вось усеагульнай агалоскі аб будучым шлюбе і адбываецца абрад замовін.

З гэтага часу пачынаецца падрыхтоўка да *вяселля:* робяць вялікі запас гарэлкі рублёў на 40—50, хлеба, сала, масла, вяндліны, каўбасы і інш. Затым пачынаюць выбіраць дружкоў (асістэнтаў), галоўнага кіраўніка вясельных абрадаў, так званага маршала або *князя*, які, не выходзячы са сваёй галоўнай ролі — кіраўніка-свата, весяліць гасцей уласнымі дасціпнымі жартамі, прымаўкамі, наладжвае забавы.

## КАРАВАЙНЫ АБРАД

Напярэдадні вяселля вечарам і ў доме жаніха, і ў доме нявесты ў прысутнасці вялікай колькасці сваякоў і знаёмых адбываецца вялікая ўрачыстасць са строгім захаваннем усялякіх абрадаў, а менавіта пячэнне караваяў (нешта накшталт тартоў). Усе госці шчодра частуюцца. Для пячэння караваяў запрашаюцца тры жанчыны — сваякі або добрыя суседкі і столькі ж мужчын. Усе яны збіраюцца ў асобнай хаце, дзе ёсць печ. Жанчыны пачынаюць рыхтаваць цеста для караваяў, а мужчыны садзяцца на ўслон і ўвесь час сочаць толькі за працаю жанчын. Адна жанчына пачынае сеяць праз сіта муку, другая сыпле яе ў *дзяжу*, дзе разводзяць цеста, трэцяя, самая старэйшая па ўзросту або хросная маці, размешвае муку ў дзяжы. Зрабіўшы рошчыну, яны закрываюць дзяжу і чакаюць, калі цеста падыдзе, і спяваюць наступныя песні.

У час падрыхтоўкі каравая:

А на небе месячык узыходзіць,
А ў дзяжы каравай падходзіць,
А да гары вечачка падымае,
Ён сабе малодак прызывае:
— А ўстаньце, малодкі, не сядзіце,
Памыйце рукі бяленька,
Замясіце каравай харашэнька.

Замешваючы цеста на каравай:

На чыім то полі
Жыта густа ўрадзіла,
Густое, каласістае,
У адзін бок пахінулася
Да на каравай знадабілася?
На бацюшкавым полі
Густа жыта ўрадзілася,
Густое, каласістае,
У адзін бок пахінулася
Да на каравай знадабілася.
А ніхто не ўгадае,
Што ў нашым каравлі:
А сямі крыніц вада,
А сямі пшаніц мука,
А сямі кароў масла —
Дай, божа, маладым шчасце!

А на небе месячык узыйшоў,
Да ў дзяжы каравай падышоў,
Да гары вечачка падымае,
Ён к сабе каравайніц прызывае:

— Ка мне, малодкі маладыя!
Да памыйце ручкі бяленька,
Гібніце (мясіце) каравай харашэнька,
Каб наш каравай красен быў,
Каб наш Іванка весел быў;
Каб ён весел быў, як вясна,
Каб ён багат быў, як зямля,
Каб ён здароў быў, як вада!
А няма весялей над вясну,
А няма багацей над зямлю,
А няма здаравей над ваду.

У прамежку паміж спяваннем каравайніцы самі п'юць і ядуць і частуюць мужчын, якія ўсю ноч сядзяць з імі ў адной хаце. Калі цеста для каравая падыдзе, тады каравайніцы пачынаюць яго мясіць. Замясіўшы, пачынаюць паліць у печы і пасылаюць каго-небудзь на вёску клікаць на каравай. Пасланец падыходзіць пад акно кожнай хаты і кліча так:

— *Прасіў бацька, маці і я прашу на каравай!*

Жадаючыя ідуць у хату жаніха або нявесты і нясуць з сабою што-небудзь на падарунак: мужчыны — кавалак хлеба, а жанчыны — гарнец круп або мукі, або кавалак сала і інш.

Калі настане час саджаць каравай у печ, музыкант (скрыпач) іграе матыў на наступныя словы:

Благаславі, ацец, маці,
Каго бог прыгадзіў у хаце,
Каравай у печ саджаці!

Жанчыны-каравайніцы, стоячы над дзяжой, гавораць:

Благаславі, ацец, маці,
Каго год прыгадзіў у хаце,
Маладому (маладой) каравай у печ сажаці!

Мужчыны, якія ўвесь час былі каля каравайніц, калі тыя расчынялі каравай і якія сядзяць цяпер у кутку пад абразамі (*на покуці*), адказваюць:

Бог благаславіць,
А ацец і маць вяліць.

Пасля гэтага пачынаюць саджаць каравай у печ. Саджаюць чатыры жанчыны: адна трымае лапату і пасыпае яе мукой, другая вымае з дзяжы цеста, трэцяя робіць пры гэтым на хлебе розныя ўпрыгожанні, а чацвёртая саджае каравай у печ. Гэты абрад не абыходзіцца без песень. Але перад тым як пець, жанчыны кажуць:

— *Папытаем* (імя жаніха або нявесты) *і Іванавага* (або *Мар'інага*) *бацюхны, ці пазволяць нам песенькі спяваці!*

Бацька жаніха або нявесты адгукваецца:

— *Я дзіця гадаваў, госпада бога прасіў, каб мае суседачкі песенькі ўспявалі.*

Жанчыны спяваюць такія песні:

Даўно печка зіяе,
А прыпячак рагоча,
Печ каравая хоча.
А вы, малодкі, знайце,
На каравай паспяшайце.
Гаварыла памяло, гаварыла,
Пры парозе стоячы:
— Ужэ мне эта вяселле дадзено,
Жаркія печы мятучы,
Частыя караваі пякучы.

Ляцелі галачкі з-пад гаю
Да пыталі караваю:
— Ці ўжэ каравай пасаджалі,
Чаму нас, галачак, не звалі:
Мы б сваімі лапкамі напісалі
Да шчасце і долю наслалі.

Стаяла святлічанька
На вуліцу абалонкамі (вокнамі),
А ў той святлічаньцы
Скрыпкі да дудкі іграюць,
Малодачкі каравай саджаюць
Ручкамі бяленькімі,
Персніямі залаценькімі.

А збірайся, родзе, збірайся
К беленькаму караваю
Да к Іванькаваму пасаду!
Цераз поле сцежачка,
Цераз мора кладачка,
Тудою ішла прачыстая
Да пыталася сяла,
Да Амяльянава (імя бацькі жаніха) двара:
— Кажуць, ён да сына жэніць —
Я к яму да парадніца,
Старшая каравайніца.

Скончыўшы песні, жанчына, якая саджала каравай, б'е гэтай лапатай усіх мужчын па галаве і выносіць лапату з хаты ў сенцы;

астатнія тры каравайніцы падкідаюць уверх тры разы перад печчу дзяжу і гавораць:

— Хоць скачы, дзяжа, не скачы,
Твой каравай ужэ ў пячы.

У час спеваў музыкант іграе на скрыпцы. Пасля песень і абрадаў, звязаных з саджаннем каравая ў печ, гаспадыня дому (маці жаніха ці нявесты) запрашае каравайніц за стол, частуе іх гарэлкаю, скваркамі і інш. Калі, па разліку каравайніц, каравай ужо павінен быць гатовы, яны падыходзяць да печы і спяваюць:

Яшчэ, каравайку, яшчэ!
Каравайчык кліча,
Засланкі адбівае
Да каравайніц гукае:
— Ой, дзе ж нашы каравайніцы —
Ці на мяду запіліся,
Што на мяне забыліся.

Пасля гэтага вымаюць каравай з печы: дзве пярэднія булачкі кладуць на века ад дзяжы — гэта жаніховы, а астатнія восем штук вымаюць і нясуць *у клець*. Вымаючы каравай з печы, спяваюць песню:

Да бярыце меч,
Да рубіце печ:
Каравай з печы не лезе.
Ці ён багат,
Ці ён рагат? —
Нельга к яму прыстаці.
Прыстане бог з бажанятамі
І з малымі князянятамі —
Ен іграе па печы.
— Як жа мне не іграці,
Што на мяне часта пазіраюць,
А сырым маслам паліваюць.

Калі нясуць каравай у клець, то спяваюць:

Пытае каравайка перапечы:
— Ці далёка сцежка да клеці?
Ці зеллем, быллем зарасла?
Ці пшаніцаю залягла?

Вазьмімо яго, панясімо,
Палажымо яго ў ямцы.
Нашай Настачцы не кажыце:
Наша Настачка сярдзіта
І выкіне каравай із жыта.

А нясіце каравай, нясіце
Да ў жытнічку палажыце.
Наш Іванка сярдзіты
Да выкіне каравай із жыта.

Ніхто не ўгадае,
Што ў нашым караваю:
Сямі рэчак вадзіца,
Сямігодняя пшаніца.

Задумец ты, каравай, задумец!
Хто ж цябе, каравай, задумаў?
Задумаў цябе Іванка,
У роўным полі аручы,
Да жыта, пшаніцу сеючы.
Радзі ж, божа, жыта і пшаніцу,
Да будзе Іванка жаніцца.

Прынёсшы каравай у клець, жанчыны, трымаючы яго ў руках, звяртаюцца да гаспадара (бацькі жаніха або нявесты) з наступнаю песняю:

Гдзе падзяваўся гаспадар,
Няхай выкупіць каравай,
Няхай вязе бочку мядочку, а віна дзве
Да выкупіць каравайку увесь сабе.

Пасля гэтага гаспадар дае каравайніцам па чарцы або дзве гарэлкі і ўсе вяртаюцца з клеці ў хату, дзе пачынаюць танцаваць пад музыку скрыпача.

Гэтым заканчваецца абрад падрыхтоўкі каравая — дзесяці хлябоў — асобна ў доме жаніха і асобна ў доме нявесты, і пачынаецца новы вясельны абрад — *заручыны* жаніха ў яго доме і заручыны нявесты ў яе доме.

## ЗАРУЧЫНЫ ЖАНІХА

Заручынамі называецца абрад благаславення маладых перад вянчаннем. Заручынам заўсёды папярэднічае абед — частаванне сватоў, каравайніц, блізкіх сваякоў і запрошаных для ўдзелу ў вясельных абрадах. Жаніх перад вянчаннем нічога не есць. У час абеду ён ідзе ў клець, апранае самае лепшае адзенне, затым клапоціцца, каб быў падрыхтаваны воз для вясельнага поезда, пачышчаны і пакормлены коні. Калі наступае момант благаславення, аднаму з удзельнікаў *бяседы*, знаўцу вясельных абрадаў і звычаяў, якога называюць звычайна *дружок, маршал* або *князь*, бацька жаніха дае хустку, дзве свечкі, *баклагу* (драўляная круг-

лая пасудзіна з двума днамі, дыяметрам 4—5 вяршкоў; адлегласць паміж першым і другім дном не больш 4—5 вяршкоў, зверху адтуліна з драўляным коркам) з гарэлкай, дзевяць невялікіх хлябоў (*паляніц*) і два каравайныя хлябы. Узяўшы ўсё гэта, дружок дае адзін канец хусткі жаніху, а другі трымае сам, запальвае дзве свечкі, абводзіць жаніха тры разы па лавах за спінамі бяседы, якая сядзіць, і вядзе яго на *пасад* (блаславенне) — спачатку да бацькі і маці, потым да старэйшых у родзе і, нарэшце, да ўсіх прысутных і пытае ва ўсіх блаславення наступнымі словамі: «*Ацец, маці, добрыя людзі — старыя і маладыя, благаславіце дзіця на пасад!*»

Усе адзінагалосна адказваюць: «*Бог благаславіць!*»

Жаніх жа, па падказцы дружка, кланяецца да зямлі спачатку абразам, потым бацьку, матцы і ўсім прысутным. Гэтым заканчваюцца заручыны жаніха і пачынаецца абрад ад'езду жаніха да нявесты. Дружок выводзіць жаніха з хаты на двор і ставіць перад тым акном, дзе абразы; за жаніхом урачыста, у поўным парадку выходзіць уся бяседа і становіцца паўкругам, канцы якога павінны быць звернуты да дзвярэй хаты. У сярэдзіне гэтага паўкруга ставяць стол, на які кладуць хлеб-соль і ставяць гарэлку. Дружок увесь час стаіць каля жаніха з запаленымі свечкамі і сочыць, каб свечкі не патухлі, бо гэта нядобрая прыкмета. Калі ўся бяседа размесціцца ў патрэбным парадку на двары, з агульнай кампаніі выходзяць тры мужчыны — бацька жаніха, памочнік дружка (*падружый*) і сусед па доме. Усе трое падыходзяць да стала, бяруць у рукі па бутэльцы гарэлкі і па чарцы і пачынаюць частаваць кожнага з удзельнікаў бяседы так, што на кожнага госця прыпадае па тры чаркі гарэлкі. Пакуль адбываецца гэта частаванне, прыходзіць маці жаніха, кладзе каравай у спецыяльную сумку — *вярэньку* (зроблена з бяросты), выварочвае кажух і тры разы абходзіць вакол бяседы (удзельнікаў абеду), якая стаіць паўкругам, потым абсейвае яе жытам. Пасля ўсяго гэтага бацька, трымаючы пад пахай хлеб, выводзіць за аброць каня з падворка. На воз садзіцца спачатку жаніх, потым, побач з ім, сястра жаніха з елкаю, якую яму падарылі вясковыя дзяўчаты, сюды ж кладуць і жаніхоў каравай. На іншыя вазы садзяцца дружкі і сваякі. Калі ўсе ўсядуцца, бацька хрысціцца і бласлаўляе жаніха хлебам [. . .]

Госці спяваюць наступныя песні:

Не кованы коні ў возе,
Е у мяне кавалі ў дарозе,
Е ў маёй дзевачкі пярсцёнкі,
Будуць маім конікам падкоўкі.

Е ў маёй дзевачкі стужачкі,
Будуць маім конікам вожачкі.
Е ў маёй дзевачкі пацеркі,
Будуць маім коням наберткі.[1]
Е ў маёй дзевачкі каралі,
Будуць маім конікам ухналі.[2]
Іванка па сенях пахадзіў,
Свайго бацюшку папрасіў:
— Устань, бацюшка, даўно спіш;
Надаб'е больша ўсіх!
Наймайце музыкі — разакі,[3]
Садзіце сватове — гардове,
Каб мы, гдзе сталі — зайгралі,
Каб мы, гдзе селі — запелі.
Там чужая старана,
Каб нам не дайці сарама,
Вывесці Настачку з церама,
З новага, ад яе бацюшкі роднага [...]

Як кончаць спяваць, жаніх з гасцямі выязджае да нявесты, прычым коней гоняць на ўсю моц. Калі нявеста жыве ў іншай вёсцы, то каля варот вёскі або аколіцы хлопцы спыняюць поезд жаніха, патрабуючы выкупу нявесты, што дружкі і выконваюць, даючы ім бутэльку гарэлкі, хлеб і інш. Каля варот дома нявесты поезд жаніха зноў спыняюць і не адчыняюць варот да таго часу, пакуль не атрымаюць выкупу. Гэта адбываецца так: адзін з хлопцаў выходзіць насустрач вяселлю і бярэ за аброць каня жаніхо-вага воза і спыняе яго, патрабуючы *падарожнай*. *«Пакажыце падарожны ліст!»*— гаворыць ён.

Старшы дружок дастае невялікую булку хлеба і падае хлопцам — вартавым ля варот. Адзін з іх бярэ хлеб, пераварочвае яго сподам уверх і быццам чытае наступнае: *«Едзе такі і такі* (імя жаніха) *па шляху-дарозе і павінен мець тут папаску* (называе вёску і дом нявесты) *не больш як на тры гадзіны»*. Пасля гэтага хлопец-вартавы патрабуе чарніла — распісацца на падарожнай. Дружок замест чарніла дае бутэльку гарэлкі. Узяўшы хлеб і гарэлку, хлопцы-вартавыя адчыняюць вароты, і ўвесь поезд жаніха ўязджае ў нявесцін двор. А свахі спяваюць наступныя песні.

Жаніху:

Да ў гордай цешчы стаіць зяць за варотамі,
За усякімі да прыгодамі,
Да не зяць — мяцель мяце,
Да не зяць — дробен дождж ідзе.
Крыйся, зяцю, крыйся

[1] Шлеі.
[2] Цвікі.
[3] Такія, што моцна, энергічна граюць.

Акунамі[4] да бабрамі,
На двор каня вярні,
К сабе дзевачку бяры.

Нявесце:

Хадзіла Настачка па полю
І сеяла чорны мак з прыпола.
— Расці, божа, чорны мак — розны цвет,
Чаму майго жанішка ка мне нет?
Напісала б лісты — не ўмею,
Паслала б паслы — не смею,
Пашла б я сама — баюся:
Вяліка дарога — стамлюся,
А на той дарозе — бяроза,
Каля тае бярозы — старожа,
Тая мяне старожа спаймае
Да па русай касе спазнае.
А касіца мая русая!
А не дзень я цябе часала,
Увесь дзень хадзіла чэшучы,
А ў сені ўвэшла плетучы,
За сталом села плачучы.

Сваты ж пры ўездзе жаніха ў двор нявесты акружаюць воз і спяваюць:

Падлятаюць сакалы
Пад зялёныя сады.
Выклікаюць зязюлю яны:
— Зязюля ты сівенька,
Ляці з намі, сакаламі!
— Ой, рада б я паляцець,
Жаль садоў да пакінуць,
Садзікаў да зялёненькіх,
Вішаняк да чырвоненькіх.
Пад'язджаюць сватове
Да пад новыя сені,
Уклікаюць Настачку:
— Настачка маладзенькая,
Сядзь з намі, сватамі!
— Рада б я паехаці,
Жаль маткі пакінуці,
Матачкі старэнькае,
Сястрыцы маленькае.

(Калі ссаджваюць жаніха з воза, падносяць дзяжу.)

Цешча ходарам ходзіць,
Пад поясам ночвы носіць,
Мука яе да не сеяна,
Дзяжа яе да не мешана,
Хлеб не саджаны,
Зяць яе не ссаджаны.

---

[4] Куніцамі.

А ці ясен месячык на зары,
А ці весел хлопчык на kaнi!
Да весел ён лепш за ўсіх,
Да скланіў галоўку ніжэй усіх.

А сватове, панове,
Цераз бор да ехалі,
Чаму хвашчу да не нарвалі,
Маладога да не абшаравалі?
— Ваш малады, як пень гарэлы,
А наша маладая, як сыр, белая.
Ваш малады, як галавешка,
Наша маладая, як сыраежка.
А сватове, панове,
На што вы да прыехалі:
Ці на гарох, ці на сачавіцу,
Ці на дзеўку, ці на маладзіцу?
— Наш гарох не малочаны,
Наша сачавіца ў копах стаіць,
Наша Хоўрачка ў касах сядзіць.

Стой, зяць, за варотамі,
Стой, зяць, за цясовымі!
На цябе мяцель да мяце
І дробны дождж ідзе.

## ЗАРУЧЫНЫ НЯВЕСТЫ

У чаканні прыезду жаніха ўся хата нявесты прыбрана ~~па-святочнаму, г. зн. усё вычышчана, вымыта, выбелена і прыведзена да ладу.~~ Каля абразоў стаіць стол, накрыты белым абрусам, на лаве, ~~на ганаровым месцы~~ (на покуці) сядзяць старшыя сваякі і ганаровыя госці ~~нявесціных бацькоў~~. У другім жа памяшканні ў гэты самы час адбываецца абрад адзявання нявесты дружкамі. Пры гэтым яны спяваюць наступныя песні:

А чырвоная роза
Блізка плоту стаяла
Да расою прыпала.
Там Хоўрачка да росу брала,
Расою ўмывалася
Да да шлюбу выбіралася,
Вой, да шлюбу, да шлюбу,
Да да божага суду.
Там жа мне ручкі завяжуць,
Вернае слаўцо скажуць.

Слаўнае сяло (назва сяла),
Што ў яго не ўвайці, не ўехаць,

Ні пташачкаю ўляцець.
Да ў том сяле (назва сяла) цэркаўка,
А на цэркаўкі крыжычак,
А на крыжычку макаўка,
Да звіла гняздзечка ластаўка.
Да ў том гняздзечку
Знесла дзве яечкі,
Вывела двое дзетак:
Першае дзіця — Іванка,
А другое дзіця — Настачка.

— Мой бацюхна родный,
Чым табе я надакучыла?
— Да дзіця ж маё раднoe,
Надакучылі ж ба мне
Добрыя людзі:
Парогі абіваючы,
З маей хаты не ўбываючы.

Закончыўшы абрад адзявання нявесты да вянца, яе вядуць у хату, саджаюць насупраць печы, каля акна, і сяброўкі шчыльным колам акружаюць яе. На ёй самае лепшае ўбранне, на шыі шмат упрыгожанняў, галава ўбрана рознакаляровымі стужкамі ў выглядзе вянка, у руках яна трымае васковую свечку. Бацька і маці як гаспадары бегаюць сюды і туды, каб к прыезду жаніха ўсё было, як трэба. Настрой ва ўсіх прысутных самы сур'ёзны, урачысты, асабліва ў нявесты — віноўніцы ўсёй урачыстасці.

Вось у двор нявесты ўязджае поезд жаніха. З хаты яго ніхто не выходзіць сустракаць. З поезда жаніха аддзяляецца дружок і падружый, якія ўваходзяць у хату, вітаюцца спачатку з бацькам і маткаю нявесты, потым з самою нявестаю і, нарэшце, з усімі прысутнымі. Пасля гэтага яны пачынаюць частаваць усіх гарэлкаю ў такой паслядоўнасці — бацьку, матку, нявесту — ёй кладуць у чарку сярэбраную манету і бяруць ад яе васковую свечку дамашняга гатунку,— далей частуюць старэйшых і, нарэшце, дружак нявесты. Пасля частавання пачынаецца хвалюючы абрад блаславення. Дружок, галоўны кіраўнік вяселля, запальвае дзве свечкі, якія атрымаў ад бацькі жаніха і ад нявесты, абыходзіць вакол стала і гаворыць:

— *Благаславі, ацец і маці, каго бог угадзіў у хаце, маладых свечы залучаці.*

Нявеста падыходзіць да ўсіх (жаніх жа ўсё яшчэ застаецца на дварэ), нізка кланяецца спачатку бацьку, а потым маці, затым іншым па старшынству, абдымае, цалуе і заліваецца пры гэтым горкімі слязьмі. Усе адказваюць:

— *Бог благаславіць.*

У іншых месцах на пасад вядзе старэйшы брат нявесты або дзядзька такім чынам.

Калі жаніх прыязджае ў двор нявесты, пасярод сянец ставяць посуд з жытам. Старэйшы брат або дзядзька водзіць вакол гэтага посуду нявесту, б'ючы пугаю па зямлі і прыгаворваючы:

— *Ацец, маці, добрыя людзі, старыя і маладыя, благаславіце дзіця на пасад завесці.*

Яму адказваюць трохкратна:

— *Бог благаславіць.*

Свахі пасля гэтага пачынаюць спяваць:

Ляцелі гусачкі цераз сад
Да клікнулі Настачку на пасад.
— Што ж вам, гусачкі, да таго?
Е ў мяне матачка да таго:
Пасцеле каўры — я і пайду,
Благаславіць матачка — я і сяду.

Сірацее:

Зборная субота настала,
Настачка дружыну сабрала:
— Пастаньце, баяры, усе ў рад,
Будзе ісці Настачка на пасад,
Да нізенька галоўку клонячы,
Да сваёй матачкі ішчачы.
Увесь радочак перайшла,
Сваёй матачкі не найшла.
А галоўка мая у квеце,
Няма маёй матачкі на свеце.
А галовачка мая у вяночку,
Няма маёй матачкі у радочку.

Ці я табе, бацечка, не к душы,
Што ты мяне аддаеш не ўзросшы?
Ці я табе пасцелькі не слала,
Ці я бацюшкам не звала,
Я ж цябе бацюшкам звала,
Я ж табе пасцельку слала.

Брат сястру на пасад вядзе,
Яна яму да ног падзе.
— Ці я табе, братачка, дадзела?
— Мая сястрыца, мая радная,
Ты мне не дадзела,
А дадзелі твае частыя госці,
Што суботы, што нядзелі
Да цябе, маладое, ходзячы,
Цябе, маладой, просячы.

Пасля заканчэння ўсіх гэтых песень дружок падыходзіць да дружкі нявесты, якая стаіць з краю і выводзіць яе з хаты на двор, за ёю цугам выходзяць усе астатнія дружкі, а самай апошняй — нявеста. Усе яны далучаюцца на двары да паўкруга мужчын, гасцей, у якім жаніх займае крайняе месца. Дружок ставіць паўкруг дружак так, каб нявеста спыніўся з правага боку ад жаніха. Усе бяруцца за рукі.

Услед за дружкамі выходзіць з хаты бацька нявесты, вітаецца з жаніхом, сватамі і дружкамі (цалуецца), потым выходзіць маці нявесты, падпяразвае жаніха поясам, падтыкае пад пояс рушнік, вышыты чырвонымі ніткамі. Жаніх у адказ на гэта нізка кланяецца ў ногі будучай цешчы. У гэты самы час з хаты выносяць стол, накрыты белым абрусам. Потым абносяць тры разы вакол стала каравай жаніха і каравай нявесты з трыма свечкамі, пасля чаго караваі кладуць на стол. Далей бацька бярэ бутэльку з гарэлкаю і частуе спачатку жаніха, потым дачку — нявесту і, нарэшце, усіх прысутных, а за ім ідуць яшчэ двое — дружок і падружый — і таксама частуюць. Пасля частавання дружок уводзіць адзін за адным усю бяседу зноў у хату нявесты. Усе госці садзяцца за стол на ганаровых месцах, каля абразоў, а жаніх з нявестаю садзяцца за другім сталом — у баку, пад палацямі, на разасланым кажуху. Калі ўсе займуць свае месцы, старшая дружка, г. зн. тая, якая ідзе з нявестаю ў царкву, здымае з жаніха шапку, прышывае да яе стужку, надзявае на сваю галаву і спявае:

Пагляндзі, Іванка, на мяне,—
Я лепей за цябе!
Не шапка на мне — кабачок,
Да гатуй, Іванка, шастачок.[5]
Мы ж твайго шастачка не бяром,
Да цябе Настачцы не дадзім.

Дружок жа ўзлазіць на лаву з запаленымі свечкамі і з пугаю ў руцэ. Ён прапануе старшай дружцы за шапку жаніха выкуп — 20 капеек, якія ўваткнуты ў хлеб. Але дружкі не бяруць іх і патрабуюць больш наступнымі словамі:

Да не ляскай, дружко, канчуком,
Да лясні, дружко, галавою
Перад нашаю маладою:
Наша сцяна касцяная,
Дружку голаву расцяла.

Дружок усё яшчэ стаіць на лаве з запаленымі свечкамі і пастуквае пугаю. Дружкі настойваюць на большым выкупе за шап-

[5] Шэсць кап.

ну, пагражаючы ў адваротным выпадку не пусціць дружка абходзіць са свечкамі вакол маладых. Нарэшце, дружок дае такі выкуп, які просяць, частуе ўсіх дружак гарэлкаю, заканчвае свой абход маладых, пасля чаго тушыць свечкі, бярэ нявесту за рукі і выводзіць яе ў другі раз на двор. За ёю адзін за адным выходзяць жаніх і ўсе дружкі. Тыя, хто выйшаў у двор, разыходзяцца да наступнага вясельнага абраду. Дружок жа вяртаецца ў хату, дзе астатніх гасцей частуюць абедам. Жаніх жа і нявеста да вянчання нічога не ядуць. Яны збіраюцца да ад'езду ў царкву. У гэты час спяваюць песні:

Вой, попе, попе,
Бацька наш!
Адчыні цэркаўку процiў нас!
Вой, едзьце, едзьце — адчыню,
Вой, станьце, станьце — звянчаю,
Залатыя пярсцёнкі замяняю.
А не дарам жа я вас звянчаю —
За грошы,
Што ваш кавалер харошы.

Вой, попе, попе, гардзею!
Не звані раненька ў нядзелю,
Зазвані раненька ў суботу,
Загадай дзевачкам работу.
А вазьміце вы, дзевачкі, венічкі
Да мяціце вулачку да канца:
Будзе ехаць Настачка з дружкамі,
Да мяціце вулачку дзеркачом,
Будзе ехаць Настачка з Іванкам-панічом.

З дубу, зязюля, з дубу,
Час табе, Іванка, да шлюбу;
А з дубу зязюля не ахвоча,
Да шлюбу Настачка не хоча.
А з дубу зязюля паляцела,
Да шлюбу Настачка захацела.

Да на сінім моры
Да бабрэ да купаліся;
Да на новым ганачку
Два стральцэ да змаўляліся:
— Вой, хадзем, братка, хадзем,
Да й хадзем бабра біці —
Настачцы да на шубачку,
Іванку да на шапачку.
Настачка за стол ідзе,
Шапачку ў руках нясе,

Сваіх дружак просіць:
— Дзевачкі мае, сястрычкі,
Памаленьку ідзіце,
Шубачкі да не памніце,
Вона не тут спраўлёная,
Спраўлёна у цара ў горадзе
Прыслана ка мне, маладзе,
Каб не сцерці, не змяці
Да і назад адаслаці.

## ВЯНЧАННЕ У ЦАРКВЕ

Маладыя едуць у царкву, а ўсе госці з боку жаніха і нявесты застаюцца ў доме нявесты, п'юць, ядуць і танцуюць пад музыку адзінага скрыпача. Жаніх і нявеста едуць на асобных вазах. Нявесту пры гэтым суправаджаюць дружка — яе сястра — і цётка, а жаніха — дружок; атрымліваецца па два чалавекі з кожнай рукі. Калі вяселле праязджае каля млына, то мельнік спыняе ваду. Нявеста дорыць яму пояс, пасля чаго ён зноў пускае ваду, а вяселле едзе далей.

Вянчанне адбываецца звычайна пасля літургіі ў нядзелю і святочныя дні. Шафер перад аналоем рассцілае кавалак палатна, жаніх становіцца з правага боку, а нявеста з левага. Пад ногі маладым кладуць па адной капейцы. Пасля заканчэння абраду вянчання жаніх цалуе сваю нявесту. Потым яны падыходзяць да абразоў і цалуюць іх. Затым нявеста выкідвае праз парог нагамі з царквы той кавалак палатна, на якім стаялі ў час вянчання — каб дзяўчаты хутка выходзілі замуж. У час вянчання ўся ўвага звернута на свечкі. Калі яны гараць ярка — добрая прыкмета, калі ж свечка тухне — не мінаваць бяды.

Вяртаюцца з-пад вянца маладыя ўжо разам. Іх сустракае маці з хлебам, соллю і гарэлкай. Маладыя бяруць хлеб, цалуюць яго, выпіваюць крыху гарэлкі з чаркі і ўваходзяць у хату. А дзяўчаты спяваюць наступныя песні:

Да падзякуймо богу
І бацюшку маладому,
Што ён нашых маладых звянчаў,
Звянчаў жа ён і без гроша,
Што наша пара хароша.

Каля новага двара
То не пчолачка гула,
Там Настачка плакала,
З шлюбу да прыехаўшы,
Мамачцы да да ног паўшы:
— Мамачка мая родненька,

Развянчай мяне маладую,
Развяжы мае ручанькі,
Размяняй пярсцёначкі.
— Дачушка мая маладая,
Не штука да штуку даці,
Цябе маладую развянчаці,
Пярсцёнкі размяняці.

Пасля прыезду маладых з-пад вянца пачынаецца банкет. Усе жанатыя госці запрашаюцца бацькамі нявесты да абедзеннага стала, а маладыя і ўвесь вясельны поезд запрашаюцца дзяўчатамі — сяброўкамі маладой у асобную хату, дзе сабраліся выключна адны вясковыя дзяўчаты і дзе загадзя ўсё падрыхтавана да прыёму маладых. Усе п'юць, ядуць і танцуюць пад музыку скрыпача да самага вечара. Частуюць у гэтай хаце дзяўчаты за свой кошт. Тут дружкі спяваюць:

Да схілілася вярба
З верху да кораня:
Вянчалася Настачка
І з райку да вечара.
Яна роду да вялікага,
Бацюшкі да багатага,
Матачкі да работніцы,
Братачкі да разумнага,
Сястрыцы да хупавой.[6]

Зажыгай, матка, свечкі
Да ідзі на сустрэчкі.
Адно дзіця да ражонае,
А другое да сужонае.
Ражонае гадаваць будзеш,
Сужонае пасылаць будзеш.
Матка свечкі зжала,
Да трайное зелле клала,
Да ружовыя кветкі,
Штоб любіліся дзеткі.

У пачатку вечара вясельныя забавы пераносяцца ў трэцяе месца — у хату, суседнюю з той, дзе дзяўчаты частуюць маладых і вясельны поезд. Сюды суседзі прыносяць з сабою гарэлку, хлеб, сала, варыва. Гаспадар гэтай хаты бярэ пад паху невялікі хлеб і выпраўляецца ў хату бацькоў нявесты, дзе пасля прыезду маладых асталіся банкетаваць толькі жанатыя, і запрашае гасцей зайсці да яго ў хату — *перазывае*, як гавораць, на полудзень (*падвячорак*). Тут гасцей частуюць усім, чым могуць, і свахі спяваюць песні:

[6] Стараннай.

Просяць нашай галоўкі
Да нашай дамоўкі;
Тут нам добра было,
А там — лепшае.
Наш ячменік ясны,
Перазыўчык прakрасны!
Умеў нас перазваці,
Дак умей частаваці.

Пасля ж прапанаванага ім пачастунку свахі спяваюць:

Харошая гаспадынька —
Харашэнька зварыла:
І з перцам і не з перцам,
Да з шчыранькім сэрцам.
Гдзе тая пашла,
Што нам есці нясла?
На ёй світка шоўкам шыта,
Сабалямі абложана
Да на яе ўзложана.

У час, калі ў пярэзванай хаце госці нявесціных бацькоў частуюцца на падвячорку, у дзявочай хаце маладыя з хлопцамі і дзяўчатамі працягваюць весяліцца. Нарэшце, і тыя і іншыя вяртаюцца назад у хату нявесціных бацькоў. Вяртанне маладых пры гэтым суправаджаецца наступным абрадам. Дружок у дзявочай хаце запальвае свечкі, падыходзіць да жаніха і нявесты, прапануе правую руку жаніху, а левую — нявесце і вядзе іх у дом бацькоў нявесты. Прышоўшы ў двор, дружок пакідае там жаніха, а нявесту ўводзіць у хату. Жаніх застаецца на дварэ, пакуль не скончыцца абрад *завівання чапца*.

## ЗАВІВАННЕ ЧАПЦА

Абрад пачынаецца тым, што дружок звяртаецца да маці, каб яна дала свечкі. Маці прыносіць яму тры свечкі — дзве жаніховы і адну нявесціну (аб іх згадвалася раней). Ён запальвае іх. Потым дружок звяртаецца да дзяўчат з наступным запрашэннем: «*Давайце, дзеўкі, маладую завіваць!*» І працягвае:

Благаславі, ацец, маці,
Каго прыгадзіў у хаце,
Маладую завіваці.

Прысутныя на вясельным банкеце адказваюць у адзін голас:

Бог благаславіць,
Ацец і маці вяліць.

Пасля гэтага маладую садзяць за стол на кажуху. Сваячка або сястра нявесты становіцца на лаву, падыходзіць да нявесты і здымае з яе галаўны падвянечны ўбор, г. зн. вянок. Меншы брат падыходзіць да маладой і гаворыць:

Благаславі, ацец і маці,
Каго бог прыгадзіў у хаце,
Маладой касу расплятаці.

І пачынае расплятаць нявесце касу. За гэта яму даюць 5 кап. Свахі ж, калі брат расплятае нявесце касу, пачынаюць спяваць:

Настачка маладзенькая,
Шатайся, мятайся,
Завівацца не давайся,
Штыр тую завівальніцу,
Да няхай яна не квапіцца
На русыя косы,
На дзявочыя слёзы.

Затым спевакі просяць маладую згадзіцца на завіванне. і калі яна дасць сваю згоду, дык спяваюць:

Завівальная Настачка
Завіціся хоча:
Ручак не ўзнімае,
Чэпчыка не скідае.
Слала, слала
Настачка белы лён,
Адсылала дружачак
Ад сябе вон:
— Ідзіце, дружачкі, ад мяне,
Сядзь жа, мой жанішок, каля мяне.
Як сядзелі дружачкі,
Так цесна было,
Як сеў жанішок,
Так уцешна было.

У час спявання гэтай песні завівальніца, стоячы каля нявесты, складвае накрыж пасмы яе валасоў і гаворыць:

Благаславі, ацец, маці,
Каго прыгадзіў у хаце,
Маладую завіваці.

Ей адказваюць:

Бог благаславіць,
Ацец і маць вяліць.

І завівальніца (сваячка або сястра) бярэ дзве наміткі (два кавалкі вузкага і доўгага тонкага палатна) і тры запаленыя свечкі,

абносіць усё гэта вакол галавы нявесты і падпальвае свечкай яе валасы. Далей яна кладзе на галаву нявесты крыху льну, надзявае ёй чэпчык і абвязвае галаву наміткай. Пры гэтым, калі намітка вельмі доўгая, то завівальніца лішняе адрывае і аддае нявесце, а паверху наміткі прышывае вянок. Стужку ад яго перадае мацеры нявесты. Пасля заканчэння гэтага абраду дружок вымае з кішэні 10 кап. і дае іх завівальніцы, а тая аддае нявесце. Потым завівальніца спявае:

Завівальніца скажа,
Чаго яна хоча.
Хоча яна паўзалатога[7]
Ад князя маладога.

Дружок (князь) вымае з кішэні паўзалатога і дае завівальніцы, а таксама падносіць ёй чарку гарэлкі. Гэтым заканчваецца абрад завівання чапца, і толькі цяпер дружок уводзіць у хату жаніха, да якога свахі звяртаюцца з наступнай песняю:

— Паглядзі, Іванка,
Што мы табе завілі:
Да ці бабу старую,
Да ці падманку якую?
— Не бабачку старую,
Не падманку якую,
Да Настачку маладую.

Да стаяла завівальнічка пры сцяне,
Да на ёй намётачка не яе.
Да прышла ж суседка пад акенца.
— Да аддай намётачку, маё сэрца.
— Бадай жа ты, суседачка, не даждала,
Каб ты ад мяне намётачку адабрала.

Пасля гэтага жаніх і нявеста ўстаюць са сваіх месц і ідуць — нявеста паперадзе, а жаніх за ёю,— кланяючыся ўсім па старшынству да зямлі. А свахі спяваюць:

Карыся, Настачка, карыся,
Да бацюшку да ног кланяйся.
Бацькава ножачка бяленька,
Будзе твая доля шчасліввенька.
Коскамі даставай,
Слёзкамі ножкі аблівай.

Пасля гэтага дружок бярэ нявесту за руку і вядзе яе ў клець. За нявестаю ідуць жаніх і многія мужчыны і жанчыны. Брат-

[7] Злот — 15 кап.

нявесты, бачачы, што маладыя з гасцямі ідуць у клець, садзіцца на кубел (невысокая бочка, якая замяняе куфар для ўбрання), у якім адзенне, пасаг нявесты, і патрабуе выкупу гэтага кубла. Дружок дае брату маладой некальні капеек. Пасля гэтага забіраюць з клеці кубел з пасагам, пасцель маладой і ўкладваюць усё на воз жаніха, а маладыя вяртаюцца зноў у хату і садзяцца.

## АД'ЕЗД НЯВЕСТЫ Ў ДОМ ЖАНІХА

Калі кубел паставяць на возе і калі свахі вынесуць са свірна нявесцін каравай і пакладуць яго на стол, пачынаюць спяваць:

Ой, родзе, родзе багаты,
Ой, дарыце статак рагаты:
Ой, вы, братове,—
Па карове,
А вы, сястрыцы,—
Па цяліцы;
Блізкія суседзі —
Чым змога.

Ляцелі гусачкі із раю
Да пыталіся ў малодак караваю:
— Ці ўжо каравай згібалі,
Чаму нас, гусачак, не ждалі?
Мы б за мора па краскі злятаАі,
Мы б з вамі каравай прыбралі.

Пры гэтым каравай дзеляць на кавалачкі, а сват па чарзе выклікае прысутных, каб яны дарылі маладым, хто што можа — для заснавання новай гаспадаркі. Спачатку выклікае бацьку і маці нявесты, затым іншых — па ступені блізкасці, сваяцтва. Госці або свахі спяваюць [...] Даруюць — хто грошы, хто карову, хто цялё, хто калоду з пчоламі, гусей, свінней і інш. Могуць падарыць таксама кавалак палатна, дамашні посуд. Некаторыя пры людзях абяцаюць падарыць тое ці іншае, але часта і абмяжоўваюцца абяцаннем, а таму свахі спяваюць:

Ой, дарыце, дарыце,
Да не маніце.
Хто дарыць да маніць,
Няхай тое воўк задавіць.

Да і дарыце, дарыце,
Хаця ж вы да не маніце.
А здарылі, здарылі
Трыццаць коп да чатыры.

Ехалі ў дарогу
Настачцы на спамогу,
Хоць варанымі канямі,
Хоць палавыміваламі.
Вараныя кане да на повады,
Палавыя валэ ёй да чарады,
Кароўкі-дроўкі ёй да чарады,
Шэрыя гусачкі, гіле да вады.

Падзяліўшы каравай і сабраўшы падарункі, жаніх, нявеста, дружкі і музыкант зноў ідуць у асобнае памяшканне, дзе ім прапануюць пачастунак — яду, піццё (нешта накшталт піва, мёду), а астатніх гасцей у агульным памяшканні частуюць бацька і маці нявесты. Нарэшце, наступае хвалюючае развітанне ў хаце з бацькамі, роднымі і наогул са сваім родным гняздом. Гэта развітанне не абыходзіцца без слёз з боку бацькоў і нявесты і суправаджаецца рознымі абрадамі: так, сват дае нявесце ў руку канец хусткі і тройчы абводзіць яе вакол стала, пры гэтым яна тройчы кланяецца абразам і цалуе іх у знак развітання з імі. Затым бацька і маці бяруць па невялікаму хлебу, становяцца каля парога і падымаюць гэтыя хлябы вышэй дзвярэй так, каб узнятымі рукамі з хлебам утварыць фігуру ў выглядзе трохкутніка. Сват выводзіць нявесту з бацькоўскай хаты на двор да воза. За нявестай, якая трымае ў руцэ канец сватавай хусткі, ідзе жаніх і ўсе прысутныя і спыняюцца таксама каля воза. На воз кладуць жаніхоў каравай, які дала яму маці перад ад'ездам да нявесты і які складаецца з аднаго вялікага хлеба і дзевяці меншых, а таксама дзесяць хлябоў ад нявесцінай маці. Калі ўсё ўкладзена, нявеста і жаніх залазяць на воз, але не садзяцца, а стаяць. Свахі ім спяваюць:

Усядай, Настачка, на вазы,
Пакідай матчыны нравы.
— А дзякуй, матачка,
За хлеб, за соль,
Не пайду цяпер за твой стол.

Да чоран кубел, чоран,
Знаць ён не повен,
Абмыйма бяленька
Да накладзем паўненька.
Укінулі радно на дно,
Да і то пазычанае.

Маладыя і пасля спявання працягваюць стаяць на возе. Маці нявесты надзяе вывернуты кажух (вывернуты кажух — сімвал багацця; у вяселлі ён — своеасаблівае пажаданне маладым быць

багатымі) і тры разы абягае воз маладых, а за ёю бяжыць з пугай сват, імкнучыся яе ўдарыць, але ў яго гэта ніяк не атрымліваецца, што выклікае агульны рогат. Разам з тым тут шмат і перажыванняў. Затым маці бярэ жменю аўса і дае яго коням, запрэжаным у воз маладых. Пасля заканчэння ўсіх гэтых абрадаў сват гаворыць:

Добрыя людзі,
Старыя і малады,
Благаславіце маладых
У дарогу адпраўляць!

Усе адказваюць: «*Бог благаславіць*».

Наступае самы хвалюючы момант — дачка пакідае бацькоўскую хату, каб стварыць сваю сям'ю. Маладыя садзяцца побач, з імі дружок і музыкант. За першым возам едзе другі, на якім — сваты, свахі і *закасянне*, г. зн. жанчыны, якія расплятаалі касу і завівалі нявесту ў намітку. Усе яны — суседзі нявесціных бацькоў, па просьбе бацькі нявесты яны едуць у дом жаніха — каб нявесце там не было сумна. Калі вясельнікі выязджаюць з двара, ля варот іх сустракаюць хлапчукі, якія тут жа раскладваюць агонь з саломы. Праз гэты агонь маладыя і госці павінны пераехаць. А свахі спяваюць:

Дадому, сватове, дадому!
Начаваць вам, сватове, у дуброве.
Яловая шышачка да на падушку,
Кляновы лісточак да напрануцца.[8]
Не знай, не ведай — трэба хінуцца.

Ой, родзе, родзе,
Да не выракайся!
Хоць цераз людзі,
Да перапытайся,
Што субота — да пераведайся,
Што нядзеля —
Да перапытайся.

Калі вясельны поезд кранаецца з месца, спяваюць:

Ой, заржы, заржы,
Сівы конь,
Няхай зачуе
Свекар мой.
А няхай ён
Мяне ўстрачае,
А зялёным вінком

[8] Тут: накрыцца.

Вітае,
А зялёным вінам —
За дварам,
А любімым госцікам —
За сталом.

Калі вяселле выязджае за вароты, спяваюць:

Да гракала вутачка на рэчцы,
Да плакала матачка па дачцы:
Вышла за вароты — сляды знаць.
— Куды маё дзіцянятка павёз зяць?
А ў бару коні заржалі.
— Куды ж маё дзіцянятка памчалі?
— А дзякуй, матачка, за дачушку
Да гатуй [illegible] восені цялушку.

Калі маладыя прыедуць да варот жаніховай хаты, нявеста кідае направа ад воза свой пояс, а налева сыпле жменю жыта. Кінуты пояс хапае хлопчык ці дзяўчынка — гэта падарунак ад маладой. Прысутныя тут суседзі спяваюць:

Адчыні, матачка, аконца,
Прывезлі табе нявесту, як сонца.
Адчыняй, бацька, новы двор,
Прывезлі табе нявесту, як сокал.
Адчыняй, матка, варота,
Вязуць табе нявесту, як золата.

Вароты адчыняюць, і вяселле заязджае ў двор. Выносяць хлебную дзяжу. Засцілаюць яе кажухом. Маці і свахі спыняюцца каля воза з бутэлькаю гарэлкі і бутэлькаю вады і частуюць прыезджых. Спачатку даюць чарку вады жаніху — ён вылівае яе за плечы. Так ён робіць тры разы. Пасля гэтага яму падаюць чарку гарэлкі, якую ён выпівае. Такі самы пачастунак прапануюць і нявесце. Яе частуюць гэтак жа, як і жаніха. Затым жаніхова маці дае маладой у руку канец хусткі. Маладая саскоквае з воза: спачатку на дзяжу, потым на зямлю. Госці-суседкі спяваюць у гэты час наступную песню:

Чые то конікі,
Што з дарожкі прышлі,
Блізка ганачку сталі,
А на ножкі упалі?
Здаецца, яны памаленьку ішлі —
Так яны цяжка вязлі.
Вязлі яны скрыні да пярыны
Маладой княгіні.

Затым маладыя ўваходзяць у хату. Маладая пераломлівае нетрывалы запасны пярсцёнак і кідае яго ў печ, потым абгортвае палатном хлеб і кладзе на стол каля печы, акрамя таго, кідае па кутах хаты зерне жыта і пакрывае абразы *рушнікамі*, вышытымі па краях. Калі ўся гэта цырымонія заканчваецца, маладых садзяць за стол, а свёкар бярэ невялікі хлеб, вырэзвае ўсю мякаць, намазвае яе мёдам і дае пакаштаваць па чарзе маладым—робіць гэта да трох разоў. У гэты час спяваюць:

Дайце маладым мёду —
Яны добрага роду;
Дайце маладым сыра,
Штоб да году радзілі сына.
А гдзе быў салавей,
А гдзе была зязюля?
А зляцеліся яны ў адзін садочак,
Елі яны ягадкі з адной маліны.
А гдзе была Настачка,
А гдзе быў Іванка?
А з'ехаліся на адно падвор'е,
На адно селі застолле.
Пілі яны мёд, віно
З аднаго кілішка,
Елі яны патраву
З аднаго палуміска.

Затым бацькі жаніха адводзяць маладых, дружак, сватоў і музыканта ў асобнае памяшканне і там частуюць. Іншых жа гасцей, якія прывезлі кубел, саджаюць за стол у агульнай хаце і частуюць святочнай вячэрай. Усе п'юць, ядуць, размаўляюць, а пасля вячэры дружок запальвае свечку і гаворыць:

Благаславі, ацец, маці,
Каго прыгадзіў у хаце,
Маладым аддыхаці.

Прысутныя адказваюць:

Бог благаславіць,
Ацец і маць вяліць.

Пасля гэтага дружок бярэ жаніха за руку і вядзе ў клець. За жаніхом ланцугом ідуць нявеста, сваты і родныя. Маладыя застаюцца ў клеці адпачываць, а ўсе астатнія выходзяць назад і спяваюць:

Гарэлкі, сваты, гарэлкі!
А было ў нас не брацъ дзеўкі,
А цяпер вы нам гадзіце,

Вёдрамі гарэлку нясіце.
Хоць вы пчолачкі замарыце,
Дзеля нас гарэлкі насыціце.

Пакаціўся персцень па стале,
Уцешыўся братка на куце.
А не за сваею сумою,
За сястрыною касою.

Маладыя адпачываюць, а госці яшчэ некалькі часу весяляцца, танцуюць і, нарэшце, разыходзяцца спаць.

Малады спіць распрануўшыся, а нявеста ва ўсім вясельным адзенні: на ёй світа або кажух, *андарак* (род спадніцы са шчыльнай каляровай дамашняй суконнай матэрыі), боты, завівала, канцы якога — за пазухай, там жа — кавалкі караваяў, жаніховага і таго, што дала ёй завівальніца ў бацькавай хаце перад ад'ездам да жаніха. Маладая раніцай стараецца ўстаць як мага раней, каб яе не засталі ў пасцелі, бо гэта лічыцца ганебным і непрыстойным. Жаніх жа ляжыць да прыходу ў клець гасцей і бацькоў. Калі яны ідуць (будзіць, або, як гавораць у народзе, *паднімаць маладых*), нявеста стараецца сесці на свой кубел, з якога яна злазіць, калі ўжо ўсе ўвойдуць у клець. Малады падымаецца з пасцелі, адзяецца, тут жа пры ўсіх мыецца вадою, якою змочвалі каравай, калі садзілі яго ў печ. Робіць гэта ён такім чынам: усаджвае ў ваду руку і мые сабе твар — так тры разы. Гэтак жа мыецца і нявеста. Ваду ад каравая падносяць жаніху і нявесце сваячкі жаніха. Прысутныя ў клеці таксама мыюцца гэтай вадою. Затым усе тут жа частуюцца гарэлкай. Свахі дазнаюцца, цнатлівая была нявеста ці не. Калі яна прыйшла ў дом мужа цнатлівою дзяўчынаю, ёй выказваецца асаблівая пашана і ўвага і ад бацькоў мужа, і ад самога мужа, і ад усяго вяселля наогул. Свахі бяруць сарочку маладой, насыпаюць у яе крыху жыта, кладуць туды сярэбраную манету, завязваюць чырвонаю стужкаю і ўсё гэта перадаюць маладому, а ён адсылае гэту сарочку мацеры маладой — як узнагароду за захаванне цнатлівасці і чысціні дачкі. Калі ж маладая саграшыла да замужжа, хоць бы нават з тым, за каго выйшла замуж, тады яе, наадварот, чакае шмат непрыемнасцей, змяняюцца некаторыя дэталі самога вяселля; мацеры маладой, напрыклад, нічога не перасылаюць, а ёй самой надзяваюць на шыю хамут.

Закончыўшы абрад мыцця, маладыя ідуць з клеці ў хату. Тут іх саджаюць пад паліцу з посудам — у кутку, насупраць печы. Садзяцца яны побач. Сястра нявесты накрывае іх галовы чыстым белым палатном, якое дае нявеста. Калі накрываюць

маладых, то жанчыны адразу ж акружаюць іх шчыльнаю сцяною. Яны прыўздымаюць канец пакрывала з боку нявесты, развіваюць у яе завівала і надзяваюць *намётку*, але так хутка, каб ніхто з мужчын не ўбачыў адкрытай галавы нявесты (бачыць адкрытую галаву замужняй жанчыны лічыцца непрыстойным). Калі маладой надзенуць намітку, то да яе падыходзіць бацька маладога, здымае пакрывала з галавы маладых, але не голымі рукамі, а невялікім хлебам. Завівала, знятае з маладой жанчыны, аддаюць яе мацеры, і тая старанна захоўвае яго для завівання іншых дочак калі тыя будуць выходзіць замуж.

Затым малады і жонка ў намітцы ўстаюць са сваіх месц і ідуць да калодзежа па ваду разам з жадаючымі. Апошнія спяваюць:

Шла малада па ваду,
На цясовы камень уступіла,
Цясовыя вядзёрачкі пабіла;
Адкуль узяліся бандары —
Цясовыя вядзёркі набілі,
Шаўковыя почапачкі навілі.
Да прыехалі два браткі з гуляння
Да папрасілі ў сястры снядання.
— Мае браткі, я яшчэ сама не дбала,
Сама сабе снедання не прахала.
Да пайду я па святлічаньке пахаджу,
Сваім браткам сняданейка папрашу.

У некаторых мясцовасцях да калодзежа ідуць з трыма запаленымі свечкамі толькі дружок і маладыя. Спачатку ў калодзеж укідваюць невялікі хлеб, які нявеста ловіць вядром: чэрпае першы раз так, каб у вядро не трапіў хлеб, і выцягвае вядро вады, якую вылівае ў карыта або часам і на людзей, што стаяць паблізу, потым выцягвае яшчэ вядро вады і таксама без хлеба; нарэшце, выцягвае трэці раз вядро, але ўжо абавязкова з хлебам; ёй гэта заўсёды ўдаецца, таму што ў Беларусі наогул вада ў калодзежах вельмі блізка. Хлеб гэты адзін з прысутных нясе ў хату. А вядро з вадою нясуць у хату маладыя ўдваіх, ставяць на стол, і ўсе госці мыюцца ёю. Ваду ў чарпаку, а таксама і ручнік падаюць гасцям маладыя, а ім у знак удзячнасці кожны дае манету (ад 1 да 5 капеек). Гасцям заўсёды пасля гэтага прапануюць снеданне ў агульнай хаце, а маладым асобна ў іншым памяшканні. Пасля снедання маладая вымятае хату, але смецце з хаты не выносіць, пакуль не скончыцца вяселле.

Пасля снедання танцуюць, потым палуднуюць, а ў прамежку паміж гэтым зноў танцуюць, жартуюць і г. д. Неўзабаве пасля полудня прыходзяць пасланцы ад маці маладой. Іх называюць *прыдане*. Яны становяцца на дварэ ў рад і спяваюць:

Прыслала нас маці
Да дзіцяці пашукаці;
Не кужалю прасці,
Не пачынкаў віці,
Да гарэлачку піці —
Гарэлачку салодзеньку
За Настачку малодзеньку.
Знайці Настачку, знайці,
Да ў каторай хаці?
На дварэ агні гарань,
На варотах стражы стаяць.

Потым прыдане ідуць у хату і садзяцца за стол.

На наступны дзень пасля ад'езду дачкі бацькі збіраюцца ў госці да свайго зяця і прывозяць яму прысланую «сарочку цнатлівасці». Зяць і яго бацькі частуюць бацьку цнатлівай нявесты салодкаю гарэлкаю, салодкаю кашаю і рознай закускай. Матку ж нецнатлівай нявесты частуюць не вельмі шчодра і нічога салодкага не даюць. Свахі часам нават пакепліваюць з гэтага ў песні:

Пад елкаю спала,
Не дзеўкаю ўстала;
Шышка з елі спала,
Дзеўку сапсавала.

Цнатлівай нявесце спяваюць:

У лесе каліна дадолу звісла,
А наша Настачка дзеўкаю вышла:
А на той вуліцы дзяцюкоў не было,
А былі дзяцюкі, да ўсе блізнота,
А гулялі немцы —
Да не смелі к дзеўцы.

## ДЗЯЛЬБА ЖАНІХОВАГА КАРАВАЯ

Калі пасланцы маці нявесты і ўсе жаніховы госці, а таксама самі маладыя рассядуцца за сталом, сват і сваха ідуць у клець і прыносяць адтуль жаніхоў каравай, кладуць яго перад маладымі на стол і гавораць:

Добрыя людзі, старыя і маладыя,
Благаславіце каравай маладога
На стол паставіць!

Усе ў адзін голас адказваюць:

Бог благаславіць!

Сват дзеліць каравай на кавалачкі і раздае ўсім у хаце. Дружок (дружый) і падружый бяруць па кілішку каравая, бутэльку з гарэлкай і па чарзе звяртаюцца да ўсіх з такімі словамі:

— *Абсылае сват дамавы і сваха, каб ты ласкаў (ласкава) быў, нашу пачостку прыняў і нам харошае слоўца сказаў.*

Той, да каго звяртаецца дружок, адказвае:

— *Дарую шчасце і долю, і век доўгі, і розум добры!*

І даруе маладым што-небудзь са свайго скарбу: карову, авечку, свінню, курэй, 10—20 яечак, кавалак палатна або грошы. Дружок пры гэтым падносіць яму чарку гарэлкі «за змову, за справу», каб не падмануў, стрымаў свае слова. Гэтым самым падарунак нібы замацоўваецца за маладымі. Маладыя, стоячы каля абяцальніка, кланяюцца яму нізка ў пояс. У час, калі дружок абходзіць гасцей, прыдане спяваюць:

Ой, родзе, родзе багаты,
Да дарыце дзецюка, чым можна:
Хоць кароўкамі і дроўкамі,
Хоць палавымі валамі,
Хоць варанымі канямі.
Вы, цёценькі,— падцёлкі,
А вы, братове,— па карове,
А вы, дзядзюхны,— ульямі,
Да не нішчымнымі — з пчаламі;
А цётухны, спагадайце
Да па намётцы дайце.

Пасля абраду дарэння прыдане спяваюць:

Да елі прыдане, елі,
Да цэлага барана з'елі.
На стале да ні костачкі,
І пад сталом да ні крошачкі.

Пасля вячэры, калі ўсе госці пачнуць збірацца дадому, прыдане спяваюць:

Да часала Настачка белы лён,
Праганяла прыданей з-за стала вон:
— Да ці вы, прыдане, бяздомкі,
Да чаму не ідзеце дамоўкі.
А калі будзеце начаваць,
Дак будзеце салому купаваць:
Саломкі жменька — капейка,
А сена пучок — шастачок.

Потым прыдане зноў спяваюць перад ад'ездам:

Стаіць конік на стаенцы,
Ножкаю — туп,
Да аставайся, родная сястрыца,

Адна тут.
Стаіць конік на стаенцы,
Рагоча,
Братка з сястрыцаю
Расстацца не хоча.
Завол (лепш) ба, мае браткі,
Было не знацца —
Як мне з вамі расстацца.

Калі прыдане ад'язджаюць дадому, сват праводзіць іх за вароты і частуе гарэлкаю. З ад'ездам прыданяў спыняюцца танцы, і гэтым заканчваецца вяселле. Госці разыходзяцца, застаюцца толькі свае. Разам з бацькам маладога яны адпраўляюцца ў карчму. Бацька маладога бярэ з сабою ў мяшку чвэрць жыта або пшаніцы, кавалак хлеба і 10 яечак. Па дарозе ў карчму спяваюць:

Паступайцеся, варагі,
Нясуць к ландару пірагі,
Сырам, маслам мазаны,
Дарагім падаркам звязаны.

Ой, гдзе ж нам падзецца,
Як вяселле мінецца?
Татку з маткаю пасадзім
І вяселле нарадзім.

З карчмы, дзе ўсе яшчэ раз частуюцца гарэлкаю, госці ідуць дадому, да бацькі маладога, пасля разыходзяцца па сваіх хатах.

Праз два-тры тыдні жаніх з маладою і сваякамі, але дарослымі, едуць у госці да бацькоў маладой, якія склікаюць сваіх сваякоў, добрых знаёмых, разам з якімі ўшаноўваюць гасцей.

Заўвагі: 1. Калі ў маладога няма сваёй гаспадаркі і ён ідзе на гаспадарку да сваёй жонкі (у «прымы»), то вяселле гуляюць толькі ў нявесты, і то сціпла.

2. Калі ўдавец жэніцца на ўдаве ці халасты — на ўдаве, то вяселля зусім не бывае: пасля вянца маладыя са сваякамі вып'юць, закусяць і разыходзяцца.

3. Калі ўдавец жэніцца на дзяўчыне, то вяселле адбываецца па ўсіх правілах, толькі не пякуць каравая.

# БЕЛАРУСКАЕ ВЯСЕЛЛЕ І ВЯСЕЛЬНЫЯ ПЕСНІ

## ЭТНАГРАФІЧНЫ ЭЦЮД

### Запісаў М. М. Доўнар-Запольскі

### I

К гарным дзеўкам хлопцы
Любяць прыгарнуцца,
Кала чарнабровых,
Як саколы, ўюцца.

(З аднаго ненадрукаванага верша)

У замовах і абрадах беларусаў, як і ў песнях, якіх сабрана вельмі многа, захаваліся водгукі даўно мінулага язычаства, а таксама тых няшчасцяў, што выцерпеў беларускі народ у сваім гістарычным жыцці.

Пераходзячы ўласна да абрадаў і песень беларускага вяселля, трэба заўважыць, што само вяселле і песні — бліскучае адлюстраванне абрадавага і паэтычнага боку жыцця беларусаў. Гэтыя абрады, якія складваліся на працягу стагоддзяў,— багаты матэрыял для чыста навуковай этнаграфіі, які трэба доўга і ўсебакова вывучаць, а перш за ўсё — збіраць і зберагаць. Такім нявывучаным, сырым матэрыялам мы і думаем падзяліцца з чытачом.

У сялянскім жыцці шлюб адбываецца даволі рана: хлопец жэніцца гадоў каля 20, а дзяўчына (*дзеўка*) выходзіць замуж каля 18 гадоў. Да такога ранняга шлюбу падштурхоўвае само сялянскае жыццё: дзяўчына або хлапец уваходзіць у сям'ю як работнік, а павелічэнне колькасці рабочых рук мае не малое значэнне ў сялянскай сям'і. Таму жаніцьбы сына бацькі чакаюць з нецярплівасцю, і вяселле адбываецца пры першым зручным выпадку. Акрамя таго, імкнуцца, каб сын ажаніўся раней, чым адбудзе ваенную службу: пасля яго адыходу дома ўсё-такі застаецца работнік. І яшчэ — малады хлопец да жаніцьбы звычайна не зусім добры работнік: ён ходзіць на *вячоркі* — сходкі хлопцаў і дзяўчат зімовымі вечарамі, часта ў суседнюю вёску, гуляе з дзяўчатамі і г. д., што адымае частку яго рабочага часу і чаго бацькі не могуць забараніць. Ажаніўшыся, хлопец сталее, вечарамі застаецца дома, г. зн. у бацькавай хаце, і што-небудзь робіць.

Бацькі дзяўчыны таксама спяшаюцца выдаць замуж дачку, якая звычайна бывае не адна ў сялянскай сям'і.

Каб уступіць маладым людзям у шлюб, у іх бацькоў павінны

быць сродкі на вяселле. На яго звычайна ідзе ад 50 да 100 і болей рублёў, а гэта для сялянскай сям'і сума не малая. Таму колькасць шлюбаў залежыць ад ураджаю: калі ўраджай добры, то іх куды болей. Тут сяляне карыстаюцца момантам, таму што не кожны год бывае ўраджайным. Вырашаючы пытанне аб шлюбе, улічваюць таксама і заработкі на адыходніцтве — на сплаве лесу, на распачатых у наваколлі будоўлях, асабліва на вырубцы і вывазе лесу, дзе хлопец мае магчымасць зарабіць патрэбную суму. Часам нават бывае так, што хлопец наймаецца на год ці на лета да суседняга пана, атрымлівае наперад грошы і, такім чынам, спраўляе вяселле.

Бедныя і вялікія сем'і імкнуцца аддаваць сваіх сыноў у дом да багатых сялян. Гэта называецца *ісці ў прымы*. Але такое бывае рэдка — звычайна ў чужую сям'ю ідзе дзяўчына. Хлопец ідзе ў прымы толькі ў тым выпадку, калі яго ўласная сям'я вялікая і малазямельная, а сям'я, якая запрашае яго, багатая, але патрабуе шмат рабочых рук, бо яна або невялікая, або ў ёй, напрыклад, толькі дочкі. Калі здараецца так, што бацькі нявесты просяць да сябе ў дом жаніха, то выбар і запрашэнне робяцца вельмі асцярожна, каб у выпадку адмовы не знясла віць нявесту. Хлопец, ідучы ў прымы, часта зусім адмаўляецца ад свайго сямейнага надзелу, калі гэтаму не пярэчыць сям'я, у якую ён ідзе. Часам ён атрымлівае ўсё ж частку зямельнага надзелу або рухомай маёмасці. Трэба дадаць, што вельмі часта ў прымы ідуць адстаўныя салдаты, бабылі. Прымакоў часта бяруць да сябе ў сям'ю ўдовы, асабліва калі ад ранейшага мужа засталіся дзеці.

Бацькі ўважліва наглядаюць за *хлопцам*, калі ён становіцца дарослым і закон ужо дазваляе яму ажаніцца. Пры выбары нявесты зноў-такі кіруюцца, па-першае, тым, каб дзяўчына была добрай работніцай, не мела кепскай славы, вызначалася здароўем, добрым складам цела і пры гэтым была з такой сям'і, якая адпавядала б сям'і сына па заможнасці або была нават багацейшай — ад больш заможных гаспадароў можна было чакаць і большага пасагу.

Прыглядаючыся ў сваім і бліжэйшым сяле да дзяўчат, якія на выданні, матка і бацька хлопца ўсё часцей раяцца паміж сабою аб будучыні сына. Дамовіўшыся наконт нявесты і сабраўшы пэўную суму грошай, яны пачынаюць размову ў сваёй сям'і аб шлюбе, прытым клапоцяцца, каб і ў гэтай размове не адступаць ад звычаю.

Звычайна жонка гаворыць, што вось пара ўжо сынка ажаніць. «*Рыгор,*— звяртаецца яна да мужа,—*што ты думаеш, чаму ты Яшку не жэніш? А то як пойдзе ў маскалі, дык і памром, а хто*

*яму галаву звяжа?»* — *«Жані, жані — абы казала: за што ж жаніць, за пяць пальцаў?»* — быццам з неахвотай адказвае муж, спасылаючыся на недахоп сродкаў. *«Далёка не заязджай не ў сваё: тым рогам чашысь, якім прыдзецца»,*— перасцерагае жонка мужа. Пачынаюць падлічваць расходы, а потым справа даходзіць і да нявесты. У выбары нявесты, акрамя вышэйпрыведзеных меркаванняў, адыгрывае ролю і асабістая сімпатыя сына да якой-небудзь дзяўчыны. У апошнім выпадку многае залежыць і ад асабістых адносін бацькі і маці да сына, ад іх характару, а таксама ад гаспадарчых разлікаў.

Калі адбылася гэта сямейная гаворка, бацька ўрачыста аб'яўляе членам сям'і, што сына жаніць пара. *«Яшка, знаеш што, мой сын, думаю цябе жаніць. Годзі табе валачыцца: прыйдзеш яго будзіць, каб ішоў малаціць, а ён чуць з вячорак вярнуўся. Якая ўжэ там работа!»* — кажа ён сыну. Потым выбіраюць сватоў. Сватамі могуць быць або бліжэйшыя паважаныя сваякі, або хто-небудзь з суседзяў, найбольш багаты і паважаны. Выбар свата мае немалое значэнне, таму што ён [сват] наогул выконвае даволі важную ролю ў час самога сватання: сват, калі трэба, можа ўздзейнічаць на бацькоў нявесты, калі ён асоба паважаная. У час вяселля свату даводзіцца рабіць сякія-такія выдаткі, таму многія і адмаўляюцца ад такога гонару. Чалавек, які згадзіўся быць сватам, з гэтага часу лічыцца сваім, блізкім у доме.

Калі ў жаніха ўжо ёсць сват або два сваты, іх афіцыйна запрашаюць у хату жаніха; усе члены сям'і сардэчна яго прымаюць, імкнуцца ўслужыць яму. У хаце ідуць перагаворы аб нявесце, аб тым, колькі можна атрымаць ад яе бацькоў пасагу і інш. Асабліва важным з'яўляецца пытанне аб колькасці асоб, якіх трэба афіцыйна запрасіць на вяселле, аб колькасці сваякоў, якім трэба будзе дарыць падарункі, і аб саміх падарунках. Апошняя акалічнасць мае даволі важнае значэнне пры выдатках. Дарэчы, гэтыя размовы ўзнаўляюцца да вяселля не адзін раз. Пакуль сваты і гаспадар хаты раяцца паміж сабою, жанчыны пякуць бліны, смажаць сала, рыхтуюць вяндліну для частавання сватоў, гарэлку. Пасля бяседы, калі сватам асабліва дагаджаюць і хочуць іх так *участаваць*, каб яны ледзь ногі валачылі, усе ўстаюць і моляцца богу. Пасля малітвы важныя госці дзякуюць гаспадарам: *«Дзякаваць вам!»* — *«Прабачайце — няма за што!»* — адказваюць гаспадары.

Усе садзяцца, і гаспадар пачынае гадаць: ісці яму сёння ў сваты ці пачакаць. Трэба, каб дзень сватання не быў «цяжкім», напрыклад панядзелак, і посным. Самым удалым днём лічаць нядзелю. Выпраўляючыся ў сваты, варожаць. Кажуць прынесці

вязку дроў і лічаць, ці атрымаецца паленаў у цот. Гаспадыня звязвае вілкі і качэргі, каб усе задумы здзейсніліся і г. д. Нарэшце, калі пры варажбе ўсё паказвае на добры зыход, гаспадыня кажа мужу: *«А годзі раду радзіць. Маліцесь богу!»* Уся сям'я і жаніх набожна і доўга моляцца. Пасля малітвы гаспадар бярэ бутэльку гарэлкі, сват — *лусту* хлеба, і абодва ідуць сватаць нявесту. Калі даводзіцца адпраўляцца ў іншую вёску, то запрагаюць звычайна тройку коней, на якой сваты, апранутыя ў новае святочнае адзенне, з песнямі імчаць па палявых дарогах.

Бацька звычайна адпраўляецца са сватамі, але часам сваты едуць без яго.

Прыехаўшы або прыйшоўшы да нявесты, сваты не ўваходзяць у хату, а становяцца пад вакном. *«Пусціце нанач, людзі добрыя!»*—гаворыць хто-небудзь з іх. *«Судакі, судакі, ці варылі буракі?!»* — яшчэ часам крычаць пад вакном сваты. Звычайна на першае пытанне адказвае гаспадыня. Калі муж і жонка дома — значыць госці могуць быць прыняты: *«Здаровенькі булі! Хадзіце да хаты»*. А на другі вокліч стараецца адказаць гаспадар: *«Хоць варылі не варылі, абы добра гаварылі»*. Сваты і гаспадар перакідваюцца яшчэ некалькімі падобнымі жартамі, пры гэтым першыя па адказах гаспадара хочуць угадаць, ці будзе лад.

*«Добры дзень!»* (або *«Добры вечар!»*),— гавораць сваты, уваходзячы ў хату. Бацька маладога або старшы сват ставіць на стол бутэльку з гарэлкай і здалёку пачынае гаварыць аб сватанні.

Часам здараецца так, што сваты застаюць сватоў з іншай сям'і. Тады тыя, што прыбылі пазней, ставяць гарэлку на стол і адразу адыходзяць. *«Падумайце, людзі добрыя, за каго дачку аддаваць. Дабранач!»* — кажуць яны, выходзячы. Калі ім гаспадар і гаспадыня кажуць на развітанне *«на здароўе»*, дык гэта можа азначаць, што бацька нявесты згадзіўся на шлюб; адказ *«з богам»* раўназначны адмове.

Калі сватам няма перашкод для перагавораў, то яны пачынаюць сватанне адразу: *«А ці не маеце цялушкі да прадажы?»* — пытаюць сваты. *«Мамо і продамо, абы купцы»*. Як толькі дасягаецца папярэдняя згода наконт самога шлюбу, адразу пачынаюцца чыста гаспадарчыя разлікі: перш за ўсё вырашаецца пытанне аб часе вяселля, якое надоўга, як правіла, не адкладаецца; потым абодва бакі дамаўляюцца аб тым, у адной хаце будзе веселле ці ў дзвюх — г. зн. і ў бацькоў нявесты і ў бацькоў жаніха. Гэта пытанне залежыць, зразумела, ад наяўнасці сродкаў у абодвух бакоў. Ад колькасці гэтых сродкаў залежыць і колькасць асоб — знаёмых і сваякоў, што афіцыйна запрашаюцца абодвума бакамі на вяселле. У час сватання таксама выбіраюцца дружкі, шафер,

*паджанішок*, вызначаецца колькасць вёдзер гарэлкі з аднаго і другога боку і колькасць падарункаў, таксама з таго і другога боку.

Калі згода паміж бацькамі нявесты і сватамі дасягнута, пачынаюцца *змовіны*, або *запівіны*. Бацька нявесты пасылае каго-небудзь з членаў сям'і па больш блізкіх сваякоў. Яны з'яўляюцца ў гэтым выпадку нібы сведкамі шлюбнага дагавору паміж абодвума бакамі.

Трэба адзначыць, што сваты не заўсёды адразу дамагаюцца згоды бацькоў нявесты; часам ім даводзіцца хадзіць па некалькі разоў. У некаторых месцах нават звычай патрабуе згаджацца не адразу, каб не паказаць выгляду, што бацькі нявесты ахвотна выпраўляюць дачку з хаты, і гэтым не зменшыць яе гонару. У такім выпадку ўсё залежыць ад умення сватоў, якія павінны ўгаварыць бацькоў і ў той жа час не пайсці на ўступкі, напрыклад, адносна вясельных выдаткаў, велічыні пасагу і г. д.

Калі збяруцца сваякі, бацька нявесты налівае прынесеную сватамі гарэлку ў міску, кладзе перад гасцямі лыжкі, наразае хлеб, а гаспадыня ставіць на стол сала, яечню і інш. Гарэлка, якую прыносяць сваты, іграе важную ролю: яе можна піць толькі пасля згоды, і служыць яна нібы залогам вернасці слову з боку бацькоў нявесты.

Перад пачаткам бяседы ўсе прысутныя моляцца. Пасля малітвы кожны, звяртаючыся да бацькі нявесты, кажа: *«Няхай дае бог тваёй дачцэ ўсё добрае».— «Калі сама будзе добрая, дык усё будзе добра»*,— адказвае з паклонам бацька. За стол садзяцца па запрашэнню сватоў, таму што яны частуюць. Гарэлку п'юць лыжкамі з агульнай пасудзіны, закусваюць салам, хлебам і інш. Нявеста, пакуль сват гаворыць з бацькамі і сваякамі, выходзіць з хаты. Вяртаецца яна ўжо ў канцы гулянкі з падарункамі для сватоў і жаніха. Такімі падарункамі звычайна бываюць папяровыя хусткі, а часцей ручнікі хатняй работы з вытканай узорчатай аблямоўкай; такія ручнікі звычайна рыхтуюцца старанна маткаю і дачкою загадзя, на ўсякі выпадак: яны прызначаюцца для будучай радні як доказ здольнасці нявесты да хатняй работы. Узяўшы патрэбную колькасць ручнікоў (каб хапіла кожнаму са сватоў), нявеста, якая цяпер ужо афіцыйна пры сваяках і сватах называецца *маладою*, прыходзіць у агульную хату. Апранута яна ў лепшую сукенку. Пачырванеўшы, нявеста падносіць ручнікі сватам і бацьку жаніха. *«О гэта на табе, тата, а гэту Івану* (жаніху)»,— кажа яна, звяртаючыся да бацькі жаніха і называючы яго першы раз бацькам, *татам*. Бацька кладзе падарункі для сына за пазуху, а свой вешае цераз плячо. Тое ж робяць і сваты. Так

і сядзяць увесь астатні час. На змовінах імкнуцца як мага лепш пачаставаць сватоў гарэлкай і закускай. Заканчваюцца змовіны песнямі. Цяпер вяселле абвяшчаецца ўжо афіцыйна, і жаніха і нявесту ўсе называюць *маладым* і *маладая*.

Пасля змовін бацькі нявесты яшчэ могуць па нейкай прычыне адмовіцца ад шлюбу, але бывае гэта вельмі рэдка. У такім выпадку сваты аддаюць падарункі назад, а бацькі нявесты аплочваюць сватам іх выдаткі. Між іншым адмова — ганьба для жаніха і адначасова не робіць гонару нявесце, а таму бывае толькі ў вельмі рэдкіх выпадках і не без важных прычын.

Толькі што апісаныя змовіны адбываюцца звычайна ў той дзень, калі дасягнута згода аб умовах шлюбу. Часам жа яны адкладваюцца на некалькі дзён.

У прамежку паміж змовінамі і днём вяселля, у час яго падрыхтоўкі, дзяўчаты — сяброўкі нявесты — некалькі разоў збіраюцца ў яе і праводзяць час за сталом з пачастункамі і песнямі. У гэтых песнях пяецца пра смутак сяброўкі, якая вымушана пакідаць родную бацькоўскую хату і ісці да чужых людзей, да чужога бацькі, маткі. Нявеста, становячыся пасля замужжа маладухай, пакідае ранейшае вясёлае жыццё з сяброўкамі: песні, танцы, вясёлы здаровы смех на доўгіх зімовых вячорках; усё гэта праз некалькі дзён павінна стаць для яе чужым, забароненым. Ёй нават нельга будзе распускаць сваю «русую касу» — прыкмету дзявоцтва. У чужой хаце, далёка ад бацькоў, у чужой сям'і ёй, магчыма, давядзецца перанесці шмат гора, крыўды, нават пабояў з боку суровага, узбаламучанага п'яніцы мужа, які не любіць яе, а таксама з боку злой свякрухі, свёкра; яе будуць папікаць, ганяць на работу раней за іншых; ёй у чужой хаце трэба будзе ўсім дагадзіць, кожнага задобрыць... Усё гэта з'яўляецца тэмай тых песень, якія, поўныя жальбы, смутку, хутчэй падобны на плач, чым на вясельныя песні.

Змяшчаем некаторыя з песень, якія нам удалося пачуць і якія пераважна спяваюцца якраз у гэты час.

Ляцяць галачкі ў тры радочкі,
Зязюлечка пaпераду.
Усе галачкі на іве селі,
А зязюлечка на клеці.[1]
Усе галачкі зашчабяталі,
А зязюля закавала.
— Чаго куеш, чаго жалуеш,
Сівая зязюлечка?
Чы жаль табе ў лятаніі летняга кавання?

---

[1] *Клець* — нежылая прыбудоўка к дому.

— Не жаль жа мне ў лятаніі летняга кавання.
Дожджык пайдзе, соўнелька ўгрэе,
На мне перайка тлее...
Ішлі дзевачкі ў тры радочкі,
А там Домначка папераду.
Усе дзевачкі за стол селі,
А Домначка на пасадзе.
Усе дзевачкі песню запелі,
А Домначка заплакала.
— Чаго плачаш, чаго жалуеш,
Маладая Домначка?
Чы жалуеш татка старага,
Чы падвор'ейка яго?
— Не жаль жа мне таткі старага,
Ні падвор'ейка яго;
Ох, жаль жа мне русае касы
Да дзявоцкае красы.

А чыя ж то да рутачка[2] за гарою,
А зарасла дробнаю траўкай-лебядою?
А чаму ж ты, Домначка, не палола?
Чы ты свае белы рукі пакалола?
— А паліце вы сабе, дзевачкі, паліце,
Хоць жа вы сабе па красачцэ сарвіце!
Хоць жа вы сабе па вяночку савіце!
А ўжо мне не да руткі,
Бо прыехаў Якаўка ў залёткі.

Потым пяюць таксама і шмат іншых песень, не абавязкова прымеркаваных да гэтага часу.

## II

Піва, мёд ракой ліліся,
Каўбасы з салам нашліся.
Уздаволь было піць-есць.
Дзеўкі, хлопцы, маладзіцы
Цэлу ночку па святліцы
Бадзяліся, хто як змог.

(В. Дунін-Марцінкевіч. Гапон)

Вяселле ніколі не адкладваецца надоўга. Яно адбываецца праз тыдні два пасля змовін, каб можна было да яго падрыхтавацца.

Аднак перад *вяселлем* бывае яшчэ апошні развітальны вечар нявесты са сваімі сяброўкамі — *дзявоцкі вечар*. Ён наладжваецца часцей за ўсё ў суботу перад вясельным днём, але часам і на некалькі дзён раней. Звычайна імкнуцца да таго дня ўсе вясель-

---

[2] Мята.

ныя падрыхтаванні закончыць. У гэтым нявесце дапамагаюць сяброўкі. Яны шыюць разам з ёю сукенку, а ў апошні вечар перад дзявочнікам урачыста, з песнямі рыхтуюць галаўныя ўпрыгожанні для нявесты: уюць вянкі з *кваткоў*, калі вяселле адбываецца летам, або робяць якое-небудзь іншае ўбранне.

На дзявоцкі вечар бацькі жаніха прыходзяць у хату да нявесты з падарункамі — для яе і яе радні. У скрынцы прыносяць або прывозяць *пляшку* гарэлкі, шэсць грэцкіх хлябоў — *паляніц* дамашняй выпечкі, спадніцу, *андарак*, *хвартух*, *чобаты*, чапец, *хустку* і што-небудзь яшчэ. Скрынку з усім гэтым пакідаюць у хаце ля ўваходу або нават у сенцах. Нявеста сама забірае сабе падарункі, а замест іх кладзе свае: жаніху — *кашулю*, пояс і штаны; свёкру і свякрусе — намітку на абразы, палатно на штаны; залоўкам, калі яны ёсць,— хусткі і г. д.

Пазней, увечары, у хату да нявесты прыходзіць і жаніх з музыкам і хлопцамі. Бацькі жаніха хутка ідуць дадому. Вечарам застаецца толькі моладзь. Нявеста частуе сябровак гарэлкай, якую прынесла свякроў. Моладзь танцуе і спявае да самай раніцы. Вечар гэты называюць таксама *заручыны*.

Нарэшце наступае дзень вяселля. У хаце нявесты і жаніха збіраюцца людзі, пераважна моладзь і сваякі; усе хочуць чым-небудзь дапамагчы маладым. Задоўга да абедні сяброўкі і старэйшыя сваячкі адзяваюць маладую. Адзенне гэта мала чым адрозніваецца ад звычайнага святочнага адзення сялянскіх дзяўчат. Перш за ўсё — гэта простая вузкая спадніца хатняга вырабу з авечай воўны, вытканая ўзорамі, *ператыканая;* называецца яна андарак. Часам яна бывае паркалёвая — *спадніца*. Яшчэ на нявесце бывае невялікая куртачка паверх кашулі; валасы яе заплецены ў косы, што спадаюць на плечы, упрыгожаны яны каляровымі стужкамі (*кітайкамі*) і вянком. Перад выпраўленнем да абедні ў хату да нявесты з'яўляецца з моладдзю жаніх, адзеты ў новую світку, чобаты і інш. Тут ён запрашае сабе ў дружкі каго-небудзь са сваіх сяброў, з кім дамаўляецца раней, а нявеста выбірае дружку. Усе чацвёра садзяцца на падрыхтаваных коней і важна, без шуму едуць у царкву. Трэба заўважыць, што перад ад'ездам у царкву маладыя просяць у бацькоў благаславення. Сяброўкі напамінаюць нявесце аб гэтым:

Ехала Домначка да вянца,
Да забыла мацёньцы кланяцца.
— Прыступі, мацёнька, блізенько —
Пакланюся табе нізенько.
Коскамі зямлю акрыю,
Слёзкамі ножанькі абмыю.

У некаторых месцах існуе звычай, паводле якога маладыя па дарозе ў царкву кланяюцца ўсім прахожым, пры гэтым дружка здымае шапку жаніху. За возам з жаніхом і нявестай звычайна адпраўляюцца яшчэ некалькі вазоў з моладдзю і сваякамі. Выязджаючы з дому, запасаюцца гарэлкай і закускай. У царкве маладыя прастойваюць абедню, пасля якой пачынаецца вянчанне. Дружка сцеле пад ногі маладым ручнік і, паставіўшы іх побач, расплятае нявесце касу. Па дарозе ў царкву і ў самой царкве імкнуцца заўважыць прыкметы, што павінны падказаць, якое будзе жыццё маладых. Напрыклад, калі па дарозе сустрэнецца жанчына з пустымі вёдрамі, поп ці заяц — нядобрая прыкмета. Каб пазбегнуць у новай сям'і сварак, маладыя імкнуцца не наступіць на царкоўны парог. Пад ногі жаніху і нявесце кладуць па сярэбранай манеце — каб у маладых вяліся грошы. Яркі агонь свечак азначае шчаслівае вясёлае жыццё, цьмяны — наадварот. Калі ў нявесты выпадкова загарацца ад свечак плацце ці каснікі — няшчасце, нават смерць каго-небудзь з маладых. Дождж у дзень вяселля азначае для маладых багацце. Сустрэча па дарозе жанчыны з поўнымі вёдрамі прадказвае поўную забяспечанасць у жыцці і г. д.

Пасля выхаду з царквы кампанія адпраўляецца куды-небудзь закусіць: да папа, блізкага сваяка ці ў карчму. Назад усе вяртаюцца з шумам і песнямі, коней гоняць на ўсю моц. Дружкі спяваюць на ўвесь голас:

Ой, папок, папок, псяюха,[3]
Чаму не садраў кажуха?..
Залатая макаўка Домначка,
Чырвоны цвяток Якаўка!
Ехала Домначка ад вянца,
Сыпала чорны мак з рукаўца.
Залатая макаўка, чырвоны цвяток Якаўка!
Выхадзі, мамачка, з свячамі,
Твае дзіцятка звянчалі
І з тым казаком, што ўчора ў нас быў,
Тваё дзіцятка палюбіў!
Станавіся, мамачка, блізенько,
Пакланюся табе нізенько!

Спяваюць і шмат іншых песень.

З царквы ўся кампанія накіроўваецца да бацькі нявесты. Ля дзвярэй маладых чакаюць іх бацькі і сваякі; бацькі нявесты трымаюць абраз, а бацька жаніха — гарэлку, хлеб і соль. Маладыя, злезшы з воза, кланяюцца сваім бацькам, пасля чаго бацька

[3] Сабачая кроў; параўн. з польск.: «пся крэў».

жаніха налівае ім чарку гарэлкі, якую яны не п'юць, а выліваюць за спіну і закусваюць хлебам з соллю. Увайшоўшы ў хату, маладыя кланяюцца ў ногі па тры разы ўсім сваякам і цалуюць іх у твар; не прамінаюць нават дзяцей. Потым жаніх, нявеста і дружкі садзяцца за стол і абедаюць; сваякі іх абслугоўваюць.

Пасля абеду малады са сваёю дружынаю адпраўляецца да сябе дадому, а нявеста з сяброўкамі і гасцямі спраўляюць вяселле. Між тым у доме жаніха вясельная ўрачыстасць ідзе сваім ходам. Калі жаніх і нявеста з аднаго і таго ж сяла, то часам бяднейшыя сяляне гуляюць вяселле ў адным доме, каб зменшыць выдаткі. Але гэтага па магчымасці не робяць, стараюцца святкаваць у дзвюх хатах. Увесь вечар і большую частку ночы танцуюць і выпіваюць. Танцуюць казачка, лявоніху або водзяць *карагод.* Зрэшты, у апошні час у вёскі даходзяць гарадскія танцы: *кандрыль*, нешта падобнае на польку, і інш. У час танцаў жанчыны спяваюць кароткія маладзецкія песні накшталт такіх:

Ох, маць мая, мацёнька,
Беражы свое дзіцятачко!
Ой, грай, калі граеш,
Калі чорны бровы маеш.
Калі такі, як у мяне,
Дык садзісь каля мяне.
Калі трохі рудаваты,
Адчапіся, пранцаваты.

Калі вяселле гуляюць улетку, то танцуюць на д...

Між тым жанчыны дбаюць аб пячэнні *каравая* ... вялікі пірог, часам каля пуда, упрыгожаны living рознымі, зробленымі з цеста фігуркамі птушачак, шышкамі, крыжыкамі. На версе пірага вылеплены вялікі крыж. Каравай пякуць часам з вялікай урачыстасцю і песнямі накшталт наступнай:

У саду галлё вісіць,
Сам бог каравай месіць,
Прачыстая свеціць,
Хрыстос прыступае,
Хустаю накрывае.

Калі вяселле адбываецца ў дзвюх хатах, то каравай жаніха ядуць у першы ж вечар пасля вянца, а ў нявесты — на трэці...

Калі каравай пасаджаны ў печ, жаніх са сваёю дружынаю прыязджае ў хату нявесты. Перш чым аддаць маладую жаніху, сяброўкі і свахі пазбаўляюць яе *дзявоцкае красы*, г. зн. завязваюць косы пад чэпчык. Адбываецца гэта даволі ўрачыста. Маладых садзяць на падлозе на разасланым кажуху. Свахі здымаюць

з галавы нявесты кветкі, старэйшая са сваячак падсмальвае ёй касу, якую потым заплятаюць. На галаву надзяваюць чэпчык. Дружкі ў гэты час спяваюць:

> Ой, жаль, жаль будзе Домначцы касы,
> Ой, не так касы,
> Як дзявоцкае красы.

Нявеста, калі ёй падсмальваюць касу, плача, выказваючы тым свой смутак аб вясёлым жыцці ў бацькоў. Замужнія жанчыны не носяць распушчаных валасоў, а завязваюць іх у хустку або збіраюць у чапец, таму распушчаная каса з'яўляецца знешняй адзнакай дзявоцтва.

Пасля гэтага маладыя адпраўляюцца ў хату жаніха. Там іх сустракае матка ў вывернутым кажуху з гарэлкай, хлебам і соллю. Жаніх тройчы вылівае за сябе гарэлку, якую яму падносіць матка, чацвёртую чарку выпівае і закусвае. Па маладых прыязджаюць бацькі нявесты і частка гасцей. Тады пачынаецца адна з важнейшых частак вясельнага свята — *рушаюць каравай*,— пачынаюць дзяліць. Усе госці садзяцца: больш важныя — за сталом пад абразамі, астатнія — за іншымі сталамі. Каравай разразаюць на часткі, прыкладна па ліку гасцей; важнейшы са сватоў раздае каравай прысутным. Ён выклікае кожнага па імені і імені па бацьку, прыгаворваючы: *«Прашу наш каравай прыняць і нашых маладых падараваць»*. Пры гэтым дазваляе сабе жарты над тымі, хто [illegible]ходзіць да каравая — якраз таму для раздачы каравая [illegible]аецца чалавек дасціпны, гаваркі. Госці па чарзе падыходзяць да маладых, бяруць кавалак каравая і што-небудзь дораць; грошы яны апускаюць у спецыяльна падрыхтаваную міску; надзяляюць таксама прадметамі гаспадаркі: курамі, авечкамі, ільном, палатном і інш.; а бацькі маладых дораць кароў, коней і інш. Пры гэтым той, хто бярэ каравай, павінен сказаць якое-небудзь пажаданне маладым, часта нейкі вострый жарт накшталт *«Дай, божачка, вам у хаце што рок, то двое»* (дзяцей) або наказ.

Пасля раздачы каравая пачынаецца частаванне. Трэба заўважыць, што на ўсякіх званых бяседах гаспадары, а ў час вяселля і іх памочнікі — свахі абавязаны *частаваць* гасцей, г. зн. прасіць іх піць і есці; перад кожным госцем гаспадар з гаспадыняй стаяць часта падоўгу і ўпрошваюць выпіць чарку; госць крывіцца, адпрошваецца, спасылаецца на нездароўе і на тое, што ўжо шмат выпіў і інш., але для большай пераканаўчасці гаспадары называюць лічбу выпітых імі чарак у яго на хрысцінах, на сваце і інш. Госць згаджаецца з довадамі і, крэкчучы, выпівае. У такія спрэчкі гаспадару і гаспадыні даводзіцца ўступаць з кожным важным

госцем. Калі падаюць што-небудзь на стол, гаспадар і дамашнія няспынна абходзяць гасцей і просяць іх есці. Гэтага патрабуе этыкет, і калі гаспадары не стараюцца, то госці бываюць вельмі незадаволены. Асабліва многа даводзіцца важдацца з жанчынамі. Таму бяседы заўсёды вельмі зацягваюцца.

Праз некаторы час пасля падзелу каравая маладых адводзяць спаць. Свахі захутваюць маладую ў тры штукі палатна і разам з маладым вядуць у клець або ў асобную хату, калі яна ёсць. Свахі пры гэтым спяваюць:

Заграбай, мамка, жар, жар,
Будзе табе дачкі жаль, жаль!
Заграбай, мамка, попел, попел,
Мы ж твае дзіцятка ўхопім.

У асобнай хаце маладых садзяць вячэраць удваіх, пры гэтым іх абслугоўваюць свахі. Госці ў адрас маладых адпускаюць розныя жарты, заўвагі і пажаданні, часта даволі грубыя.

Калі маладыя павячэраюць, свахі прымушаюць нявесту слаць шлюбную пасцель; потым яна здымае мужу боты ці лапці, разувае яго ў знак сваёй пакорнасці будучаму галаве сям'і. Свахі выходзяць, пакідаючы маладых.

Між тым бяседа працягваецца да раніцы. Калі нявеста не страціла сваёй цноты да замужжа,— аб чым даведаюцца раніцаю свахі,— то бацька жаніха на наступны дзень выпраўляецца да бацькоў нявесты. Ён нясе ім бутэльку гарэлкі, абвязаную чырвонай стужкай. Нявеста ж пячэ бліны і частуе свах.

Калі нявеста аказалася нешчаслівай (і ў гэтым вінаваты не муж), то бацькоў нявесты і яе самую чакае вялікая непрыемнасць. На стол ставяць добра адкормленую гусь, качан капусты і рэшата з грэцкай паловай. Клічуць бацьку нявесты.

У некаторых мясцовасцях суд над нявестай бывае настолькі строгі, што яе ганьбяць публічна: на яе надзяваюць хамут і водзяць па вёсцы або абліваюць вадою і саромяць. На галовы яе бацькоў сыплецца шмат кпінаў, лаянка, нямала здзеклівых насмешак дастаецца і жаніху. Бацькі нявесты імкнуцца ўсімі сіламі не дапусціць такой ганьбы, бо пасля гэтага, калі ў іх яшчэ ёсць дочкі, сваты не вельмі будуць заглядваць сюды. Таму імкнуцца скончыць справу мірным шляхам. Часам усё канчаецца тым, што малады муж добра адлупцуе сваю жонку. Калі пры заключэнні шлюбу ігралі ролю толькі матэрыяльныя выгады, бацькі нявесты выкупляюцца павелічэннем пасагу. Ва ўсякім выпадку, нявеста, якая да замужжа страціла цноту, з'яўляецца на нейкі час прадметам разладу для абедзьвюх сямей: бацькі жаніха сварацца і папікаюць бацькоў нявесты.

Але больш за ўсё дастаецца самой нявесце: папрокі мужа, свякрухі, свёкра, новых сваякоў працягваюцца часам некалькі год. Каб крыху палепшыць сваё незайздроснае становішча, нявеста павінна дагаджаць усёй сям'і. У выпадку такога няшчасця з нявестай вяселле звычайна на гэтым і канчаецца.

Але калі ўсё добра, то вяселле ідзе далей яшчэ ■ большай вясёласцю. Часта вяселле працягваецца цэлы тыдзень ці, прынамсі, дні тры — у залежнасці ад заможнасці бацькоў.

Калі вяселле працягваецца, то звычайна на трэці дзень бацькі нявесты прыязджаюць да яе ў госці. Пасля частавання яны забіраюць сваю дачку. Урачыстае свята адбываецца ў абедзвюх хатах да позняга часу, пакуль, нарэшце, жаніх з дружкамі і моладдзю не адпраўляецца па нявесту ў хату яе бацькоў. П'яная кампанія з песнямі і крыкам пад'язджае да дому нявесты. Але дзверы аказваюцца замкнёнымі; тады прыезджыя падымаюць мітусню і крык на двары, просячы гаспадара пусціць іх пераначаваць.

Пасля доўгіх перагавораў, жартаўлівых сварак дзверы адчыняюцца, і ў дзвярах з'яўляецца маці нявесты ў вывернутым кажуху. Яна выносіць маладому гарэлку — тры чаркі ён вылівае праз плячо за сябе, чацвёртую выпівае тут жа і закусвае. Тады яго і дружак упускаюць у хату. Малады ў шапцы садзіцца за стол, дружкі рассаджваюцца за другім. Адзін з прыезджых тройчы пытаецца, ці дома гаспадар. Пасля таго, як скажуць, што гаспадар дома, ён тройчы просіць благаславення маладому ў бацькоў нявесты. Жаніха благаслаўляюць. Потым пачынаецца частаванне. Нарэшце, свахі намёкамі і песнямі падказваюць жаніху, што яму сумна без нявесты. Тады старэйшы брат выводзіць нявесту, якая ўвесь гэты час сядзіць з сяброўкамі ў клеці. Ён дае ёй адзін канец ручніка, а за другі абводзіць яе тройчы вакол стала. У гэты час дружкі спяваюць:

Панове, сватове!
За вошчо нас заграбілі?
Мы ж у ваш лес не хадзілі,
Арэшкаў не шчыпалі,
Ягадак не збіралі.
Аддайце бацьку дачку —
Нашу таварышку.

Пасля гэтага малады і яго дружкі хочуць забраць нявесту, а дружкі яе не аддаюць. Пачынаецца спрэчка за нявесту. Дружкі маладога прапануюць выкуп і ўзнагароджваюць брата, іншых сваякоў і сяброўак нявесты. У сувязі з тым што кампанія звычайна ў гэты час на добрым падпітку, цырымонія выкупу нявесты часам канчаецца спрэчкай, а то і бойкай: дружына маладога хоча

ўкрасці нявесту сілаю, а сяброўкі і бацькі стараюцца абараніць маладую.

Нявесту адводзяць у хату маладога. Але ў багатай сям'і гэтым не заканчваецца вяселле: пачынаюцца *пярэзвы*, г. зн. уся вясельная кампанія па чарзе вечарам гасцюе ў каго-небудзь са сваякоў нявесты або жаніха. Гэта працягваецца часам каля тыдня.

У бліжэйшую нядзелю пасля вяселля бацькі нявесты з'яўляюцца ў госці да свёкра і свякрухі. Іх частуюць ужо маладыя гаспадары.

# НАРОДНЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ВЯСЕЛЛІ У АШМЯНСКІМ ПАВЕЦЕ ВІЛЕНСКАЙ ГУБЕРНІ

**Запісаў С. І. Карскі**

## I

Сярод розных актаў жыцця просталюдзіна-беларуса рэзка выдзяляецца па свайму характару і асаблівай урачыстасці вяселле. Ні адна з'ява так багата не абстаўлена рознымі абрадамі і звычаямі, як гэта. Нідзе народная беларуская фантазія і думка так шырока не раскрываюцца, як у абрадах, звычаях і песнях вясельнай урачыстасці. Карэнні некаторых звычаяў і абрадаў, як убачым ніжэй,— у сівой рускай даўніне, у часах язычаства. Мы пастараемся, наколькі магчыма, апісаць беларускае вяселле, прынамсі, у Ашмянскім павеце. Няма сумнення, што характэрныя рысы пададзенага тут вяселля захоўваюцца сярод беларускага народа і ў іншых мясцовасцях.

Перш чым жаніцца, хлопцу, вядома, трэба знайсці сабе нявесту. Пачынаецца сватанне. Хлопец павінен папярэдне падшукаць сабе свата, якім можа быць толькі жанаты чалавек. Сват, як мы ўбачым, з'яўляецца самай галоўнай дзеючай асобай вяселля, яго арганізатарам. Перагаварыўшы аб задуманым, хлопец і сват адпраўляюцца ў дом, у якім жыве дзяўчына. У сваты ідуць звычайна вечарам і прытым у суботу. Часта здараецца, што сват сам намячае нявесту. Выпраўляючыся да яе з хлопцам, ён купляе бутэльку гарэлкі, якую хавае ў кішэні, і бярэ пад паху загорнутую ў чыстую хустку лусту хлеба. Увайшоўшы ў дом, сват і хлопец перш за ўсё кажуць гаспадарам *«Вечар добры!»*, падаюць рукі. Затым сват дастае з-пад пахі хлеб, рассцілае на стале хустку, ставіць бутэльку гарэлкі, кладзе хлеб і кажа: *«Я сват прысла-*

*ны, каб быў стол засланы!»*. Пасля гэтага гаспадыня дома накрывае стол абрусам і ставіць закуску, а дзяўчына, да якой сватаюцца, прыносіць на талерцы арэхі. Пачынаецца выпіўка, за якой завязваецца звычайная паўсядзённая гаворка, што не мае ніякіх адносін да мэты наведвання. Потым, калі ўсе добра вып'юць і закусяць, сват пачынае ўгаворваць бацькоў і дзяўчыну, да якой сватаюцца, каб яны далі сваю згоду на шлюб. Калі бацькі і дачка згодны, то пачынаецца звычайная ў такім выпадку гулянка. Дзяўчына зараз жа адпраўляецца да якой-небудзь сваёй таварышкі і разам з ёй склікае гасцей, а калі ёсць у сяле або вёсцы чалавек, які іграе на скрыпцы ці гармоніку, дык клічуць і яго. Госці прыходзяць абавязкова з падарункамі: хто нясе з сабою хлеб, хто гарэлку, хто кавалак сала, а хто проста гарнец ці больш якога-небудзь збожжа. Гулянка працягваецца да раніцы. Пры гэтым, як толькі заўважаць, што гарэлка ў бутэльцы канчаецца, хто-небудзь пачынае спяваць:

Ой, цяжка мне, цяжка,
Не поўна пляшка,
Галоўка баліць,
Няма каму даліць.

Пасля гэтага бутэлька зноў даліваецца і выпіваецца з падобнымі прыпеўкамі. Гэта сцэна паўтараецца, вядома, шмат разоў, асабліва калі сабралася шмат гасцей, ды такіх, што любяць выпіць. А п'юць часамі вельмі многа. Танцаў пры гэтым не бывае, таму што хлопцаў на гэты вечар не запрашаюць. Часам толькі якая-небудзь жанчына з асалавелымі ад лішняй чаркі вачамі падтанцоўвае пад гукі скрыпкі або гармоніка, прыпяваючы:

Ой, не ўстою,
Ой, не ўседжу,
Пайду скакаць
Па-мядзвежу;
Ой, ты граеш,
Як сам знаеш,
А я скачу,
Як я хачу.

Або спявае, падскокваючы:

Матулечка мая міла,
За што мяне ўчора біла?
Пад печ падагнала,
Качарэжку паламала?
— А дзе тыя чаравічкі,
Што татуля купіў?
— Павесіла на калочку,

Да каваль ухапіў.
Бадай таго каваля
Мяцеліца замяла,
Як ён мяне маладу
Да змарозіў на ляду.

Пры сватанні наогул аддаецца поўная павага бахусу, у выніку гэтага пад раніцу, калі ўжо разыходзяцца, усе бываюць п'яныя, за выключэннем нявесты і яе таварышак, якія ўвесь час гуляюць асобна. Часам гулянне зацягваецца вельмі позна і толькі гук званоў, які заклікае ў царкву, прымушае вясёлую кампанію разысціся па хатах.

Пры развітанні нявеста дае ў падарунак свайму жаніху бутэльку, напоўненую жытам. Гэту бутэльку нявеста загортвае ў кавалак палатна хатняга вырабу і абвязвае поясам сваёй работы.

Так адбываецца сватанне, якое ў народзе называюць *сваццьба*. Сама ж «свадьба» называецца *вяселлем*. Калі дзяўчына і яе бацькі не згодны на шлюб, то адразу адмаўляюць свату, і таму ён з хлопцам доўга не заседжваецца ў хаце, а ідзе з тою ж мэтаю ў іншую хату, дзе ёсць дзяўчына.

## II

Калі *сваццьба* адбылася, то гэта яшчэ не азначае, што паміж маладымі людзьмі ўсё скончана і яны могуць стаць пад вянец. Застаецца перажыць яшчэ адну пакуту пад назвай *лад*, дзе ўжо канчаткова вырашаецца лёс маладых людзей. Лад заключаецца ў наступным. Сват з жаніхом прыходзяць у той дом, дзе яны раней спраўлялі сваццьбу, і ўжо канчаткова вырашаюць справу. Лад у большасці выпадкаў бывае ў чацвер. Чужых гасцей на лад не запрашаюць, толькі сваякоў. Размова на ладзе ідзе пераважна пра *пасаг*. Безумоўна, калі хлопцу дзяўчына вельмі спадабалася, пасаг — справа другарадная і пра гэта доўга не гавораць. Бацькі згаджаюцца даць што-небудзь з гаспадаркі, тым усё і канчаецца. Але калі хлопцу засватаная дзяўчына не падабаецца, то, каб прыстойна адмовіцца ад яе, сват ад імя жаніха патрабуе пасагу як грашыма, так і з гаспадарскага дастатку, і прытым такога вялікага, якога бацькі дзяўчыны не могуць даць. Гэта апошняе і расстройвае вяселле. У такім выпадку бацькі дзяўчыны вяртаюць хлопцу грошы, якія ён патраціў у дзень сватання на гарэлку, а ён у сваю чаргу вяртае дзяўчыне яе падарунак, г. зн. бутэльку з жытам, абвязаную палатном і поясам. Калі хлопец не зробіць гэтага, то яму не здабраваць: вечны праклён дзяўчыны не пакіне яго. Гэта тлумачыцца вялікім значэннем падобнага падарунка:

*«Не аддаў жыта, не будзе жыця»*,— кажуць у народзе. З гэтым падарункам звязана ўсё шчасце дзяўчыны. Здараецца, што хлопец перадумвае жаніцца пасля сватання і ў чацвер не прыходзіць на лад; у такім выпадку дзяўчына пачынае адразу патрабаваць свой падарунак назад як залог будучага свайго шчасця. Калі ж на ладзе лёс маладых людзей вырашаецца станоўча, то на наступны дзень сват з маладым адпраўляюцца да святара прасіць, каб ён зрабіў устаноўленае законам аб'яўленне, або, як тут кажуць, *запаведзі*. Тут жа святар прызначае дзень вянчання, пераважна ў тую нядзелю, калі будзе прачытана апошняе, трэцяе аб'яўленне.

Усюды, як мы бачым, жаніха суправаджае сват, што з'яўляецца як бы яго адвакатам. Узнагарода ж яму за гэта — поўны гонар, пашана і гасціннасць, з якою да яго ставяцца ва ўсіх вясельных абрадах: яму ўсюды і заўсёды першая чарка, з яго пачынаецца ўсякая вясельная бяседа. «Свату першая чарка і першая палка»,— гаворыцца ў народзе.

## III

Пасля ладу, у перадвясельны час, нявеста звычайна шые бялізну для жаніха. Ёй дапамагаюць *дружкі*, г. зн. сяброўкі. Калі бялізна гатова, то маці нявесты адносіць яе жаніху. У суботу вечарам, напярэдадні вяселля, збіраюцца да нявесты дружкі і запрашаецца якая-небудзь замужняя жанчына за *сваціцу*. Сваціца і дружкі пачынаюць мыць сталы, столь, сцены і наогул рыхтаваць дом да вяселля. Між тым нявеста з адной дружкай адпраўляецца па вёсцы *кланяцца*. Звычай гэты заключаецца ў наступным. Нявеста заходзіць па чарзе ў хаты, нізка кланяецца ўсім і просіць на вяселле. Нават калі здараецца, што нявеста або бацькі з кім-небудзь у сварцы, то і гэтых яна не мінае і да іх заходзіць кланяцца і прасіць на вяселле. Наогул нявеста склікае на вяселле ўсіх з вёскі, і не толькі са сваёй, але і з суседніх, куды ходзіць кланяцца ў пятніцу. Калі ў хаце ўсё прыме прыстойны выгляд і нявеста вернецца з паклонаў, то пачынаецца частаванне дружак, сваціцы і *каравайніц*. Тут дзяўчаты плятуць для маладой невялікі вянок, які прымацоўваюць ёй на галаве (на патыліцы). Вянок гэты пляце абавязкова сваціца, уплятаючы ў яго і пярсцёнак. Калі вяселле гуляюць зімою, то вянок плятуць з сухіх кветак, якія выбіраюць у сене, або з хатніх кветак. Пачастунак гасцям прапануе сама нявеста. Так пачынаецца *дзявічнік*. Песень пры гэтым не спяваюць. Дзявічнік праходзіць часам весела, а часам і сумна — гэта залежыць ад настрою нявесты. Пасля пачастунку рашчыня-

юць *каравай*, г. зн. цеста для вялікай булкі хлеба. Каравай рашчыняе *старшая каравайніца*, якая выбіраецца абавязкова з замужніх жанчын. Іншыя ж каравайніцы на гэты раз толькі пры сутнічаюць, нічога не робячы. Гэтым заканчваецца дзявічнік пасля якога ўсе разыходзяцца па хатах, чакаючы наступнага дня

## IV

У нядзелю, у дзень вянчання, яшчэ на цямку прыходзяць у дом нявесты старшая каравайніца і некалькі малодшых каравайніц. Апошнімі абавязкова бываюць дзяўчаты. Колькасць малодшых каравайніц бывае розная: пяць, шэсць, сем і больш. Яны месяць цеста для каравая і, добра замясіўшы, ідуць дадому. Дома каравайніцы лепш чым звычайна апранаюцца і праз гадзіны дзве-тры зноў прыходзяць у дом нявесты, але ўжо не адны, а з музыкам. Пачынаюць збірацца дружкі і госці. Прыходзіць *каравайнік*, г. зн. запрошаны жанаты чалавек, абавязак якога — пасадзіць каравай у печ. Перш за ўсё каравайніцы бяруць *дзяжу*, у якой замешана цеста для каравая, і ставяць яе пасярод хаты на меншую дзяжу, перавернутую ўверх дном. Пад гэтай апошняй дзяжой ставяць на талерцы чарку гарэлкі і закуску. Калі ставяць дзяжу на дзяжу, то каравайніцы, кружачыся пад гукі музыкі, спяваюць:

Расці, расці, каравай,
Вышай печы муравой,[1]
Вышай стаўпа залатога,[2]
Вышай друга дарагога.

Пасля гэтага каравайніцы хрысцяцца і пачынаюць браць у рукі цеста, пры гэтым спяваюць:

Да спары,[3] божа,
Да нашаму караваю!
Да злучы ж, божа,
Да нашу парачку —
Васілька з Ганулькаю.

Перш чым зрабіць з цеста булку, каравайніцы пачынаюць раздаваць цеста — *дзяліць каравай*. Звычай гэты заключаецца ў наступным: каравайніцы даюць кожнаму, хто ёсць тут, не выключаючы дзяцей, па кавалку сырога цеста, якое кожны павінен

---

[1] *Муравая* — мураваная, г. зн. цагляная, атынкаваная печ.
[2] У ранейшыя часы каля печы ў хатах заўсёды стаяў слуп, які называўся залатым стаўбом.
[3] *Спары* — памнож, павяліч.

з'есці. Хто не можа есці сырога цеста, заварочвае яго ў хустку, нясе дадому, пячэ і з'ядае. Калі ўсе госці атрымалі цеста, каравайніцы кладуць усё, што засталося, на лапату, робяць з яго булку з адбіткам на цесце крыжа і некаторых упрыгожанняў па баках і ўсаджваюць у запаленую печ. Трымае лапату, а таксама саджае на ёй у печ каравай заўсёды каравайнік. Акрамя таго, каравайніцы саджаюць у печ некалькі маленькіх булачак — па адной булачцы для кожнай каравайніцы і каравайніка. Для музыкі ж, у знак удзячнасці за гранне, пякуць булку ў форме скрыпкі або, як тут кажуць, *пякуць музыку*. Пры гэтым трэба заўважыць, што саджаць каравай у печ звычайна імкнуцца пачаць у той час, калі пачуюць звон «к заутрені» («да ютрані»). Усадзіўшы ў печ каравай, каравайнік адразу ж з лапатай выбягае на двор і кідае яе на страху, а каравайніцы хапаюць абедзве дзяжы і хуценька выносяць іх у кладоўку. Пры гэтым кожная каравайніца хоча першай схапіць дзяжу — каб яе першую запрашалі танцаваць. На чарку гарэлкі і закуску, якія стаялі пад дзяжой, накідваюцца дзеці, імкнучыся завалодаць імі. Само сабой разумеецца, што ў гэтай мітусні гарэлка з чаркі выліваецца, і дзецям застаецца толькі закуска. У час усёй цырымоніі з караваем нявесты няма — у гэты час яна ходзіць па вёсцы кланяцца.

## V

Між тым усе запрошаныя на вяселле ідуць у дом і к часу вяртання нявесты тут ужо звычайна поўна гасцей, у тым ліку і ад жаніха.

Раскажам цяпер, як адпраўляюць жаніха да нявесты. У доме яго бацькоў таксама поўна гасцей. Калі коні запрэжаны і наступае пара ехаць да нявесты, то папярэдне садзяць жаніха на *пасад*. Абрад гэты заключаецца вось у чым. На скрыню ці на дзяжу кладуць падушку, затым сват бярэцца за адзін канец ручніка, другі канец падае жаніху. Такім чынам сват і вядзе жаніха на пасад. Перш чым сесці, жаніх звычайна хрысціцца, затым бацька і маці блаславуляюць яго крыжам і жадаюць яму пры гэтым здароўя, добрага жыцця ў пары і ўсялякага шчасця. Пасля гэтага жаніх устае з пасада, кланяецца ў ногі бацьку і маці і цалуе ім рукі. Затым кланяецца нізкім зямным паклонам усім прысутным і ад'язджае да нявесты. Жаніха пры гэтым суправаджае цэлая світа неабходных з яго боку на вяселлі асоб; світа гэта называецца *дружынай жаніха*; яе складаюць наступныя асобы: *сват*, *дзядзечка*, *сванька*, родная сястра жаніха, калі толькі яна ёсць у яго, *пакоснік* і абавязкова адна замужняя жанчына — сваячка

жаніха. Акрамя таго, едуць і іншыя сваякі жаніха, хоць гэта ім не ставіцца ў абавязак.

Дзядзечка і пакоснік — гэта шаферы; розніца паміж імі тая, што дзядзечкам бывае заўсёды халасты чалавек і часцей сваяк жаніха. Запрасіць дзядзечкам імкнуцца бойкага і прыгожага хлопца, адным словам, каб ён быў зусім маладзец і, як гавораць, *зух*. Сванька — гэта дзяўчына; роля яе ў вяселлі высвятляецца ніжэй. Пры выездзе *дружыны* дзяўчаты і жанчыны спяваюць:

Маладзенькі Ясенька,
Будзеш ехаць каля садочку,
Вышчыпні сабе кветачку
Да заткні за шапачку,
Каб цябе цешча пазнала,
Маладым зяцем назвала.

Калі жаніх і нявеста з адной вёскі, то ўсе госці з дому жаніха ідуць у дом нявесты, а калі нявеста жыве ў іншай вёсцы, то госці пасля папярэдняга частавання разыходзяцца па дамах, чакаючы вяселля ў дом жаніха, таму што, як мы ўбачым ніжэй, пасля вяселля ў доме нявесты пачынаецца вяселле ў доме жаніха, вядома, з прыездам першай ужо як жонкі.

## VI

А вось што робіцца ў доме нявесты перад прыездам жаніха. Перш за ўсё нявеста пачынае адзявацца, прычым ёй у гэтым дапамагаюць дружкі. Лічым не лішнім пры гэтым упамянуць пра ўбранне нявесты. Уласна кажучы, асаблівай моды няма: нявеста адзяецца чыста, па-святочнаму, але ва ўсё звычайнае. На галаву надзяваецца вянок з мірту; вянок гэты нявеста купляе. У апошні час па прыкладу гараджан нявесты-сялянкі пачынаюць адзявацца ў белую сукенку, звычайна з лепшага палатна: сукенка гэта шыецца вясковым краўцом, амаль заўсёды яўрэем, і прытым па апошняй модзе. Калі нявеста адзелася, то дружкі, сваціца, *браты* (шаферы) і нявеста садзяцца за стол. Нявеста заўсёды садзіцца сярод сваіх і прытым на падушцы. Сядзенне гэта працягваецца не больш як хвіліну. Пасля гэтага ўсе ўстаюць, адсоўваюць стол далей ад лавы і пачынаюць хадзіць вакол яго. Першым ідзе брат, г. зн. шафер, у руцэ ў яго ручнік, адзін канец якога трымае нявеста, за нявестай ідзе сваціца з падушкай, на якой сядзела нявеста. Падушка гэта называецца вясельнай, уся яна па краях абшыта чырвонай стужкай. За сваціцай адна за адной ідуць дружкі і спяваюць:

Ой, куця, мой куця,
Багаславі мяне!

Стол абходзяць тры разы. Нявеста пры гэтым заўсёды плача і кланяецца тры разы ў чырвоны кут, дзе звычайна вісяць абразы. А ў натоўпе гасцей у гэты час дзяўчаты і жанчыны спяваюць:

Ой, пашоў вінаград,
Ой, пашоў зялёны
Па-за явару.
Ой, пашла Ганулька,
Ой, пашла малада
Па застолейку.

Калі стол абышлі тры разы, брат вядзе нявесту на пасад у суправаджэнні ўсіх гасцей. На пасад нявесту вядуць заўсёды ў *стопку*, г. зн. у іншую палову дома, дзе знаходзіцца камора. Пры гэтым усе спяваюць:

Ой, ляцела зязюлька чараз сад,
Ой, рана, раненька чараз сад,
Ой, час табе, Ганулька, на пасад!

Пасля гэтага пачынаюць спяваць:

Ой, пастаньце, баяр'я,
Усе ў рад,
Будзе іці маладая
На пасад.

Потым пачынаюць садзіць маладую на пасад. Звычайна сваціца кладзе вясельную падушку на скрыню, у якой ужо раней пастаўлена бутэлька гарэлкі і закуска. Што робіцца з гэтай гарэлкай, убачым ніжэй. Калі нявеста ўжо села на скрыні, то брат падыходзіць да дзвярэй і, трымаючы ў руках чарку з гарэлкай, накрытую хусткай, кажа: *«Брацця, саседзі, прыяцелі, просім маладую на пасад садзіць»*. На гэта яму адказваюць: *«Няхай бог благаславіць»*. Пытанне гэта і адказ на яго паўтараюцца тры разы. На гэтым цырымонія з пасадам канчаецца.

Нявесту, так жа як прывялі, вядуць назад у дом. Пры гэтым дружкі і сваціца спяваюць:

Брацейка родненькі,
Вядзі мяне памаленьку,
Вядзі мяне паціханьку,
Каб я усім скланілася,
Галоўкаю схілілася:
Стараму і маламу
І каждаму роўнаму.

Нявеста кланяецца ўсім прысутным нізкім паклонам. У натоўпе на гэта ёй адказваюць: *«Няхай бог благаславіць шчасцем з доляю, з хлебам і солею, з доўгім векам і з добрым чалавекам».* Пасля гэтага нявеста са сваёю дружынаю ідзе садзіцца за стол і чакае жаніха. Калі прыедзе са сваёй дружынай жаніх, ён садзіцца са світай у хаце за іншым сталом. На стале каля нявесты ставяць тую чарку гарэлкі, якую брат трымаў пад хусткай у час пасада. Гарэлкі гэтай ніхто не п'е да вяртання жаніха і нявесты з царквы. Толькі пасля вяртання яе выпівае сват. Потым сваціца прыколвае нявесце вяночак на галаве. Гэта той вянок з пярсцёнкам, які падрыхтаваны яшчэ ў суботу ў час дзявічніка. Пры гэтым дружкі спяваюць:

Ойчанька родненькі,
Ой, прыступі к сталу,
Благаславі мяне!

Бацька пасля гэтага падыходзіць да стала і цалуе праз стол дачку, кажучы пры гэтым: *«Няхай бог благаславіць!».* Гэта таксама робіць і маці. Затым усе падыходзяць да нявесты і цалуюць яе, выказваючы пры гэтым свае добрыя пажаданні. Трэба заўважыць, што як бацькі, так і ўсе іншыя падыходзяць цалаваць нявесту не самавольна, а па выкліку, г. зн. дружкі спяваюць прыведзеную вышэй песню, замяняючы ў ёй выраз *«ойчанька родненькі»* на *«матулечка родненька», «брацейка родненькі», «сястрыца родненька»* і г. д. На працягу ўсёй гэтай цырымоніі нявеста, закрыўшыся хусткаю, плача. Калі нявеста — сірата і мае толькі маці, то і тут спяваюць таксама спачатку «ойчанька родненькі», але паколькі на гэты выклік ніхто не з'яўляецца, то спяваюць:

Брацейка родненькі,
Садзісь у крэслейкі:
Пішы лісты бяленькія,
Пасылай служкі вярненькія
Па майго татулю,
Па майго роднага.

Калі гэта праспяваюць, устанаўліваецца паўнейшая цішыня, пасля якой зноў спяваюць:

Брацейка родненькі,
Ці твае лісты не белыя,
Ці твае служкі не верныя?

Пасля гэтага да нявесты падыходзіць хто-небудзь з яе родных і бласлаўляе яе, г. зн. цалуе і жадае ўсяго добрага. У гэты ж час спяваюць:

Сыдзі, сыдзі, сонейка,
У кутняе аконейка.
Ой, сядзь на покуце,
Будзь мне за ойчаньку,
Будзь мне за роднага.

Тое ж самае спяваюць нявесце, калі ў яе няма маці, замяняючы слова *ойчанька* словам *матанька, матулечка*. Апрача таго, у гэтым выпадку спяваюць наступную песню:

Да хто ж там да ў цёмным лесе гукае?
Малада Ганначка сваёй матанькі шукае.
Да скацілася сіня ягадка з прыгор'я,
Да прасілася малада Ганулька з застолля;
Да скацілася сіня ягадка ў даліну,
Да ўжэ ж я нашла сваёй матанькі магілу.
— Ой, устань, устань, мая матанька, не ляжы,
Да ідзі, прыйдзі, мне на вяселле памажы.
— Ой, не магу, маё дзіцятка, не ўстану:
Да зрабілі мне святлічаньку сталяры,
Ой, не пусцілі ні аконейкаў, ні дзвярэй.
Прыбілі ножкі к цясовай дошке — не ўстану,
Злажылі ручкі к чыстаму сэрцу — не ўзніму,
Засыпалі вочкі жоўтым пясочкам — не ўзгляну.

Усё гэта робіцца да вянчання і называецца *багаславенне*. Калі багаславенне закончана, то дружкі спяваюць:

Ойчанька родненькі,
Не забаўляй мяне,
Да выпраўляй мяне:
Мяне ксяндзы ажыдаюць
І цэркхвачку адчыняюць,
І свечачкі запаляюць,
І столікі расстаўляюць,
І каберцы засцілаюць.

Пасля гэтага жаніх са сваёю дружынаю, а нявеста са сваёй ад'язджаюць да царквы. Кожны конь са званочкам і часта бывае ўпрыгожаны кветкамі. Пры гэтым, калі ўсе ўжо сядуць на вазы, бацька або маці нявесты тры разы абходзіць усе вазы з хлебам, соллю і чаркай гарэлкі, затым хрысціць рукою дарогу, і ўсе ў вясёлым настроі спяшаюцца ў царкву.

## VII

Жаніх і нявеста едуць да царквы не еўшы, таму што бываюць на споведзі і прычашчаюцца. Шлюб бывае звычайна адразу пасля літургіі. Калі ў царкве ўвесь абрад шлюбу падрыхтаваны, то

сваціца кладзе на тое месца, дзе павінны стаяць жаніх і нявеста, ручнік дамашняга вырабу і пояс. Усё гэта загадзя перадаецца сваціцы нявестай. Пояс павінен быць абавязкова вытканы самой нявестай, ён служыць сімвалам сувязі паміж ёю і будучым мужам. Пры абрадзе шлюбу нявеста мае звычай плакаць, хоць бы яна была і ў самым вясёлым настроі, таму што існуе ў простанароддзі павер'е, паводле якога той, хто ў гэты час не плача, будзе плакаць у жыцці, і наадварот. Пасля шлюбу ўсе адразу едуць у дом нявесты. Заўважым пры гэтым, што калі бацькі нявесты жывуць далёка ад царквы, то пасля шлюбу вясельная кампанія папярэдне заязджае ў бліжэйшую карчму, дзе ўсе выпіваюць і закусваюць. У карчме доўга не заседжваюцца, стараюцца хутчэй ехаць. З царквы едуць такім парадкам: на першым возе — маладыя, затым сват са сваціцай, далей браты з дружкамі і інш. Калі пад'едуць к дому, то ніхто не ўваходзіць у яго, а ўсе сядзяць, чакаючы запрашэння з боку гаспадара дома. У гэты час дружкі спяваюць:

Ойчанька родненькі,
Чаму не выходзіш,
Чаму не пытаеш,
Гдзе мы бывалі,
Што мы слыхалі?
Мы бывалі ў божым дамочку,
Пры галасном званочку,
На каберцы пастаялі.
Пярсцёначкі памянялі.

Пасля гэтага з'яўляецца гаспадар дома з хлебам, соллю і гарэлкай і запрашае ўсіх у дом. Там госці садзяцца за стол, каб распачынаць вяселле. Рассаджваюцца ў наступным парадку: маладыя — на вясельнай падушцы, каля нявесты — дружкі, ля жаніха — сват, сваціца і браты. Пачынаюць выпіваць і закусваць, а жаніх між тым адразу едзе ў дом сваіх бацькоў, пакідаючы ўсю кампанію весяліцца.

## VIII

Як толькі жаніх ад'едзе, пачынаюцца танцы, якія адкрывае нявеста. Для гэтага яна пасля закускі выходзіць у сенцы, кліча да сябе хроснага бацьку або, у выпадку яго адсутнасці, каго-небудзь са сваякоў і пачынае *скакаць*. Уласна кажучы, яна не танцуе, а, узяўшыся за рукі з хросным бацькам, кружыцца з ім раздругі, пасля чаго моладзь пачынае скокі. Нявеста падносіць хроснаму бацьку падарунак — палатно дамашняга вырабу (не больш трох аршынаў) і пояс. Танцуюць заўсёды ў сенцах пад скрыпку,

а часам, калі няма скрыпача, пад гармонік. Тое ж самае робіцца і ў доме жаніха з яго прыездам, так што вяселле адбываецца ў абодвух дамах пры ўдзеле адной асобы з маладой пары: там — нявесты, тут — жаніха.

Старыя і сярэдняга ўзросту людзі, як кажуць, паважаныя, якія не ўдзельнічаюць у танцах, сядзяць у хаце, закусваюць, выпіваюць і размаўляюць.

Пры гэтым трэба заўважыць, што ўсе п'юць з адной чаркі і па чарзе. П'е, напрыклад, Базыль, затым Ясь, далей Міхась і г. д. Кожны, хто выпіў, налівае чарку гарэлкі і перадае яе наступнаму, той, беручы чарку ў рукі, жадае здароўя таму, хто яе яму падносіць.

## IX

Цяпер скажам некалькі слоў пра танцы, або *скаканне*. Самымі любімымі танцамі лічацца *кракавяк, кадрэля, лявоніха* (інакш *барынька*), *казачок, полька, англеза, вальс* і *мяцеліца*. Танцуюць яшчэ, хоць і не так часта, *кукаўку, бычка, петушка, Антона, бяду* і *рускую вясёлую*. Кракавяк, кадрэлю, польку і вальс у асноўным танцуюць гэтак жа, як прынята ў інтэлігентных колах, хоць, вядома, далёка не так умела і правільна — са спрашчэннем і перарабкамі на свой густ. Што ж датычыць іншых танцаў, то не лішне аб іх сказаць некалькі слоў. Лявоніха, або барынька, танцуецца накшталт полькі. Казачок танцуюць выключна мужчыны, і прытым двое. Самым лепшым танцорам у гэтым танцы лічыцца той, хто спрытна і свабодна, узяўшыся ў бокі, вырабляе сваімі нагамі розныя «па» ў бок, адначасова падскокваючы. Пры гэтым танцоры мімікай стараюцца паказаць сваю зухаватасць. З прычыны таго, што ў гэтым танцы часта даводзіцца падскокваць уверх і хутка апускацца ўніз, то і сам танец больш вядомы пад назвай *прысядкі* (ад слова *прысядаць*). Англеза — нешта накшталт кадрылі, вядома, з вялікімі зменамі. Мяцеліца танцуецца з такімі кружэннямі ў розныя бакі, быццам сапраўды мяцеліца завівае віхры снегу. Відаць, ніякіх асаблівых правіл для гэтага танца не існуе. Выконваючы мяцеліцу, усе, хто танцуе і хто толькі бывае пры гэтым, спяваюць вядомую народную рускую песню:

> Вдоль по улице метелица метет,
> За метелицей мой миленький идет і г. д.

Кукаўку танцуюць толькі чатыры дзяўчыны і такім чынам. Становяцца дзве дзяўчыны vis-a-vis, а за спіною кожнай з іх — яшчэ па адной дзяўчыне ў такім жа парадку. Затым дзяўчаты,

якія стаяць за спіною, хутка пераглядваюцца адна з адной з-за спіны — то з аднаго боку, то з другога, напяваючы пры гэтым:

Ку-ку, ку-ку, кукушачка,
Ку-ку, ку-ку, рабенькая.

Далей гэтыя дзве дзяўчыны, якія напявалі прыведзены верш і пераглядваліся з-за спіны, выбягаюць хутка насярэдзіну, бяруцца за рукі, прычым так, каб твары былі павернуты ў процілеглыя бакі, і пачынаюць кружыцца. Затым становяцца наперадзе тых дзяўчат, якія стаялі перад імі. Апошнія ў сваю чаргу пачынаюць выконваць тую ж працэдуру.

Бычок — нешта накшталт першай фігуры кадрылі. Танцуецца чатырма парамі, якія становяцца vis-a-vis, накрыж. Танец гэты, уласна кажучы, яўрэйскі; ён лічыцца ў яўрэяў самым любімым. Хоць ён і перайшоў да беларускага народа, але не карыстаецца ў яго асаблівай славай.

Петушок выконваецца так. Удзельнікі танца становяцца ў рад па аднаму чалавеку, бяруцца за рукі, і той, хто стаіць першым у радзе, пачынае хутка кружыць усіх астатніх. Пры выкананні гэтага танца спяваюць:

Ка-ка-рэ-ку, пятушок,
Чырвоненькі грабяшок,
Каля рэчкі хадзіў,
Скакарэчыўся:
Ці ты ножку зламаў,
Ці скалечыўся?

Антон. Удзельнікі гэтага танца бяруцца накрыж за рукі, кружацца то ў адзін, то ў другі бок, прыпяваючы:

Антон казу вядзе,
Тпруць-мыць, каза не йдзе,
Антоніха папіхае,
На табаку зарабляе,
На тытунь,
На табаку,
Антона лаюць як сабаку.

Бяда, або інакш *шарлатан*, выконваецца так: усе ўдзельнікі танца бяруцца за рукі і ўтвараюць круг, а адзін з танцораў становіцца ў крузе. Музыкі пачынаюць жаласна іграць, і ўсе памалу кружацца; танцор, які стаў у крузе, закрывае вочы хусткаю, «плача» і таксама кружыцца; але як толькі музыканты пачнуць наігрываць вясёлы матыў, ён хутка хапае каго-небудзь з круга і пачынае з ім кружыцца. Затым адпускае напарніка на месца;

музыка зноў пачынае жаласна іграць. Паўтараецца тое ж самае. Быць у гэтым крузе — значыць, як гаворыцца ў народзе, *бедаваць*.

Руская вясёлая выконваецца накшталт вышэйапісанага казачка, танцуецца таксама ўдваіх.

Удзень вяселле ўзнаўляецца каля 10—11 гадзін з захаваннем розных звычаяў і абрадаў.

Калі госці ўжо сабраліся і пачалося гулянне, нявесту вядуць на пасад. Робіцца гэта так жа сама, як і першы раз, з тымі ж песнямі. Пасля пасада нявесту вядуць і садзяць за галоўны стол на вясельнай падушцы. З ёю побач садзяцца сваціца і дружкі. Усе ж іншыя садзяцца за другім сталом побач з жаніхом. Сваціца здымае з галавы маладой вянок і надзяе чапец. У гэты час дружкі спяваюць:

Закінь чапец на печ,
Няхай мышы носяць
І за цябе бога просяць.

Маладая зрывае з галавы чапец і кідае яго на печ, але хтонебудзь з гасцей забірае яго адтуль і падае сваціцы. Сваціца зноў надзяе чапец на галаву нявесты, а дружкі спяваюць тую ж песню. Гэта паўтараецца тры разы і ўжо толькі пасля трэцяга разу маладая не скідае са сваёй галавы чапца. Тады дружкі спяваюць:

Свацечка, галубачка,
Каб твой гаршун куры падраў,
Як ты маю касу дзярэш;
Каб тваё жыта на полі па каласочку,[4]
Як мая каса на валасочку.

Пасля гэтай песні спяваюць наступную:

Свацечка, галубачка,
Не так прыбіраеш,
Не так завязваеш:
Запляці косаньку,
Завяжы хустаньку.

Калі дружкі праспяваюць гэтыя песні, то маладая з чапцом на галаве, плачучы, пачынае спяваць:

Ой, цяжка мне, цяжка

---

[4] Г. зн., каб жыта ўзышло рэдка, не ўрадзіла.

(дружкі падхопліваюць і працягваюць):

Пад бабскаю абладаю![5]
Было мне лёганька
У дзявочым станочку.
Пашла мая каса
Пад цёмныя леса:
Гдзе дзевачкі не хадзілі,
Там маю касу палажылі.

На чапец маладой завязваюць маленькую хустачку, а на апошнюю — яшчэ большую хустку велічынёю прыкладна з прасціну. Да хусткі прышываюць ніткамі той вяночак, які падрыхтавалі нявесце яшчэ ў дзень дзявічніка. Затым пачынаецца выкуп нявесты. Гэта адбываецца так. Да стала, дзе сядзіць маладая са сваёю дружынаю, падыходзіць дружына жаніха і просіць усю кампанію, каб яна адпусціла маладую. Дружкі і сваціца не згаджаюцца і патрабуюць, каб ім за гэта заплацілі. Дружына жаніха дае тады дружцы і сваціцы грошы і зноў просіць, каб яны адпусцілі нявесту. Тады дружкі выходзяць з-за стала, падхопліваюць пад рукі маладую і цягнуць яе на сярэдзіну хаты, а часам зацягваюць яе з сабою ў другую палову дома, у стопку. У апошнім выпадку выкуп маладой паўтараецца. Перад выкупам маладая, звяртаючыся да сваёй дружыны, спявае:

Дзявочкі, сястрыцы,
Не прадавайце мяне
Гэтым чужаземцам,
Гэтым чужапанцам.

Калі абрад з выкупам закончаны, маладыя садзяцца за стол разам, і тады маладую пачынаюць дарыць. Гэта адбываецца такім чынам. Ставяць на стол талерку, накрываюць яе хусткай і кладуць на хустку адзін абаранак. Потым сват падымае талерку ўверх і кажа: «*Панове брацця, панове суседзі, панове прыяцелі, просіць маладая на падарунак*». Пасля гэтага пачынаюць класці на талерку падарункі. Перш за ўсё кладуць падарунак бацькі маладой, а потым ужо ўсе астатнія. На талерку кладуць толькі грошы, а калі хто-небудзь дарүе што іншае, як напрыклад палатно, то гэтыя падарункі сват складвае ў чырвоным кутку. Часам так многа даруюць палатна, што займаюць ім увесь *покут* — да самай столі. Здараецца, што даруюць і свойскую жывёлу. У апошнім выпадку падарунак аддаецца пасля вяселля. Кожнаму, хто чым-небудзь дорыць маладую, дзядзечка падносіць чар-

[5] Уладаю.

ку гарэлкі, а калі хто абяцае даць у падарунак карову, цялё, авечку, свінню, наогул хто дарые жывёлу, таму дзядзечка падносіць дзве чаркі гарэлкі ў знак вялікай удзячнасці. Кожнаму, хто падносіць падарунак, маладыя дзякуюць нізкім паклонам, пры гэтым свацціа, сванька і іншыя спяваюць:

Суседачка, прыяцёлачка,
Дзянькую вашэці.[6]
Вашэць ночкі не даспала,
Падарачкі гатавала.

Так спяваюць толькі жанчынам, якія даюць у падарункі палатно. Калі закончаць дарыць маладую, пачынаюць абедаць. К абеду гатуюць выключна гарачыя стравы, і прытым самыя звычайныя, напрыклад, абед пачынаецца з капусты з салам. Абед працягваецца даволі доўга. Пасля абеду ўзнаўляюцца танцы, якія працягваюцца да вечара. Вечарам жа збіраюцца вячэраць на вяселлі ў сям'і жаніха. Пры гэтым захоўваецца такі парадак. Спачатку едуць маладыя з дружынаю жаніха, за выключэннем дзядзечкі, а праз 2—3 гадзіны едзе маці маладой з цэлай світай сваякоў і лепшых знаёмых, у тым ліку і дзядзечка. З яе ад'ездам заканчваецца ў яе доме вяселле. Пры выездзе маладых спяваюць:

Паедзем, Ганулька,
У чужыя людзі,
Ой, рана, рана, у чужыя людзі!
Там табе, Ганулька,
Да горай будзе,
Ой, рана, рана, да горай будзе!
Тваю работу
Там пераробяць,
Ой, рана, рана, там пераробяць!
Тваю паходку
Там пераходзяць,
Ой, рана, рана, там пераходзяць!
Тваю гутарку
Там перагавораць,
Ой, рана, рана, там перагавораць!
— Чужая маці
Мне работанькі не ўкажа,
Ой, рана, рана, мне не ўкажа!
Выйдзе на улку,
Усім суседзейкам раскажа,
Ой, рана, рана, усім суседзейкам раскажа!
Ой, то нявестка, ой, то малада добранька,
Спіць да абеду аж да самага сонейка,
Ой, рана, рана, аж да самага сонейка!

---

[6] *Вашэць* — ваша міласць; слова гэта ўжываюць, калі хочуць выказаць каму-небудзь сваю асаблівую ветлівасць і пашану.

Сонейка ўзыйдзе,
У гору падыйдзе,
Ой, рана, рана, у гору падыйдзе!
Яна спіць,
А як прахопіцца —
Сама не знае,
Што рабіць,
Ой, рана, рана, што рабіць!

Далей дружкі, нібы ад імя маладой, спяваюць:

Да бывай, бывай, мая матанька, здарова,
Да паеду я з чужымі людзьмі ў дарогу,
Табе, матанька, новыя сені і камора,
А мне, маладой, куфар, адзежа і карова,
Табе, матанька, новыя сені і святліца,
А мне, маладой, куфар, адзежа і спадніца.

Затым, звярнуўшыся да мацеры маладой, спяваюць:

Матанька родная, ой, наўчай свайго зяця,
Каб не быў горкай п'яніцаю —
Вялікаю нядбайліцаю,
Каб не была суседка — матка,
Пад паветкаю хатка,
За углам пасцеля,
Пад плотам вячэра.

Калі ўсе ўсядуцца на вазах, то тыя, што застаюцца, спяваюць:

Да едзьце, сваты, дадому,
Паелі конікі салому
І ячную мякіну,
Каля плоту крапіву.

Пасля гэтага маладая пачынае спяваць і ўсе падхопліваюць:

Дзявочкі, сястрыцы,
Сядайце ўсе на воз:
Каб нас конь не павёз,
Каб нарада [7] зламалася,
Каб я ў маткі засталася.

Затым бацька маладой з хлебам, соллю і гарэлкай тры разы абходзіць усе вазы і дае выпіць маладым па чарцы гарэлкі. Маладыя выпіваюць, закусваюць і цалуюць бацьку ў руку; ён цалуе іх у твар і хрысціць на дарогу. Як толькі коні рушаць, маладая спявае:

Матанька родная,
Прыязджай за мною.

---

[7] Кузаў калёс.

Пры гэтых словах маладая заўсёды аглядваецца назад на бацькоўскі дом, як бы развітваючыся з ім. На возе з маладымі садзіцца таксама і сванька, якая вязе з сабой *гасцінец* для дзяўчат, што будуць яе сустракаць. Акрамя таго, яна вязе з сабою куру, талерку, шклянку і вялікую драўляную лыжку. Маладая ж вязе з сабою ў хустцы жменю жыта.

## X

Прыехаўшы да дома бацькоў жаніха, уся кампанія спыняецца каля варот, пачынае спяваць:

Адчыняй, маці, вароты,
Вязём нявестку, як злота;
Адчыняй, маці, аконца,
Вязём нявестку, як сонца.

Потым выходзіць маці жаніха, адзетая ў вывернуты кажух. Яна трымае на галаве века ад дзяжы і так абходзіць тры разы воз, на якім сядзяць маладыя. Кожны раз векам яна датыкаецца да галоў маладых. За маткай жаніха пры гэтым ходзіць сват з бізуном, якім злёгку б'е яе па *кажуху*. Маладая, калі маці дакнецца трэці раз, кладзе ёй у падарунак на века кавалак палатна, абвязаны поясам. Пасля гэтага маці просіць маладых у хату. Маладыя злазяць з воза і ідуць у хату па палатне, што разаслана ад воза да стала ў чырвоным кутку. Пры ўваходзе ў дом маладая здымае з пальца адзін пярсцёнак, але не заручальны, і кладзе яго на краю печы. Затым яна, стоячы на месцы, сыпле жменяю прывезенае жыта ва ўсе куткі, пачынаючы з чырвонага — з покута. Пасля выканання гэтага абраду маладыя садзяцца за стол. Ім падаюць на скаварадзе яечню, якую маладыя ядуць адной лыжкай — той, што прывезлі з сабою. Шклянкаю ж, якую таксама прывезлі з сабою, яны п'юць гарэлку або піва, а куру яшчэ пры ўваходзе ў хату пускаюць на падлогу і заганяюць пад печ, у куратнік. Сваньку сустракаюць з песнямі і з тымі ж цырымоніямі, з якімі сустракалі яе і ў доме маладой. Калі маладыя ядуць яечню, ім спяваюць наступную песню:

Гдзе быў салавейка?
Гдзе была зязюлька?
Ой, рана, рана, гдзе была зязюлька?
Зляцеліся на адзін кусточак,
На адзін кусточак, пад адзін лісточак,
Ой, рана, рана, пад адзін лісточак.
Клявалі малінкі
З адной галінкі,

Ой, рана, рана, з адной галінкі.
Гдзе быў Базылька?
Гдзе была Ганулька?
Ой, рана, рана, гдзе была Ганулька?
Яны зышліся
На адно падвор'е,
Ой, рана, рана, на адно падвор'е.
На адно падвор'е,
За адно застолле,
Ой, рана, рана, за адно застолле!
Пілі гарэлку
З аднаго кілішка,
Ой, рана, рана, з аднаго кілішка!
Елі патраву з аднаго паўміска,
Ой, рана, рана, з аднаго паўміска!

Затым, калі маладыя закусяць, бацька жаніха падыходзіць да маладой і здымае з яе галавы вялікую хустку. Маладая пры гэтым дае яму ў падарунак кавалак палатна або ручнік, абвязаны поясам. Пасля гэтага маладыя выходзяць з-за стала. Пачынаецца гулянка і танцы, якія працягваюцца без перапынку да прыезду маці маладой.

У гадзін 10—11 вечара прыязджае маці маладой разам з цэлай світай сваякоў і знаёмых. Маці вязе з сабою пасаг для сваёй дачкі — палатно, сукенку і розную дробязь. Усё гэта павінна быць складзена ў скрыні — куфры. Скрыню ставяць на вялікі воз, на скрыню садзіцца родны ці дваюродны брат маладой ці яшчэ хто-небудзь. Вакол скрыні на возе садзяцца яшчэ музыка і дзядзечка. Усю гэту кампанію называюць *прыданымі*. Пад'язджаючы да дому бацькоў жаніха, прыданыя спяваюць:

Да ў цёмным лесе
Да прыданачкі блудзілі,
Да ў чыстым полі
Да дарожаньку згубілі.
Вышла, выбегла да маленькае хлапчаня
Да ўказала нам дарожаньку да сяла.
— Да сюда, сюда, да прыданачкі, да сяла,
Да тут ваша выхаваначка везяна.

Усе выходзяць з дому сустракаць гасцей. Той, што сядзіць на скрыні, выдае сябе за яе ўладальніка і не дазваляе здымаць яе з воза. Яго пачынаюць упрошваць, але ён не згаджаецца. Нарэшце, да яго звяртаецца жаніх і дае яму некалькі капеек. Пасля гэтага «ўладальнік» скрыні дазваляе зняць яе з воза. Скрыню нясуць у сенцы, ставяць на падлозе ў кутку. Затым гаспадар дома запрашае ўсіх прыезжых у дом на вяселле. Тыя ўваходзяць, ім, як і ўсім, хто сабраўся, прапануюць вячэру. Перш за ўсё па-

даюць капусту, затым кашу, лапшу і інш. Пры гэтым трэба заўважыць — маці маладой, хоць і сядзіць за сталом, але нічога не есць: яна посціцца, каб выпасціць, як гаворыцца ў народзе, шчасце для сваёй дачкі. У час вячэры дзяўчаты спяваюць наступныя песні:

Ой, ці густа капуста,
Ой, ці поўны гаршчок кашы,
Ці пад'ядуць приданкі нашы?

Да прыехалі сваты
Да з багатай хаты,
Да з багатай хаты,
Да з галоднага краю;
Што падалі — усё з'елі:
І котку з кацянатамі,
І сучку са шчанятамі.

Маладыя прыданачкі
Чорныя, як цыганачкі,
Памыямі умываліся,
Памялом часаліся,
Да й ганучаю ўціраліся,
Да за стол забраліся.

Прыданыя ў адказ дзяўчатам спяваюць:

Маладыя дзявочкі!
Ой, не праўду вы гаворыце,
Мы сямі мыламі ўмываліся,
Ядвабнымі [8] ручнікамі ўціраліся,
Залатымі грэбнямі часаліся.

Затым, калі кончаць вячэраць, працягваюцца танцы і гулянне. Гуляюць да раніцы. А раніцаю разыходзяцца спаць. Некаторыя ідуць дадому і ўжо больш не прыходзяць на вяселле, але большасць аматараў пагуляць і выпіць ідуць адпачываць, каб потым зноў працягваць вяселле.

## XI

У гадзін 10—11 наступнага дня (аўторка) вяселле аднаўляецца. Моладзь пачынае танцаваць, а тыя, што не танцуюць, сядзяць у хаце, гамоняць за чаркай. Калі маладыя і ўся вясельная світа ў зборы, пачынаюць адорваць жаніха. Тут захоўваюцца тыя ж цырымоніі, што і пры адорванні маладой. Аднак трэба заўва-

[8] Шаўковымі.

жыць, што маладая ў той час, калі адорваюць маладога, з свайго боку таксама робіць падарункі, але толькі сваякам маладога. Закончыўшы цырымонію з падарункамі, усе садзяцца абедаць. Пасля абеду маці маладой вымае са скрыні, дзе быў пасаг, некалькі кавалкаў палатна і разам з бацькам маладога — гаспадаром дома ходзіць па ўсіх будынках: хлявах, гумну, клеці і іншых — і ўсюды вешае на сцяне па кавалку палатна, а калі ёсць пчолы, то кладзе па кавалку палатна і на вуллі. Цырымонія гэта працягваецца даволі доўга. Між тым у доме танцуюць і весяляцца. Гулянне працягваецца да позняга вечара. Вечарам даюць вячэру, пасля чаго вяселле спыняецца. На наступны дзень (у сераду) вяселле аднаўляецца і працягваецца да вечара наступнага дня (у чацвер). Вечарам жа ў гэты дзень вяселле канчаткова спыняецца. Заканчэннем вяселля лічыцца ад'езд прыданых дадому, пасля чаго ўсе разыходзяцца і ўжо больш не прыходзяць на вяселле. Ад'езд прыданых суправаджаецца наступнымі звычаямі. Маці маладой вымае са скрыні з пасагам бутэльку гарэлкі, якая была пастаўлена туды, як мы бачылі, яшчэ ў час пасада, і частуе ёю сваякоў, а калі гарэлкі дастаткова, то і добрых знаёмых. Пасля гэтага прыданыя збіраюцца ад'язджаць. Пры ад'ездзе спяваюцца наступныя песні:

Да скакаў зайчык
Чэраз папарчык
Да ў гавёс.
Паехаў брацятка
За сястрычкаю —
Не прывёз.
Бадай ты, братка,
Горкай гарэлкі напіўся,
Як ты сваёй роднай сястрыцы забыўся!
— Да там мяне півам, віном паілі,
Перада мною маю сястрыцу ўтаілі.
Да там мяне да гарэлкаю частавалі,
Перада мною маю сястрыцу схавалі!

Да на стаянцы вараны конік рагоча,
Брат з сястрыцаю расставаціся не хоча.
Да на стаянцы вараны конік ножкай туп,
А ўжо ж ты будзеш, мая сястрыца, да ўжо ж тут!

Словы абедзвюх гэтых песень адносяцца да роднага брата маладой.

Да бывай, бывай, маё дзіцятка, ў добры час,
Да я не буду цэлы гадочак у гасцях у вас!
Да хоць вы яе
Да таўчы, малоць застаўце,

Да хаця ж вы яе
Часта ў госці пускайце!
Да хоць вы яе
Да качаргою набіце,
Да хаця ж вы яе
Гаспадынькаю завіце.

Калі прыданыя ад'язджаюць, услед за імі разыходзяцца ўсе госці. Праз тыдзень, г. зн. у першую нядзелю пасля шлюбу, маладая пара на чале з дамашнімі адпраўляецца ў дом бацькоў маладой па пасаг — па свойскую жывёлу і наогул па прадметы, якія нельга было ўзяць з сабою ў скрыні. Склікаюцца лепшыя суседзі, і наладжваецца банкет, часам на ўсю ноч.

# [ВЯСЕЛЬНЫ АБРАД У МЯСТЭЧКУ ХАЛОПЕНІЧЫ БАРЫСАЎСКАГА ПАВЕТА МІНСКАЙ ГУБЕРНІ]

**Запісаў А. Я. Багдановіч**

Мэта гэтага нарыса — апісанне вясельнага абраду разам з абрадамі сватання, запівін і заручын. Названыя абрады калісьці выконваліся ў м. Халопенічы ва ўсёй іх паўнаце і непарушнасці, але ў апошні час шмат у чым змяніліся.

Са змяненнем бытавых умоў народа змяняюцца і яго абрады. У ранейшыя часы, г. зн. да рэформы 19 лютага 1861 года, сяляне Барысаўскага павета адбывалі *прыгон* (паншчыну), апрацоўвалі зямлю, адведзеную кожнай сям'і з ласкі памешчыка або яго «камісараў» (пaвераных) і аканомаў; адыходнымі промысламі не займаліся і наогул рэдка пакідалі свае селішча. Пасля ж вызвалення сялян значная частка панскай чэлядзі, якая засталася без зямельных надзелаў, вымушана была шукаць занятку ў горадзе.

Сялянскія сем'і (склад якіх павялічыўся за 25-гадовы перыяд часу), не маючы магчымасці існаваць толькі за кошт апрацоўкі зямельнага надзелу, таксама вымушаны былі выдзеліць частку сваіх членаў для пабочных заробкаў у гарадах, на чыгуначных шляхах, заводах і інш.

Гэтыя вось «лішнія людзі» ў вёсцы, пабыўшы ў гарадах, на чыгунцы, на фабрыках, набіраюцца пошласці і заганнасці жыцця вялікіх прамысловых цэнтраў. Трацяць першародную чысціню нораваў, псуюць сваю мову вялікай колькасцю незразумелых ім самім слоў. Перыядычна вяртаючыся на радзіму, яны стараюцца

«казырнуць» перад прасцякамі-сваякамі сваёй лакейскай або фабрычнай адукаванасцю, адносяцца з пагардай да сялянскага быту, абрадаў і поглядаў, ганьбячы ўсё без разбору мужыцтвам і цямнотаю.

Гэтак сама адносяцца да народных поглядаў салдаты, якія вярнуліся з вайсковай службы. Усё гэта з'явілася прычынай некаторых змен у абрадавым жыцці селяніна і поўнага знішчэння паасобных абрадаў.

Дарэчы, асаблівым поспехам карыстаюцца гэтыя «піянеры гарадской культуры» сярод сялянскіх дзяўчат, спакушаючы іх расказамі аб прывабнасцях гарадскога жыцця, смеласцю або, дакладней, грубасцю сваіх паводзін і сваёй гаворкаю, перапоўненаю незразумелымі словамі. Вынікам іх «поспеху» з'яўляецца павелічэнне ў метрычных спісах колькасці незаконнанароджаных.

У апошні час асабліва заўзята накінуліся на народныя абрады свяшчэннікі, станавыя прыставы і ўраднікі: першыя пераконваюць сялян у грэшнасці некаторых [redacted] іх, таму што яны бяруць пачатак з часоў язычаства, а апошнія невядома з якіх меркаванняў, але таксама з'яўляюцца руплівымі змагарамі за выкараненне забабонаў і бесцырымонна разганяюць бізунамі моладзь, што сабралася святкаваць купалу.

Гэта, на маю думку, галоўныя прычыны, якія зрабілі ўплыў на змяненне светапогляду селяніна і абрадавага боку яго жыцця. Будзе гэта змяненнем да лепшага ці да горшага — вырашаць не бяруся.

Усё вышэйсказанае адносіцца да маёй радзімы — Барысаўскага павета і пераважна да Халопеніцкай воласці, якая мяжуе з Лепельскім паветам Віцебскай губерні і Сенненскім Магілёўскай губерні; як гэта выглядае ў іншых мясцовасцях Беларусі — не ведаю.

Ніжэйпададзенае апісанне вясельнага абраду пішу з успамінаў і расказаў і маю на ўвазе вясельны абрад ранейшага часу: цяпер ён значна змяніўся.

Гэты нарыс не можа лічыцца поўным, таму што амаль палову песень, якія адносяцца да вясельнага абраду, [redacted] пазабываў.

## СВАТАННЕ І ЗАПІВІНЫ

У сучасны момант на маёй радзіме пры сватанні не апошняе месца займае ўзаемная сімпатыя ці антыпатыя жаніха і нявесты, прынамсі, згода іх або нязгода бяруцца бацькамі ў разлік. Жаніх і нявеста, сыходзячыся на *ігрышчах, кірмашах,* ездзячы разам на начлег, начуючы ў адрыне, маюць магчымасць вывучыць

маральны бок адзін аднаго, даведацца аб прыгоднасці да сумеснага жыцця. Зразумела, што падобная блізкасць адносін нярэдка вядзе да сумных вынікаў для нявесты.

Атрымаўшы папярэднюю згоду нявесты, жаніх пасылае сватоў больш для захавання фармальнасці і для ўстанаўлення шлюбных умоў.

Крыху інакш было ў ранейшыя часы. Жаданні жаніха і нявесты ў разлік не браліся, сватанне абумоўлівалася галоўным чынам меркаваннямі чыста матэрыяльнага характару. Бацькі самавольна выбіралі нявесту для свайго сына, заручаючыся згодаю толькі яе бацькоў. Потым прасілі згоды на шлюб у мясцовага памешчыка, які, кіруючыся паляпшэннем пароды сваіх рабоў, часам жаніў слабага жаніха на здаровай нявесце і наадварот. У большасці выпадкаў прыгонныя не пярэчылі волі памешчыка. Часам памешчык або кіраўнік спраў гэтага памешчыка карысталіся і правам першай ночы, пазбегнуць чаго можна было толькі з дапамогай выкупу.

Тым не менш ад «прыхільнікаў даўніны і бацькоўскіх паданняў» мне нярэдка даводзілася чуць пахвальбу стараму парадку сватання, пры якім асабістыя схільнасці жаніха і нявесты не браліся пад увагу, і ганьбаванне новага звычаю лічыцца з іх жаданнем. Сцвярджаючы свае погляды, прыхільнікі даўніны імкнуліся даказаць, што абавязак нявесты — *шанаваць* свёкра і свякруху, ва ўсім іх слухацца, быць добрай работніцай; што ж датычыцца ўзаемных схільнасцей, казалі яны, то маладыя, пакуль стануць самастойнымі гаспадарамі, паспеюць злюбіцца, прызвычаіцца адно да аднаго; ды і «дурасць» у гэты час у галаву не палезе: трэба будзе клапаціцца аб гаспадарцы, аб дзецях і інш. І тут жа прыводзіліся прыклады шчаслівых шлюбаў, якія адбыліся супраць волі жаніха і нявесты, пад прымусам бацькоў. Вядома, што ў такіх шлюбах жонцы нярэдка даводзілася цярпець пабоі мужа і свёкра, даводзілася і ўцякаць да бацькоў, дзе няшчасная зноў сустракала нярэдка пабоі і перадавалася свайму мужу, які, зразумела, за падобныя ўчынкі па галоўцы не гладзіў. Усё гэта ведаюць прыхільнікі старыны, якія часам на сабе зведалі вынікі расхваленага імі парадку, але, спадзеючыся зноў не быць у такім становішчы, хваляць самавольства бацькоў.

З усяго сказанага вышэй відаць, што ў бацькоў жаніха пры выбары нявесты для сына на першым плане стаяць гаспадарчыя разлікі, у жаніха да гаспадарчых разлікаў дадаецца і прыхільнасць да нявесты.

Калі так або інакш бацькі дамовяцца з сынам адносна выбару нявесты, тады стараюцца разведаць праз людзей, ці можна раз-

лічваць на ўдалы зыход сватання. Атрымаўшы наконт гэтага здавальняючыя звесткі, пасылаюць сватоў.

Сватамі бяруць людзей, якія добра знаёмыя з бацькамі нявесты, з іх дамашнімі абставінамі і якія ўмеюць красамоўна і пераканаўча гаварыць.

Калі жаніх вядомы нявесце і яе бацькам, то ён можа і не прысутнічаць пры сватанні, у адваротным выпадку яго прысутнасць абавязковая.

Асаблівых абрадаў сватанне не мае, але звычаі, што абумоўлены народнымі паняццямі аб прыстойнасці, выконваюцца.

Прыязджаюць сваты; уваходзяць у хату; вітаюцца з гаспадарамі. Іх запрашаюць садзіцца. Пачынаецца размова звычайна аб сельскай гаспадарцы і непрыкметна зводзіцца сватамі на гаспадарку жаніха, прычым сват стараецца выставіць тавар лепшым бокам, г. зн. выхваляе годнасць жаніха як работніка і інш. Бацькі нявесты, са свайго боку, паведамляюць аб сваіх гаспадарчых справах, але стараюцца не ўпамінаць пра дачку: не дазваляюць правілы прыстойнасці. Сват спрытна і непрыкметна скіроўвае размову на сваю справу і, нарэшце, карыстаючыся зручным момантам, паведамляе аб мэце наведвання. Бацькі нявесты дзеля прыстойнасці адмаўляюць сватам, але, калі не супраць аддаць дачку, тлумачаць адмову зусім нязначнымі прычынамі, напрыклад, што дачка недастаткова пажыла ў дзеўках, што ў гэтым годзе ўраджай быў *несамавіты* — вяселле цяжка будзе справіць і інш. Сват пераконвае бацькоў, што гэта зусім беспадстаўныя прычыны. Пераможаныя бацькі спасылаюцца на волю дачкі-нявесты. Адшукваюць яе дзе-небудзь у гумне або ў істопцы і запрашаюць у хату. Нявеста нярэдка «аднекваецца» і прыходзіць толькі пасля настойлівага клічу бацькоў; часам маці або бацька ўцягвае ўпартую за руку.

Маці паведамляе дачцы аб зробленай ёй прапанове, тая спасылаецца на волю бацькоў, якія ў сваю чаргу даюць ёй самой права вырашаць. У размову ўмешваецца са сваімі довадамі сват, які, нарэшце, атрымлівае згоду і нявесты. Нявеста выходзіць. Бацькі нявесты паведамляюць, які ў яе будзе пасаг. Прызначаюцца дні заручын і вяселля.

Калі паводле шлюбных умоў бакі прыйдуць да згоды, тады пачынаюцца *запівіны*, або *барышы*. Сваты ставяць на стол прывезеную з сабой гарэлку, а бацькі нявесты — закуску. На запівіны запрашаюцца толькі бліжэйшыя сваякі нявесты. Бывалі выпадкі, што пасля сватання бацькі нявесты аглядалі дзетародныя органы жаніха, калі былі якія-небудзь сумненні ў яго здольнасці выконваць прызначэнне мужа.

## ЗАРУЧЫНЫ

Мэта заручын — публічная заява аб сватанні, якое адбылося, і аб згодзе нявесты і яе бацькоў на шлюб.

Заручыны наладжваюцца ў доме бацькоў нявесты. Прысутнасць маладых на заручынах абавязковая.

У прызначаны дзень па запрашэнню збіраюцца ў доме нявесты яе сваякі, сяброўкі і бліжэйшыя суседзі. Пад вечар прыязджае жаніх са сваімі бацькамі і сватамі (маці жаніха прыязджае рэдка). Спыняюцца перад зачыненымі варотамі. Сваты стукаюць у вароты і ў вокны і просяць пусціць іх у хату.

— Хто вы такія і што вам трэба? — чуецца голас гаспадара з хаты.

Сваты выдаюць сябе за прыезджых купцоў, якія купляюць дарагі тавар. Гавораць:

— Мы чулі, што ў вас знойдзецца патрэбны нам тавар, ■ мы на грошы скупіцца не будзем.

— Мы нічога не прадаём! — гаворыць гаспадар.— Гаспадарка ў нас невялікая — нічога на продаж няма.

Пры гэтым гаспадар раіць «купцам» ехаць да такіх і такіх (называе суседзяў, у якіх ёсць дарослыя дочкі). Сваты адказваюць, што ноч цёмная, што яны могуць ■ дарогі збіцца. Акрамя таго, яны даўно ў дарозе — стаміліся і прагаладаліся.

— Пусціце хоць пераначаваць! — гавораць.

Гаспадар адказвае, што хата ў яго цесная, прытым у яго ў доме ўжо ёсць начлежнікі. Сваты настойваюць, гавораць, што месца ім трэба нямнога, яны народ непатрабавальны — лягуць і на падлозе.

Гаспадар са злосцю гоніць іх прэч і гаворыць, што ён нават сумняваецца, ці сумленныя яны людзі і ці купцы яны на самай справе?

— Вы разбойнікі! — крычыць, нарэшце, ён упэўнена.

Сваты са свайго боку запэўніваюць гаспадара, што яны людзі сумленныя, усім вядомыя і выказваюць сваё абурэнне за такую зневажальную пра іх думку. Потым сваты называюць вёску, з якой яны прыехалі, і здзіўляюцца, як гаспадар іх не пазнаў, таму што яны з ім знаёмыя. Тады, нарэшце, адчыняюць вароты і сваты заязджаюць на двор.

Бывае, што часам жаніх, пералезшы цераз плот, сам адчыняе сватам вароты, а сваты толькі просяцца ў хату; бывае, што жаніх выбівае нават дзверы ў хату.

Часам сваты выдаюць сябе за паляўнічых і гавораць, што высачаная імі дзічына забегла на двор гаспадара і інш.

Сваты з жаніхом, увайшоўшы ў хату, застаюць сваякоў нявесты за сталом; выказваюць здзіўленне адносна такой вялікай колькасці людзей; просяць, каб і іх, падарожных, пусцілі за стол. Радня нявесты не пускае. Сваты ставяць на стол *баклагу* з гарэлкай. Тады госці пацясняюцца і саступаюць сватам месца ў ганаровым куце.

Пачынаецца частаванне. У другой палове хаты нявеста ў гэты час расстаўляе ў рады сяброўак і сама становіцца між імі. Дзяўчаты пачынаюць спяваць:

Ляцелі коршуны чыраз бор,
А селі коршуны к нам на двор.
Чаго ж тыя коршуны лятаюць?
Яны шэру вутачку шукаюць.
Лавіце каршуноў у клетку,
Ганіце вутачку ў хатку.

Гаспадар або гаспадыня адчыняюць дзверы, і дзяўчаты ўваходзяць у хату. Яны спыняюцца каля парога і спяваюць:

Прыляцелі каршуны з сакалом,
Пасадзілі каршуноў за сталом.
Частуюць каршуноў, вяльмуюць,[1]
Шэрую вутачку не ратуюць.
А ты, шэра вутачка, хавайся,
Лютаму сокалу не давайся,
Бо ён цябе, вутачку, прыклюе,
Ў чужую старану панясе.

Пасля заканчэння вышэйпрыведзенай песні жаніх устае з-за стала, адшуквае сярод дзяўчат нявесту, бярэ яе за руку і выводзіць на сярэдзіну хаты. Да іх падыходзяць іх бацькі і сваты. Бацька нявесты складвае рукі маладых разам, прыгаворваючы: *«Дай, божа, у добры час, на вясёла жыцце, на добрае здароўе, на доўгі век, на дзяцінае шчасце!»* Сваты і сваякі выгукваюць: *«Дай, божа!»*

Пасля гэтага жаніх налівае чарку гарэлкі, адпівае крыху сам і падае нявесце; яны ж частуюць гарэлкай і ўсіх дзяўчат. «Маладых» саджаюць за стол паміж сватоў і сваякоў, якія п'юць за іх здароўе. Дзяўчаты ў гэты час спяваюць:

Дзякуй богу,
Што заручынкі
Бог нам даў!
Заручылі дзеўку
Процi панядзелку,

---

[1] *Вяльмуюць* — улагоджваюць.

Бог нам даў!
На вясёла жыцце,
На добра здароўе,
Бог нам даў!
На добра здароўе
Ды на доўгі век,
Бог нам даў!
На многа багацця,
На дзяціна шчасце,
Бог нам даў!
Заручылі дзеўку,
Папілі гарэлку,
Бог нам даў!

Частаванне працягваецца да паўночы. Госці вядуць адпаведныя гэтаму выпадку размовы, а дзяўчаты час ад часу спяваюць заручынскія песні. Прыводжу адну, што захавалася ў маёй памяці:

Хмурыцца на дварэ, хмурыцца,
Ганулькі мамулька журыцца:
Берагла дачушку, як вока,
А цяпер аддаець далёка.
Хмурыцца на дварэ, хмурыцца,
Ганулькі мамулька журыцца:
Трэба сваю дачушку выпраўляць,
У чужую старану аддаваць;
Будзе чужой мамульцы гадзіці,
Ад зары да зары рабіці.
Хмурыцца на дварэ, хмурыцца,
Ганулькі мамулька журыцца:
Гадавала дачушку на долю,
А цяпер аддае ў няволю.

Перад раз'ездам гасцей бацькі нявесты дораць старшаму свату новыя палатняныя штаны і *пірог*, пшанічны або жытні.

## ВЯСЕЛЛЕ

Пакідаючы ўбаку падрыхтоўку да вяселля, дагавор са свяшчэннікам і да т п., таму што ўсё гэта не ўяўляе нічога асаблівага або важнага ў этнаграфічных адносінах, і прыступаючы да апісання самога вяселля з яго абрадамі, папярэдне лічу неабходным зрабіць кароткую характарыстыку вясельных чыноў, каб потым не паўтарацца.

Самымі ганаровымі гасцямі лічацца *сваты* і *сваццi*, якіх зусім не трэба змешваць з так званымі *свахамі:* сватамі і сваццямі могуць быць асобы, якія і не ўдзельнічалі ў сватанні. Старшымі сватамі абавязкова прызначаюцца хросны бацька з маткаю; потым — бліжэйшыя сваякі, але абавязкова сталых гадоў; і, на-

рэшце, асобы, якія прымалі ўдзел у сватанні. Сваты займаюць ганаровыя месцы за сталом; ім — першая чарка (зрэшты, як гавораць другая палавіна прыказкі, і першая палка — у выпадку няўдалага зыходу вяселля), сваты карыстаюцца большымі, у параўнанні з іншымі вясельнымі гасцямі, увагай і павагай і ў абрадах вяселля іграюць важную ролю.

Пасля сватоў ідуць *баяры* і *баяркі;* гэта ганаровыя госці з блізкіх сваякоў хлопца і дзяўчыны.

За баяркамі ў сыходным па значэнню парадку ідуць *прыданкі* — жанчыны сярэдніх гадоў, сваячкі і суседкі бацькоў нявесты; спецыяльны абавязак прыданак — суправаджаюць прыданае нявесты ў дом жаніха. Прыданкі бываюць толькі ў нявесты, і толькі ў тым выпадку, калі яна ідзе ў сям'ю жаніха.

*Каравайніц* набіраюць са сваццяў, баярак, а ў нявесты — і з прыданак.

Акрамя таго, жаніх складае сабе вясельную дружыну з маладых людзей (нежанатых), сваякоў і знаёмых, з якімі едзе забіраць у свой дом нявесту. Адзін з іх, па выбару жаніха, прызначаецца *старшым* дружкам; ён жа трымае вянок у час шлюбу.

Мне засталося сказаць пра дружыну нявесты, якая складаецца са *сняданак* і *вячэрнікаў.* Першыя — сваячкі і сяброўкі нявесты, другія — выключна яе сваячкі. Са сняданак выбіраецца *дружка*, якая павінна трымаць шлюбны вянок над нявестай.

Вось і ўсе вясельныя чыны, якія выбіраюцца з ліку запрошаных гасцей; пры выбары іх прымаюцца пад увагу іх гады і галоўным чынам — сваяцкая блізкасць. У адпаведнасці са старшынствам і сваяцкасцю іх саджаюць за стол, абносяць гарэлкаю, ушаноўваюць і частуюць.

Нярэдка бываюць спрэчкі і незадаволенасць паміж гаспадарамі і гасцямі, асабліва ў тых выпадках, калі каму-небудзь прызначаецца месца, якое не адпавядае яго сваяцкай блізкасці. Таму перад вяселлем бацькі хлопца і дзяўчыны строга абмяркоўваюць і ўзважваюць ступень сваяцкасці і значэнне кожнага госця, каб ведаць, каго куды пасадзіць, і пазбегнуць такім чынам незадаволенасці і нараканняў. Трэба сказаць, што ўсё апісанае мною вясельнае чынаначалле ўступае ў свае правы толькі пасля *шлюбу.*

Цяпер звернемся да самога вяселля. Яно па характару абрадаў можа быць падзелена на чатыры віды: а) вяселле, калі нявеста *выходзіць замуж*, г. зн. ідзе ў сям'ю мужа; б) *прымацкае вяселле*, калі жаніх прымаецца ў дом бацькоў нявесты ў якасці *прымака*; в) сіроцкае вяселле, калі ў жаніха або нявесты памёр хто-небудзь з бацькоў і г) удавецкае вяселле.

Вяселлі першых двух відаў вельмі мала адрозніваюцца адно

ад аднаго: розніца ў тым, што з прымацкага вяселля выкідваюцца абрады, якія суправаджаюць адпраўленне нявесты ў дом жаніха.

Сіроцкае вяселле вылучаецца спецыяльнымі вясельнымі галашэннямі нявесты, асабліва жаласнымі. У іх яна смуткуе аб адсутнасці бацькоў на яе вяселлі, просіць іх з'явіцца на яго, блаславіць яе на шлюбнае жыццё, памагаць сваімі малітвамі і заступніцтвам у яе будучым жыцці.

Удаўцы — жаніх і нявеста — абмяжоўваюцца адным царкоўным шлюбам, без усякіх народна-звычаёвых вясельных абрадаў. Калі ж дзяўчына выходзіць замуж за ўдаўца або ўдава за «дзецюка» (хлопца), то народна-абрадавае вяселле спраўляе той з іх, хто не зведаў яшчэ ўцех шлюбнага жыцця.

У гэтым нарысе я буду мець на ўвазе вяселле першага тыпу, найбольш распаўсюджанае, г. зн. тое вяселле, якое спраўляецца ў тым выпадку, калі нявеста ідзе ў дом бацькоў жаніха.

У першы дзень вяселля, гадзіны ў чатыры раніцы, збіраюцца ў дом нявесты яе сяброўкі, будучыя сняданкі, і прыносяць з сабою *істужкі*.

Самая здатная з дзяўчат бярэцца ўбіраць галаву нявесты да *шлюбу*. Для гэтага брат нявесты ставіць у ганаровым куце, перад абразамі, *дзяжу-хлебніцу*, века якой накрываецца кажухом, воўнаю ўверх. Звяртаючыся да нявесты, брат гаворыць:

Чы садзіся,
Чы адкажыся.

Садзіцца на дзяжу толькі цнатлівая нявеста. Бываюць выпадкі, калі нявесты адмаўляюцца сесці на дзяжу, баючыся апаганіць яе і пашкодзіць свайму будучаму сямейнаму шчасцю, хоць гэтым самым заяўляюць перад сяброўкамі аб страце цнатлівасці, што бывае для іх не асабліва прыемна. У такіх выпадках брат выходзіць, а нявесце ставяць менш ганаровае сядзенне — просты ўслончык. Зрэшты, нявесце прыйдзецца яшчэ публічна даказаць сваю цнатлівасць.

Перш чым сесці, нявеста кладзе перад абразамі тры зямныя паклоны і кланяецца на ўсе чатыры бакі. Адна з сяброўак расчэсвае ёй валасы і заплятае іх у касу. Потым галаву павязваюць хусткаю, якую прымацоўваюць да валасоў; на хустку нашываюць рознакаляровыя стужкі, складваючы іх стаячымі банцікамі. Як галаву прыбяруць, нявеста зноў кладзе перад абразамі тры зямныя паклоны і кланяецца да зямлі сяброўцы, якая прыбірала яе да вянца. Затым нявеста, абняўшы сваю сяброўку, дзякуе ёй за працу і галосіць:

Марынка, сястрыца,
Ды дзенькую ж табе,
Я дзенькую табе
За тваё часанне,
За тваё ўплятанне,
За тваё ўбіранне:
Гладзенька часала,
Крэпенька ўплятала,
Хораша ўбірала!
После тваіх ручак
Не буду часана,
Не буду ўплятана,
Не буду ўбірана.[2]
З маей русай касы
Выпадуць валасы,
Мае ясны вочкі
Выцекуць слязамі.

Пасля гэтага галашэння нявеста тройчы кланяецца ў ногі кожнай сяброўцы і ўсім прысутным, не выключаючы і дзяцей. Кожны тройчы хрысціць яе. Гэтым і заканчваецца абрад убірання галавы нявесты.

З наступленнем раніцы рассылаюцца бацькамі жаніха і нявесты да родных і знаёмых *пазыватыя* — так называюцца хлопчыкі, якія запрашаюць гасцей на вяселле. Увайшоўшы ў хату, яны выкрыкваюць скорагаворкай звычайную запрашальную формулу:

— *Дзень добры вам! Прасіў* (імёны бацькоў жаніха або нявесты) *Рыгор з Рыгорыхай і я прашу на ўзглядзіны*!..[3]

— *Прыдзем!.. Будзем!..* — адказваюць ім.

— *Не пазніцеся! Скарэй прыходзьце!* — гавораць называтыя і спяшаюцца ў наступную хату з такім жа звычайным запрашэннем.

І вось званыя і нязваныя госці з'яўляюцца на абрад блаславення на шлюб. Доступ на вяселле свабодны для ўсіх: *«Вяселле не багамолле, паглядзець усякаму вольна»*,— гаворыць народная прыказка. Розніца паміж званымі і нязванымі гасцямі толькі тая, што ў апошніх няма ніякіх шлюбных абавязкаў і яны не маюць права патрабаваць месца за сталом.

У большасці выпадкаў жаніха і нявесту блаславаяюць па аднаму, кожнага ў доме яго бацькоў, а часам, зрэшты, вельмі рэдка, і абоіх разам. Блаславенне жаніха менш складанае ў параўнанні з блаславеннем нявесты. Нявеста пры бласлаўленні абавяз-

---

[2] У Барысаўскім павеце замужнія жанчыны не заплятаюць кос.

[3] Значэнне слова *ўзглядзіны* я дакладна не высветліў для сябе; адны атаясамліваюць яго са словам *вяселле*, а другія — са словам *відовішча*.

кова павінна плакаць і галасіць, а жаніху плакаць зусім непрыстойна.

Калі ўсе абавязковыя вясельныя чыны ў зборы, прыступаюць да абраду блаславення. Для гэтага кладуцца на стол спецыяльна спечаныя жытнія вясельныя хлябы, у сярэдзіне якіх знаходзяцца медныя манеты, а паверхня пакрыта націснутымі кружочкамі велічынёй з пятак; ставіцца з хлебам яшчэ соль і ў кошычку авёс. Бацькі становяцца каля стала з абразамі ў руках. Вясельныя чыны займаюць адпаведныя іх значэнню месцы: старшыя бліжэй да бацькоў нявесты, а малодшыя па чыну бліжэй да парога, а часам нават — у сенцах або на дварэ. Перад бацькамі, наперадзе гасцей, становіцца так званы «благаславеннік» — адзін са сватоў, які ведае «благаславенныя» формулы. Ён верхаводзіць абрадам блаславення. Благаславеннік, перахрысціўшыся, выгуквае:

Дай, божа, ў добры час пачаць,
У злый — памаўчаць!
Родныя бацька і маці!
Станьце на пастаці,
Дайце благаславенне
Сваему дзіцяці!
Хрысціцеся, маліцеся богу,
Благаславіце свае дзіцяце
Ў дальнюю дарогу, (2)
Аж к госпаду богу:
На шлюбе стаці,
Вянец прыняці;
Вянец узяўшы,
Век векаваці,
Дзяцей гадаваці,
Дабро нажываці
Ў добрым здароўі,
У вясёлым жыцці,
Людзям на пацеху,
Сабе на пажытак,
Госпаду богу на хвалу!

Нявеста кідаецца да ног бацькоў і, плачучы і галосячы, просіць блаславення:

Татулька, родны мой,
Я табе каруся, (2)
У ножанькі кланюся!
Падаю да ножак
І прашу да слёзак:
— Благаславі ж ты мяне,
Надары ж ты мяне:
І шчасцем, і доляй,
І добрым здароўем!
Божухна высокій,

Узгляні ж на мяне, (2)
Благаславі ж ты мяне,
Надары ж ты мяне:
І шчасцем, і доляй,
І добрым здароўем,
На жаноцкі мой век
І на ўвесь белы свет!

Слёзныя галашэнні нявесты змяняюцца лямантам і рыданнямі, якія раздзіраюць душу. Гледачы таксама плачуць, слухаючы галашэнне нявесты, хоць і лічаць яго справай звычайнай, што так і быць павінна: жонку чакае ў бліжэйшым будучым вельмі незайздросная доля. Яны нават выказваюць найвялікшую незадаволенасць, калі нявеста недастаткова жаласна галосіць. Пасля галашэння нявесты бацька крыж-накрыж асяняе абразом дачку, якая распасцёрлася ля яго ног, і прыгаворвае: *«Бог благаславіць і долю дасць!»*

Благаславіўшы яе абразом, ён бярэ са стала хлеб і соль, асяняе імі нявесту: *«Благаслаўляю цябе хлебам, соллю, шчасцем, доляй і добрым здароўем, не на адну гадзіну, а на ўвесь доўгі век!»*

Хлеб кладзецца назад на стол.

Нявеста ж, кланяючыся маці, звяртаецца і да яе з наступным галашэннем:

Мамунька родная,
Благаславі ж ты мяне!
Благаславі ж ты мяне,
Надары ж ты мяне:
І шчасцем, і доляй,
І добрым здароўем.

Маці, якая часта таксама рыдае, бласлаўляе сваю дачку спачатку абразом, ■ потым хлебам і соллю.

На вяселлі *сіроцкім* маладая звяртаецца да нябожчыкаў бацькоў з галашэннем, змест якога прыведзены мною вышэй; бласлаўляюць жа яе так званыя *пасаджаныя* бацькі, якімі пераважна бываюць хросныя бацька і матка.

Пасля бацькоўскага блаславення благаславеннік звяртаецца да хросных:

Хросныя бацька і маці!
Станьце на пастаці,
Дайце благаславенне
Свайму хроснаму дзіцяці!
(І далей, як у папярэднім.)

Нявеста з асобным галашэннем, некалькі перайначаным у параўнанні з папярэднім, кланяецца хросным, і яны таксама бласлаўляюць яе абразом і хлебам-соллю са словамі: *«Бог благаславіць і долю дасць!»*

Пасля гэтага благаславеннік звяртаецца да ўсіх прысутных:

Госцейкі званыя,
Госці нязваныя!
Блізкія — прыхожыя,
Дальнія — прыезджыя,
У добрую гадзіну
Благаславіце маладую княгіню
(або: У добрым часе
Благаславіце маладога князя)
На шлюбе стаці і г. д.

Усе тройчы выгукваюць: *«Бог благаславіць!»*

Нявеста кожнаму з прысутных кланяецца ў ногі (часам тры разы), і яе хрысцяць, кажучы: *«Бог благаславіць!»*

Пакуль маладую бласлаўляюць, госці спяваюць:

Карыся, дзевунька, карыся
Старому, малому кланіся!
Старому, малому да ножак,
Татуньку з мамунькай да слёзак.

Гэта кароценькая песенька паўтараецца некалькі разоў, спяваецца ўвесь час, пакуль бласлаўляюць. Блаславенне жаніха менш працяглае і больш простае.

«Маладыя» кланяюцца кожнаму з прысутных і ўсім сустрэчным.

Існуе паданне, што аднойчы нейкія маладыя, едучы да вянца, не пакланіліся сустрэтаму на дарозе старэнькаму. Ён пажадаў ім зла, і толькі праз гэта іх сямейнае шчасце разладзілася назаўсёды. Злое пажаданне ў гэты час лічыцца сялянамі-беларусамі асабліва шкодным, і таму яны ўсімі сіламі стараюцца яго пазбягаць.

Калі абрад блаславення закончаны, і маладая, памаліўшыся абразам, выходзіць з хаты на двор, каб ісці або ехаць у царкву, прысутныя абсыпаюць яе аўсом, узятым з кошычка, які стаяў на стале ў час блаславення.

Выходзячы або выязджаючы з двара і ў дарозе, жанчыны і дзяўчаты спяваюць дашлюбныя песні:

Ляцелі журавы да дубу —
Час табе, Ганулька, да шлюбу.
Бог табе дарожку перайдзе,
Сам цябе да шлюбу павядзе;
А прачыстая маць
Будзе табе памагаць,
Як на шлюбе стаяць.

Ой, попе, попе-дабрадзею!
Не звані рана ў нядзелю;
А звані позна ў суботу —
Загадай дзевачкам работу:
Каб была вулачка мяцёна,
Каб была Ганулька правядзёна.
Мяцёна вулачка з канца ў канец,
Правядзёна Ганулька пад вянец.

Да вянца, Ганулька, да вянца!
Не забывайся грабянца,
Ні дратовыя шчотачкі,
Ні васковыя свечачкі,
Ні бялёвыя хустачкі.
Шчотачкі з грабянцом — часацца,
Бялёвая хустачка — ўціраццa,
Васковая свечачка — вянчацца.

Дашлюбных песень спяваецца куды больш. Я прывёў тут толькі тыя, якія запомніў.

Калі маладыя прыступаюць да царкоўна-шлюбнага абраду, то кладуць сабе пад ногі грошы, каб пражыць усё жыццё ў дастатку. Яшчэ сяляне вераць, што той з маладых, хто першы ступіць на дыван або на разасланае палатно, раней павінен і памерці; таму маладыя стараюцца стаць адначасова.

У час шлюбу адзін з маладых імкнецца паставіць сваю нагу на нагу іншага: калі ўдасца гэта зрабіць, ён, паводле павер'я, будзе верхаводзіць на працягу ўсяго сумеснага жыцця.

Пасля шлюбу жаніх з нявестай у большасці выпадкаў едуць разам; але, калі вяселле не сумеснае (сумесныя вяселлі, каб пазбегнуць лішніх выдаткаў, бываюць даволі часта), то, пад'ехаўшы да дому нявесты, яны разлучаюцца.

Па дарозе з царквы таксама спяваюць пашлюбныя песні, якіх, на жаль, я не магу прывесці.

Падышоўшы да дому бацькоў нявесты (жаніха таксама), спяваюць:

Запалі, маці, свечку,
Выйдзі на сустрэчку;
Спатыкай дзіцятка,
Прасі нас у хатку.

Маці з'яўляецца ў варотах або ў дзвярах хаты, трымаючы ў руках вясельны хлеб і соль, пакладзены на века *хлебніцы*, да якой таксама прымацоўваецца запаленая грамнічная свечка. Нявеста праходзіць у хату, нахіляючыся пад гэтым векам хлебніцы. У доме жаніха адбываецца тая самая цырымонія.

Гасцей саджаюць (па чыну) за стол. Пачынаецца частаванне.

Усіх абносяць гарэлкаю, якую наліваюць лыжкамі ў чаркі з глінянай міскі (у вёсцы заўсёды адчуваецца недахоп бутэлек). Тут жа падаецца ў вялікіх місках розная вясковая закуска, якую госці бесцырымонна бяруць рукамі: відэльцаў у вёсцы, зразумела, няма, ды і не адчуваецца ў іх патрэбы.

Гаспадары абавязаны частаваць і прымушаць прысутных. Гэта доўгая працэдура. У вёсцы наконт гэтага свае правілы прыстойнасці: без *прымусу* госці не будуць піць і есці.

Я забыўся ўпамянуць пра вясельнага музыку, без якога, як без галашэння нявесты, і вяселле не вяселле. Ён выступае на сцэну адразу пасля благаславення маладых. Ён іграе па дарозе ў царкву і з царквы, у час вясельнага частавання і ў іншых падобных выпадках адзін і той жа матыў, які называецца *вяселлем*.

Ён жа іграе *лявоніху*, або *крутуху*, *барыню*, *бычка*, *вераб'я* і іншыя вясковыя танцы, якія наладжваюць у сенцах, у іншай хаце, а летам — на двары. Моладзь танцуе, сталыя людзі частуюцца, прычым жанчыны спяваюць застольныя вясельныя песні.

Пасля частавання прыступаюць да пячэння вясельнага каравая. Акрамя выпадкаў сумеснага святкавання вяселля, каравай пячэцца асобна ў жаніха і ў нявесты. Гаспадыня дома прызначае каравайніц са сваццяў, баярак і прыданак, прычым званне старшай каравайніцы прысвойваецца хроснай матцы, калі яна жывая, а калі не — бліжэйшай сваячцы кожнага з маладых.

Каравайніцам адводзіцца асобны стол, на ім ставяцца гарэлка і закуска; каля стала — неабходныя прыпасы і начынне для пячэння каравая. Каравай пячэцца з пшанічнай мукі. З гэтай мукі старшая каравайніца пры дапамозе малодшых робіць спачатку *рашчыну* (рэдкі раствор), якую ставяць у цёплае месца кіснуць (апошнім часам у гэты раствор сталі класці дрожджы).

Прыступаючы да падрыхтоўкі каравая, каравайніцы напяваюць:

Ой, дай нам, божа,
Сваё дзела зрабіці —
Каравай рашчыніці!
Большая каравайніца
Па полю гарцала,
Чаравік пацярала. (2)
Вярнуўшысь дадому,
Не кажаць нікому:
Баялася мужа,
Што паб'ець ён дужа...

[...]Пакуль каравай кісне, каравайніцы частуюцца, спяваючы каравайныя песні. Калі ж гарэлка скончыцца, то патрабуюць яе ў гаспадароў з дапамогаю асобнай прыпеўкі:

А барашка чорненькі, чорненькі, чорненькі і г. д.

Або:

Кацярынка (імя гаспадыні) лісачка,
Лісачка!
Пакажы нам місачку,
Місачку;
Мы на яе паглядзім,
Паглядзім,
Назад табе аддадзім,
Аддадзім.

Калі каравайная рошчына ўкісне, падбаўляюць у яе мукі і пачынаюць мясіць. Месяць усе каравайніцы, напяваючы:

Дай нам, божа,
Сваё дзела зрабіці —
Каравай замясіці. (2)

А ў цёмным лесе
Сам бог каравай месіць,
А прачыстая свеціць,
А анёлы воду носяць,
У бога долі просяць:
— Дай жа ж, божа, долю
Нашаму маладому:
Адну долю грашавую,
А другую збажавую,
А трэцюю дзяцінную! (2)

(Гэта песня спяваецца, калі месяць каравай у жаніха.)

Замясіўшы каравай, пачынаюць яго качаць (часам у сярэдзіну каравая кладуць сярэбраныя манеты). Каравай мае круглую форму. На версе жаніховага каравая саджаюць качара, зробленага з цеста, а на версе нявесцінага — качачку.

Вакол гэтых зробленых птушак кладуць *ячкі* (знак дзетараджэння) і некалькі радоў *шышачак, зорачак* і іншых упрыгожанняў, груба зробленых з таго ж каравайнага цеста. Гэтыя шышачкі госці адносяць дадому як вясельны гасцінец старэнькім і дзецям, што не былі на вяселлі. Робяць адзін галоўны каравай і некалькі другарадных (неабавязковых).

Калі каравай саджаюць у печ, адзін з маладых людзей падае лапату, і пасля кожнай пасадкі тройчы стукае лапатаю ў столь Пасадзіўшы каравай у печ, спяваюць:

Дзякуй богу,
Што мы сваё дзела зрабілі —
Каравай у печку ўсадзілі. (2)

Пасадзіўшы каравай у печ, каравайніцы частуюцца і спяваюць каравайныя песні.

Спечаны каравай выносяць да пары да часу ў клець.

Калі прыходзіць час дзяліць каравай, за стол саджаюць ганаровых гасцей. Нявеста або жаніх садзяцца на покуці. У жаніха вязапрашае гасцей дарыць яго старшы дружка, а ў нявесты — вячэрнік.

Маладую дораць асобна ад маладога. Атрыманыя ёю падарункі складаюць частку яе пасагу.

На выклік старшага вячэрніка:

Гдзе ж тыя бацька і маці?
Чы маюць што даці
Свайму роднаму дзіцяці?

— бацькі падыходзяць да стала і кладуць на талерку або ў міску, пастаўленую перад нявестай, па сярэбранаму рублю, а часам і па чырвонцу, кладуць хлеб, соль, палатно і інш. Часам бацька пералічвае *пасаг*, які ён мае выдаць маладой. Нявеста, кланяючыся, дзякуе бацькам. Нярэдка сваю ўдзячнасць яна выказвае ў спецыяльным галашэнні-імправізацыі.

Потым выклікаюцца хросныя:

Хросныя бацька і маці!
Чы маюць што даці
Хроснаму дзіцяці?

Хросныя падыходзяць і адорваюць маладую. Затым запрашаюцца сваты:

А што маюць даці
Сватове і свацці?

Нарэшце, наступае агульнае запрашэнне дарыць:

Суседзі й суседачкі,
Што ў нашай бяседачцы,
Хлопчыкі-малойчыкі,
Кладзіце чырвончыкі!
Дзевачкі-паненачкі,
Кладзіце капеечкі!

Кладуць грошы, палатно, наміткі, хусткі і інш. Усім чужым, якія паклалі падарункі, адразу ж даюць па чарцы гарэлкі. Увесь час, калі дораць нявесту, спяваецца дакорлівая песня:

Казалі, што ў нашай Марынкі
Радні многа, радні многа!
Сталі дарыць, сталі дарыць —

Нет нікога, нет нікога!
Гдзе ж тая радзіна падзявалася?
Па цёмных куточках пахавалася!

Усё апісанае мною праходзіць на працягу першых сутак вяселля. Раніцаю або некалькі раней прыязджае жаніх са сватамі і дружынай. Перад імі зачыняюць вароты. Жаніх з дружынай адчыняе іх. Усе ўваходзяць на двор. Гэта прыехалі па нявесту. Пачынаецца працяглы прыём жаніха і не менш працяглая выдача нявесты. Дзяўчаты спяваюць песню:

Што за сватове, што за панове на дварэ?
Па-панску мовюць,
Юстынку просюць да сябе:
— Ой, выйдзі, выйдзі, наша Юстынка,
К нам на двор...

Пасля гэтай песні пачынаецца галашэнне нявесты:

Татунька родны мой,
Ты варот не запёр:
Мужыкоў-чужакоў
Панайшло к нам на двор;
Стукаюць, грукаюць
Ды на нашым дварэ,
І дзверы ламаюць
Яны ў хатку к табе;
Заграбуць, павязуць
Мяне, младу, к сабе.
Татунька родны мой,
Ты ратуй жа мяне!
Брацітка, родны мой,
Чужанін на дварэ,
Калі любіш мяне,
Дык ратуй жа мяне!..

Галашэнне суправаджаецца доўгім рыданнем. Як бы для падбадзёрвання нявесты дзяўчаты спяваюць песню, у якой расхвальваюцца прыезджыя, што *адзеты ў шаты — большы сват, а ў атласе, у жоўтым паясе — дзевер, жаніх жа — на вараным кані, сам маладзенькі* (усяго зместу гэтай песні я не памятаю).

Калі спяваюць гэту песню, маці нявесты, накрыўшыся вывернутым кажухом, выходзіць з хаты сустракаць жаніха. Яна становіцца ў дзвярах сенцаў; яе акружаюць сваякі нявесты. Жаніх павінен схапіць яе; сваякі нявесты перашкаджаюць яму; у дзвярах хаты яго чакае адпор з боку дзяўчат, якіх ён падкупляе падарункамі; далей яму даводзіцца падкупляць баярак — і так, пакуль не дабярэцца да нявесты.

Гэты абрад часам замяняецца іншым, сутнасць якога ў тым, што маці нявесты ў вывернутым кажуху выходзіць насустрач жаніху з вядром вады ў руках, поіць гэтай вадою жаніховага каня; жаніх кідае ёй грошы ў ваду і потым свабодна ўваходзіць у хату.

Пасля першага або другога абраду нявеста ў суправаджэнні сябровак, якія нясуць *рушнікі*, выходзіць на двор і перавязвае па парадку старшынства ўсю дружыну жаніха ручнікамі, перакідваючы іх цераз плячо і завязваючы канцы збоку. У гэтых павязках дружкі ходзяць увесь час, пакуль знаходзяцца ў доме нявесты. Усе ўваходзяць у хату і па ўказанню гаспадароў садзяцца за стол паміж сваякамі нявесты. Частаванне суправаджаецца песнямі і ўперамежку з танцамі працягваецца цэлы дзень.

Вечарам адбываецца абрад адпраўкі нявесты ў дом жаніха. Ён пачынаецца тым, што сват кажа нявесце развітвацца з бацькамі. Развітанне складаецца з асобных галашэнняў са зваротам да бога, угоднічкаў і да свят, да бацькоў і сваякоў. Галашэнне суправаджаецца страшнымі рыданнямі, якія раздзіраюць душу: амаль усе, хто прысутнічае пры гэтым, плачуць. На жаль, я не магу прывесці гэтых галашэнняў, таму што іх не запомніў. Выходзячы з дому, нявеста тры разы садзіцца на бацькоўскім парозе і, рыдаючы, ад'язджае ў суправаджэнні дружыны жаніха, сватоў і баярак.

Сустрэча нявесты ў доме жаніха носіць больш міралюбівы характар у параўнанні з сустрэчай жаніха ў доме нявесты: нявесту і жаніха сустракаюць з хлебам і соллю, саджаюць за стол і частуюць. Па звычаю, нявеста, уваходзячы ў дом жаніха, павінна тройчы прысесці на парозе, тройчы пакланіцца печы, потым абразам і ўсім прысутным. Пачынаецца частаванне. Між тым з дому нявесты, пачакаўшы не больш гадзіны пасля яе ад'езду, пасылаюць вячэрнікаў і сняданак. Па дарозе яны звычна выкрыкваюць:

Ух, чуць, гдзе молайцы ідуць!

Падышоўшы да дому жаніха, яны адчыняюць вароты, уваходзяць няпрошаныя на двор і пачынаюць спяваць:

Мы барамі йшлі — гукалі,
Сваю Ганульку шукалі;
Мы палямі йшлі — гукалі,
Сваю сяструльку шукалі;
Гародамі йшлі — пыталі,
Сваю Ганульку шукалі;
Мы сёламі йшлі — пыталі,
Сваю сяструльку шукалі.
К гэтаму сялу падыйшлі,
Яе слядочкі мы знайшлі;

К вашаму дому падыйшлі,
Сваю дзеваньку мы знайшлі.
Або ў хатку нас прымайце,
Або дзеваньку аддайце.

З хаты ніхто не паказваецца і ніхто не адказвае вячэрнікам і сняданкам. Але ў хаце ўжо падрыхтаваліся да іх прыёму, толькі чакаюць, каб яны лепей папрасілі. І вячэрнікі са сняданкамі, мяняючы свой фанабэрысты тон на больш сціплы, спяваюць:

У нашага свата
Кругом хаты мята,
А ў хаце багата. (2)
У нашага свата (2)
Кругом хаты ружа,
А ў хаце прыгожа. (2)
Ой, сватку наш, сватку,
Прасі нас у хатку,
Дай жа ж нам піць-есці
І лавачку сесці.

Гаспадар-сват з'яўляецца ў дзвярах і гаворыць: *«Калі з добрым вы—захадзіце к нам, а з благім прышлі — паварочывайце».*

Вячэрнікі і сняданкі ўваходзяць у хату, іх саджаюць за стол і частуюць. Пасля пачастунку яны выходзяць у сенцы або ў іншую хату танцаваць, напамінаючы час ад часу аб сваёй прысутнасці песняю:

А ў гародзе жоўта моркаўка цвяцела,
Наша Ганулька да за п'яніцу хацела:
Ён куды ідзець, дык карчомкі не мінець,
І чарачкі, яндовачкі ўсе паб'ець;
Дамоў прыдзець, тое паплаціць.
Наша Ганулька ўсё тое прыплачыць.

Залоўка спявае маладой:

Ты не гневайся, братовачка, на мяне,
Што я села блізюсенька ля цябе.
А было ж табе па кірмашыках не хадзіць,
А было ж табе майго брацікі не любіць;
А было ж табе гарэлачкі не піці,
А было ж табе майго брацікі не любіці.
Чы будзеш, будзеш нашаму дому радзеці?
Чы будзеш, будзеш майго брацішку жалеці?

Гадзіны тры счакаўшы пасля прыбыцця вячэрнікаў і сняданак, з'яўляюцца на двор пcase: пыданкі; яны становяцца чынна ў рад у такім парадку, як іх расставілі бацькі нявесты, і спяваюць вясельныя песні, у якіх расхвальваецца шчодрасць бацькі нявесты,

што даў неймаверны пасаг, які складаецца з гарадоў, сёл, палёў, кароў, валоў, кублаў з адзеннем, куфраў з грашыма і інш.

Перад прыданкамі[4] брат нявесты прывозіць пасаг — кубел з адзеннем і бялізнай. Астатняя абяцаная частка пасагу выдаецца пазней, часам праз год і больш, гледзячы па дамоўленасці. На дварэ прыданак сустракае бацька жаніха або старшы сват; ён вядзе перагаворы з братам нявесты адносна выкупу пасагу; таргуюцца бязлітасна. Брат просіць велізарную цану, спасылаючыся на словы песні, што пасаг неймаверны, сват дае самую невялікую, пачынаючы з пятака. Торг суправаджаецца жартамі і прыгаворкамі; згаджаюцца на паўрублі або рублі, якія тут жа і ўручаецца прадаўцу.

Кубел уносяць у хату прыданкі, іх частуюць вясельным караваем жаніха. Пасля частавання прыданак *зводзяць*, як у нас гавораць, жаніха і нявесту. Кубел ставяць пасярод хаты, і прыданкі ўсаджваюць на яго нявесту; сняданкі ж спяваюць наступную песню:

Кукавала зязюля ў садочку,
Прыклаўшы галоўку к лісточку,
А к ей пташанькі прыляталі,
А ў яе праўданькі пыталі:
— Чаго ты, зязюля, кукуеш?
— Чаму ж мне, пташанькі, не кукаваць? —
Я ж была дый звіла гняздзечка,
Я ж была дый знясла яечка,
Адкуль узяўся сізой арол,
Ножкамі раскапаў гняздзечка,
Дзюбачкай раздзюбаў яечка,
К сабе і зязюлю ўзяў.
Плакала Ганулька ў святліцы,
Прыклаўшы галоўку к сястрыцы,
А к ей дзеванькі прыходзілі,
Ды і ў яе праўданькі пыталі:
— Чаго ж ты, дзеванька, плакала?
— Чаму ж мне, дзеванькі, не плакаць? —
Я ж была ды й звіла вяночак,
Я ж была пашла ў таночак,
Адкуль уз'ехаў Іванька,
Конікам разагнаў таночак,
Ручкамі разабраў вяночак,
Ды мяне, маладу, к сабе ўзяў.[5]

---

[4] Слова *прыданкі* народ, відавочна, утварае ад слоў *даць*, *дань*, а не ад *прыданае*, якое не сустракаецца ў беларускай мове, а замяняецца словам *пасаг*.

[5] Гэта выдатная па сваёй кранаючай задушэўнасці вясельная песня шырока распаўсюджана ў Белай і Малой Расіі (Шэйн).

Калі спяваецца гэта песня, прыданкі здымаюць з нявесты яе вянчальны галаўны ўбор і кідаюць яго пад печ (яго тут жа падымаюць). Пачынаецца выкуп жаніхом у брата нявесты яе дзявочай касы. Брат, узброіўшыся нажом, трымаючы сястру-нявесту за касу, просіць выкупу, аб'яўляе цану і гаворыць з пагрозаю, што калі не заплоцяць, то ён адрэжа касу; адбываецца тое ж, што і з выкупам пасагу,— заканчваецца торг тым, што брату плацяць невялікай цаной. У гэты час сняданкі спяваюць іранічную песню:

А Ганулькін брат быў лайдак:
Прадаў касу за пятак,
А белае лічка аддаў так.

Прыданкі завязваюць на галаву нявесты хустку па-жаночы і накрываюць яе кажухом, потым падводзяць жаніха, які здымае з нявесты кажух, і, узяўшы яе за руку, сцягвае з кубла. Іх вядуць у клець або ў істопку; музыка іграе «вяселле», а прысутныя спяваюць песню, якую я не прыводжу тут з-за яе суцэльнага нецэнзурнага зместу. Пакінуўшы жаніха і нявесту адных, госці пачынаюць танцаваць, пець непрыстойныя песні, жартаваць. Жаніх выходзіць з клеці адзін; да яго звяртаюцца з пытаннем: «*Салодкая чы горкая? З данінкай чы без данінкі?*»

Калі яго адказ сцвярджальны, прыданкі і баяркі ўваходзяць у клець да нявесты, пераадзяюць яе, выводзяць з клеці і за ёй урачыста нясуць сарочку, якую і паказваюць прысутным як фактычны доказ яе цнатлівасці. Жаніха і нявесту саджаюць за стол, бацькоў і родных яе — на ганаровыя месцы; усіх частуюць *салодкаю гарэлкаю* — гарэлкаю, падсаладжанаю мёдам. Калі ж у нявесты не будзе такіх фактычных доказаў сваёй цнатлівасці, то салодкай гарэлкі не даюць. На нявесту сыплюцца папрокі і лаянка, асабліва ад яе сваякоў. Але часам справа гэтым не абмяжоўваецца; бывае, што брату нявесты за тое, што не аберагаў гонару сваёй сястры, адзяваюць на шыю хамут і ў гэтых, не зусім зручных «каралях» прымушаюць сядзець за сталом.

Хоць апісаны абрад і дзікі з пункту погляду інтэлігентнага чалавека, але мне даводзілася быць сведкам нараканняў і плачу нявесты, калі больш адукаваныя жаніхі адмаўляліся выконваць гэты варварскі абрад. Нявесты скардзіліся на тое, што ў іх адымаюць магчымасць усенародна засведчыць сваю так званую «сумленнасць».

Пасля гэтага абраду вячэрнікі пачынаюць выконваць свае абавязкі і частуюць прыданак і сняданак. З гэтаю мэтаю яны, працягнуўшы злоўленаму пеўню ў дзюбу лычка, водзяць яго, называючы мядзведзем, па дварах запрошаных на вяселле гаспадароў

і самым бесцырымонным спосабам б'юць іх курэй; а хто з гаспадынь жадае абараніць сваё птушынае племя, то ў выглядзе выкупу дае вячэрнікам сала, бараніну і інш. Усё сабранае вячэрнікамі, як вышэй было сказана, ідзе на пачастунак сняданак і прыданак.

*«Качарга казала гуляць вяселле да чацвярга»,*— кажа прыказка. Сапраўды, вяселле звычайна і працягваецца пяць дзён. Пасля заканчэння гэтага тэрміну бацькі нявесты адпраўляюцца дамоў. Канчатковае развітанне маладой з бацькамі вылучаецца тымі самымі галашэннямі — і толькі.

Вяселле часам працягваецца і болей. Каб не вымушаць гаспадароў рабіць лішнія затраты, па хатах запрошаных на вяселле гасцей адпраўляюцца так званыя «цыганы» для збору падачак. Цыганы бяруць усё, што ім даюць. Усё сабранае прадаецца, і на гэтыя грошы купляецца гарэлка, якую і распіваюць госці, што засядзеліся на вяселлі.

Часам хто-небудзь са сватоў або блізкіх сваякоў маладых кліча на *перазоў*, г. зн. перазывае, або запрашае, да сябе большасць гасцей, якія былі на вяселлі.

## ВЯСЕЛЛЕ Ў РУДСКУ

### Запісала Г. Чахоўская

Вёска з назваю Рудск знаходзіцца ў Мінскай губерні, за пяць міль ад Пінска, ля самай мяжы Кобрынскага павета Гродзенскай губерні, за чатыры вярсты ад мястэчка Янава таго ж павета на даволі нізкім і лясным роўным месцы. Разам з памешчыцкімі землямі яна ўтварае нібы астравок, акружаны з усіх бакоў вадою, і займае прастору 1135 дзесяцін [...]

Кожная *дзяўчына* ў Рудску павінна спачатку даведацца пра свайго жаніха, і калі ён ёй не падабаецца, не выходзіць за яго замуж. *Жэных* таксама стараецца загадзя даведацца аб прызначанай яму дзяўчыне, прынамсі, убачыць яе; калі яна яму не спадабаецца, жаніцца на ёй ён не будзе, хоць часам і *запоіны* ўжо згулялі. Знаёміцца паміж сабой хлопцу і дзяўчыне яшчэ нельга — звычай забараняе ім сустракацца і размаўляць. Але ён і яна імкнуцца ўсё ж патаемна ўбачыцца дзе-небудзь. Так, калі прыедуць сваты і, паводле звычаю, пачнуць расхвальваць на ўсе лады свайго жаніха, утойваючы, зразумела, яго недахопы, дзяўчына выбягае ў суседні двор на выведы і толькі пасля гэтага прымае сваё рашэнне. Ён жа або падкрадаецца вечарам пад акно той

хаты, у якой жыве яго дзяўчына, ці, калі дастаткова смелы, прыходзіць удзень і праз суседзяў наказвае ёй, што хацеў бы яе бачыць. Дзяўчына тады выходзіць у сад, быццам паглядзець штонебудзь. Там яны пры сустрэчы і агледзяць крадком адно другога. Калі яна яму не спадабаецца, хлопец адразу ж адыходзіць ад яе, і дзяўчына дарэмна тады чакае свайго нарачонага. Калі тэрмін запоін пройдзе, а жаніх не з'явіцца, яна ўжо ведае, у чым справа.

Такім вось чынам маладыя здабылі ўжо сабе права выбару, але канчатковае рашэнне аб шлюбе прымаюць бацькі. Калі маладыя яшчэ могуць не згадзіцца з іх выбарам, то бацькі ў сваю чаргу могуць не прызнаць выбару сваіх дзяцей і не даць ім дазволу на шлюб. Так што хлопец ці дзяўчына, урэшце, вымушаны будуць адмовіцца ад сваіх надзей і праектаў — тут супраць волі бацькоў яны не пойдуць.

Бываюць прыклады, калі *дзўйка* адмаўляе болей чым дзесяці хлопцам. Пра яе пачынаюць гаварыць нядобрае, і ў выніку, калі ёй пераваліць за дваццаць гадоў, сваты перастаюць да яе хадзіць. З дзяўчыны пачынаюць кпіць, і яна цяпер гатова выйсці замуж абы за каго.

Жэняцца пераважна гадоў у 18—20, замуж выходзяць у 17—19. Незамужніх наогул няма. Выходзяць замуж і крыху са спазненнем, што, аднак, бывае рэдка. Тлумачаць гэту з'яву наступным чынам:

— *Ніголна не остаецца так — усякім, усякім бог пару дае, хіба каліка.*

Сам вясельны абрад застаецца да гэтага часу нязменным, хаця ў кожнай вёсцы маюцца і свае асаблівасці.

## СВАТЫ. ПЕРШЫЯ ЗАПОІНЫ

Так называюць сватанне. Прыязджаюць сваты ўдвух ці ўтрох, звычайна мужчыны, але можа быць і жанчына. Выстаўляюць усялякія вартасці *жэныха*, расхвальваюць яго, угаворваючы бацькоў аддаць за яго дачку, якая неўзабаве выходзіць і бяжыць да суседзяў даведацца, што людзі пра яго гавораць і што яны ёй параяць.

Сваты ставяць гарэлку, кварту або дзве — і гэтыя вось размовы пры кілішку называюцца *запоінамі*. Калі бацькі, не чакаючы згоды сваёй дачкі, самі згодзяцца на яе шлюб, яна, даведаўшыся ўсё пра жаніха і не жадаючы выходзіць за яго, плаціць за гарэлку; калі ж яна згодна, дазваляе піць за яе і часам сама крыху выпівае; найчасцей, праўда, саромеецца і, памакнуўшы губы, аддае кубак назад. Сваты стараюцца выпіць гарэлкі чым пабольш —

гарнец або два, каб гэтым самым прадухіліць адмову. Вялікая плата за гарэлку заўсёды супакойвае капрызы дзяўчыны, якая перадумала выходзіць замуж.

Калі дамовяцца, даюць на *запаведзі*, і праз два тыдні пачынаюцца другія, ужо сапраўдныя запоіны, або заручыны, з удзелам маладога (пасля іх, яшчэ праз тыдзень — шлюб і вяселле).

## ДРУГІЯ ЗАПОІНЫ

Гэтыя паўторныя запоіны можна параўнаць з нашымі заручынамі; яны маюць тое ж самае значэнне, і засватаных называюць тут таксама *заручоны* і *заручоная*.

Гэта ўжо фармальная згода, і ў знак гэтай згоды замест нашых пярсцёнкаў дзяўчына дае хлопцу ў падарунак дзве хусткі і гарбузікі, а ён яе цалуе.

За тыдзень перад шлюбам, звычайна ў суботу, малады з трыма або чатырма сватамі прыязджае да нарачонай. Калі ўвойдуць у хату, іх запрашаюць за стол і рыхтуюць пачастунак. Запрашаюць за стол нават і тады, калі пачастунку не падаюць,— гэта запрашэнне не што іншае, як форма павагі да гасцей: пасадзіць госця за сталом — значыць праявіць гасціннасць, бо стол — гэта ганаровае месца. У вясельных жа абрадах такое запрашэнне за стол ужо само па сабе напоўнена пэўным сэнсам, адыгрывае пэўную ролю. Пакуль сваты ўсаджваюцца за стол, нарачоная ідзе на вёску і запрашае тых, хто будзе ўдзельнічаць у вяселлі.

Госці, удзельнікі вяселля, называюцца *ўкладныя* і павінны забяспечыць вяселле ў некаторай ступені і сваімі прыпасамі. Кожная запрошаная хата (а бывае іх звычайна каля 10) абавязваецца даць на вяселле свіную вяндліну ці іншае мяса, міску круп, булку хлеба, гарнец гарэлкі. На пачастунку таксама сярод запрошаных толькі ўкладныя, усе іншыя, г. зн. так званыя пабочныя гледачы, якімі з'яўляецца ледзь не ўся вёска, да стала не падыходзяць і ўдзельнічаюць толькі ў забавах і танцах.

Пачынаецца частаванне, у пачатку якога адбываюцца запоіны, г. зн. сваты п'юць да бацькоў маладой і яе сям'і, а жанчыны спяваюць [1]:

Запіта дзіванька, запіта,
Шолкам хустанька нашыта;
Запівалі яе ў ночы,
Нашывалі хустаньку пры свычы.
Запіваў жэ яе увесь род,
Родный батэнька напярод.

---

[1] Усе вясельныя песні, якія суправаджаюць цырымоніі запоін і вяселля, спяваюцца на адзін і той жа матыў, з невялікімі адрозненнямі, звязанымі са складам выразаў і вершаў.

Пасля пачастунку маладая раздае свае падарункі: сама завязвае нарачонаму адну хустку на шыю, другую закладвае за пояс (ён носіць іх так на працягу ўсяго вяселля), у кішэню сыпле яму гарбузікі. Нарачоны цалуе яе, і потым іх праводзяць у камору, дазваляючы пабыць ім у гэты вечар адным. Неўзабаве ўсе пачынаюць разыходзіцца і малады ад'язджае.

На другі дзень раніцою, г. зн. у нядзелю, малады збірае ў сябе сваіх вясельных гасцей, пераважна мужчын.

## ПРЫГАТАВАННЕ ДА ВЯСЕЛЛЯ (КАРАВАЙ)

Праз тыдзень пасля паўторных запоін адбываецца шлюб і пачынаецца вяселле, звычайна ў нядзелю або ў свята. Увесь гэты тыдзень маладая рыхтуецца: дбае аб вянку, назапашвае *каснікі*, г. зн. стужкі, таму што надта шмат іх трэба; да ручнікоў прышывае *трэпкі*, або махры, вязаныя яшчэ ў дзяцінстве, калі яна пасвіла жывёлу; шые для нарачонага шлюбны вянок і два гарнітуры ўбрання, якія складаюцца з простай, з грубага палатна кашулі і такой жа пары сподняга.

Гэтыя вырабы яна рыхтуе з 14 год жыцця разам з маткай. Часам, калі маладая ў дзяцінстве яшчэ застаецца сіратою, бабка адразу ж пачынае збіраць для яе пасаг, каб пазней мачыха не мела з ім клопату. Увесь пасаг захоўваецца ў так званай *бэдні*. Бэдня — гэта простая бочка з кружком, з двума крыху прыпаднятымі супрацьлеглымі клёпкамі, у якіх робяць дзіркі, каб можна было працягнуць праз іх дручок — адзін канец яго з галоўкай, а другі замыкаецца на замок. У такую бэдню складаюць на выправу багатай дзяўчыны: палатна *4—5 сувояў* (сувой — іх ткацкая мера, складаецца з 5—6 губ, г. зн. палатна такой даўжыні, якую мае сцяна ў той хаце, дзе снуюць пражу), ручнікоў каля двух тузін, абрусаў 10, кашуль 4, фартухоў 5, спадніц 2, *андаракаў* 4, намітак 5, радно 1. *Андаракі* — гэта цёплыя, з дамашняй воўны і дома вытканыя спадніцы; воўну для іх фарбуюць самі ў некалькі колераў, з якіх чырвоны пераважае. Намітка — гэта кавалак палатна даўжынёю ў некалькі локцяў; яна патрэбна для таго, каб убраць галаву маладой; робіцца гэта так: завязваюць усё палатно на галаве, апускаючы доўгія петлі і канцы, а імі, гэтымі апушчанымі часткамі, абкручваюць галаву, утвараючы як бы карону. Радно — гэта прасціна з вельмі грубага палатна, скарыстоўваецца як коўдра. *Свыток* — 4; *світка* — доўгая вопратка, таксама з дамашняй воўны і дамашняга вырабу, двух колераў — сівага або чорнага. Сівы колер пераважае; для атрымання яго мяшаюць шэрую воўну з белай, прадуць, ткуць і потым валяць

гэтакім спосабам: садзяцца насупраць дзве жанчыны і збіваюць нагамі адна да адной тканіну, аж пакуль яна не стане сукном. *Курткі* — 2, з такога самага сукна, як світкі. *Кажух* са свойскіх бараноў — 1. *Пірнач* (пярына) доўгі і такі шырокі, каб мог замяніць коўдру, для чаго ён і прызначаецца, бо маладыя спачатку спяць у каморы або ў сенцах, дзе холадна. *Падушка* — 1.

Напярэдадні шлюбу, г. зн. у суботу (наш дзявочы вечар), пякуць *каравай* і *падручнікі* з простага, замешанага на малацэ пшанічнага цеста. Каравай мае выгляд круглага торта, для ўпрыгожання якога (*кветыты каравай*) пякуцца асобна так званыя *шышкі* наступным спосабам: некалькі раздвоеных дубчыкаў і каля трох з трыма сукамі аблепліваюць цестам, выхапленым валком, устаўляюць у печаныя булкі і так запякаюць. Хлеб гэты не прападае, бо высушваецца, яго пазней размочваюць у стравах і ядуць. Спечаныя шышкі ўтыкаюць потым у каравай, калі яго ўпрыгожваюць. Падручнікі — гэта невялікія пірагі, названыя так таму, што маладыя трымаюць іх пад рукамі, калі вязуць да сябе; выязджаючы, кладуць іх за світку на грудзях, а пад'язджаючы, бяруць пад рукі. Каравай, як і падручнікі, пякуць у гэты самы дзень і ў маладога. Робіць гэта і там і тут хросная матка, а таксама яшчэ дзве іншыя жанчыны, якіх у гэты час і праз усё вяселле называюць *каравайніцы*.

## ПРЫЕЗД МАЛАДОГА. ШЛЮБ

У вызначаную нядзелю або ў свята прыязджае малады з трыма таварышамі[2], назвы і абавязкі якіх наступныя: *дружок* — праводзіць да шлюбу, *часнык* — стаіць увесь час каля маладога і кланяецца з ім разам; *сват* — вязе, пазней застаецца ў хаце ля гарэлкі, якую прывозяць з сабою (барылка) і якою частуюць. Прывозяць з сабою яшчэ каравай, які патрэбны для цырымоніі абмену шышкамі, а таксама падручнік для замены. Адну шышку, трохпалую, з каравая маладога забіраюць на каравай маладой, а адтуль двухпалую аддаюць на каравай маладога. Падручнік маладога аддаюць маладой, а яе падручнік даюць маладому.

Прыезджых садзяць за стол, маладую ж у гэты час убіраюць у каморы ў вянок і ў *космыкі*. Убіраюць яе звычайна толькі па-святочнаму, г. зн. надзяваюць тонкую кашулю, андарак і світку; кашуля сцягнута на шыі льном (каб радзіў), пацерак ніякіх, хоць яны звычайна з'яўляюцца абавязковай часткай убрання нават у будні; валасы заплецены ў дзве касы (ад слова *каса*, і стужку,

---

[2] Называюць іх усіх *маршалкамі*.

якую ў яе ўплятаюць, называюць *каснікам*) — звычайна ж плятуць адну касу. Шлюбнае ўбранне галавы складаюць стужкі, прышытыя да абручыка, а іменна да стужкі, якая ў яго ўкладзена, прычым прышываюць іх да паловы абручыка. Гэты абручык са стужкамі надзяваюць маладой на галаву, а паверх яго — вянок. Для нарачонага дзяўчына бярэ ў кішэню другі вянок, які прышывае яму ў царкве на шапку дружка. Правую руку яе перавязваюць ручніком, які не здымаецца на працягу ўсяго вяселля.

Малады перад выездам з дому, таксама як і маладая ў сябе ў гэты час, ідзе на вёску кланяцца ўсім і прасіць блаславення, так як потым пры цырымоніі ля дзяжы.

Калі ўжо маладую ўбяруць, яна выходзіць з каморы, кланяецца ўсім па чарзе (паклон імклівы, нізкі, амаль да зямлі, старэйшым прыпадае да ног), а пасля кожнага паклону старэйшых цалуе ў руку, маладзейшых у твар — усіх без выключэння, жанатых і кавалераў. Ей гавораць: «Дай табе, божа, долю добрую», «Дай табе, божа, шчасце». Іншыя моўчкі цалуюць. Пасля гэтых паклонаў маладую абводзяць тры разы вакол дзяжы (у якой рашчыняюць хлеб), спяваючы малітву [. . .] Потым маладая становіцца ля дзяжы, якую ставяць пасярод сенцаў і накрываюць кажухом: падыходзіць дружка і, скрыжаваўшы рукі, бярэцца за яе світку на грудзях і просіць благаславіць яе:

Першым разам,
Божым розказам
Просымо благаславеньства:
Чы есця ў тэі
Маладэі
Бацько і маты,
Сэстры, браты,
Род,[3] племя,
Сусіды, людзі добрыя! —
Чы вэляць, чы благаслаўляць
Гэту маладую
На дзіжу пасадзіці,
Косу расплесці,
За стол завесці,
До шлюбу паехаці?..

Усе адказваюць: «Няхай бог благаславіць».

---

[3] У мове чуецца мяккае вымаўленне: *род — рёд, бог — бёг, стол — стёл, грэбеньца — грэбеньця, в борку ў дубройку — в бёрку ў дубрёйку, жыта жалы — жялы, рок — рёк*. Затое займеннік *ся* тут і ва ўсіх бліжэйшых вёсках вымаўляецца цвёрда — *са*, напр.: *удаў-са, убраў-са*. Замяняюць *э* на *ы*, напр.: *нэ на морэ, нэ на Дунаю* вымаўляюць *ны на морэ, ны на Дунаю, грэбэнь — грыбэньца*.

Тады садзяць яе на дзяжу, дзе ёй расплятаюць касу — брат або адзін з дружкаў і другі дружка; астатнія спяваюць:

Хто ж табе косаньку распляце,
Хто ж цябе да шлюбу завядзе?..
— Бідна ж моя галованька на свеце,
Хто ж маю косаньку расплеце?..
Просіла б я пана гойца — нэ жэкце,
Оно моёму сэрданьку жаль бэндзе.
Бідна ж моя галованька на свеце,
Хто ж мою косаньку расплеце?..
Просіла б я пані маткі — нэ жэкце,
Оно моёму сэрданьку жаль бэндзе.
Бідна ж моя галованька на свеце,
Хто ж мою косаньку расплеце?..
Прасіла б я пана брата — нэ жэкце,
Оно моёму сэрданьку жаль бэндзе.
Выскачыў старшый брат з каморы:
— Я ж табе сэстрынька й готовый,
Я табе косаньку расплету,
Я ж цябе на пасаг пасадэю,
Я ж тваю слюзаньку разаллю,
Я цябе да шлюбу й завязу.
Брат сястры косаньку расплітаў,
Па валасочку растрыпаў.
Гдзе ж тыі касычкі подзяваў:
Чы на морэ, чы на Дунаю папускаў,
Чы мэньчуй сястры падаваў,
Чы сам сабе бутаньку падвязаў?
Ні на морэ, ні на Дунай не пускаў,
Ні мэньчуй сястры не даваў,
Сам сабе чобуткі падвязаў.

Гэту песню, паколькі ў ёй ёсць сляды польскай мовы, цяжка запісаць ад маладзейшых, толькі старэйшыя жанчыны з ахвотай яе спяваюць; затое звароты рускай мовы вельмі ахвотна і з пэўным выхваленнем тут прысвойваюць.

Да подай мні, матэнька, грыбяньца,
Расчасаці косаньку до венца,
Да подай жэ, матэнька, мні шубу,
Ужэ ж я й поіду да шлюбу.

Потым праводзяць маладую за стол. Яна зноў усім кланяецца, разам са *свахай* і *дружкай*. Ідучы, спяваюць ёй:

Пакорнае дзіцятка, дзівонька,
Пакорнае дзіцятка, малада,
Бацькавы ногі слёзкамі памыла,
Косачкамі сінечкі замяла.

Калі сядуць за сталом:

Зязюлька, да куда ты лынеш,[4]
Рабая, да куда ты лынеш?
— Я лыну з бору ў дуброву,
Я лыну з борку ў даброўку.
Дзівонька, да куда ты йдзеш,
Малада, да куда ты йдзеш?
— Я йду да божага й дому,
Штоб даў бог шчаслівую долю.

Для сіраты:

Адчыні, гасподзь бог, варата,
Пойдзе да шлюбу сірата;
Да яе сэрданька скіпае,
Што яе матанькі не мае.

Пасля заканчэння песні яна ўстае, кланяецца ўжо цяпер усім разам і ўсіх цалуе. Потым едуць да шлюбу. На дарогу ім даюць яду. Маладая садзіцца асобна — са свахай і дружкай, сват вязе яе, а малады з таварышамі — асобна [. . .]

Тыя, што засталіся, прыбіраюць каравай: барвенкам, які прывязваюць да шышак, і калінаю, пасярэдзіне кладуць масла, вакол акружаюць *гарынем* (чырвонай бавоўнай). Прыходзіць мясцовы музыка або з іншай вёскі (плоцяць яму 10 злотых). *Укладныя* цяпер прыносяць сваю ўласную правізію, за гэта іх частуюць гарэлкай.

Прыбіраючы каравай, спяваюць:

Убірайся, каравай,
То ў мятку,
То ў квятку,
То ў чырвоныя квіты,
Шчоб любіліся дзіты.

Старшая каравайныца
По подліссю хадзіла
Да каліну ламіла,
Каравая квяціла,
Увесь род звесяліла.

Мядзвідзь валахаты,
Гаспадар багаты,
Баіцца прыступіці,
Каравая выкупіці.

З музыкаю і песнямі выносяць каравай у камору, дзе ён стаіць аж да выезду маладой да маладога.

---

[4] *Лынеш* — ляціш.

Ой, чыі ж то сястрыцы,
Пад караваём скакалі,
Ой, з косамі, з косіцамі,
З чорнымі гочыцамі.[5]

## ВЯРТАННЕ СА ШЛЮБУ. АД'ЕЗД МАЛАДОГА

Са шлюбу маладыя вяртаюцца ўжо разам, з імі едуць дружкі і дружкі. Калі яны ўжо набліжаюцца да дому, дамашнія выходзяць ім насустрэчу і чакаюць у сенцах. Калі падыдуць і стануць ля парога хаты, хросная матка ў вывернутым кажуху частуе іх мёдам, пірагом або хлебам і гарэлкаю, паднесенымі на веку ад дзяжы. Каля парога стаяць доўга, а ў гэты час ім спяваюць шмат адпаведных абраду песень [. . .]

Пасля спеваў маладых прыводзяць у хату, абводзяць тры разы вакол стала, спяваючы «Ойча наш», і ўсаджваюць за стол, дзе пачынаюцца ўжо самыя галоўныя спевы, што складаюць працяг шлюбу і аснову ўсяго вяселля; называюць іх *пасаг*. Гэта, можна сказаць, блаславенне, або, інакш, закляцце, якому надаюць асаблівае значэнне і без якога ні шлюбу, ні вяселля не прызнаюць.

## ПАСАГ

Як сцяклося дзве рэчанькі,
Тож обідві быстрысэнькі!
Як зайшоўся місяц з сонцам,
Тож абое яснэсэнькі.
Як з'іхалося два пасажэнькі
Да й абідва маладэсэнькі.
Першый пасаг з-пад місяца,
Другій пасаг з-пад сонэнька;
З-пад місяца маладый жэнішок,
З-пад сонэнька малада дзівонька [...]

Пасаг спяваюць доўга, да ўсіх родных і людзей добрых, кожны раз паўтараючы яго спачатку. Сюды адносяць наступныя песні:

Цёмная хмара на небе стала...
Буйныя вітры не развіюць,
Злыя языкі не размуўляць!
Цёмнуй хмары дашчом зайці драбнэсэнькім,
Буйным вітрам у гарах легчы запачыці,
Злым языкам пад міч пасці —
Там прапасці!..

---

[5] *Гочыцамі* — вачамі.

Ой, дай, божэ, да шчасліва‌е літо,
Зарадзі, божа, да густое жыто,
На сцябло сцяблістае,
На колас каласістае,
На ядро ядрыстае;
Шчоб з аднаго каласочка
Да була жыта бочка,
Нашы дзітонькі малы,
Шчоб, стоя, жыта жалы.

Наша пісэнька без прыпілочкі не будэ,
Наш жанішок без дзівонькі не будэ;
Да паложыць на правай ручэньцы лёгэнька,
Да прыгорне да сэрданька шчырынька:
Яка ж бо мні права ручэнька лёгэнька,
Яка ж бо мні мая міленька міленька!

Пасля пасагу падаюць частаванне, перад якім, праспяваўшы «Ойча наш», заканчваюць спевы гэтак:

Жэгнай, ойча,— пачынай хлопча!
Жэгнаў бы я — не ўмію я,
Почынаў бы я — не смію я.

Частаванне складаецца з крупніка, капусты і тушанага мяса ў гаршчочку. Ядуць і п'юць, гавораць і спяваюць. Не размаўляе толькі маладая, сядзіць з апушчанымі вачыма і сарамліва маўчыць на працягу ўсяго вяселля. П'ючы, частуючыся і танцуючы, спяваюць розныя песні, якія не маюць ніякіх адносін да вясельнай цырымоніі [. . .]

Увечар малады выбіраецца да свайго дому; маладая перадае яму ў гэты момант праз сваю матку для яго мацеры і хроснага бацькі па кавалку палатна велічынёй з намітку. На развітанне цалуюцца. Ад'язджаючы, малады дае жонцы крыху грошай, залаты або 20 грошай, быццам гаворачы гэтым, што яна цяпер ужо належыць яму і што не мае права заставацца ў сваіх бацькоў. Дружка прышывае тром таварышам маладога, так званым маршалкам, на шапкі вянкі і кожнаму з іх павязвае праз плячо ручнік; у гэтых ручніках яны ходзяць на працягу ўсяго вяселля. Спяваюць.

Маладому:

Выкінь, жанішок, шчо на ноч:
Мы ж яе гадавалі рок, не два,
Выкінь, жанішок, рублёў два.

Маршалкам, падкідваючы іх шапкі ўверх:

Да не шапка скача — калпачок,
Выкінь, жанішок, шастачок;
Як не выкінеш шастачка,
Не будзе шапкі-калпачка.
Да не шапка скача — нікагда,
Выкінь, жанішок, пул рубля;
Як не выкінеш пул рубля,
То не будзе шапкі-калпачка.

Гэтак сама — дружку і свату.

## У МАЛАДОГА

У хаце маладога таксама ў пярэдадзень шлюбу пякуць каравай і падручнік, а ў дзень шлюбу ўпрыгожваюць іх. Калі малады паедзе, спяваюць, чакаючы яго:

Ой, жанішка батэнька доўга ждэ,
Маладога родненькій доўга ждэ.
Ой, гдзесь ёго конікі забрано,
Ой, гдзесь ёму шлюбу не дано.
Ой, забрано ёго конікі ў ночы,
Ой, не дано ёму шлюбаньку пры свячы.
Ой, гдзесь ёму чыраз міста дарога,
Ой, гдзесь ёго ў гулонькі понялі.
А паняўшы, мёдам, віном паілі,
Напаіўшы ды ў пярынаньку ўлажылі:
— Лягай, лягай, мілый госцю, ты ў нас,
Пераначуй гэту нучэньку ты ў нас,
Як дэнь білый, дай паедзеш ты ад нас.

Музыка грае, гуляюць і танцуюць. Пад вечар малады прыязджае. Калі стане ля парога хаты, прымаюць яго таксама, як у доме маладой па вяртанні са шлюбу: у вывернутым кажуху, з мёдам, пірагом або хлебам і гарэлкаю, паднесенымі на веку ад дзяжы. Пры гэтым спяваюць:

Панічок, жанішок,
Я зняў з дзівонькі вяночак
Да завёз матёньцы на значок:
— От табе, матёнька, вяночак
Ад сваей дзівонькі на значок,
От табе, матёнька, падаркі
Ад сваей дзівонькі-коханкі.

Затым гэтак сама абводзяць маладых тры разы вакол стала і спяваюць пасаг.

## МАЛАДЫ СА *СВАТОСТВАМ* ЕДУЦЬ ПА МАЛАДУЮ

Ужо ўночы малады выходзіць на вёску і збірае сватоства, г. зн. каля 30 мужчын і жанчын (дзяўчаты прыбіраюцца ў гэты час у намітці), і з такою світаю — не менш шасці вазоў або саней — едуць па маладую. Калі збярэцца сватоства, у хаце спяваюць:

Хадзіў, хадзіў Ясёў місяц по небу,
Збіраў, збіраў ясны зораньки ў грамаду:
— Збірайцеся, ясны зораньки, у грамаду,
Дай засвяцімо усе разам на небу.
Хадзіў, хадзіў маладый жанішок па сялу,
Збіраў, збіраў сваццю, браццю на скам'ю:
— Збірайцеся, сваццця, брацця, на скам'ю,
Дай поідэмо да тэстэнька на вайну,
Да возмемо маладу дзівоньку я к сабі,
Зваюемо таго караля, шчо ў зэмлі.

Сабранае сватоства сядзіць за сталом на лавах і спявае на выезд:

Ішла зырка да зыркі,
Ехаў жэнішок до дзіўкі,
Пытаецца сваго батэнька:
— Шэро мні там гаварыці?
— Нэ говоры, сынку, нічога,
Е ў цябе дружок для того,
Шчо ўмітымэ гаварытымэ
За цябе, молодого [...]

Скончыўшы песню, выязджаюць.

## У МАЛАДОЙ. ПРЫЕЗД СВАТОСТВА З МАЛАДЫМ

Ноч гэту ў маладой, пасля выезду маладога, ужо не спяць — чакаюць яго і спяваюць:

Як ты мяне, матэнька, аддасі,
На чырвонуй кітайцы напішы,
У каморы на скрыні палажы;
У камору іцімеш — забачыш,
З каморы іцімеш — заплачаш:
— Тут маё й дзіцятка хадзіла
І харашэнька рабіла:
Кудзільку прала — бурчыла,
Кросёнка ткала — звеніла [...]

З песень пераходзяць на забавы: іграе музыка, танцуюць. Затым прыязджае сватоства з маладым, спяваючы:

Да наіхаў зяць, да на цясцёвый двор,
Да залізный мост капытамі знёс,
Новыя сіны паразбівалі,
Цясовыя сталы параскідалі,
Мідзяныя кубкі паламалі,
Зялёна віно паразлівалі,
Сад, вінаград патапталі!
— Нэ гнівайся, мой цесценька,
Да залізный мост кавалі скуюць,
Новыя сіны майстры зладзюць,
Цясовыя сталы сталяры шчэшуць,
Сад, вінаград падрастае,
Мідзяны кубкі з Гльвова едуць,
Зялёна віно з Гыльгоўшчызны,
Малада дзівонька з Каралёўшчызны.

Шумнаму гэтаму поезду загадваюць, аднак, чакаць на дварэ, а ў хаце ў гэты час рыхтуюцца да прыёму і хаваюць маладую. Малады застаецца на возе, а сватоства — частка ў сенцах, частка на дварэ — спявае і танцуе, выказваючы ў песнях нецярпенне:

Чаму цешча не выходзіш —
Чы кажуха не маеш,
Чы зяця не знаеш?
Наш зяць белалычэнькі,
Пад ім конік невялічэнькі;
Наш зяць чарнабрывый,
Пад ім конічак сівый!

А дзяўчыну хаваюць паміж іншых дзяўчат наступным спосабам: некалькі з іх, у тым ліку і маладую, накрываюць радном, кожную паасобку, і надзяваюць ім шапкі. Дружкі шукаюць між іх маладую, а ў гэты час пяюць:

Запалімо свічку
Да ходзім па запічку,
Стукаючы, пукаючы,
Дзівоньку шукаючы.
Знаці, знаці маладу дзівоньку:
На плечы коска,
Пад ачыма слёзка.

Не наступай, літва,
Будзе з намі бітва:
Будзем біці, ваяваці,
Дзівоньку не даваці.

Калі дружка знойдзе маладую, дае ёй абаранкі, чаравікі і панчохі. Яна тады ўстае, кланяецца і цалуе дружка. Сястра ж яе

і яшчэ адна свая (родная) становяцца на табурэт і абсыпаюць маладую аўсом, прыпяваючы:

Ой, дайце нам простыр,
Становіце шырокі гослын:
Шчоб было гдзе спаці,
Дзівоньку асыпаці!
Да не на столку стаю,
Не краї берага ходзю,
Ды не гутонькі клічу,
Ды не золата лічу,
Ды не ў картанькі граю,
Ды не жартоньку маю —
Молоду дзівоньку гоўсэм обсыпаю!
Гоўсэм-гоўсыцаю,
Усякаю пашныцаю.

Толькі пасля гэтага малады сходзіць з воза, а хросная матка, зноў у вывернутым кажуху, сустракае яго [...]

Затым малады ўваходзіць у хату з усім сватоствам, якое спявае:

Добры вечар, добры дзянёк да хаты!
Ой, хто ж будзе гэтыя госці прыйматы,
І адазвалася да зазуленька рабенька,
Тая будзе гэтым госценькам радэнька.

Абое маладыя садзяцца потым за стол, і маладую *дораць*, г. зн. кладуць ёй дары, кожны што можа: *сукрутак* ільну (6—10 жылак), кавалак палатна такой велічыні, як на фартух, намітку, грошы, а бацька што можа з інвентару.

Ноч між тым праходзіць, становіцца ўсё відней, добрым ужо ранкам пачынаецца частаванне. Потым танцы, забавы, і так праходзіць увесь дзень — панядзелак.

## МАЛАДУЮ ПРЫБІРАЮЦЬ *МАЛАДЗІЦАЮ.* АД'ЕЗД

Пад вечар маладых праводзяць за стол, каб прыбраць маладую ў намітку, што называецца *молодую оповываты*. Для гэтага спачатку бяруць пасамку валасоў з галавы маладой і маладога і, трымаючы іх разам, падсмальваюць свечкаю. Потым накладаюць на галаву скрутак ільну, звязаны ў кола. Гэты лён абшываецца пазней палатном і служыць так званай *канкай*, паўсядзённым галаўным уборам пад намітку для маладзіцы. Яго ўжо потым не скідваюць: намітка можа быць знята і заменена хусткай, а канка застаецца. Умацоўваюць яе, прывязваючы на галаве чапцом, вязаным або гафтаваным іголкаю. На гэты лён накідваюць пры завіванні доўгую, шырокую намітку, якая называецца *пакрыва-*

*лам*, таму што служыць тут толькі для накрывання — яго яшчэ не завязваюць [. . .]

Пасля заканчэння гэтай цырымоніі пачынаецца вячэра, перад якой спяваюць:

Хадзі, матэнька, павячэраймо з табою,
Павячэраўшы, падзелімося з сабою:
Табе, матэнька, клітка, повітка[6], комора,
А мне, матэнька, бодня, гадэжа, корова.

Пасля вячэры збіраюцца ад'язджаць.

На развітанне маладыя кланяюцца, цалуюць усіх, старэйшым падаюць у ногі. Спяваюць ім развітальныя песні:

Ой, жаль жэ мні, мая матэнька, на тэбэ,
Остаецца моя рутанька ўся ў тэбэ.
Ой, уставай, мая матэнька, раненька,
Ой, палівай маю рутаньку часценька!
Як не стане, мая матэнька, вадзіцы,
То не пажалуеш мёду, віна ў шкляніцы,
Ой, ранную і вячэрную зоркаю,
А шчэ к таму драбнійшаю слёзкаю.

Да бярэш, жанішок, бярэш,
Дай умій шанаваці —
Не давай збыткаваці,
Ні старому, ні малому,
Ні свікорку своёму,
Шчоб не хадзіла цёмнай ночы пад акном,
Шчоб не ўціралa дробнэй слёзы рукавом.

Просіце, дзіўкі, бога,
Шчоб дуга паламалася,
Супоня парвалася,
Дзівонька осталася.

Усе выходзяць, маладыя бяруць кожны свой падручнік пад паху, а сеўшы на воз, закладаюць яго за світку на грудзях. Ля вазоў частуюцца гарэлкаю. Выносяць пярыну, бэдню з пасагам, падушку. Дружка і сваха абносяць тры разы вакол вазоў і коней цэбар з вадой; усе яшчэ раз развітваюцца песнямі, а калі праспяваюць апошнія песні, паганяюць коней, якія вязуць маладых у новае жыццё.

---

[6] *Повітка* (паветка) — гэта склад для земляробчых прылад; там таксама труць лён, выконваюць іншыя гаспадарчыя работы; уяўляе яна сабой будынак з трыма вокнамі, часта з лазы, пад страхой.

## ПРЫЕЗД ДА МАЛАДОГА. ЧАСТАВАННЕ

Прыехаўшы, бяруць зноў пад пахі падручнікі і спыняюцца ля парога хаты. Тут іх сустракаюць так, як і ў доме маладой, калі вярталіся са шлюбу, і частуюць мёдам, пірагом і гарэлкаю, спяваючы:

Да радуйся, батэньку,
Вязе сын нявістоньку —
Высока, як яліна,
Чырвона, як каліна!

Не лякайся, свікорка, шчо нявіста малая,
Мы ж яе падвышшымо, на шолку паставімо,
Золатам подважымо,
Усім людзям покажэмо!

Затым іх уводзяць у хату, абводзяць тры разы вакол стала, як у маладой, і таксама спяваюць пасаг.

Пасля гэтага падаюць на дзвюх місачках сыр і каўбасу. Маладыя крыху ядуць, астатняе аддаюць: сыр — дзяўчатам, каўбасу — хлопцам. У гэты ж час маладая аддае акраец з падручніка маладому, а ён аддае ёй свой. Потым праводзяць маладую ў камору, здымаюць пакрывала і прыбіраюць у намітку, што цяпер ужо называецца *молодую завываты*. Пасля гэтага маладыя прыносяць са студні вядро вады: палавіну яе выліваюць у дзяжу, астатнюю ставяць на стол для піцця замест віна. Гэта азначае, што яны ўжо самі гаспадары. Пасля гэтай цырымоніі разыходзяцца.

## ДЗЯЛЬБА КАРАВАЯ. ПЕРАЗОЎ. ГАСЦІНА

Пасля ад'езду маладой у аўторак у доме яе бацькоў адбываецца цырымонія дзяльбы каравая. Дзеляць яго цяпер толькі паміж усімі ўкладнымі па кавалку, а тыя завязваюць яго сабе ў хустку, ставячы ўзамен кварту гарэлкі. Адзін кавалак астаўляюць для маладой, якой назаўтра адвязе «перазоў». Спяваюць:

Ой, у полю, полю стаяла вежа,
Стаяла вежа мурована,
У сярэдзіні малёвана,
Ой, а ў той вежы
Дружочак ляжыць,
А ўстань, не ляжы,
Каравай падзялі.

У сераду да маладой едзе так званы *перазоў*. Даслоўна яго можна назваць *адзываннем* — ад слова *зваты*, зваць, клікаць.

таму што бацькі маладой, сваякі і вясельныя госці едуць нібы ў пагоню за маладою *перазваты*, адклікаць яе назад, выкупіць з няволі, як гэта ў песнях *пярэзвянаў* сустракаем:

Ой, свіснула два салавейкы на морэ...
Адазвалася малада дэівонька ў каморы:
— Да чы есць тута да мой батэнька на двары,
Да чы выкупіць мяне, маладую, з няволі?
Не за многа, мой батэнька, з няволі:
За сто злотых, за чатыры чырвоны!
— Да не выкуплю, маё дзіцятко, ніколі,
Пакуль табе гасподзь пазволіць.
Було не хадзіці да броду па воду,
Було не слухаці тых салавейкаў, шчо паюць,
Було не браці падаруначкаў, шчо даюць;
Бо тыя ж цябе падаруначкі падвялі,
Ад батэнька да да свікорка завялі!

Пярэзвяныя співаюць у дарозе і прыехаўшы ў двор. Едучь праз вёску, пяюць:

Ой, чые ж то перазвяначкі блудзілі,
У чыстому полю да дарожаньку згубілі?
Ой, выбегло да маленькае паколя.
Сюда, й сюда перазвяначкі да сяла;
Ой, сюдою нам дарожанька казёна,
Ой, сюдою наша дзівонька вязёна.

Перазоў прывозіць з сабою для маладой кавалак каравая, які яна дзеліць і дае ўсім дамашнім; акрамя таго, яшчэ *настольнікі*, г. зн. абрусы, і ручнікі. Адна з жанчын і мужчына засцілаюць на стол два настольнікі і ўпоперак іх адзін ручнік; астатнія ручнікі (шэсць) развешваюць па сцяне, на абразы і на колікі. Пачынаецца частаванне — перазоў гуляе і ад'язджае.

У чацвер цырымонія дзяльбы каравая адбываецца ў маладых, як перад гэтым у бацькоў маладой, таксама з песнямі.

У наступныя дні да нядзелі адпраўляецца *гасціна*, г. зн. адбываюцца візіты: маладыя, бацькі маладога і яшчэ некалькі асоб з іх сям'і едуць да бацькоў маладой. Тыя прыязджаюць да іх з візітам у адказ. Пасля тыднёвых, а часам і больш працяглых забаў вяселле канчаецца.

# ВЯСЕЛЛЕ Ў БЕЛАРУСАЎ-ЛІТВІНАЎ

## Запісала М. П. Косіч

[. . .] З 7 студзеня царква дазваляе вянчацца, і з гэтага часу да *маслянкі* адбываецца болей шлюбаў, чым калі. У сялянскім побыце цяжка сустрэць старога халасцяка і пажылую незамужнюю жанчыну, таму што жанчына ніколі не бывае цяжарам для мужчыны, з'яўляючыся рабочай сілай. Бацькі заўсёды спяшаюцца ажаніць сына і адцягнуць, на колькі магчыма, выданне дачкі, каб яна паспела адрабіць матцы і бацьку за тое, што яны яе выгадавалі.

Зрэшты, маткі і проста шкадуюць аддаваць сваіх дачок замуж. Выціраючы слёзы, яны гавораць: «*Што ж дзелаць: дачка не бацькава карысць, я ж яе гадавала і кукобіла* (песціла), *а прышло ўрэмя, і трэба аддаць у чужыя людзі; хоць бы ж яна яшчэ гадочак пакрасавалась у дзеўках*».

Сяляне лічаць вяселле спусташальнай з'явай для гаспадаркі і з жалем скардзяцца, што *сяголета яму крэпка мутарна прышлось: грэчачка памерзла; там пашлі сухмені — канапелька не ўзыйшла; а тут яшчэ надаспела і жаніцьба сына, усё адно к аднаму пашло на вубыткі; давялось трохі і на каўнер прыхваціць у купца.*

Не дзіўна, што ў гэтым выпадку «на каўнер» трэба. На вяселлі ж выпіваецца не менш трох вёдзер гарэлкі. А ў ранейшыя часы пры таннай гарэлцы і вольным яе продажу расходавалі да сямі вёдзер. Апрача гэтага, к вяселлю гадуецца на зарэз які-небудзь падсвінак або бычок-*сяголетак.*

«*Вяселле каштавата,* — гавораць сяляне. —*Ажэ ж і без етага нільзя абайціцца: што трэба, то трэба,— свадзьба сарочку знайдзе. А тут яшчэ пакуль папа ўяднаім, дык чуб мокар будзе*».

Клопаты гэтыя яшчэ больш павялічваюцца, калі за бацькамі хлопца і дзяўчыны значыцца «ракаўшчына». Гэта не што іншае, як надзяленне збожжам свяшчэнніка, які з кожнага двара бярэ па некалькі фунтаў. Ракаўшчына вызначаецца на сельскім сходзе, але большая частка прыхаджан не разлічваецца і зацягвае яе гадоў на дзесяць, а калі справа даходзіць да вяселля і цаны за вянчанне, то свяшчэннік аб'яўляе: «Перш за ўсё — прывязі ракаўшчыну».

Калі прыходзяць «яднаць папа», бацюшка вітае прыбылых, як гасцей: садзіць на ганаровае месца, падносіць *па чарцы гарэлкі;* затым пачынаюцца бясконцыя размовы, спачатку зусім міра-

любівыя, а пад канец гарачыя, часам нават даходзіць да сваркі і спрэчак.

Не дамовяцца першы раз — праз дзень-два зноў прыходзяць: *— Ну, ця, дык як Вы, бацюшка? Ці не можна за тры з палцінай перавянчаць? А ракаўшчыны ўжо, бацюшка, не пытайце цяпер, аб калядах раждзяственскіх усю зара́з аддавім.*

Інтарэсы сялян і свяшчэнніка вечна сутыкаюцца, а таму паміж прыхаджанамі і пастарам заўсёды абвостраныя адносіны. Прыхаджанін і кланяецца і ўсміхаецца бацюшку — і камень за пазухаю трымае. Таму і ўзнікаюць падобныя выслоўі: *з вялікім брухам — на папоў двор; папоўскія кішэні; зайздросныя папоўскія вочы* і г. д. Але ў гэтым выпадку і свяшчэнніка нельга зусім вінаваціць: ён жа мае ўсяго 120 рублёў гадавога даходу (у нас у Мглінскім павеце). Які чыноўнік зможа пражыць з сям'ёю на гэту суму? Свяшчэнніка многія кляймуюць карысталюбцам, але і яго доля не зайздросная: прыход жа яму даецца на такіх умовах, як у даўніну даваліся гарады «в кормление».

## СВАТАННЕ

Сваты прыходзяць у дом нявесты з хлебам ці з пяцікапеечнай французскаю булкаю, з паклонамі і вітаннямі. *«Добры дзень вам, штоб здаровенькі былі, з аўторкам вас паздраўляем!» — «Благадарым пакорна, праходзьця далій, просім пакорна садзіцца».*

Калі ў ліку сватоў ёсць які-небудзь гаварун, то абавязкова пачне так: *«Хадзілі мы, брадзілі па вашаму лесу, напалі на след пушнога звера, гналісь, гналісь за куніцай, у сяло ўвагналі і след пацяралі. Сталі шукаць, аж след пашоў к вашай хаце. Распыталісь у людзей, аж то быў не пушны звер, то не куніца, а красная дзявіца».*

Калі ж у сватоў няма ўмення і ахвоты да лішніх размоў, то гавораць проста: *«Во вам хлеб-соль, у вас тавар — у нас купец, будзім сваты. Наш парень змірный, у яго і двор свой, і гародчыку з поўдзесяціны ёсць»* і г. д.

Але бацькі словам сватоў не вераць, а таму хлеб астаўляюць пакуль у сябе і адказваюць: *«Мы распытаемся, падумаем».*

Затым едуць у *выгляды* ў двор маладога, і калі ім там не спадабаецца, то замест адмовы адсылаюць хлеб назад. Згоды ў нявесты абавязкова пытаюцца, але ні адна дзяўчына не дае станоўчага адказу, а гаворыць: *«Як хочаце».* Гэта і азначае, што яна згодна выйсці замуж. Тады астаўляюць прынесены хлеб, пасылаюць па гарэлку, частуюць сватоў і разам вызначаюць дзень, калі *іграць заручыны.*

## ЗАРУЧЫНЫ

Пад вечар у вызначаны дзень прыязджае жаніх з дружком і маладымі хлопцамі. Прывозяць яны з сабой музыку і гарэлку. Вось усе прыезджыя і запрошаныя госці ўселіся за стол. Маладой з таварышкамі няма. Потым адчыняюцца дзверы, уваходзіць адна з сяброўак нявесты і нізка кланяецца ўсім. *«Не, не, харош тавар, да не наш».*

Гэтак жа ўваходзіць другая, трэцяя з паклонам. Нарэшце, прыходзіць і маладая ў суправаджэнні таварышак. Пасля яе паклону чуецца крык: *«Ета наша, наша, міласці просім».*

Нявеста падыходзіць да жаніха і павязвае яму свой падарунак — стужку на каўнер рубашкі.

Затым яна падносіць дзяўчатам гарэлку, і тыя пачынаюць спяваць, звяртаючыся да сватоў і прыезджых:

Мы думалі: яны смяяліся,
Аж яны змаўляліся.
Мы думалі — ваду пілі,
Аж яны — гарэлачку.
Мы думалі — з вядзёрачак,
Аж яны — з бутылачак.
Мы думалі — карцом пілі,
Аж яны — стаканчыкам.

(с. Расуха Мглінскага п.,
ад 18-г[адовай] дзяўчыны)

## НАПЯРЭДАДНІ ВЯНЦА

У доме жаніха. Напярэдадні вянца вечарам у доме жаніха збіраюцца запрошаныя *суседзі*, свашкі і дружко *каравай чапаці* (вешаць). У прыцемку запальваюцца перад абразамі лампадка і васковая свечка, накрываецца белым абрусам стол і на ім ставяцца *верч* і *каравай*. Гэта пшанічныя хлябы, пафарбаваныя ў чырвонае і паабтыканыя абвітымі каляровай паперай палачкамі, на версе якіх пасаджаны вылепленыя з цеста фігуркі пеўнікаў, арлоў і інш. Верч стаіць загадзя прыбраны, гатовы, а для каравая ўсе гэтыя палачкі з фантастычнымі птушкамі купляюцца асобна і прымацоўваюцца на ім якраз цяпер, напярэдадні вянца.

Спачатку ўсе моляцца перад абразамі, а затым садзяцца за стол. Дружко як галоўны цырымоніймайстар прыўздымаецца і абвяшчае:

Баславі, ацец-маці,
Свайму дзіцяці
Каравай чапаці.

— *Няхай бог баслаўляе,*— гучыць у адказ.
І свашкі (маладыя замужнія жанчыны) пачынаюць спяваць:

Караваю мой маляваны,
Да хто ж цябе маляваў:
Ці багі цябе малявалі,
Ці малыя бажанятачкі?
— Малявалі мяне зорачкі,—
Да расускія дзевачкі.

(Завучана мною яшчэ ў 60-х гадах
у с. Расуха на вяселлях)

Матачка Данілу радзіла:
Месяцам абгарадзіла,
Звяздою падперазала,
Дарожку ўказала:
— Едзь, мой сыночак, не стой,
У цябе конічак не свой,
Ночачка цёмная,
Дарожка не торная,
Дружына не верная.

(Завучана мною ў 60-х гадах
у с. Расуха на вяселлях)

Ходзя маці да па вуліцы,
Суседачак прося:
— Суседачкі мае,
Хадзіце вы ка мне,
К майму дзіцяці
Караваю чапаці;
У майго сыночка
Сам бог каравай меся,
Прачыстая свецця,
Ангелы да ваду носяць,
Мікалая просяць:
— Мікалай-чудатворац,
Хадзі к нам на помач!
Да ніхто ж таго не знае,
Што ў нашым караваі:
З сямі кароў масла
Да яец паўтараста,
Да с трох крыніц вада,
Да с сямі лавак мука.

(с. Расуха, ад 66-гадовай жанчыны)

У доме нявесты. Дзявічкі. У гэты самы вечар, калі ў жаніха чапаюць каравай, у нявесты *гуляюць дзявічкі.* Перад змярканнем нявеста з паднявесніцай (сяброўкай) ходзіць з двара ў двор і, колькі б у хаце ні было народу, кожнаму адвешвае нізкія паклоны. Падлеткам і моладзі кланяецца ў пояс, ціха і сціпла прыгаворваючы: «*Прашу міласці ка мне на дзявічкі!*» І ат-

рымаўшы адказ: *«Няхай гасподзь памагае!»* — яна паўтарае яшчэ два разы свой паклон у знак удзячнасці за пажаданні. Старшым за сябе робіць тры зямныя паклоны. *«Богу святому кланяйся, дзіцятка,»* — адказваюць ёй ласкава.— *Дай жа, божа, табе шчасця й долю і ўсяго, чаго ты сабе ад бога просіш».*

Аднак, нягледзячы на мноства паклонаў (іх даводзіцца ў гэты дзень адбіць не менш паўтары сотні), на дзявічнік прыходзяць толькі дзяўчаты, сваякі і сёй-той са знаёмых, запрошаных бацькамі гасцей.

На дзявічках старэйшыя *залязаюць за стол на бяседу*, іх *частуюць гарэлкай*, падаюць закуску. Дзяўчат з нявестай адводзяць у іншую хату, а калі няма куды, то да суседа. Туды ім адсылаецца закуска і крыху гарэлкі. *Дзеўкі не п'юць па багату гарэлкі, яны саромеюцца і толькі прыгубюць, хоць іншай гарэлка працiйна, як старцу грыйна.*

На дзявічках не бывае ні музыкі, ні танцаў. Сяброўкі, як бы развітваючыся з нявестай, праводзяць з ёю апошні вечар, час ад часу спяваючы песні *на жаласны голас*:

Кукавала вязюлечка ў садочку,
Прыхіліўшы галовачку ■ лісточку;
За лісцейкам галовачкі не відаці,
За пташкаю галасочка не слыхаці;
Заплакала Адарачка ў святліцы,
Прыхіліўшы галовачку к скам'іцы,
Яна плакаўшы гаварыла:
— Як мне ў чужыя людзі іціць?
Як мне свёкру наравіць?
Зайшоў, прышоў Данілачка:
— Не журыся, дзяўчоначка,
Ёсць у мяне тры чалядачкі;
На круку тры нагаячкі:
Адна будзе рана пабуджаці,
А другая дзела рабатаці,
А трэцяя свёкру наравіці.

(с. Чоўня Старадубскага п., ад 50-гадовай жанчыны)

А чыя ж ета рута-мята пад гарою
Зарасла, забуяла лебядою?
— Да чаго ж ты, Мархвачка, так сядзіш,
Да чаго ты рутачкі не полеш?
— Цяпер мне, дзевачкі, не да руты,
Бярэ мяне дзяцінка ў свае рукі —
У чужую старану на векі.

(с. Расуха, ад 47-гадовай жанчыны)

Ці я табе, мой бацюшка,
Няверніца была,

Ці няверна служыла?
І з цераму да й не выходзіла;
Толькі ж была выйшла
І з церама да ганачкі
Да й глянула я на красачкі,
Аж мае краскі — йграюць,
А мае жываточкі вянуць.
Хоць іграйце, краскі, не іграйце,
Мне ў бацькі не жыці
І вяночкаў не віці.
Адзін была звіла
І таго не знасіла,
Павесіла да й у цераме,
У цераме да за дзверамі,
На залатом гваздочку,
На шаўковым шнурочку.

(у с. Семашкове Старадубскага п.,
ад 35-гадовай жанчыны)

У вёсцы Расуха да гэтай песні прыбаўляюць яшчэ тры радкі:

Куды татухна ідзе —
Галоўкаю чыркаецца,
Слёзкамі абліваецца.

Якімі толькі ласкавымі словамі не называюць яе ў песнях прысутныя тут равесніцы — сваю заручаную сяброўку дзяцінства: яна ў іх на развітанні і *вішанька*, і *серая зязюлечка*, і *белая бяляначка*, і *красная суравежачка.*

Серая мая зязюлечка,
Борам ляціш,
Чаму не кукуеш?
Красная мая дзяўчоначка,
Вечар сядзіш,
Чаму песень не пяеш?
Села ты да павышай усіх,
Галовачку схіліла
Да паміжы ўсіх.

(Зап. на хут. Аляксандраўка
Мглінскага п. на дзявічках)

Маладая да Мархвутачка,
Перайдзі сені,
Да падай татухне вадзіцы:
Твая вадзіца салодка,
Саладзей мёду і віна,
Што й заручоная падала.

(с. Расуха, ад 17-г[адовай] дзяўчыны
ў 1860 г.)

Раніцаю перад вянчаннем жаніх з дружкам, баярамі і сваімі гасцямі едзе ў дом нявесты. Пры выездзе вясельнага поезда з бацькавага дому на дварэ спяваюць:

На небе зорачка світае,
Іванька коніка сядлае,
У яго мамухна пытае:
— На што коніка сядлаеш,
Куды ты, сыночак, паедзеш?
— Паеду, мамухна, паеду
У тую дарогу часную,
Па тую Лукірку красную.

(в. Водвінка Мглінскага п.,
ад 40-гадовай жанчыны)

Жаркае сонейка
Калясом над лясом,
Не куй, дзяцінка,
Сталянога нажа,
Падкуй, Іванечка,
Варанога каня.
Сталяны ножычак
На стале ляжыць,
Вараны конічак
У дарозе бяжыць.

(с. Расуха, ад 40-гадовай жанчыны)

Пад'язджаючы да двара нявесты, спяваюць:

Ой, ехалі барамі,
Цёмнымі лясамі,
Пілі ваду з крынічанькі.
— Стой, пастой, мой канічанька.
Не мая дружыначка,
Не мая вярненькая —
Прыехаў Андрэйка к варотам,
Яго конічак пад злотам.
Павінае пяро на каню лягло,
Па яго галовачкі,
Па раменнай збруячкі.
Вышла цешчухна вітаці —
Ён назад канём ступаці:
— Стой, пастой, мой канічанька!
Стой, пастой, мой вароненькі,
Не мая дружыначка,
Не мая вярненькая.

Потым песня паўтараецца спачатку: «Вышаў свёкарка вітаці», затым — «Вышаў брахнейка...» Калі, нарэшце, справа даходзіць да нявесты, то заканчваецца так:

Вышла Адарка вітаці,
Ен уперад канём ступаці:
— Стой, пастой, мой канічанька,
Стой, пастой, мой вароненькі!
Во ж мая дружыначка!
Во мая вярненькая,
Во мая радзіначка,
Во мая радненькая.

У дзень вяселля раніцаю нявеста з паднявесніцай зноў абыходзіць усё сяло і тройчы кланяецца кожнаму, кажучы: *«Прашу міласці на вяселле!»*

Неўзабаве ў сяло ўязджае жаніх з дружкамі, свашкамі і сваімі гасцямі, якія ўсе разам называюцца *паязджанамі.* Чым багацей вяселле, тым большы поезд. Калі ўжо ўсе сабраліся ў хаце, туды ўрачыста ўводзяць маладую з наступнаю песняю:

Ступіла Дунечка на парог,
Сустрэў яе гасподзь бог —
Доля яе шчаслівая,
Добрая гадзіначка.
Бог яе сустракае,
Прачыстая святая,
Доля яе шчаслівая,
Добрая гадзіначка
З усёю радзіначкай.

Перад тым як адправіцца да вянца, дружко ставіць усіх у хаце ў рад: маладую з маладым, затым розных браценікаў (дваюрадныя браты), заловак, сваячак і інш., загадвае ўсім узяцца за рукі, сам бярэ за руку нявесту, заводзіць іх у гэтым парадку за стол і садзіць так, каб нявеста села ў канцы стала. Тут захаваліся рэшткі старадаўняга звычаю куплянне нявесты. Мезены брат прадае касу сястры даверанаму жаніха — дружку, які падносіць брату чарку гарэлкі на драўлянай талерцы і некалькі капеек грошай. Брат не бярэ, адмаўляецца, гаворыць, што каса сястры *даражэй стоіць*; яго ўгаворваюць і пасля торгу дабаўляюць яшчэ некалькі капеек да пятака або грыўні. Калі каса прададзена, нявесту акружаюць сяброўкі. Паднявесніца расплятае касу, астатнія *жаласна пяюць.* Маладая, расстаючыся са сваім *дзявоцкім жыццём*, ціха плача, апусціўшы галаву.

Не брат касу трэпле,
Не брат расплятае,
Чужа-чужаніца,
Красная дзявіца
Па валасу разбірае,
Па слёзцы раняе.
Русую косачку брат прадаў.

— І дзе ж ты ўплёткі падзяваў?
— На стале паклаў,
Меншай сястрыцы падаваў:
— На ж табе, сястрыца,
Сястрыны ўплёткі.
Судзі, божа, табе то,
Хоць не сёлета,
Дык на то лета
Аб такой парэ, як ета.
Ета табе, Просечка, за тое,
Што пляла косачкі ўтрое.
Плесць было косы
У чатыры рады,
Жыць было з татухнай
Да чатыры гады.
Запляла ты косачкі радамі,
Прыехаў Іван да з дружкамі, (2)
Расплёў косачкі з шнуркамі.

Ад'язджаючы ў царкву, дружкі просяць у *радзіцялёў* нявесты *падарожную*. Ім даюць пляшку з гарэлкай і чарку. Звычай такі: усякі, хто сустрэнецца з вясельным поездам, мае права патрабаваць падарожную, г. зн. па чарцы гарэлкі. Адмовы ў гэтым выпадку быць не можа. Па дарозе ў царкву спяваюць:

Ой, попе, попе Гардзею,
Звянчай дзетачак у нядзелю.
Ой, попе, попе бацька наш,
Звянчай дзетачак у добры час.
А калі не будзеш вянчаці,
Будуць твае кудзяркі трашчаці,
Як лютый мароз на дварэ,
Так твае кудзяркі на галаве.
А мы едзем к папу,
Вязём грошай капу,
А калі з яго мала,
Штоб яго разарвала!..

Едучы назад з царквы, спяваюць:

З-пад вянца Ганначку, з-пад вянца,
Зламіла з бярозы верхаўца.[1]
Стой, мая, бяроза, без вярха,
Без шырокага лісцейка.
Жыві, мая матухна, без мяне,
Без мае русае косачкі,
Без дзявоцкае кросачкі.
Ой, рад-радзёнек Хведарка,
Што й у божым дамку пабываў,
На белым рушнічку пастаяў,

[1] Вяршыню.

З правае ручанькі персцень здзеў
Да на сваю Дунечку[2] паглядзеў.

(с. Расуха, завучана мною
на вяселлях у 1859 г.)

Пад'язджаючы да двара, спяваюць:

Запалі, матка, свечку,
Выйдзі на сустрэчку,
Ці паэнаеш, маці,
Ты свайго дзіцяцю —
Да ўжо ж тваё дзіця
Звенчана едзе...

(с. Расуха, 1859 г.)

Пры з'яўленні маладой на парозе спяваюць песню:

Ой, тучка наша — Дунечка,
Па небу ішла тучамі,
І з неба сыйшла дажджамі,
Па рацэ плыла вутачкай,
У сені ўвыйшла паваю,
За сталом села паннаю.

(в. Лупекі Старадубскага п.,
ад 40-гадовай жанчыны)

Пасля прыезду з царквы жаніха, нявесту і паязджан садзяць за стол. Затым матка прыносіць на *вечку* падарункі — рукадзелле нявесты: маленькія хустачкі з ільнянога палатна, кавалачкі для рукавоў, ручнікі.

Пры гэтым спяваюць адпаведныя моманту песні:

Што й у вароцечках рэчачка,
Кала тыя рэчачкі — сцежачка.
Ой, там Дунечка хадзіла,
Тонкія падарачкі бяліла.
Годзе табе, дзевачка,
Падаркі бяліці.
Ужо тваe падаркі бяленькі,
А ўжо тваe баяры блізенька;
Ужо тваe баяры ў полі.
А хоць у полі, не ў полі,
Да няхай будуць здаровы,
Шчэ й мае падаркі не гатовы.

(с. Манюкі Навазыбкаўскага п.,
ад 46-г[адовай] жанчыны)

---

[2] Тут, па логіцы, зноў трэба б было напісаць — Ганначку.— Заўвага перакладчыкаў.

Пры з'яўленні маткі з падарункамі пачынаюць спяваць:

Паўзе, паўзе да мурашачка,
Нясе, нясе да падарачкі:
Падаркі бяленькі,
Ад слёзак макрэнькі.
А казалі, Ганначка не праха,
А казалі, Ганначка не ткаха —
Яна ж рана ўставала,
Яна ж тоненька прала,
Часценька ўсё ткала,
Бяленька бяліла,
Усім сваім баярам дзяліла —
Жоднаму[3] дзевяру па рушнічку,
Жоднай залоўцы па намётцы.
Была скрыня поўна,
Цяпер палавіна,
Мацер адабрала,
Баяр даравала.

(в. Лупскі, ад 40-гадовай жанчыны)

У гэты час гасцям па старшынству падносяць з паклонам чарку гарэлкі і падарунак, а хроснай матцы абавязкова чобаты або чаравікі, кажучы:

— *Штоб не пагнеўны былі да заўдзяшні прынялі!*

Гулі, гулі пчолы,
К вуллю прыпадаючы,
Плакала Мар'ячка,
К кублу прылягаючы:
— Ой, кублe, мой кублe,
Да што й у цябе бубне?
Зіму прала, вясну ткала,
Лецечка бяліла,
За адзін час раздзяліла.

Акрамя запрошаных гасцей, глядзець вяселле ідзе ўсё сяло— стары і малы; пад вокнамі, на дварэ, у сенцах, у хаце, на палацях і нават на печы збіраюцца пабочныя гледачы (якім, між іншым, не належыць ніякі пачастунак).

Дружко і гаспадары ўвесь час ходзяць па хаце з пачастункамі, трымаючы ў правай руцэ бутэльку з гарэлкай, у левай — накрытую палатном драўляную талерачку з поўнаю чарачкай, якую ўвесь час прапануюць гасцям: *частуюць усіх.*

Спяваюць, крычаць, гаворяць, хто на што здатны — сапраўдны кірмаш. Моладзь пад музыку танцуе дзе-небудзь на вольным

---

[3] Кожнаму.

паветры пад павеццю [4], нягледзячы на зімовую пару, а часам і марозы.

Потым пачынаецца абед таксама з вялікаю выпіўкаю. Пасля абеду жаніх і пераважна моладзь запрагаюць сваіх коней і пераязджаюць на падрыхтаваную для іх раней кватэру ў адзін з суседніх двароў. Туды забіраюць музыку, прывезеную жаніхом гарэлку, сала, каўбасы і інш. Гэта і называецца *свашкі гуляюць*.

Што й цешча зяця
На вячэру звала,
Да сахорны кусок
На блюда клала.
Прыляцеў сакол,
Рассыпаў сахор,
Крылцамі, перцамі
Па століку разнасіў.
Як прыехаў зяць,
Нечым частаваць,
Маладую Лукірку
Да й трэба аддаць.

(в. Лупекі, ад 34-гадовай жанчыны
ў 1894 г.)

Перад канцом балю, калі свашкі нагуляюцца, пачынаюць напамінаць маладому, што пара ехаць у двор да цесця па нявесту, якая ўжо засумавала *па сваём дзяцінкі*.

На руце-мяце жоўты цвет,
Чаго цябе, Андрэечка, дасюль нет?
Цябе Хоўрачка даўно ждзець,
Із-за столейка вон не йдзець.
Пісала б пісьмо — не ўмею,
Паслала б пасла — не смею.
Сама б я пашла — баюся,
З чыстага поля вярнуся.
У чыстым полі старожа,
Тая старожа спаймае,
Па русай касе ўгадае:
Ета косачка распляцёная,
Ета дзевачка абвянчаная.
У панядзелак рана
Да сіня мора йграла,
Сонейка купалась,
Адарачка ўмывалась,
Бяліла забыла,
На камені палажыла.
Каму ехаць па бяліла?
Дружкоў конь не кован,
Яго вазок не мулёван,

[4] Чатыры слупы і зверху страха.

Каму ехаць па бяліла?
Данілкін конь да падкован
І вавок яго памулёван —
Яму ехаць па бяліла,
Яму ехаць па бялілечка.

Між тым у доме нявесты пад вечар пачынаюць дарыць маладую. Усе сядзяць важна за сталом.

Устае дружко і выкрыквае па чарзе імёны бацькоў і гасцей: «*Есць тут, ёсць Домна Пасулаўна, хросная маці? Чым Вы нашага маладога князя і маладую княгіню падаруеце? Ці валом, ці канём, ці бітым чырвонцам?*»

Людзі больш блізкія дораць на новую гаспадарку жыўнасць, як, напрыклад, авечку, цялушку *другім гадком, парасё-гадавічка.*

Іншыя, асабліва дзяўчаты, дораць кавалкі льнянога палатна, ручнікі, а большасць гасцей на тую ж талерку, на якой падносяць гарэлку, кладуць дробныя манеты і выпіваюць чарачку.

А іншы, жартуючы, закрычыць: «*Дарую маладога князя і маладую княгіню падаркам: тым канём, што не дагоніш усім сялом*»,— і пры гэтым выпускае з рук верабья.

Тут жа дзеўкі *дражняць* маладога ў прыпеўках:

У нашага маладога
Да ўсё не людное:
Шубка сабача,
Шапка цяляча,
Чабоцікі парасячы.
Шапка раўне,
Шубка брахне,
Чабоцікі піснуць —
Дружка чэрці сціснуць.

(Завучана мною ў с. Расуха
на вяселлях у 1859 г.)

Да куда ты, Дар'ячка, глядзела,
Да каго ты сабе выглядзела?
Ён гарбат, грыбат, не прыгож,
Савіныя вочачкі, чаплін нос,—
Куды цябе, дзевачка, чорт панёс?

(Завучана мною на вяселлях
у с. Расуха ў 1859 г.)

Дружко спачатку гуляе са свашкамі, а потым прыходзіць у хату, дзе адорваюць маладую.

*Дзеўкі* ў прыпеўках *дражняць дружка:*

А казалі, сваты багаты,
Аж яны ўбогі,

Іх коні бязногі,
Самі пяшком ішлі,
Жаніха ў мяшку яслі. (2)

(в. Ябланька Мглінскага п.,
ад 60-гадовай жанчыны ў 1890 г.)

Дзеўкі дружка білі,
Хахол абарвалі,
Хто йдзе, тэй пытае,
Чый хахол лятае.

(с. Расуха, ад 30-гадовай жанчыны)

Дражняць таксама паднявесніцу і паджанішніка:

Паднявесніца-псіца,
Сядзіць, як лісіца,
І гарэлачкі не п'е,
І песень не пяе.

(Завучана мною ў 1854 г.
на вяселлі ў с. Расухэ)

Паджанішнік малады
Пагнаў кацят да вады,
Каторае не йдзе —
За хвост падвядзе,
Каторае пабяжыць —
Ён тое прыдзяржыць.

Астатні час маладая праводзіць сярод сваіх *таварышак*. Іх усіх саджаюць за асобны стол або адводзяць у іншую хату. Малады і дружко ў гэты час знаходзяцца ў *сватак на хватэры*.

У маладой яе сяброўкі спяваюць развітальныя песні:

Каціліся ігрушкі з вярхушкі,
Пакідаюць Мар'ячку падружкі —
Дружачка наша, Мар'ячка,
Як нам з табою расстацца,
Да як месячыку з зарою,
Так нам, Мар'ячка, з табою.

(Завучана мною ў с. Расуха ў 1858 г.)

Але вось сонца ўжо зайшло, агні даўно запалены. Апошнія хвіліны ў бацькавай хаце ідуць для маладой хутка. Развітальны вечар з сяброўкамі на зыходзе.

Чуецца ўдалечыні тупат коней, скрып саней або калёс: едуць паязджане забіраць маладую. Развясёлыя, п'янаватыя свашкі спяваюць песні:

Аддайце нам дзеўку,
Аддайце й пасцельку,
Навалочкі ў кружкі,

Дзяругі ў рады.
А мы Мар'ячцы рады.
Аддайце нам радно,
Яна ў мамачкі адна,
Штоб ногі не тырчалі,
Сабакі не гірчалі!
Людзі не варчалі,
Трасца матцы ў пяткі,
Што й некаму падмесць хаткі.

(в. Ябланька, ад 65-гадовай жанчыны ў 1890 г.)

Не дзівіцесь, прыданкі,
Што кароткі падаркі:
Ляны не ўрадзілі,
Падаркі ўкарацілі.

(Завучана мною ў 1859 г.
на вяселлях у с. Расуха)

Пачуўшы скрып варот і песні, дзяўчаты за сталом у сваю чаргу спяваюць:

Прыехала літва,
Будзе ў нас бітва,
Будзем ваяваці,
Хоўрачку не аддаваці.

(в. Лупекі, ад 35-гадовай жанчыны
ў 1891 г.)

Калі літва ў асобе свашак не ваяўнічая, то яна ветліва запрашае дзяўчат уступіць месца:

Дзевачкі-панянкі,
Уважце нам лаўкі.

Дзяўчаты адказваюць:

А вы, свашкі-гаспада,
Пажалуйце вы сюда.

Калі ж свашкі задзірлівыя, то спяваюць:

Дзевачкі з застолля,
Як сучкі з падполля.

На гэта дзяўчаты, не ўстаючы з-за стала, адказваюць:

Торна сцежка, торна,
Ад стала да прыпечку
Свашкі ўтапталі,
Памыі хлябалі.

(Там жа, ад той жа)

Па абодва бакі маладой сядзяць яе сваякі, і таму дружко купляе месца каля яе для маладога. У яго запрошваюць 100 рублёў, але хутка згаджаюцца і з тым, што дружко дае ім капейкі і падносіць па чарачцы гарэлкі на традыцыйнай талерачцы. Тады дзяўчаты ўстаюць з-за стала, і дружко ва ўзнагароду за тое, што ўступілі месца каля маладой, дае кожнай па стужцы. Дзяўчаты спяваюць:

Ці я ў цябе, мамачка, не дзіцятка,
Што ты мяне ў ету ноч
Адсылаеш проч,
Свечачкі ў рукі не даеш
І праваднічка ўслед не шлеш.
Вот табе свечачка — месячка,
Вот табе праваднік — Хведарка.

(Там жа, ад той жа)

Дзяўчаты выходзяць з хаты, а свашкі спяваюць:

Ужо коні запрэжаны,
Ужо вазы завернуты,
Пасцелька паслана,
За мной, маладой, прыслана.

(Там жа, ад той жа)

Шаўковая нітачка к сцяне льне,
Просечка татухне чалом б'е:
— Дабранач, татачка, дабранач,
Нашто аддаў дочку не на ноч,
Не на адну ночку — на ўвесь век?
— Не адну цябе, маладу,
А ўсіх дзевачак, што ў раду.

(Там жа, ад той жа)

Выграбай, матка, жар, жар,
Калі табе дачкі жаль, жаль,
Закідай, матка, дровы,
Аставайцесь здаровы.

(Завучана мною на вяселлях
у 1858 г.)

Маладую ўжо адзяваюць у дарогу, дружко *падпяразывае яе поясам*. Бацькі бяруць абразы, спяваюць:

Не стой, татачка, у парозе,
Ужо твая госцечка ў дарозе,
Прыступісь к століку блізенька,
Пакланюсь я табе нізенька.
Коскамі зямельку ўсцялю,
Слёзкамі ножачкі абалью.

Пачынаецца блаславенне і немінучыя слёзы. Маладыя выходзяць з абразамі ў руках, за імі паязджане з песнямі:

Азірніся, маці,
Ці ўся сям'я ў хаце?
Вяліка шчарбіна,
Няма сем'яніна.

У гэты час на воз кладуць пярыну, падушкі, садзяць на іх маладых, даюць ім у рукі хлеб-соль, абразы, а на галовы накідваюць белы абрус. Поезд рушыць з песнямі і музыкай. У паязджан ёсць і падарожная — на выпадак, калі хто сустрэне і папросіць вясельнага пачастунку.

Сустракаюць поезд не заўсёды. *«Калі дружкі п'яны, луччай не чапай іх, не дадуць, канальі, гарэлкі, усю самі параспівалі ў дарозе, і ад таго, што п'янаму закон не пісан, ▪ то яшчэ які ў хмялю, чаго добрага, вылаецца, ведама, што ў цвярозага на вуме,— у п'янага на языку».*

Едучы, спяваюць:

Та-ра-рай, калёскі, тарарай,
Павязлі Таццянку з пекла ў рай.
Там жывуць людзі чужыя,
Там ядуць хлебы пушныя.[5]

(Завучана на вяселлях у 1886 г.)

У гэтым прыпеве чуецца насмешка: добры, маўляў, рай, дзе ядзяць хлеб такой якасці. Наогул у гэтым поездзе ўсе прыпеўкі жартоўныя, таму што паязджане «навесяле». Часам паджартоўваюць з маладой так:

Стукнулі, грукнулі на дварэ,—
Падзівіся, мамухна, ці не па мяне?
Гатуй, мамухна, кубло мне.
— Едуць, мая дачухна, без кубла,
Чаму ты мычачкі не скубла.

(Завучана мною ў 1858 г.
на вяселлі ў с. Расуха)

Пастойце, коні,
У чыстым полі,
Пастойце!
Забыла маці
Пярыну даці,
Пастойце!
Не так забыла,
Як не зрабіла,
Пастойце!

(Завучана мною на вяселлях
у 1859 г. у с. Расуха)

---

[5] З мякінаю, макухаю і інш.

Пад'язджаючы да двара свёкра, спяваюць:

Адчыні, мамачка, бацькаў двор,
Прыехаў к табе сын на двор,
Да не з сянною капою,
Да з маладою жаною,
З тваёй вернай слугою.

(Завучана мною на вяселлі
ў с. Расуха ў 1861 г.)

Выйдзі, мамухна, паглядзі,
Да што мы табе прывязлі.
Прывязлі мы табе
Скрыню, пярыну
Й маладую княгіню.
Вот табе, мамачка, служачка,
А мне, маладцу, дружачка.

(Завучана мною там жа ў 1861 г.)

Свёкар і свякруха з хлебам выходзяць сустракаць маладых да самага воза. Тыя, са свайго боку, таксама падаюць ім хлеб і, злезшы з воза,— *кулём* у ногі, з паклонам: сын — мацеры, нявестка — свёкру.

Маладым падносяць па чарцы гарэлкі, якую кожны прыгубляе і вылівае праз плячо і галаву назад. Робіцца гэта для таго, каб усё нядобрае засталося ззаду.

Маці жаніха вядзе іх прама ў клець, не гледзячы ні на якія маразы. Вось чаму пярыны і розныя дзяругі лічацца самым важным і неабходным прыданым.

Баяры ж уваходзяць у хату, і пачынаецца *гульня*: музыка, песні, танцы. У кожнага з дарослых членаў сям'і ў руках бутэлька з гарэлкай, гасцей частуюць кругавой чаркай і спяваюць песні:

Выхвалялася каліна
Сваім лугам шырокім:
— Ніхто мяне не выламае
У кусціку зялёным.
Абабраўся мароз:
— Не выхваляйся, каліна,
Я цябе выламаю
І з луга шырокага,
І з кусціка зялёнага.
Выхвалялась Марынка:
— Ніхто мяне не высватае
У бацюшкі ў багатага.
Абабраўся Іванічка:
— Не хваліся, Марынка,
Я цябе высватаю
У бацюшкі, у багатага
І з рода вялікага.

Калі маладая не страціла да замужжа сваёй цнатлівасці, то свашкі ўрачыста садзяць яе на хлебную дзежку, заплятаюць косы, надзяваюць намітку, абвязваюць галаву хусткаю і ўводзяць у хату з прыпеўкай:

А спасіба, сваццейка, за дачку,
Што вадзіў дачку ў хвартучку,
За шаўковымі шнуркамі,
За залатымі замкамі.

Гэты бесцырымонны звычай існуе і дагэтуль. Акрамя таго, свашкі заўсёды сарамяць маладую, калі яна не захавала сваёй дзявоцкасці. Пра яе співаюць:

Пад ёлкай спала,
Не дзеўкай устала.
З гары скацілася,
На сук прабілася.
Не жджы, свёкарка, каліны,
Гатуй кабана на ксціны.
Не цвіла каліна аб Пятрэ,
Зацвіла каліна аб раждве.
Пад той калінай
Варачка сядзела,
Ножкамі каліну задзела,
Ручкамі ягадкі шчыпала,
У галоўкі клала белы цвет,
А ў ножкі клала чырвоный,
А на яе калінка капнула,
На Варачку ўся радзінка глянула:
А ўчора была, як рожа цвіла,
А сянні стала — як рыба звяла.
Якаво табе, Варачка, цяпера,
Што чужая радзінка абсела:
З левага боку баяры
З правага боку Андрэйка.

Прыпевак на гэту тэму шмат, але ўсе яны настолькі нецэнзурныя, што цвярозы не адважваецца нават іх паўтарыць. Пра гэта кажуць: *«А свашкі вярзуць што папала».*

Затым к поўначы або перад світаннем (у залежнасці ад таго, ці далёкая дарога) прыязджаюць *прыдані*, г. зн. прысланыя госці з дома нявесты. Яны прывозяць з сабою *скрыню*, г. зн. куфар з пасагам.

У дарозе прыдані співаюць:

Свяці, месяц, над зарою
Раным-рана, ранюсенька,
Брацец едзе за сястрою
Раным-рана, ранюсенька.

— Пастой, сястра,
Ключы звязла,
Раным-рана, ранюсенька.
— А я ў цябе, брахнейка,
Не клюшніца,
Есць у цябе
Жана ў двара —
Вярней мяне.

Перад варотамі пяюць:

Мы свата не зналі,
Нам людзі сказалі.
У варотах яліна,
Сярод двара чырвона каліна,
Пад той пад каліначкай
Маладая княгіня.
Пусці, сваццейка, ў хату,
Хоць за печкаю пасядзець
Да на нашу Варачку
Паглядзець.

Выйдзі, Дар'ячка,
К нам у двор,
Сабраўся сюды
Увесь твой род.
Вынасі каліначку,
Весялі радзіначку,
Вынасі чырванейшую,
Весялі раднейшую.
Чыя ж ета да баярыня
Па двару хадзіла?
Андрэйкава Дар'ячка
Па двару хадзіла,
Суькамі чырвонымі
Увесь двор урадзіла.
Выйдзі, выйдзі, Дар'ячка,
Княгіня!..

На гэтым роля свашак заканчваецца, усе госці маладога разыходзяцца па дамах і пачынаюць *гуляць прыданi*. Гульня і выпіўка працягваюцца ўсю ноч да світанку.

Калі дрэнны пачастунак, то прыдані спяваюць:

У нашага свата
Вярбовая хата,
Усё з вярбы, з бярозы,
Прыдані цвярозы.

Калі шмат гарэлкі і мала закускі, спяваюць:

Сват добры — сваццяя скупая,
Гарэлкі багата, закускі не маеш.

Або:

На рацэ вутка крача,
Марынкіна мацi плача:
Кахала, лялеіла,
Да некага пабуджацi,
Некага пасылацi.
На рацэ вутка сакоча,
Андрэйкіна мацi хахоча:
Не кахала, не кукобіла,
Есць каго пасылацi,

(в. Лупекі, ад 35-гадовай жанчыны, 1889 г.)

Есць каго пабуджацi.
Мар'ячка ў бацюшкі
Нежная была:
Не ела хлеба, а ўсё пірагі,
Не піла вады, а ўсё мяды.
У лютага свёкра
Э лёдам вады нап'еццa,
Пушнога хлеба наесца,
Да на венічку выспіцца.

(в. Ябланька, ад 58-гадовай жанчыны ў 1897 г.)

Перад выездам дадому прыдані спяваюць:

Прыданечкі да дамоў едуць,
Таццяначку тут пакідаюць,
Грышачцы да прыказуюць:
Не бі яе да дубцом,
Пакарай добрым слаўцом.
Да не бі яе дубінаю,
Штоб была гаспадыняю.

(Ад той жа ў в. Ябланька ў 1889 г.)

На другі дзень маладая вывешвае свае ручнікі на абразы, падносіць свякрусе, кланяючыся ў ногі, падарунак і мяце хату, паказваючы гэтым, што яна ўжо з гэтага дня становіцца саўдзельніцай і памочніцай у гаспадарцы.

Вяселле працягваецца і на другі дзень. Ды як жа інакш! *Піўшы суткі, трэба пахмяліцца, а то на жываце няздарова.*

Каб была зачэпка для выпіўкі, прыдумалі яшчэ некалькі абрадаў: так, пасылаюць маладых да студні, дзеляць каравай. Сяляне самі ўсведамляюць, што ўсе гэтыя *бабскія прыхамецi* выдуманы *для прыклікі, штоб гарэлку піць*. Але тым не менш раніцаю склікаюць зноў усіх баяр, г. зн. свабодных званых гасцей.

Вось да студні рушыць цэлая працэсія: наперадзе маладыя з вёдрамі на плячах, за імі дружко з высокім шастом, абмотаным чырвоным поясам (замест сцяга). Спяваюць:

Што й у вінным у калодзезю
Лукірачка да ваду брала,
У свой край заглядала,
Ці не ідзе да мой татухна,
Ці не вязе мне падарачка,
Салодкага да папранічка.
Не рада ж я да падарачку,
А рада ж я свайму татачку.

(Завучана мною ў 1861 г.
на вяселлях у с. Расуха)

У студні дружко набірае вёдрамі вады, маладыя схіляюцца перад ім, а ён вылівае ваду праз іх галовы.

На наступны дзень ідуць ■ верчам да хроснага бацькі і маткі, на трэці дзень зазывае да сябе дружко і затым па чарзе ўсе свашкі — на *банкеты*. Тут ужо падлічыць выпітае цяжка. Нарэшце, усе пачынаюць і самі ўсведамляць, што час канчаць забавы. Гэта відно з песні:

А дадому, сваццея, дадому,
Да паелі коні салому.
Саломкі жменька — капейка,
Аўсяны снапок — пятачок.

(Завучана мною ў 1861 г.
у с. Расуха на вяселлі)

У апошнія гады гэтыя абрады і банкеты пачынаюць скарачацца, і сялянін з жалем гаворыць: *«Мінаецца ўжо ранейшае, цяпер у іншых і да вады не ганяюць маладых і ўся гульня «абыдзень»*[6] *канчаецца, а ўсё ад таго, што вышлі ета вінаполлі і гарэлка ўздаражала».*

## [ВЯСЕЛЛЕ У В. ПАРЭЧЧА СЛОНІМСКАГА ПАВЕТА]

### Запісаў Е. Р. Раманаў

Калі ў сям'і ёсць хлопец, якому споўнілася 18 гадоў, маці першая ўздымае пытанне аб яго жаніцьбе. Яна гаворыць мужу: *«Пара жаніць нашага дзецюка: я ўжэ нядужа, няма каму рабіць».* Галоўны матыў жаніцьбы сына — жаданне мець падмогу ў гаспадарцы. Згадзіўшыся з довадамі жонкі, галава сям'і, звяртаючыся да хлопца, кажа: *«Жанісь, сынку, і гаспадаруй ужэ!»* Хлопец не пярэчыць бацьку і тут жа называе дзяўчыну, з якой ён хацеў бы

[6] У адзін дзень. Параўн.: *обыденка* — царква, пабудаваная за адзін дзень.

ажаніцца. Часам галава сям'і не згаджаецца з выбарам хлопца і падказвае яму іншую дзяўчыну, з больш заможнай сям'і. Тады ўзнікае спрэчка паміж сынам і бацькам. Хлопец нізавошта не хоча адмовіцца ад той дзяўчыны, якую ён кахае. На бок сына становіцца маці, і бацька вымушаны згадзіцца з сынавым жаданнем. Але нярэдкія выпадкі, калі хлопец жэніцца і на той, часам незнаёмай яму дзяўчыне, якую называе бацька.

У вызначаны дзень пякуць маленькую булку хлеба з жытняй мукі і запрашаюць жанатага мужчыну (які зможа гаварыць і за жаніха і за сябе) быць сватам. Абвязаўшы чыстым ручніком булку хлеба, хлопец і сват адпраўляюцца да выбранай дзяўчыны. Увайшоўшы ў хату, дзе яна жыве, сват і хлопец вітаюць гаспадароў [. . .] Сват кладзе на стол прынесеную булку хлеба і гарэлку і садзіцца на лаве ля сцяны. Дзяўчына, заўважыўшы гасцей і зразумеўшы, чаго яны прыйшлі, засаромеўшыся, хутка ідзе да суседзяў — каб прыбрацца. Гарэлка, пастаўленая на стале, робіць на ўсіх магічнае дзеянне. Галава сям'і, бацька дзяўчыны, пачухаўшы патыліцу, кажа: *«А шчо, маці, ідзі шукай дзеўкі».* Матка, хутка знайшоўшы дзеўку, кліча яе ў хату: *«Ідзі. гавары! Хочаш піць чы не? Адказвайся, чы шчо!»* Калі дзяўчына не любіць хлопца, то яна наадрэз адмаўляецца выходзіць замуж. *«Я,—* гаворыць яна,— *ганьбы не даю. Мне яшчэ не пара ісці».*

Адмова выйсці замуж тлумачыцца ў большасці выпадкаў тым, што няма кахання. Трэба заўважыць, што ў сялянскіх хлопцаў і дзяўчат палавое пачуццё развіта слаба. Акрамя таго, для сялянскай дзяўчыны перспектыва замужжа з'яўляецца далёка не прывабнай, і яна адважваецца на гэты крок толькі таму, што баіцца застацца старою дзеўкаю, з якой заўсёды ў вёсцы смяюцца.

Увайшоўшы ў сваю хату, дзяўчына садзіцца ля парога ў кутку і спадылба паглядае на хлопца — ці прыгожы, а потым ідзе ў сенцы. За ёю ідуць матка і хлопец — калі дзяўчына падабаецца яму. Матка і хлопец угаворваюць дзяўчыну выйсці замуж. Хлопец, каб прывабіць да сябе дзяўчыну, абдымае яе за стан або за шыю. У знак згоды дзяўчына прыносіць у хату чысты настольнік, рассцілае яго на стале і ставіць на ім прынесеную жаніхом бутэльку гарэлкі. Усе ў мёртвай цішыні чакаюць прысуду. Дзяўчына, наліўшы чарку гарэлкі, выпівае яе. Другую перадае хлопцу. Гэта азначае, што дзяўчына згадзілася выйсці замуж за хлопца. Запрашаюцца на гарэлку суседзі. На бяседзе яны расхвальваюць дзяўчыну: *«Двейка здаровая і працавітая!»* Сват у сваю чаргу хваліць хлопца-жаніха: *«Добры дзяцюк: умее добра араць і правіць гаспадаркаю».*

Гэта сватанне — прапанова хлопца — называецца *малою гарэлкаю*; яно можа адбывацца ва ўсе дні тыдня, акрамя серады і пятніцы.

Для становчай ацэнкі дзяўчыны важны перш за ўсё яе здаровы выгляд, аб'ёмісты стан, грубыя рукі, якія сведчаць аб яе працавітасці. На разумовыя здольнасці і пісьменнасць у большасці выпадкаў не звяртаюць ніякай увагі, таму што гэтыя якасці для сялян не маюць ніякага значэння. Прыгажосць дзяўчыны і заможнасць яе бацькоў даюць шмат шанцаў на хуткі выхад замуж. Багацце хлопца вызначаецца колькасцю дзесяцін зямлі, жывёлы і добрымі будынкамі ў яго бацькоў. Чым больш у сям'і хлопцаў, якія маюць права на гаспадарку, тым менш для іх шанцаў на ўдачную жаніцьбу: *«Падрастуць хлопцы і падзеляцца гаспадаркаю, і не будзе з чаго жыць»*,— гавораць у вёсцы.

Хоць у летні час вясковыя хлопцы і дзяўчаты цішком ад бацькоў спяць разам у гумнах, але нічога кепскага ў сваіх адносінах яны амаль не дапускаюць. Дзяўчатамі, якія страцілі цноту, хлопцы грэбуюць. Нават той хлопец, які меў сувязь з дзяўчынаю, ніколі яе не бярэ замуж. Дзяўчаты, у якіх былі ці ёсць дзеці, амаль ніколі не выходзяць замуж за халастых хлопцаў. У рэдкіх выпадках таксама дачка багатых бацькоў выходзіць замуж за бедняка.

У вызначаны дзень жаніх са сватам і сваім бацькам ізноў прыязджаюць да нявесты, прывозячы з сабою гарэлку — хто колькі зможа, часам больш вядра. Нявеста тады запрашае да сябе на пачастунак гасцей з усяго сяла. Гэты пачастунак называецца *вялікаю гарэлкаю*. У гэты ж дзень вечарам бацькі жаніха і нявесты прызначаюць дзень вяселля. Дзяўчына, чакаючы жаніха, устае рана — каб прыбраць у хаце і прыбрацца самой. Чырвоны колер лічыцца ў сялян харошым, і таму дзяўчаты, каб быць больш прыгожымі і падабацца хлопцам, надзяваюць чырвоныя з палосамі суконныя даматканыя *андаракі* і завязваюць на галаву яркачырвоныя фабрычнага гатунку хусткі.

Дамовіўшыся пра вяселле, жаніх, нявеста і сват з булачкаю хлеба, загорнутаю ў чысты ручнік, адпраўляюцца ў бліжэйшую нядзелю да парафіяльнага папа *на пацеры*. *Пацеры* — экзамен для жаніха і нявесты на веданне імі паўсядзённых малітваў. Калі непісьменныя жаніх і нявеста не ведаюць малітваў, то за шлюб плоцяць папу на некалькі рублёў даражэй, і іх тады вучаць малітвам. У гэтую ж нядзелю даюць папу ўстаноўленую плату *на запаведзь* — за абвяшчэнне. Калі засватаная дзяўчына-нявеста пасля гэтага адмовіцца па нейкай прычыне выйсці замуж, яна павінна вярнуць хлопцу-жаніху ўсе яго выдаткі.

Напярэдадні вяселля ў хату нявесты збіраюцца запрошаныя дзяўчаты і маладзіцы *гібаць каравай*. Каравай — свяшчэнная прыналежнасць вяселля. Месяць яго цнатлівыя дзяўчаты, а таксама маладзіцы з бліжэйшай радні нявесты. Караваю адводзіцца на вяселлі ганаровае месца, яму аддаецца асаблівая павага. Ён гатуецца часцей за ўсё з пшанічнай мукі, але часам і з жытняй — у залежнасці ад сродкаў бацькоў.

Дзяўчаты і маладзіцы, запрошаныя для пячэння каравая, называюцца *каравайніцамі*. Іх бывае ад пяці да трынаццаці, у залежнасці ад заможнасці нявесты, але лічба заўсёды павінна быць няцотная. Адну з каравайніц выбіраюць старшаю. Яна кіруе ўсім працэсам прыгатавання каравая, і яе слухаюць усе астатнія каравайніцы. Трэба сказаць, што наш селянін на рабоце наогул не абыходзіцца без кіраўніцтва; ён слепа падпарадкоўваецца чужому кіраўніцтву. Старшая каравайніца, рашчыняючы ў дзяжы цеста, некалькі разоў перахрышчвае яго праваю рукою [. . .] Калі рошчына ў дзяжы падымецца, тады старшая каравайніца пачынае мясіць цеста і раздае яго па частках каравайніцам для *гібання*. Мясіць яго кулакамі, як гэта звычайна робіцца, тут нельга: лічыцца, што жаніх, стаўшы мужам, будзе пасля гэтага біць сваю жонку.

Перад разміна́ннем цеста старшая каравайніца з урачыстай набожнасцю, пры поўным маўчанні ўсіх у хаце тры разы абыходзіць вакол дзяжы з запаленаю *грамнічнаю* свечкаю. Свечка гэта, на думку сялян, мае сілу адганяць нячысты дух, таму і захоўваецца ў кожнай сялянскай хаце.

Пасля гэтай цырымоніі тая ж каравайніца, звяртаючыся да ўсіх, тры разы пытае: «*Просім бога найвышшэго, покуця свенцонэго, ойца родзонэго, маткі родзонэй, брацюў, сёструў, дзядзькуў, цёткуў, суседуў, суседачак і малых дзетачак гэты дар божы, ці пазволіце шышке гібаць, у боханы качаць?*» Усе прысутныя тры разы адказваюць: «*У шышке гібаць!*» Старшая каравайніца кожны раз дзякуе наступнымі словамі: «*Дзенькуем богу найвышшаму, покуці свенцонэму, айцу родзонэму, матцэ родзонэй, брацям, сёстрам, суседам, суседачкам і малым дзетачкам!*» Затым свечку запаленым канцом утыкае ў цеста. Папярэдне, размінаючы цеста, каравайніца бярэ невялікі яго камяк і робіць булачку, якая называецца *пярвушкаю*, і затым, як сказана раней, цеста камякамі раздаецца каравайніцам, якія мнуць яго і вырабляюць з яго фантастычныя фігуркі ў выглядзе качачак, гусак, руж. Гэты працэс размінання каравая называецца *гібанне караваю*. Вылепленымі фігуркамі ўпрыгожваецца каравай. У час гібання каравайніцы спяваюць наступныя песні:

Да выйдзі, божа, да ўступі, божа,
Нашаму зачатачку,
Дай, божа, долю, дай, божа, шчасце
Нашаму дзіцятачку!
— Тагды я вайшоў, тагды шчасце даў,
Як яно хрысцілася:
Долю добрую, гадзіну шчаслівую!

Падрыхтаваўшы ўпрыгожанні для каравая, пачынаюць рыхтаваць сам каравай. Гэта вялікая, круглай формы булка, якая зверху ўпрыгожваецца падрыхтаванымі ўжо фігуркамі з цеста, так званымі *шышкамі*. Гатуючы каравай, каравайніцы спяваюць:

Свеціць месяц на двары,
Каравай гіблюць на сталі
З беленькімі ручкамі,
А пярсцёначкі з вочкамі.
Беце, дзевачкі, у далоні,
Коб далоні шчымелі,
А пярсцёначкі звінелі.

Калі каравай садзяць у выпаленую печ, тады спяваюць:

Шышке з лускі,
Каравай грэцкі —
Усё па-шляхецкі.

Пасадзіўшы каравай у печ, каравайніцы па запрашэнню гаспадыні дома садзяцца за стол. У час падрыхтоўкі каравая скрыпач падыгрывае ў тон каравайніцам мелодыі песень. Сеўшы за сталом, старшая каравайніца спявае:

Нашага гаспадара
Кудравая галава;
Ён кудзеркі патрасе,
Нам гарылачкі прынясе.

Частуючы каравайніц, гаспадар і гаспадыня павінны ўвесь час прасіць сваіх гасцей піць і закусваць і часта насуперак іх жаданню падносяць да роту чарку гарэлкі і кавалак закускі. Каравайніцы, наадварот, адмаўляюцца, гаворачы, што яны ўжо добра выпілі і закусілі, хоць ім і вельмі хочацца яшчэ гарэлкі і закускі. Калі ж яны ўсё ж бяруцца за яду, то як бы нехаця, толькі пасля настойлівага ўпрошвання. Калі гаспадар і гаспадыня не вельмі насядаюць на гасцей, частуючы іх, то гэта азначае, што яны скупяцца, шкадуюць. і госці, прыйшоўшы дадому, расказваюць дамашнім: *«Усяго было многа, адно прынукі не было»*.

Калі каравай спячэцца, яго ўрачыста вымаюць з печы, а каравайніцы спяваюць:

Пытаецца каравай перапечы:
Да куды сцежка да печы?
Зарасла сцежка муравою,
Шаўковаю травою.

Выняты з печы каравай кладзецца на засланае настольнікам века ад дзяжы і з той жа песняю пад акампанемент скрыпкі ўрачыста выносіцца ў камору або кладоўку.

Кожная каравайніца рыхтуе таксама па маленькаму караваю. Гэтыя караваі таксама захоўваюцца ў каморы і пасля вяселля выдаюцца самім каравайніцам у падарунак.

Сялянкі спяваюць свае песні ў адзін голас і вельмі гучна, з усіх сіл. Гучнае спяванне лічыцца добрым.

У нядзелю, дзень шлюбу, раніцаю прыязджае да нявесты з чашнікам, сватам, сваццяй і музыкантам жаніх. Збіраюцца суседзі, знаёмыя, запрошаныя госці — уся вёска.

Жаніх, увайшоўшы ў хату, шапкі не здымае. Ён моўчкі садзіцца за стол. Нявеста ў гэты час прыбіраецца ў каморы ў новае адзенне і потым з братам, які вядзе яе на ручніку, уваходзіць у хату. Наперадзе яе ідзе сват з бізуном у руцэ, несучы каравай, які кладзе на стол. Нявеста, увайшоўшы ў хату, спыняецца каля стала, апускае вочы.

Кіраўнік вяселля, сват, звяртаецца да нявесты з такімі словамі: *«Пані млода, не будзь забаўна, будзь пакорна, кланяйся старому і малому, не выборне, ■ бардзо пакорне; на тое час і пара»*. Нявеста абыходзіць тых, хто ў хаце, кланяецца да самай зямлі і ўсіх цалуе. Сват і ўсе вясельныя мужчыны павінны быць у шапках. Гэтым падкрэсліваецца іх веліч і перавага. На паклон нявесты кожны адказвае блаславеннем: *«Няхай цябе пан бог благаславіць шчасцем, добраю долею, багаццем, добрым жыццем, дзеткамі»*. Закончыўшы цырымонію паклонаў, нявеста становіцца ля стала, чакаючы загаду свата. Тады сват, звяртаючыся да ўсіх, гаворыць тры разы: *«Просім бога найвышшага, покуця свянцонэго, ойца родзонэго, маткі родзонэй, брацюў, сёструў, дзядзькуў, цёткуў, суседуў, суседочэк, маленькіх дзеточэк і каравайнічкаў, ці позволіце гэтаму дзіцяці на першом посадзі сядаці, у малжэнскі стан стаці?»*

Бацька нявесты, а калі яго няма, хто-небудзь старэйшы ў родзе, тры разы адказвае: *«Як пан бог пазваляе, так і мы пазваляем»*. Сват, як быццам ад імя ўсіх, дзякуе бацьку наступнымі словамі: *«Дзенькуемо пану богу найвышшаму, покуці свенцонэму, ойцу родзонэму, матке родзонэй, брацям, сёстрам, дзядзькам, цёткам, суседам, суседачкам, маленькім дзетачкам і каравайніч-*

*кам за даззаленне. Ойчэ родзоны! Як парадзіў, так і на пасадзе пасадзі!»*

Бацька, узяўшы за плечы сваю дочку-нявесту, тры разы садзіць яе на засланы чыстым ручніком услон, на якім пасыпана зерне жыта. Пры гэтым нявеста павінна аб'явіць аб сваёй цнатлівасці. Калі яна не зберагла сябе, то, звяртаючыся да бацькі, кажа: *«Баценьку, я не чыста»*. Тады здымаюць ручнік, і яна садзіцца на голую лаўку. Дзяўчаты і жанчыны спяваюць наступныя песні:

Хто цябе, Марысенька, парадзіў
Да на пасадзе пасадзіў?
— Парадзіў мяне гасподзь бог,
Пасадзіў мяне бацька мой.
— Чаму, Марыська, не ўбіраешся?
Час, пара да касцёла.
Да ўжэ і званы даўно званілі, пасціхалі,
Цябе, Марыська маладзенькая, да шлюбу паджыдалі.
Да ўжэ і свечы пастухалі,
Цябе, Марыська маладзенькая, да шлюбу паджыдалі.
Да ўжэ імшу мелі, паадступалі,
Цябе, Марыська маладзенькая, да шлюбу паджыдалі.

Затым усе вясельныя збіраюцца ў царкву. Жаніх і нявеста становяцца (а не садзяцца) на вазы. У гэты час бацька нявесты з *пярвушкаю* (булачкаю хлеба) тры разы абыходзіць вакол іх вазоў, а сват бізуном крыж-накрыж б'е па зямлі ля ног коней. Тады маладыя садзяцца паасобку адзін ад аднаго: нявеста з шаферкаю і сваццяю—на адным возе, а жаніх з чашканікам і сваёю сваццяю — на другім, сват з музыкантам і барабаншчыкам — асобна. Вяселле імчыць колькі ёсць сілы і нікому не сачтупае з дарогі. Жаніх і нявеста, седзячы па сваіх вазах, кланяюцца сустрэчным.

Ва ўсіх вясельных мужчын, г. зн. у жаніха, свата, чашніка, прышыты да шапак кавалачкі чырвонай стужкі і па зялёнай галінцы, пераважна руты, а на галаве нявесты, калі яна дзяўчына, вянок з зеляніны. Удаве замест вянка прыколваецца чэпчык. Калі жаніх і нявеста цнатлівыя, то дугі іх вазоў таксама ўпрыгожваюцца стужкамі. Маладыя самі павінны сказаць аб сваёй нецнатлівасці, інакш у жаніха, як гавораць сяляне, сем гадоў не будзе радзіць пшаніца, а ў нявесты — лён.

Пасля шлюбу нявеста, адыходзячы з жаніхом ад аналою, цягне нагою ручнік або палатно, на якім яна вянчалася. Гэта робіцца для таго, каб яе равесніцы цягнуліся за ёю, г. зн. выходзілі замуж. Маладыя, прыехаўшы дадому, накіроўваюцца ў хату.

У сенцах іх сустракаюць з хлебам, соллю і гарэлкай. Раней уваходзяць у сенцы жаніх з чашнікам і, нахіліўшы галовы, стаяць ля парога. У гэты час матка маладой тры разы злёгку стукае іх па галовах векам ад дзяжы. З нявестай гэтага не робяць, таму што яна лічыцца *нячыстым чалавекам*; яна ўваходзіць у сенцы і ў хату разам са сваімі сяброўкамі. Маладыя, вясельныя і запрошаныя госці садзяцца за стол. Галоўны пачастунак на вяселлі — гарэлка. Яе выпіваюць вельмі многа. У час гэтага пачастунку прыязджае бацька жаніха са сваімі гасцямі, сваццяй і з *барылкам гарэлкі*, з хлебам і мясною закускаю і пасля звычайнага вітання садзіцца за стол. Яму падаюць міску, ён налівае ў яе са сваёй бочачкі гарэлку, а бацька маладой у сваю чаргу ў гэты час лье гарэлку са сваёй бутэлькі. Гэта робіцца дзеля аб'яднання дзвюх сямей. Гэту гарэлку выпіваюць у такім парадку. Сват, наліўшы чарку, трымае яе ў руцэ. Маладая дорыць яму кавалак палатна, якое чапляе на бізун. Сват дзякуе за падарунак наступнымі словамі: *«Абсылае наша нявенька падаркам, сваім тонкім рубком* (палатном). *Не тут раблёна — у Слуцку, барзо па-людзку. Дай, пане-божа, коб гэты дары яе дзеткам былі адданы. Дзенькуемы, нявенька!»* Выпіўшы чарку гарэлкі, вешае на правае плячо падараваныя яму 2—3 аршыны палатна і завязвае ззаду канцы. Калі дойдзе чарга да сваццi і чашніка, то іх таксама пры частаванні гарэлкай маладая надзяляе падарункамі: сваццю сарочкаю, а чашніка белай насавой хустачкай, за што кожны з іх дзякуе такімі ж словамі, як і сват. Гарэлка з кубка ўся выпіваецца, і затым жаніх плоціць па 15 кап. брату нявесты, дружцы і сваццi за іх паслугі. Усе вясельныя, госці і маладыя выходзяць на двор танцаваць. Танцуюць па парах: сват — са сваццяю, шафер — з шаферкаю і маладыя.

У час танцаў нявесту непрыкметна адводзяць у камору, дзе яна вымае з кубла адзенне, прызначанае для замужняй жанчыны: плахту — невялікую белую хустку, пераважна каленкоравую, і чэпчык. Усё гэта кладзецца на каравай, які ляжыць на веку дзяжы. Затым у камору ўваходзіць сват з музыкантам. Апошні іграе марш. Сват з музыкантам наперадзе прыносіць у хату на веку дзяжы каравай і пакладзены на ім галаўны ўбор... Упрыгожаны каравай тры разы абносіцца вакол стала.

Пры гэтым сват кланяецца пярэдняму куту і хрысціцца. Каравай ставіцца ў ганаровым пярэднім куце. Нявеста ў гэты час абыходзіць усіх у хаце, кожнаму асобна кланяецца да самай зямлі, пасля чаго з яе здымаюць падвянечны галаўны ўбор, брат расплятае ёй касу, сваццяя расчэсвае валасы, і спяваецца наступная песня:

Раскідай, божа, бацькаву копу па полі па коласі,
Раскідай маю русую коску па плячах па воласі.
Да збяры, божа, свёкраву копу па полі па коласі,
Сабраў маю русую косу па плячах па воласі.

Расчасаўшы валасы, свацця тры разы абносіць вакол галавы маладой запаленую грамнічную свечку і крыж-накрыж падсмальвае пасмы валасоў. Усе прысутныя ў мёртвай цішыні назіраюць за абрадам абпальвання і глядзяць, куды пацягне дым ад патушанай свечкі: калі ў пярэдні кут, то гэта — на шчасце для маладых, а калі да парога — то на хуткую смерць каго-небудзь з іх. Жаніх у гэты час выходзіць з хаты. На галаву нявесты кладуць кавалачак хлеба, 20-капеечную манету, чапец, белую хустку *плахту* і садзяць яе за стол побач з дружкаю. Іх галовы накрываюць плахтою і тады завуць у хату жаніха, які павінен падысці да сваёй жонкі і пацалаваць яе. У гэты час дзяўчаты і маладзіцы спяваюць:

Паглядзі, Янfamilyчку, паглядзі,
Ці бабаньку спавілі?
Калі бабанька — прысунься,
Калі дзеванька — адсунься!

Дружка выходзіць з-за стала, а на яе месца садзіцца малады. Падаецца на стол гарэлка маладога, пасля чаго прыступаюць да дзяльбы каравая. Сват перад гэтым мые рукі і просіць ручнік. Маладая дорыць яму, музыканту і чашніку ручнікі. Узяўшы ў рукі каравай, сват паварочвае яго ў руках і пытае ў прысутных: «Сконт жыто росне: ці зземі догуры, ці згуры до земі?» Так ён пытае тры разы. Яму тры разы адказваюць: «З земі до гуры». Паставіўшы на галаву каравай, сват танцуе з ім і потым ставіць яго на стол. Затым пытаецца ў прысутных: *«Просім бога найвышшага, покуця свенцонэга, ойца родзонэго, маткі родзонэй, брацюў, сеструў, дзядзькуў, цёткуў, суседуў, суседочак і малых дзеточэк: ці гэты дар боскі — ці на людзі раздаць, ці да каморы схаваць?»* Яму адказваюць: «На людзі раздаць!» Зрэзаўшы вяршок каравая, сват падае яго маладой і пытае яе: *«Пані млода, чым пана млодэга даруеш?»* Атрымаўшы каравай, маладая звязвае яго ў хустачку і на працягу ўсяго вяселля трымае ў руцэ. Затым сват кліча: *«Просім ойца родзонэго! Чым даруеш свае дзеці на век доўгі, на быт добры, на нову гаспадарку?»* Наперад выходзіць бацька маладой і кладзе на талерку некалькі дробных манет, часам сярэбраны рубель, што лічыцца багатым падарункам. За гэта ён атрымоўвае чарку гарэлкі і кавалак каравая і ў сваю чаргу выказвае пажаданні наступнымі словамі: *«Також я*

*дарую сваем дзецім векам доўгім, бытам добрым, стараною жыта, доляю, шчасцем».*

Пасля гэтага сват звяртаецца да маткі: *«Матка радзона! Чым даруеш свае дзеці на век доўгі, на быт добры, на нову гаспадарку?»* Матка па прыкладу бацькі кідае ў тую ж талерку некалькі манет і гаворыць: *«Я дарую свае дзеці векам доўгім, бытам добрым, доляю, шчасцем».* Выпівае чарку гарэлкі і атрымлівае кавалак каравая. Нарэшце, сват выклікае такімі ж словамі сваякоў, суседзяў і гасцей дарыць нявесту. Акрамя грошай, сваякі абяцаюць падарыць нявесце — хто парасё, хто авечку, цялё, карову або жарабё, куру, кавалак палатна. Гэта называецца *дарыць маладую.*

Надзяліўшы ўсіх караваем, сват тры разы пытае ва ўсіх у хаце: *«Такжа просім бога найвышшага, покуця свенцонэго, ойца родзонэго, маткі родзонэй, брацюў, сёструў, цёткуў, дзядзькуў, суседуў, суседочкуў і маленькіх дзеточэк: ці довольны дару боскім?»* Яму ўсе тры разы адказваюць: *«Давольны!»* Сват паўторна пытае ва ўсіх: *«Просім бога найвышшага* і г. д., *дзе гэты дар боскі дзяваць: ці да каморы схаваць, ці на людзі аддаць?»* Яму адказваюць: *«Да каморы схаваць».* — *«Пане вясёлый* (музыкант),— крычыць сват,— *чуць дарога!»* Скрыпач іграе марш, а сват урачыста нясе астаткі каравая ў камору. Незапрошаныя ідуць дадому, а вясельныя і госці садзяцца вячэраць.

На другі дзень пасля багатага пачастунку ўсе вясельныя і госці адпраўляюцца да жаніха. Перад ад'ездам сват кладзе на зямлю века ад дзяжы, якое засцілаюць настольнікам і пасыпаюць зернем жыта. Калі дзяўчына захавала сваю цнатлівасць, то яна становіцца на гэта века і пры ўсіх здымае з сябе верхняе адзенне, сарочку і адзявае новую бялізну і чыстае адзенне. Нецнатлівая маладая, баючыся, каб у гаспадарцы не было страты, не стане на гэта века і пераадзяецца ў каморы.

Перад ад'ездам маладая тры разы абыходзіць вакол стала, тры разы кланяецца пярэдняму куту, бацьку, матцы і ўсім у хаце. Ей у гэты час спяваюць песні:

Не плач, дзеванька, астаўляй слёзкі,
Бо твайго свекратка курава хатка,
Да будзеш памятаці, слёзкі праліваці.

Пры выхадзе ў сенцах ёй спяваюць:

У дарозе Марыська, ў дарозе,
Палажыла сярпок на парозе,
Няхай бацька грошы мае,

Жанцы наймае,
У чыстае поле пасылае,
Буйное жыта пажынае.

Маладая, узяўшы некалькі прыгаршчаў зярнят жыта, сыпле яго ва ўсе бакі ў сенцах і на двары. Запрэжаных коней, якія падрыхтаваны для яе ад'езду, калі яна цнатлівая, упрыгожвае зелянінай, вешае на дугі рознакаляровыя стужкі і чырвоныя хустачкі. Калі ж маладая акажацца нецнатлівай, яна гэтага не робіць, баючыся, каб не было страты ў гаспадарцы. У апошнім выпадку прысутныя шэпчуцца і ўсміхаюцца, а маці, пачырванеўшы ад сораму, кажа: *«Чы я яе, суку, не глядзела?» Шафер* выносіць на воз яе падушку, за якую плоціць выкуп шаферцы 15—20 кап. На падушку садзяцца маладыя і з усімі вясельнымі едуць да жаніха.

Пеша ў царкву да вянца або да жаніха звычайна не ходзяць, нават калі царква і дом жаніха блізка ад нявесты. Праехаўшы некалькі крокаў, вяселле спыняецца, і ўсе выпіваюць узятую з сабою гарэлку і закусваюць. Пры гэтым запрашаюць да сябе на пачастунак прахожых і праезджых.

У хаце жаніха ў сваю чаргу рыхтуюцца да сустрэчы маладой. Там збіраюцца запрошаныя госці.

Наогул у час вяселля ў жаніха і нявесты поўна народу. З вёскі, акрамя запрошаных і сваякоў, збіраюцца хлопцы, дзяўчаты, дзеці-падлеткі, маладзіцы, дарослыя і жанатыя мужчыны. Дзяўчаты і хлопцы пад музыку танцуюць гапака, польку, вальс, а таксама *Мікіту* — асаблівы танец, пры выкананні якога два хлопцы-танцоры, узяўшыся за канцы палкі, пад музыку, у такт то адну, то другую нагу спрытна перакідваюць над палкаю, як быццам пералазяць праз яе. Гэты танец даволі цяжкі і патрабуе спрыту.

Спечаны ў доме жаніха каравай у такім жа парадку, як і ў нявесты, дзеліцца і раздаецца гасцям. Баляванне працягваецца да наступнага дня. Вяселле звычайна заканчваецца на трэці дзень. Маладая ўступае ў правы члена сям'і і павінна цалкам падпарадкоўвацца мужу, свёкру і свякрусе, выконваць гаспадарчыя работы, паважаць свякруху і бясспрэчна ёй падпарадкоўвацца.

У наступную нядзелю маладыя выпраўляюцца ў госці да бацькоў маладой жонкі, дзе іх частуюць і аддаюць ім абяцаныя падарункі: карову, свінню, авечку, куры і г. д.

Неўзабаве пасля гэтага бацька і маці маладой едуць да маладых паглядзець на іх жыццё і пабыць у гасцях у свата. Муж маладой ставіць на стол падфарбаваную ў чырвоны колер гарэлку і гэтым выказвае бацькам жонкі ўдзячнасць за захаванне яе

цнатлівасці. Маці не без радасці гаворыць аб тым, што яна не дазваляла дачцы свавольнічаць з хлопцамі, сцерагла яе ад *па-скудства*. Частаванне, гледзячы па сродках маладога мужа, бывае больш або менш раскошнае і называецца *чырвонаю гарэлкаю.*

Цяпер маладая нявестка часта адмаўляецца падпарадкоўвацца свякрусе, нагаворвае на яе на вуха мужу; узнікаюць сваркі, якія заканчваюцца часамі тым, што сына і нявестку аддзяляюць ад агульнай сям'і. Ім даюць частку рухомай і нерухомай маёмасці, і тады ўзнікае асобная гаспадарка.

## [ВЯСЕЛЛЕ Ў МСЦІСЛАЎСКІМ ПАВЕЦЕ]

**Запісаў Е. Р. Раманаў**

Хлопцы выбіраюць сабе нявест пераважна на калядах на ігрышчах, дзе і *ўлюбляюцца*. Калі ж тады не выберуць, то ездзяць на калядныя святы па цэрквах і там выглядаюць сабе нявест. Асабліва гэтыя *выгляды* практыкуюцца на ярданях у дзень вадохрышча. Калі якая дзяўчына спадабаецца, то хлопец знаёміцца з яе бацькам і стараецца пачаставаць яго гарэлкай. Потым просіць свайго бацьку яе сватаць. Бацька запрашае з сабою бліжэйшага сваяка. Абодва яны адзяваюцца па-святочнаму, абуваюць боты, бяруць у кашэль хлеб, соль, сала і гарэлку і вечарам, найчасцей у суботу, едуць у сваты. Нявеста *павінна саромецца сваіх сватоў*. Убачыўшы іх, яна хаваецца так, каб яе не бачылі, або зусім сыходзіць з дому да суседзяў. Сваты ж, прывітаўшыся з гаспадарамі, здымаюць кашэль з плеч і садзяцца на ўслон, закурваюць люлькі і заводзяць звычайную размову зусім не пра жаніцьбу. Калі агульныя тэмы будуць вычарпаны, сваты кажуць гаспадарам: *«Вы ў нас не пытаеце, чаго мы прышлі, а мы вам не кажам. Мы прышлі к вам не гуляць, а за дзелам!» — «А за якім дзелам?» — «Ды прышлі імы, карочы гавара, у сваты». — «Э, дачка мая шчэ малада, нічога не знаець, не смысліць. Няхай шчэ ў мяне гадок пабудзець. Шчэ ўправіцца. Была б галава, а пятля будзець. Калі будзець добра — нажывецца, а будзець гора — наплачацца. Калі бог дась, етага не мінець!»*

У рэшце рэшт, калі бацькі згодны аддаць дачку за хлопца, яны гавораць сватам: *«Сянні зюкайце не зюкайце — нічога не будзець! Ідзіце двору, а прыходзьце заўтра. А мы тут паталкуем!»*

Сваты выходзяць. Гэты вечар называецца *суглядамі*.

Калі хлопец дзяўчыне падабаецца, на наступны дзень бацькі даюць згоду. Сваты вымаюць з кашаля хлеб, соль, сала і гарэлку і кладуць на стол, які перад гэтым засцілаецца чыстым абрусам. Маці нявесты таксама кладзе на стол булку хлеба і ставіць сальніцу з соллю. Запрашаюцца бліжэйшыя сваякі і нявесціны хросныя. Усе моляцца богу пры запаленай свечцы каля абразоў і выпіваюць прынесеную сватамі гарэлку. Гэта *запоіны*.

У адзін з наступных дзён сваты ідуць *яднаць папа* і вязуць бацьку нявесты ў свой дом *паглядзець нашага хадзяйства*. Тут яго частуюць каўбасой, яечняй і гарэлкай. У час гэтага частавання прызначаецца дзень заручын.

На заручыны клічуць усіх сваякоў нявесты і дзяўчат той вёскі, дзе жыве маладая. Гарэлку прывозіць сват, а закуску дае нявеста. Дзяўчаты частуюцца ў асобнай хаце. Нявеста падносіць свату на талерцы хустку для жаніха, а сват кладзе ёй на талерку грошы ад імя жаніха. Напярэдадні вяселля жаніх і нявеста абавязкова мыюцца ў лазні. Вечарам у нявесты бывае дзявочнік, ■ ў жаніха — хлапечнік. Жаніх запрашае ўсіх сваякоў, наймае «скамароха» — музыканта, выбірае двух дружкоў — распарадчыкаў—і паджанішніка. Калі ўсе збяруцца, запальваюць перад абразом свечку і моляцца. Потым дружок бярэ за руку паджанішніка, а паджанішнік жаніха. Так саджаюць жаніха за сталом на куце. Там жа садзяцца хросныя і выбраныя сваячкі — свахі. Усе п'юць і закусваюць. Потым старшы дружок лезе на пол — на якім спяць — і становіцца каля пячнога слупа. Да яго падыходзяць мужчыны і жанчыны, якія ўмеюць спяваць, гаспадар падае гарэлку і закуску. Тады дружок, абапёршыся на слуп, гаворыць: *«Сват, свацюшка, радной бацюшка! Баславіце свайго чада, ■ нашага князя маладога за стол сесці, вяселля запеці і зайграці!»* Бацька адказвае: *«Бог баславіць!»* І так тры разы. Тады дружок хрысціцца тры разы і гаворыць: *«За ваша баславенне вам нізенькае пакланенне! Як матка нарадзіла, на белы свет пусціла, так прачыстая баславіла!»*

Гэтак жа ён звяртаецца да маці жаніха, да хросных, да мужчын, жанчын, дзяўчат і да ўсёй *вясёлай бяседы* і ад усіх атрымлівае той жа адказ: *«Бог баславіць!»* Тады дружок з усімі спевакамі, што знаходзяцца каля слупа, запявае:

*«А ў нашага свата зарадзі. божа, жыта густа: коласам каласіста, ядром ядраніста! Штоб наша Мар'ічка стоячы жыта жала і снапочкі вязала! Баславі, божа, раду запеці і вяселля зайграці!»*

Божая радухна, куды паляцела?
— Чыраз тын да на вуліцу
Ды к Івану (імя бацькі) на двор!

Калі закончацца спевы каля слупа, пачынаюць спяваць свацці, якія сядзяць за сталом. Дружкі падносяць гарэлку ўсім спевакам, а гаспадар частуе астатніх гасцей. Увесь гэты час спяваюцца вясельныя песні. Калі закончыцца частаванне, дружок бярэ за руку паджанішка, а той жаніха, якога і выводзяць з-за стала.

Дружок просіць у бацькоў блаславення ехаць да нявесты. Жаніх кланяецца бацькам у ногі і ўсім тут, кожнаму паасобку, і затым ад'язджае з дружкамі і паджанішнікам да нявесты.

У нявесты ў гэты вечар дзяўчаты ўюць вянок, спяваюць і танцуюць. Нявеста частуе іх він ом і ласункамі. Як толькі дзяўчаты пачуюць, што прыехаў жаніх, то спяваюць:

Спазніўся, Андрэйка, спазніўся,
Ці ты ў лазінкі памыўся?
Бяленік, цешчухна, бяленік,
Твайму дзіцяці любенік.
— Яшчэ, цёшчухна, пабялею,
Твайму дзіцяці палюбею!

Па прыездзе жаніх застаецца на вуліцы, а дружок падыходзіць пад акно хаты, просіцца пераначаваць або пагрэцца. Гаспадар адказвае, што ў яго няма дзе начаваць, свайго народу многа, *«бо гулянне йдзець»*. Але ўрэшце адчыняе ім вароты. Увайшоўшы ў хату, прыезджыя становяцца каля парога, ля печы. Дзяўчаты ў гэты час спяваюць ім:

Ах ты, цёшчухна, ды лукавал,
Выбрала зяцьку няўдалага!
Хоць выбрала, ды машэннічка:
Пад забор ходзіць, ён коней водзіць,
У аўчарку лазіць, ён авец вяжыць,
У кароўніцу ходзіць, ён кароў доіць!

Паджанішнік — варона;
Пад ім конь — карова!
У паджанішніка ногі кароткі,
Пастаўце яму пад ногі калодку!
Паджанішнічак наш сакол,
Не садзіся між вакон:
У нас пташычый пералёт,—
Прыляціць табе варона ў рот.
У паджанішніка вочы вялікі,
І на градкі глядзяць,
Хваробы хацяць,
І хваробачкі, й піраломачкі!

На рэчы дружку, на рэчы,
Каб села дружку сем скул на плечы!
На гаворку дружку, на гаворку,
Каб села сем скул на галоўку!
На мову дружку, на мову,
Каб села сем скул на бровы!

Дружок між тым выступае на сярэдзіну хаты і гаворыць бацьку нявесты: *«Пусціў ты нас у хату, дык ужу пусці дзе-нібудзь прытуліцца!»* Той адказвае: *«Калі грошы ёсць, то адкупі сабе места!»* Дружок вымае з-за пазухі прывезеную з сабой гарэлку і частуе гасцей нявесты. Тыя вызваляюць для жаніха з дружынай месца за сталом. Дружок працягвае частаваць радню нявесты, але раптам пачынае кашляць і крычаць: *«Ай, падавіўся! Мяне кашаль замучыў! Ці няма ў вас каго даць вады мне, адхадзіць мяне?»* К гэтаму часу ў хату прыносяць вядро вады. Дзяўчаты па чарзе чэрпаюць яе і падаюць у конаўцы дружку. Дружок разглядае ваду і гаворыць: *«Ты дзеўка харошая, ды вада твая нячыстая! Не буду яе піць, бо ад яе шчэ пахужаець!»* Калі так пададуць ваду ўсе дзяўчаты, тады выходзіць нявеста. Яна таксама падае дружку ваду. Той бярэ і гаворыць: *«Вот ужо ета вада, дык вада! Атлішная, крынішная. Еткае вады ў свеце няма!»* Выпівае ваду, а ў конаўку кладзе грошы і перастае кашляць. Тады нявеста падносіць ваду ўсім прыезджым, а тыя адорваюць яе грашыма.

Затым выходзяць усе з-за стала і моляцца. Пасля малітвы дружок гаворыць бацьку нявесты: *«Пусціў ты нас у хату і пазволіў за сталом хлеба-солі скушаць, цяпер баславі дзяцей да кучы звесць!»* Той адказвае: *«Бог баславіць!»* Тады брат нявесты бярэ яе за рукі і падводзіць да жаніха са словамі: *«На табе маю сястру, не сляпую, не храмую! Жывіце мірна, друг друга паважайце і пачытайце!»* І сярод хаты кружыць іх разам тры разы. Дзяўчаты спяваюць:

Сучыся, пер'ейка, сучыся,
Мар'ічка з Андрэйкаю злучыся!

Нявеста пачынае плакаць. Брат вядзе іх за стол і ўсаджвае побач. Дзяўчаты спяваюць «Раду» (гл. вышэй), а затым і іншыя песні. Маці ў гэты час прыносіць у рэшаце падарункі для радні жаніха: хусткі, кавалкі палатна, ручнікі і г. д. Кожны падарунак яна кладзе на талерку і называе таго, каму даецца падарунак. Адзін з радні нявесты бярэ ў яе талерку і перадае падарунак па прызначэнню са словамі: *«Даруіць цябе Мар'ічка падаркам, красным кітайкам! Ета прыміце, на большае не дзівіце, а падарачак пазалаціце».* Той, хто прыняў падарунак, кладзе грошы на

талерку для нявесты. Пасля раздачы падарункаў жаніх ад'язджае дадому.

У дзень вяселля ён, атрымаўшы ад бацькоў благаславенне, прыязджае да нявесты. Тут бацькі бласляўляюць абоіх і адпраўляюць да вянца. Па дарозе спяваюць:

Шамнулі калёскі, толькі конікі заржалі,
Маладыя сваткі песні запелі,
Дружкі едуць, гойкаюць,
Мар'ічкі ў церам голас падаюць.

Конікі мае сівыя!
Ці падвізіцё княгіню
Пад тую гару крутую,
Пад тую цэркаўку святую?
А ў тэй цэркаўкі святэй спас,
Штоб павянчаў дзетачак у адзін час!

Пасля вянца маладыя едуць у дом свяшчэнніка *аддаваць паклоны*, а потым — да дому жаніха. Па дарозе дзяўчаты спяваюць:

Спасіба папу і паповічу,
Што скоранька звянчаў
Ды нямножка дзяржаў.

Пад'язджаючы да дому жаніха, спяваюць:

Ай, выйдзі, свякрова гарбатая,
Едзіць нявеста багатая!
Ай, выйдзі, свякрова саплівая,
Едзіць нявестка шчаслівая!

Маці жаніха ў вывернутай футры з абразом і хлебам выходзіць да маладых на двор і, ухіляючыся ад пугі дружка, абягае тры разы вакол воза. Пры гэтым яна абсыпае воз аўсом. Потым маладыя кланяюцца бацькам жаніха і, узяўшыся за рукі, ідуць у хату. Дзяўчаты спяваюць:

Ай, рай-раёчак па рэчкі плывець,
Андрэйка Мар'ічку за ручку вядзець.
— Хадзі-хадзі, Мар'ічка, дому глядзець:
Мой дамочак, як рай-раёчак:
Абразы стаяць, яры свечы гараць!

У хаце садзяцца за стол і абедаюць. Паміж світамі жаніха і нявесты пачынаецца ўзаемнае падтруньванне. Дзяўчаты нявесты спяваюць:

А ў нашага свата
Цясовая хата:

Ні клеці, ні павеці,
Нейдзе коней падзеці!

Свацці жаніха адказваюць:

На нашай рэчкі ўсё шчучкі —
Панаехалі ўсе сучкі!
На нашай рэчкі ўсё платва —
Панаехала галытва!
На нашай рэчкі ўсё карасі —
Нашы рабяткі харашы!

Дзяўчаты:

Сваточак ты наш дамавой!
Ці на ета ж ты нас запрасіў,
Брахлівых сучак напрасіў?
Брашыце, сучкі, брашыце,
На сабе каросту чашыце.

Не чачэнься, сваццproperly, не чачэнься,
Схадзі ў двору пераадзенься:
У чужым саяне лаўкі трэш,
У чужых боціках танцуеш!

Вы свацці-галышкі,
Пабяры вас за кішкі!
Мы вам прастор дадзім,
Хлеба-солі з'ядзім!

У час абеду дружок пры замене стравы кліча гаспадыню: *«Сваццproperly-свацюшка! І дзе б ты ні была, каб сюды прыбыла! Ці хвартухом трасі, ці перамену нясі»*. Па заканчэнні абеду гаспадыня просіць прабачэння такімі словамі: *«Дарагія госці! Вас на ета прасіла, на хлеб, на соль! А цяпер прашу па хлебу-солі: не прагневайцесь, як ужу было!»*

Патанцаваўшы некаторы час, нявеста і яе дружына ад'язджаюць дадому і там таксама танцуюць да вечара. Вечарам як жаніха, так і нявесту адорваюць.

Для гэтага іх садзяць на ўслонах на вывернутых футрах. Дружок, сцелючы гэтыя футры, гаворыць: *«Сват, сватушка! Баславі свайго чаду даравацы! На чом маладому* (або *маладой*) *сесці: ці на сабалях, ці на ясных сакалах, ай на простай шубе?»* — *«На простай шубе!..»* Пасадзіўшы жаніха з паджанішнікам (або нявесту з дружкай), дружок звяртаецца да бацькі: *«Сват, сватушка, радной бацюшка! Чым будзеш свайго чаду даруваць: ці златам, ці срэбрам, ці хлебам-соллю?»* Бацька бярэ булку хлеба, пасыпае на яе соль і на талерцы падае дружку. Той гаворыць жаніху (або нявесцы): *«Даруець вас ваш бацюшка роднэй хлебам-сол-*

*лю, шчасцем-доляй, добрым здароўем! Ета прыміце, а на большае не дзівіце!*» Такім парадкам надзяляюць маладых і маткі. З гасцей адны даюць грошы, другія — палатно, птушку, дробных жывёл.

Пасля дарэння жаніх едзе да нявесты. Дружок выкупляе ў дзяўчат месца для жаніха і садзіць яго каля нявесты. Дзяўчаты развітваюцца з нявестаю і адыходзяць. Дружок здымае з нявесты вянок і надзявае яго на сябе. Пасля закускі маладыя ўстаюць з-за стала, кланяюцца бацькам і выходзяць на двор, дзе ўжо запрэжаны коні і вынесена пасцель нявесты. Маладыя садзяцца на гэту пасцель і ад'язджаюць. У доме жаніха дружок нясе пасцель у клець. Там яе падрыхтоўваюць для маладых. Між іншым, пад падушку тут кладзецца круглая палка. Маладых пакідаюць сам-насам на гадзіну, потым дружок выводзіць з клеці жаніха, а да маладой ідуць жанчыны, бяруць шлюбную сарочку, на галаву маладой завязваюць намітку (5 аршын даўжынёй) і прывязваюць да наміткі чырвоную стужку, калі маладая аказалася цнатлівай. Затым яе вядуць у хату і спяваюць:

Спасіба маткі за дачку,
Што насіла дачку ў хвартучку.
І яна так хадзіла,
Як маць радзіла.

Потым пякуць бліны і маладая падносіць кожнаму госцю па бліну. Дружок з маладым едуць па бацькоў нявесты і вязуць шлюбную сарочку. Калі нявеста была цнатлівая, у рукавы сарочкі кладуць пернікі і цукеркі, калі не — пхаюць туды конскі гной. Пры вяртанні жаніх запрашае да сябе цесця і цешчу і частуе іх. Калі нявеста аказалася не *дзеўкаю*, то ў доме жаніха на яе бацьку надзяваюць хамут. Маладая плача. Бацька яе лае і нават б'е. Праз нейкі час маладыя прыязджаюць у госці да бацькоў нявесты, і на гэтым вясельны рытуал заканчваецца.

## СЯЛЯНСКАЕ ВЯСЕЛЛЕ У ВІЦЕБСКАЙ БЕЛАРУСІ

**Запісаў В. В. Іваноў**

### СВАТАННЕ. РУКАБІЦЦЕ. АГЛЕДЗІНЫ

Надумаўшы ажаніць сына, бацька выпраўляе яго *ў сваты*, жадаючы поспеху, а маці бярэ і звязвае ўсё, што ёсць у *кача-*

*рэжніку:* памяло, качаргу, вілкі, чапялу і венік, якія застаюцца звязанымі да звароту сына. З хлопцам едзе блізкі сваяк — *сват.*

Калі дзяўчына спадабаецца хлопцу, сват пытаецца спачатку ў дзяўчыны, ці спадабаўся ёй *малец*, а потым у бацькоў—ці згодны яны аддаць яе замуж. Калі дзяўчына і яе бацькі згодны на шлюб, сват прызначае дзень прыезду на *рукабіцце* (заручыны). На рукабіцце едуць жаніх, яго бацькі і сват. З сабой яны прывозяць гарэлку. Бацька нявесты запрашае на рукабіцце двух ці трох блізкіх сваякоў.

Сабраўшыся, перш за ўсё дамаўляюцца пра пасаг і час, калі будуць *іграць свадзьбу;* пры гэтым бацька жаніха і бацька нявесты б'юць па руках і цалуюцца; гэта ж самае робяць і маці жаніха і маці нявесты. Нявеста дае руку жаніху ў знак сваёй згоды выйсці за яго замуж і цалуецца з ім; яна падае руку свату і таксама цалуецца з ім. Пасля гэтага запальваюць перад абразом свечку, становяцца на калені і моляцца.

Пасля малітвы ўсіх гасцей садзяць за стол. Пачынаецца частаванне. Абавязковая тут яда — яечня. Скавараду з яечняй ставіць на стол маці нявесты (цешча). Яна ж (цешча) ставіць на стол таксама талерку з падарункамі — ручнікамі хатняга вырабу і паркалёвымі хусткамі. Спачатку цешча вешае ручнік на шыю бацьку жаніха, потым мацеры жаніха; жаніху вешае на шыю хустку; астатнім гасцям — або хустку або ручнік. Бацька жаніха ў гэты час вымае з-за пазухі *салодкую гарэлку* (падфарбаваная сушанымі ягадамі гарэлка), і ўсіх па парадку, пачынаючы з бацькі і мацеры нявесты, частуе *(дары беліць)*. Кожны, хто атрымаў падарунак, кладзе на талерку грошы.

Бацькі нявесты праз некалькі дзён пасля рукабіцця едуць да жаніха на *агледзіны*. На агледзінах частуюцца, а потым ходзяць па гумнах і хлявах і падрабязна аглядаюць усю маёмасць.

## ВЫПРАЎЛЕННЕ ДА ВЯНЦА І ЗВАРОТ МАЛАДЫХ

У прызначаны дзень жаніх і нявеста выпраўляюцца ў царкву пад вянец. Перад ад'ездам нявесты ў сенцах за дзвярыма становяцца *тысяцкі*, за ім — нявеста, за нявестай — *баяркі*, а за імі — сваццi. Бацькі нявесты становяцца ў хаце каля печы, бліжэй да парога. Тысяцкі прыадчыняе дзверы ў хату і праз парог гаворыць: *«Благаславіце»*. Бацькі і ўсе, хто ёсць у хаце, адказваюць: *«Бог благаславіць»*. Пасля гэтага тысяцкі зачыняе дзверы, а потым зноў адчыняе іх і зноў просіць блаславення. Так робіцца тры разы. За трэцім разам тысяцкі бярэ нявесту за руку і вядзе ў хату; за нявестай ідуць баяркі і сваццi. Усе становяцца

па баках, а нявеста ідзе да абразоў і кладзе тры зямныя паклоны, потым падыходзіць да бацькі, кланяецца яму да зямлі тры разы, плача і кажа:

Татка мой, саколік,
Сурыжай жа ты маю свадзебку.

Затым кланяецца тры разы да зямлі мацеры і кажа:

Мамка мая, радзіцелка,
Сурыжай жа ты маю свадзебку.

Пасля гэтага нявеста ходзіць па хаце і кланяецца па аднаму разу ўсім астатнім запрошаным гасцям. Калі нявеста абыдзе з паклонамі ўсіх, тысяцкі бярэ яе за руку і вядзе за стол, абходзячы яго з левага боку. Тысяцкі садзіцца на куце, за ім — нявеста, за нявестай баяркі і свацці; вольныя месцы займаюць астатнія запрошаныя. Сеўшы за стол, п'юць і ядуць, апрача нявесты, якая нічога не есць і едзе ў царкву нашча.

Устаўшы з-за стала, госці дзякуюць гаспадару, а нявеста кланяецца да зямлі бацьку і кажа: *«Спасіба табе, мой татухна, за хлеб, за соль, што ты маю свадзебку сурыжаеш».* Такімі ж самымі словамі нявеста дзякуе мацеры, кланяючыся ёй да зямлі.

Трохі *пачасуваўшы*, мужчыны ідуць запрагаць коней, а іншыя ў гэты час рыхтуюцца да *благаслаўлення:* адсоўваюць ад чырвонага кута стол, на стол прыносяць талерку, накрытую хусткай, булку хлеба, поўную сальніцу солі, бутэльку гарэлкі, кавалак мяса і чарку гарэлкі. Калі ўсё падрыхтавана, бацька садзіцца на куце і трымае ў руках абраз і запаленую свечку. Нявеста кланяецца абразу тры разы. Бацька абводзіць тры разы абразом вакол галавы дачкі злева направа; нявеста цалуе абраз, потым абраз перадаецца са свечкай мацеры. Нявеста кланяецца бацьку тры разы, цалуе яго, плача і кажа:

Татка мой, саколік,
Благаславі ж ты мяне.
На пуць, на дарожку,
На шчасліўую гадзінку.

Такім жа самым чынам бласлаўляе нявесту маці і блізкая радня.

Увесь час іграе музыка.

Пасля блаславення нявесты бацькамі і блізкай раднёй абраз вешаюць на месца, а нявеста ходзіць па хаце і кланяецца па аднаму разу кожнаму з астатніх гасцей.

Затым кожны з гасцей падыходзіць да стала і кладзе на талерку грошы. У гэты час спяваюць:

Мар'юшка ў татухны
Благаславеннейка просіць:
— Благаславі ж мяне, татухна,
На пуць, на дарожку,
На шчаслівую гадзіну.
— Дзіця Мар'юшка,
Цябе бог благаслаўляець,
Усе людзі хрышчоныя
І абразы царкоўныя.

Гэта песня спяваецца і мацеры, і братам, і сёстрам, калі тыя падыходзяць да стала і кладуць на талерку грошы.

Выпраўляючы нявесту пад вянец, пяюць:

Ай, попе, попе, попе наш,
Адчыні царкоўку проці нас,
Павянчай ты нас у добрый час.
Не попе ж ета вяньчаець,
Добрая гадзіна злучаець!

Жаніха бласлаўляюць такім жа самым чынам, як і нявесту. Выпраўляючы жаніха пад вянец, спяваюць:

Зелен сад са вішання;
Пад той сад панічы ездзюць,
Ездзюць панічы страляючы;
Толькі адзін паніч не страляець.
Быць яму ў божым даму.
Божый дом вянец даець,
А святэй сулука сулучаець,
А прачыстая матушка любоў даець.
Іванькіна мамка бога просіць:
— Сулучы, божухна, етых дзетак:
Адно дзіця ражонае,
А другое сужонае.
Ражонае — князь Іванька,
Сужонае — красна Мар'юшка.

Калі едуць пад вянец, спяваюць па дарозе шэраг песень:

Борам, борам, барамі
Ехалі сваты радамі.
Напярод ехаў Іванька,
Назад шапачкай махае.
— Стойце, пастойце, сватове!
Ці не ў бару зязюля кукуець,
Ці не ў лазе салавейка шчабечыць.
У бару зязюля не кукуець,
У лазе салавейка не шчабечыць,

Ета мая Мар'юшка плачыць,
Тонкую кашульку шыючы,
Яркую свечаньку палючы,
Цёмную ночаньку просючы:
— Цёмная ночанька, стой, пастой,
А ярая свечанька, пасвяці,
Іваньку кашульку пасляшы.
Каля варота золата,
Каля каўняра серабро,
Каля падола чорный шоўк.

Ці не конь капытом празваніў —
Іванька па сенях пахадзіў.
Ён свайго татухну пабудзіў:
— Устань, татухна, не ляжы,
Сабірай дружыну, як сам,
Сабірай свацюхнаў-пявунняў,
Сабірай музыкоў-рэзакоў:
Нам жа ехаці далёка,
Да й на чужую старану,
А каб жа нам не было сораму,
Каб жа нам была чэсць, хвала
І да самога да двара.

Пасля вянчання спяваюць каля царквы:

Рад-радзенек Іванька,
Што ў новэй цэркаўке пабуваў,
На белам рушнічку пастаяў,
Мар'юшку за ручку падзяржаў,
Залатыя пярсцёнкі памяняў.

Па дарозе ад царквы да дому нявесты спяваюць:

Стаяла Мар'юшка пад вянцом,
Часала Іваньку грабянцом,
Зваліўся грабянец пад вянец.
— Паднімі, Іванька, грабянец.
— А я ж табе, Мар'юшка, не маладзец:
Паднімуць грабянец падружкі,
Што дзяржалі цябе пад ручкі.

З-пад вянца жаніх едзе ў свой дом, нявеста ў свой.

## АБЕД У ДОМЕ НЯВЕСТЫ І ДЗЕНЬ ДА ПРЫЕЗДУ ЖАНІХА

Выправіўшы сына ў царкву, бацька жаніха едзе ў дом нявесты на абед з *перапоем*. Час ён разлічвае так, каб прыехаць да нявесты ў дом за адну ці дзве гадзіны да вяртання нявесты з-пад вянца.

Калі нявеста прыедзе з царквы на двор, яе бацька выходзіць сустракаць дачку з абразом, а маці — з хлебам-соллю. Злезшы з калёс, нявеста кладзе зямны паклон бацькам, пасля чаго тысяцкі бярэ яе за руку і вядзе ў хату. Усе садзяцца за стол абедаць, заходзячы з левага боку. Бацька нявесты і бацька жаніха садзяцца разам у чырвоным кутку (*на куце*).

Першы сват трымае ў руках бутэльку гарэлкі, а другі — цэлую бочачку ў 1—2 гарнцы. Маці нявесты прыносіць і ставіць перад імі пустую міску, такія ж пустыя міскі ставіць яна і на іншых сталах. Тады сваты пачынаюць *жаніць гарэлку*.

— *Ну, мой сваціk, давай жаніць гарэлку! Будзем глядзець, чыя кароўка малошней,*— гаворыць адзін сват.

— *Давай, давай, сваток,*— адказвае другі сват.

Пасля гэтага першы сват лье трохі гарэлкі з бутэлькі ў міску, другі — таксама. Паўтараюць гэта наперавменку тры разы. Пакольki бутэлька першага свата хутка пусцее, то другі сват кажа: «*Не, мой сваток, мая кароўка малошней!*» — і разлівае гарэлку з бочачкі ў міскі, што расстаўлены па сталах.

Разліўшы гарэлку па місках, сват бярэ лыжку, налівае ў чарку гарэлкі і кожнага частуе ёю, раздаючы пры гэтым падарункі: пірагі, абаранкі, цукеркі, пернікі і інш. Бацьку і мацеры нявесты ён дае па пірагу і гаворыць: «*Во вам, мае сваточкі, за гадаванне дочкі*». Тыя прыўздымаюць над галовамі падарункі і кажуць: «*Дзякуй, сваток, няхай табе бог такое бальшое калоссе родзіць*».

Налітую ў міскі гарэлку чэрпаюць лыжкамі і закусваюць.

У ліку іншых падыходзіць па падарункі і нявеста, якая сядзела дзе-небудзь за самым дальнім сталом. Сват налівае ёй чарку гарэлкі і кладзе туды сярэбраную манету. Нявеста накрывае чарку хусткай і пераварочвае яе ўверх дном. Гарэлка праз хустку працякае на падлогу, а манета застаецца ў хустцы. Калі нявеста верне свату пустую чарку, ён напаўняе яе зноў і гаворыць: «*Ну, нявестухна, будзь здарова, вып'ем*». І п'е. Нявеста адказвае: «*На здароўе, татухна*». Выпіўшы і напоўніўшы чарку для нявесты, *свёкар* перадае ёй прысланы жаніхом клунак з падарункамі: *чаравікамі, пернікамі, баранкамі, цукеркамі* і інш. Нявеста дзякуе за падарункі і, адыходзячы ад стала на сваё месца, гаворыць і галосіць: «*Татка, мой саколік, ты ж на еты падаркі пакваліўся і мяне аддаеш у чужыя людзі*».

Пасля *перапоін* пачынаецца абед. У час абеду тысяцкі бярэ ў кожную руку па вялікаму пірагу, стукае адзін аб адзін і, устаўшы з-за стала, кажа:

— *Гаспада, ці не найдзецца ахвотнік песеньку начаць, у скрыпачку зайграць, маладую Мар'юшку ўзвесяліць?*

Хто-небудзь з гасцей устае на гэты воклік з-за стала, падыходзіць да тысяцкага, бярэ ў яго булкі, выпівае чарку гарэлкі і лезе на *каптур*, а калі ёсць у хаце слуп, на якім прымацавана перакладзіна, што падтрымлівае палаткі, дык лезе на гэты слуп і гаворыць:

Пакуль да стаўба дабраўся,
Насавенка падраўся,
Пакуль на печ узлез,
Насавенка з плеч злез...
Грады, грады, дайце рады.
Учора печка топлена,
Сяннi дух прапаў...
Цiхуця, цiхая бяседа,
Вясёлая кумпанiя,
Госцейкi сазваныя, сабраныя,
Блiжнiя — прыхожыя,
Дальнiя — прыезджыя.
Старынькiх кабылка вязла,
Маленькiх матушка нясла,
Сярэдовыя самi папрышлi.
Каторыя тры днi пад лаўкай валялiся,
На ету свадзебку спадзявалiся;
Каторыя пад градамi капцелi,
На ету свадзебку хацелi...
Есь у етам доме айцец-бацька,
Радзiцелка — матка:
Яны ету должнасць заступаюць,
Хлеб, соль дастаўляюць
I гасцей прынiмаюць.
А я ж чужэй пахол
За сухiм стаўбом:
Жывот мой — як дошка,
Галава — як лукошка,
Язык — як кось,
Зубы — як трось.
Цi не далi б мне чарачку вiнца,
Коўшычак пiўца
Горла прамачыць,
Язык научыць,
Цi не абдумаў бы я яшчо што.
Пан тысяцкiй,
Ваявода шляхецкiй!
Маеш слуг, слугамi прышлi,
Не маеш слуг, сам прынясi.

У гэты час тысяцкі перадае яму гарэлкі і што-небудзь з закускі. Выпіўшы і закусіўшы, *начынальнік* ізноў гаворыць:

Цiхуця, цiхая бяседа,
Вясёлая кумпанiя!
Не я ж вас прашу,
Просiць маладая княгiня...

Пан тысяцкій,
Ваявода шляхецкій,
Ты ж сядзіш на куце,
Як сакол на гняздзе,
Звёздамі абгарадзіўся,
Месяцам накрыўся,
За цясовымі сталамі,
За крушчастымі скацёркамі,
За вінными напіткамі,
За сярэбранымі чаркамі.
З аднаго боку піўная рака,
З другога боку вінная рака!..
А я худой пахол
За сухім стаўбом:
Ці не далі б мне
Чарачку вінца,
Коўшычак піўца —
Горлышка прамачыць,
Языка научыць,
Ці не абдумаў бы я яшчо што.

Тысяцкі зноў пасылае яму выпіць і закусіць. Начынальнік працягвае:

Ціхуця, ціхая бясeда,
Вясёлая кумпанія,
Госцейкі сабраныя,
Жоначкі — божыя пчолачкі!
Памаўчыце, пацярпіце,
Пару слоў скажу
І песеньку пачну.
Не я ж вас прашу,
А просіць маладая княгіня,
Галоўкай паклоннай,
Сярдзечкам пакорным...
Благаславіце! Благаславіце! Благаславіце!

Яму ўсе адказваюць: «*Бог благаславіць*». Далей начынальнік спявае тры разы, б'ючы пірагамі адзін аб адзін:

А святый Кузьма-Дзям'ян,
Ты скуй нам свадзебку.

За трэцім разам начынальнік вяртаецца зноў за стол, а ўсе прысутныя гучна падхопліваюць гэту песню:

А святый Кузьма-Дзям'ян,
Ты скуй нам свадзебку
Двух маладзен умесцічка.
Адзін маладзен Іванька,
Другой маладзен Мар'юшка.

Пасля гэтай *начынальнай* (ці *пачынальнай*) песні спяваюць розныя вясельныя песні. Спяваюць пад акампанемент скрыпкі:

У нядзеленьку па зары
Ездзіў Іванька на кані...
— А вы, мілы мае шынкарачкі,
Ці не вы ж перавоз дзяржалі?
Перавязіце дружыну.
Я і за дружыну рубліну,
Я і за свацюхнаў палціну,
За сябе, маладца, чырвонца,
За красную Мар'юшку тысячу.
Хуць я дорага заплачу,
Я сваёй дружыны не умачу...

Калі нявеста сірата, то спяваюць:

Зялёная дубровенька,
Што ў цябе дуб'я многа —
Бярозачкі алі розачкі.
Есь каму пастаяці,
А некаму пашумеці.
Маладая Мар'юшка,
Што ў цябе бацек многа —
Роднага ніводнага.
Есь каму піць да гуляць,
А некаму благаслаўляць,
Есь каму пажурыці,
А некаму пажалеці...

Пасля абеду спяваюць песні і *скачуць* цэлы дзень да позняга вечара, пакуль прыедзе жаніх.

Перад прыездам жаніха нявесту садзяць з дружкамі за стол і *надзяляюць*. Для надзялянне ставяць на стол засланую хусткай талерку, а таксама некалькі бутэлек гарэлкі, пірог, кавалак мяса і сальніцу солі. Калі ўсё гатова, нявеста гаворыць:

Татка мой, саколік,
Мамка мая, радзіцелка,
Прашу я ў вас надзяляннейка.

Бацька і маці, а таксама астатнія госці падыходзяць да стала і кладуць на талерку грошы. Кожнаму, хто кладзе грошы, нявеста кланяецца і гаворыць: *«Спасіба вам за ваша надзяляннейка»*.

У час надзялянне сваты бесперапынку пяюць:

Надзялі ж мяне, татухна,
Не рублём, палцінаю —
Залатой грыўнаю.

Ей жа многа надабі:
Масты масціць,
К мамкі ў госці хадзіць.

Калі да стала падыходзяць надзяляць паволі, то сваццi пяюць:

Хто заснуў, прачніцеся,
Хто пашоў, вярніцеся,
Друг друга вызваляйце,
Мар'юшку надзяляйце.
Ей жа многа надабі:
Масты масціць,
К мамке ў госці хадзіць.

Надзяліўшы, выходзяць з-за стала і зноў гуляюць (пяюць і танцуюць) да прыезду жаніха.

## ПРЫЕЗД МАЛАДОГА ПА НЯВЕСТУ. ВЯРТАННЕ НАЗАД

Калі малады ад'язджае з дому па *княгіню*, спяваюць:

Ай, беленькій, кудравенькі Іванька!
Ну хто ж яму белы кудры расчасаў?
Расчасала белы кудры матухна.
А ў суботу ранёшынька вымывала,
А ў нядзельку ранёшынька часала,
Іваньку ў дарожку паслала.
— Едзь жа, Іванька, не баўся,
На гарэлачку, на кавітачку не квапся,
Прывязі ж мне нявестаньку ў атласе,
Хуць не ў атласе, дык у беленькай сярмязе,
Хуць не ў сярмязе, дык добрынькай у звязі.

Малады прыязджае са сваімі дружкамі і музыкамі. Уехаўшы ў двор да нявесты, яго дружкі пяюць:

Іванька па двару паязджаець,
Пад паяскі коніка падганяець.
— Адчыні, Мар'юшка, вакошка,
Ты скажы, Мар'юшка, мне славечка,
Ці мне ждаць, ці мне ехаць?
— Стой, пастой, Іванька,
Невялікій часок:
Я ж яшчо з матухнай не дзялілася.
Не даець матухна мне кублічкаў,
Не даець полага кушчастага,
Не даець скацеркі бяльчастыя.
— Глупая Мар'юшка, неразумная:
Мы з'ядзім вячэру без скацеркі,
Пераспем ночаньку без полага...

— Пусь табе, матухна, усі кублічкі,
Пусь мне, матухна, усі трубачкі;
Пусь табе, матухна, усі каробачкі,
Аддай мне, матухна, усі намётачкі.

— Ці не сорам табе, Іванька,
У полі стаяць дзве стрэлкі,
У цесця на двара без дзеўкі!
— Дайце же мне стрэлку лукаву,
Праб'ю я сцену-камянку,
Пастаўлю яе ў раду,
У раду наперaду.
Стой, мая Мар'юшка, не дражы.
— А чаго ж я маю дражаць,
Падружкі пад ручкі дзяржаць...

Маладога трымаюць на двара даволі доўга, а потым *злучаюць* з нявестай. Робяць гэта так: жаніху і нявесце тысяцкі дае па невялікай булцы хлеба; затым завязваюць хусткай вочы адной з баярак (або для смеху — старой жанчыне), выводзяць у двор да жаніха і пытаюцца: *«Ці твой тавар?»* Прыезджыя таксама выводзяць насустрач якога-небудзь старога і кажуць: *«Не наш, не наш тавар! На етат тавар во і ў нас есь такой прыгожай»*. Робяць гэта два разы. У трэці раз выводзяць ужо нявесту і пытаюць: *«Ці ваш тавар?»* Прыезджыя з радасцю адказваюць, што гэта ўжо іх тавар і падводзяць да нявесты жаніха. Жаніх і нявеста ўвесь час трымаюць булкі хлеба, прыціскаючы іх да грудзей. Тысяцкі жаніха, калі *маладыя* сыйдуцца, абхоплівае іх рукамі, прыціскае моцна адзін да аднаго (*злучаіць*) і тры разы перакручваецца з імі на месцы. У гэты час спяваюць:

Звіўся рой, паляцець хочыць
У шэрый бор, у салодкій мёд...
Напарадзіўся Іванька,
Паехаць хочыць.

Затым сваццця жаніха бярэ ў маладых хлябы, складвае разам і моцна звязвае хусткай.

Пакуль тысяцкі *злучаіць маладых*, маці нявесты адзяе футра воўнай наверх, насыпае ў міску аўса, улівае туды кубак вады, выходзіць насустрач да зяця і падае яму міску. Жаніх бярэ міску і хутчэй кідае цераз галаву.

Пасля гэтага выходзіць у двор цесць і просіць усіх прыезджых у хату.

За стол садзяць толькі жаніха з нявестай і гасцей, якія прыехалі з жаніхом.

Радня нявесты за стол не садзіцца, яна толькі прыслугоўвае каля стала ды спявае:

Ці не жаль жа табе, Мар'юшка,
Што чужая радня кут заняла,
А свая радзінка ў парозе.
Чужая радзінка мёд, віно п'е́ць,
А свая радзінка памяло трэць.

Радня жаніха, седзячы за сталом, спявае ў адказ:

Не вялікій наш паяздок,
Да вясёленькій галасок.
А гдзе мы сталі — зайгралі,
А гдзе мы селі — запелі,
Каго хацелі, узялі,
Нікому шапанькі не знялі.
І добрага спасіба не далі.

Сядзем мы на лавачкі,
Вып'ем мы па чарачкі,
Сядзем мы на цясовенькай,
Вып'ем мы па поўненькай.

Пасля вячэры зноў весяляцца, спяваюць і танцуюць. Настае час ад'езду ў дом жаніха. Перад ад'ездам прыезджых гасцей ізноў садзяць за стол. Два браты нявесты ці два бліжэйшыя сваякі (*вячэрнікі*) становяцца на лаву і ідуць да нявесты. У кожнага вячэрніка ў руках лучына. Паваструыўшы лучыну аб бэльку, яны бяруць нявесту за касу і кажуць: «*Адрэжам касу*». Жаніх просіць. каб яны не рэзалі касу, частуе іх гарэлкай і закускай і дае грошы (выкуп).

Выйшаўшы з-за стала, адсоўваюць з пярэдняга кутка стол; жаніх і нявеста становяцца перад абразамі, схіліўшы разам галовы. Бацька і маці па чарзе абводзяць абразом і запаленай свечкай тры разы вакол іх галоў. Жаніх і нявеста кланяюцца іконе, потым робяць зямныя паклоны бацьку і мацеры, абдымаюцца з імі, цалуюцца і развітваюцца.

Нявеста моцна плача і гаворыць, развітваючыся з бацькам:

Добрая ноч, мой татка,
Спасіба, мой татка,
За твой хлеб, соль,
За тваё гадаваннейка.

З такімі ж самымі словамі развітваецца нявеста з маткай і блізкай раднёй. У гэты час спяваюць:

Тонкая нітачка
К сценкі ільнець,
Мар'юшка таткі
Спасіба даець.
— Спасіба, татухна,
За хлеб, за соль:
Не пайду абедаць за твой стол,
Хуць прыеду не прыеду
У гасціну,
Навязаўшы бліноў
Хусціну.

Развітаўшыся, запрагаюць коней, укладваюць пасаг, каб везці яго ў дом жаніха.

Перад выездам з двара цешча садзіцца на воз з пасагам і не дае яго везці. У зяця абавязкова павінна быць бутэлька гарэлкі. Ён падыходзіць да цешчы, частуе яе гарэлкай, пернікамі, цукеркамі і дае грошай — выкуп за пасаг. Заможныя даюць звычайна адзін рубель, а бедныя —20—30—50 капеек.

Калі нявеста выязджае з двара, спяваюць:

Мар'юшка з двара з'язджала,
У бярозы макушку сарвала.
— Стой, мая бяроза, без віхра,
Жыві, мая матухна, без міня.
Ці будзець жа так, як пры мне:
Ці будуць ложачкі вымыты,
Ці будуць кубачкі наліты,
Ці будзець хатка мяцёна?

Пяюць у дарозе, калі вязуць нявесту ў дом жаніха:

А памалу, сваты, з гарыны,
Не растрасіце пярыны,
Не выпусціце звярыны.
Нам ета звярына дарага.
Усю ноч без шапак стаялі,
Пакуль ету звярыну паймалі...

Прывёзшы нявесту ў двор жаніха, пяюць:

Ты ж не гніcь, не ламісь
Калін масточак:
Паедзем па табе
Семсот ваявод.
Іванька напярод
Прыехаў к варатам,
Стукнуў ботам:
— Адчыні, матухна, вароцікі,
Ужо ж мае конікі перабегліся,
Ужо ж мая Мар'юшка пераплакалася,

Ужо ж мае музыкі перайграліся,
Ужо ж мае сваццюхны перапеліся,
Я і сам маладзец перазяб, перадрыг.

Увайшоўшы ў хату, пяюць свякрусе:

Елка, сасонка зіму-лета
Зялёненька,
Мар'юшкіна мамка ўсю нядзельку
Смутненька.
Дасць бог летца, народзіць бог жытца,
Не з кім жаць,
Займу пустаць вузешаньку,
Не з кім гнаць.
Елка, сасонка зіму-лета
Зеляненька,
Іванькіна мамка ўсю нядзеленьку
Весяленька.
Дасць бог летца, народзіць жытца,
Ёсь з кім жаць,
Займу пустаць шырокую,
Ёсь з кім гнаць.

## ПРЫЕЗД ГАСЦЕЙ З ДОМУ МАЛАДОЙ

Выправіўшы жаніха, бацька нявесты садзіць сваіх гасцей за стол. Закусіўшы, збіраюцца і едуць да жаніха (*паізжані*). Едучы па вуліцы той вёскі, дзе жыве жаніх, пяюць:

Вашы вуланькі цесныі,
Едуць госцейкі чэсныі.
Як нашы госцейкі ўвап'юцца,
Тады нашы вуланькі раздадуцца.

Прыехаўшы ў двор жаніха, пяюць:

А вы, жоначкі, вы, лябёдачкі,
Чалом вам,
Ці не заляцела наша курачка
На двор к вам?
Наша курачка знакамістая
І з яйцом,
А вы, жоначкі, вы, лябёдачкі,
Чалом вам.
Ці не завезена наша дзеванька
Учора к вам?
Наша дзеванька знакамістая
І з вянком...

Дружкі жаніха выходзяць насустрач гасцям у двор і пяюць усім ім велічальнае:

Учора Мар'юшка цярэм мыла,
Сянні Мар'юшка гасцей ждала,
Гасцей — Пятруську.
— Каму Пятруська,
А мне татухна.

Учора Мар'юшка цярэм мыла,
Сянні Мар'юшка гасцей ждала,
Гасцей — Аксінку.
— Каму Аксінка,
А мне матушка...

І так пяюць па парадку ўсім родным: братам, сёстрам і інш., называючы кожнага па імені.

А вумная, разумная Мар'юшка
Паставіла старожаньку ля броду,
Сама села пад вішанькай у саду.
— Адкуль ясен месяц узыйдзець,
Адтуль мой татухна уз'едзець.
Ой, вумная, разумная Мар'юшка
Паставіла старожаньку ля броду,
Сама села пад вішанькай у саду.
— Адкуль ясен месяц узыйдзець,
Адтуль мая матухна ўз'едзець.

Прыезджых *паізжан* садзяць за стол, пасля чаго дружкі нявесты ідуць у клець *завязваць маладую*. Завязваць маладую можна толькі пад саламянай страхой, таму нявесту і вядуць з хаты ў клець, бо ў хаце на столі звычайна насыпана зямля. Нявесту садзяць на *дзяжку-хлебніцу*, накрытую кажухом, і здымаюць з галавы кветкі. Свякроў прыносіць лыжку масла і кладзе нявесце на галаву, затым ёй надзяюць чапец, а паверх яго павязваюць *хустку*.

Свацці жаніха перадразніваюць родных нявесты і пяюць:

Круцюць, верцюць хахлушку,
Іванькіну жанушку,
А Пятруськіну дачушку...

Тыя, завязваючы, пяюць:

Хараша нова клець
Пад крышкаю,
Лучшы таго Мар'юшка
Пад намёткаю.

Спавіваначка плачыць,
Спавівацісяя хочыць.

Мар'юшка плачыць,
Завівацісяя хочыць.

Тут жа, дзе завязваюць маладую, прысутнічае і малады. Завязаўшы нявесту, пытаюць: *«Хто пацалуіць?»* Усе кідаюцца да нявесты, робячы выгляд, што хочуць яе пацалаваць, але малады хутчэй цалуе нявесту, кладзе ёй на галаву манету і падымае з дзяжы. Сваццi акружаюць жаніха і пяюць:

Вазьмі ж ты мяне
Ды ўзноў жа к сабе.
Я ж учора была,
Як роза цвіла,
Сягодня стала,
Як мята звяла.

Жаніх дастае з кішэні бутэльку гарэлкі і частуе ўсіх, хто ёсць (*п'юць рожкі*). Пасля гэтага жаніха і нявесту вядуць у хату, накрыўшы іх галовы ручніком. У гэты час пяюць:

Вумная, разумная Мар'юшка
Па двару ішла з свячою,
А ў клетку ішла дзявою,
А з клеткі ішла жаною.
— Не завіце мяне дзявою,
Да завіце мяне жаною.
Хуць вы мяне талоч, малоць застаўце,
Толькі мяне маладзіцаю настаўце,
Хуць вы мяне за вадзіцаю пашліце,
Толькі мяне маладзіцаю завіце.

У хаце маладых сустракае цешча ў вывернутым футры, здымае з іх галоў ручнік і садзіць за стол. Трымаючы ў адной руцэ *ллінную пугу*, цешча бярэ лыжку кашы і дае тры разы папераменна жаніху і нявесце. Пакаштаваўшы кашы ў трэці раз, жаніх бярэ ў мацеры лыжку з рэштками кашы і кідае на печ *пад грады*. Тады свякруха «б'е» абоіх *маладых пугаю*, выганяючы з-за стала. Тыя хутка абягаюць вакол стала і выходзяць з хаты, а свякруха садзіцца за стол адна.

Неўзабаве ў хату вяртаецца маладая з рознай закускай, якую ставіць на стол, і частуе свякруху; потым апаясвае яе поясам свайго вырабу, на плечы вешае ручнік, а на галаву чысценькую хустку — свякруха перад гэтым знарок абвязваецца бруднай анучай. Пачаставаўшы свякруху, нявеста і яе родныя ідуць у клець, здымаюць века з дзяжы і кладуць на яго шмат рознай закускі. Тысяцкі бярэ на галаву века, нясе ў хату і ставіць на стол перад свякрухай. Сваццi, ідучы ззаду за тысяцкім, пяюць:

Што на етам веку,
Дай, божа, да веку.

Свякруха саджае за стол толькі сваю радню і частуе яе прынесеным (*каравай ядуць*). У гэты час радня нявесты спявае:

Суботанька нядзеленьку радзіла,
Сабралася Мар'юшкіна радзіна.
Прывязлі яны сем пудоў мукі на каравай:
Вялік будзець, харош будзець наш каравай.
Суботанька нядзеленьку радзіла,
Сабралася Мар'юшкіна радзіна.
Прывязлі ж яны сем пудоў масла на каравай:
Харош будзець, маслен будзець наш каравай.
Суботанька нядзеленьку ўрадзіла,
Сабралася Мар'юшкіна радзіна.
Прывязлі ж яны сем пудоў солі на каравай:
Салон будзець, харош будзець наш каравай.
Суботанька нядзеленьку ўрадзіла,
Сабралася Мар'юшкіна радзіна.
Прывязлі ж яны сем пудоў сахару на каравай:
Харош будзець, смачан будзець наш каравай.
Хто будзець каравай есці,
Тот будзець машной трэсці.
Мікітка [1] будзець каравай есці,
Мікітка будзець машной трэсці.
Ганулька [2] будзець каравай есці,
Ганулька будзець машной трэсці.

Гэтак пяюць усім, хто прыйшоў на вяселле, называючы кожнага па імені. Хто есць каравай, абавязаны пакласці колькі-небудзь грошай на века.

Калі радня жаніха выйдзе з-за стала, родныя нявесты вешаюць на абразы і на сцены ручнікі, засцілаюць абрусамі сталы. Затым радню нявесты садзяць за стол і частуюць. За сталом пяюць:

У садзе, у вінаградзе
Там стаіць краватка цясовая,
Там ляжыць пярына пуховая,
Там ляжыць Іванька з пахмелейка,
Душа яго Мар'юшка ў галавах стаіць,
Вінную чарачку ў руках дзяржыць,
Садовый яблычак за пазухай.
— Ты ж устань, Іванька, прабудзіся,
Ты выпі чарачку, пахмяліся.
Садовый яблычак на закуску,
Каб твая галоўка не балела,

---

[1] Імя бацькі жаніха.
[2] Імя мацеры жаніха.

Раціва сярдзечка не шчымела.
— Уж мая галоўка баліць, баліць,
Раціва сярдзечка шчыміць, шчыміць...

Пасля пачастунку радня нявесты ад'язджае. На наступны дзень, у аўторак, жаніх едзе да цешчы на *яешню.* Жаніх павінен прывезці бутэльку *краснай гарэлкі,* а цешча абавязана пачаставаць яго яечняй.

У сераду бацька і маці нявесты едуць да зяця ў госці. На гэтым вяселле і заканчваецца.

# ВЯСЕЛЬНЫ АБРАД [У ГОМЕЛЬСКІМ ПАВЕЦЕ]

## Запісаў Е. Р. Раманаў

Калі хлопцу споўніцца 18 год, бацькі бяруць за свата каго-небудзь з родных або знаёмых. Бацька, адрэзаўшы вялікі акраец хлеба і загарнуўшы яго ў палатно, ідзе разам са сватам у той дом, дзе ім прыглянулася нявеста. Увайшоўшы ў дом, вітаюцца з гаспадарамі: *«Магайба!»* Гаспадар адказвае: *«Здароў, праходзьце, добрыя людзі!»*Тады сваты кладуць хлеб на стол і пачынаюць размову. Бацька гаворыць: *«Вот казалі, у вас ёсць дзеўка, ці не аддалі б Вы за майго сына?» — «Не знаю, людзі добрыя, трэба распытацца».*

Потым, параспытаўшыся, даюць сваю згоду, часта не пытаючыся ў нявесты[...] Бацька жаніха прыносіць паўвядра гарэлкі, і бацька нявесты пасылае каго-небудзь клікаць «на магарыч». Пасланец ідзе пад кожнае акно і крычыць: *«Магайба! Прасіў Іван Тэрлецкі на магарыч!» — «А за каго ён аддаў?» — «А за Карнеева Сяргея!» — «Спасіба, прыдам!»*

Сваякам і знаёмым, якія сабраліся ў хаце, даюць гарэлку і віно. Потым пачынаюць дамаўляцца пра пасаг. *«Ну, сват, сколькі вазьмеш за сваю Марыну Іванаўну?»—«А што ж з цябе ўзяць? Дасі дзесяць рублей!» — «О, не, сват, будзе багата! Няхай будзе пяць!»—«Не, сват: не дасі восем рублей, дак ня аддам сваё дачкі за твайго Сяргея!»* Тады сваты б'юць па руках: *«Ну, нечаго дзелаць: трэба даць восем рублёў».* Вымае грошы і тут жа аддае іх свату. Тады матка нявесты прыносіць сватам *па хусткі* на падарунак. *«Сват, калі ж у нас будзе вяселле?»—«А я, сваток, табе тагды скажу!» — «Ну, добра!»*

Высватаўшы нявесту, бацька ідзе да свяшчэнніка прасіць аб-

вянчаць маладых. Прыйшоўшы да яго, гаворыць: *«Благаславі, бацюшка; я к вам прышоў па дэлу: высватаў я ў Івана Тэрлецкага дачку за свайго Сяргея. Дак калі нам можна будзе гуляць вяселле?»* Свяшчэннік прызначае дзень вяселля. Сват дае яму за клопат тры рублі. Заплаціўшы грошы за вянец, сват рыхтуе гарэлку, віно, піва і мёд, рублёў на 45, так што на ўсё вяселле ў беднага селяніна павінна пайсці каля 75 рублёў. Падрыхтаваўшыся як мае быць да вяселля, бацька жаніха налівае бутэльку гарэлкі (паўкварты) і ідзе на перагаворы да бацькоў нявесты. Прыйшоўшы ў дом і павітаўшыся, гаворыць: *«Глядзі ж, сват: будзь гатоў к нядзеле!»* — *«Добра, прысылай маладога: будзем гатавацца!»*

У суботу з раніцы ў абодвух дамах пачынаюць рыхтавацца да вясельнай урачыстасці. Склікаюць дружыну, каб у нядзелю не спазніцца на вяселле.

У нядзелю раніцай прыходзіць дружына да жаніха: два дружкі і адзін баярын. Запальваюць перад абразамі свечку. Памаліўшыся богу, старшы дружка-маршалак бярэ баярына за руку; баярын бярэ за руку жаніха і гаворыць: *«Ці ёсць тут ацец і маці?»* Прысутныя бацькі адказваюць: *«Маем быць».*—*«Благаславіце маладому ў пуць паехаць!»* — *«Божа благаславі!»* І абвёўшы маладога вакол стала, прымушаюць яго кланяцца бацькам і прасіць у іх блаславення.

Прыехаўшы да будучага цесця, жаніх ідзе прама ў хату да нявесты і садзіцца за стол, нічога не кажучы. Тады нявеста ідзе склікаць дружак і, вярнуўшыся, становіцца ў сенцах. Калі дружкі прыйдуць, нявеста кажа жаніху клікаць яе да сябе. Жаніх устае, бярэ ў рукі талерку, ставіць на яе чарку гарэлкі, а ў другую руку бярэ боты або чаравікі і гучным голасам кліча нявесту: *«Эй, Марына Іванаўна, хадзі сюды!»* Нявеста, пачуўшы голас жаніха, ідзе прама да яго, бярэ чарку гарэлкі і боты і на талерку ўзамен кладзе свой падарунак — крамную хустку. Потым, абуўшыся ў новыя прывезеныя боты, з дружкамі ўваходзіць у хату і садзіцца каля жаніха. Старшая дружка здымае шапку з жаніха і гаворыць: *«Ці ёсць тут ацец і маці? Благаславіце маладому кветку прышыці!»* Пачуўшы ў адказ *«божа благаславі»*, старшая дружка прышывае да шапкі кветку з чырвонай стужкі і патрабуе з дружка грошы — як бы за працу. Дружок дае ёй некалькі капеек, і яна надзявае шапку жаніху на галаву. Пасля гэтага маладыя кланяюцца бацьку і матцы і едуць да вянца — ціха, сціпла, без усякага шуму. Пасля літургіі засцілаюць на царкоўнай падлозе белы ручнік і ставяць на ім маладых. Калі пасля вянчання выйдуць з царквы, дружкі пачынаюць спяваць вясельныя песні:

Да спасіба табе, попеньку,
Што не багата ўзяў — з копеньку.

Маладый Іванка на рушнічку пастаяў,
За ручку Марынку падзяржаў,
Залатыя пярсцёнкі памяняў,
Вернае слаўцо ёй сказаў
І ў жану сабе яе ўзяў.

Маладый Іванка, маладый,
Ламае розгі з бярозкі,
Сячэ коніка пад ножкі:
Бяжыце, мае конікі, даволі,
Вязіце Марынку з няволі.[1]

Прыехаўшы ў дом нявесты, дружкі спяваюць:

Прыляцела сарока з азярца,
Прыехала Марынка ад вянца.[2]

Цесць з абразом у руках, а цешча з хлебам-соллю на талерцы выходзяць на двор прасіць маладых у хату і прыняць іх хлеб-соль. Маладзы здымае шапку, хрысціцца, цалуе абраз і кланяецца цешчы. За ім тое ж самае робіць і нявеста. Потым абое маладыя ўваходзяць у хату і садзяцца за стол, а дружкі пачынаюць спяваць:

Звяньчалі Ганначку сілаю.
Не дарма яе звяньчалі,
Звяньчалі яе за грошы,
Што яе Данілка харошый.
Ехала Ганначка ад вянца
Да й забылася грабянца —
Упаў грабянец пад сталец.
— Падай, Данілка, грабянец!
— Я табе, Ганулька, не маладзец,

---

[1] У м. Насовічы ў гэтым выпадку спяваюць:

Із гары, з гары, з даліны
Бегла конікаў чатыры,
Вязлі карэтку сінюю.

[2] У м. Насовічы спяваюць:

Большый братка Андрэйка,
Адчыняй варотцы да канца,
Едзе твая сястрыца ад вянца!
Выйдзі, мамачка, з свячамі,
Ужо твайго дзіцятку звянчалі
І з тым казаком, што ўчора быў,—
Ён твайго дзіцятка палюбіў!

Шчоб падаваць табе грабянец,—
Няхай падаюць дружачкі-служачкі.

А дзе мы булі, бувалі,
А ў нядзелечку ранаǃ[3]
Маладыя дружачкі?
Бувалі ж то мы
Да ў цэркаўцы,
Бачылі свячу да трайчастую.
Да чыя свяча да ярка гарыць?
А Іванкава да ярка гарыць,
А Марынкіна да патухае,
Яна слёзкамі аблівае.

Дружок бярэ гарэлку і кліча свата на гасцінец. Калі вып'юць па чарцы, сват дае абед тым, хто прыехаў ад вянца. Дружкі бяруць з сабою нявесту і ідуць з хаты на сваю дзявочую кватэру, дзе рыхтуюць яду, і запрашаюць туды жаніха, дружка і баярына. Частуюць запрошаных гарэлкаю, даюць і гасцінцы — пернікі і семкі, гарбузовыя ці сланечнікавыя. Потым жаніх едзе дадому.

У той жа дзень надвячоркам маладыя дзяўчаты клічуць адна адну: «*Хадзіце елца віць!*» Прыйшоўшы ў дом жаніха або нявесты, яны знаходзяць там кучаравую галінку вішні ці чарэшні або елку, утыкваюць у булку хлеба, які ставяць на стол[4].

Старшая дзяўчына просіць блаславення, кажучы: «*Ці ёсць тут ацец і маці?*» Старыя адказваюць: «*Маем быць!*»—«*Благаславіце маладому Івану елца звіць!*»—«*Божа благаславі!*»

Тады пачынаюць віць елку — убіраць кветкамі — з наступнаю песняю:

Благаславі, божа,
І ацец і маці
Свайму дзіцяці
Елечка пачаці.

Да калі мы елца вілі,
Да ўсе мы бары выхадзілі,
Прышчык барвенік выламалі,
Зялёную рутачку вытапталі.

Да ляцеў гарнастай чараз сад,
Пусціў пер'ечка на ўвесь сад.

---

[3] Паўтараецца пасля кожнага радка.

[4] У с. Пераросце на верх елца ставяць крыж, звязаны з засушаных Іванавых кветак, а на галінкі елца прымацоўваюць *пучкі* — букеты такіх жа кветак.

Да бярыце, дзевачкі, пер'ечкі,
Да віце маладой Марынкі елечкі.
Не йдзіце, маладзіцы, к нам елечкі віці,
Саўём жа мы самі з яснымі сакаламі,
З чорнымі галачкамі, з краснымі панечкамі!

Калі ўбяруць елку, дружок дае дзяўчатам за працу па чарцы гарэлкі. Потым клічуць маладых жанчын мясіць каравай. Маладзіцы, сабраўшыся ў колькасці трох-чатырох і больш, пачынаюць работу з благаславення[...]

Калі цеста гатова, бабы пачынаюць ляпіць пірагі з наступнымі песнямі:

Благаславі, божа, і ацец і маці,
Сваяму дзіцяці караваю качаці!

Іванкава маці па уліцы ходзе
Да суседачак просе:
— Да суседачкі мае,
Да хадзіце вы ка мне,
Да не ка мне, к дзіцяці
Караваю качаці,
Ручкамі да бяленькімі
Перснямі залаценькімі.

Да прыняслі пуд пшаніцы на каравай,
Да прывязлі бязмен[5] солі на каравай,
Шчоб наш каравай ясен буў,
Шчоб наш Іванка красен буў!

Да да бору, маладцы, да бору,
Да бярыце тапары з сабою,
Да рубайце сосанку да долу.
Да стаяла сосна сколькі лет,
Зрубалі сосну на загнет.

Не віся, хмелю, па ляску,
Радзі, божа, жыта на пяску!
Густа пшаніца на навіне,
Да вышай каравай на стале!

Калі каравай гатовы, тады дружок бярэ ў рукі лапату, адна маладзіца становіцца супраць яго, і абедзве трымаюць у руках лапату, на якую астатнія маладзіцы накладваюць цеста. Пры гэтым пытаюцца: *«Ці ёсць тут ацец і маці?»* — *«Маем быць!»* — *«Благаславіця каравай у печку ўсадзіць!»* — *«Божа благаславі!»*

---

[5] Восем фунтаў.

Тады садзяць каравай у печ. Пры гэтым маладзіцы ставяць у дзяжу тры запаленыя свечкі, а пасярэдзіне ўтыкаюць нож і, накрыўшы векам, усе маладухі і дружок падымаюць дзяжу на руках і спяваюць наступную песню:

Дзяжу носяць на руках, на руках,
А ў той дзяжы тры нажы, тры нажы,
Чацвёртый нож на дзяжэ, на дзяжэ,
Да цалуйцеся, да мілуйцеся, маладыя!

Потым дружка з дружкаю цалуюцца для таго, каб маладыя любілі адно аднаго. Калі каравай спячэцца, вымаюць яго з печы. Затым рыхтуюцца ехаць вечарам па нявесту. Прывозяць вясковых музыкаў са скрыпкай і цымбаламі. Пад іх музыку моладзь пачынае танцаваць казачка, камарынскага, польку, мяцеліцу і інш. Гадзін у восем вечара дружок бярэ дзвюх маладзіц і аднаго хлопца і ідзе з імі клікаць так званых баяр, каб разам з імі ехаць па нявесту.

У доме нявесты родныя і знаёмыя чакаюць прыезду жаніха і таксама спяваюць некаторыя песні:

Пайду я ў сад, схаваюсь,
Хто мяне найдзе, таму я дастанусь.
Татачка пашоў — не знайшоў,
Заплакаў, з саду вон пашоў!
Мамачка пашла, не знайшла,
Заплакала, з саду вон пашла!
Бедна мая галовачка,
Не найшла мяне мая радзіначка,
Чужому дастануся!
Іванка прышоў да знайшоў,
За ручку узяў да й пашоў.
Бедна мая да галовачка,
Не знайшла мяне мая радзіначка —
Чужому дасталася.

Баяры, што сабраліся ў жаніха, садзяцца за сталы. Ім даецца гарэлка, віно і мёд, а таксама прапаноўваецца вячэра: боршч, ялавічына, кашыца і крутая каша. На вячэры маладзіцы спяваюць:

Давай, мамка, вячэрачку,
Паедам мы па дэвачку!
Давай, мамка, прасласную,
Паедам мы па красную.

Пасля вячэры жаніх кланяецца бацьку і матцы, просіць блаславіць яго на дарогу.

Дружына запрагае коней у вазы і едзе да нявесты. У двары нявесты моладзь узбройваецца палкамі і зачыняе вароты. Дружына жаніха падыходзіць да варот з музыкаю і песнямі і стукае ў вароты. *«Здарова, гаспада!» — «Здарова!» — «Пусціце, пажалуста, начаваць!» — «А хто вы такія і аткудава?» — «Мы Маскоўскага князя*[6] *Івана Тэрлецкага слугі, едзем шукаць украдзеную ў яго птіцу; дак вот коні нашы прытаміліся, то нам нужна пастаялый двор!» — «Ну, калі такія вы людзі, мы вас упусцім у двор, дадзім вашым коням сена і аўса, і ўсім вам будзе харошый пакой. Толькі нам заплоціце бочку віна і сто рублей грашамі!»* Дружына згаджаецца і дае ім бутэльку гарэлкі, пірог хлеба і грошай некалькі капеек. Увайшоўшы ў двор, дружына становіцца ў рад, а жаніх з баярынам наперадзе. Тады выходзіць цесць з бутэлькай гарэлкі, а цешча ў вывернутым футры з шапкай на галаве. У яе таксама бутэлька гарэлкі і налітая чарка, у якую насыпаны ячмень — каб быў багаты зяць. Дружына жаніха спявае:

Убралася цешча ў аўчыну,
Хацела зяця злякаці,
Не хацела дачкі аддаці.

Цешча дае напоўненую чарку зяцю. Зяць бярэ і вылівае праз галаву вон; тады цешча налівае другую і падае зяцю; зяць гэтай не бярэ і просіць цешчу, каб яна сама выпіла. Цешча выпівае гэту чарку і потым падае зяцю і ўсёй яго дружыне. Затым клічуць нявесту з дзявочай кватэры дамоў. Нявеста са сваімі дружкамі ідзе ў дом, прычытаючы:

Мая мамачка, мая галубачка!
Да куды ты мяне, мая мамачка, выганяеш?

Маладзіцы ўгаворваюць нявесту, просяць не плакаць і нічога не баяцца: *«Марына, не плач! І мы замуж ішлі і жывём! Так і ты: прывыкнеш к Івану і будзеш жыць!»* А дзяўчаты спяваюць:

Ці я ў цябе, мая мамка, не гарую,
Шчо ты мяне аддаеш маладую?

Потым брат нявесты бярэ яе за руку і гаворыць: *«Ці ёсць тут ацец і маці?» — «Маем быць!» — «Благаславіце маладую на пасад завесць!..»*

Тады нявеста садзіцца за стол і чакае жаніха. Яе дружына з палкамі ў руках становіцца на лавы і ўслоны і не дапускае дру-

---

[6] Не трэба забывацца, што да 1772 года тут праходзіла граніца паміж Літвою і Масквою.

жыну жаніха ў дом. Сваты з дружыны жаніха просяць прапусціць іх, даюць сватам нявесты па чарцы гарэлкі. Тыя згаджаюцца. Жаніх ідзе сам на пасад. Убачыўшы маладога, дзяўчаты спяваюць песню:

Прыляж, Марынка, і ■ столцу,
Пусці галасок па дворцу!

Нявеста нагінаецца да стала і бярэцца за яго ножку, моцна трымаючы. Баярын пералазіць праз нявесту і садзіцца за стол, а жаніх становіцца на ўслон, бярэ нявесту за галаву абедзвюма рукамі і садзіць яе прама. А ўсе выкрыкваюць: *«Маладзец, падоляў нявесту!»* Тады дружок бярэ бутэльку гарэлкі і частуе свата, сваццю і яго родных, а дзяўчаты спяваюць:

Непраўдзівая каліна:
Казала, зроду цвісці не буду.
А як прышла пара — зацвіла,
Красныя цвяты пусціла.
Непраўдзівая Марынка:
Казала, зроду замуж не пайду.
А як прышла пара, дак пашла,
Маладога Іванку палюбіла.

Каціласе да зорачка із загор'я,
Прасілася да Марынка із застолля.
Папрасіся ты, Марынка, у Іванка:
Кала цябе да Іванка блізенька сядзіць,
Ён на тваю русу касу пільненька глядзіць.

Потым дзве маладзіцы становяцца на ўслон: адна трымае ў руцэ грабянец, другая — чапец, намітку і вялікі кавалак белага палатна. Каля іх ставяць хлопчыка — брата нявесты, які гаворыць: *«Ці ёсць тут аzец і маці? Благаславіце маладой касу расплесці!»* Хлопчык расплятае касу, бярэ сабе шнурок у паўтара аршына, а дружок дае яму некалькі капеек. Потым маладыя жанчыны пачынаюць завіваць маладой валасы па-жаночаму: надзяваюць на галаву чапец і накрываюць наміткай. Маладая ўсё гэта скідвае з галавы некалькі разоў, пакуль ёй не прыгрозіць бацька. Завіўшы маладую, маладзіцы спяваюць:

Шчо мы і схацелі,
Тое і зрабілі:
З цеста паляніцу,
З дзеўкі маладзіцу.

А дружкі співаюць сваю песню:

Сцерва, сястра, сцерва,
Нашчо касу сцерла;
І сцерла, і змяла,
Пад чапец схавала.

Завівала мяне дзядзінка,
Да не міласлівая,
Касіцу зламіла,
Слёзкі не ўраніла,
Сястрыца прынялася —
Слёзкамі аблілася.

Калі заўюць маладую, дружок ідзе з таварышам у клець нявесты і сам бярэ елку, а таварыш каравай. Стоячы каля парога, яны пытаюцца: «*Ці ёсць тут ацец і маці?*» Ім адказваюць: «*Маем быць!*» — «*Благаславіця чэсный важный каравай у хату ўнесці?*»[...]

А дружкі спяваюць:

Дружкó каравай нясе
І елачкам трасе.
Хоць трасі не трасі,
І нам каравая дасі.

Тады дружок рэжа каравай на малыя кавалкі і, заслаўшы талерку палатном, налівае чарку гарэлкі, ставіць на талерку і кладзе побач кавалак каравая. Спачатку ён кліча бацьку нявесты: «*Эй, сват, нявесцін бацька родный! Шчоб ты ласкаў буў, да сюды прыбуў, да нашым маладым што-нібудзь падараваў!*» Сват падыходзіць з хусткаю ў руках і гаворыць: «*Дарую я сваім маладым, не сваім, да божым, чарвонага залатога, цёлку, аўцу і свінню. Да на ета пушч не спагадаюць, а рана ўставаюць, атца і мацъ паважаюць, то і бог паможа!*» Дружок дзякуе і падае нявесце грошы, падараваныя бацькам. Потым дружок кліча маці, братоў, сясцёр і іншых родных, па старшынству. Усе яны даюць падарункі. Маці нявесты кладзе палатно і гаворыць: «*Вот ета рукавы свекру!*» Потым дае намітку: «*А ета свякрусе!*» Потым па аршыну ператканых зáпалаччу канцоў ручнікоў — братам і сёстрам жаніха, хроснаму бацьку — рукавы, хроснай матцы — намітку і г. д. Дружок за кожны падарунак дае чарку гарэлкі. Дружкі спяваюць на ад'езд маладой песню:

Пайду я ў сад зеляненькій,[7]
Да выламлю калінаву ветку,

---

[7] Кожны радок паўтараецца.

Пушчу я на быстраю рэчку:
Ці патане калінава ветка,
Ці жалее мяне мой татка?
Не патала калінава ветка,
Не жалее мяне мой татка!

Потым дружок адпраўляе дзяўчат дадому і дае ім на развітанне па чарцы гарэлкі. Развітаўшыся з нявестаю, яны адыходзяць. Бацька нявесты запрашае баяр і дружыну на вячэру, усіх садзяць за стол, даюць кожнаму гарэлку і віно, боршч, ялавічыну і кашу, а жаніха і нявесту вядуць у гумно і там частуюць асобна. Пасля вячэры баяры збіраюцца ехаць дадому. Дружкі вядуць маладых у хату і садзяць за стол, а самі запрагаюць каня, кладуць на воз маёмасць нявесты, падушкі, радно, пярыну; потым уваходзяць у хату, запальваюць свечку перад абразамі і чытаюць малітву[...] Тады дружок бярэ за руку жаніха, які ў сваю чаргу бярэ за руку нявесту. Дружок пытае: *«Ці ёсць тут ацец і маці?»—Маем быць!»—«Благаславіце маладому князю ў пуцьдарогу паехаць!»*[...]

Тады жаніх з нявестаю кланяюцца цесцю з цешчаю і просяць блаславення. Потым маладыя садзяцца на воз. Ім даюць абраз і хлеб-соль на талерцы і садзяць з імі дзвюх маладых жанчын, сваячак нявесты для суправаджэння. Дружкі ж варочаюцца ў хату, там іх «арэштуюць» і перавязваюць праз плячо ручнікамі— быццам бы злодзеяў. Яны адкупліваюцца гарэлкаю, наліваючы яе ў міску, што стаіць на стале і называецца *ступа*. Напоўніўшы ступу, дружкі з маладым едуць у яго дом.

Двор жаніха вясельнікі мінаюць. Тады сваякі жаніха выбягаюць з хаты, расчыняюць вароты і запальваюць куль саломы. Дружок гоніць каня праз агонь, гаворачы: *«Няхай усё злое і ліхое згарыць!»*

Бацька і маці жаніха выходзяць з абразом і хлебам-соллю і просяць маладых у дом. Маладыя, пакланіўшыся бацькам, уваходзяць у дом і садзяцца за стол. На стол ставяць закуску, гарэлку і віно. Дружок у гэты час бярэ маладых жанчын і ідзе з імі ў клець слаць маладым пасцель. У пасцель кладуць ніты з кроснаў, часта — таўкач, каб маладым не шкодзілі чараўнікі. Калі на вяселлі акажацца чараўнік, яго пояць гарэлкаю, каб ён не рабіў шкоды. Бываюць выпадкі, калі таго, каго прымуць за чараўніка, б'юць і выганяюць за дзверы. Паслаўшы пасцель, дружок уваходзіць у дом і бярэ жаніха за руку, а жаніх бярэ нявесту. Звычайнай формулай дружок просіць бацьку і маці блаславіць *маладога князя на спакой адвесць*, пасля чаго разам з маладзіцамі вядзе абоіх у клець. У клеці нявесту прымушаюць разуваць жа-

ніха. Яна здымае з яго правай нагі бот, у які жаніх кладзе грошы — нявеста забірае грошы сабе. Жаніха распранаюць і кладуць у пасцель. Потым распранаюць дагала маладую — *каб у жаніха разгаралася любоў к сваёй нявесце*, і, надзеўшы на яе чыстую белую сарочку, кладуць побач з жаніхом. Накрываюць маладых радном, а зімою — пярынай. Тады маладзіцы ідуць у хату. Дружок з пугаю ў руцэ пагражае маладым на адыходзе: *«Глядзіце, каб у вас сёння было дзела, каб вы абое паказалі ўсім родзічам сваё вяселле!»* Калі нявеста адмовіцца спаць з жаніхом, ён змушае яе да гэтага сілай або пагрозамі, часам нават б'е нявесту. Бывае, што нявеста знойдзе сілы і ўсё роўна не дапусціць да сябе жаніха. Калі дружок, прыйшоўшы праведаць маладых, даведаецца, што яны ўсё яшчэ не паразумеліся і цнатлівасць нявесты не выяўлена, ён пытае, хто вінаваты. Калі жаніх паскардзіцца, што нявеста яго не слухае, тады дружок б'е яе пугаю і зноў выходзіць з клеці, а маладыя спяць да раніцы пад замком.

У панядзелак раніцаю бацькі нявесты склікаюць радню, маладых хлопцаў і жанчын, якіх называюць *прыданямі*, і старых, якіх называюць *чэснымі*, бяруць у рукі пірагі, па бутэльцы гарэлкі і едуць да маладой. Дарогаю спяваюцца песні:

Ой, добры дзень, добрыя людзі, і мы к вам, (2)
Ці не заляцела наша чырачка ўчора к вам:
Ляцела, ляцела — тут села? (2)

Пад'язджаючы к дому жаніха, спяваюць:

Ехалі мы да дарогамі,
Ехалі мы да шырокімі,
Да заехалі к свату,
У багатую хату!

Бацька жаніха выходзіць на двор і запрашае ўсіх гасцей у дом: *«Людзі добрыя, міласці просім у хату!»* Тады прыдані садзяцца за стол. Дружок дае ім па чарцы гарэлкі і віно, сваха ставіць на стол боршч, ялавічыну і кашу. Потым дружок бярэ трох ці больш маладзіц і ідзе падымаць маладых. Адамкнуўшы клець, яны падыходзяць да пасцелі, адкідаюць радно і аглядаюць пасцель. Калі выявіцца, што нявеста цнатлівая, тады прыносяць маладым ваду і ручнікі. Маладыя мыюцца, нявеста часам плача аб страце свайго дзявоцтва, а маладзіцы ўгаворваюць: *«Не плач, Марынка: мы ўсе ў етых грахах! Не хацела, дак было замуж не йці!»* Калі нявеста аказалася цнатлівая, усе радуюцца. Маладзіцы б'юць посуд, і гаспадар за гэта не гневаецца. На двары вывешваюць чырвоны сцяг, каб усе ведалі, што нявеста аказалася

добрай—тады ўсяму яе роду гонар. Усе ідуць дарыць маладую—хто грашыма, хто палатном, хто чапцамі і г. д. Пасля гэтага пачынаюцца *пярэзвы*, якія працягваюцца цэлы дзень, да вечара. Калі ж выявіцца, што нявеста не цнатлівая, тады яе родным надзяваюць хамут, а на двары выстаўляецца пудзіла і *пасмешка*. Потым спяваюць нецэнзурную песню:

Возле рэчкі, возле мосту
Рыбаловы ходзяць.
Захацелась рыбалову
З дзеўкі насмяяцца і г. д.

На другі дзень, у аўторак, бацькі жаніха разам з маладымі едуць да бацькоў нявесты. Гэта называецца — ехаць у *адводзіны*. Прыехаўшы, маладыя кланяюцца бацьку і маці нявесты, і іх частуюць каўбасамі, смажанінай і яечняй. Крыху пабыўшы ў цесця, зяць са сваёй маладой ад'язджаюць дадому, прычым дзяўчаты на ад'езд спяваюць:

Тарарай, калёсы, тарарай,
Да вязіце дзевачку з пекла ў рай!
А яна таго раю не хацела б,
Да назад і к мамкі паляцела б.

Астатнія ж госці садзяцца за стол, і сват іх частуе. Потым ідуць з пярэзвамі на бяседы да родных свата.

Маладзіцы спяваюць на пярэзвах:

Галовачка мая бедна —
У мяне мамачка народна.
Пасылала мяне маці
Яравога жыта жаці,
А ячменю павязаці.
А я жыцечка не жала
І ячменю не вязала —
Чараз свайго міленькага,
Чараз яго белыя рукі
Нездаровая ляжала.
А мой мілый чарнабрывый,
На славечка справядлівый,
Убівае рукою, адлівае вадою:
— Гавары, сэрца, са мною!
— І рада б я з табой гаварыці,
Дак баюся — будзеш біці!
Аблілося маё сэрца
Да гаручаю кроўю —
Я славечка не прамоўлю!
Каб я знала, маладая,
Не йшла б замуж, да гуляла,
Здароўейка сабірала

Дзяўчынаю маладою.
Не аддаў мяне бацька,
Не аддала мяне матка —
Сама дружка палюбіла,
Галовачку ўтапіла
Дзяўчынаю маладою!
Як у полі азерушка,
Там плавала вядзерушка —
Да сасновая клёпка,
Да дубовая дзенца,
Разойдземся, маё сэрца!

Перахадзіўшы ўсе пярэзвы, родныя жаніха зноў збіраюцца на сватоў двор на *папялішча*. Тут п'юць гарэлку, колькі хто хоча, і сваволяць: разрываюць жывую куру і, злёгку асмаліўшы яе на агні, ядуць ці кідаюць у кіпень жывога пеўня або парася і таксама ядуць і г. д. Гэтым і канчаецца вяселле.

Вяселлі большай часткай «гуляюцца» ў калядны мясаед.

Вяселле ўдаўцоў вельмі скарочанае: павянчаўшыся, едуць адразу да жаніха. Выдаткі на такое вяселле не больш пяці рублёў.

Вяселле сірот гуляецца, як і звычайнае. Выдаткі на сіроцкае вяселле — 40—50 рублёў.

## ВЯСЕЛЬНЫ АБРАД У В. ДАРАШЭВІЧЫ [МАЗЫРСКАГА ПАВЕТА]

**Запісаў К. Машынскі**

### СВАТЫ І ЗАРУЧЫНЫ

У с в а т ы ідуць трое мужчын: хросны бацька, бацька і дзядзька жаніха. Часам і самога жаніха бяруць з сабой, але прыходзіць ён звычайна пазней — калі яго паклічуць. Калі бацькі дзяўчыны нічога не маюць супраць сватання, клічуць дачку, а калі і той падабаецца залётнік, тады бацькі згаджаюцца канчаткова і прыступаюць да *запоін*.

Хлопец кідае ў чарку з гарэлкай ад двух злотых да «траячкі» (траячка — тры рублі) і п'е да дзяўчыны. Яна забірае грошы, выпівае гарэлку і перадае чарку далей, а сама ідзе на вёску па дружак. Збіраюцца адусюль госці на запоіны. Хутка вяртаецца маладая з васьмю-дзесяццю дружкамі, якія садзяць маладых на куце побач са сватамі, спяваюць адпаведныя песні і гуляюць да вечара.

З а р у ч ы н ы. За тыдзень або за два перад вяселлем спраўляюць заручыны [1]. Выбіраюць для гэтага пасляабедзенны час якога-небудзь свята або суботы ці нядзелі, таму што ў буднія дні *шкода часу*. На заручынах нарачоны *перапівае* сваёй дзяўчыне пярсцёнак і грошы; яна ж яму пярсцёнак і хустку. (Цяпер абмен пярсцёнкамі на заручынах выйшаў з моды.) Пасля ад імя маладой яе матка раздае падарункі сям'і маладога, а сват гэтага апошняга перапівае сям'і нарачонай грошы. Называецца гэта *перапой*. У Дарашэвічах раздаюць на заручынах наміткі і адрэзы палатна на рукавы — па два аршыны даўжынёй. Наміткі дораць толькі бацьку і матцы і часам таксама хросным бацькам маладога, усім жа астатнім—«хоць бы да дваццаці»— даюць на рукавы. (Апрача таго, маладая павінна мець у запасе ручнікі для дружкоў, якіх звычайна бывае не больш дванаццаці, і даюць іх пазней, ужо ў час вяселля.) Заручыны канчаюцца танцамі, якія працягваюцца да вечара.

## ВЯНЕЦ, АБО ШЛЮБ

Замаўляць шлюб, ці, як тут гавораць, *ладзіць вянца*, ідзе бацька маладога. Ён дае ксяндзу намітку і ад 3 да 10 рублёў серабром у залежнасці ад умовы.

Перад выездам да шлюбу старшая дружка прышывае да вупражы каня маладога рознакаляровыя папяровыя стужкі (*каснікі*), за што ёй малады плаціць. Другая дружка, таксама за ўзнагароду, аздабляе гэтым самым спосабам каня *князька*. (*Князёк* — гэта малады хлопец, які трымае над маладым вянок у час шлюбу.)

Князгіня, едучы да шлюбу, бярэ з сабою *сушаныя грушы* (дзічкі) і кідае іх на кожную стрэчную дарогу або сцежку. Робіць гэта, *штобы не було на яе ўразак ніякіх, штоб нарыву ніякага не було, штоб булі чыстыя маладыя. (Бо іншая, як таго не знае, то багата балее ў першым году: то пальца абарве альбо ногу.)* Перад шлюбам маладыя, хоць бы да вечара, нічога не ядуць.

Абое маладыя перад выездам атрымліваюць блаславенне сваіх бацькоў; калі ж маладая — сірата, то, едучы да шлюбу, заходзіць на могілкі і просіць у памёрлых бацькоў блаславення словамі: *«Прашу я вашага благаславення, пабагаславіце мне з таго свету»*.

[1] Урачыстыя заручыны праз некалькі дзён пасля сватання праводзяць таксама на валынскім Палессі («Zbiór wiadomości do antropologii krajowej, wydawany staraniem Komisyi antropologicznej Akademii Umiejętności w Krakowie», XII, 82).

Разам з князем едзе да шлюбу яго бацька, а матка маладога, як і бацькі маладой, застаецца дома. Пасля шлюбу князь і княгіня едуць разам са сваімі таварышамі да бацькоў гэтай апошняй на абед, пасля якога маладыя вяртаецца дадому. Даўней вяселле звычайна адкладвалася на тыдзень; апошнімі часамі ў той самы дзень, у які адбыўся шлюб, пякуць каравай і маладыя едзе па жонку.

## ПАДРЫХТОЎКА ДА ВЯСЕЛЛЯ

Праз тыдзень або два пасля заручын (а даўней праз тыдзень пасля касцельнага шлюбу) пачынаецца вяселле. Адбываецца гэта звычайна ў суботу або ў нядзелю вечарам ці адразу пасля набажэнства. У хаце маладога і маладой пачынаюць пячы каравай. Адначасова рыхтуюцца да ўрачыстасці дружыны абоіх маладых.

В я с е л ь н ы   к а р т э ж. Картэж маладога называецца *бяседа*, радзей, пераважна ў песнях,— *баяры*. Колькасць асоб яго павінна быць не парнай (бывае іх звычайна ад 17 да 29), каб разам з князем было да пары. Сюды адносяцца:

*сваты*, у колькасці двух. З іх старшым (*старшы сват*) з'яўляецца звычайна хросны бацька маладога, завуць яго таксама, асабліва ў песнях, *старастам*, а другога — падстарастам (*падстарашчы*);

*свахі*, у колькасці 9 альбо 13 (у час прыгатавання каравая завуцца *каравайніцамі*). Гэта *цёткі*, *сёстры*, а калі такіх няма, іншыя сваячкі або знаёмыя. Старшаю з іх з'яўляецца хросная матка маладога (*старша сваха*, яна ж *старша каравайніца*). Сястра князя, якая трымала свечкі ў час шлюбу і якая таксама распараджаецца свечкамі ў час вяселля, завецца *свяцельніца* [2];

*дружкі* (першы дружко), інакш *маршаўкі*, у колькасці ад 6 да 12. Сярод іх могуць быць і бываюць жанатыя [3]. Адзін з іх завецца старшым (*старшы маршалак*). Малы хлопец, які трымаў вянок над князем у час шлюбу, або так званы *княвёк*, прымае ўдзел у вяселлі як *меншый маршалак;*

---

[2] На валынскім Палессі *світылка* — гэта старшая сваццproperя, якая *«влучас свечку маладога са свечкай маладой»*, а таксама ўвогуле бярэ апеку над свечкамі ў час абрадаў («Zbiór wiadomości...», XII, 88 і далей). На Валыні ў Звягельскім павеце світылка — гэта сястра маладога, дзяўчына, якая трымае запаленыя свечкі ў час вячэры (там жа, VII, 157, 162).

[3] На валынскім Палессі дружкі (у колькасці 3) — людзі жанатыя. Той жа, што маладога праводзіць да алтара, называецца маршалкам і павінен быць халастым («Zbiór wiadomości...», XII, 82).

*музыканты*, у колькасці двух: *на скрыпцы і на бубне* (цяпер найчасцей карыстаюцца гармонікамі).

Картэж маладой за межамі сваёй вёскі называецца *прыданне*. Складаюць яго *свахі* ў колькасці 9 або 13 (у час прыгатавання каравая іх называюць, як і папярэдніх, *каравайніцамі*). Старшаю (*старша сваха*) бывае хросная матка дзяўчыны. Акрамя свах да картэжу маладой належаць яшчэ дружкі ў колькасці ад 9 да 12 (у залежнасці ад колькасці радні) на чале са старшаю дружкаю (*старша дружка*). (Гэта апошняя трымала вянец над княгіняю ў час шлюбу.) Часам едуць з картэжам маладой або, як тут гавораць, *едуць у прыданне* таксама яе *браты* і *дзядзькі*. (Трэба заўважыць, што прыданне едзе не з маладою, а да маладой, якая ў гэты час знаходзіцца ўжо ў вёсцы мужа.)

Маладыя завуцца перад шлюбам *князь* і *княгіня* [4]. Аднак гэта не стасуецца з песнямі, якія называюць іх так на працягу ўсяго вяселля; у час вяселля яны — *маладый* і *маладая*; пасля вяселля — *чалавек* і *маладзіца*, або *жонка*.

Прыгатаванне каравая. У бедных каравай пякуць з жытняй мукі, а ў багатых з пшанічнай, т. зв. *марымонцкай* мукі. Ён надзвычай вялікі і прыгожа аздоблены. (У Сямігошчычах да яго прылепліваюць, між іншым, выраблёныя з цеста *птушкі*, а таксама кружкі ў выглядзе абаранкаў, так званыя *баранкі*, або *калачы*, або *драмушкі* [5], прычым іх упрыгожваюць кветкамі, а зімою пафарбаванымі ў зялёнае, чырвонае і блакітнае мяцёлкамі аўса і трыснягу; у сярэдзіне ўмацоўваюць зялёную амялу з белымі ягадамі; даўней упрыгожвалі таксама чырвонымі ягадамі рабіны [6]. Усё гэта абвязваюць вакол стужкаю з нанізанымі на яе абаранкамі. Абаранкі гэтыя прызначаны для дзяцей, «каб добра спалі, маладая ж каб не была соннаю ў час вяселля». Дзеці і самі крадуць гэта печыва, дзе ўдасца. Да амялы або кветак прывязваюць адну ці тры свечкі, каб здалёку было відаць каравай. У Дарашэвічах абрадавы хлеб упрыгожваюць рознымі аздобамі з цеста, якія тут называюцца *шышкі*, а ў сярэдзіну ўтыкаюць елачку (*іўка*) або амялу (*веха*). У абедзвюх вёсках (як у Сямігошчычах, так і ў Дарашэвічах) пасярэдзіне каравая кладуць капейку, якую забірае дружка, што дзеліць каравай. У абедзвюх

---

[4] Гэтак жа сама *бабу*, якая прымала новanароджанага, называюць на хрэсьбінах *княгіняй* (Шейн П. В. Материалы..., III, 389).

[5] *Драмушкі* — гэта спецыяльная назва дробнага печыва, якое рыхтуецца на вяселле. У Дарашэвічах драмушкі прадаўгаватыя, велічынёй з палец. Акруглых, або так званых калачоў, у гэтай вёсцы не пякуць.

[6] Апісанне каравая з пінскага Палесся падае Крашэўскі (J. I. Kraszewski. Wspomnienia Polesia, Wołynia i Litwy. Wilno, 1840, 109), з валынскага Палесся — «Zbiór wiadomości...», XII, 85 і далей.

таксама, апрача каравая, пякуць — у князя так званы *месяц* у форме сярпа, велічынёй на дзве далоні, а ў княгіні замест гэтага рагаля — так званую шышку. Гэту шышку маладая трымае за пазухай, едучы да свёкра і абходзячы ў яго гаспадарчыя будынкі.

Калі пякуць каравай, спяваюць шмат абрадавых песень, якія звычайна і суправаджаюць гэты рытуал. Так, напрыклад, саджаючы каравай у печ, спяваюць, каб ён як найвышэй рос, пры гэтым б'юць у далоні і падскокваюць; спяваючы песню пра сцежку да клеці, вымаюць каравай з печы, кладуць на прыкрытае *настольніцай* века ад дзяжы, пасля чаго старшая сваха нясе ўсё гэта на галаве ў клець, а астатнія свахі трымаюць рукамі за века, ідуць разам з ёй, скачуць і спяваюць. У клеці каравай пакідаюць на стале або на *паліцы*, а самі выходзяць, п'юць, разбіраюцца па парах і танцуюць. У маладой пякуць каравай часта дапазна, так што, калі князь уедзе са сваёй дружынай у вёску, вясельны хлеб бывае яшчэ ў печы, а датуль, пакуль яго не вынесуць у клець, не можа быць і гаворкі, каб пускаць князеву світу да загароды, хоць бы трэба было чакаць усю ноч.

## ВЫЕЗД ПА МАЛАДУЮ І ПЕРШАЯ ЧАСТКА ВЯСЕЛЛЯ

У той час, калі ў хаце князя скончаць пячы каравай, гаспадар дома выходзіць на вёску і склікае бяседу: *«Прашу бога і вас на каравай!»* Альбо: *«Прашу бога і вас на вяселле!»*

Просяць жа ўсю радню, а калі род невялікі — таксама суседзяў і знаёмых. Запрошаныя госці збіраюцца ў хаце князя. Калі каравай спечаны, старшы дружка звяртаецца да бацькоў маладога са словамі: *«Благаславіце, ацец, маці, маршаўкам перавязацца»*.

Бацькі адказваюць: *«Няхай бог благаславіць!»* Дружкі бяруць у гэты час свае плецёныя *чэрвяцовыя паясы*, г. зн. пафарбаваныя кашанілевай чырванню, перавязваюцца імі і тройчы абягаюць вакол стала. Потым зноў звяртаюцца да бацькоў: *«Благаславіце, ацец, маці, маршаўкам гукаці!»* І атрымаўшы патрэбны адказ, далей працягваюць *гукаць*, а свахі ў гэты час пачынаюць спяваць:

Зыграўся рой па шчырому бору;
Хоча он паляцеці ў шчырыя бары,
На жоўтыя цвяты да на салодкія мяды і г. д.

Князь атрымлівае блаславенне ад бацькі і маткі, якія застаюцца ў вёсцы. Усе выходзяць з хаты, спяваюць:

Ой, варогі, варогі!
Не перахадзіце ж дарогі.

Бацька маладога хрысціць дарогу перад канём сына, пасля чаго бяседа садзіцца на вазы. (Верхам на конях нідзе на вяселлях не ездзяць, затое даўней ездзілі на валах, след ад чаго застаўся яшчэ ў песні — гл. ніжэй.) Ад'язджаючы, дружына забірае з сабою князеў каравай і хлеб.

Прыбыццё дружыны ў вёску маладой. Позні́м вечарам бяседа прыбывае ў вёску княгіні. Не заязджаюць, аднак, прама да яе, а разыходзяцца па вёсцы да знаёмых, у каго пакідаюць вупраж. Князь у гэты час спяшаецца да дзяўчыны з гасцінцамі: дае ёй грошы, булкі, абаранкі, ласункі, а яна яму — арэхі і *гарбузікі* разам з хусткаю, у якую іх насыпала. Адначасова маці дзяўчыны князь дае *чобаты* або *чаравікі*[7], таксама крыху віна або гарэлкі і бярэ ад яе ўзамен крыху жыта ў той самай бутэльцы, у якой прывозіў віно. Акрамя жыта, ён таксама атрымлівае ад яе для сваёй маткі намітку. Пасля гэтага абмену падарункамі князь як мага хутчэй вяртаецца да бяседы, якая чакае яго ў якой-небудзь хаце або на двары.

Абарона варот. Як толькі малады вернецца, усе ідуць да вясельнай хаты. Тут застаюць вароты замкнёнымі і доўга вымушаны прасіць, пакуль іх адчыняць. Нарэшце, калі каравай вынесуць у клець, адчыняюцца вароты і бяседа з песнямі ўваходзіць на падворак, для таго толькі, каб перад хатаю затрымацца зноў, таму што дзверы ў хату зачынены наглуха. Родныя маладой у парозе моцна б'юць сякераю аб сякеру, у ступе ваду таўкуць, а з хаты чуцен спеў дружак:

Не наступай, Літва!
Бо будзе з намі бітва.
Сікцьмо! да рубацемо!
Да Манечкі не давацемо![8]

Нягледзячы на гэта, дружкі ідуць да дзвярэй, але адапхнутыя раднёй дзяўчыны, вяртаюцца. Ідуць зноў. Хочуць узяць дзверы сілаю: *ломяцца ў пралом! Тагды ўжо такая завіруха, як маршаўкі ідуць, божа муй!* Але і на гэты раз дзверы застаюцца не ўзятымі; толькі калі прыходзяць трэці раз і пакажуць *пісьмо* і *праш-*

---

[7] На валынскім Палессі малады дорыць боты сваёй нарочанай за 2—3 дні перад шлюбам («Zbiór wiadomości...», XII, 85), на Валыні ў дзень шлюбу такі самы падарунак малады дае мацеры сваёй жонкі, калі прыязджае па гэту апошнюю да яе хаты (Там жа, VII, 153 і 159).

[8] На пінскім Палессі каравайніцы, робячы выгляд, што хочуць стрымаць падыходзячых, крычаць: «Не нападай, Літво!» (J. I. Kraszewski, III).

*порты*, тады дазваляюць прайсці, але толькі дружкам; астатняя світа разам з князем застаецца яшчэ каля дому.

Скуплянне дружак. Дружкі, увайшоўшы ў хату, садзяцца за стол, кожны насупраць сваёй дружкі. Тут яны ядуць яечню, прымаюць ад дружак ручнікі (якія гэтым апошнім уручыла маладая) і перапіваюць да іх грошы. Называецца гэта *скуплянием дружак* (*маршаўкі скупляюць дружак*). Цяпер дружкі здымаюць свае чырвоныя паясы і падпяразваюцца атрыманымі ручнікамі, старшы дружка для адзнакі — цераз плячо.

Прыняцце маладога. У гэты час выносяць і ставяць перад хатай стол, кладуць хлеб, соль, ставяць гарэлку і чарку. Матка маладой апранае вывернуты воўнай наверх кажух, надзяе шапку і выходзіць сустракаць зяця. Дае яму чарку гарэлкі, але малады вылівае першую чарку за сябе, тое самае робіць з другою, толькі трэцюю выпівае. Потым усе ўваходзяць у хату і займаюць месцы за сталом. Сваты садзяцца на покуці, князь — на лаве, якая цягнецца ад покуці да полу, побач з дзяўчынаю, што сядзіць у гэты час бліжэй да *полу* на падушцы або кажуху, вывернутым воўнаю наверх[9]. Уваходзяць у хату, адзін князь застаецца ў шапцы і так сядзіць за сталом. У гэты самы момант яго каравай і торбу з хлебам нясуць у клець і кладуць там побач з караваем маладой; у вясельнай жа хаце перад дружкамі ляжыць толькі іх невялікі каравай, які яны самі для сябе спяклі і самі між сабой дзеляць.

Разгон дружак. Калі свахі ўваходзяць у хату, яны перш за ўсё стараюцца выгнаць дружак і заняць іх месца. Праз некаторы час пасля абмену «калючымі» песнямі дружкі прымаюць ад іх у якасці падарунка пірог і выходзяць.

Перазоў, або пяразуў, I (*сваскій перазоў*[10]). Хутка свахі пачынаюць запрашаць на *пярэзвы*. Дружкі забіраюць у гэты час свой каравай і ўсе з князем, княгіняю, князьком і музыкам ідуць на вёску да сваіх бацькоў, дзе збіраецца яшчэ пабочная

---

[9] Саджанне маладой на вывернуты кажух, як вядома, шырока распаўсюджана сярод славян. У вёсцы Камаровічы (мазырскае Палессе) маці, кормячы апошні раз грудзямі дзіця, садзіць яго на вывернутым кажуху — каб было багатае (Jeleńska Emma. Wieś Komarowicze w powiecie Mozyrskim... Odb. z tomu V «Wisły». Warszawa, 1892). Магчыма, гэты звычай мае нешта агульнае з павер'ем, паводле якога чалавек з густа зарослым валасамі целам павінен быць багатым ці шчаслівым (Е. Романов. Белорусский сборник, вып. VIII, стар. 312), або са звычаем вітання маладых праз што-небудзь калматае («Wisła», XX, 13), каб былі багатыя. Параўн. ніжэй — у «Прыбыцції сваякоў маладой».

[10] Вымаўленне гэтага выразу, як і многіх іншых, бывае рознае, гавораць таксама — *пэрэзоў*.

моладзь і наладжваюцца танцы. Разам з маладымі выходзяць з вясельнай хаты сваты, свахі і князевы дружкі. Яны, аднак, ідуць не да дружак, а да княгініных свах, дзе таксама п'юць, ядуць і танцуюць. (Свахам каштуе *перазоў* каля 2 р. с.) Пасля нядоўгага гуляння маладыя з дружкамі вяртаюцца ў хату маладой. За імі падыходзяць з вёскі астатнія бяседніцы.

## ПАСАД

Позняй ноччу маладая садзіцца *на пасад*, на тое самае месца каля стала, на якім сядзела перад пярэзвамі [11], а брат яе (або, калі няма брата, сваяк) бярэ востры нож і пад спеў свах: *«Не брат! Не брат! — Татарын!»* — хапае леваю рукою за яе валасы, а другою хоча іх адрэзаць. Дружкі адразу пачынаюць з ім торг і перапіваюць да яго грошы (каля 30 кап.), тады брат уступае, пакідаючы валасы цэлымі.

Уносіны каравая. Пасля гэтакіх «пастрыжын» некалькі вясельнікаў са старшым дружком ідуць у клець, дзе на веку з дзяжы знаходзяць дзявочы каравай, а побач намітку і пояс і некалькі далей каравай князя. Старшы дружка забірае века з караваем, поясам і наміткай; астатнія — каравай князя. Унёсшы ў хату, ставяць усё гэта перад маладымі на стол. (У Глупіне, суседняй вёсцы за ракою, паднімаюць пры гэтым каравай або, як гавораць, *велічаюць*, а свахі выкрыкваюць: *«Наш, наш каравай вушай! Наш маладзы крашай!»* Робяць гэта для таго, каб потым у сумесным жыцці *яго верх буў, штоб не малада старша була, да штоб маладзы*.)

Ачэпіны, пакрыцце і звязіны. Калі дзяўчыну пасадзяць побач з князем на пасадзе, гэты апошні закладае сваю нагу за яе нагу і такім чынам моцна трымае яе, пакуль абое сядзяць на пасадзе. У гэты час запальваюць дзве свечкі (князя і княгіні), а *пасцельніца*, якою звычайна бывае хросная матка, а часам сястра або братавая маладой, прыступае да ачэпін. Адзетая ў мужчынскую шапку і кажух воўнай наверх, яна падыходзіць да дзяўчыны, намазвае ёй валасы маслам і сыпле на іх так званы *вядун* (самасейны мак), робіць гэта, *штоб ніхто не прыстаў, ніхто нічога не зрабіў*. (Косы перад завіццём расплятаць не трэба, бо ад моманту шлюбу, калі дружка распусціла валасы маладой, гэта апошняя ні разу іх ужо не заплятае, толькі носіць згорнутымі.) Намазаўшы, пасцельніца тройчы абводзіць галовы маладых запаленымі свечкамі, тры разы прыпальвае іх разам узятыя валасы,

---

[11] У вёсцы Камаровічы садзяць на дзяжу (Jeleńska E., 39).

аддае патушаныя свечкі *свяцельніцы*, а валасы дзяўчыны збірае, звязвае і накрывае *чапцом*. Пасля *завіцця* (гавораць: *завівальніца* альбо *пасцельніца завівае*) звязвае маладых поясам, які ляжаў каля каравая, і накрывае іх наміткай. Даўней перад пакрыццём здымала шапку з галавы князя і надзявала яе на дзяўчыну, валасы ж маладога накрывала шапкаю, знятаю са сваёй галавы, і абое маладыя ў шапках ехалі да хаты маладога.

Д з я л ь б а  к а р а в а я. Пасля завіцця старшы дружок разразае каравай на часткі, якія раздае ўсім вясельнікам. Першым атрымлівае пачастунак бацька маладой, за ім — матка, далей браты, дзядзькі, хросныя бацькі і г. д., нарэшце, уся бяседа *па старшынству*. Тыя, што атрымалі каравай, надзяляюць маладых па меры магчымасці і ступені сваяцтва жывёлай, грашыма, наміткамі, палатном *на рукавы* і да т. п. Кавалачак каравая разам з дададзеным да яго сырам хаваюць і ядуць потым, дома, у сваёй хаце.

## ПЕРАНОСІНЫ

Р а с с т а в а н н е  д з я ў ч ы н ы  з  д о м а м  б а ц ь к о ў. Калі ўжо ўся бяседа атрымала сваю частку каравая і надзяліла маладых, тады дружкі клічуць: *«Благаславіце, ацец, маці і ўся радзіма, маладых з-за стала ўводзіць»*. Прысутныя адказваюць: *«Бог благаславіць!»*

У гэты час дзяўчына распускае пояс, якім была прывязана да князя, здымае яго з сябе, падыходзіць да покуці і, б'ючы паклоны, цалуе святыя абразы; гэта самае робіць князь, ідучы следам за жонкаю; часам ідуць абое, звязаныя, па лаве. Урэшце, пасля развітання з абразамі, выходзяць з-за стала, і дзяўчына падае ў ногі бацьку, просячы блаславення; малады, стоячы побач з ёю, схіляе перад ім галаву. У агульнай цішыні, якая перарываецца плачам дзяўчыны, гучаць словы блаславення: *«Няхай табе бог дасць шчасце і долю і век доўгі»*. Праз хвіліну гэта самае паўтарае матка, пасля чаго маладая ўстае, кланяецца ўсім родным, урэшце, усёй бяседзе і прымае ад іх блаславенне.

Бывае, што, выходзячы з хаты, княгіня сплёўвае ў печ, у так званую *ямку*, дзе захоўваецца жар, — каб злыдні не пайшлі за ёю, а засталіся ў доме бацькі.

Пакідаючы родны дом, дзяўчына заходзіцца ад плачу (*страшэнна плача, муцно плача, ліхім голасам галосіць*). Прыводзяць яе на падворак з песняю:

Дабранач, маці, дабранач!
Да ўжо ж той дабранач — не нанач,
Да ўжо ж той дабранач — на ўвесь век.

Бацька княгіні перахрышчвае дарогу перад возам і пад гукі трохразавага стрэлу бяседа зрываецца з месца.

З а м е н а  х л я б о ў. Перад выездам вясельны картэж маладога забірае з клеці торбу, якую ён там паклаў, прыехаўшы да маладой. Хлеб, які быў у ёй, забрала сваха княгіні, а на яго месца паклала іншы, разам з наміткаю.

П а х о д  в я с е л ь н ы. Паход вясельны называецца *поезд* (гавораць: *павезлі маладых* або *поезд паехаў*). Адвозяць дзяўчыну позна ўночы, а як выпадзе, то і на світанні. На першым возе, коні ў якім упрыгожаны рознакаляровымі папяровымі стужкамі, сядзяць абое маладыя, звязаныя поясам і накрытыя адною або дзвюма наміткамі (*завівало*); коньмі кіруе старшы дружка; апроч жа маладых едзе на гэтым возе свяцельніца, якая трымае ў руках патушаныя вясельныя свечкі, загорнутыя ў *рукаў* (г. зн. у кавалак палатна) і *старша пасцельніца*, якая сядзіць на скрыні маладой. Побач са свяцельніцаю ляжыць каравай княззя. Маладая трымае за пазухаю шышку, грэбень, талерку і лыжку, а ў кішэні — авёс і жыта, якое ёй дала матка перад расставаннем. У маладога толькі хустка, заткнутая за пояс. На другім возе вязуць *кубел* (сёння звычайна скрыню) і *пасцель* маладой. На кубле або на скрыні сядзяць малодшыя пасцельніцы, а коньмі кіруе адзін з дружкоў. На далейшых вазах размяшчаецца астатняя бяседа маладога.

Выязджаючы з вёскі маладой і ўязджаючы ў вёску князя, імчацца ва ўсю моц, а свахі ў гэты час спяваюць. Усю дарогу іграе музыка, дружкі пакрыкваюць (*гукаюць*); а калі на дварэ лета і ноч цёплая, то па дарозе дружына выскоквае з вазоў і танцуе.

З а е з д  у  д о м  м у ж а. Калі ў хаце князя пачуюць сярод ночы гукі вяселля, якое хутка набліжаецца, то распальваюць ля варот агонь з саломы. Віхрам імчыць першая падвода, коні рвуцца, становяцца на дыбкі, нарэшце, скачуць праз агонь [12], за імі, падбадзёраныя трыма стрэламі, перабягаюць іншыя коні. У гэты час з вясельнай хаты выносяць дзяжу, накрытую абрусам дзяўчыны, і маладыя ступаюць на гэту дзяжу (тое ж самае робяць у вёсцы Найдзе), а матка маладога выходзіць да іх у шапцы і ў кажуху, вывернутым воўнаю наверх, несучы за пазухаю сувой палатна, хустку або падушку, і *вітае тым маладую*, якая дорыць ёй узамен таксама які-небудзь гасцінец, напрыклад хустку. Пасля гэтага матка сыпле праз галовы маладых хмель, жыта [13], авёс і

[12] У Звягельскім павеце на Валыні (вёска Юркаўшчына) толькі маладая скача праз агонь («Zbiór wiadomości...», VIII, 164). У Гродзенскім павеце пераязджаюць праз агонь, пакідаючы родны дом маладой (F e d e r o w s k i M. Lud Białoruski na Rusi litewskiej..., I, 1459).

тыя драмушкі ў выглядзе пальца (гл. вышэй) — *штоб дзеці вяліся*. Драмушкі адразу ж расхопліваюцца дзецьмі. Пасля прывітання маладыя ўваходзяць у хату, прычым маладая, пераходзячы парог, прыпадымае спадніцу і асцярожна пераступае, каб не дакрануцца да яго. Увайшоўшы, яна кладзе на паліцы шышку, талерку і лыжку. Старшы дружка праводзіць маладых на кут. Малады ўвесь час у шапцы, а маладая ў завівале (г. зн. намітцы). Твар дзяўчыны адкрыты, толькі чало крыху прыкрытае і галава схілена [14]. Матка маладога *вітае* маладых мёдам, падносячы яго на лыжачцы да вуснаў, *штоб жалаваліся* (любіліся), *штоб саладка жылі маладыя*, а пасцельніцы, якія сядзяць побач з імі, частуюць іх стравамі, пастаўленымі на стол. Але калі маладыя саромеюцца есці ў прысутнасці ўсіх, гаспадыні даюць ім асобна ў каморы або ў клеці яечню, налíснікі і *што бог даў*.

Заўвага. Калі маладая — удава і пахавала не аднаго, а двух мужоў, то да трэцяга яе ўносяць праз вакно — каб і гэты не памёр.

## УРАЧЫСТАСЦІ У ДОМЕ МАЛАДОГА — ДРУГАЯ ЧАСТКА ВЯСЕЛЛЯ

Пакладзіны. У хуткім часе пасля прыезду маладых свахі пачынаюць спяваць непрыстойныя песенькі, а старшы дружка праводзіць князя і дзяўчыну праз хустку ў клець. Там маладыя скідаюць верхняе адзенне, прычым маладая сцягвае мужу боты; потым прысутныя ўкладваюць іх на разасланую пасцель і выходзяць. У вясельнай хаце частуюць вясельнікаў гарэлкай, пасля чаго ў сенцах або на дварэ пачынаюцца танцы і спевы. Спяваюць ужо не на вясельны матыў, але пад музыку да танцаў (*пяюць не вясійным голасам, а так ужэ пад музыку*).

Прыбыццё сваякоў маладой. Пасля ад'езду *бяседы* з хаты маладой астатнія госці разыходзяцца па дамах на кароткі адпачынак, пасля чаго бацька склікае ўсіх у прыданне да вёскі князя [15]. Абое бацькі едуць таксама. Прыехаўшы да маладой, прыданне чакае на дварэ, пакуль з хаты вынесуць стол. У гэты час старшы дружка выводзіць маладых *праз хустку* з клеці. Адзеты яны, як і раней, толькі на маладым кашуля, якую ён атрымаў гэтай раніцай ад жонкі. Абое падыходзяць да прыдання і вітаюцца

[13] На валынскім Палессі маці маладой перад сваёй хатай абсыпае маладых хмелем і жытам.

[14] Агата Сугрэева, якая расказала пра гэтыя звычаі, дадала: «Толькі яўрэі закрываюць маладую».

[15] На Валыні прыданне — гэта некалькі жанчын з радні маладой і двое мужчын («Zbiór wiadomości...», XI, 139).

з ім, а *маладзіца* звычайна ў гэты час плача. Вітаюцца не голаю рукою: дзяўчына праз хустку, прыданне праз адзежу, а малады праз палу. Гэтак робяць, каб маладажоны былі багатыя.

Агледзіны. У суседніх вёсках за Прыпяццю, а менавіта ў Балажовічах, Снедзіне і Замосці, а таксама ў больш далёкай аколіцы, у вёсцы Рубель за Давыд-Гарадком, пасля пакладзін аглядаюць кашулю маладой. У вёсцы Рубель, калі выявіцца, што маладая не цнатлівая, усё канчаецца яе плачам, але ў астатніх вёсках, калі маладая не будзе чыста, яе бацькам надзяваюць на шыю хамут [16], а ўсю яе світу абліваюць вадою і выганяюць з двара. Калі ж дзяўчына перад пакладзінамі была цнатлівая, усіх ахоплівае нязмерная радасць; кашулю яе носяць па ўсёй вёсцы і паказваюць кожнаму [17]. Нічога дрэннага не будзе таксама бацькам маладой і яе радні тады, калі малады возьме віну за тое, што маладая *нячыстая*, на сябе. У Дарашэвічах агледзін не бывае; сляды падобнага звычаю засталіся толькі ў песнях, а таксама ў рытуале частавання чырвонай салодкай гарэлкай, якую падаюць бяседнікам толькі тады, калі дзяўчына аказалася цнатлівай. Адну бутэльку гэтай гарэлкі выносяць на двор, а другую ставяць на стол у хаце, і ўсе п'юць яе з вясёлым настроем.

Здыманне пакрыцця. У даўнія часы пасля сустрэчы прыдання маладажонаў праводзілі ў хату і саджалі насупраць печы пад паліцаю, прычым у *маладзіцы* была пакрыта галава і вочы наміткаю. У гэты момант да яе падыходзіў старшы дружка, каб зняць пакрыццё: *здымаць завівала*. Смыкам, які трымаў у руцэ, ён паднімаў намітку і закідаў яе на печ, адначасова выказваючы пажаданне: «*Адзін сын! Два сыны! Тры сыны!* (і г. д. да 9, *а двесята дочка* [18], *да і та — швачка!*» Гэта называлася: *благаславіць сынамі* («*Сыны дак (г)ето — слава!*»).

---

[16] У паўднёва-ўсходнім кутку рэчыцкага Палесся, у вёсках Ручаёўка, Рудня Удалеўская і іншых паблізу Лоева, у такіх выпадках бацькоў маладой частуюць печанай каўбасой, гаворачы цынічныя прымаўкі. У некаторых вёсках усцягваюць на дах хаты маладой уначы старыя з'езджаныя санкі, дзверы ж вымазваюць смалой, а на варотах часам вешаюць зношаны хамут. Бываюць таксама выпадкі, калі нешчаслівыя канкурэнты помсцяць маладой, што часамі канчаецца бойкай паміж імі і сваякамі зняслаўленай. (Паведаміў Ч. Пяткевіч.)

[17] У Рэчыцкім павеце бацька маладога поўнасцю выдзірае пчолы, якія толькі ёсць у яго каля дому і частуе мёдам перш за ўсё бацькоў маладой. (Паведаміў Ч. Пяткевіч.)

[18] У песні, якая спяваецца на хрэсьбінах у Барысаўскім пав. Мінскай губ., знаходзім урывак: «*Радві мне дзевяць сыноў, а дэсятаю дочку*» (П. В. Шейн. Материалы..., I, 20). Наогул бацькі заўсёды жадаюць дзяцей: «нараджанне дзіцяці ў палескай хаце з вялікай радасцю вітаецца ўсёй сям'ёй» (Jeleńska E., 46).

Танцы. Старшы дружка першы вядзе маладзіцу ў танец: праўдзе яе тры разы вакол па хаце і тады ўжо ўсе «гуляюць».

П е р а з о ў II (*прыданьскій перазоў*). Прыкладна пасля дзвюх гадзін забавы прыданне пачынаюць прасіцца на перазоў да старшага свата, свах або да каго-небудзь з дружкоў — *у каго хата вяліка*. Забаўляюцца там і пяюць песні, падобныя на тыя, што спяваліся ў сваякоў маладой на *сваскім перазове*. На перазоў бяруць з вясельнай хаты толькі гарэлку, а закускай там частуюць ужо сваёю; наогул усякія *пярэзвы* наладжваюцца для таго, каб бацькам маладых лягчэй было справіць вяселле.

Д з я л ь б а к а р а в а я ў м а л а д о г а. З пярэзваў вяртаюцца ў вясельную хату, каб падзяліць каравай маладога. Адбываецца гэта так, як і дзяльба каравая ў маладой, з той толькі розніцай, што каравай спачатку раздаюць сям'і князя і маладых не садзяць на пасадзе. І песні пры гэтым спяваюць такія ж самыя.

Маладая абходзіць гаспадарку мужа. Калі каравай падзелены, маладая ўстае з-за стала, выходзіць на падворак, заглядаючы ў стайні і аборы, сыпле ўсюды хмель і авёс, *штоб бог гадаваў худобу*. Пазней прыносіць у хату вядро вады.

С п а ж ы в а н н е а б р а д а в а й к а ш ы. Перад выездам прыдання ставіцца на покуці гарнец пшоннай кашы з мёдам, крута заваранай (*салодка каша*), і б'юць яго пірагом да таго часу, пакуль гэты гарнец не расколецца; тады рэжуць кашу на столькі частак, колькі бяседных сталоў (звычайна іх тры), а потым кожны стол дзеліць атрыманую частку на ўсіх сваіх бяседнікаў.

А д ' е з д с в а я к о ў м а л а д о й. На *ад'ездзінах* прыданне прыносіць дроў у печ, *штоб маладая гладка була*. (У вёсцы Снедзіне на зарэччы прыданне ўносіць у хату ў гэты час вулей з пчоламі, упіхвае вала або каня — *штоб худоба вялася*.) Уночы сваякі маладой вяртаюцца ў сваю вёску, дзе бацькі выданай дзяўчыны частуюць іх яшчэ раз у сябе, пасля чаго ўсе разыходзяцца па дамах.

Назаўтра бяседа бывае ў хаце жаніха, пасля чаго абедзве сям'і, кожная асобна, запрашаюць сваіх гасцей *на пахмелле*. Часта ў гэты ж дзень бываюць пярэзвы, на якіх сваякі частуюць бацькоў маладых.

М а с к а р а д. У той жа дзень, звычайна на трэці (апошні дзень вяселля), госці пераапранаюцца *бабамі*, адзін з іх *дзедам*. Гэтаму апошняму яны робяць бараду з ільняной кудзелі або з саломы і, ходзячы па вёсцы, строяць розныя жарты (*дурацъ*).

С п а ж ы в а н н е п е ў н я і г. д. На заканчэнне вяселля госці рэжуць куру, пеўня, парасё або што ім пад руку трапіцца і ўсё гэта спажываюць. (У Сямігошчычах вясельніцы, апранутыя

цыганкамі, ходзяць па вёсцы. Там ім даюць хто што можа — куру, пеўня, кавалак мяса, парасё і г. д. Гэтых дароў, а таксама таго, што па дарозе ўкрадуць, хапае ім часта на цэлы дзень гуляння.)

Раней быў звычай, па якому вясельнікі ішлі ў двор, несучы 20—30 сырых яек і намітку. Пра гэта спяваецца і ў песні:

Ой, пане, паночку,
Вядзём табе падданочку
У тоненьком сэрпаночку.

Вясельныя адведзіны. У бліжэйшую нядзелю пасля вяселля бацька выданай дзяўчыны збірае прыданскіх і едзе з імі да дачкі ў *госці*. (*То ўжэ не вяселле, да — госці.*) У наступную нядзелю бацькі князя адведваюць яго цясцёў. У гасцях ужо спяваюць песні звычайныя (*простыя песні*).

## ЗАУВАГІ ДА ВЯСЕЛЬНАГА АБРАДУ

Аб чарах. Маладая на працягу ўсяго вяселля павінна мець пры сабе зелле *адкаснік* і *вядун, штоб ніхто не прыстаў.*

Аб даўнім спосабе піцця гарэлкі. Даўней гарэлку на вяселлі выліваді ў міскі і з іх чэрпалі.

Да гэтага часу захаваўся звычай, па якому першы, хто п'е ў вясельнай хаце, першую чарку вылівае на столь з выкрыкам: *«Высокія расціце!»* Робяць гэта, *штоб бог даў шчасце.*

Аб вясельных сталах. У Дарашэвічах звычайна бывае тры сталы: на покуці, насупраць печы і каля *полу* (пяюць жа песні: *«на покуці сядзяць, а перад печчу ядзяць, а на палу рагочуць, бо і тыя есці хочуць»*). На вясельных бяседах падаюць *пампушкі, пірагі, кашу пшонную, мяса, сала, рыбу... як у каго бог даў.*

# СЛУЦКАЕ ВЯСЕЛЛЕ

**Запісаў Ю. Лістапад**

## СВАТАННЕ

Калі міне хлопчыку за 18 гадкоў, дык ужо некая Марыля сочыць яго. Прыйдзе такая гадзіна, падсыпле яна яму любезнічку ў што-небудзь, хоць, як захоча вады, у кварту з вадою. Тагды ўжо дзяўчына супакоіцца, бо добра ведае, што ён яе будзе любіць абавязкова: яна дала такога любезнічку, што за тысячы вёрст

будзе хлопца цягнуць да дзяўчыны. Мучыцца бедны хлапец, а дзяўчына дзеля яго з кожным днём робіцца харашэйшаю. Яна яму часта напамінае пра вяселле. Хлапца ўжо так возьмуць клопаты, што ён аж прыхварэе. Бацька з маткаю, можа, і ведаюць, што сынок хоча пайсці ў сваты к Марылі, але маўчаць. Сам сынок саромеецца сказаць бацьку, што ён хоча ісці ў сваты, а папросіць дзядзіну ўспамянуць яго бацькам пра гэта. Дзядзіна саромецца не будзе, а пойдзе к бацькам ды й загаворыць пра вяселле. Бацька ці матка, падхвальваючы свайго сынка перад дзядзінаю, кажуць: «Трэба жаніць Юрку». Сынок у гэты час слухае пад вакном, што пра яго бацькі будуць казаць дзядзіне, а як пачуе, што бацькі згаджаюцца яго ажаніць, пад гэты нораў уваходзіць у хату і перад дзядзінаю просіць пасланць сватоў да Марылі. Бацькі спярша насварацца на сына, а потым і згадзяцца.

Што ж, патрэбны сваты. Сынок з гарачкі хваліцца, што яму дадуць надта добрае прыданае. Бацька параіць узяць за свата таго, хто добра ўмее гаварыць [. . .] Сынок, ці, як кажуць, малады, пойдзе прасіць сватоў. Хто ж адкажацца быць сватам — гэта ж вялікі гонар, а пакуль што дык вып'е і закусіць добра. Значыцца, пад поўнач малады пазаве сватоў. Гарэлкі ён ужо раней прызапасіў, а каўбасу маці не пашкадуе спякці дзеля сватоў. Тым часам сваты і малады перад выхадам вып'юць, што называецца, каб добра закруціла ў галаве. Матка дасць новую з цацкамі торбу з моцнай пляцёнкаю, паложыць у яе свежую кулідку хлеба, насыпле на яе трошкі солі, не забудзе і чарку даць свату ў кішэню, а паўгарцоўка выпіўкі тож ёсць. Выпраўляюць сватоў абавязкова ўночы, каб ніхто не бачыў, бо ёсць жа такія злыдні, што наўмысле пяройдуць дарогу, каб сватанне не ўдалося. Такім чынам выпраўляюць сынка з двума сватамі сватацца к дзяўчыне. Дадуць сынку бацькі благаславенства, каб яму бог памог высватаць тую дзяўчыну, да якой яго такі доўгі час цягнула. Сказаўшы вялікае «дзякуй», сваты пойдуць.

Маладая жыве часам недалёка; значыцца, паблутаўшыся трохі па дарозе, сваты прыйдуць да маладой у двор і мусяць бразгаць у вакно, каб іх пусцілі ў хату. (Маладая ўжо ведае, што прыдуць сваты, а дзеля гэтага прыгатуецца і не спіць усю ноч — усё чакае.) Увайшоўшы ў хату, сваты кладуць на стол кулідку хлеба і ставяць паўгарцоўку гарэлкі, потым здароўкаюцца з бацькамі маладой і садзяцца ўпоравень на лаве ад двара, бо калі каторы сват сядзе на лаве ад вуліцы, на той лаве, на каторай кладуць нябожчыка, дык гэта азначае, што адно з маладых заўдавее. Бацькі маладой рупяцца аб пачостцы, каб не было брыдка іх Марылі. Тым часам маладая з маладым разам уваходзяць у хату,

і малады ідзе да бацькоў яе, каб пацалаваць іх у рукі, а маладая цалуецца з сватамі. А калі каторае з маладых не зробіць гэтага, дык ім праз колькі гадоў будуць успамінаць аб гэтым; яшчэ людзі невядома што нагавораць. Тут ужо, як вядзецца, пытаюць у маладой, ці згаджаецца яна выйсці замуж за маладога. Вядомая справа, яна не адкажа, бо яна з ім даўно ўжо згаварылася. Значыцца, сватам з маладою гаварыць больш нечага, а дабіраюцца яны да бацькавай кішэні: ці вымаліць хочуць лесу кусочак або зямелькі з загончык. Кажучы праўду, калі маладыя раней пазналіся, дык доўга аб прыданым гаварыць не трэба, бо адны ведаюць, што прасіць, а другія — што даваць.

Такім чынам, пакуль гавораць аб прыданым, дык ужо маці падасць на стол і пачостку; значыцца, садзяцца за стол сваты, бацькі і маладыя і ядуць і п'юць, пакуль хмель саўсім не адурыць галавы. Пасля гэтага малады з маладою ідуць, каб сапачыць гадзінку ці дзве, а сваты цягнуцца дадому, бармочучы нешта пад нос.

Значыцца, справа пачата, трэба толькі яе давесці да канца. Назаўтра бацькі маладога разам са сватамі ідуць да бацькоў маладой рабіць лад. Гэта значыць, згадзіцца, у які тэрмін будзе вяселле, каб можна было прыгатавацца з ядою і выпіўкаю.

Маладым свая справа: трэба з'ездзіць да папа ўзяць запаведзь (запісаць аглашэнне), купіць усе ўборы маладой, каб яна была падобна на паву — ды ці мала яшчэ трэба купіць на такую вялікую бяседу. Такім чынам, сватанне ўжо скончана; падгатоўваюцца да першай вясельнай бяседы — «запоінаў».

## ЗАПОІНЫ

Малады з маладою згодзяцца, у які дзень зрабіць запоіны, але робяць не ўдзень, а ўвечар.

Значыцца, пад вечар у гэты дзень маладыззывае ўсю сваю радню ў сваю хату, дзе трохі частуюцца, і вазах на чатырох едуць к маладой. Музыка павінна быць тут абавязкова, бо, як кажуць, запоіны без музыкі падобны на радзіны або нават на памінкі. На запоіны малады прывозіць выпіўку, а маладая павінна даць закуску. На гэтай першай бяседзе гавораць вельмі шмат, але ўсё-такі парадак ёсць. Заўважу, што і маладая склікае на запоіны сваю радню. Калі сябры вып'юць даволі, дык тады абменьваюць хлеб. Тую кулідку хлеба, што прынеслі сваты, як было сватанне, бацькі маладой забіраюць сабе, а сваю кладуць на тое месца, дзе павінна ляжаць іхняя кулідка. А ў тую паўгарцоўку, што тады выпілі, сыплюць жыта і ставяць на стол. Як хлеб абмянялі, дык

маладых дамагаецца прыданага. Але прыданае грашыма цесць дае не так, як гэта робіцца наогул з грашыма, а трохі далікатней. Матка маладой падасць на стол чысценькую талерку, засланую хустачкаю, а бацька, наліўшы чарку гарэлкі, п'е да зяця, а потым перадае прыданае (грошы) на талерку і, наліўшы чарку, перадае зяцю. Зяць, палічыўшы грошы, хавае іх, выпівае чарку выпіўкі і дзякуе цесцю. Цесць з зяцем цалуюцца цераз стол. Усё гэта робіцца не так ціха, як нам здаецца, а ў гэты час музыка ў хаце іграе запоіны, а жанчыны пяюць песню, якая датычыць бацькоў маладой. Сама маладая сядзіць на заслоне напроціў маладога, нізка кланяецца і нават плача:

Прапою, прапою!
Прапіў бацька дачку
У Слуцку на рыначку.
На што ж было прапіваць,
Кім будзеш пасылаць?
Ці ў лужкі па цялушкі,
Ці ў шчыры бор па волікі,
Ці ў цёмны лес па конікі.

Але гэтай адной песні мала, а пяюць якую хто здумае. Тым часам у сенцах збярэцца куча вялікіх хлопцаў, каторыя запяюць так моцна, аж сенцы задрыжаць. За гэта ім з хаты вынесуць пляшак са дзве выпіўкі і добры крышан сыру, а калі ж ніхто не зверне на іх увагі, дык так і бойся, каб не пабілі вакон.

## ДЗЯКАВАННЕ ЗА ВЯЧЭРУ

У апошні вечар, перад самым вяселлем, да маладой прыходзяць сваццi, цёткі ды дружкі. Сваццi прыгатоўваюць свечкі, цёткі рэжуць падарункі з белага кужэльнага палатна дзеля ўсяе радні маладога, а дружкі парадкуюць уборы маладой. Рэжучы падарункі, пяюць песню:

Рэж, матка, падарачкі,
Не доўгія, не кароткія,
Каб па зямлі не цягаліся,
З нас людзі не смяяліся.

Бацькі маладой усіх работніц частуюць, але не моцнаю выпіўкаю, а мёдам ці іншым слабым пітвом. Маладая дзякуе за вячэру, перш бацьку, матцы, потым, калі ёсць, братам і сёстрам. Дружкі ўвесь вечар спяваюць песні, як бы вучацца, каб заўтра не памыліцца ў чым-небудзь. Гэта апошняя ночка дзеля маладых пакажацца годам; яны ўсе мысляць, як бы лепей выйшла вяселле, а пра жыццё нават і не думаюць.

## ВЫПРАУЛЯННЕ

Гэты дзень пачынаецца вельмі рана. Малады, як і на запоіны, склікае радню, сватоў, дзядзькоў, цётак, сваццяў, дзядзеў і дружак.

Матка маладога, пекучы к вяселлю хлеб, робіць кружочкі, гэтак сама і ў маладой. Трошкі пачаставаўшы склікaных, збіраюцца ехаць да маладой. Сваты едуць наперад, а на другім возе — малады з двума дзядзямі і дружка з сваццяю. Гэты воз родны бацька маладога, узяўшы міску з жытам, абходзіць тры разы і, узяўшы крысом свае вопраткі за аброць каня, выводзіць з двара пад песню дружак з сваццяю:

Мы ж ехалі за чатыры мілі,
Конікі патамілі,
Сукенкі папылілі,
Грошыкі патрацілі,
Золата не бачылі.
Пакажэце тое золата,
Што, казалі, вельмі дарага;
Пакажэце тое дзіцятка,
Што вельмі молада.
Мы ж яго выглядаць будзем,
І к свайму раўнаваць будзем:
Ды такое самесенькае,
К нашаму раўнесенькае.

Заехаўшы к маладой, выпрагаюць коней і заходзяць у хату частавацца, а музыка, сеўшы на караваці ці на пераклеці, іграе. Тым часам сходзіцца радня маладой. Сама маладая пакуль што сыходзіць з дому, каб яе не бачылі. Яна ідзе к дружкам і жанчынам, дзе яе нарадзяць і навучаць, каб яна ні ў чым не памылілася. Як ужо будзе людзей шмат у хаце, дык пачынаюць бяседу. Завуць маладога ў хату і моляцца богу. Вясёлыя маладыя жанчыны пяюць:

Ой, вышла маці
Зяця прымаці,
Не так прымаці,
Як выглядаці:
Ці вясёл, ці п'ян,
Ці хораша прыбран.
Каўнер бабровы,
Зяць чарнабровы;
Каўнер ваўністы,
Зяць наравісты.

Малады тым часам маркоціцца, што няма маладой, дык дружачка з сваццяю яму запяюць:

Гамоніць Юрачка, гамоніць,
Чаму мае Парахны не ўводзяць.
Няхай бы яе, маладую, узялі
Ды правую ручаньку падалі.
Я б ёй ручаньку падаў
І чантыкор дараваў.
Дзядзю падарак белявы,
А Парахне чантыкор дарагі.

Маладая з дружкамі прыходзіць дадому, але не ў хату ідзе, а ў клець, адкуль яе сват выводзіць і вядзе ў хату. Выйшаўшы з клеці, маладая тры разы кланяецца абразам, пацалуе іх, а потым кланяецца і цалуе родных бацькоў, пасля чаго ўваходзіць у хату.

Маладых сядзіць на лаве паміж двух дзядзеў, а маладую саджаюць насупраць яго, а паабапал дзве дружкі. Тут ужо частуюць усіх разам, толькі не можна піць і есці маладым. Часам малады п'е, а маладая ў зуб нічога не бярэ. Сваццi тым часам качаюць свечкі і кажуць: «Першым разам, лепшым часам, бацька і маці, багаславеце маладой свечку засукаць». Бяседа адказвае: «Хай бог благаславіць!»

Гэтак другім і трэцім разам сваццi кажуць, і адказы тыя ж самыя.

Пасля гэтага цесць аддае зяцю другую палавіну прыданага, такім самым парадкам, як і на запоінах. Цяпер ужо пачынаюць даваць падаркі. Перш усяго маладая цераз стол даруе маладому хустачку і прышпільвае на грудзях красачку, а ён ёй дае чантыкор, каторым сват маладую падпяразвае. Чантыкор абавязкова павінен быць чырвоны. Дружкі з дзядзямі гэтак сама мяркуюцца. Яны сядзяць насупроціў. Дзядзя кладзе на талерку грошы і п'е да дружкі, а яна, забраўшы грошы, прышпільвае яму красачку. Гэтак сама і другая дружка мяняецца з дзядзем.

Цяпер ужо маладая дае ўсёй радні маладога палатняныя падаркі, каму даўжэйшы, а каму карацейшы, хто якога варты. Сватам і бацькам даюць падаркі, каб аж па зямлі цягаліся.

Здаецца, што ўжо павінна быць і ўсё, але ж яшчэ малады павінен выкупіць маладую, гэта значыць, заплаціць грашыма як бацькам, так і братам, сёстрам, дзядзькам і цёткам па столькі, па скольки хто ад яго вытаргуе. Скончыўшы гэта, дружачкі з сваццямі запяюць:

Сірота Парахна, сірота,
Сядзіць за сталом, як залота,
Выйдзе да воза, як рожа,
Уздыхне цяжанька, мой божа!
— Хто ж мне, сіроце, паможа?
Абазваўся яе большы брат:
— Спамагу, сястрыца, спамагу!

За вароты коніка правяду.
Гэта вам, мае конікі, дарога,
Едзь, мая сястрыца, да бога.
Едзь, мая сястрыца, ў божы дом,
Не хіляйся,
Гавары розненька,
Не мыляйся.

З гэтаю песняю ўстаюць з-за стала і абходзяць яго тры разы, пасля чаго маладая кланяецца абразом і цалуе іх, потым цалуецца з бацькамі і раднёю. Сваты на сваім возе едуць да царквы. малады на сваім возе тож едзе, а маладая яшчэ збіраецца. Дружкі, што паехалі з маладым, пяюць:

У дарожку, сваткі,
У дарожку,—
Будзе вам дарожка,
Як дошка.

Тым часам маладая садзіцца на воз паміж дзвюх дружак, і ўперадзе свацця дзяржыць дзве свечкі, сашчэпленыя верхняю скарынкаю хлеба, круглаю, як кружочак. За паганятага садзіцца брат маладой.

Бацька бярэ міску з жытам, абходзіць тры разы воз і, даўшы каню папробаваць жыта з міскі, бярэ крысом свае вопраткі за аброць каня і выводзіць з двара. Маладая сядзіць, накрыўшыся хусткаю. Як выязджае з двара, сыпле з прыполу цукеркі, гарбузікі ці кусочкі перапечкі. Дружкі пяюць:

Ужо наша Парахна
З двара з'язджае,
Ў яе мамачка
Ключоў пытае:
— Маладая Парахна,
Дзе ключы падзела?
— Там я падзела,
Дзе сама сядзела,
Павесіла высока,
Што паеду далёка,
Цяпер павесіла ад сябе,
Што паеду ад цябе.

Усе людзі, быўшыя на выпраўлянні, разыходзяцца дадому. Здаецца, што вянчанне ўсюды аднолькавае, і дзеля гэтага тут не затрымліваюся.

## ПАСЛЯ ВЯНЦА

Як маладыя павянчаюцца, дык ужо садзяцца разам на возе маладога, а воз маладой займаюць дружкі. Усе асобы, якія ездзілі

да царквы, вязуць у вёску таварышам і таварышкам цукеркі, сонечнік, пернікі і што інш. Едучы з вянца, пяюць:

Ой, рад Юрачка,
Што ў божым доме пабываў,
На белым ручніку пастаяў,
З правае ручкі персцень зняў,
Ён сваёй Парахне дараваў.
— Насі, мая Парахна, здарова,
Я на цябе ні слова.

З вянца маладыя едуць к бацькам маладога, дзе іх прымаюць перад сталом на дварэ. Маці выварочвае кажух воўнаю наверх і з чаробкаю з мёдам прымае маладых. Дае перша маладому ложачку мёду, потым маладой, затым дружкам, сваццям; а як дойдзе да дзядзі, дык ён выхваціць з рук мацеры гэту чаробку і ўцячэ на агарод. Потым усім маладым даюць па чарцы выпіўкі; дружкі пяюць:

Адхадзіла матка ножанькі,
За вароты выхаджаючы,
Свайго сынка выглядаючы:
— Ды дзе мой сыночак?
Ці вязе мне нявехну?
Едзе, едзе мой сыночак,
Вязе, вязе мне нявехначку,
У хату ахвотначку,
На поле работнічку.

Пасля гэтага ўводзяць маладых на полудзень у хату, пяючы гэтакую песню:

Пусці, сваце, ў хату,
Не ў хату — ў святліцу
Падсушыць спадніцу.
Нашы ножкі паззяблі,
Нашы ручкі, як граблі,
Нашы зубы ляскацелі
Ды ў хату хацелі.

Прыбірай, матка, месцо,
Дзе тваім дзеткам сесці:
Першаму ды раджонаму,
А другому ды суджонаму.
Раджонаму на покуці,
А суджонаму ля раджонага.

Цяпер ужо ў хаце маці падае на стол усе патравы, як прыкладам: капусту, юшку, кашу і інш. Дружкі з сваццямі, падпіўшы, пяюць:

Выбачайце, госцікі, на маю патраву,
Не дзеля вас я гатавала,

Я кроля ждала.
Кроль не прыехаў,
Госці наспелі,
Госці наспелі,
Патраву з'елі.

Пасля палудня гульня цягнецца вельмі доўга, скокі і песні аж грымяць, а ў хаце ўсе патрошку частуюцца, бо на вяселле шмат прыходзіць людзей толькі дзеля таго, каб выпіць ды закусіць.

Але вот дзяўчаты будуць заплятаць касу маладой. Нойдзе ў хату столькі дзяўчат, што і павярнуцца нават недзе. Прынясуць дзяжу, у каторай месяць хлеб, і пасадзяць маладую на гэту дзяжу. Запаліўшы свечкі, з якімі вянчаліся, большая дружка багаслаўляе, гаворачы: «Першым разам, лепшым часам, бацька і матка, багаславіце маладой косу зачасць». Бацькі адказваюць: «Хай бог багасловіць!»—«Другім разам, першым часам, багаславіце маладой косу зачасаці!» — «Бог багасловіць»,— адказваюць жанчыны. «Трэцім разам, лепшым часам, бацька, маці, уся радня і ўся бяседа, багаславіце маладой косу заплесці». Усе, хто тут ёсць, адказваюць: «Бог багасловіць!»

Гэта ж самая дружка расчэсвае косу і, падсмаліўшы кончыкі кос свечкаю, кажа: «Багаславі, божа, песню запеці», і пяюць:

Ты ж, мой касцёле маляваны,
Хто ж цябе, касцёле, маляваў?
— Малявалі мяне муляры,
Па цаглінцы беручы,
На цябе, касцёлю, кладучы.
Маладая Парахна,
Хто ж табе косачку заплятаў?
— Заплялалі косачку дзевачкі,
Падавалі каснічкі дружачкі,
Па валасочку беручы,
У тры столачкі плетучы.

Заплёўшы косу, маладых саджаюць на пасад. Кладуць на лаву падушку, і малады з маладою садзяцца на яе; ля іх садзяцца дзядзі, дружкі і цэлае застолле дзяўчат. Дзяўчаты пяюць найчасцей гэтакія песні:

Маладая Парахна
Села сабе на пасадзе
Ды заве мамачку:
— Мамачка мая родная,
Прыступіся блізенька,
Пакланіся нізенька.
Прыступіся яшчэ бліжай,
Пакланіся яшчэ ніжай.

Далей песня гаворыць аб тым, як маладая зварочваецца па парадку да «татачкі», «братанькі», «сястрычкі». Пяюць яшчэ і іншыя песні:

Човен рэчаньку пераплывае,
Татка дачушку перапівае,
Сто злоты дае:
— Гэта табе, дачушка, на чаравічкі,
На белыя панчошкі
Надзяваць на ножкі.

Сядзела Парахна
Паўтары ночы,—
Падайце цыбулі
Нацерці вочы.
Сядзела Парахна
Паўтара дзянёчка,—
Падайце цыбулі
Паўтара вяночка

Усе гэтыя песні датычаць маладой, але пяюць песні і дзядзю:

Зажурыўся наш дзядзя,
На чужыя дзяўкі глядзя.
— Ой ты, дзядзя, не журыся,
Прадай каня ды ажаніся.
Прадай каня і кабылу,
Вазьмі сабе ў хату гаспадыню.

Наш дзядзя малады,
Пагнаў мышы да вады:
Каторая не йдзе,
Ён вядзе;
Каторая бяжыць,
Ён дзяржыць;
Каторая скача,
Ён плача.

У нашага дзядзі кашуля
Тры грошы каштуе.
Пашылі яму жыдзяняты,
На балоце пасучы качаняты.

Казалі, дзядзя вельмі багаты —
Саломаю каптан напхаты;
Дзе дзядзя паварушыцца,
Там салома цярушыцца.
Дзе дзядзя павернецца,
Там салома абернецца.

Казалі, дзядзя вельмі харош —
Камаровы вочы, буслаў нос,
Вялікае бруха ледзве панёс.

Дзядзя дружкам тожа прыпявае:

У нашай прыпяванкі
Круцяцца вочы ля ямкі.
У нашай прыпяўніцы
Круцяцца вочы на спіцы.

Каторая добрая,
Дык маўчыць,
А каторая...,
Дык крычыць.

Як скончыцца гэтае дзявочае гулянне, дык прыязджаюць вяшчыя. Вяшчых пасылаюць бацькі маладой. Яны даюць ім пасцель, як, напрыклад, падушку, коўдру і штук са дзве пасцілак. Вяшчыя з сабою бяруць сваццю, каторая будзе маладым пасцель слаць.

Вядома, вяшчыя — гэта ж усе суседскія хлопцы, таварышы маладой — едуць к маладому не ціха, а з песнямі, крыкам на ўсё сяло. Іх у двор без пашпарта не пусцяць. Пашпарт гэты — паўкварты гарэлкі. Робіцца гэта так: тыя хлопцы, што гуляюць на вяселлі, завяжуць вароты, а вяшчыя павінны выкупіць у іх дарогу і, як дастануць тое, што ім трэба, дык маюць права адчыніць вароты.

Уехаўшы ў двор, вяшчыя знімаюць з воза пасцель і, несучы яе ў сенцы на каравацъ, пяюць:

Вяшчыя — не гуляшчыя,
Увесь лён патапталі,
Маладым спаць не давалі.

Сам малады прымае вяшчых, садзіць іх за стол і добра частуе. Гэтыя вяшчыя ўжо да канца вяселля будуць мець гонар на кожнай бяседзе.

После вяшчых сваці завіваюць маладую і расплятаюць яе, знімаюць усе цацкі з галавы і надзяваюць ёй на галаву чапец. Маладая вельмі не хоча надзець гэты чапец, некалькі разоў кідае дадолу, потым згодзіцца. Гэта завіванне робяць, прыпяваючы песні:

Завівала мяне дзядзіна,
Ніяк не жаласліва,
Сама яна не плакала
І мне не вялела.

Завівальнічкі — сцервы,
На што маю коску сцерлі,
Сцерлі і самялі,
Пад чэпчык схавалі.

Тут яшчэ сваццї, выправіўшы з хаты маладога, накрываюцца разам з маладою хусткаю і клічуць яго пазнаць маладую.

Сваццї прыпяваюць:

Пасадзіце мяне ў сваццї,
Я ўмею пасцельку слаці:
Кругом, кругом ды падушачкі,
У сярэдзіну дзве дужачкі.

Пасля гэтага сваццця вядзе маладых класці спаць.

## ПРЫДАНКІ

На другі дзень малады едзе к бацькам маладой па яе дабро. Тут склікаюць гэтак званых прыданак, трошкі іх пачастуюць і адпраўляюць да маладога. Самі бацькі маладой ставяць на воз скрыню з дабром, прычым бацька садзіцца на скрыні спераду, а матка ззаду на возе і дзяржыць у руках вобраз і каробку з ручнікамі. Прыданкі едучы пяюць песню:

Ехалі прыданачкі да сяла,
Дзе тая бяседа весяла;
Чые ж то прыданачкі блудзілі,
Ў чыстым полі дарожку згубілі?
Выбегла маленькае ласяня,
Паказала нам дарожаньку да сяла.
Сюды, сюды, мае прыданачкі, да сяла,
Тут вам будзе серадзіначка весяла.
Сюды, мае прыданачкі, у сяло,
Тут вам будзе піць і есці ўсяго.

Той, хто вязе скрыню, дык мае пропуск, бо прыданак сустраяшчыя не пусцяць так, як іх учора не пусцілі. Прыданак сустракае на двары маладая і нізка кланяецца кожнай. Тым часам музыка ўзлезе на скрыню і лічыць абручы на скрыні. Музыка, седзячы на скрыні, іграець, а прыданкі пяюць:

Дзе ж наша павінначка,
Чаму з намі не вітаецца, (2)
Пра здароўе не пытаецца?
Паслала нас маці
Праведаць дзіцяці
Ды дала іголку
І клубочак шоўку.

— Шый, маё дзіцятка,
Як у мяне вышывала;
Гуляй, маё дзіцятка,
Як у мяне гуляла.
— Не буду, мацi,
Так вышывацi,
Трэба, мацi,
Усе дзела знацi:
Позненька легцi,
Раненька ўстацi,
Перша хату падмесцi
I вады прынесцi,
Хлеба замясiць
I ложкi памыць.

Тым часам выносяць на двор стол з хлебам-соллю, прымаюць прыданак, а яны яшчэ хочуць схадзiць у гумно, каб пераадзець маладых. Па дарозе ў гумно пяюць:

Прыданачкам адно на вуме,
Што не былi ў гумне.
Каб жа мы пабывалi,
Тае справы павiдалi,
Маладую нарадзiлi
Ды з сабою пасадзiлi.

Капала рожу,
Сеяла розу.
— Тут табе, мая рожа,
Зiмавацi гожа.
Мне ў бацюхны не летавацi,
А хоць летавацi,
Красак не рвацi,
Вянкоў не вiцi.
Ой, вiцi, вiцi маёй сястрыцы,
Насеце, насеце, мае залувiцы.

У гумне прыданкi пераадзяюць маладых.

У гэты час вяшчыя плятуць сватам кiтлi з саломы, так што сваты з гумна iдуць, як цары ў стаўбунаватых саламяных каўпаках. Гэта дзеля сватоў вялiкi гонар. У хаце прыданак частуюць вельмi добра. После сват вядзе ўсю бяседу к сабе ў хату на падоймы. Такiм парадкам прыданак участуюць, як лепш ужо не трэба. Маладыя ходзяць на гэтыя бяседы, узяўшыся за хустачку.

Пасля падоймаў, назаўтра, дзеляць каравай маладога. Каравай ёсць вялiзная кулiдка перапечкi. Сват адрэзвае гэтага каравая, а малады на талерцы падае таму, хто хоча ўзяць каравая. Маладому за каравай кладуць на талерку грошы або абяцаюць даць якую-небудзь жывёлу цi яшчэ што.

Пасля каравая п'юць і ядуць прынесеную раднёю выпіўку і яду, бо ўсякі з сяброў радні на каравай нясе з сабою паўгарца выпіўкі і закуску. Потым маладыя ідуць з калодзезю абліваццa. Яны разам чэрпаюць ваду і нясуць дадому. Вядро некалькі разоў выліваюць, а потым, намачыўшы ў гэтай вадзе венік, кропяць на людзей. Маладая на калодзезь вешае ручнік і кладзе на кожны з чатырох слупоў зрубу калодзезя што-небудзь: грошы, хлеб, перапечку ці сыр.

Вяшчыя ў гэты час ходзяць па сяле і ловяць курэй і маленькіх парасят, пякуць, вараць іх і робяць ужо свой банкет. Некаторыя гаспадары вяшчых нават частуюць. Да калодзезя маладзіцы пяюць песню:

З віннага калодзезя
Там Парахна воду брала,
У свой край пазірала.
— Ці едзе мой бацюхна,
Ці вязе мне парадухну?
Едзе, едзе мой бацюхна,
Вязе, вязе мне парадухну.
Эй, матка-сонейко,
Парадзіла дачку-зорачку,
Купала ў каліне,
Спавівала ў шнурыне,
Націрала яе рожаю,
Каб была паняю гожаю.

Гэтым перарываецца вяселле на цэлы тыдзень. Але праз тыдзень едуць маладыя к бацькам маладой дзяліць яе каравай. Сюды, як і к маладому, радня зносіць выпіўку і закуску. Каравай такі ж самы — вялізная куліда перапечкі; дзеляць яго таксама, як і ў маладога, толькі ўжо маладая падае на талерцы кусочкі каравая сваёй радні і прымае ад іх грошы.

Калі збярэцца гарэлкі і закускі шмат, дык і цераз тыдзень вясельныя гуляюць дзён са два. Што датычыць спакою ў час вяселля, дык наогул можна сказаць, не абыдзецца без пабояў. Кожнае вяселле ў вёсцы абавязкова каму-небудзь пакідае памятку на доўгія часы.

Такім чынам, слуцкае вяселле цягнецца з пачатку сватання да канца вяселля нядзель з чатыры, а то і больш.

# ВЯСЕЛЛЕ [У КАСЦЮКОВІЦКІМ РАЁНЕ]

**Запісаў Т. Мікалаеў**

Вясковае вяселле ў Касцюковіцкім раёне — важная падзея не толькі для ўдзельнікаў яго, але і для ўсяе вёскі: яно абстаўлена абрадамі, забабонамі, рознага роду рытуаламі, песнямі і скокамі куды больш, чымся іншыя святы і моманты чалавечага жыцця. Невыкананне дзедаўскіх звычаяў, па погляду прыхаматлівых людзей, лічыцца як бы парушэннем закону. Нават суседзі, якія прымаюць удзел у вяселлі, калі па беднасці ці з якіх-небудзь іншых прычын вяселле не святкуецца з адпаведнымі абставінамі, выказваюць часта сваё нездавальненне: «Без стуку, без груку павезлі, як суку».

Праўда, у апошні час пад уплывам прасоўвання новага быту, выклІканага рэвалюцыяй, і ў цёмныя закуткі гэтыя звычаі з кожным годам адміраюць, і пастулова павялічваецца лік вяселляў па-новаму — без шлюбу. Вяселле з поўным выкананнем усіх звычаяў можна спаткаць яшчэ толькі ў больш глухіх вёсках раёна.

Усё вяселле, пачынаючы сватаннем і канчаючы самым шлюбам, праводзіцца паводле ўсталяваных у дадзенай мясцовасці звычаяў і традыцый.

Бацькі, якія збіраюцца жаніць свайго сына, звычайна робяць сямейную раду. Першым пачынае бацька, зварочваючыся да свае жонкі.

Бацька:— Ну, што, баба? Урэмя б ужо жаніць сына нам? Дакуль ён будзець валачыцца? І ў двара не работнік і па начам валочыцца. А калі мы яго ажэнім, тады ён будзець двара пільнаваць.

Матка:— Я аб етым сама даўно думала, ды ўсё гляджу на вас.

Бацька:— Калі так, дык каго ж мы яму будзем сватаць, штоб было падхадзяча? Табе нявестка, а яму жонка была, ды нас не лаяла, а паважала.

Пасля гэтага бацькі пачынаюць пералічваць амаль што ўсіх знаёмых дзяўчат.

Бацька:— У Барыса дзеўка падхадзячая.

Матка:— А йдзі ты! Няўжо ж ты не ведаеш, што яе матка ласкатуха?

Бацька:— Ну, дык Змітракову дзеўку?

Матка:— Ну, штой-та ты кажаш? Тая ідзець — не дайдзець, і гаворыць — не дагаворыць; пахожа і на работу так.

Бацька:— Ну, дык у Ягора дзеўка, здаецца, нічога?

Матка:— Ета-такі харошая, толькі яе матка троху пышная.

Бацька:— Досыць табе! Абы мы былі харашы, а людзі ўсе харашы. Сабірайся ды йдзі папытай у сына, што ён скажыць пра Ягораву Параску?

Пасля гэтага бацька ідзе па сына і прыводзіць яго ў хату.

Бацька:— Ну, што, мой сын! Цябе жаніць пара. Ці думаеш ты аб етым?

Сын (сароме́ючыся):— Я воўсі жаніцца не думаю. Вазьмі дый жанісь сам, калі табе нада.

Бацька:— Дык ты ніколі жаніцца не думаеш? Ці баісся чаго, ці так што, дык ты мне скажы, Змітрок?

Матка:— Што ты пытаеш? Ці ён табе скажыць? Збірайся ды йдзі!

Бацька:— Дык што ж «збірайся»? Нада схадзіць за яго хросным бацькам. (Праз некаторы час з'яўляецца і хросны бацька жаніха.)

Бацька:— Садзісь, кум. (Жаніх ставіць хроснаму калодку пад ногі.)

Хросны: — Спасіба! Нічога. (Садзіцца.)

Бацька:— Ну, што, кум? Задумалі абурыць твайго хросніка.

Хросны:— Ну, дык што ж? Калі задумалі, дык няхай бог памагаець. Што нада, то трэба!

Бацька:— Ну, дык во што, кум! Мы родныя, а ты хросны. Парай, можа ты ведаеш падхадзячую нявесту? Мы тутыцькі з бабаю гаварылі, каб Ягораву дачку пасватаць.

Хросны:— А дык што ж? Дзеўка харошая. Няхай бог даець. А як жа на гэта жаніх глядзіць?

Бацька: — Дык ён жа во ён! Няхай скажыць. Мы пыталі, пыталі, дык ён ні тое ні сёе.

Хросны:— Ну, дык што ж ты, мой белька, маўчыш?

Матка:— Чаго вы вяжыцесь к яму? Ён несмысіль. Калі ён нам не казаў, а пры хросным бацьку ён сароміцца, нічога не скажыць.

Хросны:— Ну, калі так, палі, кум, свечку!

У гэты час ужо чуткі разнясліся па сяле, што такія і такія выбіраюцца ў сваты. Дзяўчаты збіраюцца пад вокнамі, ціха гавораць паміж сабою:

— Гляньце-ка, дзевачкі! Ужо молюцца богу.

— К каму яны йдуць?

— К Ягоравай Парасцы. •

Памаліўшыся богу, хросны бярэ сваю шапку, тушыць ёю свечку і гаворыць:

— Штоб етым ветрам забіла галовы тым сватам, куды мы йдзём, штоб яны нам доўга галавы не марочылі.

Бацька:— Ну, кум, садзісь за стол!

Хросны:— А няхай сабе: я й тут с краю пасяджу. (Бацькі жаніха з вялікаю просьбаю, амаль што сіламоццю садзяць кума за стол.)

Бацька бярэ пляшку ■ гарэлкаю і налівае першую чарку сабе. Чарку трымае леваю рукою, а праваю хрысціцца і кажа:

— Дай жа, божа, што мы задумалі і загадалі, каб было ўсё благапалучна! Калі б наша пышня ў пуць пышла!

Яшчэ раз хрысціцца і гаворыць:

— Будзь, кум, здароў!

Выпівае. Другую чарку налівае куму. Той таксама бярэ чарку ў рукі і кажа:

— Хадзіка-ка, кума, сюды пабліжай, дый будзь здарова! Няхай бог даець нам усё харошае!

Выпівае.

Матка:— На добрае здароўе, кумочак!

Бацька налівае чарку жонцы. Тая бярэць чарку, хрысціцца і кажа:

— Дай жа, божачка, нам усё харошае!

Выпівае, здароваючыся да ўсіх.

Бацька (ставіць пляшку на стол):—Можа, кум, яшчэ вып'еш?

Хросны:— Не, спасіба, кум! Гарэлка яшчэ ўперадзе. Выпіць яе многа — дабра мала. А вэн, калі тое, дык хрэсніку налі чарку.

Бацька (налівае чарку сыну):— Ідзі, мой сын, выпі: весялей будзеш.

Жаніх:— Я не хачу.

Хросны:— Несмысіль, выпі! Дакуль ты будзеш сароміцца. (Ледзь не сілком прымушаюць яго выпіць.)

Бацька (да кума):— А можа, кум, вып'еш чарку?

Хросны:— Ды не, спасіба! Досыць. Давайце-ка к дзелу скарэй. Сабірайце хлеб-соль.

Бацька (да маткі):— Лянь, та ж ты шчэ нічога не прыгатавала? А й ты ўжо забаўталась? Сказана то бабшчына. Ідзі скарэй.

Жонка паспешна ідзе ў клець і прыносіць адтуль кашэль, сплецены з лыка, два кавалкі лепшага сала і кладзе ўсё гэта на стол, а потым бацька адразае палавіну хлеба і кладзе яго ў кашэль, а таксама кладзе туды прынесенае сала і дзве пляшкі гарэлкі, зачыняе кашэль і кажа да кума:

— Ну, кум, на дарогу вып'ем?

— А ўжо, як хочаш,— кажа кум.— Выпіць дык і выпіць.

Выпіваюць і закусваюць. Пасля гэтага апранаюцца і хрысцяцца. Бацька жаніха кажа да хроснага:

— Не сярдзіся, кум, табе кашэль несць як свату.

Выходзяць з хаты. Калі дзяўчына, якую задумалі сватаць, жыве ў чужым сяле, дык запрагаюць каня і едуць, а калі яна з свайго сяла, то ідуць пехатою.

Калі сватаюцца ў іншай вёсцы, то, прыехаўшы ў вёску, дзе жыве дзяўчына, сваты зразу не заходзяць у хату яе бацькі, а да аднаго з яго суседзяў. Тут яны пакідаюць адзін кавалак сала і адну пляшку гарэлкі, апошняе з кашалём забіраюць з сабою і йдуць ужо да хаты, дзе жыве бацька нявесты. Там звычайна ўжо спяць (у тых выпадках, калі бацькі дзяўчыны чакаюць сватоў, кладуцца спаць раней наўмысля). Сваты, прыйшоўшы да хаты, не ідуць проста ў хату, нават і ў тым выпадку, калі вароты адчынены, а абавязкова пад вакно з вуліцы. Пастукаўшы ў вакно, кажуць:

— Добры вечар!

— Добрае здароўе! — адказваюць з хаты.

— Ці не пусціце нанач? — гавораць сваты.

— Можна,— зноў адказваюць з хаты.

У хаце падымаецца маленькая мітусня. Матка дзяўчыны (нявесты) упаўголаса да свайго мужа кажа:

— Падажджы, не адчыняй! Ета ж сваты ідуць.

Потым да дачкі:

— Скарэй, мая дачка, дай белую скацерсць стол заслаць.

Матка засцілае настольнікам стол, дачка (калі яна тут прысутнічае), падаўшы настольнік, барджэй на печ, а бацька ідзе адчыняць вароты. Сваты ўваходзяць у хату. Бацька нявесты запытвае іх:

— Што ж вы к нам ходзіце так позна?

Сваты адказваюць:

— Мы спазніліся ў дарозе. Вы не сумлівайцесь, нам ваша ні вячэра... ні што не трэба. У нас усё ёсць — і хлеб, і сала, і гарэлка. Калі вы добрыя людзі, дык і вам па чарцы дадзім.

У гэты час сваты вынімаюць з кашаля хлеб, сала і гарэлку і ставяць на стол. Сваты пачынаюць зноў:

— Мы хацелі б вашу нявесту пабачыць і пасватаць яе. Як бы вы нам паказалі яе.

Пасля некаторага перапынку сваты гавораць:

— Дык што ж, сват, аддасцё за нашага сына сваю дачку, ці не?

Бацька нявесты, калі ён чакаў іх і жадае аддаць, адказвае:

— Дык што ж? Не за намі: калі друг другу падабаюцца, і мы к таму. Няхай з богам жывуць! Няхай бог памагаець!

Калі жадання няма, то адказвае так:

— Не ведаю,— і, зварочваючыся да жонкі, кажа:

— Ну, баба, што будзем дзелаць?

Жонка гаворыць:

— Ну, няхай сабе хлеб-соль пастаіць да вечара, а тут параімся, абрадзімся. Можа хто вам адраіць нашу нявесту, а можа нам вашага жаніха хто адраіць.

У апошнім выпадку сваты зараз жа ідуць дадому да наступнага вечара. Часта бываюць выпадкі, калі бацькі і жадаюць выдаць сваю дачку, але згоды пакуль што не даюць, каб сваты вечары два-тры пасваталі іх дачку.

Калі бацькі нявесты выкажуць згоду зразу, то бацька яе гаворыць так:

— Ну, што ж, мая дачка, ляжыш на печы? Злазь! Пагавары з жаніхом. Калі адзін другому падабаецесь, няхай бог памагаець, і мы к таму.

Дачка адказвае (калі згодна):

— Што там гаварыць з жаніхом, калі аддаецē, я й пайду.

Бацька кажа:

—Ну, дык злазь, мая дачка! Мяці хату, ды й богу будзем маліцца. Ідзі, заві матку хросную, бацьку хроснага, заві людзей. Нечага людзям ночы караціць. Пагуляем ды й на оддых.

У выпадку нязгоды нявесты, апошняя на запытанні бацькі нічога не адказвае і на яго прапанову вымесці хату злазіць з печы і пачынае месці хату, пачынаючы ад стала к дзвярам, дык гэтым самым яна выказвае сваю нязгоду. А калі згодна, то мяце наадварот.

Калі бацькі нявесты і сама нявеста выкажуць сваю згоду, зараз жа пачынаюць гуляць «заручыны», на якія запрашаюцца хросныя бацькі нявесты, яе таварышкі і родзічы.

Хросных запрашае сама нявеста з жаніхом. Уваходзячы ў хату, нявеста кажа:

— Мам! (альбо «Тат»), сабірайцеся ка мне на заручыны.

Дзяўчат і іншых родзічаў заклікае адна з таварышак нявесты. Падыходзіць яна да вакна хаты, стукае ў вакно і кажа:

— Добры вечар! Прасіла вас Параска на заручыны, на чарку гарэлкі.

Звычайна дзяўчаты і хлопцы збіраюцца ў хату суседа нявесты, а ў хаце яе бацькоў, акрамя сватоў, збіраюцца хросныя нявесты і суседзі. Іх саджаюць за стол, на які падаецца хлеб і накрышанае сала. Бацька нявесты бярэ пляшку гарэлкі, першую чарку налівае сабе і, зварочваючыся да бацькі жаніха, кажа:

— Ну-ка, сваток, дай жа бог, штоб нашы маладыя адзін другога любілі і нас, старых, пачыталі, паважалі!

Бацька жаніха адказвае:

— Няхай жа бог даець, і мы б етаму былі рады!

— Ну, будзь здароў!

—Пі на здароўе!

Тут жа пакуль што прысутнічаюць нявеста і жаніх. Нявесце даецца першая чарка пасля сватоў. Пасля гэтага жаніх з нявестаю ідуць к суседу, а там ужо сабраліся дзяўчаты і хлопцы. Пры з'яўленні іх дзяўчаты пяюць:

Сягодні нам заручынкі бог даў.*
Заручылі дзеўку проці панядзелку, бог нам даў,
Пашлі дары на ўсе двары, бог нам даў,
Рэзалі падаркі з тонкія кітайкі, бог нам даў.

Гэтую песню таксама спяваюць і бабы ў бацькі нявесты, седзячы за сталом: «Дайце ж і нам пець, а то не будуць знаць, куды дзеўку весць». У суседа, дзе знаходзіцца моладзь, спяваюць такія песні:

Вумная дзіцятка Параска,
Не відаўшы свёкра, ўвазнала,
Родным бацькам назвала:
— Татачка мой родневькій!
Спраўляла дзежу мескую,
Асталась дураку сельскаму.

Куды ты, яблынька, нахілілась?
Чэраз тын, чэраз тын на вуліцу.
Ну, куды ты, Параска, ды задумала,
Ад бацькі, ад маткі к свёкарку.
Свёкраў хлеб пірагом пахнець,
А свякровіна капуста сыціцаю.
Бацькаў хлеб палыном пахнець,
А маткіна капуста гарчыцаю.

А ў хаце сватоў вядзецца такая гутарка.

Бацька жаніха (зварочваючыся да аднаго з гасцей):—«Сват! Схадзі, брат, за дзеўкамі! Дакуль нам тут сядзець. На табе пляшку гарэлкі, ідзі, вядзі ўжо іх».

Той ідзе ў хату, дзе дзяўчаты, аддае нявесце гарэлку (без закускі). Нявеста бярэ гарэлку і чаркаю абносіць сваіх таварышак і хлапцоў і раздае ўсю. У гэты час матка нявесты запальвае свечку, ставіць яе ў цэлы хлеб, кладзе на хлеб падарункі: сватам «шырынкі» (хусткі хатняга вырабу), а жаніху паркалёвую хустку. Нявеста ў кампаніі дзяўчат ідзе ў хату да маткі. Дзяўчаты ў гэты час пяюць:

* Кожны радок паўтараецца.

Ляцелі гусачкі — не крычалі,*
Толькі адна гусачка пракрычала,
Чуючы зімачку халодную,
Чуючы марозы траскучыя.
А йшлі дзевачкі — не плакалі,
Толькі адна Параска заплакала,
Чуючы свякрову журлівую,
Чуючы свёкарку клапатлівага.

Калі ўваходзіць нявеста ў хату маткі, дзяўчаты спяваюць:

Ступіла Параска на парог,
Махнула рукавом на падруг:
— Расступіцеся, падружкі,
Чым мяне свёкарка даруець?
Ці хлебам-соллю напярод,
Ці мілым другам на ўвесь век?

Матка аддае ёй хлеб з падарункамі. Нявеста стаіць з хлебам непарушна, а той, хто хадзіў за дзяўчатамі, па чарзе падводзіць дзяўчат да сватоў і запытваецца ў іх:

— Ці харош тавар?

Сваты адказваюць:

— Харош-то, харош, ды не наш. Пашукайце-ка там нашага тавару! Наш чысцей ды ясней (нявеста з свечкаю).

Потым другую дзяўчыну падводзяць:

— Ну, а ета, ваш тавар? Я шукаў, шукаў, не мог луччага найціць.

Яму адказваюць:

— Ета таксама харошый тавар, толькі не наш. Як не можна, пашукай нашага тавару! Хадзі-ка ты, во выпей чарку гарэлкі ды пашукай харашэнька нашага тавару.

Той выпівае і гаворыць:

— Цяпер ■ лучччы буду старацца, што б ваш найціць.

Потым зноў ідзе да дзяўчат і хлопцаў, раіцца з імі. Дзяўчаты абматваюць аднаму хлопцу галаву хусткаю і падводзяць яго да сватоў.

— Ну, чысцей етага ўжо нельга сыскаць.

Сваты кажуць:

— Ну, во што, сваток, выпей-ка ты яшчэ чарку ды вядзі ўжо наш тавар.

Той выпівае і падводзіць ужо нявесту з хлебам:

— Ну, а ета ваш тавар?

— Во, ета наш тавар!

За гэта наліваюць яму яшчэ чарку.

* Кожны радок паўтараецца.

Пасля гэтага нявеста раздае падарункі, якія ляжаць на хлебе. Першы падарунак падносіць будучаму свёкру. Свёкар перадае ёй чарку і налівае гарэлкі.

— Ну, тат, будзьце здаровы!

Каштуе гарэлку, але не п'е і перадае свёкру. Той таксама каштуе і аддае назад і гэтак тры разы. За трэцім разам нявеста вылівае гарэлку цераз сваю галаву. Гэта называецца «перапіваць». Потым дае свёкру падарунак. Свёкар, прымаючы падарунак, у сваю чаргу кладзе ёй на хлеб грошы і падарункам абводзіць тры разы вакол свае галавы, прыгаварваючы:

— Дай жа, божа, каб у нашых маладых жыта ў трубы вілося!

Свёкар перадае бутэльку свату. Той зноў налівае нявесце гарэлкі ў чарку. Яна таксама «перапівае» і з ім, вылівае гарэлку цераз галаву і перадае яму падарунак з той жа цырымоніяй. Нарэшце, сват налівае гарэлкі жаніху. Той, зварочваючыся да нявесты, гаворыць:

— Будзь здарова! І «перапівае» [illegible] ёю. Нявеста за трэцім разам вылівае гарэлку цераз правае плячо. Пасля гэтага нявеста перадае падарунак жаніху. Апошні, прыняўшы падарунак з рук нявесты, таксама абводзіць ім тры разы вакол сваёй галавы і кладзе ёй на хлеб грошы.

Дзяўчаты ў гэты час спяваюць:

Параска Змітраку хустку дала,
Накрыхмаліўшы крыхмалам.
— Стой, мая хустачка, калясом,
Пад Змітраковым паясом.

Пасля гэтага дзяўчаты збіраюцца ісці дадому. Свёкар нявесты, зварочваючыся да яе, гаворыць:

— На табе бутылку гарэлкі і крошку сала, пачастуй сваіх паднявесніц.

Нявеста тут просіць дзвюх-трох дзяўчат, сваіх таварышак, быць у яе паднявесніцамі, і з жаніхом вядуць іх да суседа на «чэсць» (пачастунак).

Сваты ў гэты час зварочваюцца да бацькоў нявесты і кажуць:

— Ну, сват і сваццял, спраўляйцеся тут, а мы пойдзем за «дабрыднем».

Ідуць дамоў альбо ў той двор, дзе раней застанавіліся, па гарэлку і сала. А матка нявесты, застаўшыся ў хаце, смажыць яечню. Сваты вяртаюцца, прычым, уваходзячы ў хату, вітаюць гаспадароў незалежна ад часу сутак: «Добрый дзень!»

Сваццял (матка нявесты) ставіць на стол яечню, і пачынаюць гуляць «дабрыдзень», на якім застаюцца толькі запрошаныя

госці. Тут, у гэты час, за сталом сваты вызначаюць дзень вяселля і гавораць аб пасагу:

— Ну, што ж, сват, я за сваёю дачкою дам тое, што людзі даюць: карову, авечку, свінню і г. д.

Згаварваюцца таксама, з чыйго боку колькі будзе «прычэтнікаў» (удзельнікаў на вяселлі), каб ведаць, колькі каму рыхтаваць трэба гарэлкі і іншага.

— Я думаю, што з тэй рукі двары два і з тэй рукі двары два — і будзець: на што нам багата.

Гэтым і заканчваюцца заручыны.

Паміж «заручынамі» і вяселлем звычайна праходзіць тыдзень. Як у нявесты, таксама і ў жаніха ідзе падрыхтоўка да вяселля. Папершь за ўсё бацькі жаніха абіраюць для вядзення вяселля «дружка» (кіраўніка вясельнага свята), здольнага, які добра ведае ўсе вясельныя абрады; бо ад таго, які будзе «дружок», залежыць і парадак і ўрачыстасць вяселля. Калі хросны, які хадзіў сватаць, уладае такімі здольнасцямі, то запрашаюць яго. У адваротным выпадку абіраюць другога. Потым дагаварваюцца з папом, «скамарохамі» (музыкамі). Рыхтуюцца гарэлка і розныя стравы.

У бацькоў нявесты таксама ідзе падрыхтоўка: нявеста і яе паднявесніцы шыюць жаніху бялізну, «вянчальнае плацце» нявесце, вышываюць рушнікі, нарыхтоўваюць падарункі і г. д. Тут работа ідзе з песнямі. Паднявесніцы і іншыя дзяўчаты спяваюць нявесце і жаніху вясельныя песні, як бы робяць пробу да вяселля. Нават дзяўчынкі-падлеткі на вуліцы або каля вёскі, пасучы цялят, спяваюць жаніху і нявесце вясельныя песні. Словам, вяселле ўносіць у аднастайнае жыццё вёскі шмат ажыўлення і ахоплівае ўсіх.

Матка жаніха на працягу гэтага тыдню два-тры разы возіць або носіць нявесце «заўтрыкі»— ежу і гарэлку.

Увечары, напярэдадні шлюбу, у доме жаніха збіраюцца запрошаныя госці, асабліва тыя, якія павінны будуць паехаць («паяздджані») з жаніхом да нявесты, а потым к «вянцу». Гасцей саджаюць за стол, «часцяць» гарэлкаю і закускаю, а бабы спяваюць:

Гарнастай Змітрачочык, гарнастай маладзенькій!
Па застоллейку ходзіць,
Свайго татачку просіць:
— Жані мяне, татачка,
Жані мяне, родненькій!
Не пазні мяне ў доме:
Мая цёшчухна горда,
Ды не ўспусціць мяне на двор
І з канём, і з поездам,

І з канём, і з поездам,
І з чырвоным поясам.
— Зімтрачочак, мой сыночак!
Прыламі тынінаку,
Успусці радзіначку,
Прыламі і другую,
А і ўвалезь з канём на двор,
І з канём і з поездам,
І з чырвоным поясам.

Прыблізна аб адзінаццатай гадзіне з такім разлікам, каб быць у нявесты прыблізна ў поўнач, жаніх з дружком і «паязджанямі» едуць на «суглядыі нявесты».

Сугляды нявесты. У нявесты таксама ўвечары, напярэдадні шлюбу, гуляюць «сугляды». Бацькі нявесты збіраюць сваіх родзічаў, асабліва хросных нявесты і тых, хто павінен прыняць удзел у вясельнай цырымоніі («паязджані», «вячэрнія» і г. д.). Родзічы збіраюцца ў хаце бацькі, п'юць гарэлку і закусваюць. А нявеста ў гэты час збірае сваіх таварышак і наогул моладзь у хату суседа, дзе дзяўчаты, асабліва паднявесніцы, прыбіраюць нявесту да шлюбу і спяваюць песні.

Бабы ў бацькі за сталом таксама спяваюць:

Параска мамачку вон высылала: (2)
— Выйдзі, мамачка, за вароцікі!
Прыляж, мамачка, к сырой зямлі!
Паслухай, мамачка, вярнёшанька,
Ці не шуміць дуброва зялёная,
Ці не стогнець дарога шырокая,
Ці не едуць баяры палкавыя,
Ці не вязуць к нам князя маладога?
— Сабірайся, дачушка, паскарэй!
Шуміць дуброва зялёная,
Стогнець дарога шырокая,
Едуць баяры палкавыя,
Вязуць к нам князя маладога.

А дзяўчаты ў суседа, прыбіраючы нявесту, спяваюць:

На моры вутачка купалася, (2)
На бярозе вутачка сушылася.
Прыляцеў селязенька, паў каля яе.
— Ці сусім, вутачка, пакупалася?
— Я ўжо цябе, селязенька, прыждалася.
У каморы Параска сабіралася,
Сабраўшыся, за стол села.
Прыехаў Зміітрачок, сеў каля яе.
— Ці сусім, Параска, сабралася?
— Я ўжо цябе, Зміітрачочак, прыждалася.

Прыблізна каля гэтага часу рушыцца «поезд» ад жаніха к нявесце са спевамі. Едучы па вуліцы, бабы пяюць:

Як пусцім стралу па сялу,(2)
Праб'ём сценачку камянну,
Возьмем Параску маладу.
Каменна сцяна гнісць будзець,
А наша Параска жыць будзець.
Каменна сцяна нагніецца,
А наша Параска нажывецца.

Едучы полем, спяваюць так:

Воран, не воран, чорненькі! (2)
Не пералятай дарогі:
Падтопчам цябе пад ногі, (2)
Пад чырвоныя чабаты,
Пад здаровыя жываты.
Чырвоныя чабаты гнісць будуць,
А нашы жываты жыць будуць.

Пад'язджаючы к двару нявесты, пяюць:

Лятаў саколік кругом шатра,
Пытаў саколік, куды ў шацёр.
Цяпера ездзіў Зміграчок,
Пытаўся ў Парасхі, куды на двор!
Дурачок Зміграчок, неразумненькі,
Адчыні вароты, уз'едзь на двор.

У гэты час дзяўчаты ў нявесты, пачуўшы прыезд жаніха, пяюць:

На церам Параска зыбнець, зыбнець. (2)
З церама Параска бяжком бяжыць.
— Запірай, мамачка, вароцікі,
Ай, едзець к табе вайна на двор,
Тая цябе военка разваюець,
Мяне маладую ў палон возмець.
Ай, палын, палыночак, Зміграчочак,
Палынянка, палынянка, Парасачка.

Калі «поезд» жаніха ўз'едзе к нявесце на двор, «свацці» (бабы, што прыехалі з жаніхом) спяваюць:

Пусці, свацюхна, ў хатыхну, (2)
Ай, будзем сядзець у запечку,
Ай, будзем глядзець праўдачку:
Як любыя госцікі мядок п'юць,
А нялюбыя гарэлку,
Што прыехалі па дзеўку.

А бабы, якія сядзяць у хаце за сталом, адказваюць ім песняю:

Мы думалі, што прыехалі, (2)
Ажно пяшком прышлі, (2)
Жаніха ў мяшку няслі, (2)
А ногі тырчалі,
І сабакі бурчалі.

Матка нявесты выварочвае футра шэрсцю ўверх, апранае яе, на галаву — шапку, бярэ ў рукі хлеб цэлы, у які ставіць манету і запаленую свечку, і разам з мужам ідуць сустракаць жаніха. Сваццi, якія прыехалі з жаніхом, спяваюць:

Выйдзі, выйдзі, цёшчухна гарбата,
Сустрэнь, сустрэнь свайго зяця багата.

Або:

Выйдзі, выйдзі ты, цёшчухна сапліва,
Сустрэнь свайго зяця шчасліва.

А ў хаце бабы спяваюць:

Чэраз шчыр-бор ехалі,
Чаму хвошчу не нарвалі,
Чаму князя не ўмывалі?
Ай, ваш князь, як пень, чорны,
А наша княгіня, як сыр, яна бела,
Як сыр бела, як папера.

З прыезджых ніхто не павінен яшчэ ўваходзіць у хату. Калі матка прыбярэцца, яна з мужам ідзе сустракаць, трымаючы ў руках хлеб, а муж трымае бутэльку гарэлкі і чарку. Спатканне робіцца на парозе дзвярэй. Бацька нявесты налівае чарку гарэлкі і, зварочваючыся да жаніха, гаворыць:

— Будзь здароў! І «перапіваецца» з жаніхом. Пасля трэцяга разу жаніх вылівае гарэлку цераз плячо.

Гэтакая самая цырымонія і з маткаю нявесты. Пасля гэтага бацька нявесты гаворыць:

— Ну, просім к сабе ў хату!

Ідуць у хату цешча з сваім хлебам, а зяць з сваім, ставяць хлябы на стол. Услед ідуць дружко і жаніховы родзічы і сваткі, якія пяюць:

Дружко на парог лезець (2)
Ды ў печ паглядаець: (2)
Ці густа капуста, (2)
Ці бальшэй гаршчок кашы,
Ці паядаюць нашы.

Далей пяюць так:

Ай, сваціохна міла,*
Расшыр хату шырэй,
Калі мы не ўлезем,
Палавіна барады ўрэжам.

Госці жаніха пакуль што стаяць, а госці нявесты сядзяць за сталамі і прапануюць прыезджым адкупіць у іх «застолле». Дружко налівае чарку гарэлкі з уласнай бутэлькі, выпівае і па чарзе дае па чарцы тым, хто сядзіць за сталом. Апошнія вылазяць з-за стала. На куце да вуліцы засцілаюць лаўку футрам шэрсцю ўверх, і дружко садзіць жаніха з «паджанішнікам», прычым дружко бярэ за руку паджанішніка, а апошні жаніха: вядзе іх вакол стала і садзіць жаніха на футра, пакідаючы з левага боку месца для нявесты, а паджанішніка садзіць побач з жаніхом, з правага боку, на голую лаўку. Калі жаніх садзіцца, яго сваякі пяюць:

Калі б мы зналі, дзе Змітраку сесць, (2)
Лаўку б памылі і шоўкам слалі.
Калі б мы зналі, дзе Парасцы сесць,
Лаўку б не мылі, гвоздзя набілі.

Дружок дае свайму памочніку бутэльку гарэлкі і пасылае яго па нявесту. Пасланец, прыйшоўшы ў хату да суседа, дзе нявеста з моладдзю, аддае ёй гарэлку, і яна па чарцы налівае сваім таварышкам і хлопцам. Пасля гэтага памочнік дружка хоча ўвесці нявесту, а хлопцы не пускаюць, каб больш далі гарэлкі:

— Мы за ету гарэлку нявесты не дадзім.

Часта бываюць выпадкі, што ім прыносяць яшчэ гарэлкі. Калі нявесту вядуць у хату бацькі па вуліцы, дзяўчаты пяюць:

Ляцелі гусачкі чэраз сад,
Крыкнулі, гукнулі на ўвесь сад,
Пара вам, гусачкі, сесць на пасад.
Ішлі дзевачкі цераз двор,
Крыкнулі, гукнулі на ўвесь двор,
Пара вам, дзевачкі, сесць за стол.

Увайшоўшы ў хату, пяюць так:

Паглядзі, Параска, ў вяршок,
Твой Змітрачок, як мяшок.
Паглядзі, Змітрачок, у ваконца!
Вэн твая Параска, як сонца.

Дружок бярэ нявесту за руку і вядзе яе за стол, а нявеста вядзе за руку сваіх паднявесніц, садзіцца сама на падрыхтаванае

* Кожны радок паўтараецца.

месца, на футра («каб багата жылі маладыя»), а паднявесніцы побач. Такім чынам, жаніх і нявеста сядзяць побач на футры, паміж паджанішнікам і паднявесніцамі. Тады дружок гаворыць жаніху:

— Бяры нявесту сваёю леваю нагою за правую нагу нявесты і дзяржы крэпка, штоб сабака не пралез.

Маладыя сядзяць так за сталом да канца. Дзяўчаты, сеўшы за стол, пяюць:

Як пашоў сад-вінаград па заявіллю, (2)
Сцелючы лісточак па сырой зямлі. (2)
Як пашла Параска па застоллейку,
Сцелючы скацерсці бялёвыя,
Ронючы слёзачкі гаручыя.
Слёзачкі з скацерсці капаюцца,
Парасцы ад мамачкі не хочацца,
Слёзачкі з скацерсці пакаціліся,
Парасцы ад мамачкі захацелася.

Пачынаюцца «сугляды». Матка нявесты падносіць у рэшаце падарункі ад нявесты, дае дружку «тарэлку» (кружок), абматаную ў палатняную хустку, кладзе на гэтую «тарэлку» ад імя нявесты падарунак жаніховай матцы — будучай свякрусе. Дружок, трымаючы гэты падарунак, як і іншыя, на «тарэлцы», крычыць:

— Ці ёсць, ці няма тут жаніховыя маткі *, нявесціныя свякровы! Што б яна ласкава была, сюды прышла, ды етый падарунак прыняла, маладым добры атвет аддала. А калі яе тут няма, можа хто з яе родзічаў ёсць?

І так па чарзе ўсім сябрам сям'і жаніха, а потым і апошнім гасцям, каму падрыхтаваны былі падарункі. Падарункамі служаць: кусок палатна, хусткі, «шырынкі». За адсутных атрымліваюць іх сваякі. Той, хто атрымаў падарунак, атрымліваў яшчэ чарку гарэлкі, а падарункам тры разы абводзіў у паветры вакол сваёй галавы. У час раздачы падарункаў паднявесніцы пяюць:

Казалі, Параска — негадзяй,
А яе падаркі, як кітай,
Яна раненька ўставала,
Тоненька вытрахала.
Яна бялёшанька бяліла,
Змітраковай радзіне гадзіла.

Калі падарункі раздадзены, тады нявесціна матка гаворыць дружку:

— Ну, сваточкі, за мае падаркі наліце мне ета рэшата гарэлкі.

---

* Дружко кожнага называе па імю і імю па бацьку.

— Як жа, сваценька, мы ў ета судзенца можам гарэлкі наліць? Мы ета судзенца можам залатым пазалаціць.

Дружко кладзе ў рэшата грошы (1—2 рублі), і яна ідзе ад стала.

Пасля гэтага пачынаюць дарыць нявесту. Дружок, падымаючы тую ж талерку, крычыць:

— Сваццця, хадзі сюды! (Падыходзіць.) Ну, чым жа ты будзеш сваіх дзяцей даравацць? Ці канём, ці валом, ці хлебам-соллю, ці добрым здароўем?

Матка нявесты нясе цэлы хлеб і кладзе на талерку, а дружок гэтую талерку нахіляе перад нявестаю, і хлеб лажыцца перад ёю.

Дружок кажа:

— Даруе вас ваша матка хлебам-соллю і добрым здароўем.

Такім чынам заклікаецца і бацька нявесты, які таксама кладзе на талерку той самы альбо другі хлеб, з той жа цырымоніяй. Пасля гэтага дружок, зварочваючыся да ўсіх гасцей і падымаючы талерку, крычыць:

— Даруйце, спамагайце — маладога князя, маладую княгіню. Хто будзець даравацць, таму будзем пабагату гарэлкі даваць. А хто не будзець даравацць, дык у таго будзем коз грабіць!

Паднявесніцы ў гэты час пяюць:

Даруйце, дзядзечкі, даруйце,
Па палцінічку гатуйце!
Даруйце, цётачкі, даруйце,
Па намётачцы гатуйце!
Маладога князя спамагайце,
А ў шчаслівую гадзіну
Па харошаю дружыну.

Госці звычайна даруюць грошы (5—50 кап.), кладуць іх на талерку, дружок нахіляе яе перад нявестаю, грошы кладуць перад ёю на стол, а дружок гаворыць да нявесты:

— Даруець цябе жаніхова цётка (імя) етым красным, ясным падаркам, штоб вы ласкавы былі, етый падарак прынялі, а ім добрый атвет аддалі.

Такая цырымонія пры кожным падарунку. Калі даруюць слаба, дружок крычыць на ўсю глотку:

— Хто забыў? Хто забыў! Хто прыбыў?! Даруйце, спамагайце, маладога князя, маладую княгіню! Хто будзець даравацць, таму будзем па 10 чарак гарэлкі даваць!

Часта даруюць і незапрошаныя госці, якіх на вяселлі вельмі багата, з мэтаю выпіць гарэлкі, а некаторыя прыходзяць паглядзець ды паскакаць.

Дараванне — самы шумны момант вяселля: дружок крычыць сваё, дзяўчаты спяваюць песні, музыка іграе, сваткі скачуць з прыпеўкамі. І ўсё гэта ў адзін і той самы час.

Прыпеўкі:

Я гуляю, весялюся (2)
Ды нікога не баюся: (2)
У мяне мужа няма,
Я хазяечка сама. (2)

Які скамарох,
Такое ігранне,
Павёў казу ў лазу,
На цэлае ранне. (2)

Водаль, водаль,
Не стапчы мае нагі, (2)
Водаль, водаль,
Не надзелай мне бяды. (2)

Іграй, скрыпка, ды не дзёргайся,
Пап'ём, паядзім ды разойдземся.
Іграй, не дуры, (2)
Дарма грошы не бяры. (2)

Пасля таго, як аддаруюць, дружок закідвае пояс на шыю нявесце, а паднявесніцы рукамі два разы адкідваюць яго. Ужо за трэцім разам дружок закідвае пояс, а паднявесніцы пяюць:

Казалі, сваты багаты,*
Прывязалі паясок, як матузок.
Наша нявеста таўстая,
Палавіна пояса не стала.
Дайце лычачка надзяваць,
Хоць Змітрачку штаны падвязаць.

Дружок падпяразвае нявесту і хоча надзець ёй на галаву шапку, паднявесніцы два разы адбіваюць, але за трэцім разам надзявае. Паднявесніцы пяюць:

Знаць твае, Параска, няшчасце,
Што твая шапачка не красна.

Пасля гэтага паднявесніцы вылазяць з-за стала і пачынаецца продаж нявесцінай касы. Брат нявесты (часта хлопчык-падлетак)

* Кожны радок паўтараецца.

або суседа хлопчык становіцца за плечы нявесты з лучынкаю ў руках, а дружок пагражае яму пугаю:

— Я цябе пугаю буду сеч!

— А я табе шабляю галаву адсяку! — пагражае ў сваю чаргу хлопчык.

Дружок ставіць на талерку чарку гарэлкі і кладзе грошы. А хлопчык гаворыць:

— Мала! Не аддам касы, пакуль не паложыш большы.

Дружок кладзе яшчэ грошы. Хлопчык бярэ грошы, выпівае гарэлку і вылазіць з-за стала. Гэтым заканчваюцца «сугляды». Маладыя вылазяць з-за стала і ідуць да суседа, дзе яны з паджанішнікамі і паднявесніцамі «абедаюць». У бацькі нявесты саджаюць за стол сваякоў жаніха і нявесты і частуюць без песень. Гэта бывае звычайна ўжо раніцою. Пасля закускі рыхтуюць вясельны «поезд» да царквы. На двары ўперадзе ставіцца фурманка дружка, другая для жаніха з паджанішнікам, трэцяя для нявесты з братам («павознікам»), чацвёртая для паднявесніц, пятая для сватак, шостая для музыкаў і г. д.

А ў гэты час у хаце бацькі нявесты збіраюцца маладыя і ўсе тыя, хто павінен ехаць да царквы. Дружок гаворыць да нявесты:

— Кланяйся, нявеста, у зямлю перад вобразам, а тады кланяйся матцы, бацьку, і хросным, і родным!

Нявеста кланяецца, а за ёю і жаніх. Паднявесніцы ў гэты час пяюць:

Стань, мая мамачка, ў парозі!
А ўжо мы ў цябе ў дарозе.
Прыступ, мамачка, блізенька,
Пакланюсь табе нізенька.
Ай, нізка, нізка — да зямлі,
Коскаю зямельку ўсцялю,
Слёзкамі ножачкі абдалью.

Дружок крычыць:

— Ацец і маці! Благаславіце сваіх дзяцей да божага храму ехаць!

Бацькі адказваюць:

— Бог благаславіць.

Дружко:

— Другім разам, добрым часам, благаславіце!

— Бог благаславіць.

— І трэцім разам, добрым часам, благаславіце!

— Бог благаславіць.

(Такім жа чынам бласлаўлялі і жаніха ў яго бацькоў, калі ён ад'язджаў да нявесты.)

Далей дружок гаворыць:

— Ну, ацец і маці! Станьце ў парозе, а мы ўжо ў вас у дарозе! І рушацца з хаты. Дзяўчаты пяюць:

Заграбай, маці, жар, жар! *
Калі табе дачкі жаль, жаль.
Заграбай, маці, попел!
А мы тваю дачку ўхопім.
Кладзі, маці, дровы!
Бывайце здаровы!

Нявеста і яе матка плачуць, як і пры некаторых іншых момантах вяселля. Выйшаўшы з хаты, усе садзяцца на павозкі, акрамя дружка, якога павозка становіцца ў самых варотах. З хаты выходзіць нявесціна матка ў шапцы і футры шэрсцю ўверх, з падвязаным фартухом, з якога яна бярэ зерне ячменю і «абсявае» ім «поезд». Абходзіць тры разы вакол «поезду» і кідае на фурманкі зерне, а дружок бяжыць за ёю, ляскае пугаю і крычыць:

— Даганю! Даганю!

Тады дружок перад сваім канём пугаю на зямлі тры разы робіць крыж і далей выпівае з маткаю нявесты.

Пасля гэтага «поезд» рушыцца з двара, а паднявесніцы пяюць:

У варот бяроза стаяла,*
Параска з двара з'язджала.
У бярозы вярхушку сарвала.
— Стой, мая бяроза, без верху!
Жыві, мая мамачка, без мяне,
Без русай касы без мае,
Без шаўковага ўплёта,
Без шаўковага, без майго.
Павесіла ўплёт на пераплёт,
Куды маёй мамачцы ў клець хадзіць.
У клець ідучы, забачыць,
А з клеці ідучы, заплачыць:
— То мае дачушкі ўплёт,
Павесіла мне на слёзы,
Яна етыя ўплёты,
Яна етыя насіла,
Падвор'е маё красіла.
Цяпер некаму насіці,
Падвор'е маё красіці.

Калі «поезд» выязджае з двара, цешча хутка зачыняе вароты і лічыць тых, хто застаўся на двары. Калі цотны лік людзей за-

---

* Кожны радок паўтараецца.

стаўся, значыць, дачка будзе жыць з мужам; а калі няцотны лік — дачка будзе ўдавою.

Вуліцаю «поезд» едзе шыбка, з музыкаю і спевамі. Пачуўшы шум вяселля, з усіх хат выбягаюць глядзець амаль што ўсе, як на якое-небудзь незвычайнае дзіва. Дзяўчаты і сваякі пяюць:

Ехала казакоў сем палкоў,*
А ўперадзе Зміграчок.
Назад пужкаю махаець,
Усіх казакоў здзяржаець:
— Стойце, пастойце, паноўе!
Усё Змітраковы братоўе!

У час царкоўнага абраду паджанішнік трымае вянец над жаніхом, а паднявесніцы па чарзе над нявестаю. Калі выходзяць з царквы, сваткі пяюць:

Спасіба папу і паповічу — (2)
Скоранька звянчаў, ды нядорага ўзяў.

Пасля вянца «поезд» едзе да жаніха, на «жаніховы сугляды». Едучы па вуліцы да жаніха, асабліва пад'язджаючы да двара, пяюць:

Узмятаўся рой пад гумном, (2)
І нявестачка грым на двор. (2)
А ці рой, раёчак аграбаць,
Ці нявестачку сустракаць?
А мы раёчак аграблі
І нявестачку сустрэлі.

Пры ўездзе ў двор пяюць:

Адчыняй, мамачка, новы двор!
Ай, едзець к табе сын на двор.
Адчыняй, мамачка, каморку,
Вязець табе сын патворку.

Злезшы з павозак і стаўшы каля дзвярэй, пяюць:

Запалі, маці, свечу, (2)
Выхадзі на сустрэчу! (2)
Сынок-сакалок едзець, (2)
Пераменачку вязець. (2)
Пераменачка ж мая, (2)
Ты ж нявестачка ж мая!
Туды-сюды пашлю,
А сама папярод пайду.

* Кожны радок паўтараецца.

Свякруха выходзіць з хаты ў футры шэрсцю ўверх і ў шапцы на галаве, з хлебам-соллю, з манетаю і свечкаю ў хлебе. Потым «перапіваюцца» — свякруха з нявестаю, а бацька з сынам тры разы, як у нявесты раней. Пасля гэтага дружок вядзе маладых у хату і, звяртаючыся да бацькоў жаніха, гаворыць:

— Ацец і маці! Благаславіце сваіх дзяцей за стол сесці!

— Бог благаславіць,— адказваюць бацькі.

— Другім разам, добрым часам, благаславіце!

— Бог благаславіць.

— Трэцім разам, добрым часам, благаславіце!

— Бог благаславіць.

Дружко бярэ за рукі маладых, абводзіць іх вакол стала і садзіць іх на лаўку, на якую, як і ў нявесты, рассцілаюць футра. Потым маладым даюць мёду есці («каб маладым салодка жылося»). Праз хвіліну бацька жаніха гаворыць:

— Ну, мой сын, бяры нявесту і вядзі к суседу на прыгатаваны абед.

Маладыя ўстаюць і ідуць да суседа, а з імі паджанішнік і паднявесніцы. Там яны разам абедаюць. А ў хаце свёкра садзяць за стол «паязджань» і даюць ім абед. Пасля абеду іграе музыка. Сваткі, а таксама дзяўчаты, што прыйшлі з вуліцы, і хлопцы скачуць. Сваткі скачуць з прыпеўкамі, таксама як у нявесты.

«Вячэрнія». Перад вечарам ад бацькоў нявесты прыязджаюць або прыходзяць «вячэрнія госці» (без бацькоў) і прывозяць ці прыносяць пасцелю для маладых. Ідучы па вуліцы, яны пяюць:

Хадзілі, брадзілі два браты,
Шукалі, пыталі сястрыцы:
— Дзе наша сястрыца дзелася?
Ні на галоўцы вяночка,
Ні ў русай касе шнурочка.

Падышоўшы да двара, пяюць:

Вы, кумачкі, галубачкі, чалом вам! (2)
Ці не заляцела наша курачка ўчора к вам? (2)
Вы не кышкайце, не шугыкайце, няхай вам,
Круп пасыпайце, вады палівайце — прывыкнець:
Вашы воды крынічныя — прывыкнець,
Вашы крупы пшанічныя — прывыкнець.

Дружок прыходзіць да іх і гаворыць:

— Прашу, госцікі, у хату!

«Вячэрнія» ідуць у хату і кладуць прынесеныя вузлы на «пол» (нары). Іх саджаюць за стол, даюць гарэлкі і закускі.

Пасля гэтага пачынаюцца «сугляды жаніха». Маладых саджаюць за стол з паджанішнікам (паднявесніц не садзяць). Даруюць жаніха таксама, як раней нявесту, толькі без падарункаў жаніха. З тымі ж песнямі і прыказкамі. Калі «аддаруюць» жаніха, маладыя вылазяць з-за «сталля». Тады бацька маладога запрашае ўсіх гасцей, як нявесціных, таксама і сваіх, сесці за сталы, і ім выдаюць «вячэру», без усялякіх абрадаў і прыказак.

Пасля вячэры адбываецца абрад «вярчэння» маладухі. Дружок пытаецца ў нявесты:

— Ну, што ж, маладая, хочаш сесці на дзяжу, штоб цябе вярцелі? (Завівалі валасы.) А можа ты недастойна, штоб цябе вярцелі? (Калі дзяўчына згубіла дзявочую непарушнасць, то гэтага абраду не робяць.)

Калі нявеста была непарушана, то адказвала:

— Хачу! Я нічога не баюся.

А калі маладая не мае непарушанасці, то замінаецца і кажа:

— Не ведаю, што мне тут дзелаць?

У першым выпадку выкочваюць калодку на хату, ставяць на гэтую калодку дзяжу, пакрываюць яе футрам уверх шэрсцю, і маладая садзіцца на футра. Дружко бярэ грэбень, расчэсвае ёй валасы і прыпальвае іх «вянчальнаю» свечкаю накрыж (каля лобу, патыліцы і віскоў). Дружку падаюць дзве прадзі льну для «тканкі». Дружок перадае гэты лён сваткам і гаворыць:

— Ну, бабы, вярціце валасы маладой!

Сваткі скручваюць з ільну жгут і вакол яго завіваюць валасы маладухі, спяваюць:

Завяжам маладушачку
Змітрачку на йгрушачку.
Іграй, Змітрок, іграй,
Ды нікому не давай!..

На галаву маладой надзяваюць чапец, а потым абвязваюць галаву наміткаю канцамі назад.

Свахі пяюць:

Ай, там, там ды па ельнічку,
Ай, там, там па бярэзнічку.
Ай, там жаўнер жаўну вядзець,
Заматаўшы ў бяросцінку.
Ай, стук, грук ды па новенькіх.
Ай, там Змітрок ды Параску вядзець.
Завярцёмшы ў намётачку,
Як белую лябёдачку.

Свахі сцелюць маладым пасцелю ў клеці або ў хаце. Туды перадаецца і сарочка маладой, прынесеная «вячэрнімі» ад яе мат-

кі. Гэтую сарочку маладая надзяе ў прысутнасці сватак і сваячак жаніха. Свашкі пяюць:

Саўём мы, саўём мы
Салавейку гняздо,
Штоб яму, штоб яму
Цёпленька было.

Паклаўшы маладых, пакідаюць іх адных і расходзяцца па дамах. Назаўтра раніцай маладыя ўстаюць. Малады ідзе да свае маткі і кажа ёй:

— Ну, матка, ідзі маю бабу абглёдзь!

Матка з свашкамі ідзе сведчыць ложа маладых. Далей дзеянне адбываецца ў залежнасці ад таго, была ці не была непарушана маладая. У першым выпадку перадаюць дружку, што «дзела хараша». Тады дружок і малады едуць па цешчу, пры гэтым дружка ўхарашваюць чырвоным поясам, прычэпліваюць на дугі чырвоныя істужкі. Прыехаўшы да цешчы, малады ёй і цесцю кланяецца ў ногі. Дружок мые рукі і гаворыць:

— Ну-ка, сваццця, дай-ка рушнік!

Цешча падае «шырынку» або кусок палатна. (Гэта ва ўласнасць яму.) Цешча таксама рада: смажыць яечню, каўбасы і частуе свайго маладога зяця і дружка. Пасля гэтага дружок гаворыць:

— Ну, збірайцесь-ка самі, завіце сваіх гасцей ды прыязджайце к нам!

Дружок і малады зварочваюцца назад, да бацькі жаніха.

А цешча, сабраўшы «прыданых», частуе іх, потым, узяўшы «заўтрык» — хлеб, сала, бутэльку гарэлкі, парасёнка смажанага, а таксама міску, лыжку, лубку маладой у грыбы хадзіць,— з мужам і гасцямі едзе да маладога гуляць вяселле далей. Едучы па вуліцы, спяваюць:

Мяцеліца дарожачку замяла, (2)
Параскіну радзіначку заўняла.
Ускоч, ускоч, Змітрачочак, на каня,
Пралож, пралож дарожачку да сяла.
Ай, да сяла, да (ця)сцёвага да двара,
А штоб мая радзіначка тут была,
А хуць рана, хуць не рана,
А я рада, што радня.

Прыехаўшы на двор, пяюць:

Выйдзі, выйдзі, Парасачка, з церама! (2)
Выведзь, выведзь радзіначку з сарама. (2)

Параска выходзіць з вобразам на галаве і кланяецца ў ногі матцы і бацьку, яны яе падхопліваюць, а з другімі Параска цалуецца. Тады вядуць гасцей («прыданых») у хату, саджаюць іх за стол разам з жаніховаю раднёю. Гэта ўсё робіцца так у тым выпадку, калі маладая была непарушана.

Зусім іншае бывае ў адваротным выпадку. Калі сваткі, зрабіўшы агляд пасцелі маладых, абвяшчалі, што «дзела» дрэнна,— дружку вешаюць на плечы старыя разбітыя лапці, а ў нехаторых вёсках надзяваюць яму на шыю хамут. Малады ходзіць насупіўшыся, а сваткі пяюць крыўдныя песні.

А калі едуць па цешчу, то дугу так не ўхарашваюць, як у першым выпадку. На дугу вешаюць разбітыя старыя лапці («ашмёткі»), і дружок едзе толькі адзін, без жаніха.

З прыездам «прыданых» вяселле адбываецца далей. Прыехаўшыя ставяць прывезенае на стол і дзеляць гэты «заўтрык» усяму жаніховаму роду. Аддаюць маладой міску, лыжку і лубку. Маладых таксама саджаюць за стол. Бацькі маладога дзеляць каравай гасцям. Сваткі пяюць:

Каравай жа наш маляваны, маляваны,
Малявалі яго сталяры, сталяры,
І з дальняе стараны, стараны.

Караваем называецца белы пшанічны хлеб, спечаны раней або куплены на рынку і прыбраны папяровымі кветкамі. Пячэнне каравая ў Касцюковіцкім раёне адбываецца без асаблівых цырымоній.

Пасля каравая маладую прымушаюць пячы аладкі. Пасля гэтага маладую ганяюць да калодзежа па ваду. Перад гэтым дружок, калі маладая была непарушана, бярэ аладкі ў чырвону хустку, а ў адваротным выпадку ў рэшата і кажа:

— Ну, маладая, бяры-ка вёдры, пойдзем па ваду!

Маладая бярэ вёдры на плечы і ідзе за дружком да студні, а за ёю ўсе госці.

Сваткі пяюць:

Пагонім Параску па ваду,*
Паб'ём вядзёрцы на ляду.
Наш Змітрачок бондар быў,
Пабіў вядзёрцы на ляду,
Узяў Параску маладу.

Прыйшоўшы да калодзежа, маладая раскідае аладкі, а дзеці хапаюць іх. Маладая бярэ ваду і нясе яе ў двор свёкра.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Пасля гэтага ходзяць па «банкетам» сваякоў маладога, г. зн. усе госці з музыкаю, спевамі, скокамі і прыпеўкамі ходзяць па хатах сваякоў маладога. Там частуюцца і весяляцца З гасцямі ходзяць і маладыя.

На другі дзень да цешчы вязуць «пірагі»: тры буханкі хлеба, кавалак сала і пляшку гарэлкі. Хлеб кладуць на чырвоную хустку і потым у лубку ў тым выпадку, калі маладая была непарушана. Калі ж не — на хустку не кладуць, а проста ў лубку. Калі «пірагі» кладуць у лубку, а таксама калі едуць па вуліцы да цешчы, у першым выпадку пяюць:

Не ўцяшайцеся, урагі, (2)
Што не вязець Параска пірагі, (2)
Чырвоным сукном аббіўшы,
Кітаечкаю накрыўшы.

Уехаўшы на двор цешчы, у першым выпадку сваткі пяюць «вялічча»:

А вялічча наша Параска,
Узвялічыла два двары:
А першай жа двор татачкаў,
А другій жа двор свёкаркаў.

У другім выпадку «вялічча» не пяюць, на дугу чапляюць «ашмёткі».

У першым выпадку прыехаўшым насустрач выходзяць бацькі маладой і гавораць:

— Просім гасцей к нам у хату!

А ў другім выпадку бацькі не выходзяць, а гасцей вядзе ў хату сам дружок, якому на шыю надзяваюць хамут.

Калі маладая была непарушна, сваткі, увайшоўшы ў хату, становяцца на лаўкі і пяюць:

Ай, гоцнем, гоцнем, дый на гарнец віна!
А вялічча наша Параска і г. д.

Потым пяюць такія песні:

Спасіба, сваццяа, за дачку,
Што блюла дачку ў хвартучку!
Ці не было на яе прычыны,
Калі яна добрае радзіны?
Ці не было на яе славачкі,
Калі яна добрае мамачкі?

Свахам гэтым даюць гарэлкі, і яны злазяць з лавак і гуляюць разам з іншымі: дзеляць прывезенае, п'юць і скачуць з прыпеўкамі. У другім выпадку свахі не лазяць на лаўкі і не спяваюць до-

брых песень, а ўсё дрэнныя, крыўдныя. У першым выпадку бацькоў маладой саджаюць на кут і частуюць, а ў другім — становяць ступу і за яе саджаюць бацькоў маладой. Пасля гэтага ходзяць па «банкетам» сваякоў маладой, таксама як і ў сваякоў маладога. Гэтым і заканчваецца вяселле. Пры раз'ездах гасцей дадому яны пяюць:

Паедзем двору, дадому,*
Што паелі коні салому
І ўсю ячную атору.
Што сена клачок — пятачок,
Саломы былінка — грывінка.

## ВЯСЕЛЛЕ [У АСІПОВІЦКІМ РАЁНЕ]

### Запісаў А. Немцаў

Шлюбны працэс складаецца з чатырох галоўных момантаў: 1) барыш, 2) запоіны, 3) змовіны, 4) вяселле. Самы вялікі з іх — вяселле, якое распадаецца на некалькі частак: а) благаславенства, б) вянец, в) «госцікі» — сваты ў маладой, г) каравай у маладой, д) прыданыя (пасаг), е) каравай у маладога.

За 2—3 месяцы да вяселля сваты з маладым ідуць для перамоў да бацькоў маладой і ў выпадку згоды заядаюць і п'юць гарэлку, якую прыносіць з сабою малады. Гэта можа быць і за паўгода да вяселля. Утвораны акт называюць «запілі барышы» — высваталі дзеўку. Гутарка паміж гасцямі і гаспадарамі носіць жартоўна-дзелавы характар; песень звычайна тутака не спяваюць.

«Заповіны» бываюць не раней, чымся за два тыдні да вяселля. Гэта ўжо ёсць больш складаны акт. Малады разам з сватам прыходзіць да маладой і, калі ў іх ідзе ўсё згодна, склікае (на гэтую справу) сваякоў, а часам добра знаёмых суседзяў і суседак. Гарэлка іграе і тут значную ролю, і наогул без яе не абыходзіцца ніводнае больш-менш важнае з'явішча.

«Змовіны» бываюць за тры дні да вяселля. Разам са сватам малады прыходзіць да маладой пагутарыць. Гутарка носіць больш дзелавы характар, чымся раней.

Напярэдадні вяселля ўвечары па просьбе маладой да яе прыходзяць яе таварышкі, якія дапамагаюць у падрыхтоўцы да вяселля. Увечары прыязджаюць музыкі адкуль-небудзь з бліжэй-

* Кожны радок паўтараецца.

шых вёсак; іх павінен наймаць малады. У большасці музык бывае два: гарманіст і цымбаліст. Часам да іх далучаецца скрыпка і барабан — гэта ўжо ў багацейшых, бо музыкі бяруць дорага: за вяселле 8—10 рублёў.

Увечары ў маладой адбываецца маленькая вечарынка — «паненскі вечар», на якой закускі не бывае; яна (вечарынка) абмяжоўваецца толькі скокамі. Старых скокаў ужо не назіраецца; у вёску прапаўзлі ўжо з горада новыя танцы, назва якіх тутака абрабляецца па-свойму: «ду-стэп», «вянгерка», «сыбота» і інш. Праўда, калі ідуць у скокі старыя падвыпіўшыя бабкі, то яны звычайна скачуць «лявоніху».

У дзень вяселля ў маладога зранку зборы. Ужо ў 9—10 гадзін збіраецца народ; сярод гасцей — «шафяры». У іх ідзе гутарка з сваякамі маладога; народу збіраецца ўсё больш і больш, у хаце цесна; спяваюць песні:

Вой, на двара ельнік-бярэзнік паслаўся,
Малады Гараська ў дарогу сабраўся.
Яго татачка у варот стаіць, не вяліць:
— Не едзь, не едзь, мой сыночак,— шляхота!
Ды ты свае конікі патопіш,
Ды ты свае дарагія шубы памочыш!
— Вой, што ж табе, татачка, да мяне?
У майго цёсця зялён явар на дварэ:
Пад яварам дарагія коні напасу,
На явары дарагія шубы пасушу!
— Едзь, едзь, Гараська, не станавіся,
Пад вішанькай спаць не лажыся.
Ужэ ж твая патрава да пылам прыпала?
Ужэ ж твая Марылька да другому стала?
— Я сваю патраву да панакрываю,
Я сваю Марыльку між дзевак пазнаю:
У мае Марылькі па плечках коскі,
Па плечках коскі, пад вачыма слёзкі.
Па плечках коскі да парасціляліся,
Пад вачыма слёзкі да паразліваліся,
Па плечках коскі, як лён бяленькі,
Пад вачыма слёзкі, як мак драбненькі.

Едзь, Гараська, не стой, не стой,—
У цябе конічак не свой, не свой,
Дарога каранистая, Марылька ганарыстая!
— Я дарогу раўніць буду,
Марыльку наравіць буду.
Дарога параўнілася —
Марылька знаравілася.

Развіўся раёчак
Па край новых да вароцічак,

Хоча ён да палядеці
У шчырыя бары,
На салодкія мяды,
На жоўтыя саты.

Сабраўся Гараська,
Са сваею да радзінаю
Хоча ён паехаці,
Цесця зваяваці,
Сабе Марыльку ўзяці.

Яго татачка ходзіць
Да Гараську просіць:
— Гараська, сыночак,
Не ваюйся вайною,
Прасі цесця просьбаю,
Просьбаю — не грозьбаю,
Ціхімі да паходамі,
Нізкімі да паклонамі.

На стале стаіць закуска: каўбасы, сала, блінчыкі, пячэнне свайго вырабу і гарэлка. Пасля закускі — скокі; на прасторы 16—20 кв. арш. кружацца 8—10 пар; увесь час размовы гасцей. У гэты час малады запрагае каня, каб ехаць да маладой, а адтуль — у царкву.

У маладой — чаканне маладога; пры ёй «шафярыцы» — яны вараць, пякуць. Гэта ж самае рабілася і напярэдадні; гучаць песні:

Гаварыла бочачка,
У піўніцы стоячы:
— Калі вы мяне
Да не вып'еце —
Я і сама разальюся,
Па двары пакачуся,
На двары расіцаю,
За вароты крыніцаю.
Гаварыла дзевачка:
— Татачка мой родненькі,
Калі мяне да й не выдасі —
Я і сама ад вас пайду —
На двор дзявіцаю,
За вароты маладзіцаю.

Плавала вутка па моры хутка
Са сваімі вуцянятамі;
За ею, ею сівы селязень —
На крылцы наплывае:
— Пастой, вутачка, пастой, шэрая!
Што я табе за весць скажу:

«Быў я на моры, чуў я тры ўловы —
Таргуюць сеці на твае дзеці
І на цябе, шэрую вутку;
Зловяць цябе, шэрую вутку,
Маладыя рыбаловы
Да звараць цябе, шэрую вутку,
У паліваным гаршчочку.
Будуць цябе есці, шэрую вутку,
Панянята, князянята!»
Ходзіць дзевачка па сваім двары
З сваімі дружачкамі;
За ею, ею малады хлопчык
На ножкі наступае:
— Пастой, Марылька, пастой, душачка,
Што я табе за весць скажу:
«Праз цябе, маладую,
Таргуюць чэпчык і намётачку
На тваю галовачку!»
— Я чэпчык сарву, намётачку згарну
І з дзеўкамі ў танец пайду!
Ці мяне ў таночак, ці мяне ў вяночак?
Ці мяне да дзевачак?
Дзевачкі ідуць, красачкі нясуць —
Яны мяне не прымаюць.
Малодкі ідуць, намёткі нясуць —
Яны мяне прыжыдаюць!
Абуяла канапелечка
У агародзе стоячы,
Да не даў ёй ветрычку
Шчэ ж болей пабуяці,
Лісцікамі памахаці.
Да адбіў жа лісточак
Да на жоўты пясочак.
Да й гуляла Марылечка
У свайго раднога таткі,
Да не даў ёй Гараська
Шчэ ж болей пагуляці —
Да расплёў ёй коскі,
Да разліў ёй слёзкі.

Хадзілі стральцы па полю
Да злавілі сівага лася ў гаросе.
Як зачула тая ласіца, што ў лузе,
Пакідала крутыя рогі пад ногі:
— Няхай мае крутыя рогі прападуць,
Куды майго сівага лася павядуць?
Як зазвінелі галасныя званы ў полі,
Як зачула маладая Марылька ў каморы —
Сама пала сваёй мамачцы на ногі:
— Няхай мае залатыя ключы прападуць,
Куды мяне ад роднай мамачкі павязуць?

Што табе, дзевачка,
У мамкі надаела,
Што ты, маладая,
Замуж захацела?
У твайго таткі
Пірагі да й сладкі,
А ў твайго свёкаркі
Хлеба недахваткі.
Поўныя засекі,
Да кіёў насекі,
Да мякіну таўкуць,
Да аладкі пякуць,
Цыбульку смажуць
Да аладкі мажуць.

Сядзіць дзевачка за сталом,
Паклала ручачкі на стале.
— Белы мае ручачкі ў мамачкі,
А ці будуць белы ў свякрухі?
Ячную мякіну таўкучы,
Сырую пшаніцу мелючы?
— Не тужы, дзевачка, не тужы —
Ячную мякіну сам стаўку,
Сырую пшаніцу сам змялю!

Бярыце, дзевачкі, венічкі,
Мяціце вулачку з канца ў канец —
Будзе ехаць дзевачка пад вянец!
Забылася хустачкі, грабянца!
Вярніся, хлопчык, па хустачку, грабянец!
— Я ж табе, дзевачка, не пасланец!
Е ў цябе дружачкі-служачкі —
Яны табе пададуць хустачку, грабянец,
Яны цябе падвязуць пад вянец!

Ці я табе, мамачка, не люба,
Што ты мяне пасылаеш да шлюба?
Ці я табе кашулькі не мыла,
Ці я цябе мамкаю не звала,
Ці я табе пасцелькі не слала?
Не слала пасцелькі — буду слаць,
Не звала мамкаю — буду зваць,
Не мыла кашулькі — буду мыць!
Памыю кашульку беленька,
Пасцялю пасцельку мякенька,
Назаву мамачкай харашэнька!

Калі маладая — сірата, пяюць песні наступнага зместу:

Пазнаць Марыльку па вяселлечку,
Што Марылька — сіраціна.

Яе двор вялік, а збор невялік —
Не ўся яе радзіначка.
Паслаў бы я салавеечку
На Украіну па радзіну.
Салавей ляціць — не далятае;
А кукулечка на магілачцы
З мамкай размаўляе:
— Рада б я устаці к свайму дзіцяці,
Парадачак паказаці,
Калі мая душачка пад трыма замкамі:
Першы замок — зялёны дзярночак;
Другі замочак — жоўты пясочак;
Трэці замочак — цясовыя дошкі.

Нешта ў лесе памалюсеньку гукае —
Там Марылька свайго татачку шукае.
Хоць ты шукай, хоць ты не шукай — не знойдзеш:
Твой татачка на Украінцы — далёка,
У сырой зямлі, у жоўтым пясочку — глыбока!
Павей, павей, буян-вецер, з даліны,
Узвей, узвей жоўты пясочак з магілы,
Пабі, божа, цясовыя дошкі на крошкі,
Пастаў, божа, майго татачку на ножкі.
Хоць ты стаўляй, хоць не стаўляй — не стане!

Увесь час ідзе ў яе падрыхтоўка — пякуць, вараць. Калі месяць цеста на каравай, пяюць:

Каравайніцы з места
Да пакралі ўсё цеста —
Хто ў мех, хто ў карманы —
Ды дзевачкам на падманы,
Хто ў мех, хто ў кішэні —
Сваім дзецям на вячоры.

Сабраўся малады. З ім увесь час яго родная сястра (або дзве). Сястра маладога павінна быць абавязкова. Калі ў маладога няма з радні сясцёр, іх (або яе) замяняе чужая дзяўчына. Перад ад'ездам усе ўстаюць з-за стала, апошні адцягваюць ад сценак. Сват (звычайна хросны бацька) абводзіць за руку ўсіх навокал стала тры разы; за рукі бяруцца праз хусткі. За апошнім разам малады цалуе абраз. Сват, зварочваючыся да сваякоў, кажа:

— Благаславі, айцец, маці і добрыя людзі!

На што яму адказваюць:

— Бог благаславіць!

Гэты зварот паўтараецца тры разы — пасля кожнага абходу. Далей сват бярэ маладога за руку і выводзіць яго на двор. Ля

дзвярэй два сваякі, узяўшы хлябы ў рукі і падняўшы іх угору, прапускаюць маладога і шафераў. Як толькі апошнія пройдуць такім чынам праз першыя і другія дзверы — хлябы здымаюць.

Раней перад вянцом у хаце маладога ставілі пустую дзяжу, якую засцілалі абрусам або новым палатном, садзілі маладога на дзяжу, ставілі каля яго тры звязаныя свечкі (чырвонай стужкай) і запальвалі іх; потым абводзілі навокал маладога свечкі і трошкі падпальвалі яго валасы. Пасля гэтага яго адпраўлялі да маладой (кажуць, што ў Пратасевічах — вымаўляюць таксама «Прадасэвічы», «Праташэвічы» — гэтак і цяпер робяць).

Малады садзіцца ў павозку, з ім побач сястра і шаферы; на другім кані — музыкі. Едуць да маладой. Туды ж накіроўваецца і ўвесь народ з яго хаты.

Як толькі прыедзе малады — маладую пачынаюць адзяваць. Малады адразу ідзе ў хату. Там яго садзяць за стол, на якім ёсць закуска і гарэлка. На самым куце садзяць яго сястру, па яе левую руку — малады, па правую — сваты. Ад яго ўлева — шаферы. Супроць маладога — цераз стол — пакідаюць месца для маладой.

Пачынаюць есці. Першы п'е старшы сват маладога. На сватах ляжыць увесь час абавязак распарадку — яны з'яўляюцца галоўнымі кіраўнікамі вяселля.

Астачу з чаркі, якая бывае адна і абыходзіць усіх, сват вылівае за плячо і кажа: «Хай нашы маладыя так жывуць і падскакваюць». Пасля старшага свата чарка ідзе ўлева да сястры маладога, да яго самога і г. д. Выпіць трэба абавязкова і ў крайнім выпадку — прыгубіць. За сталом сядзяць усе яе сваякі; ■ боку маладога нікога няма.

У бедных сялян ядуць звычайна рукамі — няма відэльцаў, лыжак. З закускі ставяць каўбасы, сала, мяса варанае, свініну. Хлеб бывае зверху з узорамі (зробленымі шклянкамі і чаркамі).

П'юць і ядуць да таго часу, пакуль не прыйдзе маладая. Яе прыводзіць за руку «заводніца». Заводніцай бывае «дзядзіна» (жонка дзядзі) або кума.

Калі «бяседа» ўселася за сталом, маладая з заводніцай ідзе ў другое памяшканне, дзе адзяюць маладую. Тутака заводніца рэжа ручнікі не нажнічкамі, а нажом — свату (хроснаму бацьку), бацьку маладога, рыхтуе пояс з воўны і хустачку (якую мае — кашаміравую або паркалёвую). Заводніца, трымаючы на далоні левай рукі хлеб, пояс і хустку (маладому), правай рукою вядзе маладую ў пакой, дзе знаходзіцца «бяседа». Звычайна яна нясе падарункі і музыкам — кожнаму па ручніку.

Маладую садзяць за стол са словамі заводніцы: «Благасла-

віце, айцец, маці і добрыя людзі!» На што сват адказвае: «Бог благаславіць!»

Старшая шаферыца прышывае кветкі — спачатку маладой, а потым маладому. Кожная малодшая шаферыца робіць тое самае з сваім шаферам. Пасля гэтага маладой даюць піць і есці (бывае, што даюць і раней).

Калі з вяселлем пасияшаюць, дык за сталом доўга не сядзяць. Маладая абходзіць стол тры разы, таксама як і малады ў сваёй хаце, з тым жа зваротам да бяседы; пасля гэтага кланяецца сваёй матцы, бацьку, усім родным—у гэты час яе хрысцяць.

Калі адзяюць маладой вянок, пяюць:

Бедавала Марылька, бедавала,
Што заранняя зімачка напала,
Сняжком рутачка прыпала —
Не з чага маладзе вянка звіць.
Як зачуў яе Гараська:
— Не бядуй, Марылька, не бядуй,
Я ўчара на торгу пабываў,
Я табе вяночак старгаваў,
Хоць не руцьмяны — папяровы,
На тваю галоўку гатовы!

Маладыя садзяцца на коней. Праз увесь двор каня маладога вядзе сват, які ў руцэ трымае «пірог» (хлеб) на «веку» (крышка ад дзяжы). Века зверху пакрыта надзежнікам. (Бывае, што першая выязджае маладая.) Калі выязджаюць з двара, дык маладая (або яе матка) сыпле жыта.

Па дарозе ў царкву маладая стараецца абагнаць маладога. Кажуць, што хто абгоне — таго ў жыцці «будзе верх». Але ж конь у маладога добры. У лепшым выпадку маладая застаецца ззаду, у горшым — вывернецца.

На зваротным з царквы шляху маладых у кожнай вёсцы, праз якую яны праязджаюць, спыняюць у «вешніцы» — ставяць стол, аздоблены кветкамі, на стале — хлеб, пасыпаны соллю, і шклянка, поўная вады,— «каб жыццё іх было поўнае». Малады павінен даць выкуп — «гасцінец»: цукеркі, калі няма, дык грошы; грошы даюць таму, хто прымушае,— звычайна моладзі.

У сваёй вёсцы маладога таксама затрымліваюць — ён павінен плаціць выкуп. Бывае так, што, пакуль ён даедзе да сваёй вёскі, яму ўжо няма чым плаціць. Звычайна малады выкупаецца цукеркамі. Пасля выкупу ў сваёй вёсцы маладыя пад'язджаюць да ганка маладой.

Раней маладых спынялі каля варот хаты маладой, і ён павінен даць бутэльку гарэлкі таму, хто зачыняе вароты. Пакуль ма-

ладая апраўіцца, маладога затрымлівалі каля ганка. Маладую ж у хаце садзілі на лаўку перад сталом, а стол ставілі перад печчу. Лаўку пакрывалі кажухом, а галаву маладухі — белай паркалёвай хусткай. У гэты час госці стаяць на ганку; дзяўчаты спяваюць:

Не плача, не плача
Наша Марылька —
От даць ёй памачу —
Горкае цыбулі пад вочы.

Малады з павозкі павінен адразу стаць на дзяжу; калі ён перашагне — гэта адзнака яго нячэснасці.

Усіх гасцей пускаюць у хату. Сват нясе падарунак — намётку або на вопратку (гэта падарунак маладога) і кладзе перад маладой са словамі: «Добры вечар». Пры гэтых словах маладая павінна адкрыцца. Пасля гэтага бацька маладога зазывае: «Прашу, госцікі, за стол! »

Усе садзяцца за стол, і пачынаецца баляванне. За сталом шаферкі (або чужыя) пяюць:

Дай, сваццця, пірага,
Бо вазьмём вала за рага,
Сівую кабылку за грыўку.

Або:

Сядзіць сваццця на елі,
Распусціла калені.
Сядзіць сваццця на вуллі —
Пад ёй пчолкі.

Або:

Сядзіць сваццця — моршчыцца,
З кішэні пірог тошчыцца.

Урэшце, сваццця дае пірага таму, хто спяваў. Ля ганка ўжо падрыхтаваны стол, аздоблены кветкамі (улетку жывымі, узімку са стужак або паперы). На стале — хлеб, соль, гарэлка і мёд (або цукар). Маладыя адразу злязаюць на падушку перад сталом; падушка пакрыта абрусам.

Раней маладая павінна была стаць на дзяжу (значэнне тое самае, што і для маладога). Усяго яна павінна была праходзіць цераз дзяжу 3 разы: 1) перад вянцом, 2) пасля прыезду з-пад вянца і 3) калі пераязджае ў хату маладога.

Калі маці маладога ўдава альбо за ўдаўцом, яна не павінна сустракаць маладых; гэтую ролю выконвае «хросная» альбо яшчэ якая-небудзь жанчына, не ўдава. Матка (альбо намесніца) дае маладым мёду па маленькай лыжачцы: спачатку дачцы, потым яму — па тры разы кожнаму; потым налівае сабе чарку гарэлкі і

са словамі: «Будзьце здаровы», на што маладыя адказваюць: «Пійце на здароўе!» — выпівае, зноў налівае дачцы, потым сабе, яму — сабе — ёй — сабе і г. д., кожнаму тры разы. Кожны з іх, не дапіўшы, вылівае астачу праз плячо назад. Пры ўваходзе ў хату дзяўчаты ўлетку абсыпаюць маладых кветкамі; узімку — парэзанай афарбаванай паперай. Маладыя садзяцца за стол, і пачынаецца баляванне, пасля — скокі. Тут прысутнічаюць толькі сваякі маладой і яе госці.

У гэты час у хаце маладога збіраюцца яго госці. З хаты маладой сюды накіроўваецца пасланец па сваякоў і гасцей маладога; калі госці не ідуць, малады сам ідзе па іх. Усе пераходзяць у хату маладой, у гэты час яе сваякі і госці выходзяць. Новая змена садзіцца за стол; кіруе ўсім сват яго. Паміж сватам і бацькам маладога адбываецца пікіроўка, напрыклад, сват: «Глядзі, госці галадаюць!» Або: «Ты не маеш права са мной разгаварваць!» На што бацька маладой адказвае: «Прашу, госцікі, пійце і прабачайце на большае!» Калі гаспадар у дастатку — ён усё дае; калі скупы — замоўкне. Паеўшы і выпіўшы, уся змена ідзе ў хату маладога; зноў прыходзяць госці маладой, і зноў цягнуцца размовы, выпіўка, скокі...

## НА ДРУГІ ДЗЕНЬ

У першую ноч маладым у яе хаце ложка не рыхтуюць; маладыя спяць дзе прыдзецца (як і госці): на падлозе, на возе і г. д. Часта разыходзяцца па блізкіх хатах, дзе і праводзяць астачу ночы.

Зранку ўсіх гасцей зазывае да маладой сват яе. У гэты ж час у хату да маладой прыходзяць сваты за некаторымі гасцямі маладога; іх сустракаюць клікамі: «Гэта ж хто прышоў? Гэта ж зладзеі! Яны што-небудзь украдуць!» На гэта сват маладога адказвае: «Цяпер мая сіла — усё возьмем!» — «Ну што ж — здадомся ў палон!»

У двары ў некаторых месцах у гэты час робяць з саломы каня, на якім павязуць свата, калі маладыя будуць пераязджаць да яго. Каня стараюцца ўкрасці госці з дома маладога. Тут бывае многа схватак, жартаў і смеху. У хаце ў час прыходу сватоў маладога спяваюць песні:

Мы думалі, што сватоў мала,
Аж іх поўная лава.
Як селі — свінню з'елі
З семярымі парасятамі,
Ды кабылу з жарабятамі.
На стале — ні крошачкі,
Пад сталом — ні костачкі!

Нашы сваткі немы,
Грэцкую муку елі,
Мукою папыліліся,
Лускою падавіліся.

Перад адправай у яго дом у маладой бывае «каравай». Гэта — белы хлеб, аздоблены зверху маленькімі булачкамі, формы чатырохкутнай. Калі прыносяць каравай, сват маладога ўстае з-за стала і мые рукі, потым просіць, каб далі ручнік выцерці рукі. Гэтым ручніком яго звязваюць праз правае плячо пад левую руку. Бывае і так, што тут яму дораць пояс або паркалёвай матэрыі, якой таксама звязваюць.

Спачатку сват выразае вярхушку каравая і дае маладым; потым рэжа яго на часткі і заклікае гасцей «купіць каравай». Першымі каравай закупаюць яе бацькі — кладуць грошы і хлеб, за імі ідуць сваякі. Пры гэтым кожны гаворыць якое-небудзь пажаданне, напрыклад: «Дару вам медзі, каб былі дзеці, як мядзведзі!»; «Дару шчасцем і доляй, як і людзей добрых, хлебам і соллю!»; «Дару шчасця, долі і белага сыру і да году сына!»; «Дару вам шчасця, долю і дубовы пень, каб любіліся ноч і дзень!»; «Дару вам шчасце, долю, жыта мерку і дачку-піянерку!» (З новых.)

Звычайна кладуць на талерку грошы, а іншыя — палатно. Атрымаўшы кавалак каравая, кожны павінен выпіць чарку гарэлкі. Пры раздачы каравая заўважаецца такі выпадак. Звычайна грашыма даруюць маладую ўсе прысутныя, у тым ліку і дзеці[...]

Каравай скончыўся; трэба рыхтавацца да ад'езду к маладому. Госці падымаюць свата «на ўра», качаюць яго, пытаючыся «мокра ці суха». Калі сват адказвае «суха», дык яго зноў качаюць, пакуль не скажа «мокра!» Тады ён павінен паставіць бутэльку гарэлкі тым, хто яго качаў.

Маладая бярэ з сабой пасцель, якую павінен спачатку выкупіць малады. Маці садзіцца на ложак, і паміж ёю і зяцем пачынаецца торг; у канцы малады плаціць грошы і гарэлку. Усе пасцельныя прылады — падушкі, посцілкі, коўдру — забіраюць на воз, на які малады садзіцца з маладой; апошняя бярэ вобраз і падарунак свякрусе, і накіроўваюцца ў хату маладога. Сваты і дружкі маладога стараюцца ўкрасці і ўвезці з сабою нажы, відэльцы і лыжкі.

Уперадзе паехалі музыканты.

Ля варот спыняюць каня маладога — зноў трэба плаціць выкуп. Тут пастаўлена бочка без дна і крышкі — у сярэдзіне салома, якую запальваюць. Калі пад'язджаюць да варот, дык малады кідае хлеб праз каня. Гэты хлеб падбірае публіка. Побач з

бочкай ставяць стол, на якім ляжаць розныя рэчы: малаток, стары бот і інш. Некаторыя ўбіраюцца паляўнічымі і, прычапіўшы з боку курыцу, злоўленую ў двары маладога, сустракаюць абоз стрэламі. Пачынаецца торг. Калі не сторгуюцца, напіраюць на вароты, якія трашчаць, ляцяць — і ўся ватага з маладымі на возе ўрываецца ў двор і аказваецца перад сталом, на якім ляжыць хлеб, соль і цукар.

Музыкі іграюць вітанне. Першую чарку выпівае маці «да свайго сына», потым дае маладой гарэлку, закусваюць цукрам. Бяседа спявае:

Пайду я замуж
Ды даведаюся —
Калі добра будзе,
Дык я нажывуся;
А калі пагана,
Дык назад вярнуся.
Я ў свайго татачкі
Служыць наймуся:
Прымі мяне, татачка,
Да хаця і з хлебам.
— Ты ж мяне, дзіцятка,
Цяпер не трэба.

Маладых вядуць у хату. Тутака маладая дорыць падарункі маці — палатна «на стан» (бялізну), намётку (раней), сёстрам маладога (хусткі), братам (паясы).

Праз некаторы час вязуць яе прыданае ў куфры; наперадзе — калі вяселле бывае ў адной вёсцы — едзе на саламяным кані сват. Ля ганка куфар затрымліваюць, і пачынаецца выкуп пасагу: з аднаго боку — малады, з другога — брат маладой, які сядзіць на возе, а з ім садзіцца на воз многа людзей. У гэты час бяседа спявае песню такога зместу:

Як у нашага свата
Да ні клеці, ні павеці —
Недзе куфра дзеці.
Ды паставім пад страхою
Ды накрыем бараною —
Тут яму векаваць,
А Гараську пільнаваць!

Калі не паладзяць, дык куфар вязуць назад; тады ўжо за ім едзе малады. Урэшце, малады плаціць выкуп — грошы, якія ідуць на карысць брата маладухі. У гэты час спяваюць у двары:

Падзякуйма свату,
Што просіць у хату
На мёд, на гарэлку,

На салодкае піва,
На харошае дзіва.

Куфар цягнуць у сенцы, усе накіроўваюцца ў хату. У хаце сваха засцілае сталы сваімі абрусамі, на вобразы — новыя ручнікі. Свахі спяваюць:

Прымайце пяньковіцы —
Засцелем бялевіцы;
Прымайце бялевіцы —
Засцелем шаўкавіцы.

Наступае апошняе дзеянне: каравай у маладога. Дзеляць яго перад ад'ездам сваякоў маладой; адбываецца ён таксама, як і ў маладой. Госці гуляюць увесь вечар; музыка грыміць то польку, то вальс.

Спяць дзе прыйдзецца; назаўтра апахмяляюцца... Пры ад'ездзе сваякоў маладой спяваюць:

Ох вы, свашачкі, ох вы, пташачкі,
Просім вас,
Каб не было нашаму дзіцяці
Ганьбы ў вас,
Каб не стаяла цёмныя ночы
Пад вакном,
Каб не ўцірала горкіх слёзачак
Рукавом,
Каб не была паветачка
Хатачкай,
Каб не была суседачка
Мамачкай.
Паветачка — не цёплая хатачка,
Суседачка — не родная мамачка!

Маладыя ўступаюць у новае жыццё.

## ВЯСЕЛЛЕ [У В. ШАКУНЫ ПРУЖАНСКАГА РАЁНА]

### Запісаў Р. Р. Шырма

Вяселле — самы ўрачысты абрад у жыцці беларускага народа.

Гэта своеасаблівая народная опера з пралогам, драматычнай кульмінацыяй і заўсёды шчаслівым заканчэннем. Народ стагоддзямі дасканаліў, калі можна так назваць, лібрэта гэтае оперы, якая надзвычай багата насычана спевамі, музыкай, танцамі, вострым дыялогам, гумарам.

Ладзілі вяселле найчасцей вясною да пачатку працы ў полі і на сенажаці, восенню — пасля ўборкі ўраджаю, ■ зімою — пасля новага года.

Сватанне. Калі хлопец задумаў жаніцца, ён звычайна пытае згоды бацькоў. Яны разам радзяцца, да каторай дзяўчыны ў сваім сяле ці ў суседнім пасылаць сватоў («ісці дружкамі»). Але насамперш пасылаюць у «пярэпыты», каб даведацца і быць упэўненым, што дзяўчына і яе бацькі прымуць пасланцоў маладога («схочуць піці»).

Калі да дзяўчыны трапляюцца першыя сваты, то яна і бацькі даюць згоду прыняць іх, хаця на другі дзень вернуць грошы за выпітую гарэлку. Знача — адказана.

Гэтая вялікая народная ўрачыстасць пачынаецца з таго, што бацька, жаніх і дружко з хлебам і гарэлкаю ідуць да дзяўчыны, якая спадабалася, у сваты.

Дружко, уваходзячы ў хату, гаворыць: «Пусціце, добрыя людзі, пераначаваць». Калі бацька і маці дазволяць увайсці, дружко цягне далей: «Мы прыйшлі ўжо да вашае дачкі дружкамі, ці аддасцё?»

Гаспадыня хутка падае на стол закуску, дружко кладзе свой хлеб і ставіць гарэлку. І так пачынаюцца «дружкі». Калі дзяўчыне не падабаецца хлопец, яна да стала не падыходзіць, а назаўтра аддае грошы за выпітую гарэлку.

Пра пасаг не заўсёды пытаюцца, бо, зрэшты, у сяле вядома ўсім, які пасаг мае кожная дзяўчына.

Пасля таго, як вып'юць і закусяць, дзяўчына завязвае дружку ручнік, а кабеты і дзяўчаты пяюць:

У нашага дружанька
Чорныя вочы,
Ён не баіцца
Цёмнае ночы.

— Ой, чаго ж бо мне
Ночкі баяціся:
Конь пада мною,
Бог нада мною.

Конь пада мною,
Бог нада мною,
Малада Ганதுська
Упоруч са мною.

— Чом ты, дружаньку,
Не п'еш і з намі,
Ці ты, маладзенькі,
Ганьбуеш намі?

— Я не ганьбую —
Думку думаю,
Як мне гэта войска
Заваяваці.

Як мне гэта войска
Заваяваці,
Маладу Гануську
З сабой узяці.

На той жа матыў пяюць:

Ой, куры, куры,
Не пеіце рана,
Прыехаў дружанька
З вайны не рана.
Пусціў коніка
Да пастаўніка,
Сам маладзенькі
Пайшоў да дзеўкі:
— Няхай мой конік
Па расе паскача,
Няхай Ганулька
Па касе заплача,—
Не так па касе,
Як па каснічку,
Як па сваёму
Беламу лічку.

А калі ад'язджаюць дадому:

З богам, з богам, пан-дружанька,
у дарогу.*
Месяц табе дарожаньку
асвеціць.
Вецер табе дарожаньку
асушыць.
Ой, дай, божа, нядзеленькі
даждаці,
У Ганначкі на вяселлечку
гуляці.

І далей для маладога:

Краем, барэм каліванька зацвіла,
Краем, барэм чырвоная зацвіла.

Ой, ехаў там пан-дружанька пяючы,
Пачуў ён сіву зязюльку куючы.

То не зязюлька сівая кувала,
Ганначка харошы песні спявала,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Пад акенцам на крэселку седзючы,
Свайму міламу кашуленьку шʼючы:

— Ой, дай, божа, кашуленьку пашыці,
Майму міламу здарову знасіці!

Пасля першых сватоў дзяўчына або дае згоду ісці замуж, або вяртае грошы за выпітую гарэлку, а дружко аддае назад ручнік.

З а п о і н ы. Дзяўчына заўсёды раіцца з бацькамі перад тым, як даць або не даць згоду выйсці замуж. Калі пасля «пярэпытаў» зроблены лад і дзяўчына згодна выйсці замуж, тады едуць да месца ў царкву на навуку, даюць на запаведзі (агалошання). Запаведзь гэта палягае на тым, што поп у нядзелю пасля абедні за прызначаную суму грошай абвяшчае народу, што такая-та дзяўчына выходзіць замуж за такога-та хлопца, можа хто ведае, ці няма паміж імі сваяцтва або іншых прычын, якія могуць перашкодзіць шлюбу. Такая абʼява паўтараецца тры разы. Запаведзі даюць права ладзіць запоіны.

Сваты вязуць да дзяўчыны пірог і гарэлку. Першую чарку і закусь дае гаспадар. А калі госці разласуюцца, то дружко вымае свой хлеб, пірог, мяса, гарэлку і ставіць на стол. Дзяўчына запрашае на запоіны сваю радню, якая частуецца і весяліцца праз усю ноч, пяе і танцуе:

Чорна сею, чорна сею,
А зялёным сходзіць.
А што каму да таго,
Хто да мяне ходзіць.

Ой, прыходзіць да мяне
Малады Ясенька,—
Сам бялявы, вус чарнявы,
Прыкрасна лічэнька.

— Дзяўчынанька, дзяўчынанька,
Маё маляванне,
Падай жа мне белу ручку
Цераз дыляванне.

— Ой, яшчэ ж бо я такім
Ручкі не давала,
Я такімі дуракамі
Плоты падпірала.

А пад мостам рыба з хвостам,
На масту лілея.
Ой, вырасла дзяўчынанька,
А рабіць не ўмее.

Ой, рабіці не прыгнаці,
Жаці не нагнецца,
Як убачыць малайца,
У бокі бярэцца.

Запіта Марылька, запіта,
Толькі хустанька вышыта.
Співаў яе увесь род,
Яе баценька наўпярод.

Пад час частунку свёкар дае маладой грошы на расходы, бутэльку гарэлкі для хлопцаў і дзяўчат. Маладая аддзякуецца бацькам маладога тым, што дае будучаму свёкру на кашулю льнянога палатна, а свекрыві — куплёнага на кофту. Дружко дае часць пірага маладой, якая склікае падружак і хлопцаў, частуе іх пірагом і гарэлкаю. Моладзь весяліцца на запоінах, як на вечарынцы. На другі дзень хлопцы гавораць: «Мы ўчора былі на ўкрушкеві» (укрушак — акраец).

Першы акт вясельнага абраду — запоіны — закончаны. Госці разыходзяцца да дня, калі адбываецца шлюб. Дзяўчаты пяюць:

Сонейка за гару заходзіць,*
Ганначка Андрэйку праводзіць.
—Правяду я яго да лесу,
А сама вярнуся да часу.
Правяду я яго да бору,
А сама вярнуся дадому.
Правяду я яго з скрыпкамі,
А сама вярнуся з дзеўкамі.

**Вяночкі****. Напярэдадні вяселля, звычайна ў суботу, прыязджаюць да нявесты жаніх з дружком. Яны прывозяць ёй падарункі — чаравікі і панчохі. Дружко вымае з торбы хлеб і бутэльку гарэлкі, якую ён адразу ставіць на стол. Пасля, калі яны ад'язджаюць, то яму наліваюць гэтую самую бутэльку гарэлкі і адрэзваюць укрушак (акраец) хлеба ўзамен.

Чаравікі дружко падае маладой з асаблівай цырымоніяй. Ён налівае чарку гарэлкі, бярэ яе ў адну руку, а ў другую раменны гарапнік (канчук), якім паганяе коні, вешае на ім чаравікі і панчохі, падыходзіць да маладой, якая сядзіць у запечку, і кажа: «Будзь здарова!» Яна адказвае: «На здароўе!» Ён выпівае, налівае ёй. Яна таксама выпівае. Дружко аддае ёй падарункі ад маладога. Затым яна налівае чарку ад сябе і падае дружку. У гэты час дзяўчаты ўюць вяночкі з руты для маладых і для чашніка і рыхтуюць кветкі для дружка.

Рута — сімвал маральнай чысціні і цнатлівасці — упрыгожвае падвянечны ўбор кожнай нявесты-дзяўчыны. Па няпісанаму народнаму закону ўдава, хаця і самая маладая, калі выходзіць за-

---

* Кожны радок паўтараецца.
** У іншых раёнах — «Жаніхі», «Дзявочы вечар», «Зборная суботка».

муж, не мае права мець на галаве руцяны вяночак. Рута бывае атрыбутам вяселля не толькі летам або восенню. Яна павінна быць і ў зімовы час вяночкам на галаве маладых. Дзеля гэтага восенню, калі хаваюць бульбу на зіму, у яме робяць пячуркі, зрываюць у агародзе цэлымі пучкамі яшчэ зялёную руту і разам з бульбай хаваюць яе на зіму.

Руцяны вяночак прышпільваюць маладой перад выездам да шлюбу пасярод галавы да касы, маладому — да шапкі з правага боку, а чашніку — з левага. Дружку, які абавязкова павінен быць жанатым, прышпільваюць да шапкі кветкі з правага боку. Апрача таго, дружкі прышпільваюць маладому да касцюма з правага боку звычайную хустку, якую ён носіць увесь час. У гэты суботні вечар тры каравайніцы месяць цеста і пякуць малыя каравайцы і пірог, якімі частуюць удзельнікаў вечара і суседзяў.

Канчаюцца вяночкі танцамі і пачастункам. Каравайніцы пяюць:

Ой, дзе тая гаспадыня, што была,
Няхай ідзе да суседа памяла;

Ой, дзе тая гаспадыня, што ў хаце,
Няхай ідзе да суседа лапаты;

Ой, дзе тая гаспадыня, што ў шубе,
Няхай ідзе да суседа кацюбы.

За лесам, лесам,
Роўненькім полем *

Маладая дзевачка
Пшоначку поле.

Ой, поле, поле
Перабірае,

Куколь-мятлічку
Набок кідае:

— Куколь-мятлічка —
Татку на насенне,

Жыта-пшанічка —
Мне на вяселле!

Дзяўчаты спяваюць:

Сягоння субота, заўтра нядзеля,
Глядзі, Ганначка, каб хата бела,—
Прыедуць госці з чужое валосці.
Ой, едуць, едуць і ўсё не просты:
На двор з'яджаюць — шабелькі звяюць,

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

У сені ўваходзяць — шапкі знімаюць,
У хату ўваходзяць — «дзень добры» даюць.
— Добры дзень, свату, у тваю хату,
Ці тут тое дзіця, што нам узяці?
— Пайшло ў садочак рваці квяточак,—
Што з барвяночку — то да шапачак,
А што з рутанькі — то на вяночак.
Ой, чуці, чуці ў зялёнай руце
Плакала Марылька, вяночка ўючы.
Пачуў Іванька, каня вядучы:
— Чаго, Марылька, так сільна плачаш?
— Ой, яка жа бо мне то й не плакаці —
У цябе маладога то й роду многа,
У мяне маладое дароў не многа!

Пасля гэтага спеву малады і дружко ад'язджаюць дахаты. Дзяўчына з падружкамі праводзіць свайго кавалера на двор з песняй:

Дзевачкі вяночка канчаюць,
Штось наша Волечка скучае.
— Не скучай, Волечка, не скучай,
Прыедзе Іванька на случай,
Прывязе кітаек на вянок.

Сядаючы на воз, малады плаціць дзяўчыне за правод грошы, а дзяўчаты пяюць:

Сонейка за гару заходзіць,*
Ганначка Андрэйку праводзіць.
— Правяду я яго да лесу,
А сама вярнуся дачасу.
Правяду я яго да бору,
А сама вярнуся дадому.
Правяду я яго з скрыпкамі,
А сама вярнуся з дзеўкамі!

У нядзелю перад выездам да шлюбу госці збіраюцца ізноў. На гэты дзень бацькі запрашаюць усю сваю радню.

Нявеста яшчэ зацемна выходзіць з хаты, ідзе кланяцца сваякам і блізкім знаёмым у вёсцы і запрашаць на вяселле. З ёю разам ідзе дружка. Заходзячы ў кожную хату, кланяецца да зямлі ў ногі старому і малому, а яе ўсе благаслаўляюць. Калі выходзіць з хаты, звяртаецца да ўсіх прысутных і гаворыць: «Прашу на вяселле!» Ёй адказваюць: «Весяліся здарова!» (або «З богам»).

У гэты ж ранак вызначаюцца вясельныя чыны. У маладога ёсць дружко, 2—3 чашнікі, паддружы, стараста (маршалак) і сваха. У маладой — дружкі, чашнік і маладзіца. Стараста мае абавязак пільнаваць гарэлкі, якая звычайна прывозілася ў бочач-

* Кожны радок паўтараецца.

цы, і падсцілае на лаўцы, дзе сядзяць маладыя, падушкі або дываны, наогул ён пільнуе маладых.

Вяселле пачынаецца песняй, якую спяваюць падружкі нявесты:

Ой, у гародзе, на вінаградзе
Рассцілаецца зелле.*

Ой, у Ганначкі маладзенькае
Пачынаецца вяселле.

Ой, бог ёй дае, ой, бог ёй дае,
Радзіма прыбывае.

Яшчэ да таго, яшчэ да таго
Мацінька памагае.

Калі замуж ідзе сірата, то ёй спяваюць на той жа матыў:

Знаці рутаньку па насеннечку,
Што яна зеляненька.*

Знаці Ганначку па вяселлечку,
Што яна сіраценька:

Двор вузюсенькі, збор малюсенькі,
Ды не ўся радзімонька.

Пашлю салаўя на Украінаньку
Па сваю радзімоньку,

Сіву зязюльку найсівейшую —
Па радную мацiньку!

Салавей ляціць, вяселле пяе —
Радзіма прыбывае,

Зязюлька ляціць, жаласна куе —
А мацінькі не мае!

Перад выездам да шлюбу маладую вядуць у клець і саджаюць на дзяжу. Дзяўчаты і госці спяваюць:

Брат сястру на пасад вядзець.
Сястра брату да ног падзець:
— Брацятка мой родненькі, (2)
Чым я табе надакучыла,
А ці русай касою, (2)
Ці сваёй красатою?
— А ні русай касою, ні сваёй красатою,—
Надаелі твае госцікі,
Кожны дзень прыязджаючы,
Кожан дзень — двое, трое, (2)
А ў нядзельку незлічона.

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Калі бацькі благаславілі маладую на пасадзе, яе вядуць у хату і саджаюць за стол. А ў гэты час звініць новая песня:

А брат сястру вядзе,*
Шаўком зямлю мяце,

Аўсом пасыпае,
Злотам палівае.

— А вядзі, брат, вядзі,
На покуце садзі,

На покуце ў крэсле,
На шчаслівым месцы.

Усе прысутныя на вяселлі дораць грошы. Сваха насыпае ў міску мукі і падыходзіць да маладой. Маладая, благаславіўшы, вылівае ў муку чарку гарэлкі. Гэта называецца — маладая рашчыніла каравай.

Седзячы за сталом, маладая прымае благаслаўленне ад бацькі і ад маткі, нізка пры гэтым схіляючы галаву. На стале ляжыць буханка хлеба з выціснутым зверху крыжам, куды насыпана соль. Прыняўшы благаславенне, маладая ўстае, а за ёю чашнік і дружка, і ўсе разам абыходзяць наўкол стала, цалуючы хлеб-соль. Затым ідуць садзіцца на воз і едуць да шлюбу.

Прыехаўшы ад шлюбу, пачынаюць піць і весяліцца. У гэты ж час прыбываюць усе госці. Уваходзячы ў хату з маладою, якая прыняла шлюб, спяваюць:

Мы папа ашукалі,
Нямнога грошаў далі:
За пана маладога
Паўтара залатога,
За нашу паненачку
Дык адну капеечку.
То не пчолачка гула
Каля новага двара,
Го Манечка плакала
Ад вянцу прыехаўшы,
Бацэньку да ног упаўшы:
— Бацэньку, мой родненькі,
Развянчай жа ты мяне,
Развяжы мае ручкі,
Размяняй пярсцянёчкі!
— Манечка, маё дзіцятка,
Смеў бы я тысяч даці,
Каб цябе развянчаці!

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Так спяваюць, пакуль едуць па вуліцы. Уз'язджаючы на двор, пяюць:

Выйдзі, маціцька, з свячамі,—
Ужо тваё дзіцятка звянчалі,
Табе на пацеху прымчалі.
— Ой, каму пацеха, а мне жаль,
Прыехаў Піліпка і забраў.

У панядзелак, пасля снядання, збіраюцца каравайніцы —8—10 маладых жанчын — і пачынаюць мясіць і «гібаць» каравай. Пры гэтым спяваюць:

Затапілі баярэ
Залатымі дравамі,
Шаўковымі дымамі.
Залаты драва гараць,
Шаўковы дымы ідуць.
Каму яны каравай пякуць?
Зосечцы маладзенькай,
Заслужыла у баценька,
Заслужыла у роднага
Не за рок і не за два,
Не за дзве гадзінанькі —
З малое дзяцінанькі.

Ой, ішлі, ішлі каравайнічкі гарою,
Ой, няслі, няслі па місцы мукі з сабою;
Ой, ішлі, ішлі каравайнічкі гарою,
Ой, няслі, няслі па капе яец з сабою;
Ой, ішлі, ішлі каравайнічкі гарою,
Ой, няслі, няслі па пуду масла з сабою;
Ой, ішлі, ішлі каравайнічкі гарою,
Ой, няслі, няслі па гарцу аўса з сабою,—
Ой, каб бог нам даў, каб каравай смачны,
Ой, каб бог нам даў, каб каравай вялікі.

Сярод каравайніц бывае адна старшая. Яна першая пачынае мясіць цеста і саджаць каравай у печ. Усе другія каравайніцы прыспеўваюць ёй песню:

Старшая каравайніца,
Пастаў меньшу край печы
Каравая сцярэгчы,
Бо найдуць малойчыкі,
Маладыя паходчыкі,
Хочуць нас іздрадзіці —
Каравая ухапіці.

Каравайніцы ўбіраюцца ў «карсэты» і самыя прыгожыя спадніцы. Месяць каравай паволі, не спяшаючыся. У перапынках

п'юць гарэлку, пяюць песні і танцуюць: становяцца ў два рады, адна супраць другой на невялікай адлегласці, па чарзе дробненькімі крочкамі прасоўваюцца то наступаючы, то адступаючы, часам з гарэзлівымі прыпеўкамі:

Тупнула не памалу,
Падкацілася пад лаву,
Падкацілася пад Грыца,
Бо ж яго красавіца.

І ты тут, і я тут,
А хто у нас дома,
А хто ж нашы парубае
Саламяны дрова.

Калі, месячы каравай, жанчыны запяюць жартоўны прыпеў:

Усадзілі мяне ў дзела,
Аж цела запацела,
Гарэлкі захацела,

— гаспадар частуе каравайніц гарэлкаю.

Скончыўшы мясіць і ляпіць каравай і пасадзіўшы яго ў печ, каравайніцы мыюць рукі. Ваду, у якой мылі рукі, выносяць і выліваюць пад грушу ці яблыню. Сюды прыносяць гарэлку і закуску, п'юць самі і частуюць суседзяў, якія, сабраўшыся, назіраюць за гэтай цырымоніяй.

Калі каравай спячэцца, яго вымаюць з печы, кладуць на века дзежкі, пасыпаюць зялёнай рутай і барвінкам і ставяць на стол. Усе каравайніцы сядаюць за стол і спяваюць:

Ой, хто, хто ды да нас прыступіць,
Ой, хто, хто каравай выкупіць?
Ой, хто нам бочку мядочку выкаціць,
Той у нас каравай выкупіць.
Нам бочку мядочку, віна дзве,—
Той прыме каравай да сябе.
Ганначчын баценька прыступіць,
Ён у нас каравай выкупіць,
Нам бочку мядочку выкаціць,
Нам бочку мядочку, віна дзве,—
Ён прыме каравай да сябе.

Ой, харошы каравай, харошы,
Бо харошыя каравайніцы гібалі.
Ой, чырвоны каравай, чырвоны,
Бо чырвоныя каравайніцы гібалі.
Ой, удалы каравай, удалы,

Бо удалыя каравайніцы гібалі.
Ой, цыцаты каравай, цыцаты,
Бо цыцатыя каравайніцы гібалі.
Ой, губаты каравай, губаты,
Бо губатыя каравайніцы гібалі.

Пасля заканчэння гэтых песень каравайніцы спяваюць далей:

Пытаўся каравай сцежкі
Аж да клеці дарожкі.
Ой, зарасла сцежачка
Травою-муравою.

Хлопчыкаў папросімо,
Травіцу іскосімо,
Дзевачак прынаймемо,
Травіцу ізграбемо.

Калі праспяваюць гэтую песню, каравай нясуць у клець. За ім ідуць усе каравайніцы, дзе ім падрыхтаваны пачастунак. Выпіўшы і закусіўшы, каравайніцы пачынаюць танцаваць.

Каравай звычайна бывае гатовы каля сёмай гадзіны вечара. У гэты час жаніх пачынае збірацца на выезд да маладой. Яму спяваюць:

Едзь, Іваньку, едзь, не пазніся,
У чыстым полі не станавіся.
Застанавіся у цесця на двары,—
У цесця на двары, на вараным кані.
Выйдуць да цябе каравайнічкі,—
Тая хароша, тая ішчэ харошша!
— Мне мая Ганначка найхарашэйша!

Сыпце пшаніцу ў новы карыта,*
Карміце коней у далёку дарогу.
У далёку дарогу да гарадзечка,
А ў гарадзечку трое варотаў.
Ў першых варотах — месячык свеціць,
Ў другіх варотах — сонейка грэе.
Ў трэціх варотах — Іванька едзе,
Едзе Іванька і з дружыною.
Месячык свеціць — будзе відненька,
Сонейка грэе — будзе цяпленька,
Іванька едзе — будзе весяленька.
Ў цесця на двары астанавіся,
Ў цесця на двары з цесцем гаворыць:
— Ой, цесцю, цесцю, што двор не весел?
Як я прыехаў вясёленька стала —

---

* Кожны радок паўтараецца.

Стаяць дзявочкі а ў тры радочкі,
Адна хароша, друга хароша,
Мая Ганускa усіх найхарошша!

Калі сваты жаніха пад'язджаюць да двара маладой, іх затрымліваюць і пытаюць: «Куды едзеце?» Пры гэтым дружына маладой, апранутая хто ў ва што, выдае сябе за вялікіх паноў, за начальства. Дружко, які едзе з жаніхом, звяртаючыся да іх, пытаецца: «Пусціце нанач. Нам сказалі, што тут паначаваць можна».

А ў гэты час у хаце маладой пяюць:

А ў багатага цесця
Стаіць зяць за варатамі.
Стаіць ён нядзельку,
Ніхто аб ім не ведае.
Даведалася Ганначка,
Па садочку ходзячы,
Па садочку ходзячы,
Шаўкову траву жнучы.
Ухапілася ў хатаньку,
Скланілася бацéньку:
— Бацéньку мой родненькі,
А пусці госці на двор!

Госці маладой патрабуюць ад дружка спраўку аб тым, хто яны такія. Дружко звычайна паказвае якую-небудзь паперку. Госці маладой разглядаюць яе і гавораць, што спраўка няправільная і таму пусціць на двор не могуць. Калі хто ўмее жартаваць, чытае па бумажцы: «Наша цёшчухна дажыдала зяцюшка, забіла муху да гароху, забіла камара заместа вала, нарабіла каўбас — будзе для зяцюшка і для вас».

Пажартаваўшы і пасмяяўшыся, прапускаюць жаніха і ўсіх, хто з ім прыехаў, у хату. Маладая ў гэты час сядзіць за сталом. Калі жаніх уваходзіць у хату, падружкі маладой спяваюць:

Заржалі коні ў зялёнай дубраве,
Зайгралі музыкі на калінавым мосце.
Сванька запела, на двор узбегла.
На двор збягае — дзень добры дае:
— Дзень добры вам, наш пане-свату!
Ці тут тое дзіця, што нам узяці?
Калі яно тут, нам пакажэце,
Калі яго няма, нас адашліце.
Калі пакажаце — нам слава будзе,
Вашаму дзіцяці даганы не будзе.
Як адашлеце — нам славы не будзе,
Вашаму дзіцяці дагана будзе.

І зараз жа далей спяваюць:

Цёшча зяценька злякалася,
Ў нову камору схавалася,
Памялом заквяцілася,
Ступаю закацілася.
— Ой ты, цёшчанька, не лякайся,
У нову камору не хавайся.

Абышоўшы кругом стала, жаніх сядае каля маладой, а яго госці па старшынству за сталом.

Тыя, хто не пускаў жаніха на двор маладой, звычайна ставяць стол і чакаюць дружка, які прыходзіць і пачынае іх скупоўваці. Ад дружка вымагаюць бутэльку гарэлкі, піва, сушаных ягад, арэхаў, сушаных груш, мяса, масла, каравая. Калі ўсяго гэтага ў дружка няма, ён за ўсё плаціць грашыма, пры гэтым ягады называе вінаградам, арэхі — сем мяхоў арэхаў і г. д. Заплаціўшы за ўсё, ідзець у хату да агульнага стала скупоўваці чашнікаў і дружак, якія, пакуль ім не дадуць выкупу, займаюць месца каля маладой, а жаніх каля чашнікаў. Пасля дружак дружко пачынае скупоўваці чашнікаў і свах. Калі ён кладзе на талерку мала грошай, усе таргуюцца і вымагаюць дабаўкі, пры гэтым спяваюць:

Дружачак-маршалачак
Па сметнічку хадзіў,
Чарапочкі збіраў
Дружачак скупоўваці.

Калі дружко скупоўвае дружак, спяваюць:

За печ, дружачкі, за печ —
Кошкі гадаваці.

На скупоўванне чашнікаў таксама ёсць песня:

Дружачку-маршалачку,
Твой бацька памяло прадаў,
Дык больш грошаў набраў,
Як ты нам за дзеўку даў!

Калі дружко скупіў дружак, чашнікаў і свах, тады жаніх сядае побач нявесты з правага боку. У гэты час з клеці нясуць каравай і пачынаюць дзяліць: даюць не толькі сваякам, але і суседзям, якія стаяць ля парога і за парогам,— таму яшчэ і называюць іх — запарожанне.

Перад раздзелам каравая маладой дараць намёткі, хусткі, спадніцы (андаракі), кашулі і грошы. Дружкі і свахі спяваюць:

Ой, родзе, родзе, слаўны, багаты,
Дарыце мяне скатом рагатым:
А вы, браткове,— дый па канёві,
А вы, сястрыцы,— дый па цяліцы,
А каравайніцы — хоць па курыцы.

І адразу:

Скупую Ганначка радзіму мае,
Срэбра і злата сабе хавае,
Дробну манету табе кідае.

Першая дарыць маці. Дружко пры гэтым выклікае: «Гэта таксама даруе маці нашу пані-маладую белым платам, не так белым платам (палатном), як шчасцем і доляю, па век доўгі, на быт добры!» Пасля маткі дарыць па чарзе ўся радня. Калі хто дарыць грашыма, дружко выклікае: «Гэта таксама даруе (імя) срэбрам-златам, не так срэбрам-златам, як шчасцем і доляю!» Падарункі кладуць на стале перад маладою.

Калі скончаць дарыць, маладая выходзіць з-за стала і кланяецца ўсім у ногі. Падаркі забіраюць, нясуць у клець і складаюць у скрыню маладой.

Дараць маладых і дзеляць каравай у аўторак. Раздае каравай дружко. Той, хто атрымае сваю долю каравая, гаворыць: «Дзякую, пане-млоды і пані-маладая, за каравай, божы дар! Каб вам бог пшаніцу радзіў, пшаніцу чысту, каласісту!» Каравай падзелены. Сястра маладой або яе цётка павязваюць ручнікі ўсім сватам, што прыязджаюць з жаніхом.

Пасля абеду рыхтуюцца везці маладую ў хату жаніха. Тры разы абходзяць кругом стала, і маладыя за кожным абходам цалуюць хлеб-соль, які ўвесь час ляжыць на стале, і выходзяць з хаты.

У сенях хлопцы і дзяўчаты, быўшыя сябры маладой, выкрадаюць маладую з рук свахі, нібы забіраюць у палон, і дамагаюцца выкупу. Сваха дае ім выкуп. Маладая ідзе на воз і сядае побач жаніха, забіраючы з сабою скрыні з пасагам і пасцель. Прыехаўшы, усе гэтыя рэчы нясуць у клець, а маладых вядуць за стол, а потым адпраўляюць у клець спаць. Маладыя бягуць бегам, а сват жартаўліва падганяе іх бізуном. Госці падстаўляюць ногі, каб яны пападалі.

Пасля кароткага адпачынку маладых будзяць. Маладая знімае з сябе ўсё падвянечнае, а надзявае тое, што ёй падрыхтаваў жаніх перад вяселлем. Маладыя выходзяць з клеці, ідуць у хату, сядаюць за стол і разам з усімі пачынаюць піць, закусваць, спяваць песні і танцаваць. Маладая ў гэты час раздае пацеркі і паяскі дзецям жаніховай радні.

Калі маладая раздасць падаркі, яе вядуць у сені і там вучаць

танцам. Першы танцуе з ёю дружко, пасля паддружы, сваха і чашнік. У гэты час хлопцы, дзяўчаты і ўся радня маладога крычаць: «Вязіце яе назад, бо яна кульгавая!» Дружко заступаецца і адстойвае яе годнасць.

Павесяліўшыся, збіраюцца ехаць нанач з красою * да бацькоў маладой. Красу вязе і аддае бацькам сам жаніх.

На наступны дзень, у сераду, з тымі бутэлькамі танцуюць, а пасля іх выпіваюць. Бацькі маладой сваім парадкам напаўняюць іх і вязуць нанач да жаніха. Выязджаюць пасля абеду. Уся радня маладой разам з жаніхом едзе ў п р ы д а н н е, вязуць з сабою бохан хлеба. Прыехаўшы, пачынаюць піць, закусваць і танцаваць казачка, барыню, а з парных танцаў — польку, вальс і іншыя скочныя танцы. Павесяліўшыся, дараць маладых. Парадак вяселля такі самы, які быў у нявесты.

Прыданне вяртаецца да бацькоў маладой у тую ж ноч або ў чацвер днём. Перад ад'ездам радня жаніха і маладой убіраюцца ў фантастычныя касцюмы, уяўляючы сабою цыганоў, бяруць з сабою бутэльку гарэлкі, ходзяць па хатах усёй вёскі і частуюць гаспадароў гарэлкаю, за што тыя даюць гэтым «цыганам» яйкі, каўбасы і сала. Усё гэта адбываецца ў жартоўным тоне з песнямі і танцамі[...] Жанчыны і мужчыны дробнымі крочкамі ідуць перад музыкантам, паварочваючыся на ўсе бакі. Жанчыны пры гэтым махаюць хустачкамі.

Вярнуўшыся з такога паходу, пякуць яечню, сабраныя каўбасы, п'юць і весяляцца да позняй ночы, пасля раз'язджаюцца па дамах. Калі гаспадар багаты, дык затрымлівае гасцей да пятніцы. На гэтым абрад вяселля канчаецца.

Праз некалькі тыдняў пасля вяселля бацькі маладой наладжваюць так званую г а с ц і н у. Гэта ўрачыстая гулянка, на якую бацькі маладой запрашаюць ізноў усю сваю радню. На другі дзень жаніх забірае бацькоў маладой, вязе да сябе і запрашае сваю радню. Гасціна наогул працягваецца адзін дзень.

## [ВЯСЕЛЛЕ Ў МІНСКУ]

### Запісаў А. А. Мялешка

Урачыстае заключэнне шлюбу паміж Ж. С. і А. С. было прызначана на суботу. У пятніцу вечарам, напярэдадні паездкі ў Палац шлюбаў, у кватэры нявесты сабраліся самыя блізкія ся-

* *Краса* — гэта бутэлька гарэлкі ці бутэлька піва з мёдам, абвязаная прыгожай хусткай і ваткнутая калоссямі жыта і аўса.

броўкі. Крыху пазней да іх прыйшоў і жаніх са сваёй дружынай — трыма самымі блізкімі сябрамі. Дзяўчаты прыбіралі нявесту ў асобным пакоі: «падганялі» вясельную сукенку, рабілі вянок для вэлюма, гірлянды і кветкі для ўпрыгожання машын, на якіх заўтра збіраліся ехаць у Палац шлюбаў. Жаніх з хлопцамі дапамагаў бацьку нявесты абсталёўваць самы большы пакой кватэры для банкету. Увесь час у кватэры іграла музыка — радыёла, а дзяўчаты спявалі вясельныя сучасныя песні. Хлопцы таксама працавалі з жартамі, спрабавалі заглянуць у пакой для дзяўчат, але рабіць гэта хлопцам у такі момант забараняецца. Гаспадыня кватэры і яе таварышкі па рабоце завіхаліся на кухні, рыхтавалі закускі, посуд.

Калі ўсе прыгатаванні да вяселля былі скончаны, бацькі нявесты запрасілі дзяўчат і хлопцаў за стол падсілкавацца. Разам з імі за стол селі жаніх і нявеста, але не побач, а цераз стол — адзін насупраць другога. Галоўная дружка нявесты заявіла пры гэтым: «Сёння яшчэ сядзець вам побач не належыць». Бацька нявесты наліў усім па чарцы віна і падзякаваў моладзі за дапамогу. У адказ дружка сказала, што яны абавязкова прыйшлі б вечарам, хай бы сабе нават нявеста і «забылася» запрасіць іх. Нявеста таксама падзякавала сваім сяброўкам і сябрам жаніха за дапамогу. Пасля невялікай таварыскай вячэры, якая прайшла з песнямі і жартамі, моладзь крыху патанцавала пад радыёлу і разышлася.

Назаўтра раніцай ва ўмоўлены час дружкі нявесты былі ў яе на кватэры. А неўзабаве да дома нявесты падкацілі тры «Волгі» — таксі з жаніхом і яго дружынай. Дзяўчаты прыбралі машыны кветкамі. У першую машыну селі жаніх і нявеста, першыя іх дружкі (шафер і шаферкі), у астатнія дзве — блізкія сваякі і сябры. Перад ад'ездам у Палац шлюбаў дзяўчаты прышпілілі ўсім на грудзі па вясельнаму банту з кветкамі. На заключэнне шлюбу ехаў і сват, а бацькі засталіся дома. Роля свата ў дадзеным выпадку была чыста сімвалічнай: фактычна ён не сватаў, не «зводзіў» жаніха і нявесту. Але свату, як і належыць, маці нявесты павязала цераз плячо ручнік.

Вяртаючыся дадому пасля ўрачыстага заключэння шлюбу, картэж машын з маладымі спыніўся на плошчы Перамогі. Маладажоны выйшлі з машыны і пакланіліся Вечнаму агню, усклалі кветкі да помніка-абеліска загінуўшым воінам і партызанам. Затым вясельны поезд накіраваўся па праспекту да дома маладой. Ля пад'езда маладажонаў сустрэлі іх бацька і маці, шматлікія госці, суседзі.

Маці маладой са слязьмі радасці паднесла ім хлеб-соль і па

чарцы віна. Яны пацалавалі хлеб-соль, выпілі віно і перадалі хлеб-соль свату; затым маладых абняла і пацалавала маці маладой, тое ж зрабілі і бацька маладой і маці маладога (бацькі ў яго няма). Павіншаваўшы з законным шлюбам, яны запрасілі маладажонаў і гасцей у кватэру, за святочныя вясельныя сталы. Пры ўваходзе ў пад'езд на парозе дарогу маладым раптам перагарадзілі чырвонай стужкай хлопчык і дзяўчынка ў піянерскіх гальштуках. Дружкі маладых задобрылі дзяцей цукеркамі, але малыя не «адкрывалі дарогі». Маладыя ў разгубленасці паглядзелі на свата: што рабіць?

— Трэба перанесці маладую цераз гэту першую ў жыцці перашкоду,— параіў ён.

І гэта тут жа пад агульны адабральны смех і воклічы з прыемнасцю зрабіў малады. Дарога была «адкрыта».

У кватэры весці ўвесь вясельны «рэй» бацька маладой даручыў свату. На пачэснае месца ён паставіў хлеб-соль, што ўручылі маладажонам, і запрасіў іх заняць месца за святочнымі сталамі. Пакуль распраналіся і рыхтаваліся сесці за стол маладая і малады, адведзенае для іх месца занялі хлопец і дзяўчына з ліку гасцей. І малады, і маладая з дапамогай свата пад агульныя жарты і смех павінны былі «выкупіць» цукеркамі сваё месца за сталом, пасля чаго шаферкі спачатку правялі на месца маладую, а затым шаферы — маладога і пасадзілі іх побач. Шаферы і шаферкі селі тут жа каля маладога і маладой. Калі госці расселіся і напоўнілі чаркі, сват даў слова бацьку маладой.

— Дарагія і мілыя нашы дзеці! — сказаў ён.— Сёння вялікі дзень не толькі вашага, але і нашага, бацькоўскага шчасця. Дазвольце павіншаваць вас, дзеткі, з гэтым радасным днём і пажадаць вам усяго-ўсяго найлепшага ў жыцці. Я прашу дарагіх гасцей таксама пажадаць нашым дзецям вялікага шчасця і чыстага мірнага неба ў іх квітнеючым жыцці.

Затым павіншаваць маладых сват папрасіў бабулю і дзядулю маладой. Абодва яны пенсіянеры. Гаварылі яны (спачатку бабуля) вельмі проста, радаваліся за сваіх унукаў, параўноўвалі іх з ясным сонцам і месяцам і зычылі ім вечнага, як жыццё, шчасця і здароўя. Тут жа бабуля прывітала сваіх унукаў-маладажонаў народнай вясельнай песняй, якую падхапілі амаль усе:

Ой, беглі конікі лужком,
А за імі Жанычка беражком.
— Куды вы, конікі, ляціцё?
Каму вы разлуку вязецё?
— Ляцім мы, Жанычка, да цябе,
Вязём разлуку мы табе,

Адлучым цябе ад мамулькі —
Прылучым цябе да Талюнькі...

Потым ішлі наступныя віншаванні. Кожны імкнуўся сказаць некалькі цёплых слоў — пажаданняў маладым. Свату заставалася толькі непрыкметна накіроўваць гэтыя добрыя пачуцці і ініцыятыву гасцей. Кожнае новае віншаванне не было падобным на папярэдняе і заканчвалася агульным смехам і жартамі. Маладыя толькі саромеліся і чырванелі, бо нязвыкла многа добрых пажаданняў і ўвагі звалілася на іх у гэты радасны дзень.

Раптам узняўся з месца дзядзька маладой.

— Мае дарагія пляменнічкі і госцейкі,— гаворыць ён.— Нешта мне трапілася горкая чарка... А як у вас?

— У нас віно салодкае,— сцяміўшы, да чаго хіне дзядзька, заўважыў малады.

— А ў мяне горкае.

— І ў нас таксама,— загаманілі госці.

— Горка! — раздалося дружна з усіх бакоў.

Каб «падсаладзіць» чаркі з віном, маладуха сыпанула цукеркі на сталы. Але госці стаялі на сваім: «Горка!» І тут маладым нічога не заставалася, як пацалавацца.

— Малайцы, пляменнічкі! — пахваліў дзядзька.

Дзяўчаты з дружыны нявесты пад баян заспявалі песню «Давай никогда не ссориться». Іх падтрымалі ўсе госці. Як толькі кончылі спяваць, сват жартліва прапанаваў гасцям:

— Мае мілыя ягамосьці, ці не пара нам размяць свае косці?

— Правільна, давайце патанцуем.

Баяніст зайграў (у суседнім пакоі) вальс «Бярозка», і пад меладычныя яго гукі першымі закружыліся маладажоны, а за імі і іншыя пары. Вальс змяніўся полькай, лявоніхай, іншымі танцамі. Не ўтрымаліся і пусціліся ў скокі дзед і бабуля...

Дарэчы, аб танцах. Раней, да савецкага часу, традыцыйнымі на вяселлях былі лявоніха, полька-крутуха, барыня, бычок, казачок, кадрыль. Цяпер жа часцей выконваюць сучасныя танцы.

Песням, жартам, танцам, здавалася, не будзе канца. Але настаў час і гаспадар пачаў запрашаць гасцей за стол, прыгаворваючы:

— Павесяліліся, а цяпер і падсілкавацца трэба.

Толькі трапіць у банкетную залу было не проста. Прапусціўшы маладых, шафер і шаферка, узяўшыся за канцы нейлонавага шаліка, перагарадзілі астатнім дарогу і патрабавалі ад кожнага «выкуп». Выкуп гэты быў незвычайны: трэба было праспяваць хоць адзін куплет якой-небудзь песні ці частушку, станцаваць, расказаць смешную бываліну, пераскочыць праз нацягнуты ша-

лік альбо проста чым-небудзь пацешыць прысутных. «Выкуп» ператварыўся ў смешнае і вясёлае відовішча для ўсіх гасцей, дзе кожны быў актыўным удзельнікам.

Калі ўсе расселіся за сталы, у кватэру завітала дэлегацыя ад жыхароў дома. Яны прынеслі прыгожы букет жывых кветак, уручылі яго маладажонам і павіншавалі з вялікай і радаснай падзеяй у іх жыцці — вяселлем.

Вечарам, калі госці ўволю наскакаліся, у банкетную залу сват разам з дзедам і бабкай урачыста ўнеслі «каравай» — вялікі, спецыяльна заказаны для вяселля торт. Яго паставілі на стол перад маладымі, сват ударыў у «гонг» — невялікі тазік. Тым самым аб'яўляўся адзін з важных момантаў вяселля — падзел каравая. Кожны, хто атрымліваў кавалачак «каравая», у адказ віншаваў маладых, зычыў ім добрага здароўя і шчасця, прыбаўлення ў новай сям'і і тут жа ўручаў маладажонам падарунак. Кожнаму, хто ўручаў падарунак і віншаваў, маладыя кланяліся і шчыра дзякавалі.

Позняй ноччу праводзілі гаспадары і маладыя сваіх гасцей. Але на гэтым вяселле не скончылася. Шчаслівыя маладажоны і іх «дружына» пайшлі яшчэ пагуляць па начным горадзе, а назаўтра ўсе госці сабраліся зноў. Была наладжана латарэя, праведзены «конкурс» на лепшага спевака і танцора, а ў канцы вяселля сват у прысутнасці ўсіх гасцей аб'явіў «грамадскі ўказ» маладым, у якім у жартаўлівай форме загадвалася жыць ім вечна ў любві ды згодзе, паважаць ды шанаваць адзін аднаго і бацькоў сваіх, ды прозвішча і род свой працягваць. Пры разыходжанні госці яшчэ раз павіншавалі маладых, пажадалі ім здароўя і шчасця. Развітанне закончылася песняй «Бывайце здаровы, жывіце багата».

Праз тыдзень, у наступны выхадны, маладыя, іх бацькі і самыя блізкія сябры паехалі ў госці да сваякоў маладога — на традыцыйныя пярэзвы. На гэтым, уласна, і закончылася вяселле — вышэйшы маральны акт, узаконены звычаёвым правам, без якога і зараз не абыходзіцца ў Беларусі ні адно свята ўтварэння новай савецкай сям'і. Падкрэслім адну дэталь: ручнік, якім быў перавязаны сват на вяселлі, застаўся ў яго як сувенір — такая ўжо народная традыцыя.

Безумоўна, з усіх шматлікіх падзей і дат у асабістым жыцці чалавека вяселле — самае вялікае, маляўнічае і незабыўнае свята. Гэта вельмі багаты і каларытны па насычанасці жартаўлівымі і сімвалічнымі дзеяннямі народны звычай. У ім захоўваюцца і ўдасканальваюцца лепшыя народныя традыцыі мінулага. У спалучэнні з сучаснымі абрадавымі элементамі яны робяць вяселле

вясёлым, запамінальным і ўрачыстым святам кожнай сям'і, цэлых працоўных калектываў або населеных пунктаў, аб чым сведчыць і вышэйапісанае вяселле ў Мінску.

# ВЯСЕЛЛЕ Ў В. МАРКАВА МАЛАДЗЕЧАНСКАГА РАЁНА

### Запісала Н. М. Шнаркевіч

## СВАТЫ

Найчасцей бывала так: каб хлапец «не аблізаў таўкача» (адмова дзяўчыны), яго бацькі загадзя пасылалі ў хату дзяўчыны якога-небудзь спрытнага хлопца, каб той дыпламатычна даведаўся, ці варта ехаць да яе ў сваты. Але часам у сваты ехалі і адразу, без гэтакіх выведаў.

Выбіраліся ў сваты ў суботу вечарам. Калі дзяўчына была не з той вёскі, што жаніх, дык запрагалі коней і на шыю ім вешалі «шыгуны» (званочкі). Калі званочкаў не было, пазычалі, а ў крайнім выпадку на дугу ўверсе чаплялі адзін невялікі званок. Званок быў абавязкова — каб ведалі, што едуць сваты.

У сваты ехалі хлопец, які меў намер жаніцца і які з гэтага часу і на працягу ўсяго вяселля называўся «малады» (дзяўчына — «маладая»), бацька маладога, а калі яго не было, то маці і хросны бацька, які на вяселлі называўся «дружка». Сваты бралі з сабою палатняную торбу з хлебам, соллю і пляшкай гарэлкі (або ўсё гэта загортвалі ў сурвэтку). Уваходзілі ў хату, віталіся. Дружка ішоў да стала, ставіў на стол гарэлку, клаў хлеб, соль і казаў: «Мы прыехалі па тую кветку, што цвіце зімою і ўлетку». Бацькі маладой прасілі прыезджых да стала, садзіліся самі. Пачыналася гутарка пра пасаг. Малады сядзеў крыху воддаль. Дзяўчына — далей ад стала, а то і зусім за печчу. Бацька маладой пытаўся: «З чым прыехалі, чаго патрабуеце?» Калі малады жадаў пасагу, а пераважна так і бывала, дружка ў час сватання выстаўляў свае ўмовы. Пачынаўся торг. Гэты торг мог быць сур'ёзны або жартаўлівы. Цягнуўся ён даволі доўга, часам з гумарам, са смехам, што залежала ад характару дружкі, які быў галоўнай асобай з боку маладога на сватанні. Калі дамаўляліся адносна пасагу, маці маладой клікала ў хату хросных бацькоў дачкі, бліжэйшых сваякоў, найбольш паважаных суседзяў. А маладая за-

зывала самых найбліжэйшых сябровак (дзве-тры). Маці шукала закуску. Пачыналіся запоіны.

Калі бацькі маладой былі людзі не бедныя, з вялікай радней, гулялі, пелі даволі доўга. Песні на запоінах:

Па-за століку сваты паселі,
Маладую Ганначку прапілі, (2)
За чарку гарэлкі аддалі.
А малады Андрэйка за столікам,
Ён круціцца саколікам,
Чырвонай мятай сцелецца,
Каля Ганначкі садзіцца.
Ён за ручачку бярэцца,
У вочачкі заглядае,
Мя́дову долю абяцае.
Ой, не вер, дачушка родная,
Словы мядовы — доля горкая.

Каціласа качаначка ды з грады,
Прышлі табе, малада Ганначка, каляды, (2)
Прап'е цябе твой татачка на гады.
Што, малада, свайму татачку зрабіла,
Што ты стала проці лецейка не міла?
— Мае дзевачкі-сястрыцы, я й сама не знаю,
Што я татачку зрабіла,
Што стала проці лецейка не міла.
Не раз, не два белу пасцельку паслала,
Не раз, не два я вадзіцы падавала.
Палажу кладку праз сенажатку ды й пайду,
Ой, пайду, пайду, мая мамачка, ад цябе,
Ой, набылася, нарабілася я ў цябе,
Буду гадзіць чужой мамачцы, не табе.

Суботка нядзельку радзіла,
Маладая Ганначка сон сніла:
Наляцела галубкоў поўны двор,
Сярод іх малады ясны сокал,
Каля сокала бочка віна,
Каля бочкі залаты замочак.
— Ды, разгадай, мамачка, гэты сон,
— А такі, дачушка мая, ён:
Галубочкі — твае сваточкі,
Сокал ясны — суджаны твой,
Бочачка віна — слёзка твая,
Залаты замочак — твой вяночак.

Дзянёк вечар пасылае,
А дзяўчына маладая сватоў чакае.
Стукнула, грукнула ў браме —
Дзяўчына ў вакно гляне.

— Ой, мамачка, гэта ж па мяне,
Накладай, мамачка, скрыню мне.
— Ой, дачушка, гэта ж не той багаты,
Не той багаты, а бедны худаваты.
— Ой, мамачка, за багатага не хачу,
Беднага люблю, за яго пайду.

Калі сваты ад'язджалі, бацькі маладой клалі ў іхнюю сурвэтку ці торбу свой хлеб і пляшку гарэлкі, абкручаную поясам, і падавалі ім разам з ручніком і станінай (кавалкам) палатна. Гэта быў знак згоды на шлюб.

Часам, асабліва тады, калі дзяўчына жыла далёка ад вёскі маладога, на запоінах вылучаўся дзень, у які маладая з бацькамі, а то яшчэ з дзядзькам ці цёткай павінны былі паехаць да маладога ў разглёды (агледзіны).

## РАЗГЛЕДЫ

У дамоўлены дзень маладую і тых, хто з ёю прыехаў у разглёды, сустракалі бацькі маладога ў сябе на падворышчы і вялі ў хату. Маці шукала закуску, а малады з бацькам паказвалі гасцям гумно, хлявы, свіран, камору. Агледзеўшы ўсё, прыезджыя аддзяляліся і раіліся паміж сабой. Пасля нарады яны падыходзілі да бацькі маладога, які пытаў, што вырашылі. Калі прыезджым падабалася гаспадарка, усе садзіліся за стол, абедалі і больш дакладна дамаўляліся пра пасаг і пра час вяселля.

Бывала, што маладой ці яе бацькам гаспадарка не падабалася. Тады бацькі маладой плацілі за гарэлку, якую прывозіў малады на запоіны, а малады вяртаў падарункі, якія атрымаў на запоінах. Гэта азначала, што вяселля не будзе.

## КАРАВАЙ

У суботу перад вяселлем, якое звычайна пачыналася ў нядзелю, у маладой пяклі каравай. Прыходзіла хросная маці, прыносіла з сабой дзяжу і гаварыла: «На шчаслівую долю», пасля чаго рашчыняла каравай. Дзяжу ставіла ў цяпло, каб падышло цеста. Маладая ішла да бліжэйшых дзяўчат-сяброўак, клікала чатырох з іх да сябе мясіць каравай. Сяброўкі, прыйшоўшы, ставілі на сярэдзіне хаты крэсла — збітыя накрыж дошкі на ножках вышынёю прыблізна 60 см, неслі на гэта крэсла дзяжу і пелі:

Каравай-пачынальнічку, (2)
Не стаі ў запечку, (2)
Развядзі парадачак (2)
Ды пачні вяселейка.

Дзяўчаты мылі рукі. Маці маладой падавала муку. Хросная маці хрысціла дзяжу, сыпала муку, а дзяўчаты, ходзячы кругом дзяжы, пачыналі мясіць каравай, прычым кожная рабіла гэта толькі правай рукой. Месячы, спявалі:

А дзе тут ёсць, а дзе тут ёсць
Ганначкі маладой мамачка, (2)
Ды няхай праходзіць, ды няхай стане
К гэтаму караваю, (2)
Ды няхай прося, ды няхай моля
Свайму дзіцяці долю: (2)
І хлебавую, і салявую,
Дай, божа, усялякую.

Замясіўшы каравай, дзяўчаты ішлі дамоў. Хросная маці заставалася. Родная маці, крыху пачакаўшы, пачынала паліць у печы. Дома дзяўчаты выразалі рознай велічыні і формы кветкі з бурака ці рэдзькі. Праз пару гадзін дзяўчаты ізноў ішлі да маладой. Ізноў выносілі дзяжу на сярэдзіну хаты і спявалі:

Каравай у дзяжы іграе,
Залатое века паднімае.
Іграй, іграй, караваю,
Вышэй дзяжы маляванай,
Павышай века залатога,
Павышай Андрэйкі маладога.

Выпаліўшы ў печы, прыносілі авёс і хмель. Ставілі зэдаль, клалі лапату, і ўсе стараліся з самай сярэдзіны дзяжы ўзяць як мага больш цеста, каб атрымаўся найбольшы бохан. Загладжвалі, мачылі вадой, выбіралі найпрыгажэйшыя кветкі, упрыгожвалі каравай і садзілі ў печ. Тут дзяўчаты хапалі лапату, дзяжу і выносілі на двор. Дзяжу кацілі — гэта каб дзяўчаты ішлі замуж. Потым маці маладой запрашала дзяўчат і ўсіх, хто тут быў, да стала і частавала. Дзяўчаты спявалі:

Каравайнічкі з месцечка
Пакралі ўсё цесцечка,
Ой, пакралі, набралі,
Пад хвартушкі пахавалі,
На кірмашы папрадавалі,
Хлопцам кветкі пакуплялі.
Каравайніцы напіліся,
Каравай у печцы забыліся,
Каравай у печцы падрастае
І заслонку паднімае.

## ВЯНОК

У суботу вечарам у маладой збіралася многа моладзі. Прыходзілі часам і маладзіцы. Бліжэйшыя сяброўкі садзіліся за стол, накрыты абрусам, астатнія сядзелі ці стаялі хто дзе. Бальшанкі-сваццi (родныя сёстры) маладой —а калі такіх не было, то бліжэйшыя сяброўкі дзяўчыны, якія прысутнічаюць пры шлюбе і на вяселлі — неслі на талерцы пярсцёнак, руту, ніткі і 8—10 іголак, клалі ўсё гэта на стол і пачыналі віць вянок. Адна адрывала доўгую нітку, зацягвала ў іголку, прывязвала да пярсцёнка. Другая падавала галінку руты, і першая прывязвала яе да пярсцёнка. Вілі вянок паволі. Пару галінак прывяжуць і пяюць песні. Напрыклад:

Сягодня суботка настала,
Ганначка дзевачак збірала,
Ганначка дзевачак збірала
Дый ў тры радочкі саджала,
А сама села паміж іх,
Спусціла галоўку ніжэй усіх.
— Не думай, Ганначка, не думай,
Пяройдзем рэчку, як Дунай.
Не знала свякроўкі — будзеш знаць,
Не звала мамачкай — будзеш зваць.

Тая самая дзяўчына, што прывязвала руту, брала з талеркі адну або дзве іголкі, працягвала праз пярсцёнак і перадавала ўжо іншай дзяўчыне. Так паўтаралася, пакуль не перабіралі ўсіх іголак. Зноў пелі песні:

Мяцёны садочак, мяцёны,
Наўкола рутаю саджоны.
А ў тым садочку Андрэйка
На нову скрыпачку іграе.
На нову скрыпачку іграе,
Ён сабе Ганначку чакае.
— Хадзі, Ганначка, у мой садочак,
Дам табе рутачкі вяночак.
— А я ў твой садочак не пайду,
Ад цябе рутачкі не вазьму.
— Хоць ты маёй рутачкі не возьмеш,
Ты з маіх ручачак не ўвойдзеш.

Сягоння субота, святы дзянёчак, (2)
Вілі Ганначцы з руты вяночак,
Ой, вілі, вілі, усё гаварылі.
— Ці я табе, мамачка, не міла,
Ці я работкі шчыра не рабіла,
Ці я кашулькі бела не пашыла,
Ці я пасцелькі мякка не паслала?

Мае дзевачкі, мае сястрыцы, (2)
Радзьце радачку, што мне рабіці?
Ці замуж ісці, ці дзеўкай быці?
Замуж пайшоў — бедная галоўка,
А замуж не пайшоў — людская абмоўка.

Ці не жаль табе, дзевачка,
На дзявоцкае пагулянне,
На дзявоцкае на гулянне,
На дзявоцкае жартаванне?
Дзевачкі пойдуць на вулку гуляць,
А ты, маладзенька, у клетку спаць.
Дзевачкі пойдуць па ягодкі,
А ты, маладзенька, да работкі.
Дзевачкі будуць вянкі віць,
А ты, маладзенька, шапкі мыць.
Дзевачкі будуць гулі, гулі,
А ты, маладзенька, люлі, люлі.

Калі дзяўчына — сірата, спявалі яшчэ:

Ды хто, ды хто цёмнай ночкі не даспаў,
Да магілачкі чорную сцежку пратаптаў?
Маладая Ганначка цёмнай ночкай не спала,
Да магілачкі чорную сцежку таптала,
Сваю мамачку на вяселле прасіла:
— Устань, устань, мая мамачка, да мяне,
Хаця ж скажы хоць адно слаўцо для мяне.
— Я не ўстану, маё дзіцятка, да цябе,
Бо я маю вялікі жаль да цябе,
Што напрасіла такіх важных сталяроў,
Што збудавалі мне хатачку без вакон,
Што не высеклі ніводнага аконца,
Што не асвеціць ні месячык, ні сонца,
Што не асвеціць дарожачку да цябе.

Калі вянок быў гатоў, маладая падыходзіла да стала, кланялася дзяўчатам і дзякавала. Дзяўчаты працягвалі нітку праз усе іголкі, выходзілі з хаты, беглі на рэчку і пускалі іголкі — каб выйсці замуж. Хлопцы ж стараліся не пусціць дзяўчат на рэчку.

У гэты ж вечар пасля вянка прыходзілі, а калі з другой вёскі, то прыязджалі малады і дружкі на змовіны, дзе дамаўляліся, у колькі гадзін выязджаць да вянца, калі маладому ехаць па маладую, колькі павінна быць прыданак (так называліся госці ад маладога, якія ехалі з ім да маладой). Дружка ставіў на стол пляшку гарэлкі, якую маці маладой накрывала ручніком. Гэты ручнік дружка пры ад'ездзе забіраў сабе.

## У МАЛАДОГА

У пятніцу ў доме маладога пяклі каравай. Парадак і песні тыя самыя, што і ў маладой, толькі ў песнях змянялі імёны. У суботу вечарам малады запрашаў да сябе музыкантаў. Збіралася моладзь, танцавала. Спеваў тут не было.

## ВЯНЕЦ

У нядзелю рана ў маладога збіраліся родныя і музыканты. Выпівалі па чарцы. Потым бацькі перахрышчвалі сына, ён цалаваў у бацькі і маткі руку, пасля цалаваў іх у твар і з дружынаю ад'язджаў да маладой. Ехалі ў такім парадку: на першым возе — дружка, яго жонка або хросная матка і музыканты, на другім — малады, першы маршалак і сваццця, на трэцім — яшчэ адзін маршалак, яшчэ адна сваццця і паддружчын з жонкай або з другой жанчынай (апошняя пара абавязкова складалася з жанатага і замужняй). Перад ад'ездам маладому спявалі:

У нядзельку рана сонейка грае, (2)
Малады Андрэйка каня сядлае,
Не так сядлае, як навучае:
— Ой ты, косю, косю мой вараненькі,
Не будзь ты, косю, у людзях дурненькі.
Ой, будуць цябе там навучаці,
Будуць пад ножкі табе страляці,
Нясі ты ножкі вышэй дарожкі,
Нясі галоўку, як ясны сокал.
Ды клён-малён па дворыку паслаўся, (2)
Малады Андрэйка ў дарожаньку сабраўся.
Сеў за столік, зялёнага віна напіўся,
Затым ён у дарожаньку спазніўся.
Пасадзілі Андрэйку пад кутнім ваконцам.
Ён сядзіць-пасядае, у ваконца пaглядае,
У ваконца паглядае, на татачку наракае:
— А татачка родненькі, няма ў цябе парадачку,
Яшчэ конікі не сядланы, а дружына не збірана.
— А Андрэйка, дзіцятка, не турбуй галовачкі,
Я й конікі пасядлаю, я й дружыну пазбіраю.

А ў маладой таксама збіраліся ў вызначаны час госці. Прыходзілі яны не з пустымі рукамі. Бралі з сабой па вялікаму расквечанаму бохану хлеба і вялікаму пшанічнаму пірагу. Да гэтага дадавалі мяса, багацейшыя — кумпяк ці лапатку, а бяднейшыя — 2—3 пары каўбас, кавалак сала. Усё звязвалі ў сурвэтку. Неслі пераважна мужчыны. Сваццці-бальшанкі ў каморы прыбіралі маладую.

Калі пад'язджаў малады, хлопцы зачынялі вароты, а дзяўчаты, што мясілі каравай, закладалі ўпоперак дзверы ў сенях лапаткай, якой садзілі каравай. Хлопцы і дзяўчаты вымагалі ад маладога выкупу. Дзяўчаты ў гэты час спявалі:

Шасцяць-звіняць шаўковыя павады,
Ляцяць-стучаць вараны коні ад вады.
Чула-пачула малада Ганначка ў каморы,
Кінулася сваёй мамачцы ў ногі:
— Не аддай мяне, мамачка, ад сябе,
Хоць я пабуду адзін гадочак у цябе,
Хоць у цябе русую касу пачашу,
Хоць у цябе сені-хату падмяту,
Хоць я тваё падворыка падмяту,
Хоць я тваё падворыка прыбяру,
Хоць я табе з крынічкі вады прынясу.

Калі хлопцы атрымлівалі выкуп — пляшку гарэлкі, яны адчынялі вароты, і малады пад музыку заязджаў на падворак, спыняючыся каля ганка. Дзяўчаты ў гэты час спявалі:

Выйдзі, мамачка, на ганачак — паглядзі,
Ці харошага табе зяця прывязлі,
Ці ёсць у яго на шапцы расіца,
Ці ёсць у яго за свацейку сястрыца.
Няма ў яго на шапцы расіцы,
Няма ў яго за сваціцу сястрыцы.

З хаты выходзілі бацька і матка, несучы на талерцы хлеб. соль, цукар і чарку гарэлкі. Убачыўшы іх, малады злазіў з воза і цалаваў у бацькоў руку. З талеркі нічога не браў. Бацькі вялі маладога ў хату. Першым ішоў дружка. Дзяўчаты каля дзвярэй вымагалі выкуп. Дружка даваў ім гарэлкі ці цукеркі, тады яны адчынялі дзверы. Калі малады ўваходзіў, маладая праз шчыліну, так, каб ён яе не бачыў, давала яму хвігу — каб ён не меў над ёю ў жыцці перавагі. Маладога і ўсю яго дружыну садзілі за стол. Маці маладой прыносіла два ручнікі. Хросная маці перавязвала імі дружку і паддружчына — аднаго праз плячо, а другога ў поясе — і казала: «Мы прыйшлі зазначыць сватоў». Сваццi маладой — бальшанкі — прыносілі на талерцы кветкі і насатку маладому. Перавязаную белай вузкай стужкай кветку прышпільвалі перш-наперш маладому і давалі яму настойкі. Прышпільвалі такія ж кветкі дружку, паддружчыну і маршалкам: жанатым — на правым баку, а нежанатым — на левым. За гэта апошнія на талерку клалі грошы. За сталом малады і дружына сядзелі нядоўга. Уставалі і, крыху пастаяўшы воддаль, выходзілі з хаты. Хросны бацька, сваціцы-бальшанкі і два закоснікі, якіх ужо бальшанкі

таксама адзначылі кветкамі (закоснікі ў маладой — прыкладна тое ж, што і маршалкі ў маладога), пад музыку выводзілі з каморы маладую. Старшы закоснік вёў маладую пад руку. Садзіліся за стол усе, апрача маладой, якая ўвесь час стаяла ў канцы стала. Доўга не бавіліся. Выпівалі, закусвалі і ўставалі. Адсоўвалі стол. Хросны бацька браў з талеркай каравай, гаварыў: «Дзе тут ёсць бацька і маці, просім на благаслаўленне!» — і ішоў кругом стала. Маладая, нізка кланяючыся бацькам, ішла за хросным бацькам, а за ёю, узяўшыся за рукі,— уся дружына. Дзяўчаты спявалі:

Пайшоў сад-вінаград (2)
Па зарэчайку,
Крышачы, ломячы
Вішні-цярэшні.
Да пайшла Ганначка,
Да пайшла маладая
Па застолейку,
Крышачы, ломячы (2)
Белыя ручкі,
Просячы, молячы (2)
У бога долечкі. (2)

Затым маладая станавілася на калені на белым разасланым на падлозе абрусе. Падыходзілі бацькі, бласлаўлялі дачку. Маладая ўставала, кланялася нізка бацькам, цалавала ў іх руку і твар. Затым кланялася ўсім у хаце. Дзяўчаты спявалі:

Паедзеш, Ганначка, богу маліцца, (2)
Не забудзь мамачцы нізка скланіцца.
— Як забудуся, назад вярнуся,
Сваёй мамачцы нізенька скланюся.

Калі маладая — сірата, спявалі:

Ой, знаці, знаці па застолейку,
Што Ганначка — сіротка. (2)
Новыя сені — не ўсе паселі,
Не ўся радзімка. (2)
Новая хата — не ўся нарада,
Няма ў яе мамачкі. (2)
Каго ababраці, каго паслаці
Па яе радзімку,
Каго абабраці, каго паслаці
Па родную мамачку? (2)
Салавейку на Украіначку —
Па яе радзімачку, (2)
Шэрую зязюлю шчабятлівую —
Па родную мамачку. (2)
Салавейка ляціць, радзімку вядзець,
Да хвала табе, божа.

Зязюлька ляціць — мамачкі няма,
Ой, ты моцненькі, мой божа.

Маладая Ганначка ночку не спала,
Сваю мамачку яна шукала.
— Твая мамачка вельмі далёка,
Вельмі далёка, ў зямлі глыбока.
Твая мамачка за трыма замкамі:
Першы замок — зялёны дзярночак,
Другі замочак — жоўты пясочак,
Трэці замочак — дубовыя дошкі.
Дубовыя дошкі сціснулі ножкі,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі,
А зялёны дзярночак на грудцы спалёг.
— Не магу ўстаці да свайго дзіцяці,
Да свайго дзіцяці — долечку даці.
Я табе пашлю трох анёлаў:
Што ў канцы стала — доля твая,
Што ў сенях — тваё благаславенне,
А што ў варотах, той выпраўляе,
Той выпраўляе, долю пасылае.
Да хто ў садочку па халадочку шукае?
Маладая Ганначка сваёй мамачкі шукае.

Маладая Ганначка,
Будзеш ехаць блізка лугу,
Вылазі каліначку,
Стукнеш-грукнеш у магілачку,
Пабудзіш сваю мамачку,
Папрасі на вяселейка,
На божае благаслаўленейка.

Ад гэтых песень амаль усе плакалі. Калі вяселле было ўзімку, маладая ішла ў камору апранацца. Маладыя з дружынай садзіліся на вазы. Падавалі каня і маладой. Дзяўчаты спявалі:

Маладая Ганначка, сабірайся,
Сабірайся, не баўся, там цябе дажыдаюць,
Там цябе дажыдаюць, царкаўку адчыняюць.
Адчыняйся, царкаўка, адчыняйся, божы дом,
Вядуць двое дзетак, двое дзетак-адналетак:
Адно дзіця роджанае, другое суджанае,
Андрэйку сам бог радзіў, а Ганначку яму судзіў.

Маладая з караваем узлазіла на воз, але не садзілася, пакуль не выязджалі з двара. Бацька хрысціў дарогу перад канём, абыходзіў тры разы воз і абсыпаў яго аўсом, хмелем. Дзяўчаты спявалі:

Я сваё дзіцятачка аўсом, хмелем абсыпаю, (2)
Шчасце-долю пасылаю.

Жыві, жыві, дзіцятачка,
Як птушачка ў садочку, (2)
Як пчолачка ў вулёчку.

На ад'ездзе маладая кідала дзяўчатам каравайчык. Яны пыталіся ў яе: «Дзе ключы?» Яна адказвала: «У аўсе, ідзіце за мною ўсе». Калі выязджалі з двара, маладая садзілася. Малады ехаў да вянца паперадзе.

## АД ВЯНЦА

Ад вянца ехалі ў такім парадку: паперадзе — дружка, за ім — маладыя, за маладымі — усе астатнія. Дружка праязджаў паўз ганак і падаваўся далей на падворышча. А маладыя затрымліваліся каля ганка. На ганку стаялі бацькі маладой. Бацька трымаў талерку з хлебам, соллю, цукрам і дзвюма чаркамі гарэлкі. Маладыя злазілі з воза, кланяліся нізка бацькам, выпівалі гарэлку, каштавалі тое, што было на талерцы, і ішлі ў хату. Дзяўчаты спявалі:

Ды прыляцела шэрая зязюля з ялаўцу, (2)
Ды прыехала маладая Ганначка з-пад вянцу.
Ды стала яе мамачка пытацца:
— Ды ці ўмела, маё дзіцятка, вянчацца?
— Не пытайся, мая мамачка, у мяне,
Пытайся, мая мамачка, ў бальшанак.
Яны ля мяне блізенька стаялі,
Яны відзелі, як нас маладых вянчалі,
Яны відзелі, як мы пярсцёнкі мянялі,
Яны відзелі, як белыя ручкі звязалі.

Маладыя ішлі да стала, за імі — госці. Дружка садзіўся на зэдаль, а маладыя ў канцы стала. За маладымі садзіліся дружына маладога, а затым дружына маладой і ўсе госці. Пачыналася частаванне.

Крыху пачакаўшы, як бы змовіўшыся, усе крычалі: «Горка!» Маладыя кідалі цукеркі, але гэта не дапамагала, і яны цалаваліся. Гулялі ўсю ноч, танцавалі, частаваліся, спявалі песні:

Ой, не год, не два ждалі, (2)
Каб мы тут гулялі.
Не нядзельку расцілі, (2)
Каб тут пагасцілі.
А наўкола хаты зелле, (2)
А ў сярэдзіне вяселле.
А наўкола сыр і масла, (2)
А ў сярэдзіне доля шчасна...

Ой, вяселле, вяселле, (2)
Да надзьмуў пятух пер'е, (2)
Як вяселле пачнецца,
Тагды пятух надзьмецца.
Як вяселле скончыцца, (2)
Тагды пятух скорчыцца.

А сват сваццi паплёў лапцi з тоўстых лык, (2)
А сам ходзiць на падворку, як iндык. (2)

Сакатала курка, сакатала,
Чула вяселле — не сказала,
А мы тут курку на юшку,
А перыйка на падушку.

Пад час скокаў пелi:

Ой, гуляйце ў нас, мае ластаўкi,
А мы ў заўтра ў вас на ўсе застаўкi!
А Лявонiху Лявон палюбiў,
Лявонiсе чаравiчкi купiў.
А Лявонiха, душа ласкавая,
Чаравiчкамi паляскiвае...

Ой, казала на мяне маладу,
Што я дзеўкай дзiця не прывяду.
Багдай таго галава хварэла,
Як я дзеўкай дзiцяняцi не мела.

Ой, у горлi шчыкацiць, (2)
Яго трэба прамачыць, (2)
Трэба выпiць, закусiць, (2)
Каб у горле прамачыць. (2)

Казалi, мой муж добры,
Багдай яму такi век доўгi,
На вулiцу не пускае мяне,
Па вадзiцу пасылае мяне.

А свацiца, свацiца, дзе нам з табою трапiцца,
Цi ў поле гонячы, цi кароў доячы,
Цi волiкi пасучы, цi гарэшкi трасучы.

Дзевяратка мой мiлюсенькi,
Вядзi мяне памалюсеньку,
Не вядзi мяне па межачцы,

Вядзі мяне па дарожачцы.
Па межачцы мае ножкі не ідуць,
Па дарожцы яны самі бягуць.

## ПАНЯДЗЕЛАК

Раніцаю рыхтавалі сталы. Збіраліся сваякі, суседзі. Заходзячы на падворышча, спявалі:

Прасілі мяне на вяселейка, (2)
А я й прыйшла.
Андрак новы, кумпяк голы, (2)
Кашулька тонка, на пуп толькі,
Я й прышла.
Ці я ў доме работачкі не знайшла, (2)
Ёсць у хаце тры найміткі ў мяне,
Паробяць яны работу за мяне.

Снедаючы спявалі:

Прасі, мамачка, свайго зяцейка ў даму,
Каб ён мяне не біў, не губіў, маладу,
Каб не была паветачка хатачкай,
Каб не была суседачка мамачкай.
Паветачка не цёплая хатачка,
Суседачка не родная мамачка,
Каб не стаяла цёмнай ночкай пад вакном,
Каб не ўцірала дробных слёзачак рукавом.

Ой вы, сваты, ой вы, галубочкі,
Просім вас,
Не смуціцеся, весяліцеся,
Ваша ў нас.
А ёсць жа ў нас бочачка піва —
Усё для вас.
Піва не стане,
Мёду дастанем — усё для вас.

Думала маці, не збудзе дзіцяці,
Збыла дзіцятка за адну нядзельку!
За адну нядзельку, за адну вячэрку.
Садзіцца вячэраць — ложачка гуляе, (2)
Лажыцца спаці — пасцелька нямая.
— Дзе ж маё дзіцятка заначавала?
Можа, ў родным полі пад каліною?
Калінку ламала, пад галоўку клала,
Кляновым лісточкам накрывалася.

Пад'язджаюць «цыганы»: гэта госці ад маладога, якіх не выправілі з маладым у прыданкі. Тут моладзі амаль не было — да-

лёкія сваякі і суседзі. Мужчыны перапраналіся ў жаночае і наадварот. Вываровалі кажухі, на галовы надзявалі вёдры, твары вымазвалі сажай. Пад'язджаючы пад браму, «цыганы» спявалі:

Аспадар, аспадар, адчыняй вароты,
Едуць, едуць цыганы, бедныя сіроты.

«Цыганоў» садзілі за стол асобна, частавалі. За сталом яны сядзелі нядоўга. Хутка падымаліся, скакалі, спяваючы:

Цыганачка, цыганачка па гары хадзіла,
Чабор-зелле, чабор-зелле ў рукаве насіла.
Цыганачка-цыганачка лянуецца прасці,
Туляецца каля плоту, каб кашульку ўкрасці.

Там на гары цыганы стаялі,
Думала, думала цыганка маладая.
Адзін цыган не п'е, не гуляе,
На цыганачку скоса паглядае.
— Ты, малада цыганка, будзь мая каханка.

«Цыганы» кралі талеркі, відэльцы, лезлі ў хлеў. Ад іх усё адбіралі. Пад музыку «цыганы» ад'язджалі дамоў, спяваючы:

Цыганы-цыганы, касматыя пяты,
Сабірайцеся на воз, паедзем да хаты.

Вясельнікі садзіліся за стол. Каля маладога садзілі старую жанчыну. Маладая — воддаль. Як абарона вакол яе — дзяўчаты. Ставілі на стол талерку і накрывалі яе хусткай. Сваты маладога павінны былі выкупіць маладую. Дзяўчаты спявалі:

Не гніся, маршалак, не гніся,
Палажы та́лерак на місе,
Палажы та́лерак раз і два,
Бо наша Ганначка не ўдава.

Малады жартам абдымаў старую жанчыну, казаў, што яму і «гэта хараша». Таргуючыся за маладую, шмат жартавалі. Маршалак клаў на талерку грошы. Калі мала, маладую не аддавалі, торг працягваўся. Дзяўчаты спявалі:

Казалі сваты — багачы,
Ажно сваты — галышы.
Па бярэзнічку гулялі,
Па венічку звязалі,
На кірмашыку прадавалі,
Нашу маладую выкуплялі.

Нарэшце маладую выкуплялі. Старая жанчына ўступала месца маладой, якую і саджалі каля маладога. Пасля гэтага «пілі барыша». Зноў спявалі песні:

Сядзем, мамачка, нагаворымся з табою, (2)
Пагаварыўшы, парадзімся з табою.
Табе, мамачка, адна кашулька, а мне дзве,
Бо я пайду ў чужыя людзі, а ты не.
У чужыя людзі, у чужую старану,
Каб не было мне маладой сараму.

Паедзеш, Ганначка, у чужыя людзі, (2)
Хто цябе, Ганначка, шкадаваць будзе?
Ці цябе свёкар, ці цябе свякроўка,
Ці цябе дзевяр, ці цябе ятроўка?
Ці табе, Ганначка, роскаш надаела,
Што ты, малада, замуж захацела?
Ці табе, Ганначка, замуж хочацца?
Чаму ў цябе слёзы не коцяцца?
Ці ў цябе вочкі пазлачаныя,
Ці ў цябе слёзкі пазычаныя?

Бывай, бывай, мая мамачка, здарова!
Прыйшла па мяне з Украіначкі дарога.
Ці будзеш па мне, мая мамачка, тужыці,
Што аддаеш на цэлы век служыці?
Ці будзеш па мне, мая мамачка, бедаваць,
Што аддаеш на цэлы век гараваць?
— Ой, буду, буду, мая дзіцятка, бедаваць,
Што аддаю на цэлы век гараваць.

Ой, пайду я ў роднае поле жыта жаць,
Займу пастаць шырокую — не з кім гнаць.
Пагляжу на ўсе бакі, кіну жаць,
Нігдзе майго дзіцятка не відаць.

Мамачка мая, я госця твая, (2)
Нямножка буду, дакучаць не буду,
У панядзелак рана толькі для снядання, (2)
А да абеду я ўжо паеду.
Ужо конікі пазапрcaptаны,
Ужо вазочкі пазасціланы,
Для нас, маладых, прыгатаваны.

Сонца за месяц усё павышэй, (2)
Ой, месяц сонцу ды пакланіўся,
Ганначка татачку пакарылася.
— Успомні, татачка, хоць у суботку,

Я цябе ўспомню, робячы работку.
Успомні, татачка, хоць у нядзельку,
Я цябе ўспомню, сцелючы пасцельку.
Бо там старонка невядомая,
Бо там сямейка невясёлая.

Маршалку першаму:

Харошанькі, кучаравенькі маршалак,
Ды хто ж яму яго кудзеркі ўчасаў?
Дасужа была яго мамачка ўчасала,
Учасаўшы, ў чужыя людзі пускала,
У чужыя людзі, у чужую старану.
Каб не было майму дзіцяці сораму,
Каб не было майму дзіцяці гонару. (2)

Маршалку другому:

Харошанькі маршалачак,
Цябе дзеўкі спадабалі, (2)
Ў садочку агонь клалі,
Яешаньку гатавалі.
Маршалачку гатавалі,
Маршалачку частавалі:
— Маршалачак, не стыдзіся,
Вазьмі лыжачку, пасіліся.

Сваццi-меншанцы:

Наша сваціца-багатырачка
Полем ехала, не ўпынілася,
Бродам ехала, не ўрасілася.
Полем ехала, укрывалася,
Бродам ехала, падымалася. (2)

Падружчыну:

Скакаў, плясаў белы гарнастай па стале,
Прыскакаў ды к падружчынай кішэні. (2)
— Ды дай, дружчатка, сыру белага з кішані.
— Я не маю сыру белага з кішані,
Мёду сладкага, піва хмельнага,
Толькі маю два яблычкі вінныя,
Тыя павязу сваёй жане з пахмелля.

Падружчынай жонцы:

Наша сваццця маладая,
На ёй шуба галубая.
Ой, не тут яе галубілі,
Яе ў Вільні купілі, (2)
Ды на сваціцу злажылі.

За песні сваты плацілі. Грошы хавалі ці пад талерку, ці пад абрус. Спевакі знаходзілі іх і дзякавалі песняй:

Дзякуем сватам за гасцінец,
Хоць маленькі, але даражэнькі.

Таму, хто мала плаціў, спявалі злосную песню:

А наш сваток вельмі харош,
Па яблыку вочы, з гарбуза нос, (2)
Бруха, як ладзейка, — ледзь прывёз.

Пасля частавання ўставаў дружка і гаварыў, што будуць іграць «маршы». Само слова «марш» не азначае, што гэта павінен быць абавязкова марш. Тут магла быць любая музыка. Заказвалі як песні, так і танцы. Выходзілі на хату музыканты. Перш гралі маладым, пасля дружку, сватам, усім гасцям па парах, напрыклад мужу з жонкай, шаферу з шаферкай, называючы тых, каму збіраліся іграць. Кожная пара магла заказваць музыкантам што хацела. Калі музыканты ігралі, усе ўставалі і скакалі пад музыку, спяваючы. За ігру музыкантам кожная пара плаціла. Грошы клалі на талерку. Пасля «маршаў» сястра маладога спявала:

Ды паедзем, май брацейка, дадому,
Ды павязём сваю братаўку з сабою,
Нас тут не любяць, не галубяць,
А ўдома ждуць.
Наша мамачка старэнькая
Удома жджэ.
Прахадзіла белыя ножкі ходзячы,
Праглядзела свае вочкі гледзячы.
— Чаму ды чаму майго дзіцяці доўга няма, (2)
Можа, яго ў скрынкі-пярынкі ўвязалі,
Можа, яму маладой Ганначкі не далі?

Затым маці маладой ставіла гарачую капусту і запрашала на гарачую страву. У гэты час спявалі:

Ешце, сваты, капусту нашу,
Бо наша капуста ёсць тлуста.
Лезла котка з печы —
Памачыла хвост і плечы.
Ешце, сваты, капусту нашу,
З'ядуць ваўкі кабылу вашу.
Прыехалі пацярэбнічкі,
Як церабілі, так церабілі.
На стале ні крошачкі,
Пад сталом ні костачкі.

Пасля капусты давалі беленыя макароны. Затым выходзілі з-за стала. Той стол, дзе сядзелі маладыя, засцілалі чыстым абрусам. Да стала падыходзіў дружка, якому давалі качаргу. Ён стукаў качаргою ў бэльку і казаў: «Дзе тут ёсць бацька і матка? Просім на падарунак». Прыходзілі бацькі, клалі на талерку хлеб-соль і казалі: «Няхай сам бог даруе, шчаслівую долю гатуе». Маладая нізка кланялася, дзякавала, цалавала бацьку і матку ў руку, потым — у твар. Падыходзіла хросная маці, накрывала маладую станінаю і гаварыла тыя ж словы, што і бацька. Маладая таксама дзякавала. Далей дружка выклікаў па старшынству сваякоў, а пасля гасцей. Дарылі хто грошы, хто свіначку, хто авечку. За кожным разам спявалі:

Казалі, ў лузе вадзіцы многа, (2)
Казалі, ў Ганначкі радзінкі многа.
Як пілі, елі — нагуляліся,
Сталі дарыць — пахаваліся:
То па завуголле, то па-за печчу.
Ой, дарылі, дарылі,
Ды нямножка здарылі:
Ганначцы на хустачку,
Андрэйку на шапачку.

Пасля гэтага збіраліся ад'язджаць да маладога. Хросная маці забірала каравайчык і ўсё тое, што было прызначана на падарункі маладому. Брала яшчэ шклянку жыта, у якое клала дробныя грошы і цукеркі, а таксама два найлепшыя ручнікі на абразы. Маладая выбірала 3—4 пары прыданак са сваякоў і прасіла ехаць разам з ёю і яе сватамі да маладога. На прыгатаваныя і прызначаныя для маладой падушкі садзілі дзіця. Сваты маладога мусілі выкупіць падушкі. Давалі дзіцяці цукеркі або грошы на цукеркі. Дружка прасіў хлопцаў вынесці скрыню на воз і частаваў за гэта гарэлкай. Маладая ішла ў камору, надзявалася так, як да вянца, накідала на сябе яшчэ станіну, якою яе накрыла хросная маці, і падыходзіла разам з маладым да стала. Бацькі, родныя і хросныя, а з імі і дружка пілі па чарцы. Маладая станавілася на лаву, хрысцілася, цалавала абразы. Адзін з іх, якім благаславілі яе бацькі, здымала і давала хроснай мацеры. Бацькі благаслаўлялі тымі ж словамі, што і першы раз. Амаль усе плакалі. Маладыя, а з імі і ўся дружына маладой — хросныя бацькі, дзве свацці-бальшанкі, два закоснікі, 3—4 пары прыданак — ад'язджалі да маладога. Хросны бацька вёз скрыню, а хросная маці — падарункі і абраз. Спявалі:

Ужо Ганначка са двара з'язджае, (2)
Яе мамачка ключоў пытае:
— А дзе, Ганначка, ключы падзела?

— Што ад каморы, вісяць на прабоі, (2)
Што ад святліцы, ляжаць на паліцы,
А што ад скрыні, у мяне, маладзенькай.

Прыданкі маладой спявалі сватам маладога:

Едзьце, сваты, з богам дамоў,
Бо вы ўжо нам надаелі,
Коні салому паелі,
Ільняную мякіну,
Каля плоту крапіву.
Калі будзеце начаваць,
Будзеце салому даставаць.

Як маладыя садзіліся на воз, спявалі:

А дзевачкі-сястрыцы, садзіцеся па сем на воз,
Каб Ганначку конік не павёз,
Каб дуга зламалася,
Каб атоса паламалася,
Я, малада, засталася.

Каля двара маладога хлопцы пераймалі маладых. Потым ім адчынялі браму. Маладыя пад'язджалі пад ганак. Хлопцы паднімалі іх тут на «ўра» Дзяўчаты спявалі:

Выйдзі, мамачка, паглядзі на ганачак,
Ці харошую нявестачку прывязлі.
— Хоць харошая, ці не харошая — тут будзе,
Ніхто яе з гэтае хатачкі не збудзе.

Бацькі маладога выходзілі сустракаць. Бацька трымаў у руках талерку з хлебам, соллю, цукрам і дзвюма чаркамі гарэлкі. Маладыя выпівалі. Маці выносіла лубку жыта і ставіла яе каля ганка. Калі дзяўчына была цнатлівая, яна станавілася ў лубку, клала ў жыта каравайчык і пояс. У гэты час хросная маці накрывала ручніком каня, на якім ехалі маладыя. Маладая выходзіла з лубкі, нізка кланялася бацькам, цалавала ў іх рукі і накрывала абодвух станінаю. Музыканты ўвесь час ігралі.

Бацькі ішлі ў хату, за імі — маладыя. У сенях бацькі прапускалі наперад маладых. Тут госці маладога загароджвалі ім дарогу — хто «стрыг» кажух, нібы авечку, хто «праў», хто «ткаў». Кожнага маладая мусіла адарыць — каго хустачкаю, каго поясам, каго ручніком. Нарэшце, маладая пераступала парог хаты. Хросная маці давала ёй узятае з дому жыта з дробнымі грашыма і цукеркамі. Маладая брала пакрысе жыта і пасыпала перад сабою.

Потым хросная маці падавала маладой каравайчык, абкручаны поясам, маладая клала яго на прыпечак і накіроўвалася пад

музыку да сталоў, якія былі ўжо накрыты. На месцы, дзе павінны сядзець маладыя, сядзеў «стары дзед» — напханае саломай ці сенам чучала, якое абдымала старая жанчына. Музыканты ўвесь час ігралі. Жанчына жартам трэсла «дзеда» — нібы танцавала. Маладая павінна была выкупіць месца. Для гэтага «дзеда» падпяразвала поясам, а жанчыне павязвала хустку. Жанчына падхоплівала «дзеда» пад паху і, танцуючы пад музыку, выходзіла з-за стала. Затым маладая клала ручнік на «сад» — пастаўлены на стале збан з галінкай дрэва, на якой віселі яблыкі і цукеркі. Пасля гэтага хросная маці падымалася на лаву, вешала на сцяне свой абраз і завешвала ўсе абразы сваімі ручнікамі. На кут для пашаны садзілі хроснага бацьку маладой. Маладыя садзіліся сваё месцы ў канцы стала. Каля маладых — сваты маладой. Дружка на сваім месцы — на зэдлі. Сваты маладога садзіліся воддаль ад сватоў маладой. Калі маладая была з чужой вёскі, спявалі:

Прыехаў Андрэйка з людзьмі не знанымі, (2)
Прывёз сабе жонку з доўгімі нагамі, (2)
Сядзіць на возе — ногі на парозе,
Сядзіць на куце, як сава на кусце, (2)
Спусціла насішча, як сава хвасцішча.

Сваякі маладой адказвалі радні маладога песняй:

А мае ж вы галубіцы,
Ляціць курыца па вуліцы,
Хоць вы яе цалкам з'ешце,
Толькі ў вочы нам не лезце.

Першую чарку пілі бацькі. Маладая пакрывала чарку—клала бацькам падарунак. Крыху пачакаўшы, дзяўчаткі спявалі:

Маладая Ганначка, ды знімі пакрывала, (2)
Ды паглядзі на хатачку.
Наша хатка не мяцёная
І сямейка не вясёлая.
— А я хату мясці буду,
А сямейку весяліць буду.

Маці маладога павінна была зняць з нявесткі станіну, якою яе накрывала яшчэ дома хросная маці. Для гэтага яна брала качалку, абкручвала яе белай хустачкай і пачынала здымаць з маладой станіну, накручваючы яе на качалку. Пасля тры разы абносіла гэтай качалкай маладых і кідала яе ў кут. Нявестка кланялася свякроўцы, цалавала ў яе руку, твар, і па прапанове дружкі абедзве яны пілі адна да адной па чарцы гарэлкі — каб у іх заўсёды была згода. Потым гулялі, танцавалі.

## АЎТОРАК

Раніцай, калі маладыя выходзілі з каморы, дзе спалі, сваячка маладога, напрыклад сястра, бралася месці хату. Маладая давала ёй за гэта хустку ці пояс або грошы — «на венік». Затым маладая ішла па ваду. Яна брала з сабой маленькі каравайчык, абкручаны поясам. Гэты каравайчык яна пакідала на калодзежы, набірала вады і прыносіла яе ў хату. Каравайчык і пояс забіраў гаспадар студні.

Маладыя з дружкай ехалі па бацькоў маладой. Там іх частавалі. Маці маладой перавязвала дружку ручніком. Узяўшы з сабой каравай, мяса, маці і бацька разам з дружкам і маладым ехалі да яго бацькоў. Там іх запрашалі за стол, частавалі. За сталом спяваліся песні:

— Маладая Ганначка, а што ж табе зрабілася,
А што ж табе зрабілася, што ты да нас прасілася?
Наша поле гарыста, свякроўка ганарыста.
— Я поле раўнаваць буду, свякроўцы дагаджаць буду.
— Маладая Ганначка, ці ўзяла ты з дому пужку?
Будзеш у нас за пастушку.
Дома ўмела пагуляці,
У нас будзеш у полі жаці.
Дома была работніца,
У нас будзеш нявольніца.
А на гары ярыца, ярыца,
Наш Андрэйка — п'яніца, п'яніца.
А Ганначка — вішанька, вішанька,
Да пасунься блізенька, блізенька.
— Я не буду сунуцца, сунуцца,
Бо людзі скажуць: любяцца, любяцца.

Маладая Ганначка, чаго ж ты да нас прыйшла?
Ці ты да нас вады прыйшла,
Ці ты да нас па што прыйшла?
Калі б ты да нас вады прыйшла,
Прыйшла б з вядзёркамі,
Прыйшла б з вядзёркамі, з залатымі карамысламі.
Каб ты да нас агню прыйшла,
Прыйшла б з судзінкаю,
Прыйшла б з судзінкаю, з сярэбранай хусцінкаю.

Далей вяселле ішло, як і ў маладой. Таксама з «цыганамі».

У гадзіны чатыры зноў садзіліся за сталы. Маці маладога ставіла перад маладымі місу з яечняй-баўтухай, прыбранай спечанымі з цеста кветкамі і птушкамі. Ставіла такія ж місы і перад гасцямі. Маладая накрывала місу, што стаяла перад ёй, палатном. Маці здымала палатно. Дружка ўставаў, гаварыў: «Сваты да

мовы, чаркі без мовы»,— і прапаноўваў мацеры ўзяць першую лыжку, а бацьку — першую чарку; прасіў усіх выпіць. Выпівалі, закусвалі і спявалі:

Эй, сваточак, багата ў доме маешся, эй, сваточак;
Эй, сваточак, жонка сына радзіла, эй, сваточак;
Эй, сваточак, а каровачка — бычка, эй, сваточак;
Эй, сваточак, а авечка — барана, эй, сваточак;
Эй, сваточак, а свіначка — парсючка, эй, сваточак.

Дружына і прыданкі маладой на вяселлі называліся «сваты». Усім ім, як ад'язджалі ў аўторак дадому, спявалі такія ж самыя песні, што і дружыне маладога ў панядзелак пры ад'ездзе ад маладой. Маладой цяпер спявалі такія песні:

У ціхім лесе піла пілуе, (2)
Малада Ганначка бяду бядуе. (2)
— Няма з кім стаці, пагараваці, (2)
Сваёй бедачкі ўпоў падзяліці.
Мае сцежачкі невядомыя,
Мае суседачкі незнаёмыя.

Малада Ганначка, тут табе добра не будзе,
Чорнага хлеба не будзе,
Чорнага хлеба не пякуць,
І таго есці не дадуць.
Чорнага хлеба адрэжаш
І ў хаце сварку адкрыеш.
А хоць будзе — не ўгрызеш,
У гэтай сямейцы не ўжывеш.

Сваццi-бальшанцы:

Маладая сваціца, адхіліся,
На ўсе багі агляніся.
Нашы хлопцы спадабалі,
У садочку агонь клалі,
Яешаньку гатавалі,
Бальшаначку частавалі.
А сваціца, не стыдзіся,
Вазьмі лыжку, пасіліся.

Сваццi-бальшанцы другой:

Наша сваццюя гарда, пышна, божа,
Не п'е піва пшанічнага, божа,
Хоча мёду пшанічнага, божа,
Пайшлі пчолкі у брод па мёд, божа,
Ідуць з броду, нясуць мёду, божа,
Будзем чаркі наліваць, божа,
Будзем сваццю частаваць, божа.

Закосніку:

Харошанькі, кучаравенькі закосністак...

(Далей так, як спявалі маршалку першаму ў доме маладой.)

Свату:

А сваточак, не едзь дамоў, божа,
Не едзь дамоў, гуляй з намі, божа,
Будзем паіць гарэлачкай, божа,
Паложым спаць з паненачкай, божа.
А старшая прыданачка,
Ды пасунься на лавачцы,
Ды пасунься на лавачцы,
Ды зірні ў ваконца,
Ці высока сонца,
Яшчэ пагуляем,
А калі нізюсенька,
Дамоў ад'язджаем.

Потым, як і ў доме маладой,ігралі «маршы». Пасля «маршаў» елі гарачую страву — капусту і беленыя макароны. Сястра маладога спявала:

Ды дай, ды дай, мая мамачка, капусты.
Я ў сватоў была, капустачкі не ела,
Толькі на сваю братавачку глядзела,
Ці хораша з маім брацейкам сядзела.

## ДАРЭННЕ

Дарэнне праходзіла так, як і ў маладой. Толькі цяпер маладая давала яшчэ падарункі радні маладога. Перш за ўсё — бацькам, братам, сёстрам. Пасля дарэння бацькі, дружына і прыданкі маладой збіраліся ад'язджаць. Пры гэтым спявалі:

А сваціцы-галубіцы, просім вас:
Астаецца наша дзіцятка адна,
Хаця вы яе таўчы, малоць застаўце,
Хаця вы яе часта ў госцейкі пускайце.
Яна ж у нас таўчы, малоць умела,
Прасіцца ў госцейкі не смела.

Сваты маладога ў адказ спявалі:

А сваціцы-галубіцы, маўчыце,
Сваё дзіцятка паціхоньку навучыце,
Няхай яна сені-хату падмяце,
Няхай яна на вулку смецце не нясе.
Ёсць у нас курачкі кашлівы,
Ёсць суседачкі звадлівы.

Пасля дарэння і песень часам яшчэ садзілі за сталы, але ў большасці выпадкаў госці ад'язджалі. На ад'езд спявалі:

Стаіць конік на стаенцы, рагоча,
Брат з сястрыцаю расстацца не хоча.
Стаіць конік на стаенцы, ножкай туп,
Астаецца наша сястрыца адна тут.
Прыедзем дамоў, будзе матулька пытаці:
— Сыны-саколікі, дзе вы падзелі сястрычку?
— Ой, пала, пала наша сястрычка ў бяду —
Будзе хадзіць у ціхі Дунай па ваду.
Ой, пала, пала, наша сястрыца ў гора —
Будзе хадзіць па вадзіцу ў мора.

Ой, дзякуем свату за цёплую хату, (2)
Што мы добра гулялі, гарэлкі папівалі.

Спявалі таксама песню, што і ў маладой:

Едзьце, сваты, з богам дамоў і г. д.

У дарозе спявалі:

Чые ж гэта прыданачкі блудзілі,
У роўным полі дарожаньку згубілі?
Напаткалі маленькага Васіля,
Пыталіся дарожачкі да сяла.

Калі прыданкі прыязджалі дамоў, іх частавалі. Прыданкі спявалі:

Якаво ж табе, мамачка, без дачкі?
Павырасталі па-за лавейку казлячкі.
Якаво ж табе, мамачка, без дзеўкі?
Павырасталі па-за лавейку апенькі.

Запрошаныя госці рабілі «складанку», ставілі гарэлку. Бацьку і матку садзілі на кут. Калі была музыка, скакалі. Маці абвязвала дружку поясам, і ён пад музыку ішоў у істопку па каравай. Спявалі:

Дружка Мікалаю, давай нам караваю.
Дружка дружку каравай рэжа, яго ножык не лезе.
Дайце дружку гарэлкі ды мёду хмельнага,
Нам усім караваю па куску вясельнага.

Дружка прыносіў каравай, дзяліў яго на ўсіх. Пры гэтым спявалі:

Зачынілася хата, а ніводнага свата,
Зачыніліся сені, ды ўжо па вяселлі.

На гэтым вяселле ў бацькоў маладой заканчвалася.

У маладога па ад'ездзе гасцей маладой ізноў садзіліся за сталы. Іграла музыка, жанчыны спявалі:

Ты, нявестачка мая, уся парадачка твая.
Сама пайду па мучыцу, цябе пашлю па вадзіцу,
Сама буду бліны пячы, а ты пойдзеш свінням нясці,
Сама буду бліны есці, а ты будзеш сені месці.

Таксама, як і ў маладой, рабілі складанку, дзялілі каравай. Спявалі тую ж песню — «Зачынілася хата...», якую канчалі так:

Ой, казалі, у нас свадзьба была,
Засталіся мель ды нуда,
А я тую нуду перабуду,
Сама маладзенька тут буду.

Так заканчвалася вяселле ў бацькоў маладога.

Раней на вяселлі ігралі толькі на цымбалах і скрыпцы. Гармонік з'явіўся пазней, калі вяскоўцы пачалі хадзіць на заробкі ў горад, адкуль яго і прывезлі.

## ВЯСЕЛЛЕ У В. БЕРЛЕЖ ПУХАВІЦКАГА РАЁНА

### Запісаў А. С. Фядосік

Цяпер жэняцца толькі тады, калі маладыя людзі прыйдуць да згоды. Часцей за ўсё яны знаёмяцца задоўга да шлюбу, гуляюць, дамаўляюцца паміж сабой, а потым гавораць бацькам. Малады з бацькамі выбіраюць дзень і едуць да нявесты і яе бацькоў (пры гэтым яны бяруць з сабой хлеб, соль, гарэлку, ручнік).

Заходзяць у хату. Адразу не гавораць пра сапраўдную прычыну прыезду, прыкідваюцца купцамі, якія хочуць купіць цялушку. На гэта бацькі нявесты адказваюць:

— А наша цялушка бадліва, брыкліва, крыкліва, калюча.

Сваты ж не здаюцца, не «цяраюцца», на «цялушку» згаджаюцца. Ставяць на стол гарэлку, хлеб, соль. «Запіваюць» нявесту. Так адбываюцца запоіны (або заручыны).

Калі на заручынах бываюць сяброўкі нявесты (будучыя дружкі) і іншыя госці, тады, падпіўшы, яны спяваюць шмат песень. Сярод іх наступную:

Сваты хаты да й не ведалі *
Да ў хлеў заехалі,

* Кожны радок паўтараецца.

Бычку ручку далі,
А кароўцы шапку знялі,
А з цялушкай прывіталіся,
А авечачцы пакланіліся.
Свіння тут падзівілася,
Са смеху пакацілася.
Адзін сват пытае:
— А дзе ж ваша маладая?
А жывёлы засмяяліся:
— Не туды, сваты, папаліся.
На двары стаіць святліца —
Там жыве красная дзявіца.
Сватам сорам стала —
Заручыны йдуць нядбала.

На заручынах дамаўляюцца пра дзень вяселля. Нявеста падносіць маладому ручнік з хлебам і соллю.

Прыкладна праз тыдзень бацькі маладой разам з ёю едуць (або ідуць) да маладога і яго бацькоў, каб упэўніцца, што вяселле будзе. Калі маладая перадумала, то хлеб, соль, гарэлку і ручнік, які прывёз жаніх, вяртае яму назад; калі ж малады і нявеста згодны браць шлюб, то канчаткова дамаўляюцца пра дзень вяселля (адпаведна дамаўляюцца і ў сельсавеце аб рэгістрацыі шлюбу).

Вяселле пачынаецца звычайна ў суботу. У сярэдзіне дня ўчыняюць каравай. Для гэтага збіраюцца ўсе сваякі. Замешвае каравай часцей за ўсё хросная маці з дапамогай іншых сваякоў — каравайніц. З цеста качаюць шышкі, якія потым кладуць на каравай. У сярэднюю шышку закатваюць грошы (15 ці больш капеек) — «для жыцця харошага» (потым, калі разразаюць каравай, гэту шышку даюць маладым).

У час прыгатавання каравая спяваюць шмат песень. Замешаны каравай кладуць на драўляную лапату. Каравайніцы гушкаюць каравай, прыгаворваючы:

— Благаславі, ацец і маці, добрыя людзі! (Паўтараюць гэтыя словы тры разы.)

Каравай садзяць у печ, а каравайніцы ідуць за стол, каб «паліць» каравай. «Паліваюць» каравай такім чынам — п'юць гарэлку, закусваюць, спяваюць.

Вымаюць каравай таксама своеасабліва: стукаюць тры разы лапатай у столь, потым першая шаферка выскаквае з гэтай драўлянай лапатай на вуліцу. Калі сустрэне мужчыну, то павінна хутка выйсці замуж, калі ж жанчыну — у гэтым годзе нельга спадзявацца на шлюб. Але ў гэту прыкмету ўжо ніхто не верыць.

Выняўшы каравай і «выведаўшы» лёс першай шаферкі, зноў садзяцца за стол і «мочаць» каравай. Пры гэтым нярэдка запра-

шаюць маладога, каб і ён прыняў удзел у «замочванні». Пасля з караваем, упрыгожаным кветкамі, печанымі шышкамі, едуць да маладой. Ім некалькі разоў загароджваюць дарогу: ставяць стол, кладуць на яго хлеб, соль, ставяць бутэльку з вадой, чарку. Малады павінен адкупіцца грашыма. Калі малады едзе да маладой, спяваюць песню:

Да, ой, борам, борам да баравіною,*
Да хто ж там едзе да вечарыною?
Да, ой, едзе, едзе да Іванка п'яны.
— Адчыніся, Ленка, да я твой каханы.
— Я не адчынюся, мамкі баюся.
— Я ж тваёй мамачцы нізенька скланюся,
У цябе, маладой, нанач папрашуся,
Ночаначаваці, цябе таргаваці:
За русую косу — тры таляры даю,
За цябе, маладую,— тры тысячы дарую.

Маці нявесты выходзіць у вывернутым кажуху, сустракае гасцей хлебам (з двума кавалачкамі цукру наверсе), гарэлкай, віном і чаркамі. Выносяць каравай маладой. Маці нявесты вядзе маладога ў хату, маладая ў гэты час хаваецца — дома або ў суседзяў. Ад брата маладога патрабуюць выкупу, і ён выкупляе нявесту цукеркамі. Цікава адзначыць, што маладая не надзявае вянка, пакуль не прыедзе малады. Калі з'яўляецца малады, а яго брат выкупляе нявесту, яна надзявае вянок, прыданкі прымацоўваюць да яе валасоў кветкі.

Маці нявесты вядзе ўсіх за стол. Маладых садзяць на кут. Справа ад маладога садзіцца нявеста, а за ёю сваякі і прыданкі, злева ад маладога — яго сваякі і дружкі. Бацькі наліваюць гарэлку, блаславяюць маладых, усе крычаць «Горка!» Маладыя імкнуцца адкупіцца цукеркамі, але ім гэта не ўдаецца. Крыкі «Горка!» сціхаюць тады, калі маладыя пацалуюцца.

У час застольнай бяседы пяюць шмат песень.

Пасля працяглага пачастунку сват нясе каравай, ставіць яго на стол ** і гаворыць: «Благаславі, ацец і маці і добрыя людзі, каравай падаці» (паўтараюць тры разы). Бацькі маладой прыносяць хлеб з двума кавалачкамі цукру наверсе і грашыма. Маладым даюць шышкі з каравая, у якія былі закатаны грошы.

Каравай дзеляць і пры гэтым выказваюць пажаданні шчаслівага жыцця маладым, напрыклад: «Жадаю вам долі, шчасця, здароўя, як у зялёнага дуба, каб жылі люба, каб позна не спалі,

---

* Кожны радок паўтараецца.

** Калі прыносяць каравай, маладая павінна кінуць кветкі з яго прыданкам, дружкам, г. зн. перадаць ім дзявочую красу.

рана ўставалі, добра працавалі, каб быў хлеба кусок і дзяцей куток».

— Сыплю вам сто рублёў медзі, каб былі дзеці, як мядзведзі.

Дно каравая завязваюць у хустку і аддаюць музыканту.

Каравай «замочваюць» да позняй ночы, а нярэдка і ўсю ноч. Спяваюць песню пра пірог:

Ой, пойдзем і паглядзім.*
У што наша свацця прыбрана.
Ай, ці ў шоўк, ці ў атлас,
Ці ў такія сітцы, як у нас.
— Добры вечар, сваціца,
Ці добрая зямліца,
Ці ўрадзіла пшаніца,
Ці спякла нам пірага?
А не спякла пірага,
Возьмем вала за рага,
Сіву кабылку за грыўку
Да павядом на таржок,
Вытаргуем піражок.
Сядзіць свацця на ўллі,
Пад ёй пчолкі загулі.
Адна пчолка піснула,
Свацця пірог сціснула.
А другая загула —
Свацця пірог аддала.
— Дзякуй, свацця, за пірог.
І харошы, і прыгожы, і мякенькі,
Толькі ганьба, што маленькі.
Возьмем пірог,
Самі пойдзем за парог,
Сядзем на пясочку
І будзем дзяліць па кусочку.
Тапаром білі — не разбілі,
Адскочыла скарына —
Там аўсяная мякіна.

Маці аддае пірог, а ўсе ідуць дзяліць яго за парог і даюць усім па кавалачку.

Потым «бяруцца» за сватоў. Звычайна жарты пачынаюцца з першага свата (шафера). Яго абуваюць у лапці, «брыюць» палкаю або трэскаю. Робяць для яго вянок і вешаюць на шыю, пырскаюць адэкалонам, абліваюць вадою. Нарэшце патрабуюць выкуп (звычайна грошы, за якія потым прыданкі купляюць цукеркі). Сват скача, жартуе, а жанчыны скачуць, тоўпяцца ля яго, як хто зможа.

---

* Кожны радок паўтарасцца.

Маладая ж у гэты час рыхтуецца ў дарогу. Яна звязвае свой пасаг, забірае таксама падарункі. У гэты час звычайна пяюць песню:

Вячэрайма, мая мамачка,*
Павячэраўшы, мы падзелімся з табою,
Табе, мамка, сені, хатачка й камора,
А мне, мамка, скрыня, пярыня й карова.
Случылася пасля ночачкі дарога,
Бывай, мая мамачка, здарова.

Брат маладога (або сват) стараецца ў гэты час украсці пару відэльцаў, сподкаў і інш.

Маці маладой садзіцца на звязаныя падушкі і іншыя рэчы і патрабуе ад маладога выкуп. Потым малады бярэ нявесту за руку, падае руку старшай сваццi, якая абводзіць іх тры разы вакол кутняга стала.

У гэты час госці становяцца парамі і трымаюць у руках булкі хлеба. Пар павінна быць столькі, колькі дзвярэй у хаце. Хлеб трымаюць на выцягнутых руках, пакуль пройдуць маладыя. Маладая бярэ булку хлеба, абварочвае яго ручніком, а потым гэты хлеб кладзе ў маладога на комінку печы.

Хросная маці нявесты вядзе маладых да машыны. Родная маці бярэ вядро вады і абходзіць тры разы машыну, паліваючы вакол яе вадой, потым садзіцца ў машыну і, праехаўшы 50 метраў, вяртаецца.

Калі вясельны поезд кранецца з месца, маладая выкідвае з машыны клубок ці шпульку нітак, моцна трымаючы ў руцэ канец ніткі, і крычыць: «Каціцеся, дзеўкі, усе за мною!» Гэта — пажаданне дзяўчатам хутчэй выходзіць замуж. Клубочак ці шпулька доўга коціцца за машынай, пакуль хлопцы не абарвуць нітку.

І на гэты раз маладых некалькі разоў перапыняюць. Калі прыязджаюць да маладога, маладая сыпле ў тры бакі цукеркі. Жанчыны спяваюць:

Знаці, знаці, што чужая маці
Вывернула кажух,
Хоча спужаці.
— Не пужай, мамачка,
Я ж не баюся,
Злезу з машыны —
Нізенька схілюся.

Маці выносіць хлеб з двума кавалачкамі цукру, віно, налівае маладым поўныя чаркі. Першыя чаркі выліваюць, а ў трэцюю маладая кідае грошы, віно выпіваюць, бяруць па кавалачку цук-

* Кожны радок паўтараецца.

ру. Маці маладога ставіць табурэтку (даўней ставілі дзяжу, накрытую кажухом), на яе кладзе падушку. Маладая павінна паслаць на табурэтку надзежнік. Потым маці падае маладой булачку хлеба. Маладая бярэ хлеб і разам з маладым становіцца на падушку.

Маці вядзе маладых у хату. Як пераступаюць праз парог, маладая сыпле жыта па хаце, кладзе хлеб на комін і ідзе на кут. Там яна вешае ручнікі, засцілае скацеркай (адной або трыма) кутні стол і кліча радню — бацьку, маці, сясцёр, братоў маладога, дае ім падарункі.

Калі прывязуць маладую, спяваюць песню:

Ой, сватачка-салавеечка, просім вас,
Каб не было нашаму дзіцяці ганьбы ў вас,
Каб не стаяла цёмнай ноччу пад вакном,
Каб не ўцірала дробных слёзачак рукавом,
Каб не была паветачка хатачка,
Каб не была суседачка матачка.
Паветачка — не цёплая хатачка,
Суседачка — не родная матачка.

Вяселле працягваецца. Жартуюць, пяюць, зноў благаслаўляюць маладых, нясуць каравай і дзеляць яго амаль так жа сама, як і ў маладой.

Як падзеляць каравай, маці маладога здымае вянок у нявесткі, павязвае ёй сваю хустку; маладая ж таксама завязвае хустачку свякрусе.

Вяселле цягнецца тры дні.

Прыданкі часам адзяваюцца ў цыганоў, варожаць, патрабуюць цукерак. Калі малады з таго ж самага сяла, што і нявеста, ён едзе па маці маладой і сватоў (маладая не мае права тыдзень хадзіць да маці). Госці прыязджаюць і спяваюць:

Добры вечар, добрыя людзі, і мы к вам.*
Ці не заляцела наша пташачка ўчора к вам,
Хаць вы на ёй усё пер'ейка парвіце,
Толькі вы яе ў зялёныя бары пусціце.
Добры вечар, добрыя людзі, і мы к вам,
Ці не заехала наша дзевачка ўчора к вам,
Хоць вы яе таўчы, малоць застаўце,
Толькі вы яе часта ў госцікі пускайце.
— Яна ў нас таўчы і малоць не будзе,
Яна ў нас частыя госцікі забудзе.

Для вяселля характэрна вялікая колькасць жартоўных песень, якія спяваюцца і на заручынах, і ў маладой, і ў маладога.

* Кожны радок паўтараецца.

У час вяселля асабліва дастаецца сватам, дружкам. Як «пабрыюць», напрыклад, свата, співаюць пра бруснічка (першага шафера):

У нашага бруснічка залатая ручачка,
Ён з кішэні выймае і нас, жаночак, угашчае.

У гэты час бруснічак крычыць:
— Няма, няма нічога, жанчынкі.
Тады яны здзекуюцца з яго:

Наш бруснічак харош:
Па яблыку вочы,
Бусдаў нос.
У яго на спіне горб,
На гарбу вярба,
На вярбе сава.

Да свата звяртаюцца і з такой песняй:

А наш сватачка харош,*
Па яблыку вочы, з гарбуз нос,
З начоўкі пуза — ледзь у хату ўнёс.

Праз тыдзень, у нядзелю, большасць удзельнікаў вяселля збіраецца зноў — на пярэзвы, галоўная мэта іх — праведаць маладых. Зноў усе садзяцца за стол, частуюцца, спяваюць, танцуюць.

## ВЯСЕЛЛЕ НА ПЕТРЫКАЎШЧЫНЕ

### Запісаў К. А. Цвірка

Як ка мне прыязджалі сваты, было мне 17 год. Была я на полі. Прыехала я дадому гразная, у лапцях.

«Ох,— кажуць,— Аленушка, сваты к табе прыехалі, а ты ж такая гразная!» Ох, я спужалася! Чужы хлопец нейкі. Ён з Дарашэвіч, а я са Смедзіна. Ой, божа мой! Я ведала, што ён прыдзе, але ж... Я ў рэчку, да памыла ногі, да ўмылася, да й стаю пад гумном. Маладая, ведама. Цётка ідзе да кажа:

— Чаго ты стаіш? Сваты прышлі. Хадзі ў хату!

Куда я боса ў хату! Яна мне нейкія башмакі дала. Я надзела. Прышла — аж сядзяць. Два дзяды некія сядзяць, а жаніха таго няма. Ён пашоў у лаўку. Набраў канфет, тады прышоў.

Я вышла, пашла на двор. А ён прышоў да кажа:

* Кожны радок паўтараецца.

— Чаго ж ты саромеешся? Чаму ж ты не ідзеш у хату?

А я гавару:

— А я ж вас не знаю! Ваабшчэ ж вы — людзі чужыя!

А ён:

— Бачыш, як атвячае. Такая маладая!

Увечары пазбіраліся. Я села каля прыпечка, сяджу. Хлопец прынёс раз чарку:

— Будзь здарова!

Маўчу. А ён стаяў, стаяў, пашоў паставіў яе на стол, сеў, сядзіць. Зноў налівае гарэлку, палажыў 10 рублёў грошай на чарку і прыносіць.

— Будзь здарова!

А цётка кажа:

— Да што ета будзеш маўчаць? Мо ж ета чалавек! Атвячай!

Тады ён зноў:

— Будзь здарова!

Я кажу:

— Ну, то няхай!

Я ж не знала, што трэба казаць: «На здароўе». А яны, хто ў хаце быў: «Го-о! Як ета «няхай»? Кажы: «На здароўе». Я кажу: «На здароўе». Ён ета 10 рублёў аддаў. Ету чарку я ўзяла ў рукі да панесла к цётцы (ета к мацеры, бо цётка ў мяне была за матку), падала цётцы. А далей — панесла чарку к дзядзьку да й заплакала. А дзядзька ўзяў да й на стале паставіў. Сабраліся мы, пашлі ўдвох на першу чарку збіраць радню — ета ўжо заручыны тыя, запоіны. Прыходзім у хату і гаворым:

— Просім вас на першу чарку!

Сабраліся, выпілі. На другі дзень запісвацца — у сельсавет. Я гавару:

— Няхай у тую нядзелю!

Я думала, мо хто шчэ лучшы прыйдзе, харашэйшы. «Нет,— кажа,— сягодня запішамся». Пашлі ў сельсавет, а прадсядацель сельсавета кажа: «Яна шчэ маладая, не запішам».

— Ета што я буду шчэ раз з Дарашэвіч сюды хадзіць? — кажа мой жаніх.— Што ў мяне ногі конскія ці палены? У мяне ж больш году, як я з арміі прышоў! Дык вазьмі мой год да ёй запішы!

Ён хлопец біты быў. Як настаяў — запісалі. Цераз тыдзень вяселле.

На ўшэсце, у нядзелю, ехалі к вянцу, са Смедзіна ў Дарашэвічы. Пяць падвод ехала, па пары коней. На адном вазу я з дзяўкамі, на другом — ён з хлопцамі. Мне дзеўка дзяржала вянка, а яму хлопец. Да й дзеўкі сказалі:

— Цягай жа рушніка! Каб мы замуж ішлі!

Ад вянца паехалі на заручыны, да мяне, да дзеўкі. Прыехалі ўжо ўвечары і цэлу ноч гулялі, да дня. Спявалі песні:

Вой, на моры, да на камені (2)
Купалася да два ангелы.
Купаліся й гаварылі: (2)
— Ходзем, браткі, на заручыны,
Там Аленка заручаецца, (2)
Ад бацюхны сабіраецца (3)
Да к Івану прылучаецца.

Гэта спяваюць дзяўкі (дружкі). У мяне было 10 дружак. Яны як закатаюць гэту песню! І жанкі спявалі. Усякіх песень спявалі.

Коб я знаць знала,
Ведаць ведала
Хуткія заручыны, (2)
То б я паслала
Свайго бацюхна
У цёмны луг па каліну. (2)
Бацюхна й пашоў,
Весь луг абыйшоў,
Каліноньки не знайшоў. (2)
Коб я знаць знала,
Ведаць ведала
Хуткія заручыны,
То б я паслала
Свайго Іваночка (жаніха)
У цёмны луг па каліну. (2)
Іваночка й пашоў,
Увесь луг абыйшоў,
Калінонку знайшоў —
На заручыны.

Спявалі і жаласныя. Во ету песню мне спявалі, як я сірата, без мацеры:

Ой, ступіла дзевачка...
Усю сваю радзінаньку абыйшла,
Нідзе свае роднай мамкі не знайшла.
Расступіся, род, радзіна, уся ў рад —
Ідзе наша дзевачка на пасад.

Пасля заручын разышліся дадому. А праз тыдзень свадзьба. Малады прышоў у чацвер і дагаварыўся, што ў нядзелю свадзьба.

Я хадзіла зваць. Гаварыла:

— Просім вас і бога на каравай!

Мяне так навучалі. Як хто прыдзе, дак кажа: «Прыду», а як хто не прыдзе, то кажа: «Няхай вам бог памагае».

Увечары сабралася ўся радня. А рана каравай рашчынялі. Прышла маці хросная, прышла сястра мая, прышла хроснага бацькі жонка, прышла родная цётка. Паставілі дзежку на столку, на кажуху. Зразу налілі вады ў дзежку, каб больш не падліваць. Зразу насыпалі мукі і ў адзін бок мяшаюць. І дзве лыжкі маіх палажылі: я ішла замуж — і дзве лыжкі мне купілі. Палажылі іх на каравайнае цеста ў дзежку: ці будам мы жыць умесце? І накрылі цеста. Паставілі яго к прыпечку. І ета ўсё стаяла, пакуль мясіць. Ужэ ўкіс каравай, падышоў. Пабачылі лыжкі — адна лыжка пашла туды, а другая туды! А мая хросная матка кажа: «Жыць не будуць — разыйдуцца!» А ўжэ ж у цёткі сыны былі маладыя: «Э, найшла прымухі нейкія! От ужэ яна ўгадала! Смешыць народ!» Мяне цётка ўзяла за руку, дзеўкі ззаду пабраліся. І мяне кругом дзежкі тае абвялі тры разы. «Садзісь на дзяжу»— і давай расчэсваць косы. А косы будзь здароў былі! Заплялі ў каснік, затыкнулі грабяшкі, надзелі вянка, надзелі плацце — штоб я не бралася за яго (за плацце). Надзелі мне спадніцу, блюзку, сарочку белу паркалёву, усё падвянечнае. Злезла я з дзежкі. Прынеслі мне зеркала. Паказалі: «Хараша?» — «Хараша!» Я адстала.

Сталі мясіць каравай. Замясілі каравай. Паставілі на прыпечку. Тады ўжо да тых пор я ў вянку хадзіла, пакуль цеста падышло. Начаді саджаць каравай — пазбіралася ўжэ ўся бяседа ў хату. Стол паставілі каля печы. Хросная маці выняла каравай на стол, і мясілі каравай і спявалі:

Наша печка рагоча,
Караваю яна хоча,
А прыпечак заліваецца,
Караваю спадзяваецца.

Шышкі з лускі,
Каравай грэцкі,
Спяклі па-шляхецкі.

Дарма, што з грэчкі, а добра спяклі. І такія маленькія шышачкі. Да пакладуць у рэшата. А хлопцы крадуць. Да й спяваюць ужэ хроснай мацеры:

Не садзіся да на покуці,
Сядзь жа ты на парозе
Да на бітай дарозе,
Штоб хлопцы не накпілі, (2)
Караваю не ўхапілі.

А як каравай спячэцца:

Ужаліўся каравай у печы, (2)
Да й абпёк сабе плечы...

А ўжэ як нясуць яго ў камору, як выймуць з печы, спяваюць:

Караваю, мой раю,
Я да цябе — да кола йграю,
Ой, граю я, граю,
Да да каго — да яго граю.
Ад печы да каморы
Да вытаптана дарога.

Музыкант іграе, а мы скачам, прыпяваем:

Караваю, мой раю,
Я да цябе йграю
З скрыпкамі, з цымбаламі,
З маладымі жаўнярамі.

А етаю вадою, што каравай пяклі, да рукі памылі. Спяваюць ёй (вадзе):

Ай, весу ж мой, весу,
Да налі ж вады ў місу,
Хаця ручкі памыці
Да на вішанькі зліці,
Штоб вішанькі развіваліся, (2)
Маладыя цалаваліся.

Вес — ета вада. Як рукі памыюць, дак маладая бярэ тую міску з вадою, да нясе, да на ябланю зальe або на якую грушу. А тымі рукамі мокрымі ўсіх мужчын паабмуваем. А мужчыны ўсе з хаты — хто куды. Вот так тыц — мокрымі рукамі. І ўжэ после етага дзеўкі, уся свая бяседа — за стол. Павячэралі.

Потым ідзе ўжо другая бяседа, хлопцава. Малады ідзе з хлопцамі, з маршалкамі, з князькамі. А ўжэ як маршалкі ідуць у хату, дзяўкі спяваюць за сталом — «даюць» ужэ гэтым маршалкам:

Старшы дружок да й у хату ідзе
Да ў печ заглядае...

А што робіцца каля варот — як іх сустракаюць! Там і страляюць, і жлукта паложаць, і туды дрывамі кідаюць, і дручча пабяруць да стаяць. Варота закрыты. «Дай гарэлкі, то пусцім!» А той ужэ хросны бацька і з торбаю ідзе і паўлітру нясе — трэба ж адкупіцца! І пірага даюць, і гарэлку, і так лезуць — хто кудою. Крэпасць бяруць! Як прарвуцца, прыбягаюць к парогу. Скачуць,

танцуюць. А тыя ў хату не пускаюць. Выйдзе цешча. Шапку надзене, навыварат кажуха. А тыя спяваюць:

Пышна цешча, пышна,
Проці зяця не вышла:
Ці кожуха не мае, (2)
Да чому зяця не вітае.

Яна ўжэ вітае зяця: зяцю гарэлку дае. А ён ужэ вып'е чарку да выльье. То ўжэ цешча пашла, і ўжэ ўся бяседа ідзе ў хату.

Яшчэ раней, папярод маладога, ідуць маршалкі. Заходзяць, за стол садзяцца. Дзяўкі даюць ім там «прыкурыць». Яны рагочуць там, і краснеюць. Спяваюць так:

Старшы дружок да ў хату ідзе (2)
Да й у печ заглядае:
Ці тлуста капуста, (2)
Ці вялікі гаршчок кашы, (3)
Ці наядзяцца нашы?
А другі спужаўся, (2)
Да за ступу схаваўся,
Да ступаю навярнуўся,
А таўкачом за...

Да ўжэ маршалкі за стол пасядуць. Сядзяць. А етыя дружкі спяваюць:

Едкі маршалкі, едкі, (3)
Да сівога коня з'елі, (2)
Да па сталу качаючы,
Да ў попел мачаючы.

Яны яшчэ нічога не елі, а ім спяваюць, што «ўсё паелі». Колісь жа плацілі дзяўкам грошы. Дружка дае хлопцу рушнік, а ён ёй грошы. Дае рубля, а яна — «хм, мала!» Тады спяваюць:

Скупы маршалкі, скупы,
Да па смеццю хадзілі,
Да купейкі збіралі, (3)
Да дружачак скупавалі.

То ён яшчэ пяць капеек укіне. Таргуецца паўвечара. І зноў спяваюць:

Старшы дружок да кішэню верне, (2)
А ў кішэні ячнае зерне...

То ён ужо тры рублі пакладзе:
— Хваціць ужо?
— Хваціць.

Ужэ хлопцы перапілі дзявок, забіраюцца — пашлі, а бяседы няма: адныя хлопцы толькі — маршалкі. А жонкі там гуляюць, у другой хаце. То хлопцы пайшлі. Дзяўкі ж зярнят платкі такія даюць! Заносяць гэтыя зярняты, усёй сваёй бяседзе дзеляць. Маршалкі вып'юць з дзяўкамі харашо, паперавязваюцца праз плячо рушнікамі, павячэраюць, музыкі як урэжуць, як пойдуць яны танцаваць — от красата была! Маршалкаў чалавек 10—12. Князькоў толькі два, гэта тыя, што вянцы дзяржалі, як маладыя вянчаліся. А дружкі — гэта тыя, у каго грошы ёсць: і хлопцы, і жанатыя. Пашлі ўжо тыя маршалкі па сваіх жанок і вядуць ужо сваю бяседу. А дзяўкі сядзяць за сталом.

Жанкі спяваюць:

Вон, вон, сарокі, з хаты,
Налятаюць вароны (3)
І з чужое староны.

А дзяўкі спяваюць:

Дайце свахне пірага
Да возьмем вала за рага,
А кабылку за грыўку
Да павядом жыдом на гарэлку...

Дзяўкі не выходзяць з-за стала. Тады ім спяваюць:

А ў старшае дружкі
Цыцкі, як падушкі:
Аднаею парася ўбіла,
А другою асмаліла.

Дак дзяўкі гэтыя з-за стала як папруць!

Прашчаюцца ўжо дзеўкі з маладою. Заплакалі ўжо ўсе, што маладая замуж ідзе, а яны астаюцца. За сталом ужо садзіцца ўся бяседа яго — не дзявоча. Усе заселі і заспявалі:

Да сцянуліся сені,
Як і свашачкі селі,
Не так жа сцянуцца,
Да не так жа сцянуцца,
Як гарэлкі нап'юцца.

А як няма ўжэ таго свата, то спяваюць:

Дзе наш сват падзеўся, (2)
Да ці ў клочча ўвярцеўся?
Ці на сенажаці косіць, (2)
Да чаму ж нас не просіць.

А як каравай дзеляць (дзявочы), хлопцы — адзін дзяржыць тарэлку, а другі — нажа. Жанкі спяваюць:

Ой ты, родзе да багаты,
Да дары таварэц да рагаты,
А вы, сястрыцы — цяліцы, (2)
А вы, брацейкі,— вуцейкі.

Маладая плача. Пачынаюць дзяліць каравай. Гавораць так:
— Благаславі, ацец, маці, каравай дзяліць начынаці!
Гаворыць той, хто дзеліць (хросны бацька, брат ці хто іншы). Уся бяседа адказвае:
— Бог благаславіць.
Гавораць так тры разы. Той, хто дзеліць, сядзіць за сталом. Жанкі спяваюць:

А з хаты да каморы дарога,
А ў каморы размова.
Размаўляе бацька да маці,
Што ж зяцю дараваці?
Падарую зяцю, дарую
Да пару ж валоў во тую!

Каравайнікі выклікаюць:
— Дзе тут у нашае маладое родны бацька з мацер'ю? Ці каравай прынімаеце, ці назад адсылаеце?
Той, каго выклікаюць, гаворыць:
— О, прынімаю! Дарую (вала, ці каня, ці куру, ці пеўня, ці гуску, ці парасятка).
І даруюць на каравай.
А потым ужо хросную мацер вызываюць:
— Дзе тут нашае маладое хросная маці і хросны бацька? Ці хлеб прынімаеце, ці назад адсылаеце?
Хросны бацька ўстае і кажа:
— Прынімаю.
А той ужо мудрэц, што дзеліць каравай, падносіць, пытае:
— Мо што жывенькае падаруеце? — Як жа жывенькае?! — Калі жывенькае не падаруеш, то што ж ты за хросны бацька! Трэба падараваць жывенькае!
І даруюць. «Я,— кажа,— як хросны бацька, то свінку і кабанчыка падарую». Або: «авечачку і баранчыка». А ўжо хто жывенькае падаруе, значыць, ужэ яму — сто грам. Падносяць, наліваюць стакан гарэлкі. За жывенькае ён выпівае чарку.
— А хросная маці што?
Яна даруе там курку, гуску. Грошы кладуць, падаркі.
Потым выклікаюць сястру старэйшую, брата. І ўсё жывенькага дабіваецца той мудрэц, што каравай усё носіць.

— А што ты, мая зорка, мо ты сястрыцы што жывенькае падаруеш?

Хоць і няма таго жывенькага, то прыстане: «Жывенькае дай!» І даюць: то курачку, то баранчыка, то гусачку. І цёлкі давалі. Да як засяваюць, да завядуцца, да кажуць: «Дарую тую цяліцу, што скача з печы да на паліцу». (Мыш). «А тыя пчолы — што ў зялёнай дуброве». (Ні табе, ні мне!). «Дарую каробку гліны, да штоб пазваў на хрысціны».

Падзялілі каравай. Ужэ прывезлі маладую дадому. Забіраюць маладую да й спяваюць:

Да павярніся, маці, (2)
Да па вялікай хаце:
То ў куток, то ў запечак, (2)
Галавою аб прыпечак.
Заграбай, мамка, попел,
Бо мы тваю дочку ўхопім.
Заграбай, мамка, жар, жар, (2)
Бо будзе ж табе жаль.

А на яе кажуць:

Не журыся, дзевачка, (2)
Да ў нас табе добра будзе: (3)
Да вецер хату мяце, (2)
А сонейка пірагі пячэ,
Да свякруха да й обед варыць, (2)
Да нявехначку хваліць:
— Што ж у мяне за нявехначка — (2)
Сонца не зайдзе — ляжа, (3)
Сонца зайдзе — устане.

Не работніцу ўзяла. А я то ўспомніла: як зяць ішоў з гасцінцамі да цешчы, чобаты ўзяў — купіў чобаты маёй цётцы, а мне канфет набраў. Ёй хустку купіў, хвартуха набраў, плацце набраў і чобаты купіў — да й прынёс. Ну, а ніхто ж ета не знаў, што ён там у хустцы прынёс. Яна надзела рана тыя чобаты, выйшла сярод хаты да як прыўдарыць етыя чобаты, да кажа, пяе:

О-та тыя чобаты, што зяць даў,
А за тыя чобаты дачку ўзяў.
Ах, павешу чобаты на кручку,
Трасцы зробяць дзела мне за дачку.

«Пайду,— кажа,— на рэчку плацце праць, то чобаты скрыпяць, а прыду з рэчкі, то хваробу — рукі баляць!» Усе пабачылі, аж праўда — хромавыя чобаты на нагах! Яна танцавала ў іх, і спадніцу надзела, і хвартух. Ета я бачыла і чула на сваім вяселлі.

Колісь жа былі людзі — яны ж усякія песні прыпявалі. Усе ўміралі са смеху.

А як забіраюць маладую, кухра «не даюць». Грошы трэба плаціць за кухра. Садзяцца на ім і спяваюць:

Да за нашую дзеўку — (2),
Да салодкую гарэлку.
Да за нашую пташу — (2),
Да салодкую кашу.

Як забіраюць маладую, спяваюць:

Сабірайся, дзевачка,
У нас табе добра будзе... (3)

Маладую павезлі, а дзявочая бяседа (прыданыя) ідзе к хлопцу на другі дзень,— я сама прыданкаю хадзіла. Ідзе дзявочая бяседа і спявае:

На дварэ калодзезь —
Крук ляжыць,
Нейдзе наша дзевачка
У клеці спіць.
На дварэ калодзезь,
Да ўжэ дно,
Нешта нашае дзевачкі
Не відно.

Дзявочая бяседа ідзе без нічога. Бацька маладой возьме пірага, маці — пад руку хлеб, і пашлі.

Як мяне сустракалі ў свёкра? На вароцях не пускалі. Свёкар запаліў агонь ля дому, каля варот. Наклаў ворах саломы і запаліў. Коні нашы як жахнулі цераз агонь! Я спужалася. Думала: мо тыя коні загарацца. А ўжэ з возу як злезла, прышла к парогу, страчае свякруха мяне — з хлебам. Сустрэліся, пацалаваліся. Дала мне гарэлкі. Я выпіла трошкі. І сын жа яе выпіў. Яна пакланілася. А я яе пацалавала ў руку і ў галаву. «Заходзьце ў хату!» Увайшлі ў хату. Я кідаю жыта: сыпнула на печ, і на покут, і туда, і ўсюды. І пасадзілі мяне за стол ужэ. Паставілі міску мёду. Намазуе дзядзька лусту мёду. На хлеб — мёд. Падышоў і цераз стол: «Вот я хочу сваю маладую ўгасціць! З Смедзіна ж прыехалі... У Смедзіне ж мёду няма!» Ета ж прыказуюць: «Вот, мая нявехна, табе мядку, паспытай!» А я, дурная, да толькі працягнула руку цераз стол, хацела мёд браць, а ён кажа:

— Не... Рана!..

То я ўжэ і сяджу. Гатова плакаць. А яны ўсе рагочуць. А ён кажа:

— Ну, ужо еты номер прайшоў! Ета нада так. Нада! Ета свадзьба. Не абіжайся на мяне. Не абіжайся, мая галубка! Нада так. Мяне абманвалі так тожа колісь. Вот етую міску мёду ўжэ,— кажа,— ешце!

То я — ужэ і вяселле прайшло, а таго мёду не ела, і не брала. На чорта мне ваш мёд. Абманулі мяне з тым мёдам. Тады мой жаніх кажа:

— Ета так трэба.

То я ўжэ не ела да вечара. Думаю, што ўжэ саўсім адбяруць гэты мёд з міскаю — то будзе сорам.

А ўжэ як ехала наша прыданне з Смедзіна! Да па пары коней, да з кветкамі, да з музыкантамі! Да як паймалі пеўня! Да закруцілі пеўня! Да ўзялі аглоблю. Да павесілі таго пеўня на тую аглоблю. Наклалі агню сярод двара. Хоць і лета! І баяліся агню. Да асмалілі таго пеўня, аскублі. Да ўзялі нейкага чыгуна. Да зварылі таго пеўня. Да прывялі каня ■ парогу, прынеслі паўлітру гарэлкі. Да напаілі таго каня. Да той конь як пэчаў рэзаць, да начаў лятаць — што там смеху было, ой! Сёння ўжо гэтага няма ўсяго.

Як мяне прывезлі, то ўжо выпілі, закусілі. Прыехала ж мая прыданіца са Смедзіна. Ужэ іх пасаджалі ўсіх за стол. А ета бяседа — мае свякрухі — пашла ўжо гатовіцца на перазоў. Гэта перазоў ужо будзе — другі. Ета хлопцава бяседа гатуецца ў другой хаце. Сабіраюцца мае прыдане ў другую хату. Хлапочая бяседа ўгашчае маю бяседу. Ета перазоў. Як мала гарэлкі, спяваюць:

Ой, перазоў, перазоў,
Ой, чаго ты, перазоў,
Такі невясёлы?..

А на перазве ўжо выпілі, пагулялі, прыходзяць ужо дзяліць каравай — хлапечы. Дзеляць таксама, як і дзявочы. Прыходзіць перазоў у хату, а каравай ужэ на стале. Тыя хлопцы самыя, што дзялілі ў мяне каравай, і тут будуць дзяліць. Забіраюць свой каравай, стаўляюць на стол і ждуць, пака не прыдзе тая бяседа. Дзявочая бяседа садзіцца за стол, а хлапочая стаіць у парозе, ажыдаюць вызава. Каравайнікі пытаюцца:

— Благаславі, ацец, маці, каравай дзяліць пачынаці.

Паўтараюць гэта тры разы.

Выклікаюць па чарзе: пачынаюць ад старэйшага. Падзялілі каравай, пасадзілі прыданых за стол. Выпілі, закусілі, патанцавалі. Вылезлі. Папрашчаліся, і ўсё. Паехалі яны дадому, а я ўжо плачу. Да й спяваюць:

Прыданыя да дамоў едуць,
А мяне тут кідаюць.

Выйдзі, мамка, паглядзі,
Што ад мяне сані прывязлі.
Што нічога на санях няма,
А на санях — мы самі.

Я свайго сына жаніла. І тое самае вяселле гулялі, што і ў мяне. І каравай быў, і гармонь, і дудкі, і ўсё. Ета такое вяселле, як я знаю. А хіба колісь такое вяселле было?.. Колісь у суботу вяселле пачынаецца, а ўвечары ў панядзелак канчаецца. Я пазалетась была, як ехалі з Замошша ў Петрыкаў: інцярэсна! Дзесяць вазоў ехала. І дзед сядзеў сівы на вазу. Я пытаю:

— Нашто таго дзеда пасадзілі на вазу?

— А ета ж,— кажуць,— дзед да й унуку замуж аддае.

Я пытала ў жанке:

— Дзе ж ён тых падвод набраў?

А яны кажуць:

— Ета ж ён аддаў у саўхоз сто рублёў за тыя падводы.

Да ехалі цераз паром, цераз рэчку — у Петрыкаў. Да каснікоў на тых конях, да граюць! І скрыпка была, і гармонь, і турэцкі барабан. Сабраўся ўвесь Петрыкаў. Не можна было туды прыступіцца. Там і падалі, і лезлі — усе хацелі паглядзець.

## ВЯСЕЛЛЕ Ў В. СТАІ ЛЕПЕЛЬСКАГА РАЁНА

### Запісала Г. А. Барташэвіч

У нас вяселле пачыналася так. Бацька хлопца, маці яго і яшчэ чалавекі тры-чатыры ідуць да дзяўчыны. Як прыдуць, пачынаюць гаворку:

— Пусціце начаваць. У вас, гаварылі, прадаецца цялушачка, а мы здалёку, людзі нам параілі, мы і прыехалі. Карова добрая, ад яе і цялушачка добрая. І будзем мы купляць яе.

Такую гаворку звычайна пачынае сват, у яго сумка ў руках.

— Ну й прадаецца,— у адказ ужо,— але ж сматра каму і за якія грошы.

Гэта ж было, як аддаюць бацька і матка, а не тады, калі яны ўдваіх згукаюцца. Хацела ці не дзеўка — а аддавалі і не зважалі на гэта.

У нас аднаго ажанілі, дуркаватага. Такі ўжо ён дурны, але ў яго шырокі шнур быў. От і пайшоў ён у сваты к дзеўцы. Як ужо к сватам, яму купілі штаны, бо да таго ў яго і штаноў не было, а даўгая рубашка. У сваты ж ужо ў штанах паехаў. Па да-

розе прычына была, ён штаны павесіў на сук і забыўся, а армяк даўгі, і не відаць, што без штаноў. І бацька не агледзеў.

Прыехалі к дзеўцы, а той дурань захацеў пахваліцца і кажаць:

— Во штаны пашылі і на паліцу палажылі.

Хваць яны, а ён гол. Дзеўка гэта ходу, не хочаць замуж, зусім жа за дурнога аддаюць. Але ж багаты, што ж. З'ездзілі, штаны прывезлі тыя і пажанілі іх.

Дак вось пачынаюць сватаць. Як згаворацца, сваты дамовяцца, калі будзе свадзьба. Да свадзьбы ідуць запаведзі ў цэркві, сем нядзель. За гэты час глядзяць, каб не радня была, каб ніякое срадство не было ў маладзёна і маладой. Значыць, сем нядзель ідзе запаведь. І ў песні пяецца пра гэта:

Па ком, па сём наша Манечка ўдалася,*
І ды па пояс ў золата ўвілася,
І пусціла касу па каваненькім паясу,
І няхай мая русая каса лялеець,
І няхай мяне мая радзінка жалеець,
І ды адлялеіла русая каса сем нядзель,
І ды [а]джалела радзіначка за [а]дзін дзень.

Вяселле пачынаецца ў суботу, асобна ў маладухі і ў маладзёна. У кожнага свая дружына. У маладзёна дружкі, сваццi, у маладухі — баяркі, перазоў. Як павязуць маладуху, ззаду перазоў едзе. Гэта ўся гайма, уся радня. Дружкам абвязваюць рушнікі.

У маладухі ў суботу ўчыняюць каравай. Робяць гэта жанчыны, суседзі. Выбіраюць такую ўчыняць, каторая ўмеець пяяць. У нас каравай месяць і пяюць:

Каравы ручкі, каравы,
Дайце вадзіцы памыці —
Не тые вадзіцы, што ў крыніцы,
А тые вадзіцы, што ў бочцы.

Гэта ўжо значыць — дайце гарэлкі, каравай замясіла. А ёй тады адпейваюць:

Каравайніца з места — (2)
Пакрала ўсё цеста.
І будзем яе калацiцi — (2)
Цеста нахадзіць.
Каравайніца маладая, (2)
Іна таго ўсё адбудзець, (2)
Нам гарэлачкі купіць.

Як дапяюць гэту песню, тады каравайніца павінна частаваць гарэлкай. Яна возьмець у хазяіна колькі там і частуе. Водкі асо-

* Кожны радок паўтараецца.

бенна не было, задзелаюць самі. Таўкуць бульбу і суханькія такія сухарочкі пякуць у печы. А потым закіпяцяць ваду і залiваюць у бочку. У гэту ваду кладуць таўчонікі. А тады засаладзіць трэба. Дзе ж ты сахару набярэшся на такую бочку, там вёдзер мо не сорак. Куплялі сахарыну і туды пачкаў колькі кінуць яго. Вот гэткая і свадзьба была.

У суботу і ў маладога тое самае. Каравай жа быў і ў маладухі, і ў маладзёна.

У нядзелю раненька, толькі яшчэ да дня, каравай у печ садзяць. А маладзёж гуляець. Не было тады клубу, у хаце гулялі. Калі ёсць трысцен, у трысцене пазбіраюцца і гуляюць. Каравай садзяць такімі лапатамі бальшымі. Нада, первую буханку каб усадзілі мальцы, кавалеры. Адчыняюць дзверы, зазываюць двух мальцоў, дзелаюць такую буханку бальшую і ў печку. А тады гэтай жа лапатай у столь, у столь тры разы стукнуць, каб яшчэ праз тры гады другая дзеўка зайшла замуж, калі ў хазяіна многа дзевак. І ў маладога так. Калі ён адзін у маткі, тады раз толькі стукнуць і ўсё, каб ты болей ужо не жаніўся. А як ёсць яшчэ браты ці сёстры, тады болей стукаюць.

Госці сабіраюцца ў нядзелю, садзяцца за стол і пачынаюць пяяць. Начынаюць ужо піва насіць, водкі. Помню, я яшчэ маленькая была, прышла матка і кажа:

— Ай-я-яй, якая ў Ермалоў свадзьба, чэцвера сутак гуляла, прышлося дзве чаркі гарэлкі. Харошая свадзьба была!

Пілі не надта, але ж пяялі! І ў маладой, і ў маладога на пачатку свадзьбы пяялі:

А ў нас сягоння ад пана бога васкрасенне,*
Зачынаецца і ў Іванькі вяселле.
І о дай, божа, і Манеччына згуляці,
І судзі, божа, і Васількава даждаці.
А хмель з аўсом звіваецца, рай божа,
І пара людзей злучаецца — дай божа.

Калі сям'я бальшая, астаецца многа не зайшоўшых, усіх тады перапяюць. Гэту спяюць песню, а тады і другія. Дзеўцы пяюць у яе:

Ці не жаль таму бацьку, (2)
І што прапіў сваю дачку (2)
За цёмнаю ночку, (2)
На салодкам мядочку,
І на горкай гарэлачцы, (2)
І на гэтай нядзеляцы.

---

* Кожны радок паўтараецца.

А як збіраюцца да вянца, тады пяюць:

Да вянца, Манечка, да вянца
І ці пыталася ў папа-ойца,
Куды дарожка да вянца.
Да вянца, Манечка, да вянца,
Да ўжо цэркаўка адчынена,
Ужо свечачка запалёна.
І з богам, Манечка, з богам,
І з баярамі маладымі.

Перад вянцом маладуху ўчосваюць. Яе садзяць на дзяжу. На дзяжу, што хлеб пякуць, кладуць кажух поўсцю ўгору. Кажух кладуць, каб багатая была. Такое крэсла збіта, на крэсла ставяць дзяжу. Кросная матка бярэць яе за руку, абвядзець тры разы вакол дзяжы і садзіць. А тады ўжо пяюць і песню, як учосваюць:

Стала Манечка пад аконачкам, *
Скапнула золата на галовачку.
— Дзевачкі-сястрыцы, вы баярачкі,
Бярыце шчотаткі а мяшочкі,
Чашыце золата мне з галовачкі.
Досіць я золата нанасілася
І дзецюкоў-панічоў навадзілася.

Гэту спяюць, а тады яшчэ пяюць:

І ці табе, Манечка, замуж хочацца,*
І што ў цябе слёзачкі а не коцяцца?
І ці ў цябе вочачкі пазлачоныя,
І ці ў цябе слёзачкі пазычоныя?

Як яна на пасадзе гэтым сядзіць, пакуль учэшуць, пяюць такую яшчэ песню:

Што ты за пташачка,*
І шэрая зязюлечка,
Усё поле вылятала,
Крылцамі не ўзмахнула,
Расіцы не абабіла,
Перынкі не ўраніла.
І што ж гэта за Манечка,
Усю ночку на пасадзе,
З пасада не схадзіла,
Галоўкі не скланіла,
Слязінкі не ўраніла,
Мамкі не разжаліла.
Разжаліць жа яе
І доўгая дарожачка,
Чужая старoначка,
Ліхая свякровачка.

* Кожны радок паўтараецца.

Да вянца едуць ён ад сябе, маладая ад сябе. З маладою едуць баяркі і надкоснікі, а з маладым едуць падмаладзенцы. Ім цвяты папрышываюць, але як ужо тыя жэняцца, яны ў цэркаве не ўчаступоць. Надкоснікі дзержаць чашкі над галовамі. Мой брат так дзяржаў, дзяржаў ды маладусе палажыў на галаву. У маладых свечкі ў руках. Старыя глядзяць, як свечкі гараць, пазнаюць, ці добра будуць жыць.

Як абвянчаюцца, выходзяць разам. А тады ён дамоў і яна дамоў — кожны к сабе ўзнова. Як едуць дадому, пяюць песні:

Пылка дарожка, пылка,*
І чаго ж яна пылка?
Манечка к вянцу едзець.
Косачку распусціла,
Дарожачку запыліла.

Ад вянца іх пераймаюць. Маладая, каго ні стрэне, кожнаму клоніцца. Як малыя мы былі, бяжым колькі духу, каб маладуха пакланілася. І дзяцём кланяецца. Спіна корчам станець. А мы як мага бяжым вароты адчыняць. А маладуха канфет кіне дзяцём.

Як прыедуць маладыя кожны да сябе, зноў працягваецца ў кожнага вяселле. Ужо брат вядзець яе:

А брат сястру вядзець,
А шолкам зямлю мяцець,
І на покуце садзіць.
І на покуце ў крэсле,
А ў шчаслівенькім месце.

І за стол яе садзяць. Садзяцца за стол зноў. Пагуляюць, а тады ў маладзёна пачынаюць дарыць яго. Як дораць, пяюць песні такія:

Іванька ў татулькі дары просіць: *
— І татулька родненькі, адары мяне.
— І дзіцятка роднае, чым цябе адарыць?
І ці хлебам, ці соллю, ці добрай доллю.
— І татулька родненькі, і добрай доллю.

У яго дораць, а ў яе чакаюць, пакуль малады прыедзе. Як яго дажыдаюць, пяюць за сталом:

Чаму не прышоў ці не прыехаў
Учора з вячора?
Ці дома не быў, ці каня не меў,
Ці мамка не пусціла?
— А я й дома быў, я коніка меў,
Мамка мяне выпраўляла,

* Кожны радок паўтараецца.

Есць у мяне сястра, лет не дарасла,
Тая мяне не пусціла...

Яшчэ тады пяюць:

І прыгож Іванька і вялік, (2)
Чаму не купіў чаравік? (2)
Хоць казловыя прывязі,
Я й буду насіць па гразі.

Чаравікі маладзец прывозіў маладой. У нядзелю ён выбіраецца ехаць па маладую. З ім выбіраецца і яго свадзьба. За ім нямнога людзей. Едзець яго бацька. Бацька бярэць кілбас у сумку, гарэлкі, піва. Піва надзелаюць сваё. Як малады выязджае, яму пяюць:

Са двара ўжо Іванька з'язджаець,
Сакола з рукава пушчаець.
— Не ляці, сакол, пасярод,
А ляці, сакол, напярод.
Не ляці, сакол, дзе мёд п'юць,
А ляці, сакол, дзе нас ждуць.
Там нашу Манечку аддадуць.

Яшчэ на дварэ, як садзяцца толькі ад'язджаць, садзіцца на воз сястра яго родная.

Садзіся, брацітка,
Сястрыца ўжо села,
Як пчолка загудзела,
І як пчолка ў раёчку,
Як пчолка ў раёчку,
І сястрыца ў вазочку.
І як пчолка паляцеўшы,
Як пчолка паляцеўшы,
І сястрыца паехаўшы.

Свацці пяюць па дарозе, шмат песень пяюць. Вот такую:

І весяліся, не ламіся, каліна,*
Вялікая Іванькава дружына.
І полем едзець — і полі ялеюць ад яго,
І мостам едзець — масты ломюцца ад яго,
І ў сяло ўязджаюць — цесцятачкі пытаюць,
І на двор з'язджаець — і кляновым лістком [ў]сцілаюць.
І ў сенкі ўлазюць — як васілька зацвіцеў,
І ў хату улазіць і з яснаю свячою,
І за стол залазіць і з роднаю сястрою,
І і з застолля лезець і з венч[а]наю жаною.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Як прыедуць да маладой на двор, іх вітаюць. Тут ужо галоўныя гарманісты маладухі і маладзёнаў, а свадзьба стаіць у рад. Тады і песню пяюць:

I станавіцеся, мае брацеткі, усе ў рад,*
I а пакоціцца па нашых ножках вінаград,
I а я ж думала вінаградзінка коціцца,
Ажно мая братовачка клоніцца.
Я ж думала садовая макоўка,
I ажно, мае братовачкі, галоўка.

Гарманісты бяруць чаркі. Дзявочы гарманіст вып'е і ставіць, а хлопцаў гарманіст як дасць назад гарэлкай, па сватох. I потым адходзіць, даець месца. Выходзіць матка маладухі. I тут песня:

А ў гародзе гардоўнічак шырокі,*
I молад Іванька любы гасцёк далёкі,
Ён на коніку саколікам лятаець,
I к цесцю на двор і разам з сонейкам уз'язджаець,
I яго цешча салодкім віном вітаець.
— I ды я ж таго вітаннійка не прыму,
I ды я сваіх вараных коней не ўніму.
I няхай выходзіць мая Манечка к нам сюда,
I няхай выносіць кубачак мёду, два віна,
Ды я ж яе вітаннійка прыніму,
Ды я сваіх вараных коней уніму.

Гэта пяюць на дварэ, пака не ўвядуць у хату. Гарманісты іграюць вяселле, павітаюцца і іграюць. Маці пасля песні вітае дзяцей — соль на талерцы, хлеб і чарка гарэлкі. «Хадзіце, дзеткі, у хату»,— запрашае яна. Як ідуць у хату, сваццi пяюць:

Да раду, сваты, да раду,
Станавіцеся ў грамаду,
I станавіцеся ў грамаду,
Бярыце раду ўсе адну,
I бярыце раду ўсе адну.
Бярыце стралу медзяну,
I бярыце стралу медзяну,
Прабіце сцяну дзірвяну,
I прабіце сцяну дзірвяну.
Возьмем Манечку маладу,
I возьмем Манечку маладу,
Паставім сабе ў раду,
У раду, раду, у радочку,
У пярловенькім вяночку,
У пярловенькім вяночку,
У дзявоцкім станочку.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Як у хату ідуць, яе баяркі пяюць:

Сваты ў хату лезуць
І ў печ паглядаюць:
Ці густа капуста,
Ці вялік гаршчок кашы,
Ці пад'ядуць сваты нашы.

У хату перва-наперва ідзе маладзён, бярэ гарэлку. За ім дружкі. Яны бралі дзеўку, маладуху. Дружкам тады пяюць:

Казалі, дружкі багачы,
Ажно дружкі беднячы:
Па шуметнічку хадзілі,
У курэй кіпці прасілі, (2)
І шуметнічкі капалі. (2)
І капеечак іскалі, (2)
Баярачкам дарылі.

А маладзёну такую песню тады пяюць:

Бяры, Ванька, бяры, (2)
А ўмееш жа браць,
А ўмееш жа і браці,
Так сумей шанаваці:
Не бі яе дубцом, (2)
І навучай слаўцом.
Дубцом — балець будзець, (2)
А слаўцом — умець будзець.

Ён яе за руку бярэць і за стол. Сваццi садзяцца за стол і за сабой маладую толькі возьмуць, а яе ўся радня ў стороне. Сваццяў частуюць, баяркі пяюць сваццям:

А вумныя і разумныя сваценкі,
А вы сумелі па нашым кутом паязджаць,
Ці сумееце сем загадак адгадаць.
А што гарыць без полямя, свацечко,
І а што бяжыць без повада, свацечко,
І а белень не бялёны, свацечко,
І а хто чорны не чорнены, свацечко,
І а хто рабы не раблёны, свацечко,
І а што ж расцець вышай тыну, свацечко,
І а што ж цвіцець — ніхто не відзіць, свацечко.

Гэта ім загадкі такія загадваюць. Сумеюць сваццi адпяяць — адпяюць, а не сумеюць — астанецца не адпеяна. Нада адпяяць:

Зара гарыць без полямя, свацечко,
Вада бяжыць без повада, свацечко,
Лябедзь белы не беляны, свацечко,
Воран чорны не чэрняны, свацечко,

Дзяцел рабы не раблёны, свацечко,
А хмель расцець вышай тыну, свацечко,
Папараць цвіцець — ніхто не відзіць, свацечко.

Я, як паеду, хай хоць трэснуць пяюць,— я ўсё раўно адпяю. Мне адзін раз пялі, каб дамоў ехалі:

Едзьце, сваценькі, дамоў, (2)
Вы ж тут не сядзіце, (2)
Дома кудзельку прадзіце.

А я ім у адказ:

Няхай яе мядзведзь прадзець, (2)
А я буду з людзьмі сядзець.

У нядзелю ў яе гуляюць, доўга ці не — па дастатку. Нават было, тры разы вадзілі за стол. Первы стол даецца добрая яда. Мяса трошкі пакладуць і талакна. (Авёс параць к свадзьбе, мелюць, мяшаюць такое, як кашу. Цяпер бы такое ў рот ніхто не ўзяў. Гэта не кісель, а завецца «талакно».) Надзелаюць, накладуць на талеркі, як клёцкі, у міску панакладаюць талакна і ядуць. Гэта быў первы стол.

На другі стол даюць амаль тое самае, што на первы, што астанецца ад первага. Зноў талакна кладуць, капусту, капусту вараць і сырую даюць — збор дружыны. Тут і песні пяюць:

Ещце, сваты, рэпу,
У нас морквы нету.
Была свіння Ксіння,
Паела націння.
Быў парсюк Воўка,
Паеў усю моркву.

Пяюць таксама:

Нема сванька, нема,
Грэцкую кашу ела,
А ў глотцы перасела.
Грэцкая каша сопка,
Перасела сваццi глотка.

Пасьледні стол, трэці, трохі іншы. Макарону накрышаць (свайго печыва), навараць, забелюць, юшку даюць. Нас, дзяўчат, раз як абманулі гэтай юшкаю. Мы былі ў Трайніках сваццямі. Сядзім за сталом, а мальцы ў парозе стаяць. Нам жа стыдна есці. Даўней жа стыдзяцца: возьмеш, ціскаеш, ціскаеш, каб не круціць ротам. А там адзін сват быў, так ён: «Сваценькі, ещце юшку, юшка сцюдзёна!» Мы й не ведалі, што калі юшка жырная, то пара не ідзець. А мы (нас чатырох дзяўчат) па ложцы зача-

рэпалі да калі хапнулі гэтай юшкі! І мальцаў стыдна, і вылезць неяк — паварылі ў роце, дзве нядзелі есці не маглі. Во так юшка.

Пагуляюць у нядзелю ў маладухі, а ўжо ўвечары, надпанядзелак уночы ўжо, вязуць яе да маладзёна. Як выпраўляюць, пяюць:

І аставайся, мая мамулька, здарова,*
І а папала мне з Украіначкі дарога.
І ай ці будзеш, мая мамулька, бедаваць,
І як я буду чужую мамку пераймаць.
І а ці будзеш, мая мамулька, тужыцё,
І як я буду чужой мамульцы служыцё.

А ўжо як ад'язджаюць, тады:

І якова табе, мая мамулька, без дачкі,*
І папарастаюць па падлаўейку казлючкі.
І якаво табе, мая мамулька, без дзеўкі,
І папарастаюць па падлаўейку апенкі.

Гэткую пяюць, або яшчэ:

І агляніся, маці, (2)
Ці ўся сім'я ў хаці,
Толькі след на парозе, (2)
І дачушка ў чужым возе.
І на двара натрасёна, (2)
І дачушка павязёна.

Як вязуць маладуху, вязуць і скрыню яе. Дарогаю пяюць:

Ірзуць конікі, ірзуць, (2)
І багатырачку вязуць, (2)
І скрыню, пярыню, (2)
Маладую княгіню.
І скрыню кавануюь, (2)
І княгіню хаваную.
І скрыню каваль каваў, (2)
І княгіню татка хаваў.
І скрыню з замочкам, (2)
І Манечка з вяночкам.

З маладою едуць баяркі, а перазоў астаецца. Назаўтра яны едуць. Перазоў як едзець, то такая песня:

І чые гэта прыданачкі блудзілі,*
І ў чыстым полі дарожачку згубілі,
І пыталіся і ў чужога караля:
— І куды дарожка да сваццінага двара?

---

* Кожны радок паўтараецца.

Як прыедзе перазоў, тады:

І дзе наша лябёдачка,
Дзе наша лябёдачка,
Што з намі піла-ела,
І што з намі піла-ела,
Ад нас паляцела?
А мы за ёй следам (2)
З бялюсенькім цветам,
Дзе мы яе слядуем,
І дзе мы яе слядуем,
Там жа мы зарачуем.
Аследавалі ў крыніцы, (2)
Зарачуем у святліцы.

У маладзёна страчаець яго матка, яна ўводзіць у хату, садзяцца за стол. Гуляюць, а тады, як прыедуць у перазоў, доўга гуляюць, цэлы дзень да вечара. Панадзяюцца, цыган і цыганка ходзяць. Цыганка возьмець карты, гадаець, тады пойдзець па радні. На качарзе едуць, пяюць:

Вялела качарга
Гуляць да чацвярга.

Там ужо гульня ідзе. Сваццi як сядзяць, пяюць; як сварацца, дужа паддзяюць:

Тоўстая, гарбата —
Стаіць пасярод хаты.

А ў адказ сваццi:

Хварсуха свацька, хварсуха,
А не свой хвартух ля бруха,
Не свае каралькі ля шыйкі,
Не свае пярсцёнкі на руках,
Не сбае шаўроўкі на нагах.

Шмат песень пяюць, як гуляюць, розныя:

Не пужайся, мамулька,
І прывязлі ж табе курку
Пасадзіць на прымурку.
Як будзець сакатаці,
Не найдзеш месца ў хаце,
І як станець нясціся,
Будзеш толькі трасціся.
Як выйдуць пыляняткі,
Выганяць свякроў з хаткі.

А тады ўжо збіраюцца і едуць адтуль, едуць і пяюць:

А й з чым жа мы дамовачкі паедзем,
А й з чым жа мы сваю мамульку пацешым.

А й паедзем дамовачкі з ігрою,
А й пацешым сваю мамульку гульнёю.

І канчаецца вяселле.

# ВЯСЕЛЛЕ НА ПОЛАЧЧЫНЕ

## Запісаў К. А. Цвірка

Цяпер у сваты прыязджаюць толькі пасля дамоўленасці жаніха з нявестай. Колькасць сватоў не абмежаваная. Раней у сваты абавязкова павінны былі ісці (ці ехаць) жаніх, бацька, хросныя бацька і маці, усе жанатыя браты, швагры. Калі хто-небудзь з іх не прыходзіў, то лічылі, што ён нешта мае супраць нявесты. У такім выпадку яна патрабавала тлумачэння ад бацькі жаніха. Толькі пасля таго, як бацька даводзіў, што адзін са сватоў адсутнічаў па зусім іншай прычыне, пачыналі гаворку аб шлюбе.

У сваты звычайна ездзілі ў суботу. Раніцай палілі ў лазні — жаніх і ўсе сваты павінны былі перад сватаннем памыцца. Калі ў вёсцы бачылі, што ў каго-небудзь паліцца раніцай у лазні, адразу здагадваліся, што збіраюцца ў сваты.

Ехаць у сваты імкнуліся непрыкметна, часцей за ўсё цёмначы — каб аднавяскоўцы не надта ведалі пра сватанне: а раптам нявеста адмовіць? Хоць коней запрагалі ў лепшыя калёсы («лінейкі», «карахвашкі») ці ў сані, прызначаныя «на выезд», але падводы нічым не ўпрыгожвалі, званкоў таксама не чаплялі.

Цяпер у сваты ездзяць на машыне і не хаваючыся, бо ведаюць, што нявеста не адмовіць.

Пад'ехаўшы да двара нявесты, спыняюцца, ставяць каля варот машыну (раней навязвалі да плоту коней) і ідуць у хату. Старшы сват, якім можа быць швагер жаніха ці хто іншы, вітаецца і пачынае размову іншасказальна. Раней, напрыклад, ён казаў: «Я пачуў, што ў вас ёсць цёлачка. Ці не будзеце яе прадаваць?» На гэта бацька нявесты адказваў прыкладна так: «Заходзьце, садзіцеся, пагаворым — можа і старгуемся, калі ўпадабаеце цёлачку». Нявеста па прыходзе сватоў выходзіць у другі пакой. Жаніх адшуквае яе там і яшчэ раз заручаецца яе згодай на шлюб. Трохі пачакаўшы, сюды да жаніха і нявесты заходзіць і старшы сват (яго завуць яшчэ проста сват), каб даведацца пра вынікі іх перагавораў. Калі абое выказваюць поўную згоду, сват вядзе іх у агульную хату і ўрачыста аб'яўляе аб гэтым або проста гаворыць мацеры нявесты, каб «грэла скавараду». Маці пачынае пячы

яечню, сала, кілбасы, а бацька нявесты, адзін ці ўдвух са сватам, ідзе клікаць бліжэйшую радню (швагроў нявесты, братоў, толькі абавязкова жанатых, і інш.). Калі ўсе прыходзяць, сват выпраўляецца па гарэлку, якую ён прыхаваў у машыне, і, прынёсшы, ставіць яе на стол (раней сваты прыносілі глячок гарэлкі, а ў даўнія часы — піва).

Раней нявеста магла адмовіць жаніху (калі ён прыязджаў без папярэдняй дамоўленасці). У такім выпадку гарэлка на стол не ставілася. Сваты адразу выходзілі з хаты і ехалі дамоў. Сяброўкі нявесты, якія, канечне ж, былі ў час сватання блізка і адразу дазнаваліся пра адмову (нявеста і сама ім магла пра гэта сказаць), імкнуліся крадком уваткнуць дзе-небудзь у лінейку ці сані «галень» (венік). «Палучыць галень» азначала атрымаць ад нявесты адмову. У знак адмовы жаніху ці свату прычэплівалі на вопратку нітку ці непрыкметна прышпільвалі кавалачак якой-небудзь тканіны. У «Задзвінні» жаніху, якому адмовіла нявеста, дзяўчаты вешаюць на галаву гарохавы вянок — з гароху ці сена. Такі вянок чаплялі часам на доўгую палку і ставілі яе на двару жаніха — «каб усе відзелі, што палучыў галень».

Сеўшы за стол, сваты і радня нявесты знаёмяцца між сабой, мяркуюць, як гуляць вяселле, вызначаюць дзень, у які хто-небудзь ад жаніха павінен прыбыць на «дагавор». Калі падвып'юць, спяваюць розныя песні. Раней спявалі такую:

А ў нас сёння заручынкі — *  
Бог нам даў **  
Залаты персцень на ручанькі.  
Залаты персцень мяняць будзем,  
Ванечку з Валечкай злучаць будзем.

Яшчэ спявалі, напрыклад, такую песню:

Заручылі Марусечку (2)  
Ды за Васечку.  
Павязець Марусечку (2)  
Ды к сваей мамулечкі. (2)  
— Паглядзі, мамулечка,  
Ці красіва будзець Марусечка?  
— Ёсць і ножкі і ручкі,  
Ёсць каму памыць міскі. (2)

Пад канец усіх сватоў «абкрываюць штанамі» — г. зн. павязваюць ручнікамі (даўжынёю ў 2,5 м), хусткамі. Раней павязвалі яшчэ палатном («на штаны»), рабіла гэта хросная маці нявесты.

---

* Кожны радок паўтараецца.  
** Паўтараецца пасля кожнага радка.

«Абкрыванне штанамі» сватоў — гэта выразны знак згоды на шлюб. Сваты дзякуюць нявесце. Раней бацька жаніха, звяртаючыся да яе мацеры, казаў:

— Спасіба тваей дачцэ,
Што ночы не спала,
Прала, ткала
І нас абвязала.

У час павязвання сватоў жанчыны — радня нявесты—пяюць:

Не дзівіце, сваточкі,*
Што кароткі штаночкі.
Наша Валечка па йгрышчу хадзіла,
Штаночкі ўкараціла.

Сваты ж пелі такую песню:

А звязалі нас надужа,
А нам жа няхужа,
А звязалі нас цесна,
А нам толькі пацешна.

Развітваючыся з раднёй нявесты, сваты пацiскаюць усім па чарзе рукі, нібы замацоўваючы гэтым дамоўленасць. Адсюль увесь апісаны вышэй абрад называецца «заручыны». Яшчэ ён вядомы як «сваты», «запоіны», «запіўкі».

Калі пасля заручын нявеста перадумвала выходзіць замуж за «мальца», з якім была заручана, яна павінна была заплаціць яму «ўтрату» за гарэлку. Заносячы ў хату жаніха грошы, бацька нявесты разам з тым не спаганяў падараваных сватам «штаноў» — ручнікоў, палатна і інш. Ён казаў прыкладна так: «Хай усё прападае, а за гарэлку плачу». Калі ж перадумваў жаніх. тады ён ці яго бацька адносіў нявесце падарункі і плаціў за закуску, якая падавалася на заручынах (сваёй гарэлкі бацькі нявесты звычайна не ставілі).

Раней, калі дзяўчына ішла замуж пад прымусам бацькоў, яна дамаўлялася з хлопцам, якога кахала, і той у час вяселля выкрадаў яе ў поўным вясельным убранні, з вянком.

Праз тыдзень ці два пасля паспяховага сватання жаніх, сват ці хто-небудзь іншы з жаніховай радні (адзін ці некалькі чалавек) прыязджае ў хату нявесты «на дагавор». Тут канкрэтна дамаўляюцца аб часе і парадку вяселля, вызначаюць, колькі чалавек будзе ад жаніха і ад нявесты (раней звычайна імкнуліся, каб

* Кожны радок паўтараецца.

іх было пароўну), колькі дзён гуляць вяселле (раней яно працягвалася 3—4 і болей дзён, да тыдня) і інш.

Напярэдадні вяселля, у сераду ці ў чацвер, прыязджаў таксама да нявесты бацька жаніха — «на закормліны» («закармліваць нявесту»), прывозіў з сабой гарэлку, закуску. Разам з нявестай і бацькамі садзіўся за стол. Выпівалі, закусвалі, гаманілі аб будучым жыцці маладых, яшчэ раз абмяркоўвалі дэталі вяселля.

Перад вяселлем у суботу або і раней хросная маці нявесты пякла каравай, які прыносіла, калі ішла разам з усімі на вяселле. Каравай упрыгожваўся кветкай. Ставіла яго хросная маці на стале, дзе ён заставаўся да ад'езду «маладухі» ў хату «маладзёна». Цяпер каравай заказваюць у Полацку, у хлебапякарні.

Раней вяселле пачыналася ў суботу, цяпер — у пятніцу.

Вечарам у прызначаны час у жаніха збіраюцца свае, а ў нявесты — свае госці. Кожны нясе з сабой гарэлку, кілбасы, кавалак мяса ці што-небудзь іншае.

Вось як, напрыклад, пачынаецца вяселле ў жаніха. Бацька ці сват запрашае гасцей за стол. Жаніх садзіцца каля першага ад покуці акна, побач з ім яго дружына — з аднаго боку «дружкі» (цяпер іх больш называюць шаферкі), а з другога «дружкі» (шаферы). Потым садзяцца ўсе іншыя, прытым мужчыны па адзін бок ад жаніха (там, дзе шаферы), а жанчыны — па другі. Праўда, цяпер гэтага не заўсёды прытрымліваюцца, часцей, наадварот, імкнуцца сесці па парах. Калі ўсе рассаджваюцца, сват запрашае наліць чаркі, падымае сваю і прапаноўвае выпіць за маладзёна. Госці выпіваюць, закусваюць, спяваюць жаніху розныя песні. Напрыклад, такую:

А лятаў салавей па саду,
Скушненька, бедненька аднаму.
А каб жа ка мне зязюля,
Я ж бы з ею ўмеў шчабятаць,
На адной вішанькі сядзелі б,
Адну ягодку клявалі б.
Гуляў Ванечка ў цераму,
Скушненька, бедненька аднаму.
А каб жа мне Валечка,
Я ж бы з ею меў гаварыць,
Мы за столейкам сядзелі,
З адной чарачкі віно пілі.

Або такую:

З-за лесу сонейка коціцца,
Ванечка ў мамулькі просіцца:
— Пусці, мамулька, на адну ноч,

Заўтра к абеду прыеду,
Прывязу сабе дружачку,
А табе, мамулька, служачку.
Загадай яе, як хаця,
Пажалей яе, як дзіця.

Паспяваўшы, павесяліўшыся за сталом, госці ідуць на танцы ў якую-небудзь хату і гуляюць там да позняй ночы.

Назаўтра яны зноў збіраюцца ў хаце жаніха, частуюцца, потым танцуюць. Затым садзяць за стол толькі аднаго жаніха з дружынай. Музыкант іграе ўрачыстую мелодыю. Гэта азначае, што прыйшоў час «надзяляць маладзёна». Маладзён і яго дружына ўстаюць. Першымі да жаніха падыходзяць бацькі. У руках у мацеры паднос, засланы хустачкай ці сурвэткай («каб маладыя не былі голыя»), на падносе луста хлеба, соль. Маці ставіць яго перад маладзёнам, а бацька кладзе грошы. Пры гэтым бацькі віншуюць сына, жадаюць яму шчаслівай долі, цалуюць яго. За бацькамі падходзіць з грашыма ці падарункамі ўся радня, якая таксама віншуе маладзёна. Шаферы і шаферкі кожнаму, хто надзяляе жаніха, падаюць чарку гарэлкі і закуску.

Калі жаніх з дружынаю збіраецца ад'язджаць, жанчыны спяваюць:

На небе маладзік нараджаецца,*
Валодзя ў дарожку выпраўляецца,
А ў яго мамулька пытаецца:
— Сынок мой родненькі, куды ладзішся?
— Мамулька родная, к цесцю на абед.
— Сынок мой родненькі, пагадзі майго.
— Мамулька родная, не ўрэмя мае.
Ужо мае конікі запражоны,
Ужо мае сваценькі пасаджоны,
Ужо мае конікі прытаміліся,
Ужо мае сваценькі перапяяліся.
Ужо я сам, малады, перадумаўся,
Ужо мая Галечка праждалася,
Раненька вакошка адкрывала,
Мяне, маладога, дажыдала.

Калі жаніх сірата, спяваюць такую песню:

А хто там за гарой стучыць-гручыць? *
Валодзін татулька Валодзю навучаець:
— Паедзеш, сынок мой, к цешчы на абед,
А не пі, сынок мой, первую чарку,
А нясі коніку на грываньку,
А прасі коніка, шчарусенька прасі:

* Кожны радок паўтараецца.

«А бягі, мой кося, з сяла да сяла,
Каб мая Галечка весяла была,
А бягі, мой кося, там, там ступою,
Ужо мая Галечка тут са мною».

Жаніх з дружынай пад песні і музыку выходзяць на двор і садзяцца ў машыны. Раней ехалі на конях. На першы воз садзіліся сват, хросныя маці і бацька і яшчэ хто-небудзь з дружыны, на другі — жаніх, сястра незамужняя, брат нежанаты, яшчэ хто-небудзь. Вазы былі прыгожа прыбраныя: на пафарбаваных дугах і аглоблях — стужкі, кветкі, на збруі —«лампасікі» (кольцы), у конскіх грывах — стужкі, на шыях у коней — скураныя паясы са званочкамі («шоргамі», «шаргунамі»), на сядзёлках — таксама званкі.

Раней, калі маладзён садзіўся на каня, яму спявалі:

Сіні дым, сіні дым на вуліцу,
Валодзенька з конікам ваюецца.
— Кося мой, кося мой, кося сівенькі,
Выхваль мяне, выхваль мяне
На чужой старане.
— Не бойся, Валодзенька, я выхвалю,
Па полю пабягу, як сокал палячу,
У вуліцу пабягу, гарцуючы,
На двор убягу, танцуючы.
Я сваей грыўкаю столы ўсцялю,
Я сваей мордачкай румкі паб'ю.

Адпраўляючы сына, бацькі зычаць яму шчаслівай дарогі. Бацька раней даваў часам такі наказ: «Сынок, не пі первую чарачку, а нясі коніку на грываньку!» — «Чаму?» — не разумеў сын. «Каб яго грыванька завівалася, твая дзяўчынанька прыхіналася!»— адказваў бацька.

У хаце нявесты вяселле пачыналася прыкладна так, як і ў жаніха. За сталом ёй спявалі адпаведныя песні, толькі яшчэ больш, чым жаніху. Так, калі яшчэ сыходзіліся госці, жанчыны спявалі:

А суботанька да нядзеленькі радзела,
Сабіралася Галечкіна радзіна,
Звязлі-знyслі сем пудоў мукі на каравай.
А суботанька да нядзеленькі радзела,
Сабіралася Галечкіна радзіна,
Звязлі-знясліі сем пудоў масла на каравай.
А суботанька да нядзеленькі радзела.
Збіралася Галечкіна радзіна,
Звязлі-знясліі сем коп яец на каравай.
А моцны наш, а смачны наш, наш каравай.

Спявалі і гэту песню:

Затужылася Валечка,*
Што забавіўся Ванечка.
— Напісала б пісьмо — не ўмею,
Пашла б я й сама — не смею.
А ў чыстым полі старажы,
Тыя мяне старажы спазнаюць
Па маіх уборах дарагіх,
Па маей галоўкі ўбранай,
Па майму лічайку плаканам,
Па маей косанькі тропанай.

Або такую:

А ў гародзе купкамі рожа вілася,*
А ў каго, у каго наша Валечка ўдалася?
Пусціла касу па залатому паясу.
— Няхай мая русая каса лялеець,
Няхай мяне мая мамулька жалеець,
Лялела русая каса да канца,
А жалела мяне мамулька да вянца.

Як надзяляюць нявесту і да яе падыходзіць маці, жанчыны спяваюць:

Валечку маці радзіла,
На куце пасадзіла, (3)
Баяркамі абсадзіла. (3)
Золатам надзяліла. (2)
Ад столу адышлася,
Слёзкамі аблілася. (2)
Дзіця гадавалася,
Серца радавалася. (2)

Калі бачаць, што надзяляць маладую сабралася малавата яе радні, спяваюць такую жартоўную песню:

А казалі, ў Дунаі вады многа,*
Казалі, ў Галечкі радні многа,
Як сталі надзяляць — нет нікога:
Цётачкі, дзядзечкі па запечайку,
Сястрыцы, брацеткі на вуліцы.
Казалі, ў Дунаі вады многа,
Як сталі выліваць — нет нічога.

Затым жаніх едзе па нявесту, і маладыя на розных машынах выпраўляюцца ў клуб ці сельсавет — на ўрачыстую рэгістрацыю шлюбу. Пасля рэгістрацыі маладзён падвозіць маладуху на сва-

---

* Кожны радок паўтараецца.

ёй машыне да яе дому і едзе па сваю радню. Раней да вянца жаніх і нявеста ехалі асобна, сустракаліся толькі ля царквы. Пасля вянца маладзён браў маладуху ў сваю лінейку і падвозіў да яе вёскі. Там яны развітваліся і ехалі кожны ў сваю вёску.

Калі вясельны поезд (у першай машыне, легкавой,—жаніх са сватам і шаферамі, у другой, грузавой ці аўтобусе,— усе астатнія) едзе па нявесту, яму перагароджваюць дарогу: раней — жэрдкай, а цяпер ставяць пасярод вуліцы табурэтку, а на яе кветкі і хлеб-соль. Калі сустракаюць жанчыны, сват адкупліваецца ад іх цукеркамі, а калі мужчыны — гарэлкай. Перагарадзіць дарогу могуць у любой вёсцы, і не адзін, а некалькі разоў.

У двары нявесты, пачуўшы, што вясельны поезд набліжаецца, спяваюць:

Стукнула-грукнула на дварэ,*
Едуць, мая дачушка, па цябе.
— Гатуй, мамулька, кубел мне.
— Ці ты, мая дачушка, мне прала?
— Што ж ты, мая мамулька, глядзела,
Я ж тваю кудзельку вярцела.

(Раней на кубле, прызначаным для нявесты, ставілі трубкі палатна, а таксама клалі «армяк» і «шубу»; гэты кубел разам са скрыняй, у якой была адзежа, везлі ў хату маладзёна прыданкі.)

Пры набліжэнні вясельнага поезда пяюць яшчэ такую песню:

Едуць сваты, едуць
Ужо недалёчка,
Ужо недалёчка,
Блізка, ля садочка.
Пушкі заражаюць —
Перапёлак страляюць.
Перапёлак — у юшку,
А пер'е — на падушку.

Каля двара маладухі вясельны поезд спыняецца. Усе высаджваюцца. Музыканты жаніха іграюць урачыстую мелодыю. Ім насустрач выходзяць, іграючы, музыканты ад маладухі. Пачынаецца спаборніцтва музыкантаў — хто каго перайграе. «Сватоў» у двор спачатку не пускаюць: «Не ўрэмя ў хату!». Жанчыны ў гэты час спяваюць:

Валодзя на коніку
У белым насоўніку (2)
Па двару паязджаець,
Галечку паклікаець. (2)

---

* Кожны радок паўтараецца.

— Галечка, душа мая,
Адчыні вакошачка, (3)
Трошачка-нямножачка, (2)
Пакажы ліцо сваё, (3)
Белае, румянае, (3)
У татулькі гадована, (3)
Валодзю прысуджона. (2)

Сустракаць маладзёна выходзяць маці маладухі ў вывернутым футры з хлебам-соллю на талерцы і бацька з бутэлькай гарэлкі і дзвюма чаркамі. Вітаюць маладзёна. Бацька налівае чаркі, адну падносіць зяцю, другую — свату. Потым дае выпіць мацеры, налівае сабе. Усе, прыгубіўшы, выліваюць рэшткі гарэлкі ўверх («каб маладыя брыкалі», г. зн. скакалі, былі вясёлыя).

У час сустрэчы маладзёна жанчыны спяваюць:

А дзе ж ты, Ванечка, прызабавіўся?*
Ужо цябе цешчухна праждалася,
Ужо твая Валечка прагглядзелася,
Насіла белы сыр на тарэлачкі,
Чырвону ягоду на паперачкі.
Белы сыр, белы сыр — ваш Ванечка,
Чырвона ягада — наша Валечка.

Затым пяюць яшчэ гэту песню:

А ў гародзе гардоўнічак шырокі,*
Прыехаў зяцёк, любый гасцёк далёкі,
Яго цешчухна салодкім віном вітаець.
— А цешчухна, а мамухна ты мая,
А я твайго вітаннейка не хачу,
Няхай выйдзець ваша Валечка з церамка,
Няхай вынесець кубачак мёду, два віна,
Няхай вітаець старшага свата на кані.
А і што ў сінім на кані сівым — свёкар твой,
Што ў атласе, ў жоўтым паясе — дзевер твой,
Конь вараненькі, сам маладзенькі — Ванечка.

Запрашаюць маладзёна і ўсіх гасцей у хату. Ідучы ў хату, радня маладзёна спявае:

Сватачка наш, сватка,
Пусці нас у хатку,
А мы ж перамёрзлі
У вялікай дарозе
І на лютым марозе.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Жанчыны з боку маладухі пяюць за імі:

Сваты ў хату лезуць,
Аб вушак плечы чэшуць,
А ў печ паглядаюць:
Ці бальшы гаршчок кашы,
Ці пад'ядуць госці нашы.

Перад дзвярыма моладзь хуценька маскіруе маладзёна, нацягвае яму на вочы шапку. Ён ідзе ў хату да маладухі, якая сядзіць з «баяркамі» (роднымі сёстрамі, незамужнімі) і сяброўкамі за сталом на кажуху воўнай уверх. Прыкідваючыся сватам, маладзён пачынае таргавацца за месца. Але дзяўчаты адразу яго пазнаюць, не пускаюць за стол. На дапамогу маладзёну прыходзіць сват. Каб выкупіць для маладзёна месца, дае дзяўчатам па капейцы. Дзяўчаты не згодны ўступаць месца за такія грошы. Высмейваючы «скупасць» свата, жанчыны, якія ўжо сабраліся ў хаце, спяваюць:

Казалі, сваты багатыры,*
А нашы сваточкі беднякі,
Яны па шуметнічку хадзілі,
Па капеечке збіралі
І баярачак дарылі.

Выкупляць месца свату памагаюць шаферы маладзёна. Яны закідваюць за нявесту хустачку (ці касынку): калі гэта ім удасца — месца для маладзёна вызвалена. Але дзяўчаты пільна сочаць за імі, каб перахапіць хустачку. Калі хустачка кранецца нявесты, дзяўчаты ўсё роўна не пускаюць маладзёна — трэба выкуп! У час гэтага торгу радня маладзёна спявае:

Жоначкі-лябёдачкі,
Скланіце галовачкі —
Паглядзець братовачку.
А ў нашай братовачкі
У золаце галовачка.
Галоўка залатая,
Братоўка маладая.

Баяркі пяюць свату і шаферам:

Не жалейце, сваты, грошы —
Наш тавар харошы.
Есць за што заплаціць,
Есць на што паглядзець.

Нарэшце, сват дае дзяўчатам па рублю, частуе шампанскім, цукеркамі.

* Кожны радок паўтараецца.

Баяркі цяпер пяюць так:

Казалі, сваты бедныкі,
Аж нашы сваты багатыры,
Нам па пяцёрачкі дарылі
І намётачкі давалі.

Пасля пачастунку дружкі ўстаюць і выходзяць з-за стала. Маладзён падыходзіць да маладухі і садзіцца з левага боку, таксама на кажуху. Радня маладзёна спявае:

Вітайся, брацечка, вітайся,
Пра здароўейка пытайся —
Ці так здарова, як зямля,
Ці так дужа, як вада.
А здаровая, як зямля,
А і так дужа, як вада.

За сталы заходзіць яго радня. Раней садзіліся ў такім парадку: каля маладухі — сёстры маладзёна незамужнія (шаферкі), потым усе жанчыны з яго радні; каля маладзёна — яго браты, спачатку нежанатыя (шаферы), потым жанатыя, за імі — на самым куце — хросныя бацька і маці, потым астатняя радня маладзёна. Цяпер мужчыны садзяцца разам з жанчынамі, але шаферы і шаферкі абавязкова каля маладых. Рассеўшыся, радня маладзёна спявае:

А ў нашага свата
Кругом хаты мята,
Кругом хаты мята,
А ў хаце багата,
Кругом хаты роза,
А ў хаце прыгожа.

Чакаючы бацьку маладухі (свата) і яе матку (сваццю), якія павінны пачаць вясельную бяседу, радня маладзёна пяе:

Ай, нету нам, нету
Ад свата прывету,
Ад сваццi дагляду.
А дзе ж наша сваццька,
Што к нам не падходзіць.
Каля печы трэцца,
А к нам не хінецца.
Ці каровачак доіць?
Ці цялятачак поіць?

Нарэшце, да гасцей падыходзяць бацькі маладухі. Бацька віншуе маладых і запрашае наліць чаркі. Пачынаецца «абед». Садзяцца абедаць два разы. Як сядуць у другі раз, свата абвязва-

юць прыгожа вышытым ручніком. Раней яго абвязвала хросная маці маладухі.

Радня маладухі стаіць каля сталоў і спявае прыезджым сватам песні. Спяваюць па чарзе кожнаму з іх. Напрыклад, шаферу пяюць такую песню:

Што ж ты, Валодзенька, не жэнішся?
На каго ж ты, Валодзенька, спадзяешся?
Прыхадзі ж ты к нам позна вечарам,
Ёсць у нас дзевачак на выдане.
Межу трох-чатырох выбірай сабе.

Раней за песню плацілі — грашыма ці цукеркамі. У гэтых песнях імкнуліся пахваліць, «падвысіць» сватоў. Вось, напрыклад, яшчэ такая песня:

Наш сваточак дарагі,*
Яго конік вараны,
У яго боцікі казловы,
Боцік аб боцік шчаўкаець,
Нам ён падарачкі шукаець.
Добрага атца добрый сын —
Не паспелі песню спець,
Ён падарачкі нам шлець.

Перад тым, як збірацца ад'язджаць, жанчыны спяваюць:

Вадзіца беражкі падмываець,
Ванечка Валечку к сабе маніць:
— Паедзем, Валечка, у нашу сторану,
А ў нашай сторане дужа весела:
Па быстрай рэчанькі мяды плывуць,
Па крутых беражках цвяты цвятуць.
— Няпраўда, няпраўда, Ванечка, твая:
Па крутых беражках лаза расцець,
Па быстрай рэчанькі вада плывець.

Радня маладзёна спявае:

Паедзем, родны братка, дамоўкі,
А там наша родная мамка бядуець:
— А дзе мае любыя дзеткі начуюць?
Калі ў дарозе на перавозе,
Бронь, божа,
Калі ў цясцяткі за столікам,
Дай божа.

Больш нецярплівыя маладзіцы, якія ўжо засядзеліся за сталом, пяюць:

* Кожны радок паўтараецца.

Пакіньце частаваці,
Пусціце пагуляці.
Госці ўпацелі,
Гуляць захацелі.
Панчошкі шчакочуць,
Пагулянейка хочуць
Чаравічкі свішчуць,
Пагулянейка ішчуць.

У разгар вясельнай бяседы пад стол залазіць брат маладухі — надкоснік і падкрадаецца да яе і маладзёна з нажом у руках. Грозячы нажом, ён рассоўвае іх, садзіцца паміж імі, хапае маладуху ззаду за валасы і грозна пытае ў маладзёна: «Будзеш плаціць за касу маладухі?»

Жанчыны ў гэты час спяваюць:

А нет грознага ката,
Як роднага брата:
Сядзіць над касою,
Як воўк над казою.
Ён коску бунтуець
І галоўку турнуець.

Маладзён дае выкуп, пасля чаго надкоснік рассоўвае посуд і пераскоквае цераз стол. Сват імкнецца ў гэты час выцяць брата маладухі рэменем. Калі гэта яму ўдаецца, значыць, надкоснік прайграў і павінен аддаць грошы назад, але папробуй іх адбяры ў яго! Жанчыны ў гэты момант пяюць песню, выказваючы ў ёй думкі маладухі, якая хоча перапрасіць брата за тое, што яго выцяў сват:

А дзевачкі, баярачкі вы мае,*
А пусціце з-за століка вы мяне,
А пайду я па надворайку хадзіці,
А буду я свайго брацятку прасіці:
— А едзь-паедзь, а мой брацятка, за мною,
А хоць не за мной, за маей русай касою,
Хоць не за касою, за сваею роднай сястрою.

Пасля гэтай песні пачынаюць збірацца да ад'езду к маладзёну. Маці бласлаўляе маладых. Дзеля гэтага яны выходзяць з-за стала і садзяцца з краю. Раней пры блаславенні маладыя і маці цалавалі абраз. Цяпер маці проста выказвае свае пажаданні маладым. Маладуха і маладзён развітваюцца і садзяцца ў машыну, за імі ўсе госці ад маладзёна і дружына маладухі. Радня маладзёна пяе:

* Кожны радок паўтараецца.

Садзіся, братоўка, на мой воз,
Палюбоўнічкам — хвіга ў нос,
Нашаму брацетку — красата,
А палюбоўнічкам — сухата.

Сват, як звычайна, выкуплівае пасцель і нясе яе ў машыну, на якой павінны ехаць маладыя (раней яны ехалі на першым возе).

Радня маладзёна пяе:

Не хлеб мы елі — саладуху,
Аддайце нашу маладуху,
Не хлеб мы елі — скарынкі,
Аддайце нашы пярынкі,
Не хлеб мы елі — пампушкі,
Аддайце нашы падушкі.

Госці ад маладзёна ў гэты час са смехам ловяць на двары курэй і забіраюць іх з сабой — ім гэта дазваляецца.

Калі машыны рушаць з месца, маці (яшчэ лепш — бацька) абсыпае кожную аўсом — на багацце. Маладуха кідае цукеркі. Ад'язджаючы, спяваюць:

Паедзем, сваты, дадому,
Паелі конікі салому,
А каля тыну крапіву,
А каля саду расаду.

А хто-небудзь спявае яшчэ:

Валечка з двара з'язджала,
У бярозе макушкі сарвала!
Жыві, мая бяроза, без вярха,
Жыві, мая мамуленька, без мяне.

У канцы вёскі вясельны поезд спыняецца. Сват з двума «сватамі» варочаецца назад — «па курыцу». Бацькі нявесты даюць яму з сабой кавалак курынага мяса ў сурвэтцы і ў прыдачу дзве лыжкі, два відэльцы і дзве талеркі, а самога яшчэ раз абкрываюць штанамі — ручнікамі ці палатном. Такім чынам, свата ў вяселлі абвязваюць тры разы. У гэты, апошні, раз — паверх верхняга адзення, напрыклад паліто, калі зіма.

Па дарозе да маладзёна спяваюць шмат песень. Вось адна з іх:

Грудліва поле, грудліва,
Ягадачкі ўрадлівы,
Хто ж гэта ягодкі браць будзе?
Ягодкі Валечка збірала,

Беручы ягадкі, заснула,
Прыехаў Ванечка — не чула,
Махаў платочкам — не дамахаў,
Шыбаў яблачкам — не папаў,
Каціў пярсцёнкам — не дакаціў,
Сваю Валечку не ўзбудзіў.
— Не к татку едзеш, а к свёкарку,
Не к мамкі едзеш — к свякроўкі,
Не к сястрам едзеш — к залоўкам,
Не к братам едзеш — к дзеверам.
А гэты ж дзевяры, як звяры,
А гэты залоўкі, як соўкі.

За вясельным поездам адразу ці потым (бывала, што назаўтра) едуць «прыданкі» — радня маладухі (замужнія сёстры, жанатыя браты, швагры, цёткі, дзядзькі і інш.). Яны вязуць з сабой і каравай, які ляжаў на вясельным стале. Раней везла яго хросная маці. У дарозе прыданкі пяюць:

Ехалі прыданкі
Калінавым мостам,
Калінку ламалі,
За шнуроўкі хавалі,
Каб іх людзі зналі,
Прыданкамі называлі.

Каля двара маладзёна вясельны поезд спыняецца. Вылазячы з машыны, прыезджыя пяюць:

Адчыні, мамулька, новы двор,
Вязем табе нявесту на выбор,
Адчыні, мамулька, новы тын,
Вязём табе нявесту, як твой сын,
Адчыні, мамулька, ваконца,
Прывязлі нявесту, як сонца,
Падымі, мамулька, карытца,
Прывязлі нявесту сварыцца.

Бацька і маці (яна ў вывернутым кажуху) вітаюць маладых хлебам-соллю. Маладуха тры разы кланяецца бацькам і кладзе на паднос падарункі: мацеры — тканіну на сукенку (раней дарыла намітку), бацьку — часцей за ўсё рубашку. У гэты час госці спяваюць:

А ўзышоў ясны месяц над ізбою,
Узвадзіў ясну зорачку за сабою.
Прыехаў Ванечка і з жаною.
— Кланяйся, Валечка, маёй мамачкі,
Я нізка, я нізка, ты ніжэй мяне.

Раней, сустракаючы ў двары купкі людзей, маладуха кланялася ім па тры разы. Цяпер гэтага не робяць. Сват вядзе маладых у хату. Тут маладуха «абкручвае́ць» падарункамі братоў і сясцёр маладзёна, раней яна абвязвала паясамі і дзевяроў. Затым маладыя садзяцца за стол. Перад імі — адна талерка, два відэльцы, дзве чаркі, дзве лыжкі. Пачынаецца вясельная бяседа ў хаце маладзёна.

Чакаючы прыезду прыданак, жанчыны пяюць для маладухі:

Адкуль, адкуль буйныя ветры павеюць,
Адтуль, адсюль мае цётачкі прыедуць.
Яны ж мае ўборачкі прывязуць,
Яны ж маю галовачку прыбяруць.

Калі прыязджаюць прыданкі, госці — ці за сталом, ці на дварэ,— сустракаючы іх, спяваюць:

Прыданкі на двор едуць,
Куркі пад печ лезуць.
Не бойцеся, куры:
Нямнога вас нада —
Сем кур на вячэру,
Восьмая — на сняданне,
Дзевятая — на ад'язджанне.

Увайшоўшы ў хату, прыданкі ўзлазяць на лавы, скачуць па іх, імкнучыся паламаць, і спяваюць:

Гэта не прыданкі,
Што не паламалі лаўкі.

Потым вешаюць на сцены ручнікі, прыгаворваючы: «Вот табе, гваздок, ручнічок!», «Вот табе, абразок, палаценца!» Бывала, вешалі па дваццаць ручнікоў.

Раней у час вясельнай бяседы ў хату заводзілі каня або ўпіхалі авечку — на багацце. (Гэты звычай як цікавы іграве момант у некаторых мясцовасцях, напрыклад у Браслаўскім раёне, па назіранню інфарматараў, захоўваецца і цяпер.) Калі каня вялі за аброць паўз сталы, маладыя хлопцы імкнуліся ўскочыць на яго і трошкі праехаць.

Пад канец вяселля прыданкі выводзяць з-за стала маладуху і садзяць на чым-небудзь (раней на дзежцы, накрытай кажушком воўнай уверх) і пачынаюць «павязваць». Здымаюць вянок (так называюць і цяперашнюю фату), надзяюць яго якой-небудзь

баярцы, якую садзяць побач (раней на галаву маладухі пасля гэтага надзявалі чэпчык). Жанчыны ў гэты час пяюць:

Павязаначка плачаць,
Павязацца не хочаць,
Павязацца не хочаць,
Адвярняся, хахочаць.

Потым абедзвюх — і маладуху і баярку — ахінаюць прасцінаю. На прасціну паверх галоў сцелюць хустку. Маладзён у кожны ражок хусткі кладзе грошы, прыкрывае іх гэтым ражком, нібы робіць канверт, прыгаворваючы: «Вот табе, ражок, пяцёрачка», «Вот табе, ражок, траячачка» і г. д. Пасля гэтага маладзён павінен пазнаць пад прасцінаю маладуху. Калі пазнае, маладуху адкрываюць. Маладзён бярэ яе на рукі і здымае з лаўкі.

Пасля «вянка» маладуху вядуць на рэчку, даюць ёй якую-небудзь анучку і просяць, каб «папратала»: усім хацелася даведацца, ці ўмее маладуха мыць бялізну. Там жа і яе і маладзёна мыюць: ён бярэ яе за рукі, а хто-небудзь лье ваду (раней гэта рабіла хросная маці). Потым маладых вядуць да калодзежа, дзе ўсе абліваюцца вадой, плёскаюцца — мыюцца.

Ад калодзежа ідуць дадому. Прыданкі бяруць пасцель маладухі і засцілаюць ложак. За гэта маладзён плоціць прыданкам. Затым прыданкі падмятаюць хату — маладзён і за гэта ім плоціць. Прыданкі пяюць:

А сваточкі, а любыя, просім вас,*
А каб не было нашай Галечкі крыўдна ў вас,
А вы яе малоць, таўчы застаўце,
А вы яе к нам у госцейкі пускайце.

Калі прыданкі выходзяць з-за стала, каб ад'язджаць, яны, звяртаючыся да радні маладзёна, пяюць:

Прыданкі дамоў едуць,
Валечку тут кідаюць,
Ванечку навучаюць:
— А не бі ж дубцамі,
Навучай жа слаўцамі,
Не бі вяроўкай,
Навучай гаворкай —
Ад дубца дурнеюць,
Ад слоўца разумнеюць.

Перад ад'ездам прыданак маладых садзяць за стол. Хто-небудзь (раней хросная маці) разразае папалам каравай; адну

* Кожны радок паўтараецца.

палавіну дзеляць паміж раднёй маладухі, а другую пакідаюць для радні маладзёна. У гэты час пяюць песню «А суботанька да нядзеленькі радзела...» Кожны з радні маладухі бярэ з талерачкі свой кавалачак каравая, кладзе грошы (на гэты раз не многа) і на развітанне жадае маладым жыць у шчасці і радасці. Пры развітанні спяваюць і такую песню:

Брат сястру, брат сястру
Дамой завецъ:*
— Паедзем, сястрыца,
Дамоўкі.
Там наша хатанька
Не мецена,
Там наша мамулька
Не весела.

Прыданкі ад'язджаюць. Радня маладзёна спявае да маладухі:

Я й радзілася, там не была,**
Куды мяне мамулька аддала:
А за цёмныя лясочкі,
А за шчырыя барочкі,
А за сінія азёры.
Цёмныя лясочкі запалю,
Шчырыя барочкі высяку,
Сінія азёры намашчу,
Я ў сваей мамулькі пагашчу.
Масціла масточкі сем нядзель,
Гасціла ў мамулькі адзін дзень.

Праз тыдзень зяць едзе да бацькоў маладухі клікаць іх на «пярэзыўкі». Маладуха, чакаючы бацькоў, спявае:

Я жду, пажду, выйду пагляджу —
Доўга нет.
Калі татулька едзець,
Па коніку ўзнаю,
Калі мамулька едзець,
Па хустачке ўзнаю,
Калі цётачкі едуць,
Па голасу ўзнаю,
Калі брацеткі едуць,
Па шапачкам узнаю.

На пярэзыўках бацькі ўпершыню сустракаюцца з дачкою пасля вяселля.

---

* Кожныя два радкі паўтараюцца.
** Кожны радок паўтараецца.

# ВЯСЕЛЛЕ Ў ДАНЕЙКАХ

**Запісала Алеся Клышка**

Вось і не згледзела, як мне ўжо стукнула восемдзесят гадкоў. Як адзін дзень праляцелі. Нядаўна, здаецца, замуж ішла, а ўжо даўно і дачку выдала, і трое сыноў жаніла, і ўнучкамі і ўнукамі абсыпалася. Неўзабаве і ім гуляць вяселлі. Вось і думаю: запішу ім на памяць, як даўней у нас у Данейках, на Навагрудчыне, вяселлі спраўлялі. Можа што і прыдасца...

Хлопец, як задумае жаніцца, ідзе да дзядзькі. «Едзьма, дзядзька, у сваты. Мне нараілі добрую дзеўку. Ты ж яе бачыў».— «Не, не ведаю».— «Але едзьма».— «Я, браце, не ўмею гаварыць. А ён такі скупы, добрая костка, трэба ўмела гаварыць».— «Нічога, дзядзька, паедзем, што будзе». І паехалі.

А часам было і такое. Едуць сваты і не ведаюць куды. Па дарозе думаюць апытаць дзеўку. Бачаць: пастухі каровы пасуць. «Пастушкі, скажыце, дзе тут добра дзеўка».— «Дайце пяцьдзесят капеек». Сваты дадуць грошы. А пастушкі, адступаючыся, у адказ: «Каб ваш быў добры хлопец, то ў яго ў сваёй вёсцы дзеўка была б, а каб яна была добрая дзеўка, то ў яе быў бы ў сваёй вёсцы хлопец».

Сват тут хоча іх пужкаю пачаставаць, ды няма каго: яны ўжо ўцяклі.

Бывае, сваты аб'едуць некалькі вёсак і так вернуцца дахаты.

Але вось прыехалі да дзеўкі ў вёску, папыталі хату. Увайшлі. «Пахвалёны Езус!», а гаспадар: «Навекі», бо хоць і вечар, але сваты кажуць «пахвалёны». Павіталіся, стаяць. Сват трымае лустачку хлеба ў руках і кажа: «Сват прысланы, каб быў стол засланы». Гаспадыня адказвае: «Добра, добра, сватка, кладзіце хлеб на стол».— «Пакладзём, як не адправіце нас». А дзеўка ўжо схавалася. Сват далей кажа: «Дайце нам кветку, што мы бачылі ўлетку».— «Ой, сватка, ужо ж восень, то кветка асыпалася, не такая, як была ўлетку».— «Ой, наша не асыпаецца, а ўсё болей расцвітае».

Гаспадыня засцілае стол абрусам, а сват кладзе хлеб і ставіць бутэльку. Выходзіць дзеўка, пашэпчуць з маткаю і пойдзе пакліча каго лепшага на першую чарку.

Садзяцца і п'юць. Сват гаворыць пра пасаг і яшчэ трохі пра што-небудзь, дамаўляюцца, калі быць з другою гарэлкаю. «А калі вяселле, яшчэ будзем другі раз гаварыць».

Ад'язджаюць. Малады дае маладой «ад'язнога» — грошы, а маладая дае пояс і ручнік.

Цераз тыдзень прыязджаюць з другою гарэлкаю і робяць вялікія заповіны, або вялікую гарэлку (у адрозненне ад першых — малых заповін, або малой гарэлкі). Склікаюць усіх сваіх, п'юць і спяваюць вясельныя песні:

Увайдзі, божа,
Уступі, божа,
Ды ў нашую хатку.
Дай, божа, шчасце,
Дай, божа, долю
Нашаму дзіцятку.
Тады я ўвайшоў,
Тады я ўступіў,
Як яно радзілася.
Тады даў долю,
Тады даў шчасце,
Як яно хрысцілася.

Сват пачынае сваё: «Што ж вы дасце сваёй дачцэ і зяцю разам за пасаг? Што яна ў вас зарабіла?» А бацька адказвае: «А калі ж яна зарабіла? Яшчэ ж мала і была».— «Ну, нам шмат і не трэба. Дасце кароўку, свінку, авечку і кацярынку». (Кацярынкаю даўней называлі сто рублёў, на грошах партрэт гэтай царыцы быў.)—«Ой, сватко, ужо кароўку ды свінку, а нашто ж яшчэ кацярынку?» — «Тваёй дачцэ ў чужых людзях удзвёх вясялей будзе — яна ды Кацярынка».

Доўга ці мала змагаюцца, але і дамовяцца.

Трэба на агалашэнне даваць. Ідуць да папа малады, сват і маладой бацька ці брат. І поп пасля абедні выходзіць на сярод царквы і чытае: «Вступает в законный брак крестьянин деревни (называе якой, імя, па бацьку і прозвішча маладога) с крестьянкой (імя яе, па бацьку і прозвішча) деревни Данейки. Может какие препятствия имеют?» Так поп чытае штонядзелі тры тыдні.

Пасля зноў едуць да маладой і дамаўляюцца, калі вяселле, колькі дружак і дружкоў, колькі ў яго цётак і дзядзькоў, сёстраў і братоў, ці ёсць хросны бацька і хросная маці,— трэба ўсім падарункі. Угаворваюцца і калі ехаць абрусы мераць. Вядома, не так абрусы, як усё паглядзець. Едзе цётка ці матулька (хросная маці) маладой. Развітваюцца. Маладыя выходзяць удваіх у сені і там малады цалуе маладую, а яна яго, бо ў хаце сорамна. Малады дасць маладой ад'езнага два рублі ці пяць — як хто. І ўмаўляюцца, калі разам ехаць на кірмаш — па вясельныя пакупкі.

Купяць і шыкуюцца да вяселля. Маладая шые коўдра і бялізну маладому. Дружкі памагаюць маладой.

Маладая просіць на вяселле далёкіх у чацвер на апошнім тыдні. Трэба, кажа, пазычыць хлеба бялейшага, а то наш чорны, са званцом, пасля то белага спячом на вяселле.

Маладая бярэ лустачку хлеба, закручвае ў белую хустачку і ідзе з дружкаю прасіць на вяселле. А дружкі ўжо даўно папрошаны. Ды бяда. Скажам, тая Васілёва адмаўляецца. Яна і рада быць, чакала. Але няма ў чым быць за дружку. І чаравік няма, да і спадніцы і каптана добрага. Чаравік то ёй Гэлька пазычае, але няма каптана. Бедная аж плача. А тут стаіць суседка дый кажа да свае дачкі: «А мо ты, дачушка, пазычыш? Хай пабудзе за дружку беднае дзяўчо».— «Ай, мама, я і пазычыла б, але ж яна збэсціць яго. Можа і мне давядзецца пагуляць, дый не будзе».

Па сваёй вёсцы маладая і дружка ходзяць склікаць у суботу. Заходзяць у кожную хату; хто чужы, хто свой — усіх просяць. А людзі ўжо ведаюць, што будзе маладая хадзіць, то прыбіраюць у хаце, каб было чыста. Маладая ўваходзіць у хату, кладзе хлеб на стале, а сама кланяецца аж да зямлі, спачатку старэйшым, а потым малодшым і нават дзецям. Як паходзіць вечар, аж, кажа, горш чым цэлы дзень жала,— вядома, усякаму пакланіся, сотня дамоў.

Маладая, просячы на вяселле, з кожным цалуецца. А ёй адказваюць: «Дай, божа, шчасце і ў іншай хаце». І памяняюць хлеба, каб былі дочкі і сыны. Каторыя дык частуюць: ставяць гарэлку, яешню пякуць ці сала рэжуць — хто што мае. Каторая маладая і добра надзюбаецца, пакуль усю вёску пяройдзе.

Самым вечарам у суботу збіраюцца родныя і балююць цэлую ноч.

Ідуць апошнія падрыхтаванні. Настаўляюць маладой вален, нацягваюць на падушкі навалачкі, збіраюць усё, коўдра і іншыя рэчы, каб было гатова да ад'езду да маладога. Каравайніцы яшчэ да вечара паспелі спячы караваі. Пяклі іх асобна ў маладой і ў маладога.

На гэта бяруць суседак — адну замужнюю, тры-чатыры дзеўкі — і яшчэ аднаго мужчыну (яго называлі маршалак). Мужчына садзіў каравай у печ на лапаце.

Спачатку рашчыняць дрожджы. Цеста на каравай месяць густа. Каравайніцы спяваюць:

А хто месіць каравай,
Таму, божа, памагай.
Месіць братка з сястрою
Ды з яснаю зарою.

Караваі пяклі з пшанічнай мукі, пытляванай. На кожны жаночы каравай (іх пяклі два) пойдзе мукі кілаграмаў са тры, на мужчынскі — «трайчатку» — менш, бо яго насіць трэба. Ён не

так цяжкі, як высокі. А рабілі яго гэтак. Вырэзваюць з грушы трайчатку (тры роўныя галінкі — унізе яны разам). Галінкі ў трайчаткі таўшчыні, як палец, а ўся яна — з паўаршына (вышэй, як бутэлька, але каб улезла ў печ). Усе палачкі абвіваюць цестам: раскачаюць яго густа і абкручваюць — ды ў печ. На адным баку паляжыць, а пасля пераверну́ць. Печ нагаратая—хутка спячэцца. А булачку пякуць асобна. А тады, як спячэцца, трайчатку ўваткнуць у булку, і яна стаіць. Рассцілаюць галаўную хустку (як жэніцца не сіраціна ды ёсць бацькі, то чырвоную, а як сіраціна — то белую) і ставяць на яе пасярэдзіне каравай; тры рагі хусткі завязваюць за кожную галінку, а чацвёрты — на каравай захільваюць. Тады ўжо не відаць ні булачкі, ні трайчаткі. Да кожнай галінкі ўверсе прывязваюць па кветачцы. Кветкі вясельныя, лаёвыя (з лою), куплялі ў мястэчку.

І гэты каравай вязе старшы дружко, як едуць да маладой, а тады да вянца і з вянца. Дружко пільнуецца каравая. Як прыедуць, каравай паставіць на стале, а як едуць, то дружко бярэ яго на рукі і так вязе, каб не паламаўся.

Шышкі на каравай маладой (цацкі на караваі маладога такія самыя) робяць, якія хто прыдумае: качкі, барылачкі, каравайчыкі, грушкі маленькія, васьмёрачкі (як «8»), лялечкі — і прылепліваюць кавалачкамі пруткаў саломіны да цеста, каб трымаліся. А пасярэдзіне ў караваі зробяць шышку круглую — сонца — і промні ад яго, а побач месяц-маладзік.

У нядзелю раненька клікнуць хлопца, а калі з гэтай вёскі і малады і маладая, то — два хлопцы, дадуць ім гарэлкі, і яны забягаюць у кожную хату. Адзін — па адной старане вёскі, другі — па другой, каб хутчэй. Увойдзе хлопец у хату і кажа: «Добры дзень! Прасіў бацька маладой (ці маладога), каб прыйшлі выправіць да вянца».

І людзі ідуць выпраўляць. «Пойдзем, браце,— кажуць адзін да аднаго,— і нас некалі ж выпраўлялі».

Увойдзе ў хату і ідзе да стала. Вывязвае хлеб з хусточкі, кладзе на стол, а хустачку — у кішэнь. А гаспадар налівае гарэлку. Як хто — каторы па адной чарцы, а каторы па дзве або і тры. Вып'ў — і з хаты, за стол не садзіцца. І гэтак, аж пакуль уся вёска не пяройдзе. Як у каго няма хлеба, то ідзе пазычае ў суседа, але абавязкова трэба ісці выпраўляць. Хто ідзе адзін, а хто будзе на вяселлі, то з жонкаю.

Калі ўжо ўсе пяройдуць, збіраюцца да вянца. Рыхтуюць пасад. Прыязджаюць малады, сват, дружкі, музыкант. Іншы раз прыедуць, а маладая яшчэ і не прыбраная. Тады чакаюць ці на двары ці ў сенях.

Пасля ідзе сват, прывітаецца, а далей кажа: «Ці дазваляеце гэтаму малайцу ў хату ўвайсці?» — «Калі бог дазваляе, то і мы дазваляем. Ідзіце!» І так тры разы. І тады ўсе дружкі заходзяць у хату. І тады дружкі прышываюць дружкáм кветкі. Кожная стараецца каб лепшаму. Кветкі прышываюць да левага боку пінжака, а бывае, які дружко падставіць правы, а дружка і прышые на правы, тады адпорвае, а ўсе смяюцца.

Кветкі звычайна зялёныя, лаёвыя. А ўвесну напрыколваюць з саду — з яблыні ці грушы. У маладой па ўсім валену паўтыкаюць мірту (кветкі з вазону).

Маладому кветку прышывае старшая дружка, а сванька — свату. Сванька таксама завязвае стужкі музыканту на гармонік ці на скрыпку і на барабан. Звычайна быў адзін музыкант. Калі ж запрошвалі двох музыкантаў, то гэта было багатае вяселле. Тады ўжо і хлопцы, абягаючы хаты, казалі: «О, будуць два музыканты!» Барабанаў вялікіх раней не было, а вось так з рэшата (сантыметраў 30—40), і спецыяльнага барабаншчыка не наймалі. Так хто-небудзь возьме і барабаніць.

Пасля таго, як прышыты кветкі, садзіліся. Але за стол — толькі маладая. Тады дружкі ўносяць у хату дзежку. Несучы, танцуюць з ёю і ставяць пасярод хаты, каля стала. А перад гэтым у дзежку кладуць маленькую булачку хлеба і кажушком засцелюць, тады радзюжкаю, складзенаю ў чатыры столкі, а наверх абрус.

Жанчыны спяваюць:

Чаму ж ты, дзеванька, на пасад не ідзеш?
Чаго жджэш?
— Дзіўныя людзі, ці я так пайду,
як стаю.
Закладайце коні вараны —
паеду.
Засцілайце белыя каберцы —
я й сяду.

Потым «брат» вядзе маладую, а сванька нясе свечку. «Брат» пытаецца: «Ці дазволіце сястру на пасад вясці?» — «Калі бог дазваляе, то і мы дазваляем». Жанкі ў гэты час спяваюць:

Брат сястру на пасад вядзе,
Гібкую кладку кладзе.
Кладачка, не ўгібніся,
Сястрыца, не ўлякніся.
Кладачка ўгібнулася,
Сястрыца ўлякнулася.

Тады «брат» пытаецца: «Суседзі-прыяцелі, ці дазволіце гэтай дзявіцы на пасад сесці, косу застрыгчы?» — «Калі бог дазваляе, то і мы дазваляем». «Брат» абводзіць маладую вакол дзежкі, маладая кланяецца бацькам, якія сядзяць перад сталом (маці трымае ў руках ікону з ручніком, а бацька — бохан хлеба), пакланіцца і дзежцы, перахрысціцца, возьме чырвоную стужку, накрыж пераложыць на абрусе і садзіцца. А жанкі спяваюць:

Харашы малойцы, харашы,
Што села дзявонька на дзяжы.

(А ёсць такія, што і не сядуць на дзяжу,— каторая спала з хлопцам, то не можна — вялікі грэх. І тады суседкі адна адной зашапталі. І ўжо спяваюць інакш:

Нехарашы малойцы, нехарашы,
Не села дзявонька на дзяжы.)

«Брат» бярэ ў сванькі свечку і абносіць вакол галавы маладой, адлучыць крышачку валос і прыпальвае ў трох месцах — на лобе з двух бакоў і на патыліцы, адхіліўшы вален.

Маладая ўстае з дзежкі, пакланіцца бацькам, пацалуе рукі і садзіцца за стол. Там ляжыць падушка, і яна садзіцца на падушцы. А бацькі ўсталі і пайшлі. А малады і яго бяседа садзяцца на іх месцы на зэдлі.

А дзеўкі падбягаюць да дзежкі і ўсё з яе кідаюць у парог, а дзяжу мчаць у сені. Хлопцы стараюцца перахапіць дзежку і кідаюць яе на печ, каб дзеўкі хутка замуж не ішлі.

Тады садзяцца за сталы і перапіваюцца. Гаспадар нясе бутэльку, а сват дастае сваю, гаспадыня ставіць на стол вялікую місу пустую, і робяць злучыны. Гаспадар лье сваю гарэлку ў місу, а сват адначасова сваю і разам гавораць: «Божа, гадзі, жыта радзі, пару дзяцей багаславі, каб былі багаты, не былі пыхаты, каб шанавалі бога на небе, людзей на зямлі, свае маладосці і нашай старосці». Бяруць чарку, наліваюць лыжкаю з місы гарэлкі і тады п'юць — чарка абходзіць кругам. Як абойдзе, сват налівае сваньцы і падае цераз стол. Яна каштуе і падае яму і накрывае хустачкаю. А ён вып'е, а ў чарку кладзе грошы, і сванька забірае іх. А чарку бярэ дружко. І так п'юць дружкі з дружкамі, «браты» з сёстрамі. Толькі маладыя не п'юць, бо яны ў царкве будуць прычасце браць, то трэба нашча. У гэты час спяваюць:

Паедзем, Аленка, да божага дому.
Не станавіся ў касцелі пры сцене.
Стань, маладзенька, пасярод касцёла.

Анёлы ісцімуць ды долю нясцімуць,
Ды будуць пытаці, што за долю даці,
Ці хлебавую ці грашавую.
Ой, дай жа, божа, ды ўсялякую.

Скончылі піць, устаюць. Малады, сват і дружкі вылазяць з-за стала, а маладая, сванька і дружкі ходзяць вакол стала. Сванька носіць ікону з ручніком, якую павязуць да вянца. І перад покуцем схіляюць галовы і хрысцяцца. Так тры разы абыйдуць і ідуць хуценька адзявацца.

А суседзі спяваюць у хаце маладой:

Да руты, малойцы, да руты,*
Ды вяжэце руту ў пучкі,
Мяціце вулачку да канца,
Паедзе дзеванька да вянца.

Не абыдзецца тут і без жартоўных спеваў:

— Куды едзеш?
— Да шлюбу.
— Чаму не плачаш?
— Не буду.
Няхай плача ён, ён,
Бо вязе бяду ў свой дом.

Сванька з іконаю садзіцца на воз уперадзе, насупраць яе маладая, наабапал два «браты»; на другім возе дружкі, а тады малады з сватам і сёстрамі, пасля дружкі. Да вянца не можна ехаць маладому з маладою на адным возе.

Коні прыбраныя, у маладой іх убіраў «брат», а ў маладога — сват. Нарэжуць паперы, дугу ўбяруць, набэдрыкі. Да дугі званок прывяжуць, шаластуны пазычаць і каню на шыю надзенуць, а іх шмат, штук дваццаць на адным абручы.

Едуць да вянца ўзімку на санях, у вазках, а ўлетку на калёсах альбо брычку пазычаюць. І як садзяцца на воз, стараюцца, каб маладыя, грунт маладая, не ступілі на кола, бо не будзе дзяцей.

Як усе пасядуць на вазы, тады маці маладой бярэ ў хустачку жыта і серабро і бегае вакол вазоў і ўсім засыпае за карак (за каўнер), а сват з бутэлькаю і з чаркаю кожнаму каню гарэлкі дае. Коні ажно пырхаюць, задзіраюць галовы, не хочуць піць, а сват сілаю лье, і ўсе смяюцца.

Бацька маладой падыходзіць да воза, на якім сядзіць яго дачка, сам перахрысціцца, перахрысціць перад сабою дарогу, бярэ

* Кожны радок паўтараецца.

хустачкаю за вобрацъ і кажа: «Суседзі-прыяцелі, ці дазваляеце майму дзіцяці да божага дому ехаць?» — «Як бог дазваляе, то і мы дазваляем». І зводзіць каня са двара.

Стараюцца, каб добра заехаць да вянца і з вянца прыехаць, бо як вывернуцца ці распражэцца конь у дарозе, то не будзе шчасця маладым, разыдуцца. Гэтак жа пільнуюцца, каб у часе вянчання не патухла свечка ў маладога ці ў маладой, бо тады той раней памрэ.

Вянчанне ў царкве вы, пэўна, добра бачылі і ў кіно, як поп мяняе маладым пярсцёнкі, дае прычасце.

Пасля вянца ўсе віншуюць маладых, і бяседа едзе дадому. Цяпер ужо едуць усе па парах: малады з маладою, сват з сванькаю і г. д.

А дома хлопцы зробяць браму, паставяць стол, засцелюць абрусам, пакладуць хлеба, солі, сала, паставяць дзве чаркі і гарэлкі бутэльку ці больш і не пускаюць на надворак, патрабуюць ад маладога выкуп. Колькі самі на стале паставілі бутэлек гарэлкі, гэтулькі павінен даць і малады. Бывае, доўга таргуюцца, пакуль сыдуць на лад.

Каля парога маладых сустракае маці. Адзене вывернуты кажух, возьме века з дзежкі, паставіць дзве чаркі гарэлкі, дзве грудкі цукру, хлеба і бласлаўляе: «Божа, гадзі, жыта радзі, нашы дзеткі блаславі на быт добры, на век доўгі, каб былі багаты, не былі пыхаты, каб шанавалі бога на небе, людзей на зямлі, свае маладосці, нашай старосці! Ідзіце, дзеткі, у хату, хай вас бог багаславіць!» Маладыя ідуць у хату, распранаюцца, а ўся сям'я і родныя віншуюць з законным шлюбам. Спяваюць:

Прыехала Аленка з вянца
Да села ў святліцы на лаўцы,
Палічыла пярсцёнкі на пальцы.
Да адзін пярсцёнак не такі,
Што купіў Іванка малады.

Садзяць родных. Ставяць гарэлку і ўсё лепшае на стол. Кладуць каравай на канцы стала, і ён там ляжыць да канца вяселля. У гэты час спяваюць усякія песні. Найбольш пра свата:

Сваце, сваце,
Чыні лад у хаце!
А не чыніш ладу,
Падлезь пад лаву,
Ступаю закаціся,
Таўкачом бараніся.

Або:

Вот ты, сватко, тут як тут,
А хто ў цябе дома?

Котка на аконцы
Прадзе кужалёнцы,
Яна ў цябе гаспадынька. (2)
Мыш на паліцы
Робіць рукавіцы,
Яна ў цябе гаспадынька. (2)

Дастаецца ад песні і лысай галаве свата:

У нашага свата лыса галава, лыса галава,
Добра будзе боб малаціць,
Нікуды зерне не паляціць:
То ў лоб, то ў лоб, то ў вока,
Каб бачыў сватка далёка.

Сват бярэ гарэлкі і закускі і нясе тым, што спяваюць. Тыя цяпер зачынаюць пра дружка:

Наш дружчатка наеўся, наеўся,
На ім пояс рассеўся, рассеўся.
Мы ж пасдзем да Вільні, да Вільні
Абручыкі купаваць, купаваць,
На дружчатку набіваць, набіваць.

Пра дружку:

Наша дружка-хітрушка
Цыцкаю парася забіла,
Перад дружчаткам палажыла.
— Еш, дружчатка, парасятка,
Яшчэ заб'ю жарабятка.
А як мала будзе тога,
Яшчэ заб'ю другога.

Ці яшчэ:

Наша дружка, як дуб, скача,
У калыбелі байструк плача.
— На табе, байстручку,
Пірага у ручку,
Сама пайду на вулачку.
Калі будзе табе мала,
Бадай цябе разарвала.

І так спяваюць, танцуюць.

Скажу цяпер пра адзенне. У маладой яно белае, а ў маладога — чорнае альбо сівае, у дружак — белае альбо каляровае. А сванька можа быць ва ўсякім. У сванькі на галаве чэпчык — «строік» з цюлі — і кветкі. У свата вопратка суконная, свае работы.

Асабліва ў пашане было друкаванае адзенне. (Я тут апісваю вяселле 1910 года. У нас тады ўжо яго не было, але так успамі-

наю.) Не кожны такое адзенне і меў. Выткуць рудога палатна ў дзве нічальніцы і вязуць друкаваць у Моўчадзь, у мястэчка, да яўрэяў. У іх былі такія формы — валкі. Фарбу разводзілі ў покасце. І на тыя валкі скачывалі палатно, і на ім адбіваліся ўзоры. А тады сушылі, бо покаст — дык вельмі смярдзіць.

Як багатшы хто, то пасля вяселля яшчэ з адны порткі аддрукуе, каб было як да царквві ісці.

У друкаваным быў на вяселлі і сват, калі ён багаты. Гэтак жа і сванька, і дружкí, і дружкі.

Маладая старалася да вяселля аддрукаваць пасцель: дзве навалачкі на падушкі — адну вялікую, а другую маленькую; коўдра (у ім быў друкаваны толькі верх, а спод — так) і радзюгу на верх засцілаць — такую ў пеўнікі.

Доўга яшчэ потым смярдзіць пасцель друкам.

Маладая ў валене едзе да вянца і з вянца, у гэтым жа валене абедае і танцуе ў ім раз, а тады ўжо сванька і дружкі вядуць яе пераадзяваць у каляровге. А вален адзяе старшая дружка і танцуе з маладою, потым гэтак жа другая дружка.

Перад вянцом проста граюць на дварэ, але не танцуюць. А ўжо прыехаўшы з вянца, дадуць музыкантам есці і вядуць у другую хату (бо ў сваёй жа цесна, будуць частавацца), і там пачынаюцца танцы.

Калі ў маладой шмат сукенак, то яна іх часта зменьвае. Але калі едзе да маладога, то адзене зноў тое, у чым ехала да вянца.

За адным разам пералічу тут і ўсіх вясельнікаў. Хто такія малады і маладая — тлумачыць не трэба. Да маладой яшчэ бралі «за дзеўку» дзяўчыну гадоў дванаццаці. Яна прыслугоўвала. Сукні былі доўгія, з хвастом, дык яна і нясла хвост або вален (спадніц яшчэ зусім не было, за маю памяць з'явіліся). Далей сват, сванька, дружкí (гэта яго кавалеры, іх чатыры) і дружкі (яе дзеўкі, таксама чатыры), браты (яе браты, можна і чужыя, іх два) і «сёстры» (яго сёстры або чужыя, але таксама дзве).

Перад вянцом маладая сядзіць за сталом, а наабапал па дзве дружкі і сванька злева, потым дзяўчынка, што прыслугоўвае «за дзеўку», і брат, які вядзе маладую на пасад. Месца свата ў канцы стала. Родныя ж бацькі садзяцца на зэдліку перад сталом, вачыма да парога, спіною да стала. Перад іх вачыма маладая садзіцца на дзяжу.

Пасля ж вянца малады сядзіць разам з маладою за сталом, і дружкі з дружкамі, якія кветкі прыколвалі, і браты з сёстрамі.

Ну, цяпер зноў пра вяселле. У панядзелак па абедзе пачынаюць дарыць маладую. Уперад дораць бацька і маці. Бацька дорыць грашыма і серабром і дае жыта са жменю, а маці нясе жыта

жменьку (у насавой хустачцы) і вялікую хустку суконную (маці грошай не дае). Потым сванька са сватам (сват то не дорыць, ён будзе пасля дарыць у маладога), дружка з дружком, браты з сёстрамі — і гэтак уся радня.

Сват трымае ў левай руцэ сподак (на яго накінута насавая хустачка і за яе ражкі ён трымае яго знізу), а ў правай — бізун, плецены з раменю, а тронaчак — казіная ножка са шкуркаю. Дорачы, кладуць на сподак. Калі ручнік, то сват падымае на бізун. Сват за кожным разам стукае ў бэльку і крычыць: «Проша прыбываць, не забываць, хто не прыбудзе, то ў казе пабудзе» (каза — такая каморка, у якую садзілі вінаватага, як у астрог). Радня ацягаецца (марудзіць, не спяшаецца), бо не хоча, каб хутка дары канчаліся. Калі даўжэй дораць, то значыць радня вялікая, шмат падарункаў.

Сват прыгаворвае пры гэтым:

Дорыць цётка родна,
У бога годна.
Дорыць падаркам,
Велькім кавалкам.
Каб здаровы знасілі!
Проша прыняці
І падзенькаваці,
Каб гэтыя дары
Былі аддароны дзеткам!

Калі дорыць дзеўка ці кавалер, то сват кажа: «Каб гэтыя дары былі аддароны яму незадоўга», г. зн., што яны ў блізкім часе таксама замуж выйдуць і ім будуць дарыць.

Калі які матэрыял дорыць старая, то сват кажа:

Доўга сабіралася,
Многа год збіралася.
Дорыць шоўкі не тутэйшыя, заморскія,
Каб шчасліва насілася...

Суседкі часам дораць льном. Тады сват прыгаворвае:

Дорыць льном,
Бо не напрала за сном,

— і ўсе смяюцца.

Сванька згортвае падарункі і кладзе каля сябе. А хлопцы і маладыя мужчыны стараюцца ўкрасці для смеху і тады дораць ужо дароным, каб зноў выпіць. Пры кожным падарунку даюць жа каравая і гарэлкі, а маладыя цалуюць іх цераз стол. Калі старыя — мужчына ці жанчына, то іх цалуюць у руку. Адзін кара-

вай дзеляць у маладой перад выездам, калі дорацъ маладую, а другі вязуць у куфры да маладога і там дзеляць, як абдорваюць радню маладога.

А сват тым часам зноў б'е бізуном у бэльку: «Проша прыбываць, не забываць, на дарозе стаю, па сем чарак даю». Спачатку сват не абяцае, а пасля ўсё набаўляе: «па восем чарак даю», «па дзевяць», «па дзесяць», «па пятнаццаць», але дае ўсё роўна, як і даваў, направду не прыбаўляе.

Пачынаюцца і смешкі. Дорыць, скажам, хто-небудзь дугою і сам гаворыць, а сват пераказвае:

Дару дугою,
Каб не хадзіў за другою.

Або з карабка запалак і нітак зробяць калыску і загорнуць у газеты. Сват раскручвае, раскручвае, аж семдзесят газет раскруціць, а людзі глядзяць, усё чакаюць. І тады смех.

Дорым калыску і жадаем,
Каб да гадочка
Бог даў сыночка,
А на другі — і дочку.

Потым маладая памаленьку збіраецца да маладога. Звязвае пасцель, шыкуе падарункі абдорваць бяседу. Трэба ўсіх абдарыць палатном. У каго радня большая, то кускоў тры парэжуць, а кускі па 24—30 аршын (метраў мо 20) — шмат палатна пойдзе. А сёстрам маладая дорыць па хустцы, і музыкантам таксама дае падарункі.

Пасаг жа збіраюць, як расце дзяўча, з самага малку. Трэба ж, каб не толькі палатно было, але і коўдра суконнае (калі няма яго, то друкаванае), радзюжак сама меней чатыры, падушак дзве — адна вялікая, другая — маленькая; навалачкі, як я ўжо раней упаміналa, друкаваныя. Гузікаў не было, замест іх прышываліся да навалачкаў шнурочкі. І ўсё шылася рукамі.

Трэба, каб было пашыта дзве пары бялізны маладому да вяселля, ды і коўдра, каб новае,— цэлы тыдзень дзве дружкі і маладая завіхаюцца з шыццём.

Дзеўка павінна мець бурнос сівы (пашыты з сівага сукна, бо тады ніхто не фарбаваў), таксама паабшываны каля кішэняў, каля рукавоў і каля каўняра, і кажушок, а як багатая — то і вялікі, доўгі кажух.

Маладая бярэ з сабою поцясь, што прасці, і пук верацён (25), валак, качалку (жалязкаў не было ні ў кога, хіба ў краўца, а так усё качалі), церніцу, трапушку, варстат, што кросны ткаць.

Бацька ці брат (хто аддае) даюць у пасаг карову, авечку, свінню, што ёсць у гаспадарцы.

Цяпер, ад'язджаючы, маладая збірае і посуд: бярэ дзве талеркі, дзве лыжкі.

А тым часам дружкі выкупляюць у дружак пасцель. Доўга таргуюцца. Нарэшце, даюць дружкам грошай, а тыя ўжо тады аддадуць яе.

Трэба і пра паясы не забыцца. Шмат паясоў наткана ўжо ў маладой да вяселля — не меней як 15. Усё ж на вяселлі робіцца з паясамі. Вось цяпер поясам перавязана пасцель, ім жа звязваюць перад дарогаю курыцу (яе будуць самай першай уносіць і пускаць пад печ, каб усялякая бяда пайшла на курыцу, а не на маладую). У дарозе ж парвецца супоня, і трэба будзе даць свату пояс. Абдорваючы радню маладога, маладая падпяразвае дзяцей поясам. Пераначаваўшы ў маладога, маладая ўстане мясці падлогу і будзе мясці не ўмеючы: ад парога на хату, а маці маладога будзе паказваць, што трэба мясці з покуця да парога. І за гэтую «навуку» маладая дасць матцы пояс. І качарга прыбярэцца поясам, і апалонік, і дзежка, і даёнка. Пояс атрымае і стол, калі сванька будзе каштаваць абед.

Перад тым, як выязджаць да маладога (у панядзелак пад вечар), маладая абдорвае дружыну: свата, дружкоў (іх бывае ўсяляк — раней два, цяпер чатыры), «бацькоў». Пасярод вяселля ад маладога прыязджалі «бацькі» — хросныя або так суседзі — два мужчыны, адна жанчына («прыезная сванька») і адна дзеўка, якая называлася сястра, а ўсе разам — гэта «бацькі». Яны вязлі «пячэню» (пірагі, мяса, гарэлка, ледзьве ўнясуць у хату абрус — такі цяжкі). Іх гарэлкаю і закускаю частуюць радню, калі яна дорыць маладую. А калі не стане гарэлкі маладога, то тады дадаюць бацькі маладой.

І вось едуць на быт. Маладая з усімі развітваецца і плача. І падружкі яе плачуць, і маці, бацька плачуць. Усе шкадуюць маладую. Жаліцца і песня:

Што ж ты, дзявунька, за бяду зрабіла,
Што сваю сямейку ды пасіраціла?
Чужая сямейка п'е ды гуляе,
А твая матанька слёзкі раняе,
Чужая сямейка п'е ды скача,
А твая матанька сільненька плача.
На тваім месцы няма каму сесці,
Тваёю лыжкаю няма каму есці.
Ды твае месцейка за сталом гуляе,
А твая лыжачка ды ляжыць сухая,
А твая матанька слёзы раняе.

Дружкі, выкупіўшы пасцель, нясуць яе на воз, і маладая з маладым садзяцца. На гэты ж воз садзіцца спераду і сванька з іконаю, і тая, што «за дзеўку». А на другім возе — дружкі і музыканты. Дружкі ж цяпер яшчэ не едуць, яны паедуць з прыданым.

Бацька бярэ каня за вобраць і зводзіць са двара. А дружкі хапаюць з воза салому і кідаюць на дарогу, каб неўзабаве за маладою пайсці замуж.

Прыедуць да маладога. Тут яго маці сустракае на парозе ў вывернутым кажуху, трымаючы века з гарэлкаю і хлебам. Маладыя нахіляюць галовы, і маці багаславіць. Маладая кладзе на века падарунак, бярэ з хустачкі жыта, сее па ўсіх кутках у хаце і вітаецца з раднёю маладога.

Калі маладая сее жыта, жанкі спяваюць:

Знаці, знаці
Гаспадыньку ў хаце.
Як у хату ўвайшла,
То работку знайшла:
Пасеяла жыта
Па ўсіх куточках.
— Каб маё жыта
Тут зарадзіла,
Каб мая сямейка
У золаце хадзіла,
Каб маё жыта
У трубу вілося,
Каб маё шчасце
Тут разжылося.

Сванька тым часам вешае ікону на сцяне, адзін ручнік на ікону, а другі на сцяну. Засцілае свае абрусы на стол, а тыя, што былі, здымае. Дружкі нясуць пасцель.

Каравай маладой сванька кладзе на канцы стала, і садзяцца за стол маладыя. Бацькі збіраюць родных і даюць абед.

Тут жа прыязджаюць прыданыя: дружкі, матулька, татулька і цёткі родныя і тыя, з кім маладая таварышкавала. Бывае вазоў тры. На першым возе вязуць куфар, а даўней вязлі кубел і вушатку (таксама кубел, але з вушкамі). У кубле палатно, а ў вушатцы адзенне. Кублы высокія, амаль у рост чалавека.

Разам едзе і брат маладой, што на пасад садзіў.

На надворку ідзе малады з маладою і дае рубля брату — выкупляе кублы.

У гэты час спяваюць:

Ці спадабала, вутанька,
Паплаўцы да шырокія,
Азярцы ды глыбокія?
Ёсць па чым паплаваці,

Крыллем ды памахаці.
Ці спадабала, Аленка,
Падвор'е ды шырокае,
Застолле ды высокае?
Есць па чым пахадзіці,
Ключыкам пазваніці:
Па свірнах, ды па каморах,
Да па высокіх парогах.

І шмат іншых песень:

Божа ж мой, ды мілюсенькі,
Куды ж я ды уехала?
Тут паля каменістыя,
Тут людзі ганарыстыя.
Дзе пайду — ножку саб'ю,
Што зраблю — не ўнараўлю.
Хада мая пераходжана,
Мова мая перамоўлена,
Работа мая перароблена.

П'юць, танцуюць, спяваюць цэлую ноч. Потым ідзе маладая, скідае вален і кладзе на галаву чэпчык. Танцуе з дружкамі, а дружкі накладаюць вален на сябе і танцуюць. І ўсе дружкі павінны пагуляць у валене. Потым маці ідзе ў каморку і нясе каравай на галаве. Ідзе, танцуючы, а музыка грае. Кладзе на стол, а маладая накрывае хусткаю.

У аўторак, пасля снедання, пачынаюць дарыць маладога. Таму, хто дорыць, старшы дружко адразае каравая, сват дае гарэлкі, а маладыя дзякуюць, як і ў маладой, за падарункі. Таксама першымі дораць бацька і маці ўжо маладога, потым дружкі з дружкамі. Дружкі не дораць, але разам п'юць і каравай бяруць. А калі ўсе свае падораць, то тады дораць усякімі цацкамі, хто што прыдумае. Спяваюць бязліку розных песень.

Свату:

Ой, сват сваньцы паплёў лапці
З тоўстых лык,
Ходзіць сванька надуўшыся,
Як індык.

Або:

Хваліўся сваточак сваёю жаною,
Што яго жана ды работнічка.
Праз сем дзён хвартух шыла
Ды на парозе згубіла.

Ці яшчэ:

Да хваліўся сваточак да сваёю жаною,
Што яго жана да работнічка.

Праз сем год кужалёк прала,
На стаўпе кросны ткала,
На ступе клубкі клала.
Прыляцела галубянятка
Ды ўхапіла клубянятка.

Але як га́няць, так і пахваляць свата:

На сваточку кашуля, кашуля,
На сто злотых каштуе, каштуе.
Не жана яму зрабіла, зрабіла,
А пашня яму зрадзіла, зрадзіла.
Жыта, пшаніца саткала, саткала,
Грэчка на рэчку занесла, занесла,
Ячмень бела выбеліў, выбеліў,
Гарох дадому прыкаціў, прыкаціў,
Сачавіца дробна пашыла, пашыла,
На сваточка злажыла, злажыла.

Спяваюць яшчэ і дружку:

Наш дружчатка чарнаброў,
Згубіў штаны каля дроў,
Шукаў, шукаў — не знайшоў,
Вось заплакаў ды й пайшоў.
А хто бачыў — скажыце, скажыце,
А хто знайшоў — аддайце, аддайце.
Дам я тому перайма,
Бочку піва, дзве віна.

Або такую спяваюць:

Нашы дружкі-шуміркі,
Ды не піце гарэлкі,
Бо гарэлачка шумна,
Завядзе дружку да гумна,
Перакіне ў сторану
Дай наробіць сораму.

Ці яшчэ:

Наш дружчатка-вернічак
Ды завёў дружку ў ельнічак,
Стаў каля яе варажыць,
Каб як дружку палажыць.
А дружачка рагоча
Дый класціся не хоча.
Рассцілае сярмягу.
Дружка кажа: «Не лягу,
Па сярмязе блохі ідуць,
Яны мяне заядуць».

Пажартуюць песняю і з прыданых:

Прыданічкі не ведалі
Дый пад хлеў паехалі,
З казлом павіталіся,
У казліхі папыталіся:
«Ці вялікі гаршчок кашы,
Ці пад'ядуць прыданкі нашы?»

Маладыя садзяцца за стол. Даюць апошні абед. Неўзабаве ад'едуць прыданыя. Сванька нясе з куфра падарункі і абдорвае радню маладога. Уперад даюць падарункі бацьку, мацеры, потым сёстрам і братам, цёткам і дзядзькам, бацькам хрышчоным. І з кожным падарункам — каравая кусок. А хто, беручы, яшчэ і прытанцуе:

Не я скачу — бяда скача,
Мая жонка есці плача,
Як не даў, так не дам,
Ды схаваю к калядам.
На коляды — святы дзень,
Буду есці цэлы дзень.

Канчаюць абедаць. Прыданыя збіраюцца ад'язджаць. Тады спяваюць:

Прыданачкі ад'язджаюць,
Аленку пакідаюць,
Іванку навучаюць:
«Не бі яе жыдкім дубцом,
Вучы яе ціхім слаўцом.
Не бі яе ды дубінкаю,
Вучы яе гаспадынькаю».

Развітваюцца, цалуюцца. І маладая садзіцца з імі, пад'язджае ў канец вёскі і варочаецца.

Назаўтра прыязджаюць бацькі маладой на пярэзвы. Вязуць «пячэню»: пірагі, мяса, гарэлку. І малады, калі маладая была чэсная, ставіць бутэльку чырвонай гарэлкі, налівае першую чарку яе маці і дае рубля. А калі маладая не чэсная, то не дае нічога і кажа: «Вось, мама, што ў вашай дачкі трэба, каб было сёння, а яно ўжо было даўно». І маладая заплача.

Праз тыдзень едуць да бацькоў маладой — малады, маладая, бацька і маці (бывае і хрышчоных бацькоў возьмуць). Выязджаюць у суботу ўвечар з пячэняю і там балююць, прыехаўшы, і назаўтра ў нядзелю цэлы дзень.

# ВЯСЕЛЛЕ У В. ЗЕЛЯНКОВІЧЫ ГЛУСКАГА РАЁНА

## Запісаў В. І. Скідан

У сваты тут заўсёды ішлі або ехалі тры-чатыры чалавекі, бралі з сабою шкляны жураў (гарнец) гарэлкі, прыкладна тры літры, і каравай, загорнуты ў чысты ручнік. Некаторыя пры гэтым улеплівалі ў каравай крупінку солі. Калі хлопец быў сіратою, каравай пяклі чорны або шэры, г. зн. з сеянай, нават з пытлянай мукі, але не з белай, не з пшанічнай. Старшым сватам звычайна быў хросны бацька, сватамі — старэйшы брат, дзядзька або яшчэ хто-небудзь з радні. Раней бывалі выпадкі, што бацькі адправяць сватоў, высватаюць нявестку, а сын і не ведае. І не бачыў ён сваёй нявесты, пакуль не станавіўся з ёю пад вянцом. Цяпер часта здараецца ўжо іншае: жаніх і нявеста пажэняцца, а бацькі толькі потым даведаюцца. Бацькі, вядома, абураюцца. Але ў кожным канкрэтным выпадку — і раней і цяпер — на ўсё ёсць свае прычыны.

Сваты, прыехаўшы да нявесты, спачатку прыкідваюцца купцамі, гасцямі, шаўцамі і краўцамі, паляўнічымі, рыбаловамі. Вось адзін з прыкладаў. Сваты ўваходзяць у хату, вітаюцца перш-наперш. Нявеста ўжо здагадваецца, чаго яны прыйшлі. Сваты пачынаюць: «У вас ёсць цялічка, а ў нас сянцэ. Дзе сянцэ, там і цялічка. Ну як, гаспадар, што скажаш на гэта?» Нявеста, калі ёй жаніх не надта падабаецца, уцякае, выходзіць з хаты і з дому. Жаніх спрабуе яе дагнаць, угаварыць. Сваты ў хаце працягваюць гаворку. Калі нявеста не вернецца, ім застанецца адно — паварочваць аглоблі, г. зн. ехаць ні з чым. Калі ж хлопец дамовіцца з дзяўчынай, яна зноў уваходзіць у хату. Старшы сват дастае з-пад пахі каравай і кладзе на стол. Гаспадар нібы не заўважае каравая, прапануе гасцям, калі ў іх ёсць жаданне, купіць цялічку, авечку, пашыць кажух, боты і г. д. Сваты, аднак, прыкмецілі ўжо свой тавар і без чаркі ім не старгавацца. Гаспадыня засцілае на стол чысты абрус. Сваты ставяць побач з караваем гарэлку. Бацька нявесты гаворыць, што дачка — самае дарагое ў доме, што яны і не думалі яе аддаваць, не падрыхтаваліся да вяселля і г. д. Маці раіць спытацца ў дачкі, што яна скажа. Дачка адказвае, што калі бацькам усё роўна, дык як хочуць. Часам яна саромеецца і нічога не гаворыць. Тады старшы сват налівае ёй чарку гарэлкі — дзеля смеласці, каб сказала праўду. У разгар торгу ў хату ўваходзіць жаніх, тут яму дазваляецца пакласці на чарку грошы: ад трох да пяці рублёў. Усе ўгаворваюць нявесту выпіць. Калі нявеста згодна выйсці замуж за хлопца, яна забірае

грошы і выпівае чарку. Больш ад яе нічога не трэба: выпіла — значыць згадзілася. За ёю ўслед па чарзе выпіваюць першую чарку старшы сват і бацька, маці і жаніх і г. д. Сваты, п'ючы першую чарку, з гонарам абвяшчаюць: «Наша маладая, наша!»

Пасля «першай чаркі» гуляюць «заповіны». На заповіны апрача ўдзельнікаў першай чаркі запрашаюць хросных бацькоў нявесты, яе бабку-павітуху (калі яшчэ жывая), братоў і сясцёр, блізкіх сваякоў, суседзяў. На заповінах спявалі раней:

Завуць мяне на заповіны,
Там дзверы да закроены;
Завуць мяне на заручыны,
Там дзверы да закручаны.
А мы дзверы адкруцім
Да Надзечку заручым.
Завуць мяне на заповіны,
Няма ў мяне да жуковіны;
Ой, вы, дзевачкі, знайце —
Мне жуковіну дайце.

Заадно ў гэты ж вечар нярэдка гулялі і заручыны. І на заповіны, і на заручыны жаніх прыязджаў або прыходзіў з бацькам і маці. Але бацькі маглі і не быць.

Другую чарку п'юць за дагавор. «А што ты дасі сваёй дачцы?» — пытае старшы сват у бацькі нявесты. І начынаецца торг. Бацькі дамаўляюцца аб тым, хто што дае дзецям. Адзін раней даваў хату, каня, другі — карову, грошы і г. д. Дагавор гэты, праўда, быў яшчэ не канчатковы. Яго можна было змяніць. Поўную звычаёвую сілу ён набываў толькі пасля таго, як абяцанае на заповінах пацвярджалася на вяселлі (на каравай). Тут жа, на заповінах, дамаўляліся і аб тым, хто колькі да каго прывядзе або прывязе гасцей (бяседу).

— Ты, сват, вязі да мяне ўсіх, хто ў цябе е,— гаварыў адзін.

— І ты, сват, вязі сваіх — усім хопіць...— адказваў другі.

Або:

— Не, сват, сорак чалавек — гэта многа. Я не пацягну.

І пачыналі лічыць па імёнах: каго запрашаць на вяселле, каго везці да свата і каго частаваць дома.

Трэцюю чарку п'юць за падарункі. Гэта фактычна і ёсць заручыны. На заручынах нявеста сядзіць супраць старшага свата. Ён налівае нявесце чарку. Нявеста ўстае, нахіляецца над сталом і завязвае старшаму свату спецыяльна падрыхтаваны для яго вышываны ручнік. Завязваецца ён накрыж праз плячо і пад паху, вузлом наперад. Раней такі ручнік завязваўся і свату-швагру або ўсім сватам. Нарачонаму нявеста кладзе на галаву хустку. Маці

нявесты абменьваецца з бацькамі жаніха падарункамі. Усе падарункі «перапіваюцца». Абрадавымі падарункамі замацоўваецца згода на шлюб. Заканчваецца гэты этап падрыхтоўкі вяселля позна ўвечары песнямі і танцамі.

Раней пасля заручын сват з жаніхом і бацькам нявесты адпраўляліся ў царкву і дамаўляліся з папом, каб у бліжэйшую нядзелю ў царкве было зроблена абвяшчэнне. Разы два-тры ў кожную наступную нядзелю і ў святочныя дні ў царкве абвяшчалася аб тым, што такі і такі хлопец хоча ўзяць такую і такую дзяўчыну, і ці не жадае хто-небудзь паведаміць факты, якія маглі б спыніць або забараніць гэты шлюб. Калі ўсё было добра, то тыдні праз два ў нядзелю можна было ехаць у царкву вянчацца.

Такім чынам, тыдні праз два пасля заручын у нядзелю пачыналася вяселле. Раней шмат часу трацілі на падрыхтоўку да вяселля. Асабліва многа клопатаў было з караваем. Каравай пяклі не на абы-якіх дрывах, не ў абы-якой печы, не з абы-якога цеста. Тут усё павінна быць на вышэйшым узроўні: вада лепшая, мука лепшая, масла лепшае, яйкі лепшыя. Венік, якім вымяталася печ у гэты дзень, быў самым найлепшым.

Каравай пякла хросная матка. Яе называлі старшаю каравайніцаю. Яна падбірала памочніц. Усіх каравайніц было чатырыпяць. Глядзелі, каб сама старшая каравайніца была не ўдава, не разлучніца — паказвала прыклад у сямейным жыцці. Але нават калі яна была і бездакорная, ёй усё роўна спявалі ў гэты дзень:

Каравайніца п'яна,
Да ўсё цеста пакрала:
То ў мех, то ў кішэню —
Сваім дзеткам на вячэру.

Караваю прысвячалася шмат песень. Сярод іх:

Іча каравай, іча,
Да каравайніцу кліча.

Каравай трэба было добра замясіць. Звычайна жанчыны, замешваючы хлеб, мачылі рукі ў ваду, каб цеста не прыліпала да пальцаў. Каравайніцы мачылі свае рукі ў гарэлку. Потым гэтую гарэлку вылівалі коням пад ногі. Усіх караваяў пяклі шэсць — каб было да па́ры. Адзін з іх быў у форме месячыка, астатнія пяць — круглыя. Зверху на караваі пісалі ключом (тым сэрцайкам, што ўстаўляецца ў замок) — выпісвалі розныя фігуры. Цеста намазвалі мёдам, наколвалі макаўкамі, іх верхнімі венчыкамі. Акрамя караваяў пяклі яшчэ каравайкі, штук 40—60 (цэлае рэшата). Прызначаліся яны галоўным чынам для дзяцей. На вя-

селле — паглядзець маладую і атрымаць каравайку — прыбягалі дзеці. Некаторыя з іх залазілі на печ і чакалі, пакуль спякуцца каравайкі. Булачак гэтых не разразалі, кожнаму давалі цэлую. Караваі пяклі доўга, з вялікімі цырымоніямі, гульнямі. Песня расказвае аб гэтым:

Ой, чыя-то хата топіцца,*
Шаўковыя да дымы ідуць?!
Там Надзечцы каравай пякуць —
Ручкамі да бяленькімі,
Персцянямі залаценькімі.
Караваю, мой раю,—
Каля цябе харашэ йграю.

Цяпер караваяў у доме не ўчыняюць, не месяць і не пякуць — заказваюць у сталовай, у рэстаране і г. д.

У суботу, напярэдадні вяселля, у маладой уюць вянок, а ў маладога — елку. І ў маладога і ў маладой збіраюцца ў гэты дзень асноўныя ўдзельнікі вяселля — ідуць віць вянок або віць елку. Работы ў гэты дзень хапае ўсім. Госці дапамагаюць, акрамя таго, і рыхтаваць падарункі для сватоў. Пасля работы гаспадары будуць частаваць гасцей. А пакуль што маладую завіваюць. Вянок для маладой купляе малады. Яго трэба толькі завіць, г. зн. падшыць, падагнаць. Куплёны вянок і сам па сабе прыгожы: у ім ёсць рознакаляровыя лісточкі і кветачкі (з паперы), белыя (парафінавыя) ягадкі і г. д. Да вянка застаецца падшыць фату і брыжы (шырокі беленькі, складзены ў тры ярусы «гармонікам» каснік). Вянок нібы ўстаўляецца ў брыжы. Каб пачаць работу, «закасянне» просяць дазволу (благаславення) у маці нявесты. Пачынаючы шыць, просяць благаславення кальнуць у брыжы іголкай. Каб кальнуць іголкай яшчэ раз і працягнуць нітку — зноў просяць благаславення. І гэтак тры разы. Завіваючы маладую, ёй расплятаюць касу. Каб расплесці касу, таксама просяць благаславення. Нявесце ў гэты дзень спяваюць нямала песень. Сярод іх:

Да стаяла, буяла (2)
У агародзе канапелечка,
Да не даў ёй ветрычак (2)
Яшчэ болей пастаяці,
Лісцікам да памахаці.
Адбіў ёй лісточак (2)
Да на жоўты пясочак.
Да гуляла, красавалася (2)
Надзечка ў сваёй мамкі,

* Кожны радок паўтараецца.

Да не даў ёй Колечка (2)
Яшчэ болей пагуляці,
Коскаю да памахаці,
Расплёў ёй косачку, (2)
Разліў ёй слёзачку.
Каса мая да русенькая, (2)
Сляза мая гарачэнькая.
Як мы Надзечцы вянкі вілі,
Да ўсе лужэчкі сцягнулі —
Да шукалі каліначкі з веткамі:
Разлука Надзечцы з дзеўкамі.
— Дай, мамачка, іголку
Да й нітачку шоўку
Прышпіліць вяночак
На шаўковы платочак.

Дружак у нявесты звычайна пяць-шэсць. Але тут прысутнічаюць яшчэ цёткі, бабулі, суседкі. Людзей поўная хата. Паглядзець, як завіваюць маладую, прыходзяць дзяўчаты і жанчыны, у тым ліку і людзі старэйшага ўзросту, якія памятаюць, як пад вянок маладой калісьці клалі намітку (або: кітайку, хустачку, сетку, беленькае танюсенькае празрыстае палатно). Намітка закрывала нявесце вочы. У песні нявеста параўноўвалася з выдраю:

Да сядзела выдра з выдраю,
Седзячы над вадою: (2)
— Да ці добра ж табе, мая выдрыца,
Седзячы над вадою?
— Да патуль добра, патуль харашэ,
Пакуль дожджык не пойдзе: (2)
Дожджык пойдзе — берагі пойме
Да мяне, выдрыцу, змочыць.
Гаварыла сястра з сястрою,
Седзячы за скам'ёю: (2)
— Да ці добра табе, сястрыца,
Седзячы за скам'ёю? (2)
— Датуль добра, датуль харашэ,
Пакуль Колечка не едзе;
Колечка едзе ў чырвоным кіце,
А мне звязаны вочы.
Завязалі вочы з цёмнае ночы
Белаю кітайкаю,
А ён грозіцца, прыгражаецца
Чорнаю нагайкаю.

Завязаныя вочы, усё роўна як выдраныя. Таму яна і «выдрыца». Дзень для яе быў цёмны, як ноч. Будучыня таксама не радавала. Цяпер вочы нявесце не закрываюць наміткай. Ад наміткі засталося толькі брыжэ.

Калі нявеста сірата, ёй спявалі раней:

Да стаялі садочкі ў тры радочкі:
У першым садзе зязюля кукуе, (2)
У другом садзе салавей шчабеча,
У трэцім садзе Надзечка ходзіць,
Надзечка ходзіць, свайго бацька просіць:
— Хадзі, хадзі, бацюхна, на маё вяселле, (2)
На маё вяселле да на сіроцкае.
— Весяліся, дзіцятка, весяліся, Надзечка,
А я тут ляжу за трыма замкамі:
Первы замочак — зялёны дзярночак,
Другі замочак — жоўты пясочак,
А трэці замочак — сасновая дошчачка —
Не можна ўстаці да майго дзіцяці,
К майму дзіцяці парадачак даці.

Цяпер нявесты-сіроты таксама не забываюць сваіх бацькоў, ідуць у гэты дзень на могілкі з кветкамі. У вянку нявесты-сіраты і цяпер няма чырвонага колеру. Гэтак жа і маладому, і дружкам — калі хто сірата — у кветку не ўплятаюць чырвонае. Кветкі для маладога і дружкоў уюць шаферкі (дружкі) нявесты ў гэтую ж суботу — разам з вянком для маладой.

На елку да маладога збіраюцца гэтак сама, як і на вянок да маладой. Розніца ў тым, што тут збіраецца ўжо яго бяседа. «Пойдзем к Колечку на елку!» — гавораць шаферы (дружкі маладога). Збіраюцца хлопцы і дзяўчаты, радня. Віць елку — г. зн. упрыгожыць елачку рознакаляровымі кветкамі ды так, каб нішто не адарвалася і не згубілася ў дарозе. Колісь вяселле ехала на вазах: чатыры, пяць або і восем вазоў. З асаблівым стараннем хлопцы і дзяўчаты ўбіралі воз маладога. Дугу ў возе апляталі елкаю, якую прывязвалі каляровым шарсцяным поясам дамашняй работы. Наверсе ў дузе ёсць кольца. Да яго прымацоўвалі галаслівы званочак. Былі яшчэ шамкі — маленькія жалезныя бразготкі з дзвюх палавінак. Іх купляюць і прымацоўвалі да конскай вупражы. Аброці, нарытнікі, набердпікі — усё было прыбрана. Пара коней на ворчыку — у шамках. Як ехала свадзьба — звінела вуліца. Вяселле чуваць было за паўтара-два кіламетры. Ехалі з песнямі, музыкай, з гармонікам і барабанам. У дарозе спявалі:

Сядзіць зайчык пад ёлачкаю —
Вочкі трэ,
Тудою едзе малады Колечка —
Яго б'е.
— За што, пра што, малады Колечка,
Мяне б'еш?

Ці я твае вараныя коні папудзіў,
Ці я тваю Надзечку пагудзіў?
Папудзілі вараных коней галубцы,
Пагудзілі маладую Надзечку малайцы (або: хлопцы).

Цяпер вяселле едзе на спецыяльным аўтобусе, а таксама на машынах. Убранне машын у асноўным тое ж — елачкі, кветкі і інш.

Калі едзе вяселле, яго можна спыніць. Для гэтага робяць сімвалічную загародку — перашкоду: працягваюць папярок дарогі (вуліцы) нітку, дрот, шнур і г. д. Каля перагародкі ставяць на стале або якой-небудзь іншай падстаўцы вядро вады, сподачак солі і кладуць хлеб. Вяселле каля перагародкі спыняецца. Старажам, якія спынілі вяселле, даецца выкуп: цукеркі, грошы і інш. Ваду пасля гэтага выліваюць пад машыну (на колы), хлеб забіраюць і едуць далей. Спыняць вяселле можна некалькі разоў. Знаўцы гэтай традыцыі сцвярджаюць, што чым больш перашкод на шляху ў вяселля, тым лепш будуць жыць маладыя, і, наадварот, калі іх ніхто ніводнага разу нідзе не спыніць, то гэта вельмі дрэнная прыкмета.

У нявесты ў чаканні маладога збіраецца бяседа, госці садзяцца за сталы, спяваюць. Раней спявалі:

Ой, цёмная да нявідная ночачка,
Ой, вумная, неразумная Надзечка.
Паставіла ж сваю старожу ў браду.
Сама села пад вішанькаю ў саду.
— Сцярож, сцярож, мая верная сцярожа,
Адкуль, адкуль ясен месяц узойдзе.
Ой, узышоў ясен месяц з зорамі,
Ой, прыехаў малады Колечка з сёстрамі.

Цяпер замест «Цёмнай нявіднай ночкі» спяваюць гасцявыя песні; «Ой, у лузе каліна», «Вецер з поля» і інш.

Калі прыязджае са сваёй бяседай малады, нявесціны старажы зачыняюць вароты. Сваты выкупліваюць іх. Першым з воза злазіў хросны бацька. Хросная маці падавала яму каравай («паўмесячык») з прывязанымі да яго двума абаранкамі. Пасля выкупу вароты адчыняюцца. На дварэ, каля варот, стаіць стол, засланы абрусам. Каля стала сустракаюцца старшыя сваты — нявесцін і жаніхоў. Кожны трымае на ручніку каравай — «паўмесяц». Бяседа маладога спявае:

А ў нашага свата
Да цясовая хата,
Печ яго пабяляная,
Чэсць яго да каханая.

Затым спяваюць:

Пакажыце сваё золата,
Да што ўчора яно купленае,
Да мы яго патаргуем,
Да к свайму прыраўнуем:
Ваша бела да бялёсенька
Да к нашаму раўнёсенька.

Сваты здароўкаюцца, потым, жартуючы, падымаюць свае караваі:

— Мой каравай вышай!
— Мой каравай вышай!

Здаралася, што сваты ўзбіраюцца з караваямі нават на плот. Чый каравай вышэй, таму больш гонару. Лічылася, што калі яго каравай вышэй, дык яго будзе верх у жыцці, а калі яе — наадварот. З нявесціным караваем насустрач свату нярэдка выходзіць сваха. І калі яна падымае свой каравай вышэй, сват хапае яе за спадніцу: «Не гожа,— гаворыць ён,— жанчыне браць верх». Але ж і сваха не здаецца — адстойвае інтарэсы маладой. Сваты ўрэшце мірацца, звязваюць белай хустачкай два караваі («паўмесяцы») у адзін. На хустачку, якою звязвалі караваі, нанізваюць чатыры абаранкі — атрымоўваецца злучаны парны каравай. Некаторыя сваты злучаюць пры гэтым і гарэлку: з дзвюх бутэлек наліваюць у адну. Раней гэтую гарэлку, якая быццам бы валодала чароўнай сілай, захоўвалі ў якасці «лякарства».

Пакуль сваты забаўляліся з караваямі і гарэлкай, дружкі спрабуюць уварвацца ў хату. Іх туды не пускаюць. Старажы патрабуюць выкуп. Але прайсці без выкупу — значыць паказаць сваю сілу, свой верх. Гэта прыкладна тое самае, што і з караваямі. Дружкі стараюцца не за сябе — за маладога. З выкупам ці без выкупу, але яны, нарэшце, у хаце. Нявесты ў хаце няма. Усе быццам шукаюць нявесту, жартуюць: «Вось толькі што, як яна тут сядзела,— гавораць госці нявесты,— яшчэ і месца цёплае». Дружкі заглядваюць пад печ, пад ложак, пад стол — ва ўсе куткі. Дарэмна, відаць, давалі выкуп і рваліся ў дом. Нехта, жартуючы, гаворыць, што сваты сваімі паводзінамі напалохалі нявесту, што яна ўцякла, схавалася і што ім наогул варта ехаць дадому. Дружкі, доўга не затрымліваючыся, выходзяць з хаты і далучаюцца да свата. Бяседа маладога ў гэты час спявае на двары:

Селязень да ты мой сівы,*
Да ці быў ты на моры,

* Кожны радок паўтараецца.

Да ці бачыў сваю вутачку?
— Як да я яе бачыў? —
Як толькі я на Дунай усплыў,
То яна й у чарот пашла.
Пад ёю чарот гнецца,
А на яе да вада льецца.
Маладзенькі Колечка,
Да ці бачыў сваю Надзечку?
— Як жа я да яе бачыў?
Як толькі я на двор з'ехаў,
То яна й у клець пашла.

Нявеста недзе ў суседзяў. Там яе прыбіраюць, надзяюць белае вясельнае плацце — доўгае да зямлі,— на галаву прымацоўваюць «карону» (так званае завіванне: фату, вянок), паверх прышпільваюць або накідваюць празрыста-белы шалік. Калі з'явіцца на парозе старшы сват з дружкамі, нявесту хаваюць, маскіруюць. Жанчыны любяць пажартаваць са сватамі. Вось яны замест нявесты падсоўваюць сватам нейкую «маску». Сваты даюць за «нявесту» цукеркі. Але пад маскай аказваецца бабуля. Пасля таго, як яе «прадалі», бабуля разам з усімі смяецца са сватоў. «Торг» працягваецца. Наступная «нявеста» — якая-небудзь модніца. Сваты купляюць і гэту. Потым да сватоў выходзіць «цыганка», якая ўмее цікава расказаць сватам аб тым, што іх чакае ў будучым. Сваты — людзі шчодрыя, за ўсё плоцяць. Жарты працягваюцца да той пары, пакуль сваты не знойдуць нявесту. За нявесту таргуюцца больш: «Мы ж яе гадавалі, глядзелі 18—20 год, песцілі, давалі ёй адукацыю»,— гавораць жанчыны. Сваты даюць за сапраўдную нявесту крыху больш, чым за падстаўных. Сват працягвае нявесце хустачку, яна бярэцца за хустачку і так ідзе за ім з хаты. За сватам і нявестай выходзяць шаферы маладога і шаферкі маладой. Астатнія ўсе застаюцца, садзяцца за сталы, частуюцца, дзеляць выкуп за нявесту і гуляюць асобна ад вяселля. Тут шмат чужых, якія прыйшлі дзеля цікавасці.

Нявесту сваты вядуць дадому. Для маладых тут накрываюць сталы. Сваты садзяцца на куце, каля свата нявеста, ля нявесты малады і яго дружкі (шаферы). Насупраць дружкоў маладога садзяцца шаферкі нявесты, якія ім прышываюць кветкі: старшая шаферка прышывае кветку маладому на правы бок грудзей, шаферкі прышываюць шаферам — на левы бок. Раней маладая да вянчання ў царкве не магла сядзець побач з маладым, сядзела са сваімі шаферкамі, насупраць маладога. Цяпер жаніх і нявеста садзяцца побач адразу. Калісь да вянчання ў царкве маладым забаранялася і есці,— яны толькі прысутнічалі ў гэтай бяседзе. Перад ад'ездам у царкву маладую садзілі на пасад — на ўслоне,

на вывернутым кажуху. На пасадзе брат расплятаў ёй касу. Закасянне спявалі:

Расплёў брат косачку, (2)
Разліў ёй слёзачку.
Каса мая да русенькая,
Сляза мая гарачэнькая...

Брат не спяшаўся расплятаць ёй косачку. Ён цёр рукі, махаў імі, хукаў на іх, хаваў за пазуху — грэў. Дружок стараўся «сагрэць» брата: даваў яму гарэлку, клаў у руку грошы і г. д.

Пасля частавання маладыя выходзяць з хаты. Раней бацькі станавіліся ў дзвярах, каля выхаду, кожны з булкай хлеба. Узняўшы булкі ўгору і далучыўшы іх адна да адной, бацькі давалі дзецям праход. Трэба было прайсці пад булкамі. Падыходзячы да бацькоў, нявеста прыпадала ім да ног, цалавала спачатку ў ногі, потым у рукі і, нарэшце, у твар. Дачка гаварыла пры гэтым:

— Даруйце, можа я вам чым не дагадзіла.

Бацька і маці адказвалі:

— Хай бог даруе і табе жыццё добрае і долю дае!

Жаніх таксама цалаваўся з бацькамі. (Але калі які горды, дык не цалаваўся — праходзіў так.)

Цяпер маладыя замест таго, каб ехаць да шлюбу ў царкву, адпраўляюцца ў сельскі Савет распісвацца. Жаніх і нявеста, узяўшыся за рукі, ідуць па кілімавай дарожцы да стала рэгістрацыі. Музыканты іграюць марш. За маладымі, па абодва бакі дарожкі, ідуць давераныя асобы. Адзін з давераных паведамляе работнікам сельсавета аб жаданні жаніха і нявесты ўступіць у шлюб. Выконваюцца звычайныя абрадавыя цырымоніі, жаніх і нявеста абменьваюцца пярсцёнкамі. Сакратар сельсавета ўручае маладажонам шлюбнае пасведчанне, віншуе іх, жадае шчасця. Маладажонаў вітаюць іх давераныя асобы, сведкі, прысутныя. Усе жадаюць маладым здароўя і шчасця, жыць у згодзе і дружбе, паважаць адзін аднаго. Кілімавую дарожку згортваюць, адстаўляюць у кут. Шаферы і шаферкі паклапаціліся, каб была падрыхтавана выпіўка і закуска. Праз некалькі хвілін выстрэльваюць пробкі з-пад шампанскага. Маладыя запрашаюць сяброў і гасцей выпіць за новую сям'ю. Настрой у гасцей бадзёры. Хтосьці заводзіць песню. Старадаўняя песня, але ёсць у ёй словы, якія падыходзяць да гэтага моманту:

Ой, хто тое калечка дастане,
Той са мною на ручніку стане.
Абазваўся Колька маладзенькі:
— Ой, я тое калечка дастану,
Я з табою на ручніку стану.

Потым пачынаюцца танцы. Маладыя непрыкметна знікаюць,— ім трэба пакласці кветкі на помнік героям, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Помнік знаходзіцца каля школы. У доме маладой іх таксама чакаюць. Там цяпер пачынаецца сапраўднае вяселле. Гучыць песня:

Зеленае жыта, зелена,
Харошыя госці у мене.
Зеленае жыта за сялом,
Харошыя госці за сталом.*

Зеленае жыта, зелена,
Харошыя госці у мене.
Зеленае жыта на лану,
Харошыя госці да ладу.

Ты не тупай, мілы, нагою,
Бо не лягу спаць я з табою;
А хоць лягу спаць, ды з казаком,
Пад зялёным яваром.

З-пад явара вецер не вее,
З-пад явара сонца не грэе,
З-пад явара дробны дождж ідзе,
Мая міла замуж ідзе.

Ідзі, ідзі, мая чарнаброва,
Не скажу табе я ні слова.
Есць у мяне конь вараны,
Сяду да й паеду да ўдавы.

Удава будзе дзверы адчыняці,
Удава будзе сталы накрываці,
Здароў, здароў, сэрца мае,
Скажы праўду: любіш ці не?

Калісьці пасля таго, як маладыя пасядзяць адзін раз за сталом у доме маладой, іх і ўсю вясельную бяседу клікалі на падоймы. «Пойдзем на падоймы, сват запрашае на падоймы»,— перадавалі госці адзін аднаму прыемную для іх навіну. Падоймы рабілі зусім у іншым доме: выбіралі вялікую хату, зносілі сталы і запрашалі ўсю свадзьбу. Падоймы мог зрабіць сват, жанаты брат, сястра, дзядзька. Пазней падоймы сталі называць пярэзвамі. Але гэта адно і тое ж. Пасля таго як свадзьба пераязджала да маладога, там таксама хто-небудзь рабіў падоймы. Зрабіць падоймы лічылася вялікім гонарам для таго, хто іх рабіў.

Перад ад'ездам маладых у доме маладой зноў садзіліся за стол. Пачыналася апошняя ў мамкі вячэра, на якой дзялілі каравай і род маладой надзяляў маладую падарункамі. Сеўшы за стол, госці перш за ўсё ўспаміналі песню:

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Сядзьма, мамка, павячэраці,
Павячэраўшы, падзелімся:
Табе, мамка, да ўсе вуглы,
А мне, мамка, усе карабы.

І далей:

Ой, родзе, родзе багаты,
Да даруй тавару рагаты:
Вы, цётчанкі,— падцялкі,
А вы, братове,— па карове,
А вы, сястрыцы,— па цяліцы.

Каравай да стала нясуць дзяўчынкі — падросткі па дзевяць-дзесяць гадоў. Калі бяседа вялікая, нясуць два караваі. Нясуць каравай пад музыку ўдваіх або ўчатырох. Першымі ўстаюць за сталом сват і сваха. Сват пытае: «Дазвольце пачынаць?» Госці адказваюць: «Пачынай, сватка!» Каравай чатырохвугольны. Адразаюць уздоўж першую вялікую лусту (бераг) і разразаюць яе на невялікія кавалкі. Сват затым налівае дзве чаркі гарэлкі, а сваха-маці рыхтуе два кавалкі каравая. Сват гаворыць:

— Ёсць у маладой бацька і маці. Просім прыступіць да каравая — просім пачынаць. Бацька і маці падыходзяць да каравая. Маладыя ўстаюць. Бацька і маці бяруць свой каравай, жадаюць дзецям шчасця, здароўя і, выпіваючы гарэлку, гавораць:

— Каб жылі да й дабро нажывалі, а мы будзем жыць і вам памагаць. А яшчэ дорым на каравай...

Даруюць, хто што можа. Раней каштоўнымі падарункамі быў «тавар рагаты», цяпер — машына, грошы. Сват выклікае па чарзе: спачатку блізкую радню, потым далёкую. Падыходзяць найчасцей парамі: цётка і дзядзька, брат з жонкаю, сястра з мужам і нават усёй сям'ёй, з дзецьмі. Сват працягвае:

— Ёсць у маладой цётка Аксіння,— каб жыва была і на каравай прыбыла.

Прыбывае цётка. Пакуль каравай дзеляць, маладыя ўвесь час стаяць — дзякуюць за падарункі, за пажаданні, увагу. Даруюць шмат: кладуць грошы — хто 10 рублёў, хто 30, хто 50, даруюць міскі, лыжкі, талеркі, сарочкі, адрэзы на плацці, на касцюмы і г. д. Даруючы, гавораць: «Дарую маладым 10 рублёў і 8 капеек медзі, каб былі ў вас дзеці здаровыя, як мядзведзі»; «Дарую талеркі, на талерках кляновы ліст, каб быў у вас сын камуніст»; «Дарую грошы,— я на іх добра пагаравала,— хачу, каб маладая маладога цалавала». Маладая цалуе маладога, абавязкова павінна пацалаваць. Пажаданні працягваюцца: «Дарую пасцілку, я яе сама ткала,— хачу, каб маладая маладога пацалавала»; «Я

два дні сеяла пшаніцу,— хочаце — жніце, хочаце — не жніце, а мяне за няньку (раней: за бабку, за куму) вазьміце»; «Дарую маладому чыгун паронак (варанай нялупленай бульбы), каб не любіў чужых жонак, а маладой — чыгун буракоў, каб не любіла чужых мужыкоў»; «Дарую маладому лапці і аборы, каб не любіў чужой Фядоры»; «Дарую маладому рукавіцы, каб...»

Набліжаецца час ад'езду. Госці спяваюць:

На салодкім мядку
Да прапіла матка дачку.

У маткі ад гэтай песні на вачах нагортваюцца слёзы. Госці спяваюць далей, напрыклад, наступную песню:

Каменная печачка
Вечар гарыць, (2)
Вечар гарыць да не выгарыць, (2)
Каменнейка да не распаліць.
Маладая Надзечка (2)
Вечар сядзіць, (2)
Вечар сядзіць да не заплача,
Матачкі да не разжаліць.
Разжалю матачку, (2)
Седзячы на покуце.

Гучаць песні «Да белая бяроза звілася», «Добра было, мая мамачка», «Да ў дарогу, Надзечка» і інш. Раней сваха ад маладога перад самым ад'ездам спявала:

Да не жаласлівая матачка *—
Напроці ночкі шле ў прочкі,
Ой, проці ночкі шле ў прочкі
Да свечкі ў ручкі не дае.
Ой, дзе ж мне, маладзе, ноч начаваць:
Да ці мне, маладзе, на вадзе,
Ці ў зялёненькай дуброве,
Да ці ў свёкаркавай каморы?
Да калі на вадзе — вуткаю,
Да калі ў дуброве — белкаю,
Да калі ў каморы — дзеўкаю.

Падзяліўшы каравай і развітаўшыся, маладыя адпраўляюцца дадому, да маладога. Маладая з маладым едуць у адной машыне. З маладою ў кабіне знаходзіцца і падараваная маладажонам на каравах лялька. Ля вокнаў машыны ўюцца прымацаваныя моцнымі ніткамі вясельныя шары і дзявочыя каснікі. Вяртаюцца дадому і сваты маладога. Едуць шаферкі маладой, яе сёстры, вязуць пасцель і падушкі,— каб не спаць на свякроўчыным.

* Кожны радок паўтараецца.

Сустракаюць іх у маладога заўсёды гасцінна. Свякроў сцеле пад ногі маладым у варотах прыгожую пасцілку. Першым выходзіць з кабіны сын, затым нявестка,— ідуць побач. Свякроў цалуецца з нявесткай, цалуе сына і вядзе іх у дом. Раней, калі маладыя прыязджалі ў дом маладога і злазілі з воза, ім пад ногі ставілі падстаўку—дзяжу або ўслон, на якім звычайна стаіць дзяжа або кораб з жытам. Ступаць на гэту падстаўку дазвалялася толькі людзям бездакорнай маральнай чысціні. Потым ішлі ў дом (гэтак, як і цяпер).

У доме гасцей запрашаюць садзіцца за сталы. Маладая з маладым садзяцца побач. Калісьці, пачынаючы частаванне, маці-свякроўка давала ім пакаштаваць тых абаранкаў, якімі былі звязаны і замкнуты злучаныя караваі. Цяпер гэта ўжо не заўважаецца. Аднак і цяпер яшчэ свёкар або свякроў частуе маладую і маладога мёдам — тры разы падносіць ім мёд. Адзін раз, паводле традыцыі, трэба абмануць кожнага з іх, каб мёду і ў рот не папала. Свякроў, крыху счакаўшы, здымае і вянок з нявесткі. Але калі свякроўка ўдава, вянок здымае ятроўка (дзеверава жонка), суседка або хто-небудзь іншы. Маладой завязваюць свякроўчын падарунак — хустку. У некаторых выпадках гэта тая хустка, якую нявеста давала жаніху на заручынах (клала на галаву). Свахі, якія прыехалі з маладою, спяваюць:

Пасадзілі пад паліцаю,—
Да зрабілі маладзіцаю.

Вянок аддаюць якой-небудзь дзяўчыне. Яна гуляе ў ім, танцуе, потым аддае гаспадарам на захоўванне.

На вяселлі нярэдка разгараюцца спрэчкі. Адны, напрыклад, спяваюць:

Аддалі брусніцу,
А ўзялі дурніцу.

Другія адказваюць:

Схапілі брусніцу,
Далі нам дурніцу.

Калі песні становяцца надта вострымі, «брахлівымі», свахі пачынаюць суцішаць адна адну, але па-свойму, з праклёнамі:

Катора сваха пачала,
Каб той на язык скула з качана!
— А катора кончыла,
Каб той на язык скула з тачыла!

Услед за маладою, на другі дзень, яе сваякі і браты (прыданне) вязуць шафу. Разам з шафаю перавозяць нявесцін скарб: адзенне, набыткі. Раней вязлі кубел; потым яго сталі замяняць скрыняю. На скрыні сядзеў старшы сват. Цяпер гэты сват сядзіць на машыне — ахоўвае шафу. Прыданых сустракаюць сваты маладога і пачынаюць торг — «купляюць» шафу; даюць за яе рубель або нават і пяць і дзесяць рублёў, гледзячы па тым, якія сваты, хто прыданыя і як «прададуць». Таргуюцца жартам, але грошы бяруць сапраўдныя, таму што скарб трэба перавезці пагаспадарску, г. зн. пагрузіць, разгрузіць і ўсё зберагчы.

Цэнтр вяселля на другі дзень звычайна перамяшчаецца да маладога. Вяселле робяць па кішэні: калі хапае сродкаў — гуляюць і дзень, і два, і тры; калі не — збяруцца толькі на адно застолле або да абеду пасядзяць у маладой, пасля абеду — у маладога і на гэтым канчаюць. У маладога, калі вяселле падрыхтавана як след, з раніцы снедаюць. Сняданак можа пачацца і пазней, гадзін у 12. Гуляючы вяселле ў скарочаным варыянце, гаспадары спецыяльна зацягваюць сняданак, чакаюць прыданых — каб разам паснедаць і паабедаць. У большасці выпадкаў прыданых садзяць за стол два разы: як прыязджаюць і як ад'язджаюць. Бацькі і сваякі маладой і маладога баяцца людскіх пагавораў і дзейнічаюць па правілу: «у нітку выцягніся, а вяселле згуляй як трэба». У жыцці чалавека, гавораць яны, тры дні адзначаюцца: як родзіцца, як жэніцца і як памрэ. Вяселле — асаблівы дзень. Ён павінен быць вясёлым для ўсіх, нават для сустрэчных і падарожных. Таму на вяселлі і два музыкі: у маладога і ў маладой. У доме маладога ў гэты дзень весела як ніколі. Ужо з ранку чакаюць прыданых, гасцей, рыхтуюцца: выносяць на двор ступу, церніцу, трапло, таўкач, калыску. Калі госці, нарэшце, прыедуць, іх пытаюць: «Чаго прыехалі?» — «Гарэлку піць!» — адказваюць тыя. Сваты папярэджваюць: «У нас не так, як у вас, у нас спачатку трэба рабіць, а потым есці і піць». Госці «работы не баяцца», пачынаюць працаваць: адзін у ступе таўчэ, другі калыску калыша, трэці ваду носіць. Усюды іх чакаюць нейкія сюрпрызы: са ступы вада пырскае, у калысцы «дзіця» пішчыць, у калодзежы «вады няма». Маладую ўсе хваляць, яна ўсё ўмее, усё зрабіла. Адны толькі прыданыя і госці не могуць зарабіць сабе на бутэльку гарэлкі ці віна. Прыданых садзяць за стол — у доўг. Гэта адзін толькі варыянт сустрэчы прыданых. У другім, іншым варыянце прыданыя гавораць: «Вы ўчора ў нас гулялі ды забыліся свайго хлопца (маладога) — забярыце яго! Мы яго вам прывезлі!» Хто-небудзь з прыданых іграе пры гэтым ролю маладога. Сваты маладога адказваюць: «Не, наш хлопец (малады)

дома. А вы сваю маладую можаце забраць, бо яна нічога не варта, не ўмее нічога рабіць!» І аддаюць ім «маладую» — хлопца з гарохавым вянком на шыі, з хустачкай на галаве і г. д.

Выпіўшы і закусіўшы, уволю наспяваўшыся, госці вылазяць з-за сталоў. Музыкант у гэты час бярэ гармонік і пачынае іграць танец для самых здатных — барыню. Вясёлы, лёгкі на прысядку мужчына неўзабаве выходзіць на круг, на сярэдзіну. Госці расступаюцца па баках, даюць месца. Здатны танцор паказвае ўсё, на што здольны. Танцору дапамагаюць гарманіст і барабаншчык. Барабаншчык б'е ў барабан і прыпявае:

Пасеяў дзед рэпку
Не густу, не рэдку.
Узышла тая рэпка
Не густа, не рэдка.
Як пашоў ён рана,
Яго рэпка рвана,
Як пашоў ён ёшча,
Аж у рэпцы цешча...

Пасля барыні — полька. Танцаваць яе ахвотнікаў шмат. Гучыць прыпеўка:

Ой ты, полька Лісавета,
Я люблю цябе за ета,—
І за ета і за то,
Што танцуеш харашо.

Танцуюць вальс, карапет, падыспан, кракавяк, факстрот. Разгуляўшыся, госці ўспамінаюць, як гулялі вяселле раней,— што калісь спявалі, танцавалі. Выходзілі на сярэдзіну хаты і ён і яна. Дзяўчына пачынала:

Каліта, каліта,—
Поўна грошай наліта.

Хлопец працягваў:

Брэшаш, дзеўка,— не ўгадала:
Толькі крэмень да красала.

Дзяўчына спявала далей:

Люлька мая чырвоная,
Я ўчора курыла,
Да паклала на паліцу —
Упала, разбілась.*

---

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Ой, пайду я, маладая,
Люльку пакупаці.
За люлечку капеечку,
За чубучок грош, грош.

Куры, куры, мой міленькі,
Дай не накурайся,
На чужыя — харошыя —
Да й не заглядайся.

А ў чужых жаначок
Да па сем сарачок,
А ў мяне адненька
І тая бяленька:

Я з вечара намачу,
Су паўночы палашчу,
Чуць свет — качаю,
З малайцамі гуляю.

У доме маладой у гэты дзень хата на замку,— гаспадаркай займаюцца суседкі і тыя, што не паехалі да маладога. Аднак так бывае не заўсёды. Часам тых, што не паехалі, бывае вельмі многа. У доме ёсць выпіўка і закуска. І госці пачынаюць гуляць. Маладых няма, але госці не бядуюць — робяць падстаўных маладых. Месца маладога займае вясёлая жанчына, ёй падрабляюць вусы, бараду. Побач з «маладым» сядзіць «маладая». На галаве ў яе «вянок». Там, дзе ўчора ляжаў каравай — ляжыць пячэнне. Госці працягваюць дзяліць «каравай». Падстаўным маладым даруюць «на жывое» ката ў шапцы, пеўня ў кажуху, «таго каня, што не дагоніш кругом сяла» (вераб'я), таўкача — ваду таўчы ў ступе, чапялу, дровы, лучыну і г. д. Развесяліўшыся, госці часам не толькі «дзеляць каравай», але і «вянчаюць маладых» — прыходзіць «поп», «дзяк» і г. д.

У маладога жарты, песні і танцы працягваюцца ў нядзелю ўвесь дзень. Пасля абеду дзеляць каравай. Вечарам госці раз'язджаюцца. Але вяселле не спыняецца і на трэці дзень,— гуляюць тыя, каму не трэба ісці ў панядзелак на працу. Збіраюцца дзяды, бабулі, суседзі, тыя, што ў адпачынку і г. д. У гэты дзень гуляюць разгрэбіны. Сутнасць гэтага звычаю ў наступным. Яшчэ ў пачатку, ідучы на вяселле, госці прыносілі з сабой выпіўку і закуску; мужчыны звычайна нясуць на вяселле па літру, а то і тры гарэлкі, жанчыны — па пяць-шэсць місак гатовай закускі (катлеты, халоднае, мяса — тураціну, гусяціну, ялавічыну), нясуць таксама цукеркі, кампоты, сыр, масла, смятану, яйкі, гародніну. Цяпер жа, у панядзелак, госці прыходзяць забіраць («разграбаць») посуд і мэблю. Гаспадары садзяць іх за стол, частуюць тым, што засталося. Гэтае частаванне і ёсць «разгрэбіны». Аддаючы посуд,

гаспадары імкнуцца даць што-небудзь гасцям на дарогу, адправіць не з «пустым», каб і надалей у доме было ўсяго «поўна».

У першую нядзелю пасля вяселля маладыя разам з бацькамі маладога, са сватамі, з бліжэйшай раднёю едуць у госці да бацькоў маладой. Бацькі маладой запрашаюць на сустрэчу са сватамі сваю радню. На куце сядзяць сваты. Ім аказваюць асаблівую пашану. Яны самыя ганаровыя госці. Самая папулярная, абавязковая песня за гэтым сталом:

Вецер вее, павявае,
Маці ў дачкі пра жыццё пытае.
— Пытай, маці, у шэрай вуці:
Шэрая вуці на моры начуе,
На моры начуе — усё горачка чуе.

Госці спяваюць і шмат іншых гасцявых песень. Тут, у гасцях, бацькі маладога запрашаюць бацькоў маладой прыехаць у наступную нядзелю паглядзець, як іх дачка «гаруе». Бацькі абяцаюць прыехаць. Праз тыдзень, у наступную нядзелю, бацькі маладой і бліжэйшая іх радня едуць у госці да бацькоў маладога.

## ВЯСЕЛЛЕ Ў КАЛГАСЕ «НЁМАН» СТАЎБЦОЎСКАГА РАЁНА

### Запісаў К. А. Цвірка

У вёсках Стары Свержань, Дразды і Ператокі, якія прылягаюць адна да адной і цяпер утвараюць адзін калгас «Нёман», у сваты звычайна хадзілі (а калі далёка — ездзілі) удвух — сват з жаніхом. Аб сватанні жаніх і нявеста часцей за ўсё дамаўляліся загадзя. Заходзячы ў хату, сваты прыкідваліся падарожнымі і прасіліся пераначаваць. Сват ставіў на стол бутэльку гарэлкі і клаў хлеб (булку ці лусту). Бацькі нявесты запрашалі сватоў садзіцца. Маці рыхтавала і несла на стол закуску — кілбасы, катлеты, яйкі, сала, халаднік і інш., ставіла сваю бутэльку гарэлкі. Калі ўсё было гатова, сватоў запрашалі за стол, клікалі ўсіх дамашніх. Затым уваходзіла з другога пакоя ці з двара нявеста, давала «добры вечар», яе таксама запрашалі да стала. Пачыналася гаворка паміж сватамі і раднёй нявесты аб шлюбе. Раней асабліва многа гаварылася аб пасагу. Сват, «набіваючы цану», расхвальваў жаніха, яго бацькоў. Радня ж нявесты ў сваю чаргу выпытвала пра іх гаспадарку, імкнучыся даведацца, наколькі яны багатыя.

Калі абодва бакі прыходзілі да згоды, пачыналі піць гарэлку — спачатку нявесціну, а потым жаніхову. Гэта называлася «заповіны». А пра маладых казалі пасля, што яны ўжо «запіліся». На заповінах дамаўляліся аб часе і парадку правядзення заручын. У выпадку поўнай згоды ў спарожненую бутэльку ад гарэлкі насыпалі жыта, абвязвалі яе чырвонай стужкай і аддавалі на адыход свату («жыта — каб жыццё было добрае»).

Здаралася, што згоды ў час сватання так і не дасягалі. У такім выпадку сваты забіралі сваю гарэлку, хлеб і пакідалі хату — заповін не адбывалася («маладыя не запіліся»).

Часам бацькі нявесты спачатку не давалі сватам канкрэтнага адказу. Прапанаваўшы сватам прыйсці ў другі раз, самі знаходзілі час і адпраўляліся да бацькоў жаніха на «аглядзіны»: яны хацелі сваімі вачыма паглядзець гаспадарку, якую так расхвальваў сват. Гаспадары імкнуліся паказаць усё, што сведчыла аб іх заможнасці. Бывалі выпадкі, што ішлі і на падман. Напрыклад, пераварочвалі ўверх дном бочку і сыпалі туды жыта — стваралася ўражанне, што бочка поўная зерня. На аглядзіны бацькі нявесты прыносілі гарэлку, якую і распівалі разам з гаспадарамі, калі былі задаволены іх гаспадаркай. Распіванне гарэлкі лічылася знакам згоды бацькоў нявесты на шлюб.

Калі пасля заповін нявеста па якой-небудзь прычыне адмаўляла жаніху, яна павінна была аднесці яму грошы за гарэлку — заплаціць «утратнае».

Пасля заповін, калі «дзела дайшло да ладу», прыкладна за месяц да вяселля, наладжваліся «заручыны». Звычайна адбываліся яны ў суботу, у хаце нявесты. На заручыны прыходзілі сват, жаніх, бацька, маці, маглі прыйсці яшчэ сёстры, браты, швагры. З сабой бралі хлеб і гарэлку, толькі ўжо болей, чым на заповіны. Бацькі нявесты склікалі бліжэйшую радню і некаторых суседзяў. На заручынах канчаткова дамаўляліся аб пасагу, аб часе вяселля і ўсіх пытаннях, звязаных з яго правядзеннем.

Пасля выпіўкі на заручынах спявалі песні — больш пра каханне, пра шлюб.

Нявеста пасля заручын магла адмовіць жаніху, але гэта было рэдка, бо там «як нап'юць гарэлкі, то нявеста ўтратнага нясе з паўкаровы».

Цяпер усе тры этапы перадвясельнай абраднасці — сватанне, заповіны і заручыны — усё часцей праводзяцца ў адзін дзень і называюцца адным словам — заручыны. Звычайна блізкая радня жаніха збіраецца ў бацькоў нявесты, якія ў сваю чаргу склікаюць сваю бліжэйшую радню і найбольш davераных суседзяў. Па сваёй форме цяперашнія заручыны падобны на ранейшыя. Але

па зместу яны значна адрозніваюцца ад колішніх. Напрыклад, знікла неабходнасць дамаўляцца пра пасаг, які страціў сваё значэнне. Цяпер, калі пра яго і заходзіць гаворка, то яна падобная на жартоўны торг і толькі. На заручынах спяваюцца самыя розныя песні — як народныя, так і сучасных савецкіх кампазітараў.

Пасля заручын бацькі маладых рыхтаваліся да вяселля: назапашвалі пітво і яду, наймалі музыкантаў, падшуквалі коней і вазкі для вясельнага поезду і г. д. Сёння ў наладжванні вяселля дапамагае праўленне калгаса, якое дае машыны, а таксама па невысокай цане прадае некаторыя прадукты. Абрадавая камісія пры сельсавеце рыхтуецца да ўрачыстай рэгістрацыі шлюбу ў Доме культуры, які прыбіраецца, упрыгожваецца лозунгамі, плакатамі. На шчытах у людных месцах вывешваецца аб'ява аб урачыстай рэгістрацыі шлюбу.

Раней вяселле пачыналася ў нядзелю раніцай і цягнулася дватры і болей дзён. Цяпер яно пачынаецца ў пятніцу вечарам і канчаецца ў нядзелю.

Напярэдадні вяселля — у суботу вечарам — у маладой збіраліся яе сяброўкі на «вянок». Хлопцаў у хату не пускалі, нават жаніха. Дзяўчаты вілі вянок для маладой, рыхтавалі кветкі для шафераў. Пры гэтым спявалі песні. Напрыклад, такую:

Выйшла Раечка
За вароцейка,
Стала сабе
Пад каліною.
Калінку ломіць,
Слёзачкі роніць,
Слоўца не прамовіць.
За ею, ею
Мамачка яе.
Стала ў яе да пытацїся:
— Дзіцятка маё
Маладзенькае,
Да чаго ж сільна плачаш?
— Мамачка мая,
Родная мая,
Да як жа мне не плакаць:
Гавораць людзі,
Вашы суседзі,
Што ў вас доўга мне не быць.
— Дзіцятка маё
Маладзенькае,
Не давай людзям веры,
Пайдзі ў садочак,
Нарві красачак,
Сядзь сабе між дзявочак,
Зві сабе, маладзенькая,
Вяночак.

— Не мне ў садочак,
Не мне вяночак,
Не мне між дзявочак.
Прыдзе Сенечка
У ружовым цвеце
Ды завяжа мне свецік.

Калі дзяўчаты заканчвалі сваю работу, старшая шаферка брала вянок на палец і так трымала яго, пакуль дзяўчаты спявалі наступную песню:

Ой, звілі да й вяночак,
З зялёнае руты цвяточак,
Ой, звілі да палажылі,
Татачку папрасілі:
— Татачка мой родненькі,
Прымі да мой вяночак, (2)
З зялёнае руты цвяточак.
Татачка не прымае,
Слёзкамі аблівае (2)
Да й назад адсылае.
Ой, звілі да вяночак,
З зялёнае руты цвяточак.
Ой, звілі да палажылі.
Мамачку папрасілі:
— Ой, прымі, мамачка, вяночак,
З зялёнай рутачкі цвяточак.
Мамачка не прымае
Ды й назад адсылае,
Слёзкамі аблівае.
Ой, звілі да й вяночак,
З зялёнае руты цвяточак.
Ой, звілі да палажылі,
Маладзенькай папрасілі:
— Ой, прымі наш вяночак,
З зялёнае руты цвяточак.
Маладзенькая прымае,
Слёзкамі не аблівае
Да к сабе забірае.

Існуе і такі варыянт гэтай песні, якую ведае і цяперашняя моладзь:

Дарагія дзевачкі-падружкі,
Розныя кветкі рвіце,
Розныя кветкі рвіце,
Маладой вяночак віце.
Ды й звілі і палажылі,
Мамачкі роднай папрасілі:
— Мамачка мая родная,
Ды й прымі мой вяночак.

Пасля гэтых песень старшая шаферка аддавала вянок мацеры нявесты. Дзяўчат запрашалі за накрыты стол, частавалі.

Цяпер таксама дзяўчаты ходзяць на вянок. Але вянка не ўюць, кветак не робяць таксама — іх купляюць. Дзяўчаты рыхтуюць вясельны ўбор і сучасныя ўпрыгожанні нявесты, спяваюць розныя песні, частуюцца.

Напярэдадні вяселля — часам за два дні да яго — пякуць таксама, як і некалі, каравай: тортам каравай тут не замяняюць. Пякуць каравай у маладой і ў маладога. Для гэтага склікаюць жанчын, сваіх і суседак (пяць ці болей). Каб спячы каравай, патрэбны пшанічная мука, яйкі, цукар, «ванілька», дрожджы, малако, масла. З цеста робяць упрыгожанні для каравая — шышачкі, птушачкі, лісцікі, пасярэдзіне прымацоўваюць вялікую шышку. Апрача асноўнага каравая, пякуць яшчэ дадатковыя караваі, булкі, сырнікі.

Раней, рыхтуючы каравай, спявалі розныя песні. Цяпер пяюць рэдка. Калі каравай спячэцца, каравайніц частуюць.

У дзень вяселля ў бацькоў маладога збіраліся шаферы і шаферкі (прыкладна чатыры пары), сват і «свацея», хросныя бацька і маці, музыкі (ігралі яны на скрыпцы, трубе, барабане, раней на маленькім, а потым — на вялікім). Усе садзіліся за сталы, выпівалі і танцавалі. Перад ад'ездам маладога бацькі благаслаўлялі яго. Рабілася гэта так. Бацькі садзіліся на табурэтах спіной да сталоў і тварам да дзвярэй, з абразам у руках. Жаніх станавіўся перад імі на калені. Бацька запальваў свечку, падпальваў крыжнакрыж з чатырох бакоў валасы на галаве ў сына, жадаў яму ўсяго добрага. Жанчыны ў гэты час спявалі:

Беце, беце да белы камень,
Агню даставайце,
Маладому косы
Падстрыгайце.

Маладога садзілі за стол, бацькі цалавалі яго і зычылі шчаслівай дарогі.

На двары маладога і яго дружыну чакалі ўжо запрэжаныя коні. Жаніх садзіўся на першы воз, з ім сват і свацея. Кожны з шафераў браў на свой воз сваю шаферку. Музыкі садзіліся на вазы шафераў.

Для вясельнага поезда падбіралі лепшых коней і лепшыя вазы. На вазы ззаду і спераду ставілі спецыяльныя «палукашкі», сплеценыя з лазы. Яны засціналіся прыгожымі саматканымі пасцілкамі. Такія вазы называлі брычкамі. Коням плялі ў грывах косы, уплятàлі ў іх чырвоныя стужкі. Хвасты завязвалі вузлом.

Над дугамі вешалі па званку, іншым коням чаплялі на шыю «шаламкі» — жалезныя бразготкі на вузкім скураным рэмені (каля 10 штук). Дугі, аглоблі, увесь воз упрыгожвалі бярозавымі галінкамі, дзеразой.

Калі ўся дружына ўсаджвалася, бацька жаніха з чаркай гарэлкі ў руцэ і маці з жытам у прыполе абходзілі тры разы вакол вазоў, пасля чаго маці сыпала за каўнер сыну і ўсім астатнім жыта, потым проста пасыпала зернем па вазах.

У гэты ж час жанчыны спявалі:

Да й зялёны баркун
Па дарожачцы паслаўся,
Малады Сенечка
У дарожачку прыбраўся.
А за ім мамачка:
— Ой, не едзь, не едзь, сыночак,
Дождж ідзе,
Там ты свае
Вараныя коні памочыш.
— Ой, не важай, мая мамачка,
Не важай.
Як пераеду быстру рэчку
І Дунай,
Там я свае вараныя коні
Напасу,
Там я свае дарагія сукні
Пасушу
І табе, мая мамачка,
Нявестачку прывязу.

З песнямі, з музыкай вясельны поезд адпраўляўся ў дарогу. Часам коням перад гэтым давалі гарэлкі — каб яны беглі як мага хутчэй.

Сёння таксама адпраўляюць жаніха па нявесту ўрачыста, толькі не на конях, а на машынах, якія ўпрыгожваюць стужкамі, шарамі, кветкамі. Часцей за ўсё гэта легкавыя машыны, калі ж іх не хапае, бяруць яшчэ аўтобус. Звязаныя з адпраўленнем жаніха абрады (падпальванне валасоў, блаславенне абразам) цяпер амаль поўнасцю зніклі. Жаніху проста жадаюць шчаслівай дарогі, усяго найлепшага.

Як раней, так і цяпер маладога па дарозе перапыняюць сталом з хлебам-соллю. Часцей за ўсё гэта робіцца перад домам нявесты. Жаніх адкупліваецца гарэлкай, якую ставіць сват.

Раней вясельны поезд пасля гэтага ўязджаў у двор. Бацькі нявесты запрашалі гасцей у хату, дзе іх садзілі за сталы. Музыкі заставаліся на двары і гралі вясельныя мелодыі. Нявеста ж, як толькі ёй паведамлялі, што пад'язджае дружына жаніха, ад-

праўлялася ў суседнюю хату — там яе прыбіралі, садзілі на пасад. Потым два шаферы бралі яе пад рукі і пад музыку вялі ў хату да жаніха. За імі ішла і ўся нявесціна дружына. Нявесту садзілі насупраць жаніха. Сват уставаў і гаварыў: «Просім бацьку і маці паблагаславіць, каб малады з маладою прывіталіся!» Бацькі адказвалі: «Просім!» Жаніх і нявеста рукаліся праз хустачкі. Выпіўшы і закусіўшы, усе па камандзе свата ўставалі і абходзілі тры разы вакол сталоў. Пасля гэтага зноў прысаджваліся за сталы, але ўжо не пілі. Пасядзеўшы, уставалі, каб ехаць да вянца. Нявеста садзілася на свой воз, жаніх — на свой.

Цяпер часцей за ўсё жаніх з дружынай не заходзіць у нявесціну хату. Ён чакае на двары, пакуль шаферкі закончаць прыбіраць нявесту. Калі старшая шаферка паведаміць, што нявеста гатова, жаніх у суправаджэнні дружыны ідзе пад музыку ў суседнюю хату. Вядуць яго пад рукі дзве шаферкі. У дзвярах шаферкі нявесты перапыняюць жаніха, паказваюць яму лялькy: «Вось твая нявеста!» — «Не, гэта не яна!» — адказвае жаніх. Пасля нядоўгай жартоўнай спрэчкі, жаніха з дружынай пускаюць у хату. Тут жаніх выкупляе нявесту цукеркамі. Нявесціны шаферкі прыколваюць усім шаферам на грудзях, на левым баку, кветкі, за што атрымліваюць ад іх падарункі — звычайна цукеркі. Пасля гэтага жаніх бярэ пад руку нявесту, за маладымі выстройваюцца шаферы і шаферкі. На двары іх сустракаюць з музыкай. Жаніх падводзіць нявесту да яе машыны, памагае сесці, сам садзіцца ў сваю машыну. Машына нявесты з лялькай на капоце, з шарамі, стужкамі, кветкамі стаіць першай, за ёй — машына з жаніхом і ўсе астатнія. Бацькі нявесты, як і некалі, з хлебам-соллю і чаркамі гарэлкі абыходзяць тры разы вясельны поезд. Маці, як звычайна, пасыпае кругом жытам, бацька, прыгубліваючы за здароўе маладых, лье рэшткі гарэлкі ўверх. Пасля гэтага вясельны поезд выпраўляецца ў сельскі Дом культуры — на ўрачыстую рэгістрацыю шлюбу.

Не даязджаючы брамы Дома культуры, вясельны поезд спыняецца. Жаніх адчыняе дзверы нявесцінай машыны, памагае ёй выйсці, бярэ пад руку і ідзе з ёй да брамы. За імі — сват са сваццяй і ўсе астатнія. Ля брамы маладых сустракаюць з кветкамі дзеці (4—5 дзяўчынак). Калі маладыя ідуць да ганка Дома культуры, яны кідаюць ім пад ногі кветкі, якія прыносяць у саматробных папяровых карзіначках. На ганку маладых сустракае загадчыца Дома культуры, трымаючы на вышытым ручніку хлеб-соль — каравай з сальнічкай пасярэдзіне. Маладыя спыняюцца, дзяўчынкі становяцца абапал. Загадчыца звяртаецца да маладых:

— Мы бацькоўскі звычай зберагаем, маладых хлебам-соллю вітаем!

Маладыя цалуюць каравай — спачатку ён, потым — яна. Загадчыца працягвае:

— У гэты сонечны святочны дзень вы прыйшлі к нам сюды, каб увекавечыць сваё каханне і вернасць. Сёння з вашымі блізкімі, роднымі, сябрамі радуемся і мы. Сёння ствараецца новая сям'я. Па сваёй дарозе шчасця каб вы разам ішлі плячо ў плячо. І ў горкія хвіліны няшчасця таксама будзьце разам.

Кожны з вас
Сэрцу нашаму люб.
Калі ласка,
Заходзьце ў клуб!

Загадчыца кладзе на стол каравай, маладыя падыходзяць да стала, становяцца перад ім. Каля жаніха становіцца яго старшы шафер, каля нявесты — яе старшая шаферка, усе астатнія — ззаду.

За сталом — старшыня сельсавета, сакратар і старшыня (ці член) абрадавай камісіі.

Сакратар сельсавета зачытвае заяву маладых і ад сябе дадае, у які раз кожны з маладых уступае ў шлюб. Пасля гэтага звяртаецца да маладых.

— Дарагія (называе імёны)! Сёння ў вас і ў вашых родных, сяброў, аднавяскоўцаў вельмі радасны, урачысты, шчаслівы дзень. Вы ўступаеце ў сямейны саюз, саюз кахання і дружбы. Хай назаўсёды захаваецца ў вас тое пачуццё, якое прывяло вас сёння сюды. Ідзіце ж рука аб руку па жыццёваму шляху, кахайце адзін аднаго і паважайце. Гэты дзень для вас не толькі радасны, але і адказны. Вы робіце сур'ёзны крок, бераце на сябе вялікія абавязкі. Перад актам урачыстай рэгістрацыі шлюбу ў прысутнасці вашых родных, сяброў дазвольце мне паставіць перад вамі адно пытанне (звяртаецца да нявесты, называючы яе па імені і імені па бацьку): «Ці прадумалі вы сваё ўступленне ў шлюб, ці хапіла вам часу, каб абдумаць сваё рашэнне?»

— Так,— адказвае нявеста.

З тымі ж словамі сакратар звяртаецца да жаніха, які таксама адказвае станоўча. Сакратар сельсавета працягвае:

— У поўнай адпаведнасці з законам Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, з вашай узаемнай згоды, па вашаму жаданню шлюб паміж вамі рэгіструецца. Прашу вас падысці да стала і паставіць свае подпісы ў «Кнізе шлюбных актаў».

Маладыя падыходзяць і распісваюцца — нявеста першая, жаніх за ёю.

Калі яны распісваюцца, музыканты іграюць туш.

Сакратар сельсавета:

— Запрашаецца сведка ад нявесты для пасведчання акту рэгістрацыі шлюбу.

Сведка ад нявесты (звычайна старшая шаферка) распісваецца на бланку актавых запісаў аб шлюбе. Зноў іграе музыка.

Гэтак жа запрашаецца і сведка ад жаніха.

Калі сведкі становяцца на свае месцы, дзяўчынкі, якія сустракалі маладых, падносяць на маленькім сподачку два пярсцёнкі. Адна з дзяўчынак, звяртаючыся да маладых, гаворыць:

— У гонар вашага ўзаемнага кахання і дружбы абмяняйцеся пярсцёнкамі.

Маладая бярэ пярсцёнак маладога, а ён — яе і адзяваюць адзін аднаму на пальцы. І зноў іграе музыка.

Сакратар сельсавета:

— Дарагія (называе імёны)! Абмен пярсцёнкаў просім падмацаваць пацалункам!

Маладыя цалуюцца. Музыка. Апладысменты.

Сакратар сельсавета:

— Паважаныя (называе імёны)! Сёння вы прыйшлі да нас як жаніх і нявеста. Пойдзеце ж ад нас як муж і жонка.

Слова бярэ старшыня сельсавета, віншуе маладых.

Пад урачыстую музыку старшыня сельсавета ўручае маладым пасведчанне аб шлюбе. Малады цалуе маладую.

Маладыя паварочваюцца да родных, сяброў, аднавяскоўцаў, якія тут сабраліся. Усе віншуюць маладых, цалуюць, падносяць ім кветкі.

На другім стале з'яўляюцца бутэлькі шампанскага, цукеркі. Сват адкрывае шампанскае, налівае ў чаркі і падносіць па чарзе ўсім, хто прыйшоў павіншаваць маладых. Але першую чарку бярэ малады, ён падае яе маладой, другую чарку бярэ для сябе. Усе чокаюцца з маладымі, выказваюць найлепшыя пажаданні, выпіваюць за іх здароўе і шчасце. Хто-небудзь крычыць «Горка!», яго падтрымліваюць іншыя. Маладыя рассыпаюць па стале, кідаюць на залу цукеркі. Але крыкі «горка» не спыняюцца. Маладыя цалуюцца. Увесь час іграе музыка.

Затым сват аб'яўляе:

— Вальс для маладых.

Іграе вальс, маладыя танцуюць у коле людзей.

Потым сват дзякуе ўсім за віншаванні маладых, частуе цукеркамі.

На выхадзе з Дома культуры маладых у акружэнні родных, блізкіх і знаёмых фатаграфуюць.

Пасля гэтага вясельны поезд (малады цяпер сядзіць у адной машыне з маладой) накіроўваецца да помніка савецкім воінам, якія загінулі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Там маладыя ўскладаюць кветкі. Часам едуць яшчэ ў Стоўбцы, дзе таксама ўскладаюць кветкі каля помніка загінуўшым воінам Савецкай Арміі.

Пасля ўскладання кветак вясельны поезд накіроўваецца да дома маладой. Ля варот спыняюцца. Музыканты на ўсю моц іграюць вясельныя мелодыі.

Маладыя ідуць к хаце. Перад уваходам ім сцелюць дывановую дарожку, якую згортваюць услед за імі. У дзвярах сянец іх сустракаюць бацька і маці з хлебам-соллю і чаркамі, поўнымі гарэлкі. Калі маладыя падыходзяць, бацькі віншуюць іх, даюць ім у рукі па чарцы, самі бяруць таксама і запрашаюць іх у хату. За маладымі ідуць усе госці.

Раней гэтак жа сама сустракала маладых маці ў вывернутым кажуху, з векам ад дзяжы, на якім таксама быў хлеб-соль і чаркі гарэлкі. Благаславіўшы і павіншаваўшы маладых, яна падымала века — маладыя павінны былі прайсці ў хату пад ім: гэта — каб яны былі роўнымі («раўняла векам»).

У час гэтай сустрэчы жанчыны на двары спявалі:

Да надзень, маці, шубу
Да сустрэнь дзяцей з шлюбу:
Адно дзіця ды радзонае,
А другое прысудзонае.
Да радзона да пяром піша, (2)
Прысудзона да носам чмыша.

У хаце маладыя садзіліся, як звычайна, на покуці. Пачыналася вясельная бяседа.

Цяпер за бяседным сталом спяваюць самыя розныя, часцей за ўсё лірычныя, песні — беларускія і рускія, народныя і песні савецкіх кампазітараў. І, вядома, крычаць традыцыйнае «горка».

У разгар бяседы ў хату прыходзяць «пяўчыцы» — найбольш здатныя на песні вясковыя жанчыны, якія жадаюць павіншаваць маладых і паспытаць каравая. Пяўчыц сустракаюць ветліва. Сват просіць цішыні і дае ім слова. Пяўчыцы спяваюць у гонар маладых народныя вясельныя песні. Пачынаюць з такой:

Да свацечкі да галубачкі,
Не смеем вас спытаці,
Да ці добрая ў вас зямліца, (2)
Да ці родзіць у вас пшаніца.
Дай, свацейка, караваю,
А не караваю — пірага. (2)

Возьмем вала за рагл,
Сівую кабылу за грыву,
Павядзём яе ў адрыну, (2)
Адсячом хваста палавіну.

Калі пяўчыцы праспяваюць некалькі песень, да іх падыходзіць сваццея маладога і падае ім у знак падзякі спецыяльна спечаны для гэтага моманту каравай. Пяўчыцы бяруць яго і спяваюць:

Дзякуй, сваццейка, за каравай,
Харошы, бяленькі,
Толькі ганьба,
Што маленькі.

На іх ніхто не крыўдзіцца за такую «падзяку»: што ж, з песні слова не выкінеш. Да каравая пяўчыцам даюць гарэлкі, закускі. Усё гэта пяўчыцы забіраюць з сабой, заходзяць у якую-небудзь хату і там частуюцца.

Між тым вясельная бяседа з перапынкамі цягнецца да позняга вечара. Заканчваецца яна танцамі ў клубе або ў якой-небудзь хаце. Туды загадзя адсылаюць музыкантаў. Калі маладыя ўваходзяць у памяшканне, дзе танцуюць, сват перапыняе музыкантаў і просіць іх сыграць вальс для маладых. Маладыя танцуюць, ім апладзіруюць. Затым аб'яўляецца танец для ўсіх.

Назаўтра гадзін у 12 вясельная бяседа ўзнаўляецца.

Раней на такой бяседзе на сталы пасля перапынку ставілі капусту — вараную ці шаткаваную. Калі ўсе запрошаныя садзіліся за сталы, клікалі музыкантаў — «на капусту». Музыканты станавіліся перад маладымі і гралі ім «Сто лят». Маладыя і ўсе вясельныя госці слухалі музыку стоячы. Затым музыканты падыходзілі па чарзе да ўсіх вясельнікаў, тыя заказвалі якую-небудзь музыку. Музыканты ігралі, а той, хто заказваў музыку, павінен быў пакласці на талерку грошы.

Сёння звычай даваць музыкантам «на капусту» не існуе. Гаспадары плацяць музыкантам пэўную суму і дамаўляюцца, каб яны не бралі з гасцей ніякіх грошай, нават калі тыя папросяць што-небудзь сыграць.

Пасля апошняга перапынку пачынаюць дзяліць каравай. Для гэтага абнаўляюць сталы, наводзяць чысціню. За сталы запрашаюць толькі маладых і дружыну маладога. Радня маладой рыхтуецца да гэтага важнага моманту вяселля. І вось музыканты іграюць урачыстую вясельную мелодыю. Чацвёра дзяцей на засланым ручніком кружку (раней на веку ад дзяжы) нясуць з каморы каравай, пры гэтым кружачыся па ходу сонца. Жанчыны спяваюць:

Віўся каравай кубкам
Пад зялёненькім дубкам,
У чысценькім полі,
На вараненькім коні.

Дзеці ставяць каравай на стол перад маладымі. Сват дзякуе дзецям і частуе іх цукеркамі. Пасля гэтага сват са свацеяй рэжуць каравай. Затым сват гучным голасам запрашае адведаць каравая. Першымі падыходзяць бацькі маладой, за імі хросныя бацька і маці і ўсе астатнія. Выказваюць маладым найлепшыя пажаданні, кладуць грошы на талерку, засланую хустачкай, выпіваюць пададзеную сватам чарку гарэлкі, бяруць кавалачак каравая і адыходзяць.

Калі сват пачынае дзяліць каравай, жанчыны пяюць жартоўныя песні, у якіх стараюцца пакпіць са свата. Напрыклад:

Не тут, сватка, не тут, сватка,
Каравай падзяляці.
Бяры пугу, ідзі для лугу
Буслы паганяці.

Пасля падзелу каравая ўсе садзяцца за сталы. Спяваюцца песні пра развітанне мацеры з дачкой.

Спяваюць таксама песні, у якіх імкнуцца як мага лепш расхваліць, «падвысіць» маладую і, наадварот, пасмяяцца з маладога. Вось адна з такіх песень:

Наша маладая,
Як уюн, уецца,
Ваш малады
Не павернецца.
Наша маладая,
Як сыр белы,
Ваш малады,
Як пень гарэлы.
Наша маладая,
Як золата,
Ваш малады,
Як долата.
Наша маладая,
Як суравежка,
Ваш малады,
Як пешка.

Пасядзеўшы за сталамі і паспяваўшы песні, маладыя са сваімі дружынамі збіраюцца ад'язджаць да маладога. Свацея маладой абвязвае свата і маладога ручнікамі. Жанчыны і тут імкнуцца «падкалоць» свата:

За што, сватка, звязалі?
З чужой бабай спаймалі?
Казалі, сватка, вельмі харош —
Па кулаку вочы, буслаў нос.

Маці маладой звязвае яе пасцель, сват «выкупліваe» гэту пасцель і нясе на машыну. Маладая развітваецца з бацькам і маткай, з роднымі, суседзямі, цалуе ўсіх. Жанчыны спяваюць:

Да паедзеш, Раечка,
У чужы край,
Да з сабою зязюльку
Забірай.
Да пасадзіш яе
У канцы кравацi,
Яна табе будзе
Раненька кукаваці, } 2
Цябе, маладзенькую,
Пабуждаці.
Бо чужая мамачка —
Не свая,
Да не будзе раненька
Будзіці, } 2
Пойдзе на вуліцу
Судзіці:
— Добра нявехна, добранька,
Спіць яна ў лужы
Да яснага слонейка.
— Да ці ёй дзела не рупіць,
Да ці яе сынок не будзіць?
— Каб дзела рупіла,
Не спала б,
Каб сынок будзіў,
Устала.
Сонца ўзыйдзе,
Пастаіць,
А мая нявехна
Яшчэ спіць.
Сонца ўзыйдзе,
Гуляе,
А мая нявехна
Не дбае.
Сонца ўзыйдзе,
Угору йдзе,
А мая нявехна
З ложа йдзе.

Калі дачка развітваецца з маткай, жанчыны спяваюць яшчэ такую песню:

Сядзьма, мамка, павячэрайма з табою,
Павячэраўшы, ды падзелімся з табою:
Табе, мамка, хата, сені, каморка,

А мне, мамка, скрынка, пярынка, кароўка,
Ты, мамка, у сваёй хатачцы будзеш векаваць,
А мне, маладзенькай,
З скрынкаю, з пярынкаю ад'язджаць.
А ты будзеш, мамка,
У хатачцы спакойна жыць,
А мне, маладзенькай,
Свёкру, свякроўцы наравіць.

На першую машыну, як правіла, легкавую, садзяцца маладыя са сватам, на другія або на аўтобус — дружына маладой і маладога. З музыкай і песнямі вясельны поезд выпраўляецца ў дарогу. Трохі пачакаўшы, услед за ім едуць і прыданыя (цёткі, дзядзькі, швагры маладой, любыя запрошаныя на вяселле госці).

У маладога вясельны поезд сустракаюць гэтак жа, як і ў маладой. Зайшоўшы ў хату, маладая рассыпае па хаце жыта. Раней жанчыны спявалі:

Зарадзі, божа, жыта,
Каб наша маладая
Ды стоячы жала.

У гэты момант вяселля раней прыносілі ў хату вядро вады, ставілі на падлозе. Маладая кідала ў вядро грошы. Пасля гэтага маладая і свякроў апускалі ў вядро з вадой рукі і, памагаючы адна адной, мыліся. Затым хто-небудзь з жанчын выносіў ваду, а маладая і свякроў выціраліся ручнікамі.

У час, калі яны мыліся, жанчыны спявалі:

Чорна, свякроў, чорна,
Да лянуецца мыцца.
Рэчка блізка, вада чыста,
Да лянуецца мыцца.
Тры нядзелі не ўмывалася, (2)
На нявестку спадзявалася.

Сёння дзеля жарту часам выконваецца гэты абрад.

Пасля мыцця маладая пачынала раздаваць падарункі, якія ўносіла ў хату сваццея. Першых адорвала свякроў і свёкра — звычайна давала ёй тканіну на плацце, яму — рубашку. Прыкладна такія ж падарункі ўручала маладая і братавым сёстрам, дзевярам. Калі маладая давала падарункі, музыканты ігралі ўрачыстую мелодыю, а жанчыны, атрымаўшы ў падарунак тканіну, ахінаіліся ёю і ішлі ў скокі — так яны выказвалі сваю задаволенасць.

Цяпер маладая раздае падарункі, калі дзеляць каравай. Калі хто-небудзь з радні маладога падыходзіць па каравай і, віншуючы маладых, падносіць ім падарунак, маладая як бы ў падзяку ўручае яму свой падарунак.

У разгар вясельнай бяседы, гэтак жа як і ў маладой, прыходзяць пяўчыцы. Спяваючы, закранаюць кпінамі і прыданак. Паміж імі адбываецца спрэчка. Пяўчыцы пяюць:

Казалі, прыданак мала, мала,
Ажно іх поўная лава,
З'елі свінню, не смалячы,
Парасяты — не варачы.

У адказ на гэта прыданкі пяюць:

Вазьмі, сватка, памяло,
Выжань пяўчыцаў за сяло,
Каб яны не спявалі
І нам апеціту не перабівалі.

Збіраючыся ад'язджаць дадому, прыданкі звяртаюцца да радні маладога з такой песняй-просьбай:

Да суседачкі, да галубачкі,
Просім вас,
Каб не было нашай Раечцы
Кепска ў вас,
Каб не стаяла з цёмнай ночы
Пад акном,
Каб не ўцірала дробных слёзкаў
Рукавом,
Каб не была да паветачка
За хатку,
Каб не была суседачка
За матку.

У адказ прыданкам жанчыны з радні маладога спяваюць жартам:

Ой, будзе, будзе
Да паветачка за хатку,
Ой, будзе, будзе
Да суседачка за матку.
Ой, настаіцца
З цёмнай ночы пад акном,
Ой, наўціраецца
Дробных слёзкаў рукавом.

Калі прыданкі ад'язджаюць дадому, ім спяваюць:

Едзьце, прыданкі, дадому,
Бо паелі коні салому,
Ячную мякінку
І пазаплоццю крапіўку.

Прыданкі на развітанне спяваюць песню «Бывайце здаровы».

Вясельныя песні — адзін з найбольш развітых і да цяперашняга часу актыўна функцыяніруючых традыцыйных жанраў беларускага абрадавага фальклору.

У драматургіі вясельнага абраду, з якім песня (ва ўзаемасувязі яе паэтычнага і музычнага бакоў) складае адзіную сістэму, вызначальную ролю іграюць тыповыя напевы вяселля. Ступень абагульненасці гэтых напеваў бывае розная як у сістэме абраду (адзін напеў можа абагульняць паэтычныя тэксты ўсяго абрадавага цыкла, кульмінацыйныя моманты рытуалу або асобныя яго элементы), так і ў адносінах тэрытарыяльнага пашырэння (меладычныя тыпы, распаўсюджаныя па ўсёй Беларусі, асобных этнаграфічных зонах ці па невялікіх лакальных раёнах).

Напевы вясельных песень вельмі разнастайныя. Але па характару гучання можна вылучыць тры іх вобразна-эмацыянальныя сферы: святочна-прыўзнятую, журботную і гарэзліва-жартоўную, што абумоўлівае і адпаведныя музычна-стылявыя якасці вясельных мелодый.

Багацце і разнастайнасць гэтых мелодый (якіх на сённяшні дзень сабрана ў Беларусі некалькі тысяч) патрабуе іх сістэматызацыі па спецыфічных музычных прыкметах з вылучэннем асноўных тыпалагічных груп вясельных напеваў і з картаграфаваннем меладычных тыпаў усіх рэгіёнаў Беларусі, што можа быць зроблена ў асобным выданні.

У гэтым жа томе прыводзяцца як дадатак 22 тыповыя вясельныя напевы з розных этнаграфічных зон Беларусі: Палесся, Паазер'я, усходняй, цэнтральнай і заходняй зон. Адны з гэтых напеваў характэрны для асобных рэгіёнаў: вясельныя галашэнні для Паазер'я (с. 601, 602), спецыфічныя каравайныя для Палесся (с. 593), «зачынальныя» для паўночна-ўсходніх (с. 606), «Зборная субота» для заходніх рэгіёнаў (с. 614). Другія распаўсюджаны па ўсёй Беларусі, але ў кожным рэгіёне выконваюцца ў адпаведнасці з мясцовымі традыцыямі народнага спеву: унісонна-гетэрафонны з элементамі бурданіравання—стыль спеву на Палессі, антыфонная манера выканання характэрна для Паазер'я і цэнтральных раёнаў.

У цэлым напевы, пададзеныя ў томе вясельнага абраду, ахопліваюць асноўныя моманты разгортвання рытуальных падзей.

*З. Я. МАЖЭЙКА*

# ПАЛЕССЕ (ПАЎДНЁВАЯ ЗОНА)

## ПАКАЦІЎСЯ ГАРШЧОК...

♩=69

1. Па_ка_ціў_ ся гар_шчок з пе_ чы да_лоў,
Едзь_це, пры_ да_ ны, з бо_гам да_моў

Пакаціўся гаршчок з печы далоў,
Едзьце, прыданы, з богам дамоў.

— Ой, не час, не два, не пара,
Не 'зышоў месяц, ні зара.

Не 'зышоў месяц, ні зара,
Шчэ ж нам дадому не пара.

Ой, ёсць у свата сівы вол,
Яго прап'емо, то й дамоў.

## КАМЯННАЯ ПЕЧАЧКА...

Andante

1. Ка_ мян_ на_ я пе_ ча_ чка,

Ка_ мян_ на_ я пе_ ча_ чка,

Ве_ чар га_ рыш да й не вы_ гар... [ыш].

Камянная печачка, камянная печачка,
Вечар гарыш да й не выгар[ыш].

Вечар гарыш — не выгарыш, вечар гарыш —
не выгарыш,
Камянейка да не распал[іш].

Маладая Ганулька, маладая Ганулька,
З рання сядзіш да й не заплач[аш].

Ой, я плачу — не чуеце, ой, я плачу — не чуеце
За скрыпкамі да за бубнам[і].

## ОЙ, ПАЙДУ Я




Ой, пайду я,
Ой, пайду я пад ліпаньк[у],
Ой, пайду я.

Нашчыплю я,
Нашчыплю я ліпава ліст[у],
Нашчыплю я.

Я на тым лісту,
Я на тым лісту каравай спяк[у],
Я на тым лісту.

Расці, каравай,
Расці, каравай, як ліпаньк[а],
Расці, каравай.

А голлечка,
А голлечка, як дуб'ечк[а],
А голлечка.

А шышачкі,
А шышачкі, як пташачк[і],
А шышачкі.

# ОХ, ВЯНКУ МОЙ, ВЯНКУ

1. Ох, вя_нку мой, вя_ нку,

ох, вя_нку мой, вя_нку да зя_лё_ны ба_рві_ нку.

2. Да зя_лё_ны ба_рві_ нку,

Да зя_лё_ны ба_рві_нку ку_па_ваў_ся на ры_ нку.

Ох, вянку мой, вянку, *
Да зялёны барвінку.

Да зялёны барвінку
Купаваўся на рынку,

Купаваўся на рынку,
Захаваўся у скрынку.

Як цябе не рушыла,
Плакаці не мусіла,

А цяпер(а) парушу,
Заплакаці мушу.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

# КАБ Я ЗНАЦЬ ЗНАЛА...

♪=144

1. Каб я знаць зна-ла, ве- даць ве-да-ла
ху- ткі- я за- ру- чы- ны.
2. Ху- ткі- я за- ру- чы- ны...
То б(ы) я па- сла- ла свай-го ба-цю- хну
Ў цё- мны лес па ка- лі- ну.

Каб я знаць знала, ведаць ведала
Хуткія заручыны.

Хуткія заручыны...
То б я паслала свайго бацюхну
Ў цёмны лес па каліну.

Ў цёмны лес па каліну...
Бацюхна пайшоў, ўвесь лес
абыйшоў,
Каліноньکі не знайшоў.

Каб я знаць знала, ведаць ведала
Хуткія заручыны.

Хуткія заручыны...
То б я паслала свайго Йваначка
Ў цёмны лес па каліну.

Ў цёмны лес па каліну...
Йваначка пайшоў, ўвесь лес абыйшоў,
Калінаньку знайшоў.

# АДЧЫНІЦЕСЯ, ВАРАТА

♩=76

1. А_ дчы_ ні_ це_ ся, ва_ ра_ та,
Да і_дзе на па_ сад да сі_ ра_ та.
2. Да я_е га_ ло_ ва_ нька ў вя_но_ чку,
Ня_ма у ёй ма_ ту_ хны ў ра_ до_ чку.

Адчыніцеся, варата,
Да ідзе на пасад да сірата.

Да яе галованька ў вяночку,
Няма ў ёй матухны ў радочку.

Уся яе галованька у квецi,
Няма у ёй матухны на свеце.

— Плывi, плывi, шчука-рыба па вадзе,
Прыбудзь, прыбудзь, мая мамка, на вяселле ка мне.

Прыбудзь, прыбудзь, мая мамка, на вяселле ка мне,
Падай жа мне парадачку, беднай сiраце.

Падай жа мне парадачку, беднай сiраце.
— Ой, налягла сыра зямля на грудзi мне.

Ой, налягла сыра зямля на грудзi мне,
Шчапiлiся кары вочы навекi мае.

# ПААЗЕР'Е (ПАЎНОЧНАЯ ЗОНА)

## СІВЫ КОНЬ ДАРОГУ ДРАТАВАЎ
























Сівы конь дарогу дратаваў, *
Шаўковыя падузы ён парваў,
Маляваны клешчы паламаў,
Пад круту гару сільна браў,
Белае серабро везучы,
Чырвонае золата дастаючы.
Белае серабро — Ванечка.
Чырвонае золата — Леначка.

* Кожны радок паўтараецца.

# КАЗАЛІ, НА МОРЫ...

♩=69

1. Ка- за- лі, на мо- ры ва- ды мно-га,

Ка-за- лі, на мо- ры ва-ды мно-га.

2. Як па-шлі во- ду браць — нет ні-чо- га,

Як па-шлі во-ду браць — нет ні-чо- га.

Казалі, на моры вады многа, *
Як пашлі воду браць — нет нічога.
Дзе ж тая вадзіца падзявалася?
Ў крутыя беражкі паўбіралася.
Казалі, ў Зосечкі радні многа.
Як сталі дарыці — нет нікога.
Дзе ж тая радзінка падзявалася?
Ў цёмныя куточкі пахавалася.
Як сталі піць, гулянь — пазбіралася.

* Кожны радок паўтараецца.

# АСТАВАЙСЯ, МАЯ МАМУЛЬКА, ЗДАРОВА













Аставайся, мая мамулька, здарова, *
А папала мне з Украiначкi дарога.

Ай, ці будзеш, мая мамулька, бедаваць,
Як я буду чужую мамку пераймаць.

А ці будзеш, мая мамулька, тужыці,
Як я буду чужой мамульцы служыці.

---

* Кожны радок паўтараецца.

# МАЯ МАМУЛІЧКА, МАЯ РОДНАЯ

♪=168

(а) Ма_я ма_му_лі_чка, ма_я ро_дна_я!

Да ку_ды ж мя_не вы_пра_ўля_е_це (ы) ?

Ці на йгры_шча_ка, на гуль_бі_шча_ка!

Мая мамулічка, мая родная!
Да куды ж мяне выпраўляеце?
Ці на йгрышчака, на гульбішчака!
Мая мамулічка, мая родная,
Да ці я ж была у вас лішняя!
Да ці ваша хатка паменшала,
Да ці ваша сямейка пабольшала?
Адпраўляеце ж мяне ў чужую староначку,
Ў чужую староначку, не ў знакомаю,
К чужой мамухне, к чужому татухну!

# МАМУЛЬКА РОДНАЯ...

♪≈160

Ма_муль-ка ро- дна_я, ты не ўві_дзіш мя_ не!

Ты не ўві_дзіш мя_ не ні ў та_нку, ні ў вя_нку,

ні ў та_нку, ні ў вя_нку,, ні ў дзя_во-цкім ста_нку!

ні ў дзя_во_ цкім ста_нку і ні ў ру_ сай ка_ се,

і ні ў ру_ сай ка_ се, ні ў дзя_во_цкай кра_се!

Мамулька родная, ты не ўвідзіш мяне!
Ты не ўвідзіш мяне ні ў танку, ні ў вянку,
Ні ў танку, ні ў вянку, ні ў дзявоцкім станку!
Ні ў дзявоцкім станку і ні ў русай касе,
І ні ў русай касе, ні ў дзявоцкай красе!

# УСХОДНЯЯ ЗОНА

## У ВАРОТ ВЯРБА СТАЯЛА

♪ = 168

1. У ва- рот вя- рба ста- я- ла,
са два- ра да- чка з'яз- джа- ла.

У варот вярба стаяла,
Са двара дачка з'язджала.

Са двара дачка з'язджала,
Вярхушку з вярбы сарвала.

— Стой, мая вярба, без верха,—
Жыві, мамачка, без мяне.

Без русай касы без мае,
Без шаўковага ўплётачку.

Павешу я ўплёт на прыплот,
Куды мамачка ў клець ходзе.

А ў клець ідучы, забача,
А з клеці йдучы, заплача.

Во мае дачкі уплёткі,
Павесіла мне на слёзкі.

# ДУРНЫ СВАТЫ, ДУРНЫ

♩=76

1. Ду- рны сва- ты, ду- рны,

Ду- рны сва- ты, ду- рны за хлеў за- блу-дзі- лі,

За хлеў за- блу- дзі... [лі]

Дурны сваты, дурны, *
За хлеў заблудзілі.

За хлеў заблудзілі,
Свінней паўзбудзілі.

Коней напужалі,
А коні заржалі.

Кароўкі — муроўкі
Свадзебку узналі.

---

* Кожны радок паўтараецца.

# А СВАТОЧКІ, ГАЛУБОЧКІ

♩ = 63

1. — А сва– то– чкі, га– лу– бо– чкі,
едзь– це да– моў, едзь– це да– моў!
Ці не чэ– рці вас пры– вя– за– лі ў нас,
едзь– це да– моў, едзь– це да– моў.
2. — Пры– вя– за– лі чэ– рці к а– сі– на– вай жэ– рдзі,
не па– е– дзем, не па– е– дзем.
Пры– вя– за– лі злы– дні на цэ– лы– я ты– дні,
не па– е– дзем, не па– е– дзем.

— А сваточкі, галубочкі,
Едзьце дамоў, едзьце дамоў!
Ці не чэрці вас прывязалі ў нас,
Едзьце дамоў, едзьце дамоў!
— Прывязалі чэрці к асінавай жэрдзі,
Не паедзем, не паедзем.
Прывязалі злыдні на цэлыя тыдні,
Не паедзем, не паедзем.

# АЙ, СВЯТЫ КУЗЬМА, ДЗЯМ'ЯН

♩ = 58

1. Ай, свя_ ты Кузь_ ма, Дзям' ян,
ай, ты скуй нам сва_ дзе_ бку.

2. Ай, ты скуй нам сва_ дзе_ бку,
крэ_ пку_ ю, вя_ сё_ лу_ ю.

Ай, святы Кузьма, Дзям'ян,
Ай, ты скуй нам свадзебку.

Ай, ты скуй нам свадзебку,
Крэпкую, вясёлую.

Жаніха харошага,
Нявесту прыгожаю.

# ЦЭНТРАЛЬНАЯ ЗОНА

## ДА, ОЙ, БОРАМ, БОРАМ

♩=138

1. Да, ой, бо– рам, бо– рам, да ба–ра– ві – но– ю,

да хто ж там, е– дзе да ве–ча–ры– но... [ю].

2. Да е– дзе, е– дзе, да І– ва– нка п'я– ны.

—А– дчы–ні, Я– нач (ы) –ка, я ж твой ка– хан...[ы].

3.—Я ж не а– дчы– ню– ся, ма–м(ы) кі ба– ю– ся,

—Я ж тва–ёй ма– ма– чцы ні–зень–ка скла– ню... [ся].

Да, ой, борам, борам, да баравіною,
Да хто ж там едзе да вечарыно[ю].
Да едзе, едзе да Іванка п'яны.
— Адчыні, Яначка, я ж твой кахан[ы].
— Я ж не адчынюся, мамкі баюся.
— Я ж тваёй мамачцы нізенька скланюс[я].
У цябе, маладой, нанач папрашуся,
Ноч паначаваці, цябе таргаваці.
За русую касу — тры таляры даю,
За цябе, маладую,— тры тысячы дарую.

# СВАТЫ ХАТЫ ДЫ Й НЕ ВЕДАЛІ

♩=120

1. Сва– ты ха– ты ды й не ве– да– лі,
сва– ты ха– ты ды й не ве– да– лі,
да ў хлеў да й за– е– ха... [лі].

2. Бы– чку ру– чку да– лі,
бы– чку ру– чку да– лі,
а ка– роў– цы ша– пку зня... [лі].

Сваты хаты ды й не ведалі, *
Да ў хлеў да й заеха[лі].

Бычку ручку далі,
А кароўцы шапку зня[лі].

А з цялушкай прывіталіся,
А з авечкай пакланілі[ся].

А свіння падзівілася,
Са смеху пакаціла[ся].

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Адзін сват пытае:
— А дзе ж ваша маладая?

А жывёлы засмяяліся:
— Не туды сваты папаліся.

На дварэ стаіць святліца,
Там жыве красна дзявіца.

Сватам сорам стала.
Заручыны йдуць нядбала.

# ДА СТАРОЕ БЁРДА

Allegro moderato

Да ста_ро_е бё_ рда, да ста_ро_е бё_ рда,

да но_ вы_ я ні_чаль_ ні_ цы.

Да мі_ на_ юц_ ца, ма_ ла_да дзяў_чы_ нка,

ўсе ж тва_ е да ве_ ча_ рні_ цы.

Да старое бёрда, да старое бёрда,
Да новыя нічальніцы.
Да мінаюцца, малада дзяўчынка,
Ўсе ж твае да вечарніцы.

Да стары свіран, да стары свіран,
Да новае будаванейка.
Да мінаецца, маладая дзяўчынка,
Ўсё ж тваё ды гуляннейка.

З кім гуляла, жартавала,
Сама таго да не відала,
З каго кпіла, смяялася,—
Сама таму ды папалася.

Да цераз свой двор, да цераз свой двор
Да па воду хадзіла.
Ой, не даў мне бог, не судзіў мне бог,
Да каго ж я любіла.

# ПАХІЛІЛАСЯ БЕЛА БЯРОЗКА

♩=106-120
1 група



1. Па-хі- лі- ла- ся бе-ла бя- ро- зка да зя- млі,



Па- хі- лі- ла- ся бе- ла бя- ро- зка да зя- млі.

2 група



2. Па- кла- ні- ла- ся мла-да Га- нуль-ка ўсей ра- дні,



Па-кла-ні- ла- ся мла-да Га- нуль-ка ўсей ра- дні.

Пахілілася бела бярозка да зямлі, *
Пакланілася млада Ганулька ўсей радні.
Сваёй матульцы, сваёй родненькай найніжэй:
Яна ж у дочкі за ўсю радзімку найбліжэй.

---

* Кожны радок паўтараецца.

# ЗАХОДНЯЯ ЗОНА

## СЫПЦЕ ПШАНІЦУ Ў НОВЫ КАРЫТА

Allegro moderato

1. Сып_ це пша_ ні_ цу ў но_ вы ка_ ры_ та,

Сып_ це пша_ ні_ цу ў но_ вы ка_ ры_ та,

2. Ка_ рмі_ це ко_ ней ў да_лё_ ку да_ ро_ гу.

Сыпце пшаніцу ў новы карыта, *
Карміце коней ў далёку дарогу,
Ў далёку дарогу да гарадзечка,
А ў гарадзечку трое варотаў.
У першых варотах — месячык свеціць,
У другіх варотах — сонейка грэе.
У трэціх варотах — Іванька едзе,
Едзе Іванька і з дружыною.
Месячык свеціць — будзе відненька,
Сонейка грэе — будзе цяпленька,
Іванька едзе — будзе весяленька.
У цесця на дварэ астанавіўся,
У цесця на дварэ з цесцем гаворыць:
— Ой, цесцю, цесцю, што двор не весел?
Як я прыехаў вясёленька стала —
Стаяць дзявочкі а ў тры радочкі:
Адна хароша, друга хароша,
Мая Гануська ўсіх найхарошша!

* Кожны радок паўтараецца.

# ТАМ, НА ПАДВОР'Ю...

Allegro moderato



1.Там, на па_двор'ю но_вы ка_ло_дзезь і вя_дро,



Ой, чом,дзяў_чы_на, твай_го ба_цень_ка не від_но, / _ но?



2. Ты пе_ рай_ дзі се_ ні, ха_ ту пе_ рай_ дзі,



Ў но_вай ка_ мо_ры свай_го ба_цень_ ка ты знай_дзеш, / _дзеш.

Там, на падвор'ю, новы калодзезь і вядро,
Ой, чом, дзяўчына, твайго баценька ні відно? *

Ты перайдзі сені, хату перайдзі,
Ў новай каморы свайго баценька ты знайдзеш.

— Ой, не раз, не два, мае людкове, хадзіла,
Ў новай каморы свайго баценька глядзела.

Як ступіла з ізгорачка ў даліну.
Ой, патрапіла на баценькаву магілу.

— Устань, устань, мой баценьку, да мяне,
Ой, прамоў, прамоў хоць адно слаўцо да мяне!

— Ой, не магу, маё дзіцятка, не магу,
Збудавалі мне святлічаньку саснову.

І без акон, і без дзверы, без сонца,
Не магу да цябе прагаварыці ні слоўца.

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

# ЗБОРНАЯ СУБОТКА НАСТАЛА




Зборная суботка настала,
Ніначка дзявочак сабрала.

Ніначка дзявочак сабрала,
Сабраўшы, за столік саджала.

Сама яна села вышэй ўсіх,
Скланіла галоўку ніжэй ўсіх,

Скланіла галоўку ніжэй ўсіх,
Думала думачку болей ўсіх.

— Не думай, Ніначка, не думай,
Пераедзь рэчачку і Дунай.

— Як мне, маладзенькай, не думаць,
Не знаўшы свякроўкі — трэба знаць,

Не знаўшы свякроўкі — трэба знаць,
Не знаю я, млода, як назваць.

Назаві свякроўкай — не любе,
Назаві мамачкай — жаль будзе.

# ВЯСЕЛЛЕ

## [Шлюбныя звычаі на Беларусі ў XVI стагоддзі]

Зап. Я. Ласіцкі ў 1581 г.

De Russorum, Moskovitarum et Tartarorum Religione, sacrificii, nuptiarum, funerum vitu. Spirae, 1582, с. 241—245.

Пер. з лац. К. А. Цвіркі і У. К. Шатона.

Ян Ласіцкі (каля 1534 — пасля 1599) — польскі гісторык, бібліёграф, рэлігійны дзеяч. Доўгі час жыў у розных краінах Еўропы. З пачатку 80-х гадоў працаваў у Вялікім княстве Літоўскім настаўнікам дзяцей велікакняжаскага падскарбія і мінскага кашталяна Яна Глябовіча, які жыў то ў сваім маёнтку ў Заслаўі, то ў Вільні. Напісаў некалькі кніг па гісторыі і рэлігіі. Найбольшую цікавасць мае яго праца «De Russorum...», у якой, у прыватнасці, апісваюцца сямейныя абрады, адзенне, яда і іншыя бакі быту беларусаў, асаблівасці архітэктуры Полацка і Вільні і інш. Кніга Я. Ласіцкага, у тым ліку і пададзены тут урывак, носіць яўна тэндэнцыйны характар. Будучы праціўнікам праваслаўя, аўтар усяляк імкнецца ачарніць яго. Таму ён паказвае прадстаўнікоў праваслаўя ў самым непрыглядным выглядзе, вельмі яскрава гаворыць аб адмоўных адносінах да іх народа, што, вядома, адпавядала гістарычнай праўдзе. Тое ж можна было б сказаць і пра каталіцкіх духоўнікаў, якіх аўтар не ўпамінае. Як відаць з кнігі, непрыхільна ставіўся Я. Ласіцкі і наогул да мясцовага насельніцтва, з якім ён сутыкаўся ў Заслаўі і Вільні. Ад гэтай непрыхільнасці ідзе і тая акцэнтацыя ўвагі на негатыўных баках народнага побыту. У асобных выпадках аўтар проста згушчае фарбы, напрыклад, расказваючы, як бацька жаніў сына на сваёй палюбоўніцы. І, вядома ж, ніяк нельга давяраць аўтару, калі ён піша, што на Беларусі дзяўчаты ў яго часы выходзілі замуж ва ўзросце дзесяці-адзінаццаці год. Тут, відаць, маецца на ўвазе звычай сватання непаўналетніх. Але, як вядома, «заручоныя» маглі ўзяць шлюб толькі тады, калі яны дасягалі паўналецця і калі гэты шлюб быў замацаваны абрадам вяселля, які меў юрыдычную сілу.

*...пад гукі музыкі* — у арыгінале: ...cum fidibus, facibus et fistulis (с. 242).

*...поўных сікеры, мядовага віна і піва* — у арыгінале: vascula, sicera, melierato et cerevisia plena (с. 242). *Сікера* (яўр.) — хмельнае пітво; тут, магчыма, бражка.

*Фламін* (лац.) — жрэц якога-небудзь боства.

*...стэнтарскім голасам* — г. зн. вельмі гучным голасам. Слова «стэнтарскі» паходзіць ад прозвішча глашатая грэкаў у Траянскай вайне Стэнтара, голас якога, паводле padання, быў па сіле роўны галасам 50 чалавек.

*...вянок з галінак дрэў* — у арыгінале: ...serta ligna, што даслоўна азначае «драўляная гірлянда».

**Вясельныя абрады вясковага люду ў Мінскай губерні,**
**Барысаўскім павеце, Гаенскай парафіі,**
**назіраныя ў 1800, 1801 і 1802 гадах,**
**з некаторымі песнямі і нотамі**

«Tygodnik Wileński», 1819, т. 7, № 130, с. 1—17; № 132, с. 81—104. Апісанне друкавалася таксама ў кнізе: J. Tyszkiewicz. Opisanie powiatu Borysowskiego. Wilno, 1847, с. 346—368. У каментарыі да апошняй публікацыі Я. Тышкевіч зазначае, што апісанне зроблена Ігнатам Шыдлоўскім. У кнізе змешчана біяграфічная даведка пра І. Шыдлоўскага (с. 277—286), дзе адзначана, што нарадзіўся ён у м. Гайна і што якраз у 1819 г. быў рэдактарам часопіса «Tygodnik Wileński». Аднак аўтарства І. Шыдлоўскага аспрэчваецца гісторыкамі фалькларыстыкі. Адным з аргументаў супраць яго з'яўляецца тое, што ў пачатку 800-х гадоў, калі «назіраліся» апісаныя абрады, І. Шыдлоўскаму было ўсяго 7—8 гадоў. Паводле меркавання сучасных польскіх даследчыкаў, аўтарам апісання быў вядомы фалькларыст і этнограф З. Даленга-Хадакоўскі (Dzieje folklorystyki polskej. 1800—1863. Warszawa, 1970, с. 208—209). Дадзенае апісанне ў перакладзе на рускую мову апублікаваў таксама П. В. Шэйн у сваіх «Материалах...», т. 1, ч. 2 (СПб, 1890, с. 126—142). Змясціў яго і О. Кольберг (Dzieła wszystkie, t. 52. Białoruś — Polesie. Wrocław — Poznań, 1968, с. 272—287).

Пер. з польск. К. А. Цвіркі.

Мяркуючы па тым, што ў апісанні фігуруюць «парабкі», тут, відаць, пададзена вяселле дробнай беларускай шляхты, якая жыла сярод сялянства. Апрача некаторых нязначных момантаў (напрыклад, воклічаў «Віват» і, магчыма, больш багатага стала), яно нічым не адрозніваецца ад вяселля сялян.

*Істопка* — у арыгінале: istobka.

*Па скамі* — відавочна, па скам'і, па лаве.

*Сам сём.* — Аўтар апісання ў перакладзе песні на польскую мову перадае гэты выраз як «сёмы па ліку» (у дружыне).

*Брое* — гарцуе.

*Сам дзесят.* — Гэты выраз аўтар перадае: «у вялікай грамадзе».

*Зянуць* — зяяюць, зіхацяць.

*Ядвабны* — шаўковы.

**Абрады вясковага люду з-над Бярэзіны**

Зап. Э. М. у 1846 г. у вв. Пабярэжжа і Скуплін Барысаўскага п. Tyszkiewicz J. Opisanie powiatu Borysowskiego, с. 288—346. У перакладзе на рускую мову апублікаваў П. В. Шэйн («Материалы...», т. 1, ч. 2: СПб, 1890, с. 68—126). Змясціў таксама О. Кольберг (Dzieła Wszystkie, т. 52. Białoruś — Polesie, с. 218—271).

Пер. з польск. В. І. Скідана і К. А. Цвіркі. Частка песень апушчана.

*Угрунь* — бягом.

*Барылка* — пераносная бочачка для пітва.

*Статэчны* (польск.) — паважны, сталы.

*Акавітачка, акавітка* — гарэлка, настоеная на карэннях траў.

*Фаска* — маленькая бочачка для масла.

*Аруд* — засек.

*Цямне прышло* — сцямнела.

*Верапай* (ці *Варапай*).— Паводле меркавання вучоных, гэта, як і Рай, язычаскае боства, значэнне якога да канца не высветлена (гл.: Никольский Н. М. Происхождение и история белорусской свадебной обрядности, с. 184—195).

*Ухналі* — спецыяльныя цвікі, якімі прыбіваюць коням падковы.

*Падаскі* — сталёвыя палоскі, якія падбіваюць пад вось у калёсах.

*Шэлег* — даўняя дробная манета.

*Коркамі* — абцасамі.

*Верай* — шула ў гаспадарчых будынках.

*Вонка быць* — быць выгнанай.

*Цырачка* — тут: сяброўка сокала, самка.

*Каршошак* — кулачок.

*Грызе* — тут: «грызціся», сварыцца.

*Жанавацъ* — быць жонкай (тлумачэнне аўтара).

*Палавіца* — палова, мякіна.

**Беларускае вяселле**

Зап. Р. А. Друцкі-Падбярэскі. Відавочна, на Віцебшчыне.

«Иллюстрация». СПб, 1848, № 1, с. 6—8 (на с. 4 малюнак — «Беларускае вяселле»).

Пер. з рускай. В. І. Скідана і К. А. Цвіркі.

Сярод песень адна пачынаецца так: «Наш бык да вашай кароўкі прывык» (зноска).— Тут аўтар блытае з песняй звычайную формулу, з якой сваты звярталіся да бацькоў нявесты ў час сватання.

*Плясе* — танцуе.

*На калясе* — на калёсах.

«На гэта яна ім адказвае:

А што табе, зязюля, да таго?..»

— Тут, магчыма, недакладнасць: звычайна ў гэтым выпадку не нявеста адказвае сваццям песняй, а сваццi спяваюць далей ад яе імя.

**[Вяселле на Быхаўшчыне]**

Зап. Е. Паўлоўская ў Быхаўскім п.

Е. П. Народные белорусские песни. СПб, 1853, с. 34—41.

Пер. з рускай. В. І. Скідана.

Апісанне з'яўляецца ўступам да сабраных аўтаркай і змешчаных у яе кнізе вясельных песень, у якіх яна, па свайму прызнанню, «не захавала асаблівасцей беларускай гаворкі» (с. III).

*Каснікі* — стужкі, якія ўплятаюцца ў косы.

**Вясельныя абрады сялян Мінскага павета**

Зап. М. Рубяроўскі.

«Виленский вестник», 1868, № 8. Змешчана таксама ў «Минских губернских ведомостях», 1868, № 31.

Пер. з рускай. В. І. Скідана і К. А. Цвіркі.

